В. С. Макарэвіч

# РАЗБОР ШЛЯХТЫ Ў БЕЛАРУСКІХ ГУБЕРНЯХ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ (канец XVIII – XIX ст.)



УДК 94(476)"17(18)
ББК 63.3(4Беи)
М15

*Друкуецца па рашэнні*
*Рэдакцыйна-выдавецкага савета*
*Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта*

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук прафесар *М. А. Бяспалая*;
доктар гістарычных навук прафесар *У. В. Тугай*

**Макарэвіч, В. С.**
М15 Разбор шляхты ў беларускіх губернях Расійскай імперыі (канец XVIII – XIX ст.) / В. С. Макарэвіч. – Мінск : БДУ, 2018. – 315 с.
ISBN 978-985-566-548-0.

Асвятляецца працэс фарміравання і рэалізацыі ўладамі Расійскай імперыі палітыкі разбору шляхты ў Беларусі ў канцы XVIII – XIX ст. Вызначаюцца прычыны правядзення разбору, паказваецца дзейнасць дзяржаўнага механізму па яго выпрацоўцы, аналізуюцца цяжкасці ў ажыццяўленні і спосабы іх пераадолення. Разглядаецца рэакцыя на палітыку разбору шляхты, у прыватнасці з'ява фальсіфікацыі дакументаў на дваранства. Значная ўвага надаецца аналізу працэсаў эвалюцыі прававога і сацыяльнага статусу катэгорый дробнай шляхты, трансфармацыі саслоўных і сацыяльных структур.

**УДК 94(476)"17(18)**
**ББК 63.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-566-548-0**

# ПРАДМОВА

У канцы XVIII – XIX ст. шляхта займала даволі значнае месца ў сацыяльнай структуры грамадства Беларусі. Яна складала каля 5 %, а па некаторых ацэнках нават да 7 % ад агульнай колькасці насельніцтва. Да канца XVIII ст. шляхта адыгрывала выключную ролю ў грамадска-палітычным жыцці – на сеймах і сейміках вызначала палітыку краіны, была носьбітам гістарычнай памяці і свядомасці палітычных народаў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

Больш за 90 % шляхты адносілася да так званай «дробнай шляхты», якая, хоць і належала ў адпаведнасці з яе прававым становішчам да прывілеяванага саслоўя Рэчы Паспалітай, па сваім сацыяльным палажэнні займала прамежкавае становішча паміж сялянствам і заможнай шляхтай, нярэдка была бяднейшай за сялян і мяшчан. Тым не менш дробнай шляхце належала істотная роля як у сацыяльнай структуры грамадства, так і ў палітычным жыцці. Яна складала адзін з асноўных кампанентаў сістэмы дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай – так званай «шляхецкай дэмакратыі».

З уключэннем беларускіх земляў у склад Расійскай імперыі сацыяльная і саслоўная структура грамадства стала хутка змяняцца. Трансфармацыя палітычнага ладу, абмежаванне палітычнай ролі магнатэрыі падарвалі асновы шляхецкай дэмакратыі, што найбольш істотна адбілася на змене сацыяльнага і прававога статусу дробнай шляхты, пераўтварэнні звязаных з ёй сацыяльных структур грамадства[1].

[1] *Каханоўскі А.* Сацыяльная трансфармацыя беларускага грамадства (1861–1914). Мінск, 2013. С. 190.

У палітыцы расійскага самадзяржаўя важнае месца належала мерапрыемствам у адносінах да дробнай шляхты. Паспяховае функцыянаванне дзяржаўнага апарату на далучаных тэрыторыях патрабавала інкарпаравання іх саслоўнай і сацыяльнай структуры, якая ўяўляла сабой даволі адрозную ад расійскай сацыяльную тканку, у саслоўную і сацыяльную структуру імперыі. Сярод тых сацыяльных пластоў, якія фактычна цалкам адсутнічалі ў складзе Расійскай імперыі, дробная шляхта была бадай што самым шматколькасным.

Істотныя змены ў сацыяльнай структуры грамадства былі выкліканы таксама паступовым разлажэннем феадалізму, развіццём капіталістычных форм вытворчасці і арганізацыі жыцця соцыуму. Адбывалася рэсацыялізацыя дробнай шляхты ў іншыя саслоўныя групы – у склад дваранства, сялянства і мяшчанства. Немалую (а ў пэўных момантах нават ключавую) ролю ў сацыяльных зменах адыграла ўнутраная палітыка расійскай манархіі, накіраваная на аддзяленне бяднейшай шляхты ад дваранства і ўключэнне яе ў склад падаткаабкладаных катэгорый насельніцтва, – разбор шляхты. З самага пачатку ўлады ўзялі курс на трансфармацыю зверху сацыяльнай структуры грамадства. Мэтай палітыкі было павелічэнне фіскальных і ваенных выгод, уніфікацыя грамадскага ладу ў імперыі, павышэнне кантролю за грамадска-палітычным жыццём на нярускіх ускраінах імперыі. Дробная шляхта ў дадзеным кантэксце бачылася ўладам найбольшым рудыментам мінулай эпохі ў сацыяльнай структуры насельніцтва заходніх губерняў. У выніку са значных груп жыхароў менавіта яна наймацней адчула на сабе змены прававога становішча. Імкнучыся да змяншэння колькасці дробнай шляхты, якая прэтэндавала на пацвярджэнне юрыдычнага статусу дваранства, улады дэкларавалі неабходнасць дакументальнага засведчання дваранскіх правоў, пагражаючы «дэкласацыяй», разборам шляхты. Разбор шляхты фактычна на ўвесь перыяд знаходжання Беларусі ў складзе Расійскай імперыі стаў важнай часткай унутранай палітыкі апошняй у Беларусі. Вялікае значэнне ўладамі надавалася таксама перасяленчым захадам і мерапрыемствам па прыцягненні дробнай шляхты на вайсковую службу.

Пад разборам шляхты маецца на ўвазе комплекс мерапрыемстваў, якія праводзіліся на заходніх, у тым ліку беларускіх, землях Расійскай імперыі ад моманту іх уключэння ў яе склад і да пачатку XX ст. з мэтай змяншэння колькасці прадстаўнікоў прывілеяванага саслоўя праз устанаўленне крытэрыяў дакументальнага доказу прыналежнасці шляхты былой Рэчы Паспалітай да расійскага дваранства, а таксама правядзенне іншых мерапрыемстваў, такіх як перасяленчая, кадра-

вая палітыка, па саслоўнай «дэградацыі» дробнай шляхты і змяншэнні яе колькасці ў Беларусі.

Нягледзячы на палітыку разбору, дробная шляхта ў XIX ст. заставалася вельмі адметнай і важнай для шэрагу сацыяльных з'яў групай, у вялікай ступені фарміравала катэгорыю асабіста свабодных людзей, якія ва ўмовах прыгоннага права адыгралі істотную ролю ў закладанні асноў інстытутаў грамадзянскай супольнасці, актыўна ўплывалі на грамадскае і палітычнае жыццё. У значнай меры менавіта з дробнай шляхты да 1860-х гг. у Беларусі рэкрутаваліся чыноўніцтва, настаўніцкі склад, выходзілі прадстаўнікі інтэлігенцыі. Нават на вёсцы, па сведчаннях этнографаў, дробная шляхта выконвала важную сацыяльную ролю. Яна з'яўлялася прамежкавай групай – свабодныя ўласнікі зямлі, арандатары, упраўляючыя, праз якую адбываліся больш хуткая мадэрнізацыя вытворчасці на вёсцы, перайманне сялянскімі гаспадаркамі перадавога вопыту.

Цікавасць да гісторыі дробнай шляхты абумоўлена і яе колькасцю (у сярэдзіне XIX ст. яна складала, па самых сціплых падліках, 180–200 тыс. чалавек), а таксама адметнай культурай, звычаямі і паводзінамі, асаблівасцямі яе самасвядомасці. З асяроддзя дробнай шляхты рэкрутавалася вялікая частка дзеячаў беларускага і польскага нацыянальных рухаў, што яшчэ больш актуалізуе ўзнятую праблематыку.

У савецкай і айчыннай гістарыяграфіі тэма разбору шляхты ніколі не станавілася аб'ектам асобнага манаграфічнага ці дысертацыйнага даследавання, была толькі адным з аспектаў прац па гісторыі дваранства ў Беларусі ці ўнутранай палітыкі ў імперыі, што звязана з пэўнымі ідэалагічнымі абмежаваннямі ў савецкай гістарыяграфіі і недаацэнкай значнасці дробнай шляхты ў сацыяльных працэсах. Мэта дадзенага даследавання – паказаць працэс выпрацоўкі і рэалізацыі ўладамі палітыкі разбору шляхты ў беларускіх губернях Расійскай імперыі ў канцы XVIII – пачатку XX ст., яе задачы і выкліканыя ёй рэакцыю грамадства, сацыяльныя працэсы і з'явы. У рабоце аўтар разглядае палітыку разбору праз прызму сацыяльных працэсаў, імкнецца прасачыць, як палітычнае адбівалася на сацыяльным, у чым рэалізуецца міждысцыплінарны падыход пры вывучэнні грамадскіх з'яў.

Пад паняццем «дробная шляхта» ў працы маецца на ўвазе тая катэгорыя насельніцтва, якая яшчэ ў перыяд існавання Рэчы Паспалітай была часткай шляхецкага саслоўя, аднак не належала да памешчыкаў і землеўладальніцкай шляхты. Пасля ўваходжання беларускіх земляў у склад Расійскай імперыі дробная шляхта не мела прыватнай два-

ранскай нерухомай уласнасці – населеных маёнткаў з прыгоннымі сялянамі. Яна зарабляла сродкі на існаванне асабістай фізічнай ці разумовай працай, арэндай, службай. Не з'яўляюцца аб'ектам даследавання тыя адзінкавыя шляхціцы, якія валодалі толькі значнымі капіталамі і таму належалі да прадпрымальнікаў. У працы выкарыстоўваецца прыняты на той час тэрмін расійскага справаводства і заканадаўства – «дваранства», паколькі з 1831 г. тэрмін «шляхта» быў пазбаўлены афіцыйнага значэння, а ўся шляхта, якая даказала дваранскае паходжанне, павінна была называцца дваранствам. Да 1865 г. дваранамі ўлады прызнавалі шляхту, зацверджаную ў дваранстве як Герольдыяй, так і толькі дваранскімі дэпутацкімі сходамі, за выключэннем выпадкаў, калі Герольдыя ўжо разгледзела дакументы такой шляхты і не зацвердзіла прасіцеляў у дваранстве. З 1865 г. дваранамі ў заходніх губернях сталі лічыць толькі асоб, зацверджаных у дваранстве Герольдыяй. Тэрміны «шляхта», «дробная шляхта» да канца XIX ст. тым не менш ужываліся, у тым ліку ў афіцыйнай перапісцы: рэдка – для абазначэння асоб, зацверджаных Герольдыяй у дваранстве, часцей – для абазначэння «дэкласаваных» шляхціцаў або тых, хто яшчэ працягваў працэдуру легітымізацыі, але абавязкова асабістай фізічнай працай ці службай зарабляў сродкі на існаванне. У пачатку XX ст. тэрміны «шляхты», «дробная шляхта» выйшлі з афіцыйнага ўжытку, але па-ранейшаму выкарыстоўваліся ў жывой мове, мемуарыстыцы і публіцыстыцы для вызначэння сацыяльнай групы насельніцтва. У адносінах да «дэкласаванай» дробнай шляхты з сярэдзіны 1830-х гг. ужываліся таксама паняцці «былая шляхта», «былая польская шляхта», «беларуская шляхта». Сэнсавая нагрузка тэрмінаў «дробная шляхта», «дваране», «не зацверджаныя Герольдыяй дваране» тым не менш у розных дакументах магла быць рознай, таму немагчыма адназначна размежаваць гэтыя паняцці. У некаторых дакументах поруч з такім традыцыйным тэрмінам, як «шляхецкая ваколіца», можна сустрэць і даволі кур'ёзныя, прыдуманыя складальнікамі дакумента, напрыклад «дваранская вёска»[1]. Значэнне тэрмінаў у многім залежала ад аўтарства дакумента і часу яго складання.

Асноўная частка даследавання прысвечана вывучэнню выпрацоўкі палітыкі разбору шляхты, выяўленню фактараў, якія скіравалі дзеянні

[1] О банде, замеченной при имении Наройке помещицы Пеньковской и при дворянской деревне Липинах на границе с Царством Польским (л. 172., 1861 г.) // Lietuvos Valstybės Istorijos Archyvas (далей – LVIA). Ф. 378. Воп. 1. Спр. 989. Арк. 172.

ўлад у гэтым напрамку, а таксама працэсу яе рэалізацыі. У рабоце даецца ацэнка вынікаў праведзенай расійскімі ўладамі палітыкі ў адносінах да дробнай шляхты. Вызначаны этапы яе ажыццяўлення і змены ў прававым статусе дробнай шляхты. Прааналізавана трансфармацыя сацыяльнай структуры дробнай шляхты і яе прычыны.

Храналагічныя межы працы ахопліваюць перыяд ад уключэння беларускіх земляў у склад Расійскай імперыі, пачынаючы з 1772 г., і да канца XIX ст., калі дробная шляхта ў выніку працэсаў яе «дэкласацыі», паступовага разлажэння саслоўнага грамадства ў Расійскай імперыі, а таксама рэсацыялізацыі дробнай шляхты ў катэгорыях мадэрнага грамадства паступова перастала быць адметным аб'ектам палітыкі ўлад. З канца XIX ст. да дробнай шляхты ўжо не прымяняліся асобныя абмежавальныя законы, за выключэннем тых, якія тычыліся ўвогуле каталіцкага насельніцтва. У заканадаўстве і прагледжанай дзяржаўнай перапісцы з канца 90-х гг. XIX ст. не знойдзена асобных згадак пра дробную шляхту як адметную групу. Апошні выяўлены афіцыйны архіўны дакумент, дзе ішла гаворка аб прадстаўніках «былой польскай шляхты» як асобнай катэгорыі насельніцтва, датуецца 1896 годам[1]. Да пачатку XX ст. значная частка дробнай шляхты была ўжо заканадаўча інкарпаравана ў склад сялянскага і гарадскога саслоўяў, пераўтварылася ў этнаграфічную групу ў межах гэтых саслоўяў з уласцівай ёй своеасаблівай мовай, паводзінамі, сістэмай каштоўнасцей і гістарычнай памяццю, што дазваляла даследчыкам усё яшчэ вылучаць дробную шляхту як адметную этнасацыяльную групу насельніцтва і ў пачатку XX ст.

У сувязі з тым што палітыка разбору шляхты закранала ўсе губерні, утвораныя на далучаных да Расійскай імперыі тэрыторыях Рэчы Паспалітай, у шэрагу момантаў аўтар не мог абысці ўвагай падзеі ва ўкраінскіх і літоўскіх губернях.

Аўтар хацеў бы выказаць шчырую падзяку тым людзям і арганізацыям, без якіх правядзенне даследавання і выхад кнігі ў свет былі б немагчымы, а таксама тым, хто ў той ці іншай ступені парадамі, дапамогай, натхненнем ці душэўнай цеплынёй і спагадай спрычыніўся да рэалізацыі гэтага праекта. У першую чаргу падзяка Беларускаму дзяржаўнаму ўніверсітэту, часткай якога са студэнцкіх часоў аўтар мае гонар з'яўляцца. Дапамога таленавітага калектыву гістарычнага

[1] Указ Сената от 31 мая 1896 года о пошлинных сборах с лиц бывшей польской шляхты, отыскивающих дворянство // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей – НГАБ). Ф. 319. Воп. 1. Спр. 477.

факультэта, магчымасці навуковых камандзіровак непасрэдна паўплывалі на правядзенне даследаванняў і выхад кнігі. Аўтар выказвае падзяку і Нацыянальнаму гістарычнаму архіву Беларусі (НГАБ), дзе таксама рэалізуецца як даследчык, Школе грамадскіх навук пры Інстытуце філасофіі і сацыялогіі Польскай акадэміі навук, Варшаўскаму, Вільнюскаму і Вроцлаўскаму ўніверсітэтам за магчымасці навучання і стажыравання, Амерыканскаму савету даследчых таварыстваў, Польскаму гістарычнаму таварыству, праграме акадэмічнай мабільнасці «Erasmus» за магчымасці акадэмічнай мабільнасці і фінансавую падтрымку даследаванняў. Цёплыя словы падзякі навуковаму кіраўніку – прафесару, доктару гістарычных навук, дэкану гістарычнага факультэта БДУ Аляксандру Каханоўскаму – за асабісты ўклад, дапамогу, справядлівыя крытычныя заўвагі і каштоўныя навуковыя парады на ўсіх стадыях. Шчырая падзяка доктару габілітаванаму Ёланце Сікорскай-Кулешы, якая неаднаразова ажыццяўляла навуковае кіраўніцтва падчас стажыровак аўтара ў Польшчы, прарэктару БДУ прафесару Сяргею Ходзіну, дырэктару НГАБ Дзмітрыю Яцэвічу, беларускім, расійскім, польскім і літоўскім гісторыкам, архівістам, спецыялістам з іншых галін, якія ў той ці іншай ступені паспрыялі выхаду кнігі ў свет: Аляксандру Пашкевічу, Максіму Гальпяровічу, Юрасю Грыбоўскаму, Дароце Міхалюк, Рышарду Радзіку, Богдану Року, Мікалаю Нікалаеву, Дарыусу Сталюнасу, Змітру Матвейчыку, Дзянісу Лісейчыкаву, Уладзіміру Ляхоўскаму, Галіне Акуловіч, Таццяне Шчэрбе, Вячаславу Шведу, Сяргею Токцю, Юрасю Снапкоўскаму, Маргарыце Кароль, Аляксандру Рытаву, Уладзіміру Дзянісаву, Андрэю Прохараву, Аляксандру Бурачонку, а таксама ўсім супрацоўнікам кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу гістарычнага факультэта БДУ і архівістам НГАБ, разам з якімі камфортна і творча працуецца. Асаблівую падзяку аўтар выказвае брату Аляксандру Макарэвічу і бацькам Сяргею і Таццяне Макарэвічам за ўсебаковую падтрымку і дапамогу, а таксама доньцы Еве і яе маці Вользе Крукеніцкай за радасці чалавечых усмешак, прамяністых вачэй, глыбіню пачуццяў, эмоцый і перажыванняў, што так натхнялі на творчасць.

# ДРОБНАЯ ШЛЯХТА БЕЛАРУСІ Ў КАНЦЫ XVIII – XIX ст. ЯК АБ'ЕКТ НАВУКОВАГА ВЫВУЧЭННЯ

## СТАН ДАСЛЕДАВАННЯ ПРАБЛЕМЫ

Гісторыя дробнай шляхты Беларусі да 90-х гг. XX ст. рэдка станавілася прадметам навуковых даследаванняў. У працах дарэвалюцыйных расійскіх аўтараў па гісторыі дваранства ёсць толькі згадкі і заўвагі адносна дробнай шляхты, якія маюць, як правіла, агульны змест. Расійская дарэвалюцыйная гістарыяграфія разглядала дваранства Беларусі як складовую частку дваранства імперыі, аднак лічыла яго асобным і даволі варожым расійскай дзяржаве элементам, большая частка якога, а менавіта дробная шляхта, неправамерна карысталася дваранскімі прывілеямі.

Расійскія дарэвалюцыйныя аўтары А. Рамановіч-Славацінскі і М. Яблачкаў заклалі пачатак навуковаму вывучэнню праблематыкі. Аднак дробная шляхта Беларусі не з'яўлялася асноўным аб'ектам іх даследаванняў, а ўзгадвалася ў кантэксце агульнай імперскай палітыкі ў дачыненні да дваранства. Гэтыя работы таксама не грунтуюцца на шырокай базе архіўных крыніц і таму сёння ўжо не маюць свайго навуковага значэння, за выключэннем аспектаў, якія тычацца саслоўнай палітыкі расійскага ўрада. Некаторая інфармацыя пра палажэнне дробнай шляхты, праекты ўладкавання яе прававога становішча змешчана ў працах М. Каяловіча, В. Ключэўскага, С. Кор-

фа, А. Нольдэ[1]. Апошні разглядае змены ў прававым становішчы катэгорый дробнай шляхты і шляхты-татар у праекце збору мясцовых законаў заходніх губерняў, які рыхтаваўся да ўвядзення ў 1839 г. Найбольш каштоўныя з прычыны выкарыстання даволі шырокай базы крыніц па пытаннях саслоўнай палітыкі ўлад працы П. Жуковіча, В. Вешнякова[2]. Значная колькасць інфармацыі аб падробцы дакументаў і спосабах нелегальнай набілітацыі дробнай шляхты змяшчаецца ў даследаваннях тагачасных архіварыусаў Д. Самаквасава, І. Спрогіса, В. Ляліна, І. Каманіна, у прадмове да зборніка дакументаў А. Сазонава[3]. Дробнай шляхце прысвечаны некалькі старонак шматтомнай калектыўнай працы пад рэдактарствам В. Сямёнава, адным з суаўтараў якой быў і беларускі гісторык М. Доўнар-Запольскі. У гэтым даследаванні дроб-

---

[1] *Романович-Славатинский А. В.* Дворянство в России от начала XVIII века до отмены крепостного права. 2-е изд. Киев, 1912 ; *Яблочков М. Т.* История дворянского сословия в России. СПб., 1876. ; *Ключевский В. О.* Сочинения : в 9 т. М., 1987–1990. Т. 5 : Курсы русской истории : в 5 ч. Ч. 5. 1989 ; *Корф С. А.* Дворянство и его сословное управление за столетие 1762–1855 годов. СПб., 1906 ; *Коялович М. О.* Чтения по истории Западной России. 4–е изд. СПб., 1884 ; *Нольде А. Э.* Очерки по истории кодификации местных гражданских законов при графе Сперанском : в 2 вып. СПб., 1906–1914. Вып. 1 : Попытка кодификации литовско-польского права. 1906.

[2] *Жукович П. Н.* Западная Россия в царствование императора Павла I // Журн. М-ва нар. просвещения. 1916. № 6. С. 183–226 ; *Яго ж.* Сословный состав населения западной России в царствование Екатерины II // Журн. М-ва нар. просвещения. 1915. № 1. С. 76–109 ; № 2. С. 257–321 ; № 5. С. 130–178 ; *Яго ж.* О русском землевладении в Северо-Западном крае со времени присоединения его к России : речь, предназначавшаяся к произнесению на торжеств. годич. акте С.-Петерб. духов. акад. 17 февр. 1895 г. СПб., 1895 ; *Вешняков В. И.* Исторический обзор происхождения разных названий государственных крестьян // Журн. М-ва гос. имуществ. 1857. Ч. 62. Отд-ние 1. С. 13–35, 87–98 ; Ч. 63. Отд-ние 1. С. 9–33 ; Ч. 65. Отд-ние 1. С. 57–96.

[3] *Лялин В. А.* Виленский центральный архив // Сборник археологического института : в 6 кн. / под ред. Н. В. Калачова. СПб., 1878–1898. Кн. 1. 1878. С. 22–38 ; *Яго ж.* Витебский центральный архив // Сборник археологического института. Кн. 3. 1880. С. 55–82 ; *Спрогис И. Я.* Виленский центральный архив древних актовых книг (оттиск из Памятной книжки Виленской губернии на 1902 г.). Вильна, 1901 ; *Самоквасов Д. Я.* Архивное дело в России : в 2 кн. М., 1902 ; *Каманин И.* Киевский центральный архив (1852–1880 г.) // Сборник археологического института. Кн. 5, пол. 2. 1881. С. 45–56 ; Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в центральном архиве в Витебске : в 32 вып. / под ред. А. М. Созонова. Витебск, 1871–1906. Вып. 1. 1871.

ная шляхта разглядаецца як асобная і вельмі адметная этнаграфічная група насельніцтва Беларусі[1].

У цэлым расійская гістарыяграфія XIX – пачатку XX ст. назапасіла пэўны факталагічны матэрыял па пытаннях, звязаных з гісторыяй дробнай шляхты і палітыкі ўлад, які не страціў значэння і сёння. Аднак расійская дарэвалюцыйная гістарыяграфія не прапанавала цэласнага навуковага даследавання па пытаннях гісторыі дваранства Беларусі наогул, а тым болей па гісторыі палітыкі расійскіх улад у адносінах да дробнай шляхты.

У польскай гістарыяграфіі XIX – пачатку XX ст. па пытаннях гісторыі шляхты было выдадзена нямала работ[2]. Даследчыкаў у першую чаргу цікавілі якраз пытанні палітыкі расійскіх улад на далучаных землях, у тым ліку і разбор шляхты. Акцэнт рабіўся на яе захопніцкім, антыпольскім, русіфікацыйным характары. З прац польскіх гісторыкаў найбольш значныя належаць аўтарству Г. Масціцкага і А. Тышкевіча. Г. Масціцкі ў адным са сваіх артыкулаў упершыню закрануў праблему вывучэння палітыкі па высяленні шляхты з беларускіх, украінскіх і літоўскіх земляў у канцы XVIII – 40-х гг. XIX ст. Даследаванні Г. Масціцкага ў польскай гістарыяграфіі былі аднымі з першых па гісторыі шляхты Беларусі ў XIX ст. і заклалі аснову для далейшай распрацоўкі тэматыкі. Блізкімі да публіцыстычнага жанру былі працы Ф. Чапліцкага, у якіх аўтар разгледзеў меры царскіх улад у адносінах да польскага насельніцтва, да якога ён залічваў і дробную шляхту, а таксама метады рэалізацыі абмежавальнага заканадаўства. Недахопам гэтага даследавання з'яўляецца адсутнасць навуковага апарату. З'яўляліся прысвечаныя дробнай шляхце і працы публіцыстычна-этнаграфічнага характару на старонках польскамоўнай прэсы імперыі. Гэта работы З. Глогера, Б. Ортыка, М. Федароўскага.

---

[1] Россия. Полное географическое описание нашего Отечества : настол. и дорож. кн. для рус. людей : в 19 т. / под ред. В. П. Семенова. СПб., 1899–1914. Т. 9 : Верхнее Поднепровье и Белоруссия. 1905.

[2] *Mościcki H.* Wysiedlenie szlachty na Litwie i Rusi przez rząd rosyjski // Wschód Polski. 1919. № 1. S. 46–63 ; *Ortyk B.* Szlachta okoliczna lidzka // Tygodnik Ilustrowany. 1876. № 7. S. 109 ; *Gloger Z.* Kilka wiadomości o szlachcie zagonowej mazowieckiej i podlaskiej // Niwa. 1878. T. 14. S. 489–503 ; *Federowski M.* Lud białoruski na Rusi Litewskiej: materyały do etnografi słowiańskiej zgromadzone w latach 1877–1905 : w 8 t. Kraków, 1897–1981 ; *Turska H.* O powstaniu polskich obszarów językowych na Wileńszczyźnie. Vilnius, 1995 ; *Czaplicki F. W.* Czarna księga 1863–1868. 2 wyd. Poznań, 1878.

Польская гістарыяграфія міжваеннага перыяду праявіла значную цікавасць да азначанай праблематыкі. У першую чаргу даследаваліся палітычныя аспекты. З'явіліся працы, прысвечаныя выключна гісторыі дробнай шляхты, у тым ліку ў Беларусі. Сярод іх даследаванні Т. Пяркоўскага, Е. Паганоўскага, у якіх ужо можна заўважыць больш паглыбленую ўвагу да пытанняў разбору шляхты ў палітыцы самадзяржаўя, В. Шміта і Ю. Качкоўскага[1], якія вывучалі некаторыя аспекты палітыкі расійскіх улад у адносінах да шляхецкага землеўладання. В. Шміт вызначыў этапы і шляхі пераходу зямельнай уласнасці ў Беларусі да рускіх землеўладальнікаў. Нельга абысці ўвагай таксама працы такіх аўтараў, як Р. Гарашкевіч, С. Выслаўух, В. Дабачэўская[2]. С. Выслаўух даследаваў структуру і размяшчэнне шляхты ў Ашмянскім павеце. Асаблівая ўвага ў яго рабоце была звернута на шляхту татарскага паходжання. Аднак польская гістарыяграфія міжваеннага перыяду працавала без доступу да архіўных матэрыялаў СССР, што абумовіла павярхоўнасць вывучэння гісторыі дробнай шляхты XIX ст. і разбору шляхты.

Польская гістарыяграфія другой паловы 40-х – 80-х гг. XX ст., за выключэннем канца 1980-х гг., рэдка звярталася да гісторыі шляхты Беларусі. Даследчыкаў цікавіла больш шляхта ўласна польскіх земляў. У агульных працах, аднак, гісторыкі не абміналі ўвагай і шляхту Беларусі. Сярод іх даследаванні Ю. Тазбіра, Е. Ядліцкага, М. Бярнацкай, А. Дабронскага, Ю. Бардаха, але гэтыя работы ў асноўным прысвечаны вывучэнню аспектаў культуры і ментальнасці дробнай шляхты. Працы Г. Хамерскай, С. Градзіскага і асабліва вартыя ўвагі даследаванні І. Рыхліковай асвятляюць палітычныя аспекты. У шэрагу сваіх прац І. Рыхлікова звярталася да пытанняў становішча шляхты татарскага паходжання ў Беларусі,

---

[1] *Perkowski T.* Legitymacje szlachty polskiej w prowincjach zabranych przez Rosję // Miesięcznik Herald. 1938. № 5. S. 69–76 ; *Pogonowski J.* Legitymacja szlachecka po rozbiorach // Miesięcznik Herald. 1932. № 12. S. 215–217 ; *Kaczkowski J.* Konfiskaty na ziemiach polskich pod zaborem rosyjskim po powstaniach roku 1831 i 1863. Warszawa, 1918 ; *Szmidt W.* Geneza prywatnej rosyjskiej własności ziemskiej w guberni wileńskiej, grodzieńskiej i mińskiej 1793–1875 // Miesięcznik statyst. 1922. T. 5, z. 9. S. 299–405.

[2] *Horoszkiewicz R.* Szlachta zaściankowa na ziemiach wschodnich // Rocznik Ziem Wschodnich i kalendarz na rok 1937 / red. L. Grodzicki. Warszawa, 1937. S. 171–176 ; *Wysłouch S.* Ziemia Oszmiańska na rubieży dwu kultur. Wilno, 1932 ; *Dobaczewska W.* Wilno i Wileńszczyzna w latach 1863–1914: dzieje ruchów społecznych i politycznych. Wilno, 1938. (Biblioteczka Poradni Dydaktyczno-Wychowawczej przy Kuratorium Okręgu Szkolnego Wileńskiego; № 40).

палітыкі расійскіх улад у адносінах да дробнай шляхты. Даследчыца была фактычна першай з польскіх навукоўцаў, хто працаваў у цэнтральных расійскіх архівасховішчах і ўвёў у навуковы абарот матэрыялы Сената пры вывучэнні расійскай палітыкі ў адносінах да дробнай шляхты[1].

У апошнія 30 гадоў значна актывізавалася даследчыцкая праца польскіх гісторыкаў. З'явіўся шэраг работ, непасрэдна прысвечаных гісторыі дробнай шляхты Беларусі і Літвы. Гэта ў першую чаргу працы Ёланты Сікорскай-Кулешы, якая значна пасунула наперад даследаванне палітыкі «дэкласацыі» і разбору дробнай шляхты ў 1830–60-я гг. Праца польскай даследчыцы, зараз ужо доктара габілітаванага Варшаўскага ўніверсітэта Сікорскай-Кулешы была піянерскім даследаваннем, якое пабачыла свет у 1995 г. і стала вынікам праведзенай вялікай даследчай працы над першакрыніцамі. У рабоце фактычна ўпершыню былі ўзняты шматлікія пытанні гісторыі шляхты ў Беларусі і Літве ў XIX ст., адлюстраваны сацыяльна-палітычныя працэсы, звязаныя з палітыкай расійскіх улад у адносінах да дробнай шляхты, «легітымацыяй» і доказамі паходжання. Вынікі даследаванняў Ё. Сікорскай-Кулешы, як і І. Рыхліковай, сталі базай для зацікаўлення праблематыкай і далейшых навуковых пошукаў даследчыкаў па гісторыі шляхты Беларусі і Літвы ў часы Расійскай імперыі. Л. Заштаўт, акрамя палітыкі «дэкласацыі» дробнай шляхты, закранае ў сваіх больш грунтоўных даследаваннях і адукацыйны аспект яе становішча ў XIX ст. Вывучэнню прававога палажэння шляхты татарскага паходжання ў XIX ст. прысвяціў некалькі артыкулаў П. Бараўскі. Гісторыі шляхецкіх родаў на Лідчыне тычыцца праца Ч. Малеўскага[2].

---

[1] *Chamerska H.* Drobna szlachta w publicystyce i pamiętnikach okresu międzypowstaniowego // Zeszyty Nauk. Uniw. Warszawskiego, filia w Białymstoku. 1977. Z. 19 : Humanistyka. T. 4 : Dział H – prace historyczne. S. 219–232 ; *Rychlikowa I.* Deklasacja drobnej szlachty polskiej w Cesarstwie Rosyjskim. Spór o «Pułapkę na szlachtę» Daniela Beauvois // Przegląd Hist. 1988. Z. 1. S. 121–147 ; *Grodziski S.* Schyłek stanu szlacheckiego na ziemiach polskich // Społeczeństwo polskie XVIII i XIX wieku : w 9 t. / red. J. Leskiewiczowa. Warszawa, 1987. T. 8. S. 95–108 ; *Rychlikowa I.* Carat wobec polskiej szlachty na ziemiach zabranych w latach 1772–1831 // Kwartalnik Hist. 1991. № 3. S. 50–83.

[2] *Borawski P.* Szlachta litewsko-polska pochodzenia tatarskiego // Przegląd Wschod. 1991. Z. 3. S. 595–613 ; *Sikorska-Kulesza J.* Deklasacja drobnej szlachty na Litwie i Białorusi w XIX wieku. Pruszków, 1995 ; *Zasztowt L.* Zsyłka i przesiedlenia ludności polskiej z zachodnich guberni w głąb Cesarstwa Rosyjskiego po powstaniu styczniowym // Przegląd Wschod. 1998. Z. 2. S. 237–262 ; *Malewski Cz.* Rody szlacheckie na Litwie w XIX wieku. Powiat Lidzki. Wilno, 2005.

Параўнанне агульных кірункаў працэсу «дэкласацыі» дробнай шляхты пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у Расіі, Прусіі і Аўстрыі праведзена ў артыкуле, напісаным аўтарам гэтых радкоў у суаўтарстве з польскай даследчыцай А. Заяц, дзе апошняй прааналізавана дэкласацыя дробнай шляхты ў Прусіі. Пытанне ўдзелу дробнай шляхты ў паўстанні 1863–1864 гг. у Беларусі стала прадметам аналізу польскага даследчыка з ЗША Д. Файнхауза[1].

У польскай гістарыяграфіі, за выключэннем у асноўным прац даследчыкаў беларускага паходжання, шляхта Беларусі нярэдка шаблонна разглядаецца як польскі элемент у Беларусі. У значнай ступені польскіх навукоўцаў зараз ужо цікавяць якраз пытанні палітыкі расійскіх улад у дачыненні да шляхты, аднак многія аспекты прававога становішча некаторых катэгорый дробнай шляхты (аднадворцы, ганаровыя грамадзяне, чыншавая шляхта, службовая шляхта), яе структура, канфесійны склад не знайшлі яшчэ свайго дастатковага адлюстравання ў навуковай літаратуры. Тым не менш польская гістарыяграфія апошніх 30 гадоў зрабіла значны ўклад у распрацоўку пытанняў разбору шляхты.

Міжваенны перыяд у савецкай гістарыяграфіі, у тым ліку беларускай, не адзначыўся асаблівай цікавасцю да пытанняў гісторыі шляхты, што абумоўлена ідэалагічнымі падыходамі. У пасляваеннай беларускай савецкай гістарыяграфіі пытанні гісторыі дробнай шляхты не разглядаліся ў асобных даследаваннях. Тым не менш было зроблена шмат для вывучэння пытанняў эканамічнай гісторыі і палітыкі ўлад. Гэта працы В. Чапко і П. Казлоўскага, В. Панюціча. У даследаваннях згаданых аўтараў разглядалася імперскае зямельнае заканадаўства, маёмасны стан розных катэгорый землеўладальнікаў, змены саслоўнай структуры дваранскага саслоўя і структуры землеўладання. У працы вядомага беларускага гісторыка М. Улашчыка былі разгледжаны асноўныя аспекты палітыкі самадзяржаўя: разбор шляхты, пытанні агульнага стану два-

---

[1] *Заяц А., Макарэвіч В.* Прававое становішча і дэградацыя шляхты ў Прусіі, Аўстрыі і Расіі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай – спроба параўнання // Человек – экология – культура в польско-белорусском диалоге : материалы пол.-белорус. лет. шк. по соц.-экол. и ист.-культурол. проблематике / науч. ред.: А. Зеленков, В. Ленарт. Минск ; Пултуск, 2004. С. 207–219 ; *Fajnhauz D.* 1863: Litwa i Białoruś. Warszawa, 1999 ; *Яго ж.* Polska drobna szlachta a rok 1863 na Litwie i Białorusi // Na przełomie stuleci: naród – Kościół – państwo w XIX i XX wieku : księga jubileuszowa dedykowana profesorowi Ryszardowi Benderowi / pod red. M. Piotrowskiego. Lublin, 1997. S. 159–166.

ранскага саслоўя, яго колькасці. Паводле аўтара, нават маючы даныя рэвізій, выявіць колькасць дробных уладальнікаў зямлі (аднадворцаў і дваран) можна толькі прыблізна. Адной з найбольш значных прац з'яўляецца даследаванне С. Самбук «Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX в.». Аўтар у агульных рысах, але комплексна паказала разбор шляхты як адзін з напрамкаў палітыкі самадзяржаўя. Некалькі аспектаў перасяленчай палітыкі ўлад, у тым ліку ў адносінах да дробнай шляхты Беларусі ў другой палове XIX ст., закрануў у манаграфіі П. Верашчагін. З. Тальвірская даследавала сацыяльнае становішча дробнай шляхты ў Мінскай губерні. Грунтоўнай работай, прысвечанай вывучэнню лёсаў чыншавай шляхты другой паловы XIX ст., стала дысертацыя Л. Прэабражэнскай, падрыхтаваная ў Мінскім педагагічным інстытуце ў 1951 г.[1]

Аспекты гісторыі дробнай шляхты Беларусі знайшлі адлюстраванне і ў працах іншых савецкіх даследчыкаў. Асноўныя напрамкі палітыкі ўлад у дачыненні да аднадворцаў, унутраную арганізацыю гэтай катэгорыі, аддзяленне чыншавікоў і неаселай шляхты ад дваранства і ўключэнне іх у склад сялян і мяшчан на аснове заканадаўчых актаў 1830–60-х гг. адлюстраваў у сваім артыкуле В. Неўпакоеў. Даследчыкі А. Мыльнікаў і В. Якубоўскі займаліся вывучэннем і параўнальным аналізам становішча дваранства розных краін ва ўмовах разлажэння феадалізму. В. Зайцаў даследаваў сацыяльна-саслоўны склад паўстанцаў 1863 г. Тую ж праблематыку адносна паўстання 1830–1831 гг. вывучала Н. Міціна. Значнае месца ў статыстычным аналізе стану дваранска-

---

[1] *Панютич В. П.* Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861–1900 гг. Минск, 1990 ; *Самбук С. М.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX в. Минск, 1980 ; *Улащик Н. Н.* Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. М., 1965 ; *Тальвирская З. Я.* К вопросу о социальном облике мелкого дворянства в 1860-х годах (по материалам трех уездов Минской губ.) // Историко-социологические исследования (на материалах славянских стран) / редкол.: В. А. Дьяков, М. Н. Кузьмин, И. С. Миллер. М., 1970. С. 198–221 ; *Верещагин П. Д.* Крестьянские переселения из Белоруссии (вторая половина XIX в.). Минск, 1978 ; *Чепко В. В.* Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в. Минск, 1972 ; *Козловский П. Г.* Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII – первой половине XIX в. Минск, 1982 ; *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : автореф. дис. ... канд. ист. наук. Минск, 1951 (рукапіс дысертацыі захоўваецца ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы).

га саслоўя Расійскай імперыі, у тым ліку і ў Беларусі, належыць працам В. Кабузана і С. Троіцкага, а таксама А. Карэліна[1].

У беларускай гістарычнай навуцы з пачатку 1990-х гг. колькасць даследчыкаў, якія вывучаюць гісторыю дробнай шляхты, абмяжоўваецца некалькімі прозвішчамі, прычым, за выключэннем некалькіх грунтоўных работ, праблематыка дробнай шляхты закранаецца толькі як адзін з аспектаў гісторыі дваранскага саслоўя. Распрацоўцы пытанняў колькаснага складу шляхты Беларусі і царскай палітыкі прысвечаны працы беларускіх даследчыкаў Г. Туміловіч і С. Лугаўцовай. Навукоўцы істотна паглыбілі базу выкарыстаных крыніц і пры вывучэнні палітыкі разбору шляхты, у тым ліку праз выкарыстанне фондаў Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва, архівасховішчаў Беларусі. Значным даследаваннем палітыкі расійскіх улад у адносінах да розных катэгорый насельніцтва Беларусі, у тым ліку і дробнай шляхты ў 30–40-я гг. XIX ст., з'яўляюцца дысертацыя і манаграфія А. Лепеш. Аўтар на аснове матэрыялаў фонду Камітэта заходніх губерняў Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва сярод іншага разгледзела і асноўныя кірункі палітыкі расійскіх улад, якія распрацоўваліся гэтым Камітэтам у адносінах да дробнай шляхты. Значнасці даследаванню надае той факт, што Камітэт заходніх губерняў быў асноўным органам, які распрацоўваў пытанні збліжэння беларускіх губерняў з расійскімі, у тым ліку мерапрыемствы па разборы шляхты і ўладкаванні «дэкласаванай» шляхты. Шэраг работ А. Дамарада, у тым ліку кандыдацкая дысертацыя, прысвечаны «інкарпарацыі» шляхты Беларусі ў склад дваранства Расійскай імперыі. Вывучэнню палітыкі разбору шляхты, яе высялення, а таксама з'явы фальсіфікацыі дваранскіх дакументаў былі прысвечаны і некалькі апошніх публікацый аўтара да-

[1] *Неупокоев В. И.* Преобразование беспоместной шляхты в Литве в податное сословие однодворцев и граждан (вторая треть XIX в.) // Революционная ситуация в России в 1859–1861 гг. : сб. ст. : в 9 т. / Акад. наук СССР, Ин-т истории СССР ; редкол.: М. В. Нечкина (отв. ред.) [и др.]. М., 1960–1986. Т. 6. 1974. С. 3–22 ; *Мыльников А. С., Якубовский В. А.* Процесс разложения дворянства и его социальные последствия // Социальная структура общества в XIX в: страны Центральной и Юго-Восточной Европы / редкол.: В. А. Дьяков (отв. ред.) [и др.]. М., 1982. С. 311–325 ; *Зайцев В. М.* Социально-сословный состав участников восстания 1863 г. (опыт статистического анализа). М., 1973 ; *Митина Н. П.* Социальный состав участников польского восстания 1830–1831 гг. (по спискам эмигрировавших и скрывшихся от репрессий // Историко-социологические исследования (на материалах славянских стран). С. 169–197 ; *Кабузан В. М.*, *Троицкий С. М.* Изменения в численности, удельном весе и размещении дворянства в России в 1782–1858 гг. // История СССР. 1971. № 4. С. 153–169 ; *Корелин А. П.* Дворянство в пореформенной России (1861–1904): состав, численность, корпоративные организации. М., 1979.

дзенай манаграфіі. Даследаваннем колькаснага складу шляхты Беларусі і трансфармацыі яе сацыяльнай структуры ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. плённа займаецца і А. Люты[1].

Праблематыцы палітыкі імперыі ў адносінах да дваранства і шляхты Беларусі прысвечаны таксама раздзелы прац А. Філатавай. Удзел дробнай шляхты ў паўстанні 1863 г. і рэпрэсіўная палітыка ўлад адлюстраваны ў працы В. Хурсіка. Палітыку царскага ўрада па прыцягненні дробнай шляхты да вайсковай службы ў пачатку XIX ст. вывучаў А. Лукашэвіч. Нельга абмінуць увагай таксама работу Я. Анішчанка і які сярод іншых аспектаў палітыкі расійскіх улад на беларускіх землях першага падзелу Рэчы Паспалітай закранае і палітыку разбору шляхты. В. Касмылёў даследаваў пытанні разбору шляхты, у прыватнасці ён быў першым, хто звярнуўся да праблемы падробкі дакументаў на дваранства ў XIX ст. як асобнай тэмы навуковага вывучэння. Далейшую распрацоўку на больш шырокім і канкрэтным архіўным матэрыяле гэта тэма атры-

[1] *Люты А. М.* Сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі ў другой палове XVIII – першай палове XIX ст. Мінск, 2004 ; *Лугаўцова С. Л.* Палітыка расійскага самадзяржаўя ў адносінах да дваранства Беларусі (1831–1856 гг.) // Пытанні гісторыі Беларусі : зб. навук. арт. / Беларус. дзярж. пед. ун-т ; пад рэд. А. М. Лютага. Мінск, 1998. С. 86–101 ; *Туміловіч Г.* Дваранства на Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX стст. // Беларус. гіст. часоп. 1997. № 4. С. 53–59 ; *Лепеш О. В.* Комитет западных губерний: организация и деятельность (1831–1848) : дис. ... канд. ист. наук : 07.00.02. Минск, 2005 ; *Дамарад А.* Урадавыя мерапрыемствы па скарачэнні колькасці шляхты ў Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. // Тр. БГТУ. 2012. № 5. С. 19–22 ; *Макарэвіч В. С.* Ведамасці і спісы дваран 1850–1860-х гадоў як крыніца па гісторыі дробнай шляхты Беларусі (па матэрыялах фондаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Мінску і Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Вільнюсе) // Арх. і справаводства. 2008. № 1. С. 117–122 ; *Яго ж.* Высяленні дробнай шляхты з Мінскай губерні ў 1863–1864 гг. // Беларус. гіст. часоп. 2014. № 10. С. 13–22 ; *Яго ж.* Расійскія праекты разбору шляхты беларуска-літоўскіх губерняў у 1823–1831 гг. // Białorus. Zeszyty Hist. = Беларус. гіст. зб. 2014. Z. 41. S. 49–66 ; *Makarevich V.* Od idei do praktyki. Polityka przesiedleńcza wobec drobnej szlachty w guberniach białorusko-litewskich i ukraińskich Cesarstwa Rosyjskiego w końcu XVIII – pierwszej połowie XIX w. // Tożsamość – pamięć historyczna – idee. Przemiany narodowościowe i społeczne na Litwie i Białorusi w XIX i na początku XX wieku / pod red. D. Michaluk. Warszawa, 2016. S. 109–126 ; *Макарэвіч В.* Рэвізія актавых і метрычных кніг Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў у 1834–1835 гг. // Беларусь, Нясвіжскі край і Эдвард Вайніловіч : матэрыялы навук.-практ. канф., Нясвіж, 26 жн. 2016 г. / Ін-т гісторыі НАН Беларусі ; рэдкал.: А. А. Каваленя (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск, 2016. (Серыя «Беларусь і Эдвард Вайніловіч»). С. 84–95 ; *Церашкова К. С.* Асаблівасці крыніц папаўнення мяшчан Беларусі ва ўмовах разбору шляхты пасля паўстання 1863–64 гг. // Паўстанне 1863–1864 гг. у Польшчы, Беларусі, Літве і Украіне: гісторыя і памяць : зб. навук. арт. / уклад.: В. В. Яноўская [і інш.] ; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]. Мінск, 2014. С. 397–409.

мала ў артыкулах С. Рыбчонка і аўтара дадзенай манаграфіі. Сумежнай тэматыкай займаюцца таксама Я. Глінскі і З. Дрозд. Палітыка ўрада па кадравых пытаннях і становішча гарадской шляхты разглядаюцца ў артыкулах М. Сяменчыка, С. Токця. Даследчыкі В. Гарбачова і З. Матвейчык вывучаюць пытанні эміграцыі шляхты з Беларусі[1].

Праблематыку, якая тычыцца нацыянальнага складу дробнай шляхты і яе структуры, закранулі ў сваіх артыкулах А. Кісялёў, С. Токць, М. Красноў. С. Токць прыйшоў да высновы, што на працягу 30–50-х гг. XIX ст. служачыя дзяржаўных установ у Беларусі ў большасці сваёй набіраліся з мясцовых ураджэнцаў, пераважна з дробнай шляхты[2]. Праблемы канфесійнага і нацыянальнага складу дваранскага саслоўя Беларусі, а таксама аспекты разбору шляхты ў XIX ст. і пытанні гістарыяграфіі знайшлі асвятленне

---

[1] *Анішчанка Я.* Беларусь у часы Кацярыны II (1772–1796). Мінск, 1998 ; *Філатава А.* Саслоўная палітыка царскага ўраду ў Беларусі. 1772–1860 // Гіст. альм. 2002. Т. 6. С. 56–83 ; *Хурсік В. У.* Трагедыя белай гвардыі: беларускія дваране ў паўстанні 1863–1864 гг. : гіст. нарыс і спісы. Мінск, 2001 ; *Лукашевич А. М.* Мелкопоместная шляхта Беларуси в стратегических планах военного ведомства России в начале XIX в. // Актуальныя праблемы сацыяльнай гісторыі Беларусі (канец XVIII – пачатак XX ст.: да 90-годдзя Лютаўскай рэвалюцыі : матэрыялы Рэсп. навук.-тэарэт. канф., Мінск, 23 лют. 2007 г. / Беларус. дзярж. пед. ун-т ; рэдкал.: А. І. Андарала [і інш.]. Мінск, 2007. С. 8–12 ; *Касмылёў В.* Шляхецкая годнасць – за тры рублі серабром // Беларус. мінуўшчына. 1998. № 1. С. 41–44 ; *Рыбчонак С.* Да радавода Адама Міцкевіча, ці яшчэ раз аб фальсіфікацыі доказаў на шляхецтва ў заходніх губернях Расійскай імперыі ў першай палове XIX ст. // Генеалогія : зб. наук. праць / гол. ред. В. А. Смолій. Київ, 2013. Вип. 1. С. 195–210 ; *Сяменчык М. Я.* Становішча гарадской шляхты Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX стст. (сацыяльны аспект) // Нацыянальная палітыка расійскага самадзяржаўя на Беларусі ў канцы XVIII – пачатку XIX стагоддзяў : зб. навук. прац / Беларус. дзярж. пед. ун-т ; пад агул. рэд. А. М. Лютага. Мінск, 1995. С. 128–150 ; *Матвейчык Д.* Выгнаныя з роднага краю. Пасялістападаўская эміграцыя з Беларусі і Літвы (1830-я – 1970-я гг.). Мінск, 2015 ; *Глінскі Я.* Родавая памяць ці звычайны падман? Венская бітва 1683 г. у справах аб доказе дваранства ў Мінскай губерні // Архіварыус : зб. навук. паведамл. Вып. 13. 2015. С. 92–100.

[2] *Токць С. М.* Асабовы склад дзяржаўнага апарату Расійскай імперыі ў Беларусі (30–60-я гады XIX ст.) // Вес. Акад. навук Беларусі. Сер. гуманітар. навук. 1996. № 2. С. 70–76 ; *Киселев А. А.* Методика определения национальности чиновника по формулярному списку // Теоретико-методологические проблемы исторического познания : материалы междунар. науч. конф., Минск, 1–2 февр. 2001 г. : в 2 т. / Респ. ин-т высш. шк. БГУ ; под ред. В. Н. Сидорцова [и др.]. Минск, 2000. Т. 2. С. 42–45 ; *Красноў М. Н.* Службовая шляхта // Айчынная і сусветная гісторыя: сучасныя погляды і метады даследаванняў : зб. навук. прац : у 2 ч. / Беларус. дзярж. пед. ун-т ; рэдкал.: А. М. Люты (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск, 2000. Ч. 1 : Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі. С. 31–38.

ў працах А. Жытко[1]. Тэма шляхты як часткі сацыяльнай структуры грамадства ўваходзіць у сферу навуковых інтарэсаў і А. Каханоўскага. У сваіх даследаваннях і выдадзенай у 2013 г. манаграфіі вучоны фактычна ўпершыню скіраваў увагу на працэсы сацыяльных трансфармацый, міжсаслоўнай мабільнасці, у якіх немалую ролю адыгрывала і дробная шляхта[2]. Падрыхтоўка манаграфіі, якую чытач трымае ў руках, з'яўляецца таксама плёнам працы школы сацыяльнай гісторыі, заснаванай прафесарам А. Каханоўскім на гістарычным факультэце БДУ.

Гістарыяграфіі гісторыі шляхты прысвечаны артыкулы Я. Марозава, Н. Казлоўскай, І. Мельнікава, А. Лютай, аўтара дадзенай працы[3]. Даследа-

---

[1] *Жытко А. П.* Дваранства Беларусі перыяду капіталізму. Мінск, 2003 ; *Жытко А.* Веравызнальны склад дваранства Беларусі 1861–1914 гг. // Беларус. гіст. часоп. 1998. № 3. С. 33–39 ; *Яго ж.* Да пытання аб «разборы шляхты» на Беларусі ў ХІХ ст. // Вес. Беларус. дзярж. пед. ун-та. 1998. № 1. С. 70–77 ; *Яго ж.* Крыніцы па гісторыі дваранства Беларусі перыяду капіталізму // Актуальныя праблемы сацыяльнай гісторыі Беларусі ... С. 112–116.

[2] *Каханоўскі А.* Сацыяльная трансфармацыя беларускага грамадства (1861–1914) ; *Яго ж.* Міжсаслоўная сацыяльная мабільнасць насельніцтва Беларусі ў другой палове ХІХ – пачатку ХХ ст. // Российские и славянские исследования : науч. сб. / редкол.: А. П. Сальков [и др.]. Вып. 7. Минск, 2012. С. 80–91 ; *Каханоўскі А. Г.* Дваранства Беларусі ў другой палове ХІХ ст.: склад і сацыяльнае аблічча // Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь: новыя канцэпцыі і падыходы : усебеларус. канф. гісторыкаў, Мінск, 3–5 лют. 1993 г. : у 2 ч. / рэдкал.: М. П. Касцюк (адк. рэд.) [і інш.]. Мінск, 1994. Ч. 1. С. 103–109 ; *Бригадин П. И., Кохановский А. Г.* Социальная структура белорусского общества на рубеже ХІХ–ХХ вв. // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 3, Гісторыя. Філасофія. Паліталогія. Сацыялогія. Эканоміка. Права. 1996. № 3. С. 34–37.

[3] *Макарэвіч В. С.* Гістарыяграфія гісторыі шляхты Беларусі ХІХ ст. // Сучасныя праблемы гістарыяграфіі гісторыі : матэрыялы Рэсп. навук.-практ. канф., Мінск, 28 лістап. 2003 г. : у 3 ч. / Беларус. дзярж. пед. ун-т ; рэдкал.: У. В. Тугай (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск, 2003. Ч. 2. С. 198–205 ; *Марозаў Я. П.* «Разбор» шляхты на Беларусі (канец XVIII – 60-я гг. ХІХ ст.): гістарыяграфія праблемы // Сучасныя праблемы гістарыяграфіі гісторыі : матэрыялы Рэсп. навук.-практ. канф., Мінск, 28 лістап. 2003 г. : у 3 ч. / Беларус. дзярж. пед. ун-т ; рэдкал.: У. В. Тугай (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск, 2003. Ч. 1. С. 179–183 ; *Козловская Н. В.* Проблема западнобелорусской шляхты советской белорусской историографии // Этнасацыяльныя і культурныя працэсы ў Заходнім рэгіёне Беларусі: гісторыя і сучаснасць : матэрыялы Рэсп. навук. канф., Гродна, 5–6 снеж. 1997 г. / Гродзен. дзярж. ун-т ; пад рэд. І. П. Крэня. Гродна, 1998. С. 289–291 ; *Мельнікаў І. В.* Шляхта Беларусі перыяду капіталізму ў працах польскіх гісторыкаў на прыкладзе графскага роду Забела Бабруйскага павета Мінскай губерні // Вес. БДПУ. Сер. 2, Гісторыя. Філасофія. Паліталогія. Сацыялогія. Эканоміка. Культуралогія. 2004. № 4. С. 9–11 ; *Лютая А. Э.* Интеграция шляхты белорусских земель в дворянское сословие Российской империи (1772–1914 гг.): историография проблемы // Вес. БДПУ. Сер. 2, Гісторыя. Філасофія. Паліталогія. Сацыялогія. Эканоміка. Культуралогія. 2015. № 2. С. 52–55.

ваннем крыніцазнаўчага аспекту гісторыі шляхты Беларусі ў XIX ст. займаюцца Н. Казлоўская і В. Макарэвіч[1].

Закранаюць тэматыку разбору шляхты ў Беларусі таксама літоўскія, расійскія навукоўцы і даследчыкі іншых краін. Дзейнасць дваран-татар у дваранскіх сходах беларуска-літоўскіх губерняў разглядала літоўская даследчыца Т. Байрашаўскайтэ. Яе ж руцэ належыць шэраг грунтоўных артыкулаў па праблематыцы палітыкі ўлад і дзейнасці рэвізійных камісій[2]. Гісторыю шляхты татарскага паходжання вывучае расійскі даследчык С. Думін. Структуру землеўладання, у тым ліку і шляхецкага па Магілёўскай і Віцебскай губернях, разглядае расійскі даследчык В. Вадарскі. Вывучэнню аспектаў нацыянальна-канфесійнай палітыкі царскага ўрада адносна палякаў прысвечана манаграфія расійскага гісторыка Л. Гарызонтава. Месца шляхты ў сацыяльна-прававой сістэме Расійскай імперыі разглядаў расійскі даследчык А. Сяліцкі[3].

Французскі даследчык Д. Бувуа прысвяціў некалькі са сваіх прац пытанням гісторыі шляхты ва Украіне, дзе многія моманты фарміравання палітыкі ўлад у адносінах да дробнай шляхты закранаюць і беларускія землі. Аўтарам праведзены даволі грунтоўны аналіз з прыцягненнем шырокага кола архіўных крыніц. Праблеме палітыкі расійскіх улад

---

[1] *Козловская Н.* Материалы по истории шляхты в фондах Национального исторического архива Беларуси в городе Гродно // Арх. і справаводства. 2001. № 2. С. 81–87 ; *Козловская Н. В.* Шляхта белорусских земель Великого Княжества Литовского: Российская дореволюционная советская историография и источниковедение проблемы : автореф. дис. ... канд. ист. наук : 07.00.09 / Белорус. НИИ документоведения и арх. дела. Минск, 2001 ; *Макарэвіч В. С.* Ведамасці і спісы дваран 1850–1860-х гадоў ...

[2] *Bairašauskaitė T.* Lietuvos bajorų savivalda XIX a. pirmojoje pusėje. Vilnius, 2003 ; *Яе ж.* Zbiory Litewskiego Państwowego Archiwum Historycznego dotyczące weryfikacji szlachectwa w XIX w. // Białostocczyzna. 1998. № 4. S. 51–57 ; *Яе ж.* Lietuvos bajorų luomo deklasacijos procesas: bajorystės įrodymai (XVIII a. pab. – XIX a. 7 dešimtmetis) // Lietuvos istorijos metraštis. 2001–2002. Vilnius, 2002. P. 87–112 ; *Байрашаўскайтэ Т.* Працэс дэклясацыі шляхецкага саслоўя Літвы: доказы паходжаньня (канец XVIII – 60-я гг. XIX ст.) // ARCHE. 2009. № 9. С. 149–174.

[3] *Селицкий А. И.* Польская шляхта в социально-правовой системе Российской империи // Поляки в России: XVII–XX вв. : материалы междунар. науч. конф., Краснодар, 10–11 июля 2002 г. / науч. ред. и сост. А. И. Селицкий. Краснодар, 2003. С. 113–116.

у адносінах да дробнай шляхты ва Украіне прысвечана некалькі работ украінскіх даследчыкаў С. Лысенкі і Я. Чарнэцкага[1].

Гісторыя дробнай шляхты вельмі часта застаецца толькі фонам або асобным і не самым важным аспектам пры вывучэнні больш агульных пытанняў, як правіла – агульнага кантэксту палітыкі царскіх улад. Найчасцей даследчыкі звярталіся толькі да заканадаўчага аспекту, але без аналізу супярэчнасцей і неадназначнасці поглядаў у вышэйшых колах на выпрацоўку кірункаў палітыкі. Зусім слаба ў гістарыяграфіі разгледжана праблематыка палітыкі разбору шляхты на тэрыторыі Полацкага і Магілёўскага намесніцтваў у 1772–1793 гг., не атрымалі глыбокага даследавання таксама пытанні выпрацоўкі і рэалізацыі гэтай палітыкі ў 1796–1831 гг. на ўсёй тэрыторыі Беларусі, практычна не была даследавана дзейнасць рэвізійных камісій у 1830–50-я гг. На многія аспекты, якія вызначалі становішча дробнай шляхты, не звярталася ўвага, не ўсе заканадаўчыя ініцыятывы ўлад атрымалі аналіз у навуковай літаратуры. Гэтыя прабелы аўтар імкнецца ліквідаваць у дадзенай манаграфіі. Доўгі час заставаліся слаба разгледжанымі таксама такія праблемы, як цяжкасці, з якімі сутыкнуліся імперскія ўлады пры выпрацоўцы і рэалізацыі сваёй палітыкі на мясцовым узроўні, вынікі палітыкі для самой дробнай шляхты і ўрада. Слаба да гэтага часу вы-

[1] *Dumin S. W.* Szlachta tatarska na ziemiach wschodnich dawnej Rzeczypospolitej w latach 1795–1999 // Europa nie prowincjonalna = Non-provincial Europe : przemiany na ziemiach wschodnich dawnej Rzeczpospolitej (Białoruś, Litwa, Łotwa, Ukraina, wschodnie III Rzeczpospolitej Polskiej) w latach 1772–1999 / In-t Studiów Polit. PAN ; red. K. Jasiewicz. Warszawa ; London, 1999. S. 536–549 ; *Водарский Я. Е.* Дворянское землевладение в России в XVII – первой половине XIX вв. (размеры и размещение). М., 1988 ; *Горизонтов Л. Е.* Парадоксы имперской политики: поляки в России и русские в Польше. М., 1999 ; *Beauvois D.* Polacy na Ukrainie 1831–1863: szlachta polska na Wołyniu, Podolu i Kijowszczyźnie. Paryż, 1987 ; *Яго ж.* Trójkąt ukraiński: Szlachta, carat i lud na Wołyniu, Podolu i Kijowszczyźnie 1793–1914. Lublin, 2005 ; *Чернецький Є.* Правобережна шляхта за російського панування (кінець XVIII – початок XX ст.). Джерела, структура стану, роди. Біла Церква, 2007 ; *Яго ж.* Формування і соціальне структурування шляхти Радомишльського повіту Київської губернії в кінці XVIII – першій третині XIX ст.: генеалогічний та історико-демографічний аналіз : автореф. дис. ... канд. іст. наук : 07.00.06 / Укр. наук.-дослід. ін-т арх. справи та документознавства. Київ, 2010 ; *Лисенко С., Чернецький Є.* Правобережна шляхта (кінець XVIII – перша половина XIX ст.): Список шляхти Волинської, Київської та Подільської губерній, дворянські права якої перевірила Центральна ревізійна комісія. Біла Церква, 2007.

вучаны пытанні супрацьдзеяння дробнай шляхты палітыцы ўлад, метадам, пры дапамозе якіх значная частка дробнай шляхты працяглы перыяд пазбягала «дэкласацыі». Маладаследаванымі заставаліся чыншавая шляхта, правядзенне і вынікі абеззямельвання чыншавікоў памешчыкамі, правядзенне чыншавай рэформы ў імперыі. Нягледзячы на наяўнасць немалога кола даследчыкаў, у гістарыяграфіі дагэтуль няма і цэласнай працы, прысвечанай падрабязнаму аналізу, з прыцягненнем шырокай базы не толькі заканадаўчых, але і архіўных, мемуарных крыніц, палітыкі ўраду Расійскай імперыі ў адносінах да дробнай шляхты Беларусі. Не даследавана, як палітычнае ўзаемадзейнічала з сацыяльным, як грамадства рэагавала на палітыку, якія працэсы сацыяльнага і эканамічнага характару яе фарміравалі, а якія сталі яе наступствам.

## КРЫНІЦЫ ДАСЛЕДАВАННЯ

Да дакументальных крыніц па тэме належаць заканадаўчыя дакументы, матэрыялы справаводства, эканоміка-геаграфічныя, гаспадарчыя і статыстычныя апісанні.

Заканадаўчыя матэрыялы па гісторыі дробнай шляхты прадстаўлены нарматыўна-прававымі актамі, сабранымі ў першым, другім і трэцім зборах «Поўнага збору законаў Расійскай імперыі» і «Зводзе законаў Расійскай імперыі». У поўным зборы законы сістэматызаваны храналагічна, а ў зводзе законаў – тэматычна паводле адпаведных статутаў. Заканадаўчыя акты – важнейшая крыніца па вывучэнні прававога становішча шляхты Беларусі ў XIX ст. У асноўным выданні «Поўнага збору законаў Расійскай імперыі» некаторыя законапалажэнні і ўказы прапушчаны, таму ўвага даследчыкаў павінна быць таксама нададзена дадаткам і дапаўненням да тамоў збору. Вывучанасць матэрыялаў збору нельга назваць малой, аднак не толькі многія аспекты, але і цэлыя законапалажэнні заставаліся па-за ўвагай даследчыкаў па прычыне непапулярнасці тэматыкі ў савецкі перыяд або недахопу магчымасцей тагачасных тэхнічных сродкаў пры працы з матэрыяламі некадыфікаванага права. Указы Сената Расійскай імперыі, што тычыліся дваранства і шляхты, дасылаліся таксама ва ўсе губернскія дваранскія ўстановы, аднак з-за няпоўнай захаванасці крыніц фонды губернскіх дваранскіх устаноў у архівах утрымліваюць падшыўкі ўказаў Сената толькі за асобныя гады. Вельмі нямногія асноўныя заканадаўчыя акты

і распараджэнні былі сістэматызаваны і выдадзены друкам у афіцыйных і неафіцыйных выданнях яшчэ ў XIX ст.[1]

Асобнае кола дакументальных крыніц утвараюць матэрыялы справаводства і дзейнасці цэнтральных і мясцовых устаноў. Гэта інструкцыі і цыркуляры цэнтральных органаў улады, разнастайныя справаздачы, паведамленні, данясенні, рапарты, запыты, распараджэнні і г. д. Такія дакументы, як правіла, зберагаюцца ў архіўных фондах. Найбольш каштоўныя матэрыялы змешчаны ў фондах Сената, Заходняга камітэта, канцылярый губернатараў і дваранскіх сходаў, розных губернскіх устаноў, земскіх судоў, рэвізійных камісій, якія захоўваюцца ў Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве (РДГА) у Санкт-Пецярбургу, Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі (НГАБ), Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Гродна (НГАБ у г. Гродна), Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве (ЛДГА) у Вільнюсе. У фондах гэтых архіваў захаваліся таксама матэрыялы да штогадовых справаздач губернатараў з разнапланавымі, у тым ліку і статыстычнымі, звесткамі адносна катэгорый дробнай шляхты, цыркуляры, распараджэнні, данясенні аб становішчы дробнай шляхты, яе колькасці, настроях, сацыяльнай структуры, занятках, перапіска паміж чыноўнікамі па пытаннях выпрацоўкі і рэалізацыі палітыкі ў адносінах да дробнай шляхты і інш. Матэрыялы пасяджэнняў Камітэта заходніх губерняў, які распрацоўваў напрамкі палітыкі самадзяржаўя ў заходніх губернях у 30–40-я гг. XIX ст., утрымліваюць важныя звесткі адносна распрацоўкі мерапрыемстваў па разборы шляхты і высяленні яе з заходніх губерняў. Гэтыя матэрыялы захоўваюцца у фондзе 1266 Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Санкт-Пецярбургу, а матэрыялы Заходняга камітэта – у фондзе 1267. Сярод спраў Першага дэпартамента Сената нельга не назваць некалькі асноўных, у якіх змешчана перапіска ўстановы па пытанні выпрацоўкі палітыкі ў адносінах да дробнай шляхты. Гэта справа «О шляхте в губер-

---

[1] *Terlecki I.* Heroldya i porządek otrzymywania od niej utwierdzenia szlachectwa. S. Petersburg, 1832 ; Сборник распоряжений графа Михаила Николаевича Муравьева по усмирению польского мятежа в Северо-Западных губерниях 1863–1864 / сост. Н. Цылов. Вильна, 1866 ; Сборник узаконений и распоряжений по землевладению в Западных губерниях с решениями Правительствующего Сената: По общему собранию и кассационному департаменту / сост. Т. Рафальский. Киев, 1895 ; Сборник узаконений и распоряжений правительства по польскому мятежу 1863 года, вышедших по 28-е января 1868 года и касающихся западных губерний. Для судебных мест и нотариальных учреждений и для лиц, желающих приобресть поземельную собственность в Западном крае : неофиц. изд. / ред.-сост. неофиц. изд. тип. Е. Федорова. Киев,1868.

ниях от Польши присоединенных», а таксама справа Трэцяга дэпартамента Сената «О чиншевой шляхте». Надзвычай карыснымі аказаліся таксама справы фондаў Дэпартамента герольдыі (ф. 1343) і Міністэрства фінансаў (ф. 571), а таксама некаторых іншых архіўных фондаў[1].

У фондах губернскіх і павятовых устаноў захавалася перапіска паміж інстанцыямі, судовыя справы, спісы шляхты, рапарты і справаздачы цывільных і вайсковых чыноўнікаў і іншыя каштоўныя дакументы па гісторыі дробнай шляхты. Найболей іх у фондах губернскіх праўленняў. Так, фонд Віленскага губернскага праўлення ўтрымлівае дзве аб'ёмныя справы з дзясяткамі дакументаў адносна палітыкі ўлад па ліквідацыі катэгорый аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў і прыпіскі асоб, якія не даказалі дваранскае паходжанне, у падаткаабкладаныя катэгорыі насельніцтва, высялення аднадворцаў у 60–70-я гг. XIX ст.[2] Толькі невялікая частка важных дакументаў справаводства, якія тычацца дробнай шляхты, выдадзена ў зборніках дакументаў[3].

Да асобнай групы дакументальных крыніц адносяцца эканоміка-геаграфічныя, гаспадарчыя і статыстычныя апісанні. Вельмі каштоўнай крыніцай для вывучэння сацыяльнага становішча і дэмаграфіі з'яўляюцца спісы і ведамасці шляхты і аднадворцаў, аднак

---

[1] Российский государственный исторический архив (далей – РГИА). Ф. 1341. Д. 346а, 346б ; Ф. 1347. Д. 299 ; Ф. 571, 1267, 1343.

[2] Дело о слиянии однодворцев и граждан с прочими городскими и сельскими обывателями // LVIA. Ф. 381. Воп. 19. Спр. 6522 ; Дело о записи в податное состояние лиц, происходящих из бывшей польской шляхты, не утвержденной в дворянстве // LVIA. Ф. 381. Воп. 16. Спр. 810.

[3] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі : у 4 т. / Акад. навук БССР, Ін-т гісторыі ; пад рэд. М. М. Нікольскага [і інш.]. Мінск, 1940. Т. 2 (1772–1903 гг.) ; Белоруссия в эпоху феодализма : сб. документов и материалов : в 4 т. / Гл. арх. упр. при Совете Министров БССР, Ин-т истории АН БССР. Минск, 1959–1979. Т. 4 : Социально-политическая история и культура Белоруссии первой половины 19 в. Отечественная война 1812 г. / сост.: В. В. Чепко, В. В. Шатилло. 1979 ; Белоруссия в эпоху феодализма : сб. документов и материалов : в 3 т. / Ин-т истории АН БССР, Арх. упр. при Совете Министров БССР. Минск, 1959–1961. Т. 3 : Воссоединение Белоруссии с Россией и ее экономическое развитие в конце 18 в. / сост.: В. В. Чепко, В. В. Шатилло. 1961 ; Гісторыя Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст. у дакументах і матэрыялах : хрэстаматыя / уклад. і навук. рэд. А. Ф. Смалянчук. Вільня, 2007 ; Хрестоматия по истории Белоруссии: с древних времен до 1917 г. : учеб. пособие / сост.: А. П. Игнатенко, В. Н. Сидорцов ; под ред. П. З. Савочкина. Минск, 1977 ; Rok 1863 na Mińszczyźnie (materjały archiwum wydziału III b. kancelarji cesarskiej) / zobr. i oprac. J. Witkowski, O. Janiewicz, L. Lech. Mińsk, 1927.

з-за аб'ёмнасці крыніц іх аналіз патрабуе шмат часу і працы групы даследчыкаў. Выяўленыя спісы і ведамасці захаваліся ў архіўных фондах дзяржаўных і саслоўных установаў у Мінску і Гродне, у Вільнюсе[1].

У фондах губернскіх статыстычных камітэтаў у НГАБ, НГАБ у г. Гродна і ЛДГА змешчаны афіцыйныя дакументы, якія адлюстроўваюць колькасць, веравызнальны і полаўзроставы склад дваранства, шляхты, аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў, саслоўную прыналежнасць навучэнцаў навучальных установаў рознага ўзроўню. Статыстычныя даныя, у тым ліку матэрыялы рэвізій, перапісаў аднадворцаў і грамадзян, даныя кансісторый, матэрыялы статыстычных камітэтаў (як губернскіх, так і цэнтральнага), былі часткова выдадзены ў «Матэрыялах па геаграфіі і статыстыцы Расіі» пад рэдакцыяй І. Зяленскага, П. Баброўскага, А. Карэвы, у памятных кніжках губерняў за розныя гады, у справаздачах статыстычных камітэтаў і апісаннях, у справаздачах губернатараў, якія захаваліся ў фондах канцылярый губернатараў[2]. Надрукаваныя статыстычныя матэрыялы, у адрозненне ад архіўных крыніц, вельмі шырока выкарыстоўваюцца ў працах гісторыкаў

[1] *Макарэвіч В. С.* Ведамасці і спісы дваран 1850–1860-х гадоў ... ; Списки дворян Витебской губернии лишенных прав дворянства. 1872 г. // НГАБ. Ф. 2512. Воп. 1. Спр. 730.

[2] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Минская губерния : в 2 ч. / сост. И. Зеленский. СПб., 1864 ; Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Гродненская губерния : в 2 ч. / сост. П. Бобровский. СПб., 1863. Ч. 1 ; Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Виленская губерния / сост. А. Корев. СПб., 1861 ; Памятная книжка Виленского генерал-губернаторства на 1868 год / под ред. А. М. Сементовского. СПб., 1868 ; Отчет о действиях и занятиях Витебского губернского статистического комитета за 1865 год / сост. А. М. Сементовский. Витебск, 1866 ; Опыт описания Могилевской губернии в историческом, физико-географическом, этнографическом, промышленном, сельскохозяйственном, лесном, учебном, медицинском и статистическом отношениях двумя картами губернии и 17 резанными на дереве гравюр видов и типов : в 3 кн. / сост. по программе и под ред. А. С. Дембовецкого. Могилев, 1882–1884. Кн. 1. 1882 ; *Аникиевич К. Т.* Сенненский уезд Могилевской губернии: опыт описания в географическом, историческом, этнографическом, бытовом, промышленном и статическом отношениях с картою уезда, схемою двух озер и рисунками в тексте / Могилев. губерн. стат. ком. Могилев, 1907 ; Статистические сведения к отчету о состоянии губернии за 1851 г. // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна (далей – НГАБ у г. Гродна). Ф. 1. Воп. 29. Спр. 559 ; *Пыпин А. Н.* История русской этнографии : в 4 т. СПб., 1890–1892. Т. 4 : Белоруссия и Сибирь. 1892.

пры даследаванні структуры народанасельніцтва Беларусі XIX ст. Трэба мецьна ўвазе, што даныя розных інстанцый, якія займаліся зборам статыстычных звестак, істотна адрозніваюцца, што было звязана як з недакладнасцямі тагачаснай статыстыкі, так і з нявызначанасцю фармальных граніц катэгорыі дробнай шляхты і дваранства, зменамі прававога статусу некаторых катэгорый шляхты на працягу даследаванага перыяду.

Прасачыць дынаміку легітымізацыі ў Герольдыі шляхты некаторых губерняў даюць магчымасць спісы шляхты гэтых губерняў у фондах Герольдыі РДГА ў Санкт-Пецярбургу. Частка гэтых матэрыялаў выдадзена друкам[1].

Некаторыя звесткі, якія тычацца чыншавай і службовай шляхты ў былых радзівілаўскіх маёнтках, змешчаны ў «Архіве Радзівілаў», што захоўваецца ў Архіве даўніх актаў у Варшаве (Archiwum Główne Act Dawnych). У асноўным гэта матэрыялы люстрацый і апісання маёнткаў, спісы шляхты, але таксама і копіі перапіскі мясцовых земскіх судоў, у прыватнасці Невельскага з Сенатам па пытаннях прызнання дваранскіх правоў дробнай шляхты[2]. Дакументы працэсаў Радзівілаў з дробнай шляхтай адносна правоў на зямлю ў давыд-гарадоцкай і клецкай ардынацыях захаваліся ў фондах аддзела рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта[3].

Другі значны масіў крыніц па гісторыі дробнай шляхты Беларусі ўтвараюць апавядальныя крыніцы. У ім асобнае месца належыць апісанням, запіскам падарожжаў, літаратурным і публіцыстычным творам, этнаграфічным апісанням, дзе ў апавядальнай форме выкладзены назіранні за ладам жыцця дробнай шляхты, яе звычаямі, традыцыямі, мовай і інш. Гэта працы Ф. Дмахоўскага, П. Шпілеўскага, Ч. Янкоўскага, А. Ельскага, А. Кіркора. Сярод этнаграфічных матэрыялаў неабходна адзначыць таксама працы і матэрыялы, сабраныя такімі сучаснікамі эпохі, як А. Пыпін, А. Харузін, П. Шэйн, О. Кольберг, Л. Юцэвіч, М. Федароўскі, у якіх навукоўцы змясцілі нататкі палявых назіранняў і паведамленні

---

[1] Spis szlachty wylegitymowanej w guberniach grodzieńskiej, mińskiej, mohylewskiej, smoleńskiej i witebskiej / oprac. S. Dumin, S. Górzyński. Warszawa, 1992.

[2] Archiwum Radziwiłłów (далей – AR) // Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie (далей – AGAD). Dz. 25.

[3] Pro memoria o przebiegu procesu Leona Radziwiłła ze szlachtą osiadłą na gruntach ordynackich i spisy akt w tej sprawie // Dział rękopisów biblioteki Uniwersytetu Warszawskiego. Rękopis 323. Karta 198–199.

адносна ладу жыцця некаторых катэгорый дробнай шляхты, іх заняткаў, мовы, паводзін, звычаяў і інш.[1]

Важнымі апавядальнымі крыніцамі па гісторыі дробнай шляхты з'яўляюцца таксама навукова-папулярныя публікацыі нататак і назіранняў пра жыццё дробнай шляхты[2]. Пра ролю дробнай шляхты ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі на мяжы XIX і XX стст. пісаў і адзін з дзеячаў краёвага руху М. Ромер[3].

Спецыфічным відам крыніц па гісторыі дробнай шляхты з'яўляюцца літаратурныя творы. У іх аўтары-сучаснікі намалявалі суб'ектыўны вобраз дробнага шляхціца. Гэта творы В. Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта», Э. Ажэшка «Nad Niemnem», «Benenati», Ф. Чарнышэвіча «Nadberezyńcy». Літаратурныя творы з'яўляюцца дадатковай крыніцай, у якой адлюстраваны ментальныя аспекты, этас дробнай шляхты, адаптаваныя для чытача аўтарам твора.

Мемуарная літаратура – яшчэ адзін тып апавядальных крыніц. Яна данесла да нас звесткі, якія не адлюстроўваліся ў дакументаль-

---

[1] *Dmochowski F. S.* Dawne obyczaje i zwyczaje szlachty i ludu wiejskiego w Polsce i w ościennych prowincyach. Warszawa, 1860 ; *Шпилевский П. М.* Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Минск, 2004 ; *Jankowski Cz.* Powiat oszmiański: materjały do dziejów ziemi i ludzi : w 4 cz. Petersburg ; Kraków, 1896–1900 ; *Jelski A.* Zarys obyczajów szlachty w zestawieniu z ekonomiką i dolą ludu w Polsce i Litwie : w 2 t. Kraków, 1897 ; *Киркор А. К.* Литовское Полесье // Живописная Россия. Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении : в 12 т. / под ред. П. П. Семенова. СПб., 1881–1895. Т. 3. 1882. С. 3–232 ; *Пыпин А. Н.* История русской этнографии. Т. 4 ; *Харузин А.* Славянское жилище в Северно-западном крае: из материалов по истории развития славянских жилищ // Виленский временник : в 6 кн. / Изд. Вилен. генерал-губернат. упр. Вильно, 1904–1913. Кн. 2. 1907. С. 161–483 ; *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края : в 3 т. СПб., 1887–1902. Т. 3 : Описание жилища, одежды, пищи, занятий; препровождение времени, игры, верования, обычное право; чародейство, колдовство, знахарство, лечение болезней, средства от напастей, поверья, суеверья, приметы и т. д. 1902 ; *Kolberg O.* Białoruś-Polesie. Wrocław ; Kraków ; Warszawa, 1968. (Dzieła wszystkie ; t. 52) ; *Jucewicz L.* Przysłowia ludu litewskiego.Wilno, 1840 ; Archiwum M. Federowskiego // Dział rękopisów biblioteki Uniwersytetu Warszawskiego. Rękopisy 347–454.

[2] *Narbut M.* Lida i powiat lidzki z przed stu lat. Pamiętnik // Ziemia Lidzka. 1934–1936 ; *Gieysztor J.* Głos szlachcica do swych współbraci o wolności i równości kmiecej. Poznań, 1859.

[3] *Römer M.* Zagadnienie narodowe białoruskie // Беларуская думка XX стагоддзя = Myśl białoruska XX wieku : філасофія, рэлігія, культура : анталогія / Пол. акад. навук, Ін-т славістыкі ; уклад., прадм., апрац. Ю. Гарбінскага. Варшава, 1998. С. 184–200.

ных крыніцах. Польскамоўныя ўспаміны, напісаныя выхадцамі з Беларусі, па прычыне таго, што многія іх аўтары пакінулі Беларусь, захаваліся перш за ўсё ў польскіх архівах і слаба выкарыстаны даследчыкамі, як, напрыклад, каштоўныя ўспаміны К. Барысовіча з Мсціслаўшчыны або М. Пароўскага. Толькі некаторыя з іх выдадзены: успаміны Э. Вайніловіча, якія ўтрымліваюць звесткі аб працэсе дэкласацыі і фальсіфікацыі дакументаў, М. Чапскай са згадкамі пра лад жыцця дробнай шляхты, В. Лядніцкага, братоў Крашэўскіх, А. Кеневіча, успаміны З. Мінэйкі, І. Гейштара, Э. Паўловіча, У. Сыракомлі, Т. Корзана. Пакінуў нататкі з апісаннем прымусовага перасялення дробнай шляхты ва ўнутраныя губерні імперыі і віленскі генерал-губернатар М. Мураўёў. Рэдкасцю з'яўляюцца ўспаміны саміх дробных шляхціцаў. Як правіла, гэта ўспаміны пра дзяцінства, праведзенае ў дробнашляхецкім асяроддзі ўжо канца XIX – пачатку XX ст. (М. Ганчарык, М. Маркс, С. Кісель, А. Багдановіч)[1]. Нягледзячы на суб'ектыўнасць літаратурных і апавядальных крыніц, менавіта ў іх адлюстраваны сацыяльныя аспекты рэалізацыі палітыкі разбору шляхты і супрацьдзеяння шляхты гэтай палітыцы.

---

[1] *Borysowicz K.* Pamiętniki // Zakład narodowy im. Ossolinskich we Wrocławiu. Rękopis № 15413/11 ; *Woyniłłowicz E.* Wspomnienia z lat 1847–1928 : w 2 cz. Wilno, 1931. Cz. 1 ; *Czapska M.* Europa w rodzinie. Warszawa, 1989 ; *Lednicki W.* Pamiętniki : w 2 t. Londyn, 1963. T. 1 ; *Kraszewski J.* Wspomnienia Wołynia, Polesia i Litwy. Warszawa, 1985 ; *Kraszewski K.* Silva rerum: wspomnienia i zapiski dzienne z lat 1830–1881: kronika domowa. Warszawa, 2000 ; *Kieniewicz A.* Nad Prypecią dawno temu... : wspomnienia zamierzchłej przeszłości. Wrocław, 1989 ; *Minejko Z.* Z tajgi pod Akropol : wspomnienia z lat 1848–1866. Warszawa, 1971; *Gieysztor J. K.* Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865 : w 2 t. Kraków, 1985 ; *Pawłowicz E.* Wspomnienia z nad Wilii i Niemna : studya, podróże. Lwów, 1882 ; *Syrokomla W.* Wycieczki po Litwie w promieniach od Wilna : w 2 t. Wilno, 1857–1860. T. 1 : Troki, Stokliszki, Jezno, Funie [i. e. Punie], Niemiez, Miedniki etc. 1857 ; T. 2 : Do Oszmiany – do Kiernowa – do Kowna. 1860 ; *Яго ж.* Wędrówki po moich niegdyś okolicach : wspomnienia, studja historyczne i obyczajowe. Wilno, 1853 ; *Сыракомля У.* Добрыя весці : паэзія, проза, крытыка. Мінск, 1993 ; *Муравьев М. Н.* Записки графа Михаила Николаевича Муравьева-Виленского. Приложения // Рус. старина. 1882. Т. 36, № 11. С. 387–432 ; № 12. С. 623–644 ; 1883. Т. 37, № 1. С. 131–166 ; № 2. С. 291–304 ; № 3. С. 615–630 ; Т. 38, № 4. С. 193–206 ; *Ганчарык М.* Шлях ад пачатку стагоддзя : успаміны. Мінск, 2003 ; *Кісель С.* Успаміны // Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей – НАРБ). Ф. 4683. Воп. 3. Спр. 1086 ; *Маркс М.* Записки старика // Віцеб. сш. 1996. № 2. С. 97 ; *Богданович А.* Мои воспоминания // Нёман. 1994. № 5. С. 23 ; *Porowski M.* Wspomnienia 1904–1918 // Zakład narodowy im. Ossolińskich we Wrocławiu. Rękopis 13542 ; *Корзан Т.* Мінск у сярэдзіне XIX ст. З уласных успамінаў / пер. і камент. В. Макарэвіча // ARCHE. 2010. № 3. С. 115–156.

Такім чынам, база крыніц па гісторыі дробнай шляхты і ў тым ліку палітыцы разбору шляхты Беларусі ў XIX ст. з'яўляецца даволі рэпрэзентатыўнай. Яна дазваляе раскрыць пытанні, звязаныя з сацыяльнай структурай дробнай шляхты: яе колькасным складам, сацыяльным становішчам, падзелам на катэгорыі ў адпаведнасці з рознымі крытэрыямі. Матэрыялы заканадаўства, справаводства і апавядальныя крыніцы дазваляюць шматбакова даследаваць палітыку ўлад у адносінах да дробнай шляхты, метады і механізмы яе рэалізацыі і супрацьдзеяння ёй з боку дробнай шляхты. Выяўленыя апавядальныя крыніцы, а таксама дакументы справаводства дазваляюць даследаваць працэс трансфармацыі сацыяльных структур дробнай шляхты, рэканструяваць менталітэт і этас дробнай шляхты Беларусі ў XIX ст., што плануецца ажыццявіць ужо ў іншым даследаванні.

# ФАРМІРАВАННЕ І РЭАЛІЗАЦЫЯ ПАЛІТЫКІ РАЗБОРУ ШЛЯХТЫ Ў 1772–1831 гг.

## РАЗБОР ШЛЯХТЫ ПАСЛЯ ПЕРШАГА ПАДЗЕЛУ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ У 1772–1793 гг.

У 1772 г. у выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай частка яе ўсходніх, пераважна беларускіх, земляў (каля 92 тыс. квадратных кіламетраў) адышла ў склад Расійскай імперыі. Фактычна праз пару месяцаў пасля ўключэння далучаных тэрыторый у склад правінцый Пскоўскай і Магілёўскай губерняў, аб'яднаных у генерал-губернатарства пад кіраўніцтвам Захарыя Чарнышова, расійскія ўлады звярнулі пільную ўвагу на даволі шматколькасную ў параўнанні з дваранствам у расійскіх губернях мясцовую дробную шляхту. За гады палітычных катаклізмаў у Рэчы Паспалітай, у якіх самым непасрэдным чынам разам з іншымі суседзямі ўдзельнічала і Расійская імперыя, яе саноўнікі даволі добра пазнаёміліся з асаблівасцямі мясцовай саслоўнай і сацыяльнай структуры. Расійская манархія хоць і заявіла аб пашырэнні правоў расійскага дваранства на мясцовую шляхту, але жадала трымаць кантроль над яе колькасцю і ўпэўніцца ў сапраўднасці прыналежнасці яе да гэтага саслоўя. Ужо ў 1772 г. можна заўважыць першыя парасткі ў будучым доўгай і разгалінаванай палітыкі, якую з самага пачатку называлі разборам шляхты[1].

[1] РГИА. Ф. 1342. Оп. 1. Д. 346а, 346б.

Амаль адразу была ажыццёўлена спроба арганізаваць праверку дваранскіх дакументаў: 13 верасня 1772 г. у адным з указаў, якія тычыліся новадалучаных тэрыторый, – зацверджаным імператрыцай дакладзе беларускага генерал-губернатара З. Чарнышова – у другім пункце адзначалася: «Дворянству подать от себя в губернские города[1] списки о их дворянстве, чтобы впредь до Высочайшей воли никто себя тем достоинством не почитал, и по тому бы принадлежащим только дворянству правом, кроме действительных дворян, не мог никто пользоваться»[2].

Тое, што пытанне ўключэння мясцовай дробнай шляхты ў склад расійскага дваранства займела значнае месца ў палітыцы новых улад, несумненна, але ўсё ж не было першасным. Пытанне складання дваранскіх спісаў не знайшло асобнага адлюстравання ў назве ўказа, а ў яго змесце большая ўвага надаецца падаткаабкладанню, саляной манаполіі, корчмам. Пра складанне дваранскіх спісаў ёсць толькі некалькі радкоў як бы сярод іншага. Магчыма, новыя ўлады проста не хацелі залішне засяроджваць увагу мясцовай шляхты і раздражняць яе планаванымі мерапрыемствамі.

Як бы там ні было, але актуалізацыя пытання прад'яўлення доказаў на права быць прызнаным дваранінам імперыі мела свой працяг у выданні распараджэнняў мясцовымі кіраўнікамі. 26 кастрычніка 1772 г. Міхаіл Крачэтнікаў, які атрымаў пасаду пскоўскага генерал-губернатара, распарадзіўся, каб кожны шляхціц асабіста прыбыў у земскі суд з дакументальнымі доказамі прыналежнасці да шляхты разам з гербам[3]. У сваю чаргу, нядаўна абраны Полацкі земскі суд у складзе 4 суддзяў 30 лістапада таго ж года выдаў уласны распарадчы ўніверсал[4], у якім паўтаралася патрабаванне Крачэтнікава – «... do wszystkich trzech

---

[1] Верагодна, меліся на ўвазе губернскія канцылярыі, утвораныя ўжо ўказам 28 мая 1772 г. Падзел губерняў на правінцыі і ўтварэнне правінцыйных канцылярый адбудзецца толькі згодна з указам ад 28 кастрычніка 1772 г., а губернскіх і правінцыйных земскіх судоў толькі ўказам ад 8 мая 1773 г. (Полное собрание законов Российской империи. Собрание первое : в 50 т. / под ред. М. М. Сперанского. СПб., 1830 (далей – ПСЗ I). Т. 19. № 13977).

[2] О учинении в белорусских губерниях переписи о поголовном сборе податей; о сидке вина и свободной продаже оного; о корчмах; о переводе таможни на новую границу и о сборе с товаров пошлин; о учреждении казенной соляной продажи и об отдаче на аренду деревень. 13 сент. 1772 г. № 13865 // ПСЗ I. Т. 19.

[3] *Анішчанка Я.* Беларусь у часы Кацярыны II (1772–1796). С. 33.

[4] Uniwersał – так у польскамоўным арыгінале. У дадзеным значэнні павінен разумецца як распарадчы загад генерал-губернатара Крачэтнікава.

prowincji wydanym każdemu szlachcicowi proudencja familii z jej herbem i dowodzące szlachectwa dokumenta w ziemskim (sądzie. – *В. М.*) okazać i deponować zalecono»[1]. Земскі суд вызначыў чаргу падачы дакументаў для шляхты правінцыі. На першы тыдзень будучага пасяджэння суда дакументы павінна была прадаставіць шляхта Бешанковіцкай парафіі, на другі судовы тыдзень – Невельскай, на трэці – Себежскай, на чацвёрты – Друйскай, на пяты – Дзісненскай, на шосты – Полацкай[2]. Падобнае распараджэнне было зроблена 6 лістапада і магілёўскім губернатарам Міхаілам Кахоўскім. Ён распарадзіўся здаць геральдычныя пасведчанні аб шляхецтве ў гродскія суды.

Якія дакументы планавалася прымаць і прызнаваць за дастатковыя, невядома, паколькі дакладных інструкцый урада па гэтым пытанні выяўлена не было. Хутчэй за ўсё, іх і не існавала. Улады прымалі тое, што здавала шляхта, пакідаючы ўстанаўленне працэдуры і крытэрыяў легітымацыі на мясцовыя ўлады – земскія і гродскія суды. Пераконваемся адносна гэтага, аналізуючы ўжо іншыя дакументы, што зроблена некалькі ніжэй па тэксце.

Падрабязнасці правядзення гэтай першай спробы рэвізіі паходжання беларускай шляхты[3] фактычна застаюцца вельмі слаба разгледжанымі ў гістарыяграфіі. Святло на першыя крокі ўлад у гэтым кірунку часткова праліваюць копіі дакументаў, якія тычацца працэсу змагання за свае правы шляхты Полацкага намесніцтва, у фондах Архіва Радзівілаў Галоўнага архіва старажытных актаў у Варшаве[4]. Там захоўваецца копія перапіскі Полацкага намесніцкага праўлення і Сената за 1788 г. па справе скаргі 16 шляхецкіх сем'яў (140 чалавек) на неправамоцнае залічэнне іх у сяляне.

Разгляд гэтай скаргі ў Сенаце і дадзеныя намесніцкім праўленнем тлумачэнні гэтаму дзяржаўнаму органу сведчаць, што падчас першай рэвізіі на далучаных землях (тут маецца на ўвазе дадатковы пагалоўны

[1] «...да ўсіх трох правінцый выдадзеным, кожнаму шляхціцу доказы паходжання яго роду разам з гербам прадставіць у земскі суд і задэпанаваць загадваецца» (НГАБ. Ф. 1734. Воп. 1. Спр. 63. Арк. 408).

[2] НГАБ. Ф. 1734. Воп. 1. Спр. 63. Арк. 408.

[3] У афіцыйных дакументах канца XVIII – сярэдзіны XIX ст. шляхту, што пражывала на ўсходзе Беларусі, менавіта так і называлі – «белорусская шляхта». Тэрміны «беларуская шляхта», «польская шляхта» не мелі аж да паловы XIX ст. этнічнага значэння. Пад «польскай шляхтай» мелася на ўвазе ўся шляхта Рэчы Паспалітай, а пад «беларускай» – шляхта былых усходніх тэрыторый ВКЛ, якія былі далучаны да імперыі і нярэдка называліся «беларускімі правінцыямі».

[4] AGAD. AR. Dz. XXIII. Teka 35. S. 792–794.

перапіс, праведзены да трэцяй рэвізіі на далучаных землях у 1772 г.) асобы, якія прэтэндавалі на шляхецкае паходжанне, былі абавязаны прадаставіць доказы свайго шляхетнага паходжання ў земскія суды. Гэта, аднак, зусім не вызваляла іх аўтаматычна, як высвятляецца, ад запісу ў пагалоўны аклад[1]. Для выключэння з акладу доказы павінны былі быць туды не толькі дастаўлены, але і разгледжаны (што ведаем таксама з распараджэння М. Крачэтнікава), і толькі пасля, па загадзе генерал-губернатара Захарыя Чарнышова, асобы, якія іх падалі, маглі быць выключаны з пагалоўнага акладу, стаўшы паўнапраўнымі дваранамі[2]. Такім чынам, зацвярджэнне ў расійскім дваранстве адбывалася не самой сілай падачы доказаў і разглядам на месцы, а прадугледжвала іх разгляд адпаведнай верыфікацыйнай камісіяй у судзе з далейшым зацвярджэннем генерал-губернатарам. Толькі пасля гэтага магло адбыцца выключэнне з акладу. Працэдура, відавочна, не магла быць вельмі хуткай.

Як адзначаецца ў дакуменце, з 1772 да 1775 г. праз такую працэдуру прайшлі «463 человека по разным провинциям». Гэта сведчыць пра тое, што ў першыя гады пасля далучэння да Расійскай імперыі разгляд спраў усё ж адбываўся хоць і не хутка, але адносна лёгка. На жаль, не ўдакладняецца, ці сярод гэтых 436 шляхціцаў былі толькі главы сямействаў, што найбольш праўдападобна, улічваючы спецыфіку тагачаснай статыстыкі і ўліку, або ўлічаны ўсе члены сямействаў і ці ўлічаны былі звесткі толькі па правінцыях Полацкага намесніцтва або Магілёўскага таксама[3]. Як бы там ні было, калі пад лічбай 463 меліся

[1] Польская даследчыца І. Рыхлікова, спасылаючыся на працу фінскага навукоўца У. Лехтонена, адзначае, што ў інструкцыі па правядзенні перапісу ў пагалоўны аклад павінны былі быць запісаны зямяне, баяры, стральцы, дворская міліцыя, казакі, татары і «іншыя вайсковыя людзі з польскіх часоў» (*Rychlikowa I.* Carat wobec polskiej szlachty na ziemiach zabranych w latach 1772–1831. S. 64). Тут няма гаворкі пра чыншавую ці ваколічную шляхту, але з пазнейшай перапіскі Сената і губернскага праўлення, якую мы аналізуем, яўна вынікае, што для праходжання доказу дваранства дробная шляхта таксама першапачаткова павінна была запісацца ў аклад, а ўжо пасля даказваць дваранства. Колькі ўсяго шляхты запісалася ў аклад, сказаць цяжка, як таксама колькі яе праігнаравала гэту працэдуру. Не ведаем мы дакладна і колькі пражывала шляхты на тэрыторыях першага падзелу. Так, Т. Корзан лічыў, што гэта магло быць да 100 тыс. чалавек.

[2] AGAD. AR. Dz. XXIII. Teka 35. S. 792–793.

[3] Улічваючы тое, што 16 сем'яў, якія спрабавалі даказаць сваё дваранства ў 1788 г., складаліся са 140 чалавек, на што ёсць пасямейныя спісы, 463 чалавекі маглі быць галовамі сямействаў з агульнай колькасцю людзей каля 4000 чалавек.

на ўвазе толькі галовы сямействаў, то колькасць усіх асоб, якія прайшлі праз першае сіта верыфікацыі шляхецкага паходжання ў 1772–1775 гг., магла складаць у Полацкім намесніцтве нават да 4 тыс. чалавек. І, хутчэй за ўсё, такая вялікая лічба блізкая да рэальнасці, паколькі новыя ўлады, відавочна, пасля гэтага занепакоіліся значнай колькасцю асоб, якіх яны пасля разгляду дакументаў абавязаны былі выключыць з пагалоўнага акладу. Таму працэдуру доказу пачалі ўскладняць.

У першы этап разбору шляхты ў 1772–1775 гг. даволі шмат дробнай шляхты змагло прайсці праз дакументальнае сіта, што, верагодна, было звязана і з першапачаткова даволі мяккім стаўленнем улад, выкліканым жаданнем захавання грамадскага спакою на далучаных землях. Новыя ўладары баяліся шляхецкага бунту. Бунтаўнічы характар шляхты быў ім вядомы. Так, у дакуменце «Записка об учреждении новоприобретенных земель», які датуецца красавіком – маем 1772 г., што быў выяўлены сярод папер З. Чарнышова, невядомай рукой у раздзеле аб тэрытарыяльным уладкаванні і правядзенні статыстычнага апісання далучаных земляў зроблены допіс аб небяспецы заўчаснага ўстрывожвання мясцовага насельніцтва. У тым ліку ўзгадваецца і небяспека абцяжарвання і абразы ў адрас «мелкого дворянства»[1]. Расійскім уладам таксама было вядома, што шляхта дзейнічае ў асноўным у складзе атрадаў, якімі кіравалі маршалкі і найбольш уплывовыя шляхціцы. Пры іх нейтралізацыі супраціўленне было б пазбаўлена сваіх правадыроў і згасла б, таму ў першыя гады ўлады сканцэнтраваліся на нейтралізацыі актыўнай антырасійскай дзейнасці з боку заможных паноў, не раздражняючы залішне дробную шляхту.

Праз пару гадоў новыя ўлады адчулі сябе больш упэўнена. Шляхта ж працягвала несці дакументы на разгляд, яе станавілася ўсё болей, а падаткаплацельшчыкаў меней. Верагодна, таму ў 1775 г. генерал-губернатар З. Чарнышоў сваім распараджэннем ускладніў працэдуру доказу. Ён загадаў «о всех в губернии по ревизии в поголовный оклад написанных шляхтичах *сделать в земских судах достоверные выправки* (курсіў наш. – *В. М.*), выведя родословия тех фамилий, от которых они себя происходящими почитают»[2]. Складанне радаводных выпісаў не было лёгкай і хуткай справай. Збор такіх звестак і іх разгляд, хоць частка шляхты ўдала прайшла і праз гэта сіта, вельмі зацягваліся. Несумненна, многія шляхціцы не мелі дакументаў, якія ад іх пажадалі ўбачыць улады, ды і сама працэдура магла застацца для іх (а многія

[1] *Анішчанка Я.* Беларусь у часы Кацярыны II (1772–1796). С. 22.
[2] AGAD. AR. Dz. XXIII. Teka 35. S. 793–795.

былі непісьменнымі) складанай і незразумелай. На земскія суды таксама ўзвальвалася складаная задача. Так, з той жа перапіскі ведаем, што да 1775 г. многія нават з пададзеных у 1772–1775 гг. спраў «не были еще рассмотрением кончены».

У гэты ж год адбылася рэформа Сената і губернскага кіравання, было створана Полацкае намесніцтва, і паколькі ў земскіх судах да адкрыцця намесніцкага праўлення не былі яшчэ разгледжаны ўсе справы, «то по открытию онаго на основании высочайших учреждений о управлении губерний дело о том (рассмотрении документов мелкой шляхты. – *В. М.*) из наместнического правления и препровождено (из) верхнего земского суда во 2-й департамент (Сената. – *В. М.*), где некоторые фамилии и доказали свое дворянство, а о других доказательства не были еще рассмотрением кончены»[1]. З дакумента вынікае, што разгляд зацягнуўся, а перадача спраў у Сенат, відавочна, магла вельмі ўскладніць і расцягнуць гэту працэдуру ў часе. Важна тое, што зараз быў сфармуляваны прынцып, які пасля будзе ўвесь час спадарожнічаць палітыцы разбору: сапраўдным дваранінам мог лічыцца толькі той, хто быў выключаны з падушнага акладу. А зрабіць гэта мог толькі Сенат з адпаведным зацвярджэннем рашэння вышэйшай уладай – манархам. Фінансавая зацікаўленасць урада дамінавала над усімі іншымі. Гэта будзе назірацца і ў наступныя дзесяцігоддзі.

Такім чынам, у перыяд 1775–1785 гг. першапачатковы разгляд вывадаў ажыццяўляўся ў земскіх судах, адкуль праз губернскія праўленні яны накіроўваліся ў Сенат. Колькі яшчэ шляхты ў перыяд 1775–1785 гг. змагло даказаць дваранства, а таксама колькі яе толькі падало дакументы на разгляд, высветліць на дадзены момант немагчыма па прычыне адсутнасці дастатковай колькасці выяўленых архіўных крыніц і частых змен у адміністрацыйна-тэрытарыяльным кіраванні беларускімі землямі ў 1772–1796 гг. Пакуль няма больш-менш вартых даверу колькасных паказчыкаў за перыяд 1775–1790-я гг. Складанасць заключаецца і ў тым, што адбываліся значныя змены ў прававым становішчы дваранства і яго саслоўнай арганізацыі ў цэлым па імперыі, звязаныя з прыняццем Даравальнай граматы дваранству 1785 г.

У адпаведнасці з Даравальнай граматай дваранству ў 1785 г. ствараліся дваранскія дэпутацкія сходы, абіраліся дваранскія старшыні і далейшы разбор шляхецкіх спраў павінен быў адбывацца ўжо не ў земскіх судах з перадачай іх на зацвярджэнне праз намесніцкія праўленні ў Другі дэпартамент Сената, дзе праводзілася выключэнне з акладу,

[1] AGAD. AR. Dz. XXIII. Teka 35. S. 793–795.

а ў саслоўных установах – дваранскіх дэпутацкіх сходах – з далейшай перадачай вынікаў верыфікацыі шляхты, што знаходзілася ў падушным акладзе, праз губернскія праўленні на зацвярджэнне ў Сенат і выключэнне з акладу[1]. Шляхта, якая не была ў акладзе і даказала дваранства ў дваранскім сходзе, тэарэтычна павінна была быць аўтаматычна прызнанай і ўпісанай у дваранскія радаводныя кнігі. У сувязі з гэтым верхняму земскаму суду, які перад тым займаўся першапачатковым разглядам атрыманых ад шляхты доказаў на дваранства, было загадана доказы, якія яшчэ ў яго былі ў наяўнасці на разглядзе, праз ніжнія земскія суды вярнуць шляхціцам, каб тыя пасля зноў прадаставілі іх на разгляд, але ўжо ў дваранскія дэпутацкія сходы дваранскім старшыням. Безумоўна, такая працэдура таксама расцягвала працэс доказу ў часе. На тых шляхціцаў, чыё дваранства было ўжо даказана, загадвалася скласці іменныя рэестры з пералікам доказаў, на аснове якіх шляхціцы даказалі сваё паходжанне, і перадаць іх полацкаму дваранскаму старшыні Снарскаму. У далейшыя абавязкі старшыні ўваходзіла занясенне пералічаных там шляхціцаў у радаводную кнігу, якая павінна была, у адпаведнасці з Даравальнай граматай Кацярыны II 1785 г., быць заведзена ў кожнай губерні.

Такім чынам, усе справы па верыфікацыі дваранскага паходжання і ўліку ўжо зацверджаных у дваранстве асоб цяпер былі сканцэнтраваны ў дваранскім дэпутацкім сходзе. Дваранскі старшыня па выніку разгляду неразгледжаных дваранскіх спраў і запісу зацверджаных родаў у радаслоўную кнігу павінен быў для намесніцкага праўлення скласці ведамасць з пералікам зацверджаных родаў, а таксама тых асоб, хто ў выніку негатыўнага рашэння камісіі «праваліў» верыфікацыю і павінен быў застацца ў пагалоўным акладзе[2].

Ведаем, што запісаная ў 1772 г. у аклад шляхта, як паміж 1772 і 1785 гг., так і пасля, працягвала несці свае дакументы для доказу два-

---

[1] Згодна з Даравальнай граматай 1785 г. кожны дваранін павінен быў дакументальна даказаць сваё высакароднае паходжанне. Толькі пасля гэтага дваранскі сход мог унесці яго прозвішча ў радаводную кнігу. Рэалізацыя гэтага палажэння, аднак, ішла вельмі квола ў большасці губерняў, у тым ліку на землях Беларусі. У некаторых губернях увогуле немагчыма выявіць якіх-небудзь адзнак гэтага працэсу. Так, князь А. К. Імерэтынскі, які ў другой палове XIX ст. даследаваў гісторыю дваранства Валынскай губерні, канстатаваў, што, нягледзячы на важнае значэнне Даравальнай граматы, а таксама ўказаў ад 11 ліпеня 1789 г., 4 снежня 1796 г. і 19 сакавіка 1797 г., яму не ўдалося знайсці ў Валынскім дваранскім дэпутацкім сходзе ні найменшага следу іх практычнай рэалізацыі аж да пачатку XIX ст. (*Лисенко С.*, *Чернецький Є*. Правобережна шляхта (кінець XVIII – перша половина XIX ст.). Біла Церква, 2002. С. 43).

[2] AGAD. AR. Dz. XXIII. Teka 35. S. 793–796.

ранства. Так, у 1788 г. полацкі дваранскі старшыня для выключэння з пагалоўнага акладу накіраваў у Полацкае намесніцкае праўленне спіс з 16 сем'яў шляхты, якія даказалі сваё дваранства перад камісіяй дваранскага дэпутацкага сходу і хацелі быць выключанымі з акладу.

Хутчэй за ўсё, перадача разгляду дваранскіх спраў у дваранскія дэпутацкія сходы некалькі спрасціла працэдуру доказу. Па меншай меры такая змена дазваляла кантактаваць шляхце і камісіі персанальна. Больш за тое, дваранскі старшыня быў абраны дваранствам, а сам разгляд ажыццяўлялі члены дваранскай камісіі, складзенай з прадстаўнікоў, абраных дваранствам. Такім чынам, за дваранскімі дэпутацкімі сходамі з 1785 па 1796 г. заставалася права выдавання дваранскіх дыпломаў той шляхце, якая не была запісана ў аклад. Колькі было такой шляхты, якая пазбегла па рэвізіі 1772 г. уліку, сказаць цяжка. Але для яе сітуацыя была выйгрышнай, паколькі яна заставалася неэвідэнтнай для дзяржаўных органаў, а значыць, пры выдачы дыплома не патрабавалася выключэння яе з акладу і адпаведнага рашэння Сената. Трэба адзначыць, што здаралася часам і так, калі і акладная шляхта таксама атрымлівала дваранскія дыпломы без выключэння з акладу і нават (што было парушэннем) калі казённыя палаты на месцах без рашэння Сената самавольна выключалі шляхціцаў з акладу толькі на аснове атрыманых тымі дваранскіх дыпломаў. Пра гэта стане вядома ў Пецярбургу, калі там сур'ёзна возьмуцца за разбор шляхты ў пачатку XIX ст. Верагодна, доказ дваранства з самага пачатку быў звязаны з махлярствам і фабрыкацыяй вывадаў.

Такім чынам, пасля 1785 г., калі сходы былі ўтвораны, сітуацыя для шляхты з доказам права на дваранскі статус палепшылася. Колькасць зацверджанай шляхты пачала расці. Часта выяўляўся юрыдычны казус – дыпломы на дваранства былі на руках і ў той шляхты, якая не была выключана з акладу і па сказках лічылася сялянствам, а таксама ў шляхты, якая не была ў акладзе. І тая і тая шляхта магла быць запісана і ў радаводныя кнігі, як пасля высветлілася. Здараліся, што праўда, і адваротныя сітуацыі, калі некаторыя шляхціцы, атрымаўшы ўжо дваранскія дыпломы, ішлі ў казённыя палаты з патрабаваннем выключыць іх з падушнага акладу. Але палаты легальна гэтага не маглі зрабіць без адпаведнага рашэння Сената. Гэта акалічнасць пасля ўсплыла, і Павел I указам 4 снежня 1796 г. забараніў дваранскім сходам выдаваць дыпломы без зацвярджэння дваранства ў Сенаце і выключэння шляхціца з акладу[1].

---

[1] О запрещении правительствам самим собою вводить в дворянское достоинство и выдавать на оное грамоты без Высочайшего утверждения. 4 дек. 1796 г., № 17608 // ПСЗ I. Т. 24.

З прыкладу, які захаваўся, у агульных рысах ведаем, як адбылося зацвярджэнне ў дваранстве згаданых вышэй 16 шляхецкіх сем'яў. Яны сабралі і перадалі дакументы на разгляд у Полацкі дваранскі дэпутацкі сход недзе паміж 1786 і 1787 г. Даказвалі свае правы на аснове дакументаў аб падараванні зямельных надзелаў каралямі Рэчы Паспалітай, куплі і перадачы ў спадчыну зямельных надзелаў, радаслоўных, а таксама «присягами благородных веры достойных особ». Дваранскі старшыня Снарскі разгледзеў справы разам з павятовымі дэпутатамі, прызнаў іх дастатковымі і накіраваў «рапорт с ведомостью в полоцкую казенную палату для надлежащего о выключке из поголовного оклада показанных в памянутой ведомости шляхтичей рассмотрения и определения». У сваю чаргу, казённая палата накіравала сямейныя спісы шляхціцаў у Сенат, а той імператрыцы, паколькі сам таксама не адважыўся канчаткова рашыць справу з выключэннем з акладу аж 140 асоб[1]. Рашэнне Кацярыны II было станоўчым, і ў выніку ў 1788 г. гэтыя 16 сем'яў былі выключаны з падушнага акладу і атрымалі пацвярджэнне дваранства.

Але гэта, відаць, ідэальная сітуацыя. Выключэнне з акладу па правілах адбывалася не заўсёды. Пра гэта сведчыць хаця б тое, што ўлады пасля некалькі разоў і пры Паўле I і Аляксандру I патрабавалі спачатку выключаць праз рашэнне Сената шляхціцаў з акладу, а толькі пасля выдаваць дыплом на дваранства і запісваць у радаводную кнігу. У 1802 г. быў нават выдадзены ўказ, якім патрабавалася ў радаводных кнігах увесці адпаведную рубрыку, у якой запісваць, ці знаходзіўся дваранін калі-небудзь у падушным акладзе і на аснове якога рашэння Сената быў з яго выключаны[2].

Цяжка сказаць, наколькі масавай была падача дакументаў на выключэнне шляхты з пагалоўнага акладу пасля 1785 г., але ведаем, што такая з'ява мела месца. У літаратуры можна знайсці згадкі пра змаганне за свае дваранскія правы шляхты Дубровенскага графства ў Аршанскім павеце, дзе маючымі права на залічэнне ў дваранства лічылі сябе панцырныя баяры, «зямяне», якія называліся казакамі, і інш. Яны пачалі актыўна падаваць скаргі і дакументы таксама недзе пасля 1787 г., і некаторым удалося дабіцца свайго толькі ў 1806 г.[3]

---

[1] AGAD. AR. Dz. XXIII. Teka 35. S. 793–796.

[2] О наблюдении, чтобы депутатские собрания при внесении дворян в дворянскую родословную книгу, объясняли в определениях своих о не состоянии их в окладе и о не выключке из оного казенным палатам, не представя Сенату. 20 сент. 1802 г. № 20423 // ПСЗ I. Т. 27.

[3] *Rychlikowa I.* Carat wobec polskiej szlachty na ziemiach zabranych w latach 1772 –1831. S. 69.

Найцяжэй было даказаць сваё дваранства чыншавай шляхце, якая была перапісана па дадатковай рэвізіі ў 1772 г. і пражывала на панскіх землях, бо для доказу дваранства трэба было пераадолець яшчэ і супраціўленне памешчыкаў, якія імкнуліся прымацаваць іх як прыгонных. Меў месца запіс такой шляхты ў сялянскія сказкі падчас рэвізій самімі памешчыкамі. Шляхта пасля скардзілася на неправамоцнасць іх запісу ў падданыя, такіх судовых спраў шмат, але сам факт запісу пасля выкарыстоўваўся ўладамі, каб ускладніць шляхце выключэнне з падушнага акладу – нават у выпадку, калі дваранскі сход прызнаваў дваранства за такім шляхціцам. У Сенаце ад іх патрабавалі дадаткова даказаць, што яны не з'яўляліся ўласнасцю памешчыка.

І. Рыхлікова ў адным са сваіх артыкулаў выказвае перакананне, што ў 1789 г. указам Кацярыны II становішча шляхты, якая даказвала дваранства і трапляла пад рэкруцкую павіннасць, было аблегчана. Нібыта было забаронена браць у рэкруты шляхту, якая яшчэ даказвала сваё дваранства, аж да моманту канчатковага разгляду справы[1]. Аднак з упэўненасцю сцвярджаць гэтага нельга, паколькі ва ўказе, на які спасылаецца даследчыца, гэтага напрамую не сказана. Там гаворка ідзе толькі пра татарскіх мурзаў з Казанскай губерні, і нельга адназначна казаць, што гэты закон быў стасаваны таксама адносна дробнай шляхты Полацкага і Магілёўскага намесніцтваў[2].

На дадзены момант мы яшчэ не можам дакладна адказаць на пытанне, колькі шляхціцаў на далучаных пасля першага падзелу землях за перыяд 1770–80-х гг. аспіравалі, але не змаглі атрымаць пацвярджэння свайго шляхецкага паходжання, паколькі архіўныя фонды ўстаноў Пскоўскай і Магілёўскай губерняў, а пасля Полацкага і Магілёўскага намесніцкіх праўленняў адносна бедныя на дакументы, якія захаваліся. Не ведаем таксама, колькі дробнай шляхты ўвогуле не падало дакументаў, застаючыся ў пагалоўным акладзе, а таксама колькі шляхты пазбегла ўліку падчас рэвізій. Сярод апошняй групы значную частку маглі складаць службовыя шляхціцы, якія часта не мелі ўласнасці і сталага месца пражывання. З афіцыйных крыніц вядома, што ў Беларускай губерні (звесткі на 1800 г.) выкрэслівання з пагалоўнага акладу ўсё яшчэ чакала 1069 асоб мужчынскага полу, якія даказалі сваё дваранскае

[1] *Rychlikowa I.* Carat wobec polskiej szlachty na ziemiach zabranych w latach 1772–1831. S. 70.

[2] О сочинении по всем губерниям новых ведомостей казенным селениям со вновь поданных к 5-й ревизии сказок, с показанием числа душ и очереди в поставке рекрут. 20 марта 1796 г. № 17446 // ПСЗ I. Т. 23.

паходжанне[1]. Паколькі лічба вельмі значная, ускосна гэта пацвярджае тое, што большая маса шляхты пачала складаць свае дакументы пасля 1785 г., знаходзячыся ўжо ў пагалоўным акладзе. З большага таксама ведаем, як адбывалася працэдура, праз сіта якіх інстанцый праходзіў разбор і кім вырашалася пытанне выключэння з пагалоўнага акладу. Ведаем таксама, якія працэсы мелі месца. Так, найбольш паспяхова і лёгка прайшлі разбор шляхціцы, разгляд спраў якіх адбыўся ў 1772–1775 гг. у верхніх земскіх судах, паколькі іх выключэнне з акладу ў гэты час адбывалася па рашэнні пскоўскага генерал-губернатара Захарыя Чарнышова, абмінаючы Сенат і імператрыцу, а таксама тыя шляхціцы, хто пазбег уліку і запісу ў аклад.

З-за адсутнасці ў дастатковай колькасці паўнавартасных крыніц магчыма толькі ў агульных рысах сказаць, як адбываўся разгляд дваранскіх спраў спачатку ў верхніх земскіх судах, пасля 1775 г. яшчэ і ў Сенаце, а з 1785 г. у дваранскіх дэпутацкіх сходах Полацкага і Магілёўскага намесніцтваў. Экстрапалюючы тыя працэсы, якія мелі месца ўжо ў 90-я г. XVIII ст., можна дапускаць, што ад самага пачатку справа доказу шляхтай свайго паходжання ў мясцовых расійскіх дзяржаўных установах і асабліва ў дваранскіх дэпутацкіх сходах была звязана з махлярствамі і хабарніцтвам. А гэта і адкрывала дарогу для шляхты, а нават і для асоб з непрывілеяваных саслоўяў, да вяртання або набыцця дваранскага статусу[2].

Відавочна, што прапарцыйна з тым, як раслі аспірацыі да вяртання сваіх правоў запісанай па рэвізіі 1772 г. у аклад шляхты, расло і імкненне ўлад трымаць пад кантролем гэты працэс, а менавіта гэта і магло служыць прычынай ускладнення працэдуры доказу ў 1775 г. Улады не хацелі губляць даходы ад падушнага падатку і пастаўкі рэкрутаў для войска ад тысяч сямействаў запісаных у аклад дробных шляхціцаў.

У 1785 г. у сувязі з перадачай разгляду дваранскіх спраў у дваранскія дэпутацкія сходы працэдура доказу некалькі спрасцілася, паколькі вырашыць праблемы з дакументамі на лакальным узроўні легальна ці нелегальна было значна прасцей. Відавочна таму ў 1785–1788 гг. згада-

[1] О представлении о состоящих в подушном окладе, но дворянство доказавших, в Герольдию на рассмотрение, с приложением выданных им грамот и других на дворянство доказательств. 9 апр. 1800 г. № 19375 // ПСЗ I. Т. 26.

[2] Сярод такіх асоб маглі быць і прадстаўнікі напаўпрывілеяваных катэгорый насельніцтва, якія не ўпісваліся ў існаваўшую ў Расійскай імперыі саслоўную структуру: панцырныя і путныя баяры, вольныя людзі, чыншавікі, казакі Невельшчыны (тут не атаясамліваць з расійскім казацтвам) і інш.

ныя намі вышэй 16 сем'яў полацкай шляхты, таксама як і сотні іншых, ініцыявалі працэс па вяртанні сабе дваранскіх прывілеяў, а падача дакументаў стала яшчэ больш масавай. Улады занепакоіліся, бо спрашчэнне магчымасцей для доказу станавілася прычынай для масавай падачы шляхтай дакументаў на разгляд. Але і сама шляхта таксама стала больш актыўнай у адстойванні сваіх правоў. Яе падштурхоўвала тое, што першапачатковыя падатковыя льготы і мараторый на рэкруцкую павіннасць адмяняліся і яна на ўласнай скуры адчула цяжар гэтых павіннасцей. Верагодна, таму з мэтай трымаць кантроль над колькасцю зацверджаных у дваранстве па ўсёй імперыі 11 чэрвеня 1789 г. быў выдадзены сенацкі ўказ «О предписании наместническим и губернским правлениям, что б они о всех доказавших своё дворянство, состоящих в подушном окладе людях, доставляли Сенату сведения»[1].

Дробная шляхта на тэрыторыях першага падзелу працягвала змагацца за свае правы і пасля наступных падзелаў Рэчы Паспалітай. І. Рыхлікова, якая даследавала падатковыя кнігі ў Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве, выявіла лічбу, што на 1801 г. сярод вызваленых з падушнага акладу на аснове доказу дваранскага паходжання налічвалася 2347 мужчын[2]. Праўда, даследчыца не адзначае, за які перыяд. Тым не менш калі лічбы правільныя, то агульная колькасць дробнай шляхты двух палоў разам з сем'ямі, якая змагла вярнуцца ў дваранства да 1801 г. па тэрыторыях першага падзелу, магла скласці нават да 10–15 тыс. чалавек[3].

У гады пасля першага падзелу ўлады таксама звярнулі ўвагу на магчымасць прыцягнення дробнай шляхты да ваеннай службы на карысць імперыі. Першы раз расійскія ўлады мелі дачыненне з масай шляхты, якая трапіла ў распараджэнне яе ваеннага ведамства ў 1769 г., калі да іх трапілі палонныя канфедэраты. Палонных шляхціцаў загадана

---

[1] О предписании наместническим и губернским правлениям, чтобы они о всех доказавших свое дворянство, состоящих в подушном окладе людях, доставляли Сенату сведения. 11 июня 1789 г. № 16776 // ПСЗ I. Т. 23. (Тут трэба адзначыць, што гэты ўказ у першую чаргу быў выдадзены ў сувязі з доказамі дваранства татарскіх мурзаў, а не шляхты ў далучаных губернях, аднак Сенат палічыў за патрэбнае распаўсюдзіць яго дзеянне на ўсе губерні.)

[2] *Rychlikowa I.* Carat wobec polskiej szlachty na ziemiach zabranych w latach 1772–1831. S. 71.

[3] Даследчыца таксама прыводзіць выяўленыя ёй архіўныя звесткі аб тым, што на 1780 г. у Магілёўскай губерні налічваўся 6641 чалавек ваколічнай шляхты (*Rychlikowa I.* Carat wobec polskiej szlachty na ziemiach zabranych w latach 1772–1831. S.73).

тады было адпраўляць у салдаты ва ўнутраныя губерні. У сувязі з гэтым казанскі губернатар, напрыклад, рабіў запыт з пытаннем, як з імі быць, на што атрымаў адказ : «...положено определять их в солдаты, с тем однако ж, что б их не употреблять в работы и сделать оным особливые именные списки, в какие места оные распределены будут, дабы их со временем отыскать можно было»[1]. Бачна імкненне ўлад у пэўнай ступені талераваць хоць частку шляхецкай годнасці палонных, але і непрызнанне іх як паўнавартасных дваран.

У 1784 г. Кацярына II дала загад князю Г. Пацёмкіну «О составлении белорусской шляхетной хоругви в Могилевском и Полоцком наместничествах»[2]. Планавалася сфарміраваць «из так называемого околичного шляхетства» чатыры харугвы ў Магілёўскім і дзве ў Полацкім намесніцтвах, а таксама з «лучшего дворянства» імператарскую харугву ў складзе дзвюх рот. Запіс у харугвы ўсклалі на земскія суды, але ён праходзіў вельмі марудна, таму праект так і застаўся нерэалізаваным[3]. Цікава тое, што ў харугвы запрашаліся на службу таксама і замежнікі. Зразумела, што гаворка ішла ў першую чаргу пра шляхту з тэрыторый Рэчы Паспалітай. Відавочна, што ўмовы службы аказаліся не вельмі прывабнымі для беларускай шляхты. У сакавіку 1788 г. у сваёй запісцы, пададзенай у Дзяржаўны Савет адносна магчымасцей узмацнення мяжы са Швецыяй, граф А. Безбародка прапаноўваў скласці некалькі харугваў па 500 чалавек дробнай шляхты кожная з беларускіх намесніцтваў[4]. Наколькі праект быў рэалізаваны, патрабуе дадатковага вывучэння. Праз 12 гадоў пасля першага падзелу па прапанове беларускага генерал-губернатара Захарыя Чарнышова быў таксама распрацаваны праект, згодна з якім планавалася сфарміраваць «беларускія харугвы» з вольнанаёмных шляхціцаў.

У канцы 1788 – 1791 г. зноў сур'ёзна абмяркоўваліся магчымасці арганізацыі як добраахвотнага, так ужо і прымусовага прыцягнення дробнай шляхты на службу. Але ад рэалізацыі ідэі зноў вымушаны былі адмовіцца. Беларускі генерал-губернатар Пётр Пасек тады адзначыў, што шляхта «пожелает лучше в Польше по собственному согласию принять службу, нежели здесь против воли быть взятым»[5]. Магчыма, з улікам гэтага фактару ў 1796 г. быў распрацаваны і зацверджаны Ка-

---

[1] Архив Государственного совета : в 5 т. СПб., 1869–1904. Т. 1. 1869. Стб. 35.

[2] О составлении белорусской шляхетной хоругви в Могилевском и Полоцком наместничествах. 1 марта 1784 г. № 15944 // ПСЗ I. Т. 22.

[3] *Анішчанка Я.* Беларусь у часы Кацярыны II (1772–1796). С. 39–40.

[4] Архив Государственного совета. Т. 1. Стб. 549.

[5] *Анішчанка Я.* Беларусь у часы Кацярыны II (1772–1796). С. 39–40.

цярынай II новы праект Платона Зубава – аб перасяленні часткі чыншавай шляхты ў Кацярынаслаўскую і Херсонскую губерні і стварэнні з яе там вайсковых падраздзяленняў. Смерць імператрыцы перашкодзіла рэалізацыі праекта, а новы імператар Павел I ад яго цалкам адмовіўся.

## «ЦЯЖКІ» РАЗБОР – ВЫПРАЦОЎКА І РЭАЛІЗАЦЫЯ ПАЛІТЫКІ РАЗБОРУ ШЛЯХТЫ ПАСЛЯ ДРУГОГА І ТРЭЦЯГА ПАДЗЕЛАЎ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ (1793–1812)

Пасля другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай прававы статус шляхты на тэрыторыях, якія адышлі да Расійскай імперыі, першапачаткова вызначаў імператарскі ўказ генерал-губернатару Мінскаму, Ізяслаўскаму і Брацлаўскаму Т. Туталміну ад 3 мая 1795 г., у якім у 5-м пункце загадвалася: «...всем дворянам, которые временное имеют владение по надачам, закладам и арендам, равномерно и всем по договорам на землях помещичьих или казенных живущим, которые могут надлежащим образом доказать свое благородство, дозволить просить общество дворянское о принятии и вписании его в дворянскую книгу на основании жалованной дворянству грамоты, дабы каждый имел от собратии своей грамоту о благородстве его свидетельствующую, мог воспользоваться правами сему достоинству присвоенным во вступлении в службу нашу и в приобретении имения»[1]. Пунктам 8 указа яго дзеянне распаўсюджвалася на ўсе далучаныя да Расіі тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Улады відавочна былі скіраваны да фармалізацыі вызначэння катэгорыі мясцовага дваранства – кожны дваранін павінен быў атрымаць грамату і быць запісаны ў дваранскую кнігу. Бюракратычныя абавязкі рэалізацыі гэтых патрабаванняў былі ўскладзены на шляхту і дваранскія дэпутацкія сходы[2].

---

[1] РГИА. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 19–21 ; О разных распоряжениях касательно устройства Минской губернии. 3 мая 1795 г. № 17327 // ПСЗ I. Т. 23.

[2] Практыка пагалоўнай праверкі дакументаў была абсалютным наватўвядзеннем, што ставіла шляхецкае саслоўе ў складаную сітуацыю. Нягледзячы на тое што ў апошнія дзесяцігоддзі існавання Рэчы Паспалітай прадпрымаліся спробы абмежавання прававога статусу дробнай шляхты, як гэта паказана ў даследаванні Д. Бувуа (*Beauvois D.* Trójkąt ukraiński ... S. 65–73), яны не мелі практычнай рэалізацыі. Ні выданне шляхецкіх грамат уладамі ад якіх-небудзь устаноў, ні шляхецкія радаводныя кнігі не сталі рэальнасцю ў Рэчы Паспалітай.

Праблема дробнай шляхты ў імперыі набывала ўсё большае значэнне. На новадалучаных пасля другога і трэцяга падзелаў тэрыторыях шляхты было значна больш па колькасці, чым на землях першага падзелу[1].

Канкрэтна пра дробную шляхту ў згаданым указе ад 3 мая 1795 г. асобна яшчэ нічога сказана не было, аднак якраз у гэты ж час праводзілася пятая рэвізія, і яна адразу выявіла праблемы з тым, як вызначыць тых, каго лічыць дваранамі, а каго запісваць па рэвізіі ў аклад. Калі заможная шляхта звычайна магла мець якія-небудзь дакументы на маёмасць – купчыя, даравальныя граматы – або мела прыватныя сувязі ў дваранскіх сходах, што магло аблегчыць атрыманне дваранскай граматы і запіс у дваранскую кнігу, то дробная шляхта звычайна не мела ні першага, ні другога. У большасці выпадкаў яна не магла прадаставіць дакументальныя доказы шляхецтва, акрамя сведчанняў 12 дваран. Перад уладамі ўзнікла пытанне, як паступаць з такой шляхтай. Больш за тое, высветлілася, што праблемы з прадастаўленнем дакументаў сталі яшчэ і прычынай злоўжыванняў у дваранскіх сходах, на якіх і ляжаў абавязак прызнання шляхты ў расійскім дваранстве.

Легальна ці нелегальна, але менавіта дваранскія сходы з 1785 г. (пра гэта ішла гаворка ў першым раздзеле) сталі тым месцам, дзе можна было вырашыць гэта пытанне. Склалася сітуацыя, калі ад дваранскіх сходаў залежала тое, ці будзе шляхціц прызнаны дваранінам (што само па сабе яшчэ не вызваляла з акладу). Гэта, канешне ж, спараджала шматлікія злоўжыванні ў дваранскіх сходах, у тым ліку запіс у дваране асоб, якія не былі выключаны з акладу.

Тое, што ўвага да дробнай шляхты значна ўзрасла пасля другога і трэцяга падзелаў, выявілася ўжо ў выданні згаданага вышэй указа ад 3 мая 1795 г. Патрабуючы больш дакладных звестак, улады пералічылі шляхту па рэвізіі 1795 г., прычым нямала шляхты, не разумеючы мэт рэвізіі або наўмысна аказаліся запісанымі не ў шляхецкія сказкі, а ў сяляне ці вольныя людзі, як гэта было і на землях першага падзелу – у аклад. Вынікі рэвізіі прадэманстравалі, што ў імперыі пасля другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай толькі ў адных украінскіх землях – у Кіеўскай, Падольскай і Валынскай губернях – пражывалі 135 332 асобы мужчынскага полу шляхты[2]. Па ўсіх заходніх губернях – 218 тыс. асоб мужчынскага полу.

---

[1] Паводле падлікаў Тадэвуша Корзана, які сабраў звесткі разнастайных перапісаў, пасля падзелу Рэчы Паспалітай каля 2/3 прадстаўнікоў яе шляхецкага саслоўя апынулася ў межах Расійскай імперыі (*Korzon T.* Wewnętrzne dzieje Polski za Stanisława Augusta (1764–1794) : w 2 t. Kraków, 1882. T. 1. S. 102, 123).

[2] *Кабузан В. М., Троицкий С. М.* Изменения в численности, удельном весе и размещении дворянства в России в 1782–1858 гг. С. 164.

Зразумела, што такая колькасць насельніцтва не магла застацца па-за ўвагай улад. Акрамя таго, у адрозенне ад шляхты на тэрыторыі першага падзелу, гэта шляхта ў асноўным запісвалася ў асобныя шляхецкія сказкі. На яе былі пашыраны правы і прывілеі расійскага дваранства, сфармуляваныя ў Даравальнай грамаце 1785 г., чаго не было пры першым падзеле Рэчы Паспалітай. Фаварыт Кацярыны II Платон Зубаў пасля вывучэння сітуацыі, маючы непасрэдна і свае зацікаўленасці (быў генерал-губернатарам Вазнясенскай і Кацярынаслаўскай губерняў[1]), падаў імператрыцы запіску пра чыншавую шляхту. У запісцы было зроблена апісанне становішча шляхты і прапанавана перасяліць частку чыншавай шляхты, бо нібыта і сама яна была не супраць, у падпарадкаваную яму Вазнясенскую губерню[2]. Нас у дадзеным выпадку цікавіць не столькі пытанне праекта перасялення шляхты, які ўбачыў свет у выглядзе імператарскага ўказа 5 чэрвеня 1796 г.[3] і не быў рэалізаваны, колькі факт таго, што царскія вышэйшыя чыноўнікі пасля другога і трэцяга падзелаў і правядзення рэвізіі ў 1796 г. сталі больш пільна прыглядацца да дробнай шляхты. Але з прыходам да ўлады ў тым жа 1796 г. Паўла I рэалізацыя многіх ініцыятыў Кацярыны II і П. Зубава была спынена. Быў адменены і ўказ аб перасяленні дробнай шляхты[4]. Праблема дробнай, з большага чыншавай шляхты заставалася «падвешанай» у паветры. З аднаго боку, шляхта не была ўключана ў аклад, як і дваранства, а з другога – павінна была яшчэ даказаць у дваранскіх сходах сваё паходжанне і прадставіць туды вывадовыя дакументы.

На працэс разгляду дваранскімі дэпутацкімі сходамі дакументаў шляхты смерць Кацярыны II не паўплывала. Ён працягнуўся, але праблемы, з якімі сутыкаліся ў яго рэалізацыі ўлады, немагчыма было ігнараваць. У першую чаргу гэта злоўжыванні на месцах – вечная праблема імперыі. Пра злоўжыванні ў дваранскіх сходах быў

---

[1] Актыўнае асваенне расійскімі ўладамі паўднёваўкраінскіх тэрыторый патрабавала павелічэння там колькасці насельніцтва, будаўніцтва гарадоў і крэпасцей. П. Зубаву было дазволена для гэтых мэт выкарыстоўваць сродкі ад падаткаў з мясцовага насельніцтва. Адной з крыніц павелічэння гэтага насельніцтва, як бачым, павінна была стаць якраз пераселеная дробная шляхта.

[2] *Beauvois D.* Trójkąt ukraiński ... S. 85–86.

[3] Именной, данный Екатеринославскому, Вознесенскому и Таврическому генерал-губернатору князю Зубову о переселении в сии губернии на казенные земли чиншевой шляхты с помещичьих земель в присоединенных от Польши губерниях. 5 июня 1796 г. № 17469 // ПСЗ I. Т. 23.

[4] Об остановлении переселения чиншевой шляхты в Вознесенскую губернию. 7 марта 1797 г. № 17872 // ПСЗ I. Т. 24.

праінфармаваны і новазаступіўшы на трон імператар Павел I. Яго рэакцыяй ужо ў першыя месяцы царавання стаў імянны ўказ ад 4 снежня 1796 г., у якім адзначалася: «Дошло до нашего сведения, что с великим небрежением разбор чинится в дворянских собраниях по просьбам ищущих дворянства, и дворянское к тому право обращается в злоупотребление, во отвращение того, и сохраняя в полном уважении все преимущества дарованные от предков наших благородному дворянству империи нашей, повелеваем дабы никакое в государстве нашем правительство собою не вводило в дворяне и не выдавало своих грамот на сие достоинство не носившим такового преимущества...»[1].

Невядома, ці ліст з запытам ад Вазнясенскай казённай палаты, які паступіў у Сенат праз месяц пасля ўказа, у студзені 1797 г.[2], быў непасрэднай рэакцыяй на гэты ўказ, але блізкасць дат усё ж сведчыць, што, верагодна, так яно і было. Праблема шляхты відавочна стала вельмі актуальнай у гэты час – была ўжо статыстыка па рэвізіі, якая паказала вялізную колькасць шляхты, былі звесткі пра злоўжыванні ў дваранскіх сходах, быў запыт ад Вазнясенскай казённай палаты аб сітуацыі губерні з нявызначанасцю наконт залічэння шляхты ў падаткаабкладаныя катэгорыі. Палата прасіла даць тлумачэнні адносна таго, ці залічваць у аклад і калі залічваць, то як, шляхту, якая не мела дакументаў аб шляхецтве. Калі яе

---

[1] РГИА. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 2–2об. (у кнізе Д. Бувуа «Trójkąt ukraiński... » (с. 97) аўтар тлумачыць указ: нібыта сам цар планаваў выдаваць пасведчанні на дваранства, у той час як ва ўказе гаворка ішла аб імператарскай уладзе, а не асобе імператара). Ідэя кантролю цэнтральных улад за прызнаннем дваранскіх правоў атрымала працяг ва ўказе Паўла I ад 19 сакавіка 1797 г. «О доставлении сведений в Герольдию о дворянах, для внесения в общий дворянских родов гербовник» (ПСЗ I. Т. 24. № 17881). Указ патрабаваў усім дваранам асабіста ці праз пасрэдніцтва дваранскіх сходаў прадаставіць у геральдмейстарскую кантору выпісы з дакументаў на дваранства і малюнкі гербаў, а дваранскія старшыні павінны былі даставіць таксама кнігі «разобранным дворянским родам по правилам, пожалованною дворянству в 1785 году апреля в 21-й день грамотою предписанным». Аднак рэалізаваць гэты ўказ, як вынікае з тэксту новага ўказа ад 9 красавіка 1800 г. (№19375), уладам не атрымалася гладка – ён выконваўся толькі ў некаторых губернях, «...другими сие вовсе не исполняется, как открылось и по Белорусской губернии».

[2] На той момант Вазнясенскае намесніцтва, якое было ўтворана толькі 27 студзеня 1795 г. з часткі Кацярынаслаўскага намесніцтва, ужо перастала існаваць, бо менш чым праз два гады, у канцы 1796 г., указам Паўла I намесніцтва было скасавана, а яго тэрыторыя ўвайшла ў Новарасійскую губерню, утвораную на базе Кацярынаслаўскай і Вазнясенскай. Не выклікае сумненняў, што частыя змены меж намесніцтваў і губерняў замінalі ўладам правесці больш-менш дакладны аналіз структуры іх насельніцтва.

не залічваць, то які тэрмін трэба вызначыць для прадастаўлення доказаў на дваранства, бо ўказ ад 3 мая 1795 г. не вызначаў ніякіх тэрмінаў для гэтай працэдуры. Як адзначалася ў дакуменце, падпісаным віцэ-губернатарам Дзмітрыем Глінкам, чыншавая шляхта ўжо актыўна занялася пошукамі дакументаў у сваякоў з Аўстрыі і Прусіі і часткова яны ўжо паступілі ў камісію па разборы шляхты.

Вазнясенскія ўлады адначасова выказалі і свае ідэі па гэтай справе. У іх запыце прапаноўвалася або прыпыніць перавод чыншавай шляхты ў аклад, або запісваць яе туды з агаворкай, што «объявили себя шляхетством»[1]. У дакуменце называлася і колькасць «праблемнай» шляхты ў губерні – 9833 душы мужчынскага полу. Адзначалася таксама, што ў загадзе былога генерал-губернатара князя Платона Зубава былому правіцелю Кацярынаслаўскага намесніцтва[2] генерал-лейтэнанту Іосіфу Хорвату аб гэтым таксама не было згадкі, «кроме что они не должны внесены быть без настоящих доказательств о своем дворянстве в дворянскую родословную книгу»[3].

Відаць, ліст быў рэакцыяй мясцовых улад на імператарскі ўказ ад 4 снежня 1796 г. Хутчэй за ўсё, яны хацелі засцерагчыся і атрымаць дакладныя інструкцыі аб тым, што трэба рабіць з дробнай шляхтай пры падвядзенні канчатковых вынікаў рэвізіі 1795 г. – запісваць шляхту ў аклад ці не запісваць. Прабелы ў заканадаўстве, не прыстасаваным да сацыяльнай структуры далучаных да Расійскай імперыі тэрыторый, відавочна ставілі Вазнясенскую казённую палату перад нявызначанасцю. З вялікай доляй верагоднасці можна экстрапаляваць гэту сітуацыю і на іншыя тэрыторыі другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай, на якіх пражывала дробная шляхта[4]. У адказ на ўзніклую праблему 24 студзеня 1797 г. Сенат пастанавіў казённым палатам ча-

---

[1] РГИА. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 1, 3–6.

[2] Кацярынаслаўскае намесніцтва існавала ў 1783–1796 гг. Генерал-губернатарам намесніцтва ў 1793–1796 гг. быў П. Зубаў.

[3] РГИА. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 17–18.

[4] Падобная праблема з дробнай шляхтай узнікла і ў Кіеўскай губерні ў маёнтках Станіслава Панятоўскага, калі ў 1796 г. улады не змаглі вызначыцца, куды прыпісаць 214 чыншавікоў. У выніку па прапанове міністра фінансаў іх прызналі вольнымі людзьмі па прыкладзе старавераў (*Beauvois D.* Trójkąt ukraiński ... S. 97–99). Сярод архіўных спраў, якія тычыліся беларуска-літоўскіх тэрыторый, такіх зваротаў да 1800 г. не выяўлена. Прычына была ў тым, што там, у адрозненне ад Кіеўскай губерні, мясцовыя ўлады яшчэ фактычна і не прыступілі да разгляду дакументаў.

сова браць з нявызначанай у правах групы шляхты такія падаткі, якія плацілі жыхары дзяржаўных маёнткаў[1].

У адрозненне ад тэрыторый першага падзелу, на землях другога і трэцяга падзелаў улады не пайшлі на аўтаматычны запіс усёй шляхты ў падушны аклад. Гэта пацвярджае і прадстаўленне міністра фінансаў Д. Гур'ева Сенату 1816 г., у якім ён паведамляў, што «...обитающие в некоторых великороссийских и малороссийских, равно и в белорусских губерниях (беларускімі губернямі ў тагачаснай наменклатуры лічыліся Віцебская і Магілёўская – тэрыторыі першага падзелу Рэчы Паспалітай. – *В. М.*) люди, доказывающие дворянское происхождение, правительством всегда полагаются в оклад, и состоят в оном, платя подлежащие в казну подати, доколе докажут дворянство свое и в сем достоинстве будут утверждены, и тогда уже из оклада исключаются; напротив того, таковые доказывающие дворянство свое, обитающие в губерниях литовских и от Польши... приобретенных, также в части Киевской (землі другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай. – *В. М.*), известные под названием чиншевой шляхты и под другими подобными сему наименованиями... о представлении доказательств о дворянстве их сначала определены были сроки... состоят без положения в оклад и никаких податей казне не платят...»[2].

Вартым увагі аспектам з'яўляецца асабістае стаўленне да праблемы ўладкавання становішча дробнай шляхты на новадалучаных землях Паўла I. Яно было адносна лагодным, чым, магчыма, і тлумачыцца пэўная нерашучасць вярхоўных улад у прыняцці кардынальных рашэнняў па разборы шляхты і яе падаткаабкладанні. Верагодна, Павел шукаў іншага, больш лагоднага для шляхты выхаду з сітуацыі. Так, у імянным указе Паўла I ад 3 красавіка 1797 г. было загадана: «Что же касается до множества праздных и бедных шляхтичей, я всего пристойнее нахожу, определять их в армейские полки унтер-офицерами, а тех, которые из них и поведением и видом отличаются, присылать в Петербург для помещения в конную гвардию, в лейб-гусарские эскадроны и даже в кавалергардский корпус; сим образом доставится им не только способ к содержанию в жизни, но и к выгодному продолжению оной»[3]. Дробнай шляхце прапанавалася вайсковай службай павысіць сваё сацыяльнае і матэрыяльнае становішча.

---

[1] *Beauvois D.* Trójkąt ukraiński ... S. 98.

[2] О учинении по польским губерниям разбора неизвестным людям, вписавшимся при 6-ой ревизии в класс старой шляхты. 31 янв. 1816 г. № 26108 // ПСЗ I. Т. 33.

[3] О формировании полка из татар, поселенных в новых провинциях, под названием Пинского, и об определении бедных шляхтичей в армейские полки унтер-офицерами. 3 апр. 1897 г. № 17903 // ПСЗ I. Т. 24.

Па сутнасці, справа з запісам шляхты ў аклад і эфектыўным разборам яе дакументаў засталася без далейшага канкрэтнага вырашэння аж да 1800 г. Так, і ў 1797, і ў 1798 г. пытанне аб прыпісцы той дробнай шляхты, якая не мела «дваранскіх» дакументаў у Вазнясенскай губерні ў аклад, так і засталося без разгляду ў Сенаце, пакуль 20 чэрвеня 1799 г. туды не паступіў ужо чарговы запыт – ад Новарасійскай казённай палаты.

У рапарце палата прасіла прыняцця рашэння аб тым, як трэба паступіць з двума шляхціцамі Кіеўскай губерні – Вінарскім і Чэкейдоўскім, якія хацелі прыпісацца ў казённыя пасяляне Новарасійскай губерні. Казённая палата прасіла Сенат вызначыць, у якім званні неабходна іх прыпісваць і якi падатак з іх браць, бо такая, здавалася б, простая рэч не была ўрэгулявана законам і ставіла палату ў тупіковую сітуацыю. У сувязі з вывучэннем гэтай справы ў Сенаце зноў звярнулі ўвагу на рапарт з Вазнясенскай казённай палаты ад 1797 г. Дзве справы былі аб'яднаны і разам заслуханы ў верасні 1799 г. і паўторна ў красавіку 1800 г. У выніку ў Сенаце сярод бягучых спраў з'явілася новая – «Аб шляхце заходніх губерняў». У гэтай, цяпер ужо архіўнай, справе захаваўся значны пласт дакументаў, якія адлюстроўваюць ход выпрацоўкі кірункаў палітыкі ўлад у адносінах да дробнай шляхты і верыфікацыі яе дваранскіх прывілееў[1].

1800 год стаў пераломным у фарміраванні палітыкі ў адносінах да дробнай шляхты. Імпульсам паслужыў згаданы вышэй запыт ад Новарасійскай казённай палаты. Пасля збору звестак, паводле якіх у заходніх губернях аказалася больш за 218 тыс. душ мужчынскага полу шляхты, зацікаўленыя чыноўнікі, у першую чаргу барон Васільеў, які адказваў за фінансы імперыі, усвядомілі падаткавую і рэкруцка-вайсковую «цану» пытання. Было вырашана ўсур'ёз заняцца шляхтай. Адзначым, што фактычна да 1800 г. улады не мелі больш-менш годных даверу даных аб колькасці і стане дробнай шляхты. Няўдалымі аказаліся і папярэднія спробы фармалізацыі працэсу зацвярджэння шляхты ў расійскім дваранстве, паводле якіх дваранскія сходы павінны былі самастойна аддзяліць шляхту «сапраўдную» ад «фальшывай». Многія губерні, у тым ліку беларускія, не прадаставілі нават ніякіх дакументаў аб выніках гэтай дзейнасці[2]. Што праўда, і сам заканадаўца не надта паклапаціўся пра гэта, бо не вызначыў тэрміны прадастаўлення і «раз-

---

[1] Справа вялася ў Сенаце да 1830-х гг.

[2] 9 красавіка 1800 г. (№19375).

гляду» дакументаў для зацвярджэння ў расійскім дваранстве, што дазваляла шляхце пастаянна несці свае звароты ў дваранскія сходы. На месцах дваранскія дэпутацкія сходы выдавалі дваранскія пасведчанні асобам пасля разгляду і пазітыўнага рашэння іх спраў. Але, калі трымацца закона, рабіць гэтага не мелі права. Канчатковае рашэнне павінна было прымацца ў Сенаце, і толькі пасля адпаведнага ўказа павінна было накіроўвацца распараджэнне ў губернскае праўленне і казённую палату аб выключэнні сям'і адпаведнага прасіцеля з акладу, выдачы яму дваранскай граматы і запісе ў радаводную кнігу. Асабліва шмат злоўжыванняў было ў Беларускай губерні. Там на 1800 г. па афіцыйных звестках налічвалася 1096 душ шляхты, якія даказалі сваё паходжанне ў дваранскім сходзе і нават насуперак правілам былі запісаны ў дваранскія кнігі, але іх справы па нейкіх прычынах не былі разгледжаны ў Герольдыі, а шляхціцы заставаліся ў падушным акладзе. Канешне, гэта была тая шляхта, якая яшчэ ў 1772 г. была запісана ў аклад пасля першага падзелу і пачала змагацца за свае правы ў 1780–90-я гг. Па якой прычыне дваранскі сход выдаваў ёй дваранскія граматы і не высылаў дакументы на пацвярджэнне ў Герольдыю, можна толькі здагадвацца. Магчыма, доказы былі кволымі і сход баяўся, што яны будуць адхілены, і, карыстаючыся пэўнай нявызначанасцю са становішчам усёй шляхты, проста не высылаў іх на канчатковае зацвярджэнне. Разам з тым з вялікай верагоднасцю выдача дваранскіх грамат такой шляхце магла ажыццяўляцца праз хабар, і члены дваранскага дэпутацкага сходу цудоўна ведалі, што парушаюць закон. Некаторыя шляхціцы, маючы дваранскія граматы, спрабавалі нават самастойна ўхіліцца ад падушнага акладу і скардзіліся ў Сенат, калі гэта не атрымлівалася. Менавіта гэта і справакавала выданне ўказа ад 19 красавіка 1800 г. «О представлении о состоящих в подушном окладе, но дворянство доказавших, в Герольдию на рассмотрение, с приложением выданных им грамот и других на дворянство доказательств»[1]. Ніжэй намі будзе больш падрабязна разгледжана згаданая справа са скаргай шляхты ў Сенат на невыключэнне яе з акладу.

Відавочна, што колькасць праблем з доказамі дваранства шляхтай заходніх губерняў у імперыі нарастала і яны пачалі актыўна абмяркоўвацца.

Важным дакументам, які паўплываў на фарміраванне палітыкі ў адносінах да дробнай шляхты пасля 1800 г., стаў праект блізкай да Паўла I асобы – гатчынца, стацкага радцы М. Катлубіцкага. Ён, ма-

[1] О представлении о состоящих в подушном окладе ...

быць добра знаёмы з дробнай шляхтай па ўкраінскіх землях, бо адтуль паходзіў, зацікавіўся праблемай падаткаабкладання і перасялення шляхты[1]. Гэтыя пытанні якраз тады стаялі на павестцы дня Сената. Катлубіцкі склаў уласны праект, у якім прапанаваў Сенату перавесці дробную чыншавую шляхту на старасцінскія землі і гэтым самым змусіць яе плаціць падаткі дзяржаве – «обыватели шляхтою называемые или путные бояре имеют большие деревни в Волынской и Подольской губ., остаются ни от кого независимыми и пользуются всеми знатными угодиями, не приносят казне никакой выгоды, а равно и безземельная шляхта, каковой считается до 100 000 душь, не имея своей земли, принуждены сносить от помещиков непомерные угнетения, без всякой казне пользы платя им чинш. Буде ж поселить их на землях старостам присвоенным, то до 500 000 рублей они охотно согласятся платить подати»[2]. Прапановы Катлубіцкага былі накіраваны на разгляд у Трэці дэпартамент Сената, які даў ім негатыўную прававую ацэнку. Адзначалася, што «шляхта и бояре на основании конституции 1374 г. и последовавших годов освобождаются от всяких податей, повинностей и служб то и не должны они никакой подлежать перемене их преимуществ, каковое положение Вашим Величеством конфирмовано 12 апреля сего года»[3].

Аднак па зразумелых прычынах там, дзе пытанне закранала фінансавы бок, пільна сачыла дзяржаўнае казначэйства, якое з лістапада 1796 г. узначальваў барон Аляксей Васільеў. Барон, зацікаўлены ў пошуках крыніц папраўлення дзяржаўных фінансаў, якія былі ў даволі кепскім стане за яго папярэднікамі па прычыне вялікіх выдаткаў на баявыя дзеянні і падаўленне паўстання пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі, руска-турэцкую вайну, задаўся пытаннем, ці не абкласці падаткамі ўсю дробную шляхту на далучаных пасля падзелаў Рэчы Паспалітай тэрыторыях. Дакументы за подпісамі барона Васільева сведчаць, што менавіта ён і Катлубіцкі былі актыўнымі прыхільнікамі ўстанаўлення двухгадовага

---

[1] У канцы XVIII – пачатку XIX ст., акрамя праектаў Зубава і Катлубіцкага, у вышэйшыя дзяржаўныя органы імперыі паступілі таксама некалькі праектаў аб перасяленні шляхты, падрыхтаваныя Невяроўскім, Навасільскім, Дзяржавіным, Гарахоўскім і Яворскім, ваенным міністрам Аракчэевым (падрабязней пра гэтыя праекты гл.: *Beauvois D.* Trójkąt ukraiński ...).

[2] У сваёй кнізе «Trójkąt ukraiński ...» (с. 100) Д. Бувуа сцвярджае, што Катлубіцкі ў пададзенай імператару запісцы пісаў, што «з лёгкасцю ўдасца перарабіць шляхту на прыгонных сялян», але падобнай думкі аб пераводзе шляхты ў прыгонныя сяляне ў арыгіналах сенацкіх дакументаў няма.

[3] РГИА. Ф. 1347. Оп. 64. Д. 299. Дело о чиншевой шляхте. Л. 11–19.

тэрміну пачынаючы з 1 студзеня 1800 г. для доказу дваранства шляхтай на ўсіх далучаных пасля падзелаў Рэчы Паспалітай тэрыторыях, а таксама абкладання падаткамі асоб, якія б не змаглі даказаць дваранства.

Васільевым быў распрацаваны цэлы пакет мерапрыемстваў у адносінах да шляхты. Галоўным пунктам было якраз устанаўленне шляхце двухгадавога тэрміну для прадастаўлення доказаў на дваранства. 20 ліпеня 1800 г. барон зрабіў прадстаўленне ў Сенат, з якога зразумела, што адпраўной кропкай падрыхтоўкі ўказа, у адпаведнасці з якім яго праект набываў у будучым сілу закона, стала якраз прадстаўленне Новарасійскай казённай палаты ад 20 чэрвеня 1799 г. Васільевым было запатрабавана ад гэтай палаты падаць звесткі пра колькасць шляхты ў губерні, якая знаходзіцца ў акладзе. Сенат пасля разгляду справы прапанаваў прызначыць 9833 душам мужчынскага полу шляхты, якія пражывалі ў гэтай губерні, двухгадовы тэрмін для прадастаўлення доказаў аб дваранстве. Але Васільеў прапанаваў пашырыць гэта распараджэнне, якое першапачаткова тычылася толькі Новарасійскай губерні, на ўсю шляхту далучаных да імперыі тэрыторый былой Рэчы Паспалітай. Ён лічыў, што абкладанне падаткамі хаця б часткі з 218 тыс. шляхты дасць значны прыбытак у казну імперыі:

«По случаю вступившего из Новороссийской казенной палаты в экспедицию о свидетельстве государственных счетов отношения представленного от нее по моему приказанию благоусмотрению Правительствующего Сената, что в тамошней губернии считается между не положенными в оклад людьми чиншевой и околичной шляхты 9833 м. п. души; Угодно было Правительствующему Сенату обстоятельство сие решить тем, что назнача означенной шляхте двухгодовой срок, начиная оной с 1 генваря сего 1800 года на отыскание и представление о своем дворянстве доказательств, так как они живут в городах и селениях казенных и помещичьих и пользуются землями и промыслами наравне с тамошними обитателями, то дабы не было в отягощение прочим поселянам, несущим государственные повинности тако ж безгласными и свободными, велел потому взыскивать со всех их равномерную с казенными новороссийской губернии поселянами подать с тем, что ежели в означенный срок представлены будут от них на дворянство доказательства, и потом удостоятся оные высочайшего утверждения, в таком случае тогда взысканные с них подати возвращаются им назад, не представивших же в течение того двухгодового срока доказательств, положа всех наравне с казенными поселянами в оклад, во взыскании с них податей поступать по законам. Как же из вновь вступивших в экспедицию о свидетельстве государственных счетов сведений усмотрена

мною, что подобной и разной сверх того шляхты в числе неположенных в оклад людей, состоит в губерниях Киевской, Минской, Волынской, Подольской, Белорусской, Литовской и в Курляндской 218 025 м. п. душь[1], то и о сих имею честь представить особую ведомость, с тем что, не благоугодно ли будет и о сей шляхте сделать положение»[2].

Вакол пытання абкладання падаткамі ўсёй дробнай шляхты ўзніклі спрэчкі. Гэта добра відаць па перапісцы дзяржаўнага казначэя барона А. Васільева з генерал-пракурорам П. Абальянінавым. На пазітыўным рашэнні пытання абкладання падаткамі ўсёй шляхты, якая не прадаставіць доказаў на дваранства, настойваў менавіта Васільеў. Яго асабліва цікавіла інфармацыя, на якіх землях пражывае шляхта – дзяржаўных ці прыватных, бо гэта вызначала атрымальніка чыншу[3].

Прававыя аспекты ініцыятывы Васільева, аднак, выглядалі не вельмі карысна для яго. Нягледзячы на перагаворы і лісты з тлумачэннямі оберпракурору Абальянінаву, ініцыятыва Васільева першапачаткова атрымала адназначна негатыўную прававую ацэнку, якую даў ёй Трэці дэпартамент Сената. Тым не менш прапанова ўсё ж дайшла да агульнага пасяджэння Сената і ў выніку разгляду справы 15 чэрвеня 1800 г. атрымала там адабрэнне. Заднім чыслом, адлічваючы з 1 студзеня 1800 г., быў устаноўлены двухгадовы тэрмін для прадастаўлення на тэрыторыі заходніх губерняў імперыі дакументаў на дваранства ўсёй дробнай шляхтай. Шляхціцы, якія не даказалі дваранства, пасля заканчэння гэтага тэрміну павінны былі быць запісаны ў аклад. Цікава, што дакумент на зацвярджэнне імператару быў адпраўлены 17 жніўня 1800 г., а сам указ датаваны толькі 25 верасня 1800 г. – праз дзевяць месяцаў пасля пачатку адліку прапанаванага двухгадовага тэрміну на падачу дакументаў[4].

Некалькі раней, у пачатку 1800 г., улады ўзяліся таксама за ўскладненне працэдуры зацвярджэння ў дваранстве той шляхты, якая была ўжо раней па выніках пятай рэвізіі запісана ў аклад. Звесткі, якія

---

[1] Звесткі былі атрыманы з дзяржаўнай акладной кнігі і падпарадкаваных ведамству Васільева казённых палат.

[2] РГИА. Ф. 1341. Оп.1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 28.

[3] Там жа. Ф. 1347. Оп. 64. Д. 299. Дело о чиншевой шляхте. Л. 1, 3.

[4] Там жа. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 30–32. (Д. Бувуа ў кнізе «Trójkąt ukraiński ...» зрабіў заўвагу, што толькі В. Неўпакоеў пазначыў правільную дату ўказа ў сваім артыкуле, у той час як І. Рыхлікова, Ё. Сікорска-Кулеша і С. Лысенка ўказалі памылковую – 25 верасня. Гэта не зусім так – 15 верасня датуецца рашэнне Сената, у той час як указ імператара сапраўды датуецца толькі 25 верасня 1800 г.)

паступалі, паказвалі, што шмат людзей, якія раней былі ўнесены ў аклад, змаглі пасля зацвердзіцца ў дваранстве і патрабавалі, каб губернскія праўленні выключылі іх з акладу. Толькі у Беларускай губерні такіх было 1096 душ мужчынскага полу, пра што мы ўжо згадвалі вышэй. Аднак выключэнне гэтых людзей з акладу таксама пагражала фінансавымі стратамі для ўрада. У Сенаце вырашылі паставіць пад сумненне правамернасць зацвярджэння такіх асоб у дваранстве дэпутацкімі сходамі, нагадаўшы пра неабходнасць атрымаць яшчэ і зацвярджэнне ў дваранстве ад Герольдыі. Справа пачала раскручвацца ў сувязі з чарговым паведамленнем у Сенат, якое тым разам паступіла з Магілёўскай губерні. Яго змест выяўляў наяўнасць недакладнасцей і ўвогуле хаос у працэсе зацвярджэння ў дваранстве на месцах: у Сенат звярталіся шляхціцы Магілёўскай губерні К. Пазняк і Я. Лешка з прашэннем пра выключэнне іх з падушнага акладу, паколькі Магілёўскі дваранскі сход у 1792 і 1795 гг. зацвердзіў іх у дваранстве і ўнёс прозвішчы ў радаводную кнігу губерні, а казённая палата не выключала з акладу. Шляхціцы прасілі Сенат пасадзейнічаць. У рапарце самога праўлення ў Сенат даваліся тлумачэнні і ўказвалася, што такіх дваран, якія прасілі аб выключэнні з акладу, па губерні назбіралася ўжо аж 1096 чалавек. Пасля разбіральніцтва ў Сенаце высветлілася, што дваранскія сходы і губернскія праўленні ў розных губернях па-рознаму праводзяць працэдуру зацвярджэння ў дваранстве: «...некоторые губернские правления, внесенные к ним из дворянских собраний доказательства ищущих дворянства представляют на рассмотрение в Герольдию, а другими сие вовсе не исполняется, как открылось и по белорусской губернии... сами сии просители и подобные им, имея в руках таковые грамоты в отбывательство от платежа государственных повинностей, считают себя якобы за право по тем грамотам быть исключенными из оклада, не зная того, что доказательства их должны в высшем над дворянским собранием месте рассмотрены и его императорским величеством утверждены быть...» Спаслаўшыся на ўказы 11 ліпеня 1789 г., 19 сакавіка 1797 г. і 4 снежня 1796 г., Сенат загадваў, каб «...во всех губерниях единообразное исполнение и наблюдение по сему предположению было», а губернскім уладам загадвалася сачыць за выкананнем адзначаных законаў[1].

Як можам пераканацца, улады ўсё болей ускладнялі працэдуру доказу дваранства і выключэння з акладу, імкнуліся ўвесці агульныя нормы і пакінуць за сабой толькі права канчатковага зацвяр-

[1] О представлении о состоящих в подушном окладе ...

джэння ў дваранскім званні. Цяжка паверыць, аднак на месцах усяляк ігнаравалі патрабаванні з цэнтра. Новаму імператару Аляксандру І давялося ў 1802 г. выдаваць фактычна новы закон, які забараняў выключаць з акладу шляхціцаў да моманту атрымання пазітыўнага рашэння Дэпартамента герольдыі Сената[1]. Працэс ускладнення працэдуры доказу дваранства і выхаду з акладу прыпісанай туды шляхты стаў адным з кірункаў дзейнасці ўлад у разборы шляхты, які ішоў поруч са спробамі ўзмацнення кантролю над дзейнасцю дваранскіх сходаў.

Хадзілі па галовах вышэйшых саноўнікаў імперыі і праекты перасялення шляхты. Акрамя Катлубіцкага і Васільева, праект указа, які тычыўся дробнай шляхты, і ў гэтым выпадку перасяленчы, Паўлу І прад'явіў яшчэ адзін саноўнік, які займаў на дзіва падобную пасаду з Зубавым – новарасійскі віцэ-губернатар І. Невяроўскі. Ён хацеў перасяліць у падпарадкаваны яму рэгіён частку чыншавай шляхты з Кіеўшчыны і Падолля, прычым карыстаўся падобнай да П. Зубава аргументацыяй. Невяроўскі прапаноўваў пасяліць шляхту блізка ад месца яе нараджэння, у Альвіопальскім павеце, выдзяляючы ёй па 15 дзесяцін добрай зямлі на мужчынскую душу, вызваліць яе ад падаткаў на 10 гадоў, а пасля ўстанавіць падатак у памеры 5 кап. з дзесяціны замест аброку. Зробленыя захады па прыцягненні ахвотных да перасялення прадэманстравалі, што толькі 31 мужчыну з Кіеўшчыны і Падолля ўдалося пераканаць у неабходнасці перасяляцца, што ставіла кропку на праекце[2]. На тое, што перасяленчаму праекту Невяроўскага не было нададзена дастатковай увагі, безумоўна, паўплываў і факт, што цэнтральнае месца ў палітыцы ўлад у адносінах да шляхты ўжо заняў указ ад 25 верасня 1800 г., якім прадугледжвалася працэдура абавязковага прадастаўлення шляхтай доказаў свайго паходжання – разбор шляхты. Гэты ўказ павінен быў мець больш значныя наступствы як па геаграфіі ахопу тэрыторый, дзе пражывала дробная шляхта, так і па эфекце для казны. Як бы там ні было, але ідэя перасялення шляхты вандравала па галовах некаторых царскіх саноўнікаў перыяду Паўла І. Было шмат прывабнасці ў гэтым для мясцовых намеснікаў і губернатараў –

[1] Да праблемы зацвярджэння ў дваранстве шляхты, якая раней аказалася запісанай у аклад, а пасля гэтага змагла ў дваранскіх сходах даказаць сваё дваранскае паходжанне, улады яшчэ раз звярнуліся ўжо пры новым імператару Аляксандру І у верасні 1802 г. Як аказалася, папярэдні ўказ, падпісаны Паўлам І, не даў выніку (О наблюдении, чтобы депутатские собрания при внесении дворян в дворянскую родословную книгу ...).

[2] *Beauvois D.* Trójkąt ukraiński ... S. 88.

перасяліць масы людзей у падпарадкаваныя сабе слабазаселеныя землі і ператварыць тым самым кіраваныя імі тэрыторыі ва ўзор гаспадарлівасці і дбайнага кіравання, не забыўшы пры гэтым і сваю асабістую карысць. Тым не менш у непасрэдную праграму дзеянняў улад пры Паўле I перасяленчыя мерапрыемствы ў адносінах да шляхты так і не ўвайшлі.

Вяртаючыся да падрыхтоўкі закона Катлубіцкага – Васільева, адзначым, што абмеркаванне праекта закона ў Сенаце было падмацавана статыстычнымі звесткамі, якія былі падрыхтаваны ведамствам Васільева. Падчас рэвізіі 1795 г. на навадалучаных тэрыторыях другога і трэцяга падзелаў дробная шляхта, у тым ліку чыншавая, падлягала запісу ў асобныя сказкі, але не была ўключана ў аклад[1]. Васільеў прадаставіў Сенату звесткі пра колькасць мужчынскіх душ дробнай шляхты на ўсіх далучаных ад Рэчы Паспалітай тэрыторыях. Звесткі былі сабраны па дзяржаўнай акладной кнізе і па даных казённых палат. Прывядзём тут змест ведамасці з разбіўкай па губернях (маюцца на ўвазе асобы мужчынскага полу):

*У Кіеўскай*[2]:

- дзедзічных уладальнікаў 511 душ,
- пасэсараў і адкупшчыкаў 1181,
- чыншавай і ў гасподскіх дамах па кантракце служачых 40 373.

*Разам 42 065.*

*У Мінскай* шляхты, якая карысталася правам дваранства:

- у дварах гасподскіх служачай 3975,
- якая пражывала на ўладальніцкіх землях з аплатай за яе чыншу 14 296,
- ваколічнай на прыватных землях і не маючай сялян 6243.

*Разам 24 514.*

*У Валынскай* рознага звання шляхецтва:

- дзедзічнага 2455,

---

[1] Гэтыя звесткі сабрала па акладных кнігах польская даследчыца І. Рыхлікова, яны мінімальна адрозніваюцца ад прыведзеных у асноўным тэксце звестак, якія прадставіў у Сенат у 1800 г. Васільеў: падатковая кніга Мінскай губерні сярод насельніцтва, вызваленага ад падушнага акладу асобнымі законамі, называе: 6210 ваколічнай шляхты, 14 360 чыншавай, 3820 службовай, а разам 24 390 асоб мужчынскага полу (*Rychlikowa I.* Carat wobec polskiej szlachty na ziemiach zabranych w latach 1772–1831. S. 71).

[2] Пры перакладзе на беларускую мову ўлічаны асаблівасці арыгінальных назваў рубрык.

• пасэсараў 2225,
• ваколічнай і чыншавай 27 349,
• якая знаходзілася ва ўслужэнні 6275,
• баяр 8,
• солтысаў 103,
• татар, якія карысталіся шляхецкім правам 33.
*Разам 38 448.*
*У Падольскай*:
• шляхецтва, якое валодае вёскамі і адной зямлёй 4654,
• шляхты чыншавай 46 099.
*Разам 50 753.*
*У Беларускай*[1]:
• называюць сябе шляхціцамі, грамат не маюць, аднак выводзяцца ў дваранства 15,
• шляхціцаў, якія не маюць сваіх маёнткаў, а пражываюць у памешчыкаў па найме ў розных услужэннях 245.
*Разам 260.*
У *Літоўскай шляхціцаў*:
• па гарадах, мястэчках і вёсках у прыватных асоб у службе 14 385,
• якія пражываюць на ўласніцкіх землях з плацяжом чыншу 20 326,
• на ўласных землях у пасяленнях, што завуцца ваколіцамі 26 639.
*Разам 61 350.*
*У Курляндскай*:
• шляхціцаў 635.
*Разам 635.*
*Усяго разам* у пералічаных губернях 218 025 душ мужчынскага полу[2].

Падрыхтоўка ўказа Катлубіцкага – Васільева выклікала значны рэзананс ва ўрадавых колах і сярод дваранскіх маршалкаў (старшыняў) заходніх губерняў. Катэгарычна негатыўную ацэнку вясной 1800 г. даў праекту кіеўскі губернскі маршалак Т. Казлоўскі. У надзеі, што ўдасца пераканаць імператара ў шкоднасці праекта і ўказ не будзе падпісаны ці будзе хаця б перагледжаны, Казлоўскі ўступіў нават у актыўную перапіску з вышэйшымі саноўнікамі і кіеўскім губернатарам А. Цяпловым. Негатыўная прававая ацэнка захадаў па абкладанні шляхты

[1] Даныя па Беларускай губерні відавочна няпоўныя: не ўлічаны масы чыншавай і ваколічнай шляхты губерні, што магло быць вынікам змен меж губерні або таго, што масы шляхты там былі запісаны ў звычайныя, а не шляхецкія сказкі.

[2] РГИА. Ф. 1341. Оп.1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 29–29об.

падаткамі, якая была дадзена обер-пракурорам Абальянінавым, давала Казлоўскаму на гэта надзею. У сваім прадстаўленні губернатару Цяплову, датаваным 30 красавіка 1800 г., Казлоўскі ўказваў на тое, што шляхта роўная ў правах з дваранствам паводле маніфеста Кацярыны II і парушаць правы шляхты нельга, што шляхта карысталася дваранскімі правамі і ў такім стане была далучана да Расійскай імперыі. Апеляваў Казлоўскі таксама і да эканамічных аргументаў, адзначаючы, што шляхта знаходзіцца ў вельмі цяжкім матэрыяльным становішчы, што калі яна (40 000 чалавек у Кіеўскай губерні паводле Казлоўскага) будзе абкладзена новым падаткам, памер якога складзе 160 000 руб., «...то от того последует явная невозможность в выплачивании оной (подати. – *В. М.*) и повсеместное оскуднение, бедные семейства станут из государства выходить, в государстве убавится народу, а дедичные имения, в коих они записаны, сим налогом будут обременены». Казлоўскі звяртаў увагу таксама на тое, што шляхта не мела ніякай магчымасці ў такі кароткі тэрмін прадаставіць дакументы, якія ў многіх шляхціцаў знаходзіліся ў Прусіі і Аўстрыі[1]. Маршалак прапанаваў адмовіцца ад абкладання шляхты падаткамі, прасіў «...опровергнуть вредный для государства проект, представленный по сему обстоятельству от статского советника Котлубицкого». Казлоўскі прапанаваў іншы шлях – звярнуць больш увагі на тое становішча, у якім знаходзілася дробная шляхта, што, на яго думку, абярнулася б зваротным спрыяльным стаўленнем шляхты да расійскіх улад – «...и тем паче дворянство станет называть вас своим защитником, ежели соблаговолите сей род бедных, несчастных обывателей поддержать в их преимуществах и защитить от совершенного почти разорения...»[2]. «Не до вероятия, какое здесь впечатление сделал указ, повелевающий что б причисленные к Вознесенской, а ныне к Новороссийской губ. шляхта, числом до 9 тысяч (у нас оной до 70 тысяч имеется) платила подушной оклад. Шляхта чиншовая никогда не составляла особенного класса, но убожество довело их до сего неприличного названия, никогда до особых не принадлежала податей только до общих, и равными привилегиями пользовалась, между которыми наиболее первейших родов находятся потомки несчастьем низверженные в бедность, никогда рекрут оне не давали, а теперь устрашены, в отчаянии находятся, говорю всем в чистосердечии, и что великую из сего предвижу потерю, неминуемой на деле эмиграции, зная существо их чувств и мыслей, когда в подушный оклад включены будут. Ежели случится вам узнать отколь сии слухи взяли свое начало, или от недальновидных проектиров роз-

[1] РГИА. Ф. 1347. Оп. 64. Д. 299. Дело о чиншевой шляхте. Л. 6–7.

[2] Там жа. Л. 6–7, 14–19.

глашено, или точно так есть, первым своим рассудком опровергни, а тем возвращение прав и привилегий в своей силе останется, а отчаянным дастся утешение; я стараюсь всеми силами утверждать того невероятие. Заклинаю вас посмотреть на сие не без внимания, узнайте околичности, и найскорее пришлите мне утешение, первое представя о том господину генеральному прокурору, подал я вторичное о сем представление, по которым точно от нашего губернатора представлено будет, вся надежда наша и спасение есть в великодушии его императорского величества. В протчем имею честь быть. Милостивый государь вашего сиятельства покорнейший слуга 25 августа 1800 г.»[1].

У лісце да кіеўскага губернатара Цяплова Казлоўскі выказваў таксама меркаванні, што «если предписание о обложении находящейся тамо чиншевой, околичной и другого звания шляхты подушным окладом приведено будет в действо по Киевской губернии, то предвидит он, что от того неминуемо большая часть переселится за границу, единственно для избежания обесчещивающего платежа», а ў лісце ад 11 верасня нават сыпаў абвінавачваннямі : «...те люди, которые ложными доказательствами стараются умножить подати сего рода, недовольно сведущие политики, или же суть столь хитры, чтобы рассорить 300 000 дворян в самое критическое время, когда большие происшествия рождаются от малых причин; да и заметил он уже некоторое тайное утешение недовольных, которые весьма склонны к возмущению»[2].

Далейшы ход справы набывае ледзь не дэтэктыўны характар, што відаць нават па нешматколькасных архіўных дакументах. Казлоўскі паведамляў у Пецярбург пра хваляванні шляхты ў сувязі з планаваным выданнем закона аб прадастаўленні дакументаў на дваранства ў двухгадовы тэрмін і пашырэнні чутак пра будучыя рэкруцкія наборы са шляхты. У вышэйшых жа колах у запужванні і падбухторванні шляхты да хваляванняў западозрылі самога Казлоўскага. У выніку пасля данясення імператару справы «...о движениях оказанных от чиншевой шляхты...» у Кіеўскую губерню 27 верасня 1800 г. тэрмінова былі накіраваны сенатары П. Тарбееў і П. Мітусаў і прызначаны ваенны губернатар А. Фенш. Усім тром той жа ноччу было загадана накіравацца ў Кіеў. З пасады кіеўскага губернатара ў гэты ж дзень быў зняты Цяплоў, а яго месца заняў павышаны да чыну стацкага саветніка М. Караб'ін[3]. Маршалак Казлоўскі быў арыштаваны і дастаўлены ў Пецярбург для дачы паказанняў і высвятлення, адкуль была ўцечка інфармацыі

[1] РГИА. Ф. 1347. Оп. 64. Д. 299. Дело о чиншевой шляхте. Л. 41–42.

[2] Там жа. Л. 37–38.

[3] Там жа. Л. 19, 20, 24.

пра падрыхтоўку ўказа. У сваіх паказаннях, дадзеных ужо пад арыштам у Пецярбургу, Казлоўскі ўказваў, што стаў перад фактам хваляванняў сярод шляхты, якія былі выкліканы чуткамі аб будучым пагалоўным абкладанні яе падаткамі і рэкруцкімі наборамі. Тлумачыў, што вырашыў заступіцца за шляхту перад генерал-пракурорам, просячы выступіць яго ў абарону прывілеяў шляхты[1]. Па справе дапытвалі нават упраўляючага маёнткам Казлоўскага, шукалі тайныя лісты апошняга да губернатара Цяплова. Дапытвалі і самога Цяплова[2]. У выніку Казлоўскі быў усё ж апраўданы і 19 кастрычніка 1800 г. адпушчаны, захаваўшы нават сваё ранейшае становішча маршалка[3].

Падрыхтаваны ўказ аб вызначэнні двухгадовага тэрміну для прадастаўлення дакументаў дробнай шляхтай быў усё ж адобраны Сенатам і пасля падпісання імператарам у верасні 1800 г. разасланы па губернях. У кастрычніку таго ж года ў Сенат пачалі паступаць рапарты губернскіх праўленняў аб атрыманні ўказа. Што цікава, у тых рапартах, якія захаваліся ў РДГА (а гэта рапарты праўленняў Беларускай, Кіеўскай і Літоўскай губерняў), гаворка ідзе пра адлік двухгадовага тэрміну ўжо не з 1 студзеня 1800 г., а з 1 студзеня 1801 г.[4]

Літоўскае губернскае праўленне сярод іншага інфармавала Сенат аб тым, якія распараджэнні былі ім зроблены па рэалізацыі ўказа: «...указ переведя на польский язык и напечатать нужное число экземпляров». Далей адзначалася, што ўказ будзе разасланы казённым і земскім паліцыям, каб яны яго апублікавалі па паветах і каб ён быў прачытаны ў манастырах і цэрквах «в воскресные и праздничные дни»[5]. Падольскае губернскае праўленне рапартавала аб тым, што пасля атрымання ўказа запатрабавала ад усіх павятовых маршалкаў, каб яны ў адпаведнасці з указам ад 31 мая 1796 г. неадкладна прадаставілі звесткі аб ваколічнай, чыншавай і іншай шляхце ў губернскія дваранскія дэпутацкія сходы – нарэшце схамянуліся! Падольскае праўленне загадвала дваранскім сходам гэтыя дакументы разглядаць без прамаруджвання, а на тых шляхціцаў, хто праз два гады не прадаставіць дакументаў, складаць спісы і перадаваць іх у губернскае праўленне для паведам-

[1] РГИА. Ф. 1347. Оп. 64. Д. 299. Дело о чиншевой шляхте. Л. 38. (Вышэй у тэксце намі адзначалася, што генерал-пракурор Абальянінаў сапраўды даў негатыўную прававую ацэнку абкладання шляхты падаткамі.)

[2] Там жа. Л. 58–60.

[3] Там жа. Л. 39.

[4] РГИА. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 40–43.

[5] Там жа. Л. 44.

лення ў Сенат[1]. Відавочна, што гэта былі толькі чыноўнічыя рыторыка і адпіскі дзеля адрапартавання ў Сенат. Як бачым, у розных месцах рэалізацыя ўказа магла набываць свае формы. Агульнага алгарытму дзеянняў губернскіх улад па рэалізацыі ўказа распрацавана ў Пецярбургу не было. Такая асаблівасць – стыхійнасць і павярхоўнасць указаў – была ўласцівай рысай заканатворчай дзейнасці ўлад імперыі ў канцы XVIII – першыя дзесяцігоддзі XIX ст.[2]

Адначасова з падрыхтоўкай указа аб вызначэнні двухгадовага тэрміну на прадастаўленне дакументаў і доказу дваранства ўлады, мабыць зрабіўшы высновы з папярэдняга няўдалага вопыту, узяліся за справу ўрэгулявання пытання падачы дакументаў на разгляд ад губернскіх сходаў у Герольдыю і ўпарадкавання правіл вядзення радаводных кніг. 2 ліпеня 1800 г. обер-пракурор Сената Абальянінаў, які адказваў і за Герольдыю, каб пазбегнуць памылак падчас запісу ў саслоўі, прапанаваў сенатарам дакладна акрэсленую працэдуру рэгістрацыі шляхты ў заходніх губернях. У рапарце нагадвалася пра неабходнасць прысылання дваранскімі сходамі ў Герольдыю копій з пазначэннем пры кожным прозвішчы пра пададзеныя шляхціцам довады на шляхецтва. У спісах павінна была быць адзначана і іншая інфармацыя пра шляхціцаў паводле далучанага да праекта закона ўзору анкеты, якая складалася з шасці рубрык. Прапановы знайшлі сваё ўвасабленне ў згаданым імператарскім указе ад 25 жніўня 1800 г.[3]

Дакументы Сената, якія захоўваюцца ў РДГА, не адлюстроўваюць у падрабязнасцях самой працы мясцовых камісій. Паказальна, аднак, тое, што за 1801 г. і першую палову 1802 г. у справу «аб разборы шляхты» не было дададзена аніводнага дакумента. Магчыма, гэта было звязана з унутрыпалітычнымі праблемамі – забойствам імператара Паўла I і прыходам да ўлады яго сына Аляксандра, што выклікала змены ва ўрадзе і часова адсунула на другі план праблемы разбору шляхты.

---

[1] РГИА. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 47.

[2] Для добрай ілюстрацыі гэтага можна ўзгадаць Закон ад 5 чэрвеня 1796 г. аб перасяленні шляхты ў Вазнясенскую губерню, які так і не быў рэалізаваны, ці ўказ 19 кастрычніка 1831 г. аб разборы шляхты ў заходніх губернях імперыі і інш. У згаданых цыркулярах закладаліся мэты, але не прадугледжваліся алгарытмы іх рэалізацыі, што станавілася прычынай цяжкасцей у дасягненні вызначанай мэты. Некаторыя законы ўлады ўвогуле вымушаны былі дубляваць.

[3] О содержании в каждом уезде дворянской родословной книги с приложением формы оной. 25 авг. 1800 г. № 19531 // ПСЗ I. Т. 26.

Аднак у верасні 1802 г., бліжэй да заканчэння адведзенага двухгадовага тэрміну падачы шляхецкіх дакументаў, у Сенат паступіла прадстаўленне ад кіеўскага ваеннага губернатара А. Фенша і згаданага ўжо намі вышэй дваранскага губернскага маршалка Казлоўскага. У дакуменце яны заступаліся за дробную шляхту і тлумачылі немагчымасць прадстаўлення ёй дакументаў у вызначаны двухгадовы тэрмін: «...но как сей шляхты в Киевской губерни более 40 000 душь; как тот край недавно от Польши к России присоединенный, прежде нередко подвержен был внутренним мятежам и набегам татарским, во время которых судебные акты, откуда бы дворянство могло заимствовать свои документы, большею частию или сожжены или перешли в ту часть Польши, которая присоединилась к Австрии и Пруссии, куда путешествовать чиншевая шляхта, по бедноте своей, не в состоянии; и как напоследок сама комиссия не может успеть в два года рассмотреть долженствующих поступить в нее более 40 000 дворянских дел...». На падставе гэтага Казлоўскі і Фенш прасілі адтэрміноўкі канчатковай даты прадаставлення шляхтай дакументаў у дваранскія дэпутацкія сходы[1]. 17 снежня 1802 г., толькі праз тры месяцы (!) – звяртае на сябе ўвагу «аператыўнасць» працы тагачасных вышэйшых органаў імперыі – пасля паступлення ў Сенат, гэта прадстаўленне было там разгледжана. У выніку 12 студзеня 1803 г. Сенат пагадзіўся пралангаваць тэрмін яшчэ на год, але адначасова, мабыць падазраючы, што справа ўвогуле мала чым ссунулася з месца, загадаў «...истребовать от дворянских комиссий сведений, сколько из числа упоминаемых чиншевых шляхтичей в минувший двухгодовой срок на шляхетство их вступило в оные доказательства, и какой в рассмотрении оных происходил успех»[2].

Рапарты з губерняў, якія ў сувязі з гэтым загадам пачалі паступаць у Сенат, сведчаць, што разбор дакументаў адбываўся ў губернях з розным поспехам. Так, 10 красавіка 1803 г. беларускі губернатар паведаміў у Сенат: «...требовал я от витебской дворянской выводовой комиссии сведения, сколько из числа чиншевых шляхтичей в минувший двугодичный срок на шляхетство их вступило в оную доказательств и какой в рассмотрении их происходит успех... в истекших 1801 и 1802 гг. с оставшимися от прежних лет нерешенными, вступило доказательств шляхетских, а именно: владеющих собственными землями без крестьян 45, содержащих земли на аренде, закладе и без недвижимого имения находящихся 258, к тому же состоящих в поголовном окладе, а доказы-

[1] РГИА. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 62–63.

[2] Там жа. Л. 65.

вающих свое шляхетство 125, а всего 428, из оных решено 64, а затем нерешенных осталось 364, коих о скорейшем решении, выводовой комиссии я предложил»[1].

Відавочна, што колькасць разгледжаных спраў была кропляй у моры. Губернатар не паведамляў, што масы шляхты (а было яе ў губерні болей 10 тыс. чалавек мужчынскага полу) увогуле не падалі ніякіх дакументаў. Можна толькі здагадвацца пра прычыны пасіўнасці шляхты ў прадастаўленні дакументаў. Магчыма, мясцовая шляхта была кепска праінфармавана аб загадзе або зусім не мела чаго прад'яўляць і не адчувала рэальных небяспечных наступстваў непрадастаўлення дакументаў. Магчыма, што павольнасць і недаўлік шляхты былі выкліканы і недастатковай арганізацыяй дзяржаўнага апарату ў Беларускай губерні ў выніку частых змен меж губерняў на ўсходзе Беларусі. Курляндскі губернатар паведаміў, што вывадаў паступіла 194 і яны ўсе разгледжаны[2]. У Кіеўскай жа губерні маршалкам Казлоўскім, відаць, добра была праведзена інфармацыйная работа. Так, губернатар даносіў аб тым, што дакументы былі прадстаўлены ад 21 910 душ чыншавай шляхты, з якіх разгледжана было толькі 3654, 1443 асобам загадана было прадставіць больш сур'ёзныя доказы, а неразгледжанымі засталіся 16 814 спраў. Мабыць, параўноўваючы звесткі са шляхецкімі спісамі, якія былі зроблены па губерні яшчэ ў 1800 г., кіеўскі губернатар таксама адзначыў у рапарце, што чакаецца прадастаўленне дакументаў яшчэ ад 21 687 душ[3]. Руплівая праца, праведзеная ў Кіеўскай губерні, была бачна па тым, што, акрамя самога рапарта, у Сенат быў накіраваны таксама і спіс з колькасцю шляхты з разбіўкай па паветах[4]. У пачатку 1803 г. у Сенат быў накіраваны чарговы рапарт з Кіеўскай губерні, у якім паведамлялася: «Поелику в декабре месяце прошлого 1802 г. многое количество шляхты приходило с подачею документов, так что не было возможности даже успеть и принять оные; то сие собрание уже не занималось рассматриванием доказательств, но приемом оных, в означенном декабре месяце приняло 5804 дел, рассматриванием коих ныне собрание занимается »[5].

Кіеўская губерня, як вынікала з рапартаў, апярэджвала ўсе заходнія губерні як па тэмпах падачы дакументаў ад шляхты, так і па хуткасці іх разгляду. Што праўда, якасць гэтых дакументальных доказаў

---

[1] РГИА. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 74.

[2] Там жа. Л. 75.

[3] Там жа. Л. 71–72.

[4] Там жа. Л. 80–81.

[5] Там жа. Л. 90.

пакідала жадаць лепшага. Большасць шляхты, што становіцца зразумела з пазнейшых паведамленняў, падавала толькі другарадныя дакументы, у асноўным сведчанні 12 «высакародных» асоб. Такія дакументы па сутнасці не маглі быць дастатковымі доказамі прыналежнасці да дваранства.

Дзеля ўзмацнення жорсткасці патрабаванняў да дакументаў і спробы прыпыніць падачу сведчанняў 12 дваран у якасці доказу дваранства 4 лютага 1803 г. быў выдадзены ўказ «О правилах для единообразного и успешнейшего течения дел в Герольдии», у другім пункце якога было адзначана: «А как небезызвестно, что в дворянских депутатских собраниях по некоторым губерниям вкрадывались злоупотребления и многие включаемы были в сословие дворян, не имевшие никакого права; то в отвращение вредных из сего последствий, подтвердить, дабы при внесении дворянских родов в родословные книги, найстрожайше наблюдаемы были правила, изображенные в 92-й статье дворянской грамоты... 1785 г.; свидетельство же 12-ти благородных особ принималось бы не иначе, как в подкрепление только доказательств... и то таких дворян, в благородстве которых самих нет ни малейшего сомнения...»[1]. З гэтага ўказа мы бачым, што ўлады хіліліся ў бок прызнання дваранства толькі за тымі, адносна каго «не было сумненняў», а гэта ўладальнікі маёнткаў.

Што тычыцца падачы і разгляду дакументаў шляхтай Мінскай губерні, то Сенатам ад губернатара З. Карнеева быў атрыманы арыгінал данясення на польскай мове з перакладам на рускую, які Карнееў атрымаў перад гэтым ад мінскага губернскага маршалка Шырмы-Заблоцкага. У дакуменце паведамлялася пра паступіўшыя на разгляд усяго толькі 1917 вывадаў. Пасля іх разгляду 1241 уладальнік быў прызнаны ў дваранстве, 58 уладальнікаў вывадаў запісаны ў рэвізскія сказкі з данясеннем у Герольдыю, 393 былі разгледжаны і адкладзены да прадастаўлення дадатковых доказаў. Неразгледжанымі засталося 225 вывадаў[2]. Відавочна, што, у адрозненне ад Кіеўскай губерні, дробная шляхта ў Мінскай, гэтаксама як і ў Беларускай губерні, фактычна праігнаравала падачу вывадаў. Дробнай шляхты ў Мінскай губерні было не менш 20 тыс. асоб мужчынскага полу, а ў дваранскі сход паступілі дакументы толькі ад 1/10 наяўнай у губерні шляхты.

Найгоршая ж сітуацыя з падачай і разглядам дваранскіх вывадаў склалася ў Літоўска-Гродзенскай губерні. Разбор дакументаў там

---

[1] О правилах для единообразного и успешнейшего течения дел в Герольдии. 4 февр. 1803 г. № 20608 // ПСЗ I. Т. 27.

[2] РГИА. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 83–84.

у 1802 г. нават яшчэ і не пачаўся. Перад Сенатам за гэта вымушаны быў апраўдвацца сам віленска-гродзенскі грамадзянскі губернатар. Ён ускладаў віну на віленскага губернскага маршалка М. Бжастоўскага, ад якога не атрымаў «дел принадлежащих к гродненской губ.». Прычыны гэтага, як пасля тлумачыў Гродзенскі дваранскі дэпутацкі сход, былі ў тым, што ўзніклі праблемы з раздзелам спраў цэлых родаў, якія пражывалі ў розных губернях, і таму немагчыма было раздзяліць акты, якія захоўваліся ў Вільні, у той час як шляхта знаходзілася ў Гродзенскай губерні: «...возникли проблемы с разделом дел целых фамилий, которые сейчас проживают в разных губерниях и невозможно разделить актов, и что для гродненских обывателей никакие особые книги заводимы не были... что протоколы выводовых комиссий, на которых представляемы были выводы виленского и гродненского дворянства, вносились в один протокол, и потому нет средств разделить тех протоколов»[1].

Праблема мела нібыта чыста тэхнічны характар, выкліканы тым, што Літоўская губерня ў 1801 г. была раздзелена на Віленскую і Слонімскую, а апошняя ў 1802 г. стала называцца Гродзенскай. Дакументы вывадовых камісій былі толькі ў Вільні. Віленскі губернатар пагадзіўся зрабіць копіі з актаў дэпутацыйных пратаколаў, але пры ўмове, што Гродзенская губерня камандзіруе ўласных пісараў. Пісары прыбылі ў Вільню, але праседзелі без справы, паколькі ім не былі прадстаўлены дакументы. Яшчэ вясной 1803 г. гродзенскі губернатар рапартаваў у Сенат, што не зможа ўкласціся ў вызначаны тэрмін – да 25 верасня, паколькі «по ныне дел до выводовой комиссии относящихся из Виленской губерни сюда еще не прислано»[2]. Таму Дзмітрый Кошалеў прасіў у Сената адтэрміноўкі для разгляду спраў вывадовай камісіяй Гродзенскай губерні.

Пасля разгляду гэтай праблемы, а таксама скаргаў і прашэнняў кіеўскага губернатара Казлоўскага Сенат 17 чэрвеня пастанавіў пралангіраваць тэрмін разгляду дакументаў яшчэ на адзін год[3]. Быў вызначаны тэрмін – 1 верасня 1804 г. Адначасова Сенат хацеў адсочваць сам ход праверкі дакументаў – атрымліваць інфармацыю аб поспехах іх разбору. Было загадана паведаміць, колькі вывадаў за перыяд 1800–1803 гг. ужо было разгледжана.

Восенню 1803 г. Сенат быў праінфармаваны аб чарговых цяжкасцях з разборам шляхецкіх дакументаў, якія зноў узніклі ў Віленскай губерні.

---

[1] РГИА. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 92об.–94.

[2] Там жа. Л. 93об.

[3] Там жа. Л. 97–104.

У канцылярыю Сената прыйшоў ліст з прашэннем двух шляхціцаў Троцкага павета, у якім паведамлялася, што разгляд спраў аб дваранстве ў Віленскай губерні па-ранейшаму нават не пачынаўся. З ліста вынікала, што павятовыя сеймікі ў адпаведнасці з загадам выбралі па адным дэпутаце ў вывадовую камісію і накіравалі іх у Вільню. Для працы камісіі аб разборы дакументаў і працы канцылярыі быў нават прызначаны асобны збор са шляхты, які быў сабраны, але «каковой сбор по прошествии трех лет бывшим гражданским губернатором Фрызелем, – як скардзіліся шляхціцы – уничтожен, от чего депутаты не имея содержания, проживать в губернском городе не могли». Скардзіліся шляхціцы і на губернскага маршалка, які «со времени избрания его в сию должность, в дворянском собрании присутствия еще не предпринимал и потому разбора доказательств о шляхетстве окончить к 1-му генваря 1804 года невозможно». Скардзіліся шляхціцы і на былога сакратара дэпутацкага сходу Тадэвуша Кукевіча, абвінавачваючы яго ў тым, што ён «истребовав сам собою с поветов остаточные из собираемых для депутатов складочные обывателями деньги, забрав о выводе шляхетском книги, удерживал у себя, выдав некоторым обывателям от себя о шляхетстве свидетельства и не дав никому и ни в чем отчета, выехал в Санкт-Петербург и находится в должности советником». Шляхціцы прапанавалі дзеля таго, каб забяспечыць пражыванне дэпутатаў у Вільні і каб яны не «проживали своих имений», і на патрэбы дэпутацкай канцылярыі перадаць на пакрыццё гэтых выдаткаў рэшткі грошай, якія заставаліся з сум, што збіраліся шляхтай на паштовых коней, і частка якіх заўсёды заставалася ў павятовых маршалкаў. Апошняе, а мабыць і галоўнае, чаго прасілі шляхціцы, – зноў адтэрмінаваць час разгляду дакументаў яшчэ на два гады[1].

У гэты ж час у Сенат паступіў рапарт і самога віленскага маршалка Бжастоўскага, у якім ён тлумачыў справу некалькі інакш. Ён паведамляў, што ў сувязі з «последними в Польше замешательствами и перенесением отсель метрик (в Санкт-Петербург. – *В. М.*)» шляхце было вельмі цяжка даказваць сваё дваранства, што вывадовая дэпутацыя пад старшынствам яго прадмесніка графа Тышкевіча вымушана была прыпыніць сваю дзейнасць, каб даць шляхце час для пошуку дакументаў, а паколькі час для падачы дакументаў зараз падыходзіў ужо да заканчэння, ён вырашыў аднавіць дзейнасць дэпутацыі, але прадбачыць, што за такі кароткі час няма магчымасці разгледзець усе дакументы. У сувязі з гэтым Бжастоўскі прасіў «дабы облегчить способы в отыскании доказа-

[1] РГИА. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 102–102об.

тельств убогою шляхтою, которая по бедности своей не в состоянии ехать за ними в столицу, где находятся все литовские метрики, продолжить по оной губернии для выводов дворянских положенный срок»[1]. Такі ж рапарт 14 кастрычніка 1803 г. Бжастоўскі накіраваў міністру ўнутраных спраў В. Качубею[2].

Змест дакументаў можа небеспадстаўна сведчыць, што дваранскія дэпутацкія сходы ўсяляк імкнуліся адкласці дату заканчэння прадастаўлення дакументаў на разгляд. Рапарт у Сенат, адасланы 5 студзеня ад валынскага губернскага маршалка, яшчэ больш дазваляе пераканацца ў гэтым. Маршалак знаходзіць новыя прычыны, каб адтэрмінаваць дату прадастаўлення дакументаў. Паведамляў, што шляхта ў Луцкім павеце з прычыны аддаленасці ад губернскага горада і не маючы ў сувязі з гэтым магчымасці непасрэдна прадаставіць доказы ў дваранскую камісію, перадала іх у канцылярыю луцкага маршалка, але ў горадзе адбыўся пажар і канцылярыя разам з паперамі згарэла. Ці выпадкова згарэла – сёння можна толькі здагадвацца. Пажар, нібыта, пазбавіў шляхту дакументаў і магчымасці прадаставіць доказы ў вызначаны тэрмін. Акрамя таго, губернскі маршалак паведамляў, што маршалкі паветаў пастаянна атрымлівалі ад шляхты прашэнні аб тым, што яны лічаць сведчанні аб іх дваранстве ад 12 іншых дваран дастатковымі доказамі і прадастаўляюць іх у камісію, аднак, паколькі такія доказы не лічацца дастатковымі, шляхціцы вымушаны шукаць здавальняючых доказаў у розных аддаленых месцах і нават за мяжой. У сувязі з гэтым валынскі маршалак прасіў за шляхту «...поелику государь император милостиво приемлет просьбы каждого верноподданного, просит он от имени дворян представить его императорскому величеству о всемилостивейшем продолжении на дворянство доказательств срока на один год, изъясняя, что ежели сего благодеяния шляхте оказать не можно будет, то она, не имея времени удостоверить правительство о роде своем и опасаясь лишиться дворянской прерогативы, может коснется искать прибежище в местах заграничных»[3]. Звернем увагу на тое, што зместам рапарта выказваецца непасрэдная зацікаўленасць валынскага маршалка ў адтэрміноўцы канчатковай даты падачы дакументаў, а таксама на паўтор папярэджання пра магчымую эміграцыю шляхты за мяжу, калі тэрмін падачы доказаў не працягнуць. Нагадвае гэта папярэджанне і рапарт кіеўскага маршалка Казлоўскага за 1800 г., дзе ён таксама папярэджваў пра магчымую эміграцыю шляхты.

---

[1] РГИА. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 103.

[2] Там жа. Л. 113.

[3] Там жа. Л. 103об.

1 мая 1803 г. аб прадаўжэнні тэрміну падачы дакументаў з-за немагчымасці ўкласціся ў тэрмін, а таксама перашкод і шматколькаснасці дваранскіх спраў зноў прасіў і згаданы кіеўскі маршалак Казлоўскі, далучаючы да свайго прадстаўлення ў Сенат яшчэ і просьбу дазволіць *прымаць* у якасці доказу дваранства сведчанні 12 дваран[1]. Несумненна тут тое, што Казлоўскі быў найбольш упартым і паслядоўным абаронцам інтарэсаў дробнай шляхты.

Цікава, што на бок маршалкаў часам станавіліся і губернскія ўлады. Так, у лісце да міністра ўнутраных спраў Качубея спыніць разгляд спраў, «чтобы состояние чиншевой шляхты довести до большей от него пользы государству с собственною их выгодою», прасіў, відаць не без уздзеяння Казлоўскага, і кіеўскі грамадзянскі губернатар Панкрацьеў[2]. Падтрымаў ён і довады маршалка Казлоўскага аб прадаўжэнні тэрміну падачы дакументаў у Сенат у сваім прадстаўленні ад 18 чэрвеня 1803 г. Панкрацьеў адзначаў, што разбор шляхецкіх дакументаў у губерні паказвае вельмі сціплыя вынікі – з 3654 душ, чые дакументы былі разгледжаны, знайшлося толькі 8, якім было зусім адмоўлена ў дваранскіх правах. Менавіта па гэтай прычыне Панкрацьеў лічыў непатрэбным «затруднять участь» усёй шляхты дзеля такіх нікчэмных вынікаў. Да дакумента быў прыкладзены спіс з вынікамі разбору дакументаў на 1803 г.[3] (табл. 1).

Як вынікае з прыведзеных звестак, разгляд доказаў аб дваранскім паходжанні меў некаторыя вынікі толькі ва ўкраінскіх губернях, у той час як у беларуска-літоўскіх у 1803 г. ён яшчэ фактычна не пачынаўся. Ва ўкраінскіх жа губернях праблем таксама было шмат. Галоўная з іх была ў тым, што, акрамя сведчанняў 12 дваран, абсалютная большасць шляхты не магла прадаставіць нічога. Фарсіраванне ўладамі колькасных паказчыкаў разбору дакументаў, адбівалася і на якасці. Але галоўнае было ў тым, што сапраўдных дакументаў у большасці шляхты проста не было. Так, у рапарце ў Сенат валынскі і падольскі генерал-губернатар даносіў, што ў Падольскай губерні «из 8900 фамилий показывающих себя дворянского происхождения...едва 10-я часть представила на то звание документы, а прочие... кроме свидетельств 12-ти особ не предъявили никаких других доказательств, ссылаясь, что таковые имеют в Цесарской империи и в Прусском королевстве»[4].

---

[1] РГИА. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 103об.

[2] Там жа.

[3] Там жа. Л. 104.

[4] Там жа. Л. 152.

*Табліца 1*

| Губерня | Колькасць шляхты (душ) | Прадстаўлена доказаў | Разгледжана доказаў | Яшчэ падлягае разгляду | Чакаецца прадстаўлення |
|---|---|---|---|---|---|
| Кіеўская | 43 595 | 21 900 | 3653 | 39 944 | 23 140 |
| Мінская | 24 514 | 1917 | 1299 | 23 215 | 22 597 |
| Валынская | 38 453 | 22 058 | 22 058 | 16 394 | 16 394 |
| Падольская | 50 753 | 8865 | 4078 | 46 675 | 41 888 |
| Беларуская* | 428 | 428 | 64 | 364 | – |
| Літоўская | 61 350 | ** | ** | 61 350 | 61 350 |
| Курляндская | 635 | 194 | 194 | 441 | 441 |
| Разам | 219 629 (219 728. – *В. М.*) | 54 998 (55 362. – *В. М.*) | 31 346 | 188 387 | 166 174 |

* Даныя па колькасці шляхты ў Беларускай губерні вельмі недакладныя, што, верагодна, было звязана з тым, што Беларуская губерня ў 1802 г. была скасавана, а яе тэрыторыі ўвайшлі ў склад Віцебскай і Магілёўскай губерняў, звесткі пра колькасць шляхты і разгляд дваранскіх вывадаў па якіх у спісе таксама адсутнічаюць. Магчыма і другое тлумачэнне: у гэтым спісе сярод шляхты ўлічаны толькі тыя, хто быў запісаны ў асобныя шляхецкія сказкі ў 1795 г. Абсалютная ж большасць дробнай шляхты земляў першага падзелу была ўключана ў аклад яшчэ ў 1772 г., і таму звесткі аб ёй не ўносіліся ў шляхецкія сказкі. У спіс маглі ўвайсці тыя, хто не трапіў ва ўлік у 1772 г. або пераехаў на гэтыя землі ў пазнейшы час і быў уключаны пры наступных рэвізіях у лік шляхты.

** У спісе было адзначана: «Действие комиссии было остановлено до ноября 1803 г., чтобы за то время шляхте отыскать доказательства».

Кіеўскі губернатар П. Панкрацьеў, мабыць усведамляючы марнасць патрабавання ад дробнай шляхты дакументаў, прапанаваў іншы выхад адносна арганізацыі яе ладу жыцця і прававога становішча. У агульных рысах ён апісаў Сенату свой праект – прызнаць усе правы і перавагі чыншавай шляхты і не патрабаваць пацвярджэнняў, паколькі, нібыта, сваякі ў шляхты жывуць у Прусіі і Аўстрыі, куды даехаць яна не можа, а таму прапанаваў выдзеліць тым, хто захоча, з казённых ці старасцінскіх земляў па дзве дзесяціны з платай за яе па 50 кап. у казну, прадаставіць шляхце свабоду выбіраць род службы, а з асоб,

якія не могуць уступіць у вайсковую ці стацкую службу, утварыць унутраную земскую паліцыю, паставіўшы ім задачу быцьураднікамі, выконваць абавязкі соцкіх і дзясяцкіх[1]. Фактычна праект прадугледжваў надзяленне дробнай шляхты дзяржаўнай арэнднай зямлёй і ўключэнне яе ў сістэму мясцовага кіравання. Забягаючы наперад, адзначым, што праект Панкрацьева прыняты не быў.

Заступаліся за дробную шляхту і некаторыя іншыя высокія чыны. Так, у падтрымку прашэнняў ад губернскага маршалка і аб адтэрміноўцы прадастаўлення дакументаў шляхтай «на 3 или хотя бы на 2 года» пісаў міністру ўнутраных спраў Качубею таксама і літоўскі ваенны губернатар. Свае просьбы ён аргументаваў стратай і перамяшчэннем дакументаў падчас паўстання 1794 г. Звяртаў увагу таксама і на цяжкасці з прадастаўленнем вывадаў шляхтай па прычыне раздзялення дакументаў Літоўскай губерні паміж новаўтворанымі Віленскай і Гродзенскай губернямі[2].

Такім чынам, адведзены шляхце двухгадовы тэрмін на падачу дакументаў указам у 1800 г. і працяг гэтага тэрміну на адзін год у 1802 г. былі зноў правалены. На цэнтральныя ўлады аказваўся ціск з боку мясцовых маршалкаў і нават губернатараў просьбамі адкласці канчатковы тэрмін падачы дакументаў. Цікава, што маршалкі і губернатары ціснулі на цэнтральныя ўлады, як кажуць, адзіным фронтам. Асноўнымі довадамі на карысць адтэрміноўкі было тое, што шмат дакументаў знаходзіцца за мяжой – у Прусіі і Аўстрыі (Кіеўская, Падольская і Валынская губерні), што ўзніклі праблемы з раздзелам дакументаў з-за адміністрацыйна-тэрытарыяльных пераўтварэнняў (Віленская і Гродзенская губерні), што частка дакументаў была страчана падчас Уманскай разні 1768 г. і паўстання 1794 г. (Кіеўская, Падольская, Віленская і Літоўская губерні), што частка дакументаў згарэла ў выніку пажару ў канцылярыі луцкага павятовага маршалка (Валынская губерня), што актавыя кнігі былі вывезены ў Пецярбург (Віленская і Гродзенская губерні). Акрамя таго, у сваіх рапартах кіеўскі і валынскі маршалкі папярэджвалі Пецярбург пра небяспеку, звязаную з адабраннем дваранскіх правоў у дробнай шляхты і магчымасцю ў выніку масавай эміграцыі шляхты ў Аўстрыйскую імперыю. Выхад з сітуацыі губернскія маршалкі бачылі ў адтэрміноўцы (валынскі, віленскі, гродзенскі, кіеўскі) часу падачы дакументаў і дазволе прымаць у якасці асноўных доказаў дваранства сведчанні 12 дваран. У падтрымку прашэнняў губернскіх маршалкаў выступілі таксама віленскі і кіеўскі

[1] РГИА. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 130–131.

[2] Там жа. Л. 147.

губернатары, прычым апошні выказаў ідэю ўвогуле адмовіцца ад разбору дакументаў і прапанаваў уласны праект арганізацыі прававога статусу дробнай шляхты.

Мы не ведаем дакладна, якія з гэтых аргументаў паўздзейнічалі найболей на Сенат і імператара, але адназначна можна сказаць – для Пецярбурга было відавочна, што поспехі ў правядзенні разбору дакументаў шляхты былі вельмі сціплыя. Больш за тое, перад урадам маячыла пагроза масавай эміграцыі шляхты з далучаных губерняў.

У выніку ўказам 28 ліпеня 1804 г. была дадзена чарговая адтэрміноўка ў падачы дакументаў яшчэ на два гады – да 1 студзеня 1806 г. Аднак гэта «індульгенцыя» не была бясплатнай. Сенат хацеў адсочваць сам ход разбору па губернях, таму патрабавалася прадаставіць звесткі, колькі канкрэтна шляхты мае дакументальныя доказы за мяжой[1]. Адносна выказанай некаторымі маршалкамі прапановы прымаць у якасці асноўных сведчанні 12 асоб ва ўказе быў дадзены адназначна адмоўны адказ. Патрабавалася працягваць прымаць і разглядаць дакументы, пры гэтым асаблівая ўвага была звернута на віленскага маршалка, які яшчэ не прадаставіў ніякіх звестак.

Відавочна, што ў Сенаце мелі інфармацыю пра тое, што спасылка на знаходжанне дакументаў за мяжой з'яўляецца хутчэй улоўкай, чым рэальным станам рэчаў. Бачым гэта па рапартах ад губернскіх маршалкаў. У першых з тых рапартаў, якія ўвогуле паступілі ад Магілёўскай і Віцебскай губерняў, адзначалася, што ў Віцебскай губерні шляхціцаў, якія маюць дакументы за мяжой, было толькі 4 прозвішчы, а ў Магілёўскай «ни одного дела о таковых шляхтичах... в заграничных местах... не имеется»[2]. З Кіеўскай губерні былі атрыманы звесткі толькі аб 160 такіх шляхціцах[3]. Цікава, што кіеўскі маршалак першапачаткова паведамляў, што такой шляхты вельмі шмат. Такая адметнасць гэтых губерняў выглядала, канешне, вельмі падазронай і змушала ўлады засумнявацца і ў справядлівасці апелявання шляхтай Падольскай і Валынскай губерняў да факта знаходжання дакументаў за мяжой.

Вартая ўвагі і яшчэ адна акалічнасць. Нягледзячы на правілы разгляду дваранскіх спраў і выключэнне зацверджаных у дваранстве Сенатам з акладу, мелі месца выпадкі, калі мясцовыя казённыя палаты выключалі з акладу шляхціцаў толькі па адных рашэннях дваранскіх

[1] РГИА. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 127–135.

[2] Там жа. Л. 154, 157.

[3] Там жа. Л. 155–156.

дэпутацкіх сходаў. Улады вымушаны былі двойчы выдаваць адпаведнае распараджэнне – 19 красавіка 1802 г. і 18 студзеня 1804 г.[1]

Нягледзячы на дадаткова адведзены тэрмін падачы дакументаў, яна зноў зацягвалася. У выніку ў 1806 г. улады вымушаны былі працягнуць тэрмін падачы дакументаў аж да 1 студзеня 1808 г. Тым разам гэта часовая індульгенцыя павінна была каштаваць шляхце, маршалкам і губернатарам яшчэ даражэй. Улады вырашылі стварыць камітэт для складання спецыяльнага «Палажэння аб чыншавай шляхце». У гэты камітэт губернатары павінны былі перыядычна паведамляць пра стан спраў з разглядам дакументаў і ўладкаваннем дробнай шляхты[2].

На практыцы, як і ў папярэдні двухгадовы перыяд, у 1806–1808 гг. справа з падачай дакументаў і іх разборам фактычна не ссунулася з месца. Звяртае на сябе ўвагу, што за перыяд пасля 1806 г. значна зменшыўся і дакументаабарот Сената адносна разбору шляхты, а ўлады гублялі настойлівасць у вырашэнні праблем з падачай дакументаў на разгляд. Верагодна, прычыну гэтаму сапраўды трэба шукаць у складанай знешнепалітычнай абстаноўцы – Напалеонаўскіх войнах і нестабільнасці на заходніх межах імперыі, утварэнні Герцагства Варшаўскага і эміграцыі туды шляхты. У такой сітуацыі, калі імперыя знаходзілася на грані вайны, магло падавацца небяспечным раздражняць шляхту яшчэ і актывізацыяй разбору доказаў яе правоў на дваранства.

Цалкам лагічным у такой сітуацыі бачыцца поўная адмова расійскіх улад у 1808 г. ад вызначэння тэрмінаў падачы дакументаў на разгляд і адкладанне канчатковага тэрміну на нявызначаны час. Ва ўказе ад 6 сакавіка 1808 г. у даволі лагоднай танальнасці пра шляхту адзначалася: «Из дошедших к нам от местных губернских начальников донесений о положении чиншевой шляхты в присоединенных от Польши губерний обитающей, мы усмотрели: 1) что требуемые от ней доказательства по многим уважительным причинам не могли быть предъявлены в сроки, Правительствующим Сенатом назначенные, 2) что по утрате сих документов по затруднениям в отыскании оных и по неимуществу людей сих, известный для того срок определен быть не может. По сим уважениям мы повелеваем: 1) истекший 1-го января настоящего года (1808 г. – *В. М.*) последний срок на предъявление от жительствующих в присоединенных от Польши губерниях чиншевой шляхты доказа-

[1] *Terlecki I.* Heroldya i porządek otrzymywania od niej utwierdzenia szlachectwa. S. 36.

[2] РГИА. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 166–168.

тельств на дворянство продолжить до дальнейшего впредь распоряжения, 2) предписать, чтобы независимо от сего доказательства на дворянство от шляхты чиншевой как поступившие, так и впредь поступить имеющие, разбираемы были в учреждениях в упомянутых губерниях выводовых комиссиях по установленному порядку»[1].

Выданню ўказа 1808 г. папярэднічала праца камісіі ў складзе міністраў і найбольш уплывовых асоб з атачэння Аляксандра І. Яна, яшчэ раз разгледзеўшы справу з правядзеннем разбору і абкладання шляхты падаткамі, прызнала слушнымі аргументы супраць гэтага, адным з якіх было тое, што менавіта знешнепалітычная абстаноўка не спрыяе адкрытым дзеянням у такім кірунку. Значную ролю ў адстойванні захавання правоў шляхты адыгралі князь А. Чартарыйскі і граф Ф. Чацкі[2].

**Праекты перасялення і прыцягнення шляхты на вайсковую службу.** У гады кіравання Паўла І і перадваенны перыяд царавання Аляксандра І у галовах некаторых саноўнікаў працягвалі існаваць і праекты перасялення і прыцягнення шляхты на вайсковую службу. У 1797 г. смаленскім і пскоўскім ваенным губернатарам М. Філосафавым прадпрымаліся спробы сфарміраваць з «літоўскіх татар» па іх жа просьбе легкаконны полк па прыкладзе таго, як такія палкі існавалі ў часы Рэчы Паспалітай. З такой прапановай да Філосафава звярнуўся ў Мінску з петыцыяй мясцовы муфтый. Аднак, паколькі ахвотных татар аказалася недастаткова для фарміравання асобных палкоў, у іх склад пачалі прымаць і чыншавую шляхту. У выніку былі сфарміраваны тры конныя палкі – Літоўскі, Татарскі і Польскі. Дробная шляхта магла паступаць на службу і яшчэ ў два палкі, якія фарміраваліся на былых беларуска-ўкраінскіх землях Рэчы Паспалітай з асоб, як было адзначана, «в подушный оклад не положенных». Месцам фарміравання аднаго з такіх палкоў быў Мінск[3]. Праект прыцягнення шляхты да вайсковай службы па прыкладзе казакоў у 1808 г. склаў таксама валынскі грамадзянскі губернатар М. Камбурлей. Праект разглядаўся ў камісіі, але да яго рэлізацыі справа не дайшла[4].

---

[1] О разборе доказательств на дворянство, представляемых от жительствующей в присоединенных от Польши губерниях чиншевой шляхты. 6 марта 1808 г. № 22873 // ПСЗ І. Т. 30.

[2] *Beauvois D.* Trójkąt ukraiński ... S. 118–120.

[3] *Лукашэвіч А. М.* Чыншавая шляхта Беларусі ў ваенных планах Расійскай імперыі (канец XVIII ст. – 1812 г.) // Пр. гіст. фак. БДУ. Вып. 2. Мінск, 2007. С. 47 ; *Beauvois D.* Trójkąt ukraiński ... S. 121.

[4] *Beauvois D.* Trójkąt ukraiński ... S. 120–121.

У акружэнні Аляксандра І таксама не забыліся пра ідэю перасялення шляхты. 11 жніўня 1802 г. праект перасялення і ўтварэння шляхецкай калоніі ў вёсцы Тэрноўка пад горадам Мікалаевам ва Украіне Аляксандру І падаў тытулярны саветнік, паляк на расійскай службе Вінцэнт Навасельскі. Імператар праз тайнага саветніка Навасільцава загадаў перадаць праект на разгляд групе сваіх так званых «маладых сяброў». Не будзем занадта паглыбляцца ў разгляд падрабязнасцей праекта Навасельскага – Д. Бувуа ў адной са сваіх прац зрабіў гэта даволі падрабязна. Адзначым толькі, што праект быў даволі лагодны ў адносінах да шляхты і прадугледжваў яе добраахвотнае перасяленне з перадачай ёй на новым месцы зямлі на вечнае валоданне і без страты шляхецкіх правоў. У 1803 г. таксама быў падрыхтаваны і пададзены Аляксандру І праект перасялення чыншавай шляхты міністра юстыцыі Гаўрыіла Дзяржавіна. Што праўда, апошняга нельга назваць асобай, якая доўга пратрымалася ў давераным атачэнні імператара. Дзяржавін, вядомы сваім неспрыяльным стаўленнем да дробнай шляхты і яўрэяў – дзвюх катэгорый насельніцтва, якія так выразна не ўпісваліся ў сацыяльную структуру расійскага грамадства, прапанаваў выселіць дробную шляхту ў Саратаўскую, Херсонскую і Астраханскую губерні, тым самым «пазбавіўшы» магнатаў ад яе натоўпаў, «схільных да бунтарства». Перасяленні дапамаглі б засяліць ускраіны імперыі і пазбыцца непажаданага шляхецкага насельніцтва ў заходніх губернях. Праект Аляксандрам І быў аддадзены на разгляд Камітэта па ўладкаванні яўрэяў, у якім асноўная роля належала А. Чартарыйскаму і С. Патоцкаму, а яны, бароннячы рудыменты сацыяльнай структуры Рэчы Паспалітай, катэгарычна адмовіліся ад магчымасці яго рэалізацыі[1].

Сярод іншых праектаў перасялення шляхты з беларуска-літоўскіх і ўкраінскіх губерняў, якія таксама заслугоўваюць увагі, неабходна ўзгадаць праект двух палякаў – Гарахоўскага і Яворскага, якія змаглі падаць петыцыю графу Качубею, дзе абяцалі, што на ўласныя сілы з асяроддзя чыншавай шляхты знойдуць 400 чалавек, якія жадаюць перасяліцца ў Херсонскую губерню, што не хапае толькі ўказа дзеля таго, каб шляхта сама ахвотна паспяшалася апрацоўваць тамашнюю зямлю і верна служыць айчыне. Але, ведаючы прэцэдэнты і агульнае нежаданне шляхты зрывацца з родных месцаў, Качубей не накіраваў петыцыю на далейшы разгляд[2].

---

[1] *Sikorska-Kulesza J.* Deklasacja drobnej szlachty na Litwie i Białorusi w XIX wieku. S. 15 ; *Beauvois D.* Trójkąt ukraiński ... S. 90–92.

[2] *Beauvois D.* Trójkąt ukraiński ... S. 90–92.

Нявызначанасць становішча вялізнай колькасці «праблемнай» для ўлад шляхты заходніх губерняў патрабавала нейкага ўрэгулявання, але пайсці на радыкальныя меры ўлады не адважваліся па знешнепалітычных прычынах. Таму ў вышэйшых колах усё часцей разглядаліся комплексныя праекты, якія ўключалі ў сябе кампаненты, звязаныя не толькі з разборам шляхты, але таксама з «уладкаваннем» шляхты. Уладкаванне сярод іншага прадугледжвала прыцягненне шляхты на дзяржаўную і вайсковую службу, а таксама частковае добраахвотнае або прымусовае высяленне і інш.

Так, у 1808 г. на разгляд Неадменнага савета быў прадстаўлены праект закона «Аб шляхце», які складаўся са 170 пунктаў і прадугледжваў адмену далейшага разбору дакументаў і ўнармаванне адносін паміж чыншавікамі і памешчыкамі, якія ўскладніліся па прычыне жадання апошніх прыпісаць чыншавікоў да сваіх маёнткаў ці пазбавіць іх чыншавых земляў. Прапаноўвалася перавесці вечначыншавыя адносіны, якія грунтаваліся на вуснай дамове, на складанне пісьмовых кантрактаў. Імператар, аднак, не падпісаў праект, і ён застаўся толькі адным з нерэалізаваных праектаў уладкавання шляхты.

27 ліпеня 1808 г. Неадменны савет зноў звярнуўся да пытання аб стварэнні вайсковых падраздзяленняў з чыншавай шляхты. Пытанне ў Неадменным савеце ўжо разглядалася комплексна, разам з пытаннем аб «уладкаванні» ўсёй катэгорыі чыншавай шляхты[1] – «О переписи и устройстве чиншевой шляхты». Савет разгледзеў усе прапановы па гэтым пытанні і выдзеліў дзве асноўныя праблемы: «устройство вообще состояния шляхты, под разными ее именованиями в разных губерниях жительствующей» і «способы к обращению сего рода в воинскую службу». Свае меркаванні выказалі Савет, генерал Мікалай Філосафаў, ваенны міністр Аляксей Аракчэеў. Сярод выказаных выдзялялася адна з прапаноў новапрызначанага ваеннага міністра Аляксея Аракчэева – перасяліць чыншавую шляхту на працягу года на казённыя землі ў расійскія губерні. Паводле яго меркавання, для такой шляхты можна было б прызначыць дапамогу па прыкладзе каланістаў. Адначасова прадугледжвалася правядзенне вярбоўкі дробнай шляхты на вайсковую службу. Гэта відавочна вырашала б дзве важныя задачы – давала б дадатковую колькасць войска і служыла б дзейсным сродкам элімінацыі часткі дробнай шляхты з заходніх губерняў, а фактычна спрыяла б яе высяленню, чаго і хацелі дамагчыся ўлады. У згаданым праекце Аракчэева толькі тая шляхта, якая мела ўласныя землі,

[1] Архив Государственного совета. Т. 3 : в 2 ч. 1878. Ч. 1. Стб. 744–754.

вызвалялася ад перасялення, але і яна павінна была б, у выпадку калі б праект быў зацверджаны, усіх сваіх сыноў, акрамя аднаго, таксама аддаваць на службу. За магчымыя заслугі на вайсковай службе планавалася ўзнагароджваць шляхту зямлёй, але надзяляць яе толькі ва ўнутраных губернях імперыі[1]. Неадменны савет выказаўся за фарміраванне палкоў з не запісанай у аклад чыншавай шляхты. Перад гэтым прапаноўвалася сабраць звесткі з месцаў, каб распрацаваць умовы яе прыёму ў войска. Збор звестак быў даручаны грамадзянскім губернатарам. Генерал Філосафаў настойваў на добраахвотна-прымусовым наборы – па 1 чалавеку з кожных 20 пры кожным рэкруцкім наборы, але толькі пры адсутнасці добраахвотных жадаючых. Ваенны міністр А. Аракчэеў прапанаваў складаны праект з разборам шляхты на тры групы, перасяленнем часткі беззямельнай шляхты ў рускія губерні, аднак пры гэтым асноўным стымулам для яе вайсковай службы ён лічыў грашовае ўзнагароджанне[2]. Адбыліся абмеркаванні праектаў, але ні праект А. Аракчэева, ні прапановы М. Філосафава і Савета не набылі сілу закона, а масавыя перасяленні не сталі рэальнасцю.

Чарговы раз на дробную шляхту вайскоўцы кінулі позірк тады, калі Расія пачала падрыхтоўку да вайны з Францыяй. У лютым 1811 г. ваенны міністр М. Барклай дэ Толі прадставіў Аляксандру I даклад «О комплектовании вербуночных полков чиншевыми дворянами»[3]. Дзеля таго каб даць ім «легчайшие способы обратиться к первобытному своему достоянию», прапаноўвалася прыцягваць дробную шляхту на пяцігадовую добраахвотную вайсковую службу, якая давала б шляхце асобыя правы і перавагі. Планавалася фарміраванне толькі аднаго палка – 1065 чалавек. Нягледзячы на тое што план абмяркоўваўся на вышэйшым узроўні, ён так і застаўся на паперы.

Верагодна, распрацоўка гэтага плана была выклікана вынікамі рэвізіі 1811 г. па Кіеўскай губерні. Міністэрства фінансаў было заклапочана тым, што колькасць шляхты ў губерні ў параўнанні з вынікамі папярэдняй рэвізіі 1795 г. не толькі не зменшылася, а нават істотна павялічылася. Было загадана падчас рэвізіі запісваць у асобныя шляхецкія сказкі толькі тых, хто быў запісаны ў сказкі ў 1795 г. Аказалася, што такіх было 36 520, а 4524 чыншавікі захацелі запісацца ўпершыню, а таксама 7883 асобы службовай шляхты «при домах по-

[1] Архив Государственного совета. Т. 3, ч. 1. Стб. 752–754.

[2] *Лукашэвіч А. М.* Чыншавая шляхта Беларусі ў ваенных планах ... С. 47–48.

[3] Там жа. С. 48–49 ; Отечественная война 1812 г. Материалы Военно-ученого архива Главного штаба. Отд. I : в 22 т. СПб., 1900–1914. Т. 2 / Воен.-учен. ком. Гл. штаба. 1901. С. 76–79.

мещичьих и в разных экономических должностях» (усе мужчынскага полу) таксама не былі раней запісаны ў шляхецкія сказкі. Па двух паветах быў праведзены падрабязны разбор. Аказалася, што амаль ніхто з гэтых 12 407 асоб не меў не толькі дакументаў аб запісе ў шляхту па іншых паветах, але і ніякіх іншых дакументаў. Разгляд справы быў даручаны градскім і земскім паліцыям. Высветлілася, што многія з гэтых шляхціцаў былі родам з «літоўскіх губерняў», сярод якіх называлася і Мінская. Большасць шляхціцаў добра валодала або «приучилась» гаварыць па-польску і гэтым вельмі адрознівалася ад мясцовага сялянства, і таму пры рэвізіях яе без сумненняў запісвалі як шляхту[1]. Цікавы факт, які сведчыць не толькі пра міграцыю шляхты, але і пра падыходы пры правядзенні рэвізій. Улады падазравалі, што такім чынам у шляхту запісвалася мноства людзей, якія ёй не былі. Гэты факт у выніку стаў пасля прычынай выдання Закона ад 31 студзеня 1816 г. аб разборы чыншавай шляхты ва ўсіх далучаных ад Рэчы Паспалітай губернях[2]. Справу ініцыявала зноў фінансавае ведамства, якое хваляваў факт, што гэтыя людзі застаюцца вызвалены ад падаткаў. Але перад вайной 1812 г. гэта справа яшчэ не рушыла.

Ужо пасля, у 1816 г., высветлілася, што і па Мінскай губерні шмат «новай» шляхты запісалася ў шляхецкія сказкі, а казённая палата за перыяд з 1795 па 1811 г. выключыла немалую колькасць асоб з падушнага акладу ў абыход правіла разгляду такіх спраў у Сенаце[3].

Аднак становішча з разборам дакументаў шляхты заставалася ўсё роўна фармальна адкрытым некалькі наступных гадоў да і пасля вайны 1812 г. Далейшае сваё развіццё палітыка па разборы шляхты атрымала ўжо толькі пасля 1815 г.[4]

---

[1] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 1. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 196–199.

[2] О учинении по польским губерниям разбора неизвестным людям ...

[3] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 1. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 301–305об., 319 (рапарт Мінскага губернскага праўлення ў Сенат за жнівень 1818 г.).

[4] Выключэннем з'яўляецца толькі ўказ 29 сакавіка 1812 г., у якім паводле разгляду справы магілёўскага шляхціца Атрушкевіча было загадана прызнаваць шляхецтва толькі за тымі, чые продкі былі зацверджаны ў гэтым званні. Не маглі па-за ўвагай улад застацца звесткі шостай рэвізіі, якая паказала, што колькасць шляхты ў заходніх губернях за папярэдні перыяд не толькі не зменшылася, а нават павялічылася, што, магчыма, і стала прычынай выдання ўказа на базе справы Атрушкевіча – уладамі ўсё ж кіравала імкненне спыніць рост колькасці дваранства заходніх губерняў (ПСЗ I. Т. 32. № 25064. О признании в шляхетском достоинстве тех только лиц, коих предки были в оном утверждены).

## ПРАЕКТЫ РАЗБОРУ ШЛЯХТЫ Ў 1815–1831 гг.

Складаная знешнепалітычная абстаноўка і ваенныя дзеянні 1812 і 1815 гг., Венскі кангрэс фактычна пакідалі праблему нявырашанасці прававога становішча мас дробнай шляхты ў імперыі да лепшага часу. Да актыўных дзеянняў у гэтым кірунку ўлады вярнуліся толькі ў 1815–1816 гг.

Шляхціцы працягвалі змагацца за пацвярджэнне дваранскага статусу ў гэты перыяд. Яны неслі дакументы на разгляд і дамагаліся выключэння з акладу і прыгонніцкага падданства. Па адной з такіх спраў – шляхціцаў Урбановічаў з Лідскага павета – Сенатам 15 жніўня 1815 г. быў ініцыяваны разгляд. Урбановічы па рэвізіях 1795 і 1811 гг. былі запісаны сярод сялян князёў Радзівілаў. Пры гэтым яны даказалі дваранства і былі ўключаны ў першую частку радаводнай кнігі Гродзенскай губерні. У выніку разгляду справы Сенат пастанавіў, што паколькі аб непрыналежнасці іх памешчыку ніякага судаводства ўчынена не было, то «и представить им Урбановичам прежде доказать, что они не суть крестьяне; когда же на свободу свою одержат судебные приговоры... тогда могут они просить восстановление их в дворянское сословие»[1]. Цікава, што разгляд справы адбыўся ў 1815 г., а ўказ з'явіўся толькі ў 1818 г. Не бяромся з дакладнасцю тлумачыць разбежнасць у часе, але верагодна, што рашэнне аб шырокім распублікаванні ўказа было прынята пазней, а менавіта 31 кастрычніка 1818 г., у сувязі або з паступленнем іншых падобных спраў у Сенат, або з разглядам іншых спраў адносна шляхты ў 1818 г., што натхніла Сенат на публікацыю свайго рашэння па справе 1815 г. у асобным указе толькі ў 1818 г.

31 студзеня (20 студзеня)[2]1816 г. Сенат вярнуўся да справы з «лішняй» і «самазваннай» шляхтай, выяўленай па рэвізіі 1811 г. у Кіеўскай губерні. У выніку разгляду справы Сенат распарадзіўся праводзіць разбор чыншавай шляхты па ўсіх заходніх губернях, усклаўшы гэтыя абавязкі на камісіі па правядзенні новай рэвізіі, якія павінны былі дзейнічаць да 15 сакавіка 1817 г. У шляхецкія сказкі маглі быць запісаны

[1] Об обязанности крестьян, отыскивающих дворянство, представить предварительно доказательства на то, что они по роду своему не принадлежат к крестьянскому состоянию. 31 окт. 1818 г. № 27568 // ПСЗ I. Т. 35.

[2] У поўным зборы законаў імперыі дата закона не прастаўлена. Магчыма, гэта абдрукоўка: стаіць толькі месяц – студзень, але месца, дзе закон размешчаны, – паміж 30 студзеня і 1 лютага. Ва ўнутранай перапісцы Сената закон узгадваецца як закон ад 20 студзеня.

толькі тыя, чые продкі ці яны самі былі запісаны ў шляхецкія сказкі па папярэдняй рэвізіі або мелі дакументы аб запісе ў шляхецкія сказкі іншых губерняў[1]. Да афіцыйнага зацвярджэння тыя асобы, якія не маглі быць запісаны ў шляхецкія сказкі, залічваліся ў аклад з забаронай права выезду да канчатковай праверкі дакументаў[2]. Прынцып сегрэгацыі пазасказачнай шляхты па катэгорыях падаткаабкладанага насельніцтва пакідалі на выбар губернскіх улад.

У выніку ў губернях павінна была разгарнуцца кіпучая дзейнасць па зверцы даных рэвізій 1795, 1811 і 1816 гг. і складанні спісаў чыншавай шляхты розных відаў. Некаторыя губернскія праўленні займаліся не толькі чыншавай, але ўсёй незацверджанай, выключанай і не выключанай з акладу шляхтай. Аднак рэалізацыя новага этапу разбору адразу выявіла праблемы. Так, у Магілёўскай губерні выкананне закона правальвалася, на што скардзіўся ў рапарце 11 чэрвеня 1817 г. у Сенат губернскі пракурор. Віну ён ускладаў на ніжнія земскія чыны і на губернскае праўленне. Справа нават заслухоўвалася ў Сенаце 13 верасня 1817 г. У выніку аказалася, што рэвізскія камісіі не атрымалі спісы шляхты з ніжніх земскіх судоў, у чым абвінавачваліся былыя члены ніжніх земскіх судоў, якія абіраліся дваранствам. Таксама віна ўскладалася на павятовых страпчых, «не имевших по долгу своему наблюдения». Сенат загадаў аштрафаваць віноўных на 50 і 20 руб. з вылічэннем з заробку. Разбор шляхты было загадана перадаць павятовым маршалкам і павятовым страпчым і правесці ў адзін месяц. Кантроль ускладаўся таксама на гараднічых і «гарадскія паліцыі». Рапарт быў накіраваны беларускаму ваеннаму генерал-губернатару для кантролю над дзейнасцю Магілёўскага губернскага праўлення і складання заключэння ў Сенат[3].

20 кастрычніка 1817 г. у Сенат паступіў таксама рапарт з Гродзенскай губерні аб ходзе разбору. Губернскае праўленне паведамляла, што выявіла людзей, не запісаных па папярэдніх рэвізіях. Брэсцкі маршалак распарадзіўся апісаць шляхту, якая пражывала на землях Радзівілаў, але тая прад'явіла, як было адзначана, «ясные на то (дворянство. – *В. М.*) доказательствы выводовой депутации, не дозволяя вписывать себя в сказки». Гэты факт сведчыць, што рэвізіі, якія праводзіліся ў 1795 і 1811 гг., не перапісалі на землях другога і трэ-

[1] О учинении по польским губерниям разбора неизвестным людям ...

[2] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 1. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 324об. ; ПСЗ I. Т. 33. № 26108 ; РГИА в СПб. Ф. 1266. Комитет западных губерний. Оп. 1. Д. 8. Л. 21.

[3] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 1. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 263–266.

цяга разбораў у шляхецкія сказкі ўсёй шляхты. Радзівілаўская чыншавая шляхта, відаць, добра была паінфармавана аб тым, чым можа пагражаць запіс у сказкі. Якімі былі яе дакументы, можна толькі здагадвацца, але не выключана, што за гэтай шляхтай стаялі ўплывовыя пакравіцелі, бо на зварот пазітыўна адрэагаваў губернатар, загадаўшы шляхту не перапісваць. Губернатар паведамляў Сенату, што ведамасці прадаставілі толькі навагрудскі, кобрынскі і пружанскі (з 8) павятовыя маршалкі. Было пералічана толькі 380 душ мужчынскага полу шляхты. Што цікава, звесткі былі сабраны ад саміх сказкадаўцаў. Пасля гэтыя звесткі былі накіраваны ў казённую палату для зверкі з данымі рэвізіі 1811 г. Тут відавочна парушалася сама працэдура выяўлення «самазванай» шляхты. Такія асобы павінны былі выяўляцца не толькі самімі маршалкамі, але і рэвізійнымі камісіямі падчас зверкі поўных вынікаў рэвізіі, а не па словах саміх сказкадаўцаў. Гэта было значна складаней, чым зверка тых, хто сам прызнаўся ў тым, што не быў перапісаны на месцы пражывання падчас папярэдняй рэвізіі. У выніку зверкі гэтага няпоўнага спіса «самапрызнаўшыхся» з 380 чалавек паведамлялася, што сярод іх былі тыя асобы, хто ў 1811 г. быў запісаны ў вольныя людзі, «пры іншых маёнтках», а «ныне назвались чиншевой шляхтою», па Пружанскім павеце была выяўлена 31 душа, якая «никаких не имела доказательств, а вышедшая по большей части из заграницы». Рэвізійным камісіям разам з маршалкамі, павятовымі страпчымі і земскімі спраўнікамі было загадана раздзяліць выяўленых падазроных шляхціцаў на асобныя разрады, а выхадцам з-за мяжы – правесці праверку і разбіральніцтва па іх дакументах на месцы жыхарства. Валацуг павінны былі перадаць на рукі памешчыкаў і паліцыі, дэзерціраў накіраваць на вайсковую службу, а перакрэстаў пры пацвярджэнні перавесці ў аклад. Рэвізія ў Гродзенскай губерні яўна не дасягала той мэты, якую ставілі ўлады. 70 душ мужчынскага полу былі запісаны чыншавай шляхтай, а 230 «под названием земянов, в оклад положенных»[1].

[1] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 1. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 277–288. У 1826 г. гэтыя звесткі былі адкарэктаваны. Гродзенская казённая палата тады паведамляла ў Мінфін, што ў выніку разбору ў 1817 г. былі выяўлены толькі 82 душы, запісаныя па папярэдніх рэвізіях не ў шляхту, а ў аклад (Полное собрание законов Российской империи. Собрание второе : в 55 т. СПб., 1830–1885 (далей – ПСЗ II). Т. 1. 1830. № 397. 8 июня 1826 г. О времени, с которого должны быть вводимы в оклад люди, неправильно причислившиеся к чиншевой шляхте). Колькасць гэта была вельмі нязначнай (каля 0,3 % шляхты губерні) у параўнанні з колькасцю ўсёй шляхты ў губерні – каля 23 тыс. чалавек (*Lechnicki J. E.* Statystyka gubernii Litewsko-Grodzieńskiej, przez J. E. Lechnickiego. Wilno, 1817. S. 59).

Складваецца ўражанне, што мясцовыя ўлады неахвотна і не поўнасцю, з парушэннямі выконваючы распараджэнні, спускалі справу «на тармазах», а частка шляхты, па афіцыйнай версіі губернскіх улад, адмовілася ўвогуле падаваць рэвізскія сказкі. Праз месяц, 24 лістапада, тое ж Гродзенскае губернскае праўленне апраўдвала няскончанасць разбору тым, што Пружанская рэвізійная камісія паведамляла, што разбор людзей, называўшых сябе чыншавай шляхтай, не скончаны «по причине не явки оных в комиссию», Брэсцкая – «по причине непредоставления тамошним уездным казначейством необходимо нужной сказки 1795 г. графства Чернавчицкого», Кобрынская – «по случаю неявки людей», Навагрудская паведамляла, што аб чыншавай шляхце сказкі былі ўжо скончаны, але паколькі было новае прадпісанне з формай, то трэба было іх перапісваць. Губернскае праўленне, апраўдваючыся, паведамляла таксама Сенату, што, у сваю чаргу, пагражала судом чыноўнікам за невыкананне прадпісанняў.

Правал у рабоце з разборам быў і ў Віленскай губерні. Губернскае праўленне 30 ліпеня паведамляла, што загадала рэвізскім камісіям, каб яны не закрываліся пасля 15 сакавіка і «не принимая уже обыкновенных ревизских сказок, занимались токмо одним вышесказанным разбором неизвестных людей», у дапамогу ім загадвалася дзейнічаць гарадскім і земскім паліцыям. Праўленне паведамляла, што папярэджвала тых, у каго б аказаліся ў пражыванні «подлежащие к разбору безгласные» людзі, аб тым, што ім пагражае дзеянне закона аб «прытрымальніцтве», а «прытрыманым» – закон аб валацужніцтве. Адначасова паведамлялася, што спісы былі складзены толькі па Расіенскім, Браслаўскім, Ашмянскім і Завілейскім паветах, але з агаворкай, што «стряпчие и маршалы и этих поветов не удостоверили в полной мере губернское правление, что по ведомствам их более уже подобного звания людей безгласными не осталось». Астатнія маршалкі пад рознымі адгаворкамі, якія, як адзначалася, «возмутили губернское правление», спасаліся на немагчымасць прадаставіць спісы або зусім ніякіх данясенняў не зрабілі. Губернскае праўленне паведамляла Сенату, што аштрафавала маршалкаў і страпчых на 25 руб., гразіла ім судом Першага дэпартамента, калі ведамасці не будуць дастаўлены[1], але ніякіх лічбавых даных у Сенат прадстаўлена не было.

Па Віцебскай губерні губернскае праўленне паведамляла, што атрымала спісы ад выконваючага абавязкі суражскага маршалка павятовага падкаморыя 1) аб дваранах, якія маюць законныя доказы на дваран-

---

[1] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 1. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 294–300.

ства (240 чалавек мужчынскага полу), 2) якія даказваюць сваё дваранскае паходжанне (150 чалавек мужчынскага полу), 3) «кои имели доказательства на дворянство, но во время нашествия неприятельского в 1812 г. разграблены» (6 чалавек мужчынскага полу), 4) якія не мелі і не маюць доказаў на дваранства (10 чалавек мужчынскага полу), 5) «об отставном гусаре Григории Турчановиче» (з трыма сынамі), 6) «о живущих в суражском повете у дворян незаконнорожденных дворянками детей» (10 чалавек мужчынскага полу). Губернскае праўленне лічыла, што толькі дваран першай групы можна пакінуць у шляхецкіх сказках. Аб дваранах другой групы склала ведамасць і накіравала ў Віцебскі дваранскі дэпутацкі сход, «дабы оное благоволило в самой скорости учинить рассмотрение их доказательств, так как некоторые из них представлены еще в 1799 г... и кто именно из них в дворянством достоинстве признан будет, и на основании законов не будут подлежать доказательства их к утверждению Герольдии, или коих доказательства признаны будут недостаточными, уведомить губернское правление». Шляхціцам другой групы загадвалася прадаставіць неабходныя доказы. Шасці дваранам, доказы якіх былі страчаны падчас вайны 1812 г., загадана было на працягу двух месяцаў прадаставіць звесткі з тых дваранскіх сходаў, дзе яны былі раней разгледжаны, інакш яны маглі быць запісаны ў аклад. Кантроль ускладаўся на земскі суд. Тое ж тычылася і адстаўнога гусара Турчановіча. Было агаворана, што калі доказы не будуць прадстаўлены, то сыноў трэба запісаць у ведамасць аб салдацкіх унтэр-афіцэрскіх дзецях і лічыць прыналежнымі «да военнага ведамства». Групу з 10 шляхціцаў, якія не мелі доказаў, было загадана перавесці ў аклад. Незаконнанароджаныя павінны былі выбраць для сябе па жаданні саслоўе для запісу ў аклад. Па іншых жа паветах Віцебскай губерні ніякіх звестак атрымана не было. Не было іх дастаўлена і да сярэдзіны студзеня 1818 г.[1]

За студзень 1818 г. ёсць толькі рапарт з Магілёўскай губерні, у якім паведамлялася, што «по указам... Сената от 20 января 1816 и 31 августа 1817, хоть разбор шляхт по здешней губернии живущей... в девяти поветах... кончен, и составленные списки доставлены в сие правление, но из них два Климовицкого и Бабиновицкого оказались неверными и не согласно данным наставлениям, притом число шляхт, означенное в тех списках не соответствует тому количеству какое прежде по ведомостям показано было, почему сии списки возвращены... и назначены к исправлению двунедельный срок; трем же маршалам Рогачевскому, Чаусовскому и Чериковскому не окончившим еще разбора, и не доста-

[1] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 1. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 301–305об., 319.

вивших повеленных списков, посланы тоже нарочные… с предписанием доставить… непременно…»[1]. Такім чынам, на пачатак 1818 г., нават праз два гады пасля пачатку новага разбору чыншавай шляхты, Сенат так нічога, акрамя адпісак, не атрымаў і з Магілёўскай губерні.

З украінскіх губерняў таксама прыходзілі рапарты аб тым, што разбор па сутнасці быў правалены. Так, Падольскае праўленне апраўдвалася тым, што шляхта не падавала сказак, займаючыся ў гэты час земляробчымі работамі, таму падавала іх пазней, а трэба было праводзіць зверку з рэвізскімі сказкамі іншых паветаў, адкуль звесткі таксама не прыходзілі (рапарт 7 жніўня 1817 г.). Сур'ёзныя складанасці ўзніклі і ў Валынскай губерні, дзе праводзіліся праверкі і ўнутраная рэвізія (рапарт ад 20 лютага 1818 г.)[2].

Улады спачатку спрабавалі паскорыць працэс. У жніўні 1917 г. Сенат распарадзіўся губернскім праўленням паспяшацца з правядзеннем разбору[3]. Але толькі ў другой палове 1818 г. стала прасоўвацца справа з разборам у Мінскай губерні. Высветлілася, што нямала шляхты, якая па рэвізіі 1795 г. была запісана ў аклад, а па рэвізіі 1811 г. была ўжо выключана казёнными палатамі з акладу, без прадастаўлення звестак на разгляд Сената, што з'яўлялася прамым парушэннем. Губернскае праўленне распарадзілася такіх асоб вярнуць у аклад. Шляхту, якая мела на руках дваранскія дыпломы, але заставалася ў акладзе, загадана было таксама перапісаць у асобныя ведамасці і накіраваць звесткі пра яе ў Сенат. Адначасова загадвалася прасачыць, каб такая шляхта не пазбегла складання рэвізскіх сказак, асабліва там, дзе сказкі складаліся памешчыкамі або сельскімі таварыствамі, каб яны не былі прапушчаны па рэвізіі. Больш за тое, у асоб, якія былі запісаны ў сялянскія або мяшчанскія таварыствы, але прад'явілі «определения» на дваранства ад дваранскіх сходаў, земскім і градскім паліцыям загадвалася адбіраць «грамоты, декреты и свидетельства» для адсылкі іх у архіў дваранскага сходу. У адносінах іншых людзей, якія не прадаставілі «видов на записание по ревизии 1795 года между шляхтой и доказательств на дворянское

[1] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 1. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 320.

[2] Там жа. Л. 267–276. (У выніку рэвізіі ў Валынскай губерні быў складзены вельмі грунтоўны спіс усёй шляхты губерні (больш за 65 тыс. чалавек абодвух палоў) з разбіўкай яе аж на 28 катэгорый з пазначэннем іх колькаснага складу, наяўнасці дакументаў і нерухомай маёмасці, заняткаў. Паколькі звесткі не тычыліся тэрыторыі Беларусі, пакідаем іх для аналізу ў асобнай публікацыі.)

[3] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 1. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 290–293.

достоинство, или частию представивших, но выданные не из присутственных мест и не от маршалов, а от частных лиц», загадвалася правесці следства пра тое, дзе і ад якога часу пражываюць, «почему приняты и именуются шляхтою, нет ли между ними военных дезертиров! (клічнік стаіць у дакуменце. – *В. М.*), или не принадлежат ли которые в крестьянство». Калі падобныя людзі выяўляліся, іх загадвалася вярнуць па месцы жыхарства. Асоб, якія не былі прыпісаны да таварыстваў, не былі дэзерцірамі, але здаўна пазбягалі аплаты падушных подацей, загадвалася апытаць, адкуль прыбылі, дзе жылі раней, а таксама высветліць у пабочных людзей, якія іх ведалі, а пасля, склаўшы ведамасць, запісаць з улікам жадання ў купцы, казённыя сяляне, мяшчане або вольныя хлебапашцы. Да моманту рашэння далейшага лёсу гэтых людзей ім забаранялася змяняць месца жыхарства[1]. Бачым, што па Мінскай губерні мясцовыя ўлады прапанавалі разгорнуты праект дзеянняў па разборы пазасказкавай шляхты, аднак ніякіх колькасных звестак ад Мінскага губернскага праўлення Сенат так і не атрымаў, што можна разглядаць як сведчанне «пускання пылу ў вочы» і імітаванне дзейнасці.

Не палепшылася справа з разборам шляхты і выкананнем указа ад 20 студзеня 1816 г. і ў 1819 г., і часткова ў 1820 г. Як з украінскіх, так і з беларускіх губерняў Сенат атрымліваў толькі тлумачэнні аб праблемах і немагчымасці скласці спісы і правесці разбор.

У адчаі, калі так можна сказаць, Сенат патрабаваў прадаставіць таксама звесткі аб тым, якія распараджэнні былі зроблены, каб указ ад 20 студзеня 1816 г. быў рэалізаваны. Магілёўскае губернскае праўленне ў лістападзе 1819 г. дало тлумачэнне. Аказалася, што звесткі з паветаў пра шляхту былі нарэшце там сабраны, але дзеянні губернскіх улад былі некалькі іншыя, чым, напрыклад, у Мінскай. Паколькі гэтыя звесткі адлюстроўваюць сацыяльную структуру дробнай шляхты губерні, працытуем з пэўнімі скарачэннямі: «Поелику живущая... шляхта на собственных землях и по причине раздробительных разделов перемещается на арендные и закладные земли, и находящаяся в услужении, со дня присоединения тамошнего края к Российской державе оставаясь без разбора, пользовалась прежде того свободою, которая при прежнем польском владении была представлена, а потому на основании... дарованной 21 апреля 1785 г. дворянству грамоты шляхетских ревизских сказок подаваемо не было, кроме некоторых фамилий, которые по прежним переписям вошли в поголовный оклад до рассмотрения о их дворянстве, то ныне губернское правление по содержанию указа...

[1] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 1. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 321–324об. (рапарт Мінскага губернскага праўлення ў Сенат за жнівень 1918 г.).

20 января 1816 г. собрав от поветовых маршалов списки о всех шляхтах в Могилевской губернии живущих, которых... оказывается 13 777 м. п. душь, находит, что многие из них по силе той же грамоты дворянство свое в дворянских депутатских собраниях доказали и состоят по родословной книге записанными, другие право свое на дворянство еще не доказали, а производят об оном дела не только в Могилевской, но и в других губерниях в дворянских собраниях, некоторые и доказательств своих по сие время не представили, основываясь на... указе 6-го марта 1808 года, коим предоставлено право дворянство доказывать безсрочно». Далей указвалася, што ў губерні пражывала шляхты на ўласных землях, якая плаціла земскі збор па 2 руб. з валокі[1], а таксама шляхты на закладных і арэндных землях 8324 душы мужчынскага полу. Было загадана гэту шляхту запісаць у рэвізскія сказкі «до общего о них разбора». Шляхце колькасцю 424 душы мужчынскага полу, якая, па іх словах, даказала дваранства па іншых губернях, загадана было на працягу 6 месяцаў прадаставіць доказы на дваранства і запісацца ў радаводную кнігу Магілёўскай губерні. 911 шляхціцаў прадаставілі на сваё дваранства толькі дэкрэты галоўных і павятовых судоў, «а по реверсам дворянского депутатского собрания свидетельстующих о внесении в оное доказательств о дворянстве 1958, да таковых же перешедших из одного повета в другой 295, всего 2764 мужеска пола души, в числе коих находятся имеющих собственные земли 1556 душь, а другие остаются на наемных и арендных землях и в услужении, поелику таковая шляхта дворянства своего со дня состоявшегося дворянской грамоты до селе как 30 лет не доказала, заведенные дела о сем дворянстве не кончены и выводов своих не учинила, то по содержанию 19-го пункта дворянской грамоты и пользоваться дворянским правом, доколе не докажет своего дворянства не может, а затем, дворянское правление, принимая с одной стороны в уважение, что шляхта сия остается без всякого ограничения в государственной повинности, кроме платежа имеющими собственные земли по два рубля с уволоки на земские повинности, а с другой стороны, если оставить их в настоящем состоянии, то разрешение о их дворянстве по заведенным делам не может быть определительно...». Таму губернскае праўленне, спаслаўшыся на плакат 1724 г., вырашыла запісаць усіх такіх шляхціцаў у аднадворцы, «предоставив им невозбранно право» даказваць дваранства па ўказе 6 сакавіка 1808 г. Такім чынам ствapaлacя новая для Беларусі катэгорыя насельніцтва.

[1] У тэксце ўказваецца, што плацяжы адбываліся ў сувязі з указам ад 2 мая 1805 г.

Шляхціцаў, якія валодалі ўласнымі землямі, загадвалася вызваліць ад аплаты земскага збору па 2 руб. з валокі, але абкласці падаткамі, якія плацілі аднадворцы ў адпаведнасці з правіламі. У адносінах да шляхты, што не мела ўласнай зямлі, а таксама арэнднай загадана было выбраць пастаяннае месца пражывання, «в коих признают для себя выгоднее», дзе яны і павінны былі быць запісаны ў аклад таксама як аднадворцы. Перамяшчацца ў іншы павет яны ўжо не маглі без спецыяльнага дазволу казённай палаты. Такім чынам, такая шляхта павінна была быць прымацавана да пастаяннага месца прыпіскі ў аклад. Шмат менавіта такой шляхты ніколі раней не было прыпісана ў аклад. Акрамя таго, у губерні аказалася 1044 душы мужчынскага полу шляхты, якія не прадаставілі зусім ніякіх доказаў на дваранства. З іх 471 чалавек валодаў уласнымі землямі. Тут было прынята наступнае рашэнне: тых, хто валодаў землямі, запісаць у вольныя хлебапашцы, а 469 чалавек без зямлі – у вайсковыя пасяляне «по усмотрению воинского начальства». Такім жа чынам загадвалася паступіць і з асобамі, «уволенными от помещиков яко дворяне», якія не даказалі дваранства і не выбралі роду заняткаў. Аказваецца, былі і такія.

485 шляхціцаў Магілёўскай губерні назваліся прыбылымі з іншых губерняў і таму павінны былі прайсці праз сіта верыфікацыі гэтага спіса са спісам дваран той губерні. Тых, хто не меў ніякіх «відаў» і дакументаў, загадвалася неадкладна выслаць па месцы іх прыпіскі. 29 шляхціцаў назвалі сябе прыбылымі з-за мяжы – іх лёс павінны былі пасля вывучэння ўсіх акалічнасцей вырашыць ніжнія земскія суды і паступіць у адпаведнасці з нормамі закону. 284 душы мужчынскага полу шляхціцаў аказаліся і раней запісанымі ў аклад, але дабіваліся разгляду сваіх спраў у Герольдыі. Загадвалася іх пакінуць у акладзе, а калі яны мелі граматы і дыпломы ад дваранскага сходу – канфіскаваць і перадаць у дваранскі сход на захаванне. 21 дваранін назваўся са Смаленскай губерні, а 16 з Віцебскай, але доказаў не мелі, таму ўлады дзвюх губерняў павінны былі разбірацца з іх прыпіскай. Таксама губернскія ўлады засцерагалі мясцовых памешчыкаў ад укрывацельства невядомых людзей пад назвай шляхты, паколькі сярод іх нібыта маглі аказацца беглыя і іншыя асобы, якія незаконна перамяшчаліся, за што магло быць пакаранне і для ўкрывацеляў[1].

Такім чынам, па Магілёўскай губерні частка шляхты павінна была быць прыпісана ў аднадворцы, частка ў ваенныя пасяляне, а частка ў воль-

[1] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 1. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 336–344.

ныя хлебапашцы. На жаль, не выяўлены дакументы аб тым, як згаданыя распараджэнні былі рэалізаваны і якой была ў выніку колькасць шляхты з названых 13 777 душ мужчынскага полу запісанай у рэвізскія шляхецкія сказкі, якой запісанай у аднадворцы, а якой у вольныя пасяляне.

Найдаўжэй зацягнулася справа з рэалізацыяй указа аб разборы шляхты 1816 г. у Кіеўскай губерні – аж да 1823 г.[1]

На жаль, намі нідзе не былі выяўлены агульныя справаздачы аб выніках рэалізацыі ўказа па беларускіх губернях, акрамя Гродзенскай за 1824 г., даволі сціплыя звесткі па якой мы прывялі вышэй.

Відавочна, што ўлады не задавальнялі вынікі рэалізацыі разбору паводле закона 1816 г., правядзенне якога толькі прадэманстравала ўсю складанасць і заблытанасць саслоўна-сацыяльных працэсаў ва ўсіх заходніх губернях імперыі. Пераважная частка шляхты на землях першага падзелу была запісана ў аклад, але пастаянна намагалася адтуль выйсці і звярталася з прашэннямі ў Сенат і Герольдыю, частка незаконным чынам атрымлівала дваранскія дыпломы праз дваранскія сходы і на падставе гэтага спрабавала выключыцца з падушнага акладу. Многім на землях усіх трох падзелаў гэта сапраўды ўдавалася, відавочна з-за злоўжыванняў чыноўнікаў. Частка шляхты ўвогуле пазбягала ўліку, частка перамяшчалася і не мела сталага месца пражывання. Падобная сітуацыя была і на землях другога і трэцяга падзелаў, з той розніцай, што тут большая частка аселай шляхты была занесена ў асобныя шляхецкія сказкі, але не абкладзена падушным падаткам. Акрамя таго, пастаянна знаходзіліся новыя людзі, якія, карыстаючыся нявызначанасцю прававога статусу шляхты, імкнуліся прыпісацца ў шляхецкія сказкі. Не быў акрэслены адназначна і статус такіх катэгорый, як зямяне, панцырныя і путныя баяры, казакі, вольныя людзі, якія таксама імкнуліся замацавацца ў дваранстве і даказаць шляхецкае паходжанне. А што самае галоўнае – асноўная частка дробнай шляхты, асабліва на землях другога і трэцяга падзелаў, хоць і была абкладзена падаткамі, але заставалася ў нявызначаным становішчы паміж дваранствам і непрывілеяванымі катэгорыямі насельніцтва.

Уладам неабходна было выпрацаваць сістэмную праграму па раздзяленні шляхты і збліжэнні той яе часткі, якая не мела маёнткаў і дакументаў, з непрывілеяванымі катэгорыямі насельніцтва. У 1823 г. імператару быў прадстаўлены на разгляд праект віцебскага генерал-губернатара М. Хаванскага.

---

[1] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 1. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 345–410.

**Праект Мікалая Хаванскага.** У 1823 г. у сувязі з неўраджаем 1822 г. у Віцебскай і Магілёўскай губернях становішча насельніцтва, у тым ліку дробнай шляхты, вельмі пагоршылася. Мясцовыя ўлады вымушаны былі звярнуцца па дапамогу да цэнтральных. У красавіку 1823 г. пытанне аказання дапамогі разглядалася ў Камітэце міністраў імперыі[1]. Было вырашана аказаць дапамогу мясцовай дробнай шляхце.

Адначасова з прыняццем гэтага рашэння Камітэт даручыў новапрызначанаму – заступіў на пасаду ў 1823 г. – беларускаму генерал-губернатару Мікалаю Хаванскаму распрацаваць прапановы адносна магчымасці прыцягнення на службу шляхты, якая будзе да яе годнай. Аргументавалася гэта Камітэтам міністраў наступным чынам : «...поступившие на службу получили бы способы существования, а остающимся в домах досталось бы назначаемое правительством пособие в большей мере». 14 красавіка 1823 г. імператар Аляксандр I зацвердзіў гэта заключэнне Камітэта міністраў[2].

У жніўні 1823 г. міністр унутраных спраў паведаміў беларускаму генерал-губернатару Мікалаю Хаванскаму, што для забеспячэння харчавання бяднейшай шляхты імператарам выдаткавана па 100 тыс. руб. для кожнай губерні, а ўжо ў кастрычніку 1823 г., падчас падарожжа Аляксандра I праз Віцебск, Хаванскім была перададзена імператару «всеподданнейшая» запіска. Змест запіскі ўтрымліваў прапановы адносна мерапрыемстваў па ўладкаванні дробнай шляхты «беларускіх губерняў»[3].

Генерал-губернатар прапанаваў падзяліць шляхту беларускіх губерняў (Віцебскай і Магілёўскай) на тры класы. У першы, на яго думку, неабходна было ўключыць тыя сем'і, чые доказы на дваранства ўжо былі зацверджаны Герольдыяй або будуць зацверджаны ў будучыні. У другі клас Мікалай Хаванскі прапанаваў уключыць шляхту, якая пасля далучэння «Беларускага краю» да Расійскай імперыі, у адпаведнасці з імператарскім «повелением» ад 22 кастрычніка 1772 г. аб доказе дваранства шляхтай у правінцыйных земскіх судах, а пасля ў дваранскіх дэпутацкіх сходах, была гэтымі ўстановамі прызнана сапраўдным дваранствам. Да трэцяга класа генерал-губернатар прапанаваў залічыць тых шляхціцаў, хто не прадставіў свае доказы на дваранскае званне. Правамернасць прыналежнасці да дваранства такіх шляхціцаў, згодна з думкай Хаванскага, павінна была быць разгледжана Герольдыяй.

---

[1] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 2. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 606–607.

[2] Там жа. Л. 373об.–374, 556об.–557.

[3] Там жа. Л. 557.

Далейшыя прапановы генерал-губернатара, пасля таго як шляхта была б падзелена на тры катэгорыі, тычыліся ўжо магчымасці прыцягнення яе да вайсковай і грамадзянскай службы. Паколькі, «по правам и правилам Белорусскому краю предоставленным», як гэта тлумачылася ў запісцы Хаванскага, шляхта абавязана была выконваць дзяржаўную службу, генерал-губернатар прапанаваў наступнае: па-першае, шляхту, якая зацверджана ў дваранстве Герольдыяй і здольна выконваць вайсковую службу, абавязаць на яе паступаць. Прызнаных няздольнымі выконваць вайсковую службу абавязаць паступаць на грамадзянскую. Тых, хто на вайсковую або грамадзянскую службу не паступіць, па прыкладзе вялікарасійскіх губерняў называць «недорослями». Па-другое, шляхціцы другога класа, здольныя да вайсковай службы, узростам ад 17 да 30 гадоў, павінны былі ўжо ў абавязковым парадку прызывацца на такую службу. Тэрмін службы, які прапаноўваўся генерал-губернатарам, складаў не менш 6 гадоў. Тыя, хто б на працягу гэтых 6 гадоў атрымаў чын обер-афіцэра, атрымліваў бы магчымасць выбару – служыць далей ці адмовіцца ад далейшай службы. Шляхту трэцяга класа ад 17 да 30 гадоў генерал-губернатар таксама прапанаваў абавязаць паступаць на службу, прычым тэрмін службы для шляхты гэтага класа павялічыць на два-тры гады, у выпадку калі такія шляхціцы не атрымаюць ад Герольдыі пацвярджэння дваранскага паходжання. Пасля атрымання обер-афіцэрскага чыну шляхціцам гэтага класа таксама давалася б права адмовіцца ад далейшай службы. Найбольш бедным шляхціцам, на думку генерал-губернатара, прапаноўвалася прадаставіць права аддаваць сваіх малагадовых дзяцей у ваенна-сіроцкія аддзяленні і ў будучым вызначыць тэрмін, які яны пасля паступлення на вайсковую службу павінны былі б на ёй знаходзіцца. Палажэнні, якія прапанаваў імператару М. Хаванскі, былі толькі агульнымі нормамі, у далейшым іх прадугледжвалася распрацаваць дэталёва.

Мікалай Хаванскі ў падрыхтоўцы палажэння мог абаперціся на ранейшыя планы аб прыцягненні дробнай шляхты на вайсковую службу, якія распрацоўваліся і дыскутаваліся ва ўрадавых колах ужо ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. Змест гэтых праектаў быў у агульных рысах разгледжаны ў папярэдніх раздзелах.

Такім чынам, распрацоўка ў 1823 г. новага плана аб прыцягненні дробнай шляхты на вайсковую службу была вяртаннем да ранейшых, не рэалізаваных урадам намераў. Нельга сказаць, карыстаўся ці не пры распрацоўцы свайго праекта М. Хаванскі ранейшымі праектамі, але некаторыя палажэнні, напрыклад падзел шляхты на катэгорыі, ужо прапаноўваліся раней у праекце ваеннага міністра А. Аракчэева.

Праект М. Хаванскага быў распрацаваны даволі аператыўна. Ужо вясной 1824 г. міністр унутраных спраў Васілій Ланской афіцыйна паведаміў Хаванскаму, што 7 сакавіка 1824 г. па рашэнні імператара яго запіска адносна праекта была перададзена ў Камітэт міністраў, які яе адобрыў. Асноўваючыся на імператарскім адабрэнні і пазітыўным рашэнні Камітэта міністраў, Хаванскаму было прапанавана скласці спецыяльнае «Палажэнне» адносна вайсковай службы шляхты беларускіх губерняў.

Адначасова з прапановай скласці «Палажэнне» Камітэт міністраў выказаў і сваё меркаванне, якое ўносіла карэнныя змены ў першапачатковы план беларускага генерал-губернатара. Ён выказаў пажаданне, каб у праекце знайшло адлюстраванне палажэнне аб тым, што дробная шляхта абавязваецца служыць не ўся ўвогуле ва ўзросце ад 17 да 30 гадоў, а ў адпаведнасці з чэргамі падчас рэкруцкіх набораў і абавязана выконваць гэту павіннасць нароўні з сялянамі[1]. Фактычна гэта ўскладала б на шляхту тыя абавязкі, якія былі ёй не ўласцівы. Рэкруцкая служба была прымусовай, а не добраахвотнай, што карэнным чынам мяняла б прававое становішча такой шляхты.

«Палажэнне» Камітэта міністраў па бюракратычнай лесвіцы зноў паступіла імператару і было зацверджана толькі праз год – 15 студзеня 1825 г. Хаванскаму загадвалася скласці «Палажэнне аб шляхце беларускіх губерняў» з улікам прапаноў і накіраваць яго на разгляд Сената, які павінен быў устаноўленым парадкам зноў накіраваць «Палажэнне» на зацвярджэнне імператара. Звяртае на сябе ўвагу нязграбнасць і непаваротлівасць расійскага бюракратычнага апарату – на разгляд і зацвярджэнне прапаноў Хаванскага Камітэт міністраў, кожны раз звяртаючыся па зацвярджэнне яго ў імператара, патраціў амаль паўтара года.

У сувязі з ускладзеным на Хаванскага абавязкам ён гэтак жа, як было падчас распрацоўкі плана аб вайсковай службе чыншавай шляхты ў 1808 г., распарадзіўся аб зборы інфармацыі пра шляхту Віцебскай і Магілёўскай губерняў[2]. У выніку аналізу сабраных звестак было вырашана, што паколькі трэба ўстанавіць сямейныя чэргі для выканання рэкруцкіх набораў, то абсалютна неабходна мець дакладныя звесткі аб колькасці дробнай шляхты. Калі ж мясцовыя ўлады і маршалкі пачалі ўзгадняць інфармацыю паводле даных рэвізіі 1815 г. і звестак з паветаў, сабраных у 1823 г. у сувязі з раздачай грашовай дапамогі пацярпелай ад неўраджаю шляхце, было ўстаноўлена, што гэтыя звесткі абсалютна не супадаюць, і Хаванскі быў вымушаны канстатаваць, «што

[1] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 2. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 557об.

[2] Там жа.

ні губернскія начальствы, ні маршалы дакладных звестак аб яе (шляхты. – *В. М.*) колькасці не маюць»[1].

У сувязі з адсутнасцю такіх звестак Хаванскі прапанаваў пачаць рэалізацыю праекта з іншага мерапрыемства – правесці разбор шляхты беларускіх губерняў і прыпісаць тую шляхту, якая магла даказаць, што падчас пятай рэвізіі яна знаходзілася ў складзе чыншавай шляхты, у шляхецкія сказкі па месцы яе пражывання да агульнага ў будучым яе разбору. Пасля разбору прапаноўвалася тых, хто аказаўся б зацверджаным у дваранстве, абавязаць паступаць на вайсковую або грамадзянскую службу, а тых, хто да 30-гадовага ўзросту не паступіць на яе, лічыць прыналежнымі да катэгорыі «недарасляў». Далей Хаванскі прапанаваў, спаслаўшыся на тое, што «...многие из белорусских дворян находясь в крайней бедности, не в состоянии дать приличного детям своим воспитания и приготовить их к государственной службе...», прымаць іх у ваенна-сіроцкія аддзяленні[2]. Усю тую шляхту, якая б аказалася не здольнай прадаставіць доказы дваранскага паходжання або калі ўжо падала доказы, але не была яшчэ зацверджана ў дваранстве, прапаноўвалася перавесці ў падушны аклад і абкласці рэкруцкай павіннасцю нароўні з сялянамі. Ёй, аднак, пакідалася права даказваць прыналежнасць да дваранства.

Вынікам мерапрыемстваў М. Хаванскі бачыў наступнае: «...дворянское сословие Белорусских губерний очиститься от большого числа таких людей, кои неправильно присваивая себе звание дворян, и находясь у частных людей кучерами, лакеями и в подобных тому услугах, несовместными с дворянским достоинством должностями, унижают оное»[3]. Аказваецца, ідэя падзелу шляхты на тры катэгорыі і аддзялення тых, хто мае пацвярджэнне аб дваранскім паходжанні, ад тых, хто яго не мае, не была вынаходніцтвам Камітэта заходніх губерняў, які распрацаваў вядомы ўказ 19 кастрычніка 1831 г. аб разборы шляхты. Гэта ідэя, што праўда са значнымі зменамі, будзе запазычана якраз з праекта М. Хаванскага.

Дзеля разбору шляхты Хаванскім прапаноўвалася ўтварыць у Віцебску і Магілёве камісіі ў складзе прызначаных ад Кароны чыноўнікаў разам з канцылярыямі, утрыманне якіх павінна было пакрывацца за кошт земскіх павіннасцей. Гарадскія і земскія паліцыі павінны былі скласці і прадаставіць у камісіі спісы асоб, якія называюць сябе

---

[1] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 2. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 558–559об.

[2] Там жа. Л. 559об.

[3] Там жа.

шляхтай. Сама шляхта абавязана была на працягу паўгадавога тэрміну прадаставіць доказы, што яна зацверджана ўстаноўленым парадкам у дваранскім званні, – ідэя ўскласці на саму шляхту абавязак даказваць сваё дваранскае паходжанне ўжо пазней, таксама з папраўкамі, перакачуе ў праект М. Мураўёва 1831 г. і ва ўказ 19 кастрычніка 1831 г. Тым, хто змог бы прадаставіць доказы аб дваранскім паходжанні, камісіі павінны былі выдаць дакументы, што яны «суть действительные дворяне». Тых, хто доказаў не прадаставіў, казённым палатам загадвалася запісваць у падушны аклад. З тымі, хто не атрымае дваранскіх дакументаў і не паступіць у аклад, «с такими и передержателями их, поступать как о бесписьменновидных людях и бродягах постановлено». А гэта значыць, што іх можна было высяляць у аддаленыя губерні імперыі.

Заставалася яшчэ некалькі пытанняў, вырашэнне якіх Хаванскі прапанаваў на разгляд камісіі, – як быць са шляхтай, якая не мае доказаў на дваранства, акрамя таго, што яна была запісана па пятай рэвізіі ў складзе чыншавай шляхты? Як быць з тымі, хто быў прызнаны шляхтай былымі правінцыйнымі і павятовымі судамі, і з тымі, хто быў прызнаны ў дваранстве дэпутацкімі сходамі без зацвярджэння Герольдыяй? У такім выглядзе праект Хаванскага і быў зноў накіраваны ў Сенат.

Разгляд праекта Хаванскага ў Сенаце, аднак, расцягнуўся на некалькі месяцаў, што, магчыма, было звязана са снежаньскім паўстаннем у Пецярбургу ў 1825 г. і прыходам да ўлады новага імператара – Мікалая І. Вядома, аднак, што ўжо 17 мая 1826 г. Сенат накіраваў рапарт разам з праектам Хаванскага і з суправаджальнай запіскай міністру фінансаў Ягору Канкрыну, каб той сумесна з Міністэрствам унутраных спраў прадаставіў свае меркаванні адносна праекта ў Сенат[1].

З боку Міністэрства ўнутраных спраў пытанне зноў абмежавалася канстатацыяй факта таго, што праводзіць рэкруцкі набор са шляхты, не маючы дакладных звестак аб яе колькасці, немагчыма. Так, міністр унутраных спраў Васілій Ланской праз міністра фінансаў Ягора Канкрына, у чыё міністэрства на разгляд быў накіраваны праект Хаванскага, паведаміў у Сенат, што «по неимению верного о количестве всей белорусской шляхты сведения, высочайшая воля в 15 день января 1824 г. последовавшая, о обращении шляхты сей в военную службу по очередям во время рекрутских наборов и о введении их в отправление сей повинности наравне с крестьянами, не может с точностью приведена быть в исполнение, а потому и нужно... сделать белорусской шляхте пе-

---

[1] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 2. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 560.

репись и разбор»[1]. Адносна самой шляхты, аднак, міністр унутраных спраў выказаў меркаванне, што тая шляхта, якая не мае ніякіх доказаў на дваранства, не можа зараз быць прылічана ні ў якое іншае саслоўе, акрамя падушнага. Міністр таксама пагадзіўся з неабходнасцю выдання закона аб кваліфікаванні шляхты, якая ўхіліцца ад запісу ў аклад, як бадзягаў і адпаведнага стасавання ў адносінах да яе закона аб валацугах. Адносна шляхты, зацверджанай толькі правінцыйнымі і павятовымі судамі, акрамя чыншавай, і ўзведзенай у дваранства толькі павятовымі судамі, міністр прапанаваў не пераводзіць яе ў падушны аклад да таго часу, пакуль не будзе атрымана канчатковае рашэнне па яе справах ад Герольдыі. Адначасова, аднак, міністр прапанаваў ускласці абавязак ваеннай службы на гэту катэгорыю ў адпаведнасці з «высочайшим повелением» ад 15 студзеня 1824 г., нягледзячы на тое, што яна фармальна і не знаходзілася ў падушным акладзе.

Міністр фінансаў Я. Канкрын пасля разгляду праекта Хаванскага, у сваю чаргу, не толькі выклаў прапановы адносна разбору шляхты і прыцягнення яе на вайсковую службу, але фактычна склаў уласны праект і нават прадставіў Сенату ўласнае бачанне паходжання шляхты: шляхта, якой у далучаных ад Рэчы Паспалітай губернях, па яго звестках, налічвалася больш 200 тыс. душ, – гэта нашчадкі старажытнага свабоднага насельніцтва ў «польскіх абласцях, для адрознення ад паспалітаў шляхтаю званага». З гэтай шляхты, па словах міністра, хоць уся яна і прызнана дваранамі, частка зрабілася «знаменитою», набыўшы маёнткі і пашаны, і была запісана ў метрыках, і яна складае прызнанае дваранства, іншыя ж засталіся толькі пры адным праве ўладання ўласнымі землямі, займаюцца хлебаробствам або разышліся па польскіх гарадах і памесцях для розных заняткаў; некаторыя з іх маюць доказы шляхецкага паходжання, а многія, верагодна, не маюць асобых дакументаў. Міністр дадаў, што, верагодна, да шляхты ў наступныя перыяды далучыліся праз розныя выпадкі і людзі іншага нязнатнага паходжання. Аднак разам з тым міністр адзначыў, што стварэнне камісій у беларускіх губернях для разбору шляхты, змушэнне шляхты прадаставіць доказы на дваранства, вычляненне з яе асяроддзя тых, хто прысвоіў сабе незаконна дваранскае званне і жыве сярод шляхты, а таксама перавод шляхты, якая не мае доказаў, у падушны аклад «составило бы дело затруднительное, бесконечное и потревожило бы напрасно означенные губернии». Нават «несправедливое, – па словах міністра, – лишение своего звания той шляхты, которая не имеет точных доказа-

[1] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 2. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 560.

тельств, но пользуется сим званием несколько столетий, могло бы вести к неповиновению». Таксама, на думку міністра, «принужденное умножение неимущего дворянства в государстве, было бы несогласно с общею пользою, ибо класс служащих и без того сверх меры». Звяртае на сябе ўвагу тое, што Канкрын рэальна апасаўся з боку шляхты бунту ці паўстання як рэакцыі на праверку доказаў на дваранства і «чысткі» саслоўя. Гэтыя страхі пастаянна паяўляюцца пры абмеркаванні ўладамі палітыкі па разборы шляхты пачынаючы з 1772 г.

Праект Канкрына істотна разыходзіўся з прапановамі Хаванскага, быў нават значна больш памяркоўны, чым праект апошняга. Ягор Канкрын прапанаваў не прымушаць шляхту прад'яўляць доказы, пакінуўшы гэта на добраахвотнае жаданне, і таму не ствараць камісіі па разборы шляхты. Усю шляхту, якая не даказала дваранства і якая пражывала ў сельскай мясцовасці «пад рознымі назвамі», ён прапанаваў лічыць пад агульнай назвай «аселай шляхты», з падзелам яе на ваколічную і чыншавую, не забараняючы такой шляхце пераход з аднаго пасёлка ў іншы або ў горад з ведама казённай палаты. Шляхту, якая перасялілася ў гарады, ён прапанаваў прыпісаць пад назвай «гарадской шляхты». Шляхту не аселую і нідзе не прыпісаную – прыпісаць па яе выбары да гарадоў або паселішчаў. Шляхту, якая даказала дваранства або даказала б у будучым, прапаноўвалася залічыць у дваранства, хоць яна і засталася б жыць сярод іншай шляхты. Усю гарадскую і сельскую шляхту, якая б не даказала дваранства, прапаноўвалася абавязаць пастаўляць замест сябе ў ваенную службу не рэкрут, а «таварышаў», якіх накіроўваць ва ўланскія і іншыя кавалерыйскія палкі з вызваленнем ад цялесных пакаранняў і тэрмінам службы восем гадоў. Для выканання гэтай павіннасці неабходна было ўтварыць адпаведныя сельскія і гарадскія ўчасткі і браць з пэўнай колькасці дымоў па адным таварышу.

Ваколічную шляхту, якая жыла на ўласных землях, не плаціла чынш ні дзяржаве, ні памешчыкам і не даказала свайго дваранства, прапаноўвалася абкласці асобым падымным падаткам – падымнай афярай, не запісваючы ваколічную шляхту ў падушны аклад. Спачатку Канкрын прапанаваў устанавіць падатак у памеры паловы падушнага акладу з вольных людзей – 7 руб. 30 кап., а паколькі ў сярэднім лічылася па 3 чалавекі на дым, з ваколічнай шляхты прапаноўвалася спаганяць падымнай афяры па 12 руб. з дыма асігнацыямі. Гарадскую шляхту прапаноўвалася, акрамя грамадскіх павіннасцей, абкласці такой жа падымнай афярай, а адзінокіх шляхціцаў – афярай па 4 руб. Як бачым, міністр фінансаў рабіў націск якраз на фінансавы бок пытання.

Што цікава, не жадаючы выклікаць лішняга неспакою шляхты, міністр фінансаў прапанаваў не займацца вышукам сярод шляхты

асоб, якія «не принадлежат к сему званию», пакінуўшы самім памешчыкам установленым парадкам шукаць сваіх беглых сялян, якія маглі выдаваць сябе за шляхту. Магчыма, нежаданнем выклікаць абурэнне шляхты павінна была служыць і прыдуманая назва падатку са шляхты – афяра (руск. «офера»), што было сугучна з касцёльнай афярай (оферой). Што вельмі важна, міністр фінансаў Канкрын прапанаваў распаўсюдзіць распрацаваныя ім правілы з 1829 г. не толькі на беларускія, але на ўсе губерні, у якіх знаходзілася шляхта[1]. Менавіта з гэтага часу праект ужо разглядаўся ў вышэйшых органах імперыі як праект, які тычыўся не толькі беларускай шляхты, а ўсёй шляхты так званых «заходніх губерняў» імперыі.

Паколькі, па прызнанні міністра фінансаў, яго ідэі адносіліся да кампетэнцыі розных міністэрстваў і былі толькі агульнымі, ён прапанаваў для больш глыбокай распрацоўкі ўтварыць камісію ў складзе чыноўнікаў ваеннага міністэрства, Міністэрства ўнутраных спраў і Міністэрства фінансаў пад старшынствам спецыяльна прызначанай асобы. Такім чынам, выпрацоўка праекта адносна шляхты зноў, ужо ў каторы раз, накіроўвалася на разгляд у Сенат і міністэрствы, што, у сваю чаргу, усё далей зацягвала справу і адсоўвала перспектывы па прыняцці праекта на нявызначаны час.

Меркаванні адносна праекта Хаванскага і ўласны праект разбору і ўладкавання шляхты Я. Канкрын накіраваў у Сенат, сцвярджаючы, што «казна от приведения сих... в действие, получит значительный доход и немаловажное число отличных военнослужащих»[2].

Прапановы міністра фінансаў былі накіраваны ў Першы дэпартамент Сената, які толькі 5 красавіка 1828 г. змог іх разгледзець і зрабіць рэзалюцыю. У ёй сцвярджалася неабходнасць стварэння такой камісіі на чале з асобай, прызначанай імператарам, і ў складзе чыноўнікаў ваеннага міністэрства, Міністэрства ўнутраных спраў і Міністэрства фінансаў. Камісіі неабходна было дакладна распрацаваць самі правілы, улічваючы меркаванні лакальных улад і зацікаўленых міністэрстваў, і нормы адказнасці за парушэнне або невыкананне правіл[3]. Фактычна ў працы камісіі за аснову павінен быў быць узяты не праект Хаванскага, а больш лагодны да шляхты праект міністра фінансаў Я. Канкрына. Даклад Першага дэпартамента Сената аб стварэнні камісіі быў падпісаны сенатарамі і накіраваны далей па зацікаўленых міністэрствах.

---

[1] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 2. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 561об.

[2] Там жа.

[3] Там жа. Л. 561об., 562.

Калі прапановы Сената, у аснову якіх былі пакладзены ідэі Я. Канкрына, трапілі на стол міністра юстыцыі Аляксея Далгарукава, той звярнуў увагу, што прапановы міністра фінансаў значна разыходзяцца з думкай міністра ўнутраных спраў, які лічыў якраз праект Хаванскага «весьма основательным и споспешенствующим скорейшему приведению в исполнение» волі папярэдняга імператара. У сувязі з гэтым міністр юстыцыі вярнуў даклад Першага дэпартамента Сената оберпракурору, запатрабаваўшы перанесці справу на разгляд Агульнага сходу Урадавага Сената[1].

Сярод вышэйшых чыноўнікаў імперыі адсутнічала згода адносна метадаў разбору шляхты і спосабаў прыцягнення яе на вайсковую службу. У сувязі з гэтым праект Канкрына і праект Хаванскага, які падтрымлівала Міністэрства ўнутраных спраў, фактычна некалькі гадоў гулялі па міністэрскіх і сенацкіх кабінетах без іх канчатковага зацвярджэння.

Толькі 26 кастрычніка 1828 г. справа двух праектаў аб разборы шляхты была разгледжана на пасяджэнні першых трох дэпартаментаў Сената. Сенатары адзінагалосна падтрымалі прапановы міністра фінансаў і пастанавілі стварыць камісію для падрыхтоўкі канчатковага праекта.

Пасля таго як аб рашэнні Сената было дакладзена імператару, ён загадаў разгледзець таксама справу стварэння камісіі для складання правіл аб разборы шляхты яшчэ і ў Дзяржаўным Савеце. Рашэнне на пасяджэнні Дзяржаўнага Савета, дзе старшынстваваў князь Аляксандр Галіцын, было прынята толькі 22 чэрвеня 1829 г. Дзяржсавет, таксама як і Сенат, пастанавіў скласці камісію. Наконт працы камісіі на рэзалюцыі ўказа і наконт складання праекта імператар уласнаручна дадаў: «заняться безотлагательно и представить не позже декабря месяца» 1829 г.[2], што сведчыла аб намеры Мікалая І даць справе хуткі бег.

У жніўні 1829 г. камісія была ўтворана. У яе складзе былі: палкоўнік Генштаба Юрэнеў, чыноўнік Міністэрства ўнутраных спраў па асобых даручэннях Жукоўскі і віцэ-дырэктар Дэпартамента розных подацей і збораў Энегольм[3]. 24 жніўня камісія рапартавала аб пачатку працы[4].

---

[1] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 2. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 562.

[2] О поручении ведомству внутренних дел Комиссии для составления правил о шляхте, находящейся в губерниях от Польши присоединенных. 10 сент. 1829 г. № 3151 // ПСЗ II. Т. 4. 1830. С. 646 ; Дело о шляхте в губерниях от Польши присоединенных ... Л. 601–602.

[3] О поручении ведомству внутренних дел Комиссии для составления правил о шляхте ... Л. 623–629.

[4] Дело о шляхте в губерниях от Польши присоединенных ... Л. 646.

28 верасня Сенат даручыў кантроль над дзейнасцю камісіі міністру ўнутраных спраў: «иметь влияние на сию комиссию и руководствовать ее в занятиях, поелику предмет учреждения оной наиболее относится к МВД». Мікалай I на ўказе напісаў рэзалюцыю, якая яшчэ раз яскрава адлюстроўвала яго настрой у вырашэнні праблемы разбору шляхты: «Згодны; неадкладна скончыць»[1]. Камісія зноў пачала працу са збору звестак адносна дробнай шляхты ў заходніх губернях, паколькі ніводная з папярэдніх спроб не дала пазітыўных вынікаў і ніхто не ведаў, колькі дробнай шляхты пражывае ў імперыі. У губерні былі накіраваны адпаведныя запыты з патрабаваннем прадаставіць неабходную інфармацыю[2]. Што цікава, канчатковы праект камісіі быў складзены без уліку звестак з некаторых губерняў, у прыватнасці з Мінскай, дзе пражывала вельмі значная колькасць дробнай шляхты, паколькі гэтыя звесткі паступілі ў камісію ўжо пасля састаўлення праекта.

13 снежня міністр унутраных спраў праінфармаваў Сенат, што праект камісіі складзены і дастаўлены яму. Праект, па словах міністра, складаўся з дзвюх частак. Першая тычылася падзелу шляхты на разрады, раздзялення яе правоў і павіннасцей. У другой разглядалі пытанні ўладкавання шляхты, кіравання ёй, нагляду за ёй[3]. Акрамя ўсіх іншых дакументаў, запіска камісіі ўтрымлівала і асобнае пісьмовае меркаванне члена камісіі Юрэнева аб перасяленні той шляхты, якая не мае сталага месца жыхарства, на землі Новарасійскага краю. Відавочна, што і ўнутры камісіі былі рознагалоссі адносна правіл перасялення. Так, падчас прадстаўлення запіскі Сенату міністр унутраных спраў Арсеній Закрэўскі адзначыў, што камісія ўключыла палажэнне аб перасяленні шляхты ў асноўны змест праекта, але прапановы члена камісіі Юрэнева адхіліла, паколькі яны давалі надта шмат выгад для шляхты, якія, як было адзначана, «превосходили бы права сему классу людей предоставляемые» і суадносіліся б з вялікімі тратамі для казны[4]. Міністр дакладаў аб заканчэнні працы камісіі і прасіў спыніць яе дзейнасць. Ужо толькі 20 студзеня 1830 г. Сенат сабраўся і па ўказе імператара разгледзеў рапарт міністра ўнутраных

---

[1] О поручении ведомству внутренних дел Комиссии для составления правил о шляхте ... Л. 646 ; Дело о шляхте в губерниях от Польши присоединенных ... Л. 630–631.

[2] Дело по отношению комиссии Высочайше учрежденной для составления положения о шляхте о доставлении в самоскорейшем времени сведений о состоянии шляхты. Сентябрь 1829 г. // НГАБ у г. Гродна. Ф. 1. Воп. 3. Спр. 40. Арк. 1–15.

[3] Дело о шляхте в губерниях от Польши присоединенных ... Л. 630–631.

[4] Там жа.

спраў А. Закрэўскага аб працы камісіі і прапанаваў яму сумесна з міністрам фінансаў і ваенным міністрам прадаставіць Сенату іх агульнае меркаванне па праекце камісіі[1].

Праект правіл аб уладкаванні дробнай шляхты адправіўся на ўзгадненне трох міністэрстваў. Пасля гэтага ён зноў апынуўся ў Міністэрстве ўнутраных спраў разам з заўвагамі, зробленымі ваенным міністрам графам Аляксандрам Чарнышовым і міністрам фінансаў графам Ягорам Канкрыным. Невядома, колькі б яшчэ «гуляў» праект па міністэрскіх кабінетах, але якраз у гэты час, у лістападзе 1830 г., у Варшаве ўспыхнула паўстанне. Дадзены факт і зручны момант для правядзення жорсткіх захадаў ва ўмовах панавання рэакцыі пасля задушэння паўстання схілілі імператара Мікалая I да прыняцця рашучых крокаў.

Паўстанне 1830–1831 гг. стала важным фактарам далейшай эвалюцыі ўрадавай палітыкі адносна «ўладкавання» дробнай шляхты ў больш радыкальны бок. Прыняць канчатковы праект Мікалай I даручыў новаму органу – Камітэту заходніх губерняў, заснаванаму ў верасні 1831 г. для абмеркавання мерапрыемстваў, якія тычыліся так званага «Заходняга краю». Перад утварэннем Камітэта непрацяглы час існаваў Асобы камітэт, утвораны ў час паўстання 1830–1831 гг. для разгляду спосабаў яго падаўлення, які ўжо намеціў напрамкі дзейнасці свайго наступніка[2].

У склад утворанага ў верасні 1831 г. Камітэта ўвайшлі амаль выключна члены Камітэта міністраў. З шасці асоб Камітэта заходніх губерняў толькі М. Навасільцаў не быў членам Камітэта міністраў, што само па сабе сведчыць пра надзвычайную важнасць функцый, якія ўскладаліся на гэты орган. Аднак і М. Навасільцаў не быў там выпадковай асобай – з'яўляўся членам Дзяржсавета і папячыцелем Віленскай вучэбнай акругі, чалавекам, добра знаёмым з рэальнай сітуацыяй у заходніх губернях. У склад Камітэта таксама ўваходзілі яго старшыня В. Качубей, які адначасова ўзначальваў Дзяржаўны Савет і Камітэт міністраў, міністр фінансаў Я. Канкрын, міністр унутраных спраў А. Закрэўскі, галоўнаўпраўляючы духоўнымі справамі замежных веравызнанняў Д. Блудаў, упраўляючы Міністэрствам юстыцыі Д. Дашкоў. Значную ролю ў дзейнасці Камітэта адыгрываў і барон М. Корф, які, з'яўляючыся ўпраўляючым справамі Камітэта міністраў, па жаданні імператара першапачаткова ўзначаліў справаводства і ў Камітэце заходніх губерняў.

---

[1] Дело о шляхте в губерниях от Польши присоединенных ... Л. 633–643.

[2] *Лепеш О. В.* Комитет западных губерний: организация и деятельность (1831–1848) : дис. ... С. 27–28.

Камітэт адразу стаў распрацоўваць праект указа аб шляхце. На пасяджэннях 22 і 28 верасня 1831 г. цэнтральным было пытанне, ці вырашаць усе праблемы «адным разам», шляхам уключэння шляхты ў склад падатных саслоўяў, або дзейнічаць больш асцярожна і паступовa[1]. 19 кастрычніка 1831 г. імператар падпісаў указ, якім зацвердзіў праект закона аб разборы шляхты, складзены якраз Камітэтам заходніх губерняў, а не «асобай камісіяй» па састаўленні Палажэння аб шляхце[2].

Камітэт заходніх губерняў пры падрыхтоўцы Закона 19 кастрычніка 1831 г. абапіраўся на ранейшыя напрацоўкі ў гэтым пытанні – праекты беларускага генерал-губернатара М. Хаванскага, згаданы вышэй праект «асобай камісіі», утворанай 22 чэрвеня 1829 г., і яе матэрыялы. Асобна ў Камітэт паступіў і праект «О новом устройстве шляхты в губерниях от Польши возвращенных» на той час гродзенскага грамадзянскага губернатара М. Мураўёва, накіраваны імператару 29 жніўня 1831 г. Ад іншых праектаў яго адрозніваў даволі радыкальны падыход у палітыцы правядзення разбору шляхты, прыцягнення яе да рэкруцкай службы і перасялення ў пагранічныя рэгіёны[3]. Пасля разгляду трох праектаў Камітэт заходніх губерняў у надзвычай аператыўным парадку склаў і падаў 19 кастрычніка 1831 г. на зацвярджэнне імператару свой уласны праект указа «О разборе шляхты в западных губерниях империи и об устройстве сего рода людей»[4].

Падпісаны закон істотна адрозніваўся ад праекта, які быў распрацаваны спецыяльнай камісіяй. Ён быў своеасаблівым кампрамісам паміж праектам Хаванскага і праектам міністра фінансаў, які лёг у аснову праекта камісіі 1929 г. Так, у праекце камісіі шляхта, якая не даказала дваранства, пасля прыпіскі да гарадоў або вёсак павінна была захаваць сваю назву, у той час як па праекце Камітэта заходніх губерняў, зацверджаным указам 19 кастрычніка 1831 г., яе ўключалі ў асобыя катэгорыі аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў. Паводле праекта камісіі ўсю шляхту, якая не даказала б свайго дваранства, прапаноўвалася абавязаць пастаўляць у вайсковую службу таварышаў з васьмігадовым

[1] *Лепеш О. В.* Комитет западных губерний: организация и деятельность (1831–1848). Минск, 2010. С. 56.

[2] Дело о шляхте в губерниях от Польши присоединенных ... Л. 649.

[3] *Лепеш О. В.* Комитет западных губерний: организация и деятельность (1831–1848). С. 57–58.

[4] О разборе шляхты в западных губерниях, и об устройстве сего рода людей. 19 окт. 1831 г. № 4869 // ПСЗ II. Т. 6. Отд-ние 2. 1832. С. 134–138.

тэрмінам службы, а ўказ 19 кастрычніка ўводзіў ужо 15-гадовую рэкруцкую службу аднадворцаў, утварэнне рэкруцкіх участкаў і інш.[1]

У сувязі з прыняццем 19 кастрычніка 1831 г. праекта Камітэта заходніх губерняў новы міністр унутраных спраў Д. Блудаў распарадзіўся, каб праект камісіі далей не разглядаўся, што павінна было быць дакладзена Сенату. 14 сакавіка 1832 г. Сенат пастанавіў справу па праекце камісіі залічыць у скончаныя[2]. Камісія яшчэ фармальна праіснавала да красавіка 1834 г., калі была распушчана, а справы перададзены ў архіў МУС.

Праект 19 кастрычніка 1831 г., які быў распрацаваны толькі ў агульных рысах, а правілы па яго рэалізацыі дапрацоўваліся ўжо пасля, увабраў у сябе некаторыя прапановы з праектаў Хаванскага і Канкрына, а таксама асобныя палажэнні з праекта Мураўёва. Прапановы апошняга ўвайшлі ў падпісаны праект у значна больш памяркоўным выглядзе. Так, раздзяліць шляхту на тры разрады адпаведна наяўнасці дваранскіх дакументаў і стасавання розных правіл у адносінах да гэтых трох катэгорый прапаноўвалася яшчэ ў праекце Хаванскага 1823 г. У некалькі відазмененым выглядзе гэта палажэнне ўвайшло пасля і ў праект 19 кастрычніка 1831 г. Па ўказе 19 кастрычніка 1831 г. за дробнай шляхтай, якая не даказала свайго дваранскага паходжання, захоўвалася права ў далейшым даказваць прыналежнасць да расійскага дваранства, што прадугледжвалася і праектам М. Хаванскага. Многія іншыя палажэнні ўказа таксама абапіраліся на ідэі, распрацаваныя ў папярэдніх праектах.

Праведзены аналіз крыніц сведчыць, што распрацоўка Закона ад 19 кастрычніка 1831 г. аб разборы шляхты пачала праводзіцца ва ўрадавых колах фактычна з 1823 г., яшчэ пры Аляксандру І. Палажэнні ўказа былі вынікам працы не толькі (а можа, і не столькі) членаў Камітэта заходніх губерняў, якія, дапоўніўшы, прывялі іх да адзінага і канчатковага варыянту, колькі асоб, якія распрацоўвалі праекты ў 1823–1831 гг. Гэтыя асобы аказалі і непасрэдны ўплыў на выпрацоўку канчатковага праекта ўказа аб шляхце. Так, на пасяджэнні Камітэта заходніх губерняў запрашалі і М. Хаванскага і М. Мураўёва, а Я. Канкрын быў непасрэдным членам Камітэта заходніх губерняў, як і міністр унутраных спраў А. Закрэўскі, які ўдзельнічаў у абмеркаванні праекта яшчэ ў 1828–1829 гг. Аднак значную ролю ў канчатковым варыянце закона адыграў, верагодна, і 31-гадовы ўпраўляючы справамі Камітэта міністраў Мадэст Корф, які па сумяшчальніцтве вёў справаводства і ў Камітэце заходніх губерняў. Ён пазней узгадваў, са значным

---

[1] Дело о шляхте в губерниях от Польши присоединенных ... Л. 650–651.

[2] Там жа. Л. 664.

перабольшаннем, як нам здаецца: «...известный указ 1831 г. о польской шляхте, манифест о почетном гражданстве... было произведением моего пера»[1].

Закон аб разборы шляхты ў заходніх губернях імперыі пачаў распрацоўвацца як закон аб прыцягненні дробнай шляхты беларускіх губерняў у ваенную службу яшчэ ў 1823 г. Падчас яго абмеркавання ў Камітэце міністраў, міністэрствах, Сенаце ўзніклі фактычна два новыя праекты – адзін на аснове праекта беларускага генерал-губернатара М. Хаванскага, другі – міністра фінансаў Я. Канкрына. Праекты тычыліся ўжо не проста ваеннай службы дробнай шляхты, а разбору шляхты ўсіх заходніх губерняў імперыі і прыцягнення яе на вайсковую службу. Пасля доўгіх узгадненняў у 1829 г. была ўтворана спецыяльная камісія для выпрацоўкі канчатковага праекта. З-за адсутнасці дакладных звестак адносна колькасці шляхты і ладу яе жыцця, нязгоды сярод міністраў па асноўных палажэннях будучага ўказа, пастаяннай перапрацоўкі палажэнняў і іх новага зацвярджэння ў міністэрствах выпрацоўка канчатковага ўказа пастаянна адкладалася аж да 1831 г., у чым выяўлялася і пэўная нязграбнасць і груваcткасць расійскага бюракратычнага апарату. Канчаткова праект быў падрыхтаваны толькі членамі Камітэта заходніх губерняў і падпісаны імператарам Мікалаем I 19 кастрычніка 1831 г. як указ «О разборе шляхты в западных губерниях империи и об устройстве сего рода людей»[2].

## ФАЛЬСІФІКАЦЫЯ І ПАДЛОГІ ДВАРАНСКІХ ДАКУМЕНТАЎ У КАНЦЫ XVIII – ПАЧАТКУ 30-х гг. XIX ст.

Рэакцыяй на палітыку расійскага ўрада па разборы шляхты ў губернях, далучаных пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, стала масавая фальсіфікацыя дакументаў аб дваранскім паходжанні. Гэта з'ява, якая на пэўным этапе набыла надзвычай шырокія маштабы, давала магчымасць зацвердзіцца ў дваранстве шляхце, якая па нейкіх прычынах страціла свае дакументы або іх не мела. Фальсіфікацыі адкрывалі дарогу да прывілеяванага статусу і многім асобам, якія ўвогуле не мелі дачы-

[1] *Лепеш О. В.* Комитет западных губерний: организация и деятельность (1831–1848). С. 26.

[2] О разборе шляхты в западных губерниях, и об устройстве сего рода людей.

нення да шляхты. Вывучэнне праблематыкі фальсіфікацый дваранскіх дакументаў выявіла неабходнасць звярнуць увагу не толькі на сам механізм фальсіфікацыі, але таксама на складаную ўзаемазалежнасць сацыяльных і палітычных перадумоў гэтай з'явы, што дазваляе выявіць тонкія і нябачныя праз прызму афіцыйнай імперскай дакументацыі механізмы ўзаемадзеяння паміж уладай і грамадствам, глыбей вывучыць рэаліі сацыяльна-прававога становішча розных катэгорый насельніцтва Беларусі канца XVIII – XIX ст.

Разглядаючы праблематыку фальсіфікацыі дваранскіх дакументаў у канцы XVIII – XIX ст., неабходна адразу адзначыць той факт, што пранікненне ў асяроддзе шляхты асоб, якія не належалі да прывілеяванага саслоўя, было распаўсюджанай з'явай яшчэ ў часы Рэчы Паспалітай. Е. Кітовіч, храніст часу Аўгуста III, пісаў, што плебеі, нават прыгонныя, якія служылі ў заможных памешчыкаў, прывесіўшы на бок шаблю, выдавалі сябе за шляхту або сам гаспадар выдаваў іх за шляхцюкоў[1]. Спрыяла гэтаму сістэма дзяржаўнага ладу ў Рэчы Паспалітай, дзе ў палітычным жыцці дамінавалі некалькі магнацкіх родаў. У магнацкіх ардынацыях, якія фактычна былі своеасаблівымі дзяржавамі ў дзяржаве, ці ва ўладаннях найбольш заможных родаў на службу да ардынатаў і ўладальнікаў прымаліся і атрымлівалі надзелы для пасялення тысячы людзей пад назвамі *вольных*, *служкаў*, *зямянаў, баяраў, казакоў, чыншавікоў, стральцоў* і інш. Усе яны выконвалі ў асноўным вайсковыя функцыі, але таксама маглі сплочваць чынш за землі, на якіх былі паселены. Паводле свайго фактычнага становішча гэтыя людзі маглі прыраўноўвацца магнатамі да дробнай служылай шляхты і з цягам часу, па меншай меры на мясцовым узроўні, ёй лічыліся. Можна меркаваць, што менавіта такім шляхам паявілася ў Беларусі пэўная частка шматколькаснай катэгорыі чыншавай шляхты. За службу магнату і за аплату чыншу гэта шляхта перадавала атрыманы надзел у спадчыну пры ўмове захавання нашчадкамі службова-чыншавых адносін з уладальнікам.

З канца XVIII ст. можна заўважыць працэс пашырэння выкарыстання ў адносінах да такіх паўпрывілеяваных катэгорый насельніцтва (вольныя, служкі, зямяне, баяры, казакі, чыншавікі і інш.), якія мелі не заўсёды вызначаны прававы статус, назвы «шляхта». Дзяржаўны апарат Расійскай імперыі не быў увогуле ў стане інкарпараваць складаную і дакладна не аформленую сацыяльна-саслоўную структуру далучаных тэрыторый Рэчы Паспалітай у склад існуючай у Расійскай імперыі

[1] *Kitowicz J.* Opis obyczajów za panowania Augusta III : w 2 t. Wrocław, 2003. T. 2. S. 428.

без ушчамлення чыіх-небудзь правоў. Сацыяльна-саслоўная пабудова імперыі вельмі адрознівалася ад Рэчы Паспалітай, і многія групы не ўпісваліся ў расійскую саслоўную структуру. Аднак захады па яе ўніфікацыі з расійскай, па ўстанаўленні больш дакладных саслоўных меж пачалі прадпрымацца фактычна адразу пасля падзелаў Рэчы Паспалітай. У выніку прадстаўнікі паўпрывілеяваных катэгорый часам аказваліся запісанымі ў разнародных дакументах менавіта шляхтай, а не вольнымі людзьмі ці зямянамі і г. д. Крыніцы фіксуюць удалыя і не вельмі ўдалыя вынікі гэтага працэсу. Зразумела, што ніякіх дакументаў, якія б пацвярджалі шляхецкае паходжанне такіх асоб, у іх не было і быць не магло, акрамя (напрыклад, як у некаторых) сведчанняў 12 дваран аб іх дваранскай годнасці. Што праўда, згодна з Даравальнай граматай дваранству імператрыцы Кацярыны II, такія доказы прызнаваліся дваранскімі сходамі першапачаткова за дастатковыя, і менавіта яны пачалі масава састаўляцца асобамі, якія прэтэндавалі на пацвярджэнне (або набыццё) дваранскага статусу.

Імкненне прыпісацца менавіта да шляхты было выклікана жаданнем захаваць свой прывілеяваны статус ва ўмовах дэградацыі сацыяльнай ролі, якую раней, у часы Рэчы Паспалітай, выконвалі паўпрывілеяваныя катэгорыі, ролі, якая аказалася незапатрабаванай у Расійскай імперыі. Ваенна-службовыя функцыі, якія раней выконвала дробная шляхта і паўпрывілеяваныя катэгорыі, фактычна складаючы прыватныя войскі магнатаў, былі ёй страчаны. Магнатам забаранялася ўтрымліваць прыватныя ваенныя фарміраванні, і яны часта імкнуліся перавесці такую шляхту і служылы люд на становішча прыгонных сялян, замацаваўшы за імі паншчыну, павысіўшы падаткі і чынш. Захаваліся дакументы, якія сведчаць пра ўзнікненне сур'ёзных канфліктных сітуацый на гэтай глебе. Так, у паведамленні мінскага губернатара за 1809 г. адзначалася: «В течение 1809 г. крестьяне князей Радзивиллов в Слуцком и Игуменском поветах в разных деревнях, а также помещика Юдицкого в Речицком повете деревень Черемис и Просмычь, не восхотев исполнять ту повинность помещикам своим, которую прежде сего они не отбывали по разным помещичьим расчетам и обстоятельствам и которая, однако, есть у крестьян здешних обыкновенная, воспротивились сим новым их распоряжениям... *возмечтав, что они шляхта или люди вольные, обсевшие издревле по договорам* (курсіў наш. – *В. М.*), и якобы новая повинность до них не относилась, до такой, наконец, степени ослушания приведены были, что не только не внимали действию земской полиции, но и пренебрегали воинскою командою, которая употреблена была в Речицком и Игуменском поветах на усмирение, жертвуя иму-

ществом и всем стяжанием своим до тех пор, пока по исследовании не открыты были зачинщики сего бунта и не осуждены к должному наказанию... Вникая в подробность сих обстоятельств, нашел (губернатор. – *В. М.*), что до присоединения Польши к России многие богатые помещики имели у себя из своих крестьян род войска: казаков, гусар, стрельцов и пр., которые от всех работ и повинностей крестьянских были свободными, а потому те люди, считая и теперь себя не в крестьянском звании, ныне, когда наследники тех господ восхотели сих людей обратить в повинность крестьянскую, то они считают оное насильством...»[1].

Аднак не ва ўсіх выпадках адбываліся бунты і страта свайго ранейшага становішча чыншавікамі і іншымі катэгорыямі вольнага насельніцтва памешчыцкіх і магнацкіх маёнткаў. Прыкладам могуць быць сітуацыі, калі прадстаўнікам такіх катэгорый удавалася, наадварот, павысіць свой сацыяльна-прававы статус да ўзроўню шляхты. Так, зямян у радзівілаўскім маёнтку (ключы) Лахва на Палессі ў Давыд-Гарадоцкай ардынацыі сталі запісваць чыншавай шляхтай. У інвентарах, складзеных перад 1819 г., тыя самыя асобы згадваюцца як зямяне, а ў пазнейшых інвентарах – ужо як шляхта. Пры гэтым іх абавязкі засталіся такімі ж, якімі яны былі перад тым, калі іх сталі запісваць як шляхту: ніякіх павіннасцей, а толькі штогадовы чынш памерам у 100 руб.[2] Гэта сведчыць пра існаваўшую яшчэ адносную празрыстасць саслоўных меж, асабліва ў канцы XVIII – пачатку XIX ст., для паўпрывілеяваных катэгорый насельніцтва былога ВКЛ. Расійскія ўлады не мелі магчымасці для дакладнага кантролю і вызначэння саслоўнай прыналежнасці катэгорый, якіх не існавала ў імперскім заканадаўстве і якія з'яўляліся асабіста вольным насельніцтвам. У выніку адбывалася слаба кантраляванае прыстасаванне старой сацыяльна-саслоўнай структуры ВКЛ да новых рэалій імперыі. Частка людзей паніжала, а частка павышала свой сацыяльна-прававы статус – некаторыя падчас рэвізій былі запісаны сялянамі, вольнымі людзьмі, а іншыя шляхтай. Даволі шмат шляхты аказалася запісанай падчас рэвізій як сяляне ці вольныя людзі, не разумеючы мэт рэвізіі. Падобны працэс меў таксама месца яшчэ раней на землях першага падзелу Рэчы Паспалітай.

Ужо пры Кацярыне II і Паўле I пра існаванне на далучаных землях вялізнай колькасці асоб, што мелі аспірацыі да дваранскага звання, было вядома ўладам. Прадпрымаліся і першыя захады па арганізацыі «адсе-

[1] Отчет минского губернатора за 1809 г. // Хрестоматия по истории Белоруссии с древнейших времен до 1917 г. С. 181.

[2] Inwentarze miasteczka Łachwa (AR) // AGAD. Dz. 25. Sygn. 2184–2198.

ву» сапраўднай шляхты, як лічылі ўлады, ад несапраўднай. Менавіта намаганні «чысткі» дваранскага саслоўя на далучаных тэрыторыях сталі першай прычынай масавых фальсіфікацый і фабрыкацыі дваранскіх дакументаў.

Пра першыя спробы ўзяць пад кантроль колькасць дваранства мы пісалі ў першым раздзеле. Такая палітыка ў далучаных губернях была часткай, адным з кірункаў агульнаімперскай палітыкі Кацярыны II, скіраванай на закрыццё дваранскага саслоўя імперыі ад пранікнення выхадцаў з іншых саслоўяў. Дваранскія роды згодна з Даравальнай граматай расійскаму дваранству 1785 г. павінны былі запісвацца ў дваранскія радаводныя кнігі, а дваранскія сходы павінны былі весці ўлік дваранства. Аднак у часы Кацярыны II складанне радаводных кніг прасоўвалася вельмі павольна[1]. У Сенат і самой імператрыцы паступалі звесткі пра шматколькасныя злоўжыванні, якія дапускаліся пры разборы доказаў дваранскага паходжання і складанні дваранскіх спісаў у саміх дваранскіх сходах. Асабліва шмат іх паступала з украінскіх і беларуска-літоўскіх губерняў. Так, у 1791 г. намеснік маларасійскіх губерняў генерал-аншэф Крачэтнікаў прадставіў у Сенат рапарт, што па трох губернях унесена ў радаслоўныя кнігі 22 702 душы з купцоў, казакоў, мяшчан, казённых і ўласніцкіх сялян, якія плацілі падаткі. А Магілёўскі дэпутацкі сход выдаў граматы аб дваранстве асобам, якія знаходзіліся ў падушным акладзе, дзякуючы чаму яны, маючы на руках граматы, «лічылі сябе маючымі права на падставе гэтых грамат быць выключанымі з акладу»[2].

Ад шляхты першапачаткова патрабавалася складаць спісы ў дваранскіх дэпутацкіх сходах, прадастаўляць туды «дастатковыя», як загадвалася, дакументы, якія б сведчылі пра іх дваранскае паходжанне, прычым дакладнага пераліку такіх дакументаў не было. У першую чаргу імі маглі быць разнародныя дакументы і выпісы з актавых кніг судовых устаноў, якія існавалі ў кожным павятовым горадзе. На працягу стагоддзяў такіх кніг назбіралася вельмі многа, частка з іх была страчана ў выніку пажараў. Спосаб захавання актавых кніг, якія захоўваліся і ў якіх якраз і маглі захоўвацца дакументы, што маглі быць законным пацвярджэннем шляхецкага паходжання, быў вельмі нядбайны. Закон аб актавых кнігах фактычна не рэалізоўваўся – многія з іх не былі прашыты, рэдка выконвалася патрабаванне аб абавязковым падпісанні

[1] *Абрамова И. Л.* Сословная политика Павла I. М., 1990. С. 125.
[2] Там жа.

актаў пісарам ці рэгентам[1]. Аднак падробка менавіта актаў у мэтах незаконнай набілітацыі ў часы Рэчы Паспалітай, відаць, не была вельмі пашыранай з'явай[2].

Сітуацыя змянілася з падзеламі Рэчы Паспалітай і пачаткам разбору шляхты. Пасля далучэння беларускіх земляў да Расіі магнаты разам з забаронай мець уласныя войскі страцілі і вядучую палітычную ролю. Замест павятовых сеймікаў у 1785 г. былі створаны дваранскія дэпутацкія сходы, на якія расійскімі ўладамі першапачаткова і была ўскладзена функцыя кантролю і чысткі шляхецкага саслоўя. Але, як аказалася, гэтыя саслоўныя ўстановы не падыходзілі да выканання абавязку надта дбайна. З моманту ўключэння беларускіх земляў у склад Расійскай імперыі і аж да канца 20-х гг. XIX ст. дваранскія сходы разглядалі пададзеныя шляхтай вывадовыя дакументы і пацвярджалі іх дваранства фармальна, паводле даволі простай схемы, што стварала падставу для злоўжыванняў і фальсіфікацый дакументаў. Па звестках, атрыманых сучаснымі архівістамі, няпраўдзівая інфармацыя прысутнічала, напрыклад, у 80 % вывадаў зацверджанай у дваранстве шляхты Мінскай губерні[3]. Улады ведалі пра праблему, спрабавалі яе вырашаць, але не маглі, паколькі неабходна было дабіцца ад усёй шляхты хаця б падачы дакументаў у дваранскія сходы, на што ў пачатку XIX ст. неаднаразова ўстанаўліваліся тэрміны, якія з поспехам і фактычна без наступстваў для значнай часткі шляхты прапускаліся аж да 1830-х гг.

Другой вялізнай праблемай былі злоўжыванні з доказамі ў саміх дваранскіх сходах. Пра такую праблему быў добра праінфармаваны

---

[1] Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской ... С. II.

[2] Без магнацкай пратэкцыі замацавацца ў шляхецкай карпарацыі бедняку было фактычна немагчыма, паколькі нават са сфальсіфікаванымі дакументамі куды больш істотным за любыя паперы было прызнанне шляхецкай годнасці за чалавекам мясцовай карпарацыяй шляхты, на чале якой стаялі магнаты. Таму шляхецкія карпарацыі паветаў былі адносна замкнёныя і папаўняліся па волі магнатаў, прычым асабліва дынамічна ў канцы XVII – XVIII ст., калі трэба было засяліць апусцелыя ў выніку войнаў уладанні і нарасціць колькасць служылай шляхты. Праверка дакументаў такой шляхты ніколі ў Рэчы Паспалітай не праводзілася.

[3] *Рыбчонак С. А.* Праблема верагоднасці вывадаў шляхецтва ў першай палове XIX ст. (па матэрыялах Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу) // Праблемы гістарыяграфіі, крыніцазнаўства, архівазнаўства і археаграфіі ў Беларусі : матэрыялы круглага стала, прысвеч. 60-годдзю з дня нараджэння праф. У. М. Міхнюка, Мінск, 28 верас. 2007 г. : зб. дакл. / Беларус. НДІ дакументазнаўства і арх. справы ; навук. рэд.: У. І. Адамушка, А. Я. Рыбакоў. Мінск, 2008. С. 95–109.

новазаступіўшы на трон у 1796 г. імператар Павел І. Яго рэакцыяй ужо ў першыя месяцы царавання стаў імянны ўказ ад 4 снежня 1796 г.[1]

У канцы XVIII і ў першыя гады XIX ст. для фальсіфікацыі дваранскіх дакументаў паявілася і яшчэ адна прычына – імкненне пазбегнуць рэкрутчыны і падушных падаткаў, якія былі ўскладзены расійскімі ўладамі на непрывілеяваныя саслоўі. Уладам стала вядома, што многія асобы з падаткаабкладаных саслоўяў, ухіляючыся ад падатковых, рэкруцкіх і іншых павіннасцей, запісваліся падчас рэвізій шляхціцамі. Гэта асабліва яскрава выявілася падчас шостай рэвізіі. Нават вайсковыя дэзерціры, змяніўшы сваё імя, запісваліся ў рэвізскіх сказках у лік чыншавай шляхты[2]. Пра падобныя факты вядома было і з украінскіх губерняў, дзе сітуацыя была падобнай да беларускай[3]. Але там яна была цікавая яшчэ і тым, што ў канцы XVIII ст., а асабліва пасля 1811 г., ва ўкраінскіх губернях паявілася многа перасяленцаў з былога ВКЛ, якія мясцовымі дваранскімі сходамі толькі на аснове валодання польскай мовай, без разбору ўносіліся ў шляхецкія спісы[4].

На ўсе гэтыя факты хоць і няспешліва, што было характэрна для чыноўнікаў царскай адміністрацыі, але ўсё ж вымушаны былі рэагаваць улады. Начальнік Галоўнага штаба І. Дзібіч у лістападзе 1824 г. запатрабаваў ад М. Навасільцава тлумачэння з нагоды таго, што «...сяляне, у выніку злоўжывання мясцовых улад, за грошы здабываюць сабе пасведчанні аб дваранскай годнасці і застаюцца свабоднымі ад усялякай павіннасці»[5].

У 1816 г. па губернях быў разасланы загад выяўляць і прыпісваць у аклад асоб, якія незаконна карысталіся дваранскімі прывілеямі. Мясцовыя ўлады ўзяліся за зверку даных розных рэвізій. Тых асоб, якія па пятай ці шостай рэвізіях былі запісаны ў акладзе, а па сёмай запісаліся ў шляхту, павінны былі вяртаць у аклад. Праўда, выявіць шмат такіх асоб не ўдалося. У Гродзенскай губерні, напрыклад, іх было толькі 82 душы (каля 0,3 % шляхты губерні), паведамляла ў 1826 г. Гродзенская казённая

---

[1] РГИА. Ф. 1341. Оп. 1. Д. 346а. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 2–2об.

[2] *Неупокоев В. И.* Преобразование беспоместной шляхты ... С. 6.

[3] *Кабузан В. М.*, *Троицкий С. М.* Изменения в численности, удельном весе и размещении дворянства в России в 1782–1858 гг. С. 158 ; *Касмылёў В.* Шляхецкая годнасць – за тры рублі серабром. С. 42.

[4] РГИА. Ф. 1341. Д. 346. Ч. 1. О шляхте в губерниях от Польши присоединенных. Л. 196–199.

[5] *Касмылёў В.* Шляхецкая годнасць – за тры рублі серабром. С. 42.

палата ў Міністэрства фінансаў[1]. Колькасць гэта была вельмі нязначнай у параўнанні з колькасцю ўсёй шляхты ў губерні – каля 23 тыс. чалавек[2].

Рознага роду махлярствы працягваліся ў саміх дваранскіх сходах. У 1820 г. высветлілася, што, напрыклад, службовыя асобы Віленскага дваранскага дэпутацкага сходу, якія працавалі ў ім у 1818–1820 гг., за плату забяспечвалі вывадовымі справамі шляхецтва асоб, якія не падалі неабходных доказаў. У хабарніцтве былі абвінавачаны дэпутат Шавельскага павета і сакратар Віленскага дваранскага дэпутацкага сходу. Што праўда, пакараны яны не былі, санкцыі былі абмежаваны тлумачэннямі падазраваных[3].

Нягледзячы на патрабаванні ўлад, перад 1828 г. доказы свайго дваранства і генеалагічныя табліцы ў дваранскія сходы падалі далёка не ўсе, хто лічыў сябе шляхтай – у асноўным заможныя роды і толькі частка сярэднезаможнай і дробнай шляхты. Фальсіфікацыі ж пададзеных дакументаў у 1820-я гг. працягваліся. Выяўляліся толькі найбольш непрафесійныя падробкі дакументаў, у першую чаргу пасведчанні аб дваранстве, якімі, як правіла, карысталіся сяляне. Так, у 1826 г. на ссылку ў Сібір за выраб фальшывых дваранскіх пасведчанняў сабе і Мацею Чарняўскаму быў адпраўлены жыхар Завілейскага павета Юстын Шпакоўскі. Шпакоўскі, які займаўся прыватным навучаннем дзяцей і відавочна ўмеў пісаць, паказаў падчас следства, што жадаў знайсці іншую працу і дзеля гэтага сам напісаў пасведчанні, падрабіў подпіс асэсара Мазуркевіча і прыклаў да пасведчанняў чужую пячатку са знакамі «D : J», якую яму даў адстаўны салдат Палушынскі. На іншым пасведчанні ён паставіў скапіраваны подпіс ксяндза Захара Герэцкага і пячатку, узятую ім падманам нібыта дзеля запячатвання свайго паштовага ліста ў шляхціца Дыянізія Гарніша. Падробка была выяўлена, калі Шпакоўскі з'явіўся з такімі дакументамі ў вёсцы Вільнюны князя Плятэра, дзе быў затрыманы дзясяцкім[4]. У 20-я гг. XIX ст. былі выкрыты падробкі дакументаў аб дваранскай годнасці на Браслаўшчыне. Селянін вёскі Арэлеў Юры Ясяновіч падрабіў на сваё імя, імя свайго брата і сясцёр дакумент аб шляхетным паходжанні[5].

---

[1] О времени, с которого должны быть вводимы в оклад люди ...

[2] *Lechnicki J. E.* Statystyka gubernii Litewsko-Grodzieńskiej. S. 59.

[3] *Байрашаўскайтэ Т.* Працэс дэкласацыі шляхецкага саслоўя Літвы: доказы паходжання (канец XVIII – 60-я гг. XIX ст.) // ARCHE. 2009. № 9. С. 157.

[4] Дело по обвинению шляхтича Юстына Шпаковского в подделке свидетельства Матвею Чернявскому // НГАБ. Ф. 1707. Воп. 1. Спр. 16. Арк. 3–19.

[5] *Цітоў А.* Пячаткі старажытнай Беларусі. Нарысы сфрагістыкі. Мінск, 1993. С. 168.

Адказваючы на пытанне пра прычыны фальсіфікацыі дваранскіх пасведчанняў сялянамі, неабходна ўзгадаць рэкрутчыну і падушныя падаткі, а таксама тое, наколькі несвабодным было становішча непрывілеяваных саслоўяў, асабліва сялянства, і наколькі шырэй маглі быць магчымасці для асоб, якія жадалі змяніць свой сацыяльны статус, калі б яны мелі дакументы на дваранства. Усё насельніцтва, а ў першую чаргу сялянства, было вельмі абмежавана ў магчымасцях перамяшчэння і змены занятку. Даволі добра сацыяльную і прававую рэчаіснасць, у якой даводзілася жыць тагачасным сялянам, адлюстроўвае справа селяніна Габрыэля Станкевіча. Ён уцёк ад памешчыцы Каліцкай, уладальніцы маёнтка Новы Двор Браслаўскага павета. Прычыны ўцёку ў архіўнай справе не ўказаны, але вядома, што меў ён 34 гады і быў халасты. Знаходзіцца ў горадзе без дакументаў было небяспечна, а ўладкавацца на працу фактычна немагчыма, пра што сведчыў у паказаннях сам Станкевіч. Пасля ўцёку ён накіраваўся ў Дынабурскі павет, дзе трапіў ў маёнтак Юзэфава графа Яна Мола. За тры рублі срэбрам Станкевіч атрымаў пасведчанне (у справе не ўказана, якое канкрэтна), з якім (пасля купляў новыя пасведчанні) тры гады жыў і працаваў у Рызе, але ў 1825 г. Мол адмовіўся выдаць яму новае пасведчанне. Жадаючы абавязкова мець «пісьмовы від», без якога, як піша, «нідзе не мог быць прыняты», купіў за тры рублі срэбрам у шляхціца Францішка Крумана шляхецкае пасведчанне на прозвішча Крумана. Уладкаваўся на працу ў шляхціца Бейнаровіча ў Курляндскай губерні, дзе і быў затрыманы[1]. Справа добра ілюструе, што прычынай падробкі было жаданне змяніць свой сацыяльны статус ва ўмовах строгага абмежавання законам магчымасцей для саслоўнай, тэрытарыяльнай і прафесійнай мабільнасці. Як бачым на прыкладзе справы Станкевіча, нават ад прыватных асоб можна было атрымаць нелегальныя паслугі па фальсіфікацыі дакументаў, што давалі магчымасць абысці строгія саслоўна-прававыя рамкі, у якія было загнана сялянства. Безумоўна, мноства падобных фактаў фальсіфікацыі не былі выяўлены. Памеры з'явы немагчыма вызначыць. Яны былі б яшчэ большымі, калі б сялянства было пісьменным. Непісьменнасць пераважнай часткі сялян, ды і значнай часткі шляхты, стварала нелегальны рынак па фальсіфікацыях, які быў прадстаўлены пісьменнымі асобамі, у тым ліку чыноўнікамі і служачымі дваранскіх сходаў.

[1] Дело по обвинению крепостного крестьянина Г. Станкевича в побеге от помещика и подделке шляхетского свидетельства // НГАБ. Ф. 1707. Воп.1. Спр. 9. Арк. 2–5.

Фактычна да 1828 г. справа з чысткай дваранскага саслоўя, а таксама выкрыццём «фальшывай» шляхты вырашалася з невялікім поспехам. Шляхта масава не падавала дакументы ў дваранскія сходы, а самі сходы не давалі рады нават з разглядам паступіўшых ужо дакументаў, многа з якіх, акрамя таго, былі падроблены або сфальсіфікаваны самімі чыноўнікамі дваранскіх сходаў. Больш настойліва ўлады сталі патрабаваць прадастаўлення дакументаў на дваранскую годнасць толькі пасля 1828 г., калі было прынята правіла пра абавязковае зацвярджэнне Герольдыяй рашэнняў дваранскіх сходаў. Да гэтага моманту дваранскія сходы самастойна выносілі рашэнні па прад'яўленых ім ад шляхты доказах дваранскага паходжання, калі гэтыя людзі не знаходзіліся ў падушным акладзе. Зараз яны страцілі фактычна неабмежаваныя і некантраляваныя дагэтуль паўнамоцтвы ў справе надання дваранскай годнасці. Больш таго, у лютым 1828 г. было вырашана стварыць камітэт, які павінен быў распрацаваць правілы аб тым, як правесці рэвізію дзейнасці дваранскіх сходаў і «дакладна вызначыць сапраўдныя дваранскія роды»[1]. У чэрвені 1829 г. было прынята рашэнне аб стварэнні камісіі для складання палажэння аб шляхце ў губернях, «далучаных ад Польшчы»[2]. Камісія адразу ўзялася за збор звестак пра лад жыцця дробнай шляхты, каб прапанаваць меры па «ўладкаванні яе побыту»[3].

Яшчэ адным кірункам дзейнасці ўлад стала праверка работы дваранскіх сходаў праз стварэнне спецыяльных камісій для вызначэння маштабаў падробкі вывадовых спраў. Такая камісія, напрыклад, была ўтворана губернскімі ўладамі пры Віленскім дваранскім дэпутацкім сходзе і пачала дзейнічаць 1 чэрвеня 1828 г. У камісіі па чарзе павінны былі засядаць два павятовыя дваранскія старшыні і чыноўнік губернскага суда (страпчы). Старшынстваваў у камісіі губернскі дваранскі старшыня. Камісіі было даручана вывучыць парушэнні, дапушчаныя службовымі асобамі былога дваранскага дэпутацкага сходу, праверыць вывадовыя справы 1818–1820 гг., зверыць з дакументамі, што пацвярджалі іх, і рэвізіямі 1795 і 1816 гг. Заўвагі камісія павінна была перадаць у Віленскі

[1] О учреждении при Сенате комитета, для начертания правил о том, каким образом удобнее произвести ревизию действий дворянских собраний и положительно определить настоящие дворянские роды. 12 февр. 1828 г. № 1806 // ПСЗ II. Т. 3. 1830.

[2] Об учреждении комиссии для составления положения о шляхте, находящейся в присоединенных от Польши губерниях. 22 июня 1829 г. № 2948 // ПСЗ II. Т. 4.

[3] Дело по отношению комиссии Высочайше учрежденной ...

дваранскі дэпутацкі сход. Сход павінен быў абмеркаваць зробленыя вывады камісіі і скласці спіс асоб, дваранскае паходжанне якіх было прызнана з парушэннямі, і паведаміць пра гэта ўладам[1].

Літоўская даследчыца Т. Байрашаўскайтэ, якая працавала з архіўнымі дакументамі камісіі, выявіла, што яна функцыянавала да мая 1832 г. і па сутнасці прызнала абгрунтаванымі доказы толькі землеўласнікаў, маёмасны цэнз якіх дазваляў удзельнічаць у працы дваранскіх дэпутацкіх сходаў. Сярод спраў іншых родаў было выяўлена мноства парушэнняў. Праверыць дакументы, якія пацвярджалі гэтыя справы, камісія не магла, паколькі іх не было ў справах, перададзеных камісіі дваранскімі сходамі, або іх там не хапала. У выніку губернскі дваранскі старшыня К. Валентыновіч звярнуўся да ўлад з просьбай даць дазвол на прызнанне несапраўднымі вывадовыя справы, абгрунтаванасць якіх было цяжка праверыць, а перад гэтым дазволіць цягам трох месяцаў прадаставіць дакументы, якіх не хапала. Нягледзячы на тое што такі крок ухваліў намеснік вялікі князь Канстанцін, сумнеўныя справы былі не знішчаны, а вернуты дваранскаму сходу з даручэннем выпатрабаваць ад шляхты неабходныя дакументы і скласці новыя вывадовыя справы. У выніку падробленымі былі прызнаны дакументы толькі трох родаў, пра што былі праінфармаваны ўлады ў 1833 г.[2]

Акрамя праверкі вывадовых спраў, камісія вымушана была рэагаваць на скаргі землеўласнікаў пра набыццё іх жа сялянамі дваранскіх пасведчанняў. Маштабы былі сур'ёзнымі. Большасць такіх скаргаў паступала з Жамойці. Высветлілася, напрыклад, што частка занесеных у інвентары сялян адмаўлялася выконваць павіннасці, перасялялася, паступала ў Варніскую духоўную семінарыю, апелюючы на прызнанае ім шляхецтва. Так, з уладанняў суддзі земскага межавога суда Браслаўскага павета збеглі 5 ашляхечаных сем'яў – 43 чалавекі. Цяжка колькасна ацаніць маштабы з'явы. З перабольшаннем, як нам здаецца, у 1811 г. Міхаіл Агінскі, напрыклад, паведамляў Аляксандру І, нібыта ў Літве няма такога маёнтка, сяляне б якога не парупіліся набыць дакументы аб шляхецкім паходжанні. Гэтых сялян нібыта было больш 30 тыс. сем'яў. Віленская камісія запатрабавала, каб ніжнія земскія суды знайшлі такіх сялян і вымусілі іх патлумачыць, на якой падставе тыя сталі дваранамі[3].

---

[1] *Байрашаўскайтэ Т.* Працэс дэкласацыі шляхецкага саслоўя Літвы ... С. 157–158.
[2] Там жа. С. 158.
[3] Там жа. С. 159.

Падробка дакументаў набыла вельмі значныя маштабы якраз у канцы 20-х гг. XIX ст., што было рэакцыяй шляхты на новыя, больш рашучыя дзеянні ўлад па правядзенні «чысткі» шляхецкага саслоўя. У 1829 г. на гэта звяртае ўвагу гродзенскі губернатар[1]. Згадваецца пра заўважаныя «многія злоўжыванні ў дэпутацкіх сходах» заходніх губерняў і ва ўказе 1828 г., які абавязваў высылаць на рэвізію ў Герольдыю ўсе рашэнні камісій дваранскіх сходаў адносна дваран, якія паступалі на ваенную службу[2]. У 1830 г. быў уведзены асобы парадак вызначэння сапраўднасці дваранскага паходжання шляхецкіх родаў «па Астзейскіх і далучаных ад Польшчы губернях», што таксама павінна было стаць перашкодай у фальсіфікацыі дакументаў[3].

Усе захады канца 1820-х гг. па ўзмацненні кантролю за карыстаннем дваранскімі прывілеямі і наданнем дваранскай годнасці былі толькі прадвеснікамі больш радыкальных мерапрыемстваў. Ужо з 1823 г. на ўзгадненні міністэрстваў знаходзілася некалькі праектаў па вычляненні са складу дваранства дробнай шляхты, прызнанні асноўнымі доказамі шляхецтва толькі актаў Літоўскай і Польскай метрык, але выпрацоўка адзінага праекта і наданне яму законнай сілы пастаянна адкладваліся[4]. Дабіцца ж элімінацыі з'явы фальсіфікацый іншымі сродкамі ўладам не ўдавалася. Наступныя рашучыя крокі ўлад па разборы шляхты справакуюць хвалепадобны рост попыту і прапановы паслуг фальсіфікацыі дваранскіх дакументаў, актавых і метрычных запісаў.

---

[1] *Амелька С.* Эвалюцыя прававой культуры дваранства на Гарадзеншчыне ў кан. XVIII – сяр. XIX ст. // Шлях да ўзаемнасці : матэрыялы VII Міжнар. навук. канф., Гродна, 24–27 лістап. 2001 г. / пад рэд. І. Крэня і М. Кандрацюка. Гродна, 2001. С. 301.

[2] О дворянских свидетельствах и документах, представляемых от недорослей из дворян и других свободного состояния людей, при определении их в военную службу. 6 февр. 1828 г. № 1773 // ПСЗ II. Т. 3.

[3] О порядке удостоверения в происхождении дворянских фамилий по Остзейским и присоединенным от Польши губерниям. 18 нояб. 1830 г. № 4104 // ПСЗ II. Т. 5. Отд-ние 2. 1831.

[4] *Макарэвіч В.* Расійскія праекты разбору шляхты беларуска-літоўскіх губерняў у 1823–1831 гг.

# РАЗБОР ШЛЯХТЫ І НАПРАМКІ ЎРАДАВАЙ ПАЛІТЫКІ Ў АДНОСІНАХ ДА ДРОБНАЙ ШЛЯХТЫ Ў 1831–1890-я гг.

## ЗАКОН 19 КАСТРЫЧНІКА 1831 г. «АБ РАЗБОРЫ ШЛЯХТЫ», ДЗЕЙНАСЦЬ КАМІТЭТА ЗАХОДНІХ ГУБЕРНЯЎ

З прыходам да ўлады Мікалая I быў узяты курс на больш радыкальныя падыходы ў вырашэнні праблемы разбору шляхты, што знаходзілася ў рэчышчы агульнай палітыкі ўрада Мікалая I, накіраванай на «ачышчэнне» і «аздараўленне» расійскага дваранства ва ўсёй імперыі. Становішча ў заходніх губернях яўна непакоіла імператара. Масы дробнай шляхты фактычна ігнаравалі патрабаванні аб складанні дакументаў, не запісваліся ў аклад і не плацілі падушны падатак, не давалі рэкрутаў, што, улічваючы значны колькасны склад дробнай шляхты, было негатыўнай з'явай для ўрада. Больш таго, шляхта не вельмі прыхільна ставілася да расійскіх улад, была пастаяннай крыніцай антыдзяржаўных выпадаў і бунтаў.

Вырашэнне праблемы разбору шляхты стала адным з важных напрамкаў кансерватыўнай палітыкі ўрада Мікалая I яшчэ перад паўстаннем 1830–1831 гг. У 1828 г. урадам было вырашана скласці правілы і правесці рэвізію дзейнасці дваранскіх дэпутацкіх сходаў у «далучаных ад Польшчы губернях» і вызначыць

сапраўдныя дваранскія роды. Для гэтага быў створаны спецыяльны сенацкі камітэт[1]. Закон ад 11 сакавіка 1828 г. ускладаў на павятовых і губернскіх маршалкаў абавязак размеркаваць паміж чыншавай і ваколічнай шляхтай падымны земскі падатак[2], што на практыцы ўжо прымяналася, напрыклад, у Гродзенскай губерні і раней[3]. 8 чэрвеня 1826 г. была здзейснена чарговая спроба ўстанаўлення канчатковага тэрміну і парадку прылічэння былой шляхты, якая не мела дакументаў, у аклад[4]. Указы 11 ліпеня 1828 г. і 14 мая 1830 г. абавязвалі шляхту, якая не прадставіла доказаў аб дваранскім паходжанні, запісвацца ў «градские общества» і «казенные поселяне»[5]. У чэрвені 1829 г. для хутчэйшага развязання праблемы было прынята рашэнне аб стварэнні спецыяльнай урадавай камісіі для складання палажэння аб шляхце ў губернях, «далучаных ад Польшчы»[6]. Факт стварэння камісіі сведчыць пра выключную важнасць разгляданага пытання. Вырашэнню праблемы імператар надаваў ледзь не першачарговае значэнне.

У склад камісіі, якая атрымала назву «Асобы камітэт», увайшлі чыноўнікі Міністэрства ўнутраных спраў, ваеннага міністэрства і Міністэрства фінансаў. Падпісваючы закон аб стварэнні камісіі для падрыхтоўкі палажэння аб шляхце ў заходніх губернях, імператар зрабіў уласнаручную рэзалюцыю – «заняцца неадкладна і прадставіць не пазней за снежань месяц». Праца камісіі па ўказе Мікалая I была аддадзена пад кантроль Міністэрства ўнутраных спраў. Мікалай I на ўказе напісаў рэзалюцыю, якая яскрава адлюстроўвала яго настрой у адносінах да працы камісіі і вырашэння праблемы разбору шляхты: «Згодны; неадкладна скончыць»[7].

---

[1] О учреждении при Сенате комитета, для начертания правил ...

[2] О устройстве земских повинностей в губерниях, надзору его высочества государя цесаревича вверенных. 11 марта 1828 г. № 1863 // ПСЗ II. Т. 3.

[3] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 3. С. 545–547. Определение Гродненского дворянского депутатского собрания о раскладке земских повинностей в губернии на 3-летие с 1 июля 1824 по 1 июля 1827 г. ; Центральный государственный исторический архив Латвийской ССР (ЦГИА ЛССР). Ф. 378. Оп. 32. Д. 85. Л. 35–37.

[4] О времени, с которого должны быть вводимы в оклад люди ...

[5] О причислении в градские общества и казенные поселяне людей, отсуждаемых из помещичьего владения. 11 июля 1828 г. № 2149 // ПСЗ II. Т. 3 ; О распространении высочайше утвержденного положения 11 июля 1928 года на шляхтичей, кои по непредставлению доказательств на шляхетство, обязаны избрать род податного состояния. 14 мая 1830 г. № 3663 // ПСЗ II. Т. 5. Отд-ние 1. 1831.

[6] Об учреждении комиссии для составления положения о шляхте ...

[7] О поручении ведомству внутренних дел Комиссии для составления правил о шляхте ...

Камісія пачала працу са збору звестак пра дробную шляхту, бо дакладнай інфармацыі пра яе колькасць, рассяленне і ўнутранае ўладкаванне ўлады не мелі[1]. У імперыі адсутнічалі статыстычныя органы. Усю інфармацыю цэнтр атрымліваў ад губернатараў або ад Міністэрства фінансаў. У 1832 г. пра адсутнасць дакладных звестак пра колькасны склад дробнай шляхты паведамляў у запісцы, пададзенай у Заходні камітэт, гродзенскі губернатар М. Мураўёў: «...в губернии сей неопределенный класс называющийся дворянством, о котором и самое депутатское собрание не имеет достоверных сведений, примерно простирается до 1600 семейств кроме тех, которые неизвестны никакому начальству...»[2].

Хутка пасля стварэння камісіі ў 1829 г. пачалося і абмеркаванне мерапрыемстваў па «ўладкаванні» шляхты, якая не падала доказы свайго дваранства. Былі выдадзены і першыя законапалажэнні. Указ 1830 г. дазваляў шляхце, якая не падала доказаў дваранства, прыпісвацца да сялянскіх і гарадскіх таварыстваў паводле палажэння ад 11 чэрвеня 1828 г. – як асобам, «якія адсуджаліся на волю з уладання памешчыка»[3]. Аднак мерапрыемстваў, якія б змушалі шляхту да прыпіскі ў падаткаабкладаныя катэгорыі, не праводзілася, напрыканцы 1820-х гг. улады яшчэ збіралі і вывучалі інфармацыю пра дробную шляхту, пра яе колькаснае, сацыяльнае становішча, маёмасць, заняткі, норавы і г. д.[4] Для працы камісіі былі неабходны даныя пра стан дробнай шляхты ў заходніх губернях.

У выніку працы камісія падрыхтавала праект палажэння аб шляхце заходніх губерняў, які складаўся са 149 параграфаў[5]. Паўстанне 1830–1831 гг., у якім дробная шляхта прыняла актыўны ўдзел, стала важным фактарам далейшай эвалюцыі ўрадавай палітыкі ў бок яе больш радыкальнага ўхілу адносна вырашэння пытання «ўладкавання» дробнай шляхты. Падаўленне паўстання і ўмовы панавання рэакцыі далі ўладам магчымасць для кардынальных дзеянняў. У 1831 г. распрацоўваць мерапрыемствы было даручана новаму органу – Камітэту заходніх губерняў,

---

[1] Дело по отношению комиссии Высочайше учрежденной ...

[2] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. С. 353.

[3] О распространении высочайше утвержденного положения 11 июля 1828 г. ...

[4] Дело по отношению комиссии Высочайше учрежденной ... ; Дело об установлении количества дымов околичной и чиншевой шляхты по поветам Виленской губ. 1829–1855 гг. // LVIA. Ф. 391. Воп. 6. Спр. 359 ; Дело о сборе сведений о числе помещиков и шляхты по белорусским губерниям (1830–1839) // НГАБ. Ф. 1297. Воп. 2. Спр. 4804.

[5] Дело о шляхте в губерниях от Польши присоединенных ... Л. 633–643.

які быў заснаваны імператарам у верасні 1831 г. для абмеркавання мерапрыемстваў, якія тычыліся так званага «Заходняга краю».

**Дзейнасць Камітэта заходніх губерняў.** Стварэнне рэгіянальных камітэтаў па кіраванні асобнымі ўскраінамі імперыі стала спецыфічнай з'явай у дзяржаўным апараце Расіі другой чвэрці XIX ст. Гэта быў адзін з элементаў кансерватыўных рэформ, праведзеных Мікалаем I і скіраваных на стварэнне дзяржаўнай ідэалогіі і тэарэтычнае абгрунтаванне самадзяржаўнай улады ў Расіі, інтэграцыю нярускіх ускраін імперыі. У другой чвэрці XIX ст., акрамя Камітэта заходніх губерняў, ствараліся Першы і Другі сібірскія (1840–1882), Камітэт па справах Царства Польскага (1831–1841; 1864–1881). Перад Камітэтам заходніх губерняў непрацяглы час існаваў Асобы камітэт, які быў створаны ў час паўстання 1830–1831 гг. для разгляду спосабаў яго падаўлення і фактычна намеціў некаторыя кірункі дзейнасці і тэмы для разгляду свайго наступніка[1].

Выконваючы нярэдка ролю своеасаблівых тэрытарыяльных міністэрстваў, камітэты ажыццяўлялі ў адносінах да падначаленых правінцый функцыі законадарадчых інстанцый і органаў нагляду. У асноўным камітэты былі нешматлюднымі, але часта надзеленымі значнымі паўнамоцтвамі, уяўлялі сабой аператыўныя аб'яднанні асабліва давераных Мікалаю I вышэйшых саноўнікаў[2]. Нежаданне ўрада таго, каб дзейнасць камітэтаў выклікала спадзяванні ці апасенні адносна правядзення рэформ, прадвызначыла іх сакрэтнасць.

Камітэты распрацоўвалі рашэнні, прымалі іх, пазней гэтыя рашэнні выносіліся на прачытанне і адабрэнне імператара, адкуль у выглядзе «высачайшых загадаў» паведамляліся ў Дзяржаўны Савет, Камітэт міністраў, Сенат, міністэрствы. Таму ўказы, першапачаткова выпрацаваныя ў камітэтах, выходзілі з грыфам таго дзяржаўнага інстытута, які іх канчаткова зацвердзіў, або падпісваліся асабіста імператарам.

Адным з важнейшых пытанняў, якое разглядалася на пасяджэннях спачатку Асобага, а пасля і Камітэта заходніх губерняў, было пытанне разбору шляхты. Дзейнасць Камітэта, якая працягвалася да 1848 г., стала значнай старонкай у гісторыі выпрацоўкі расійскай імперскай палітыкі ў беларускіх землях па гэтым і многіх іншых пытаннях.

---

[1] *Лепеш О. В.* Комитет западных губерний: организация и деятельность (1831–1848) : дис. ... С. 27–28.

[2] *Корф М. А.* Император Николай I в совещательных собраниях // Сборник императорского российского исторического общества : в 148 т. / сост. Ф. А. Бюлер. СПб., 1867–1916. Т. 98. 1896. С. 123.

Адзначым толькі, што, акрамя міністраў і вышэйшых чыноў, для ўдзелу ў працы Камітэта запрашаліся губернатары і генерал-губернатары заходніх губерняў – Д. Г. Бібікаў, М. М. Мураўёў, М. М. Хаванскі, Ф. Я. Мірковіч, а штогадовыя справаздачы і запіскі, якія яны падавалі на імя імператара, мелі велізарнае значэнне пры распрацоўцы праектаў па ўпраўленні «Заходнім краем»[1]. Менавіта мясцовыя ўлады з'яўляліся ініцыятарамі многіх указаў і законапраектаў, яны былі «истинными творцами новой политики на западной окраине»[2].

Дзейнасць Камітэта ажыццяўлялася па-за рамкамі функцыянавання афіцыйных дзяржаўных органаў, таму ніякіх звестак аб стварэнні Камітэта ў Поўным зборы законаў Расійскай імперыі няма. Усяго адбылося 143 пасяджэнні Камітэта. Было разгледжана больш за 700 пытанняў[3]. Найчасцей Камітэт збіраўся ў 1831–1833 гг. (38 разоў) і ў 1839–1841 гг. (42 разы). Прычына такой актыўнасці – абвастрэнне ў той час унутрыпалітычнай абстаноўкі ў заходніх губернях. У 1831–1833 гг. асноўныя намаганні Камітэта былі скіраваны на хутчэйшую выпрацоўку мерапрыемстваў, якія б прывялі да палітычнага заспакойвання пасля паўстання і спрыялі б збліжэнню заходніх губерняў імперыі з рускімі правінцыямі. У 1839–1840 гг. улады выявілі новую пагрозу ў выніку раскрыцця змовы Шымона Канарскага. Раскрыццё тайных таварыстваў прывяло Мікалая I да ўпэўненасці, што нельга зацягваць з канчатковым праектам поўнай інтэграцыі заходніх губерняў у склад Расіі. Не выпадкова менавіта ў гэтыя гады Камітэт быў заняты распрацоўкай указаў, якія тычыліся ў асноўным увядзення расійскага заканадаўства на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Правабярэжнай Украіны.

Паказальна тое, што праца Заходняга камітэта пачалася з разгляду папер гродзенскага губернатара М. М. Мураўёва.

Адным з першых у працы Камітэта паўстала пытанне разбору шляхты ў заходніх губернях. Ужо 22 верасня, праз 5 дзён пасля заснавання Камітэта, на яго пасяджэнні быў агучаны падрабязны даклад міністра юстыцыі В. Н. Паніна аб прававым становішчы шляхты, у якім было зроблена заключэнне, што паводле ранейшага заканадаўства любы бадзяга-шляхціц даволі лёгка мог атрымаць дваранскі тытул, таму Панін прапанаваў неадкладна распачаць разбор шляхты.

---

[1] *Лепеш О. В.* Комитет западных губерний: организация и деятельность (1831–1848) : автореф. дис. … канд. ист. наук : 07.00.02 / Белорус. гос. ун-т. Минск, 2005. С. 25–26.

[2] Там жа. С. 29.

[3] Там жа.

Усе прапанаваныя на разгляд Камітэта праекты адносна дробнай шляхты зводзіліся да дасягнення асноўных мэт – памяншэння колькасці дробнай шляхты, абкладання яе падатковай і рэкруцкай павіннасцямі, дасягнення яе лаяльнасці да ўлад. Аднак метады і тэрміны рэалізацыі задач у праектах істотна адрозніваліся. Дыяпазон іх вагаўся ад вельмі радыкальных, рэалізаваць якія прапаноўвалася ў вельмі сціслыя тэрміны, як у праекце М. Мураўёва, да больш памяркоўных і расцягнутых у часе[1]. Урад, аднак, не адважваючыся пайсці на самыя радыкальныя меры, выбраў шлях, як здавалася ў параўнанні з радыкальнымі праектамі высялення дробнай шляхты, даволі памяркоўны – разбор і рэарганізацыю дробнашляхецкай катэгорыі насельніцтва. Вынікам стала выданне Закона ад 19 кастрычніка 1831 г. «Аб разборы шляхты ў заходніх губернях і аб уладкаванні людзей дадзенай катэгорыі», які рэарганізоўваў прававое становішча ўсёй дробнай шляхты[2]. Усе наступныя законапалажэнні, якія тычыліся дробнай шляхты, былі развіццём гэтага ўказа.

Асноўнымі задачамі ўрада на доўгатэрміновую перспектыву сталі аддзяленне чыншавай, ваколічнай і неаседлай шляхты ад шляхты, якая валодала «дваранскай» уласнасцю, уключэнне першай у склад падаткаабкладаных і ваеннаабавязаных катэгорый насельніцтва, перасяленне часткі шляхты ў слабазаселеныя рэгіёны імперыі, поўная ліквідацыя дробнай шляхты як асобнай, нефармальнай катэгорыі насельніцтва і інкарпарацыя яе ў склад фармальных катэгорый – сялян і гараджан. Паспяховая рэалізацыя мерапрыемстваў разбору павінна была забяспечыць павелічэнне паступленняў у казну і колькасці рэкрутаў, нейтралізацыю дробнай шляхты як варожа настроенага элемента, падатлівага да бунтоўных заклікаў, набліжэння сацыяльна-саслоўнай структуры насельніцтва заходніх губерняў да падобнай у іншых расійскіх губернях.

Вызначаючы ў 1831 г. прынцыпы разбору дробнай шляхты ў заходніх губернях, расійскія ўлады вырашылі наблізіць статус найбяднейшай яе часткі да статусу расійскіх аднадворцаў – падаткаабкладанай катэгорыі насельніцтва, на якую ў імперыі былі ўскладзены некаторыя вайсковыя функцыі, што, на думку распрацоўшчыкаў закона, было падобна да колішніх функцый дробнай шляхты ў Рэчы Паспалітай. Адсюль узнікла ідэя вылучыць сельскую дробную шляхту, якая не даказала б свайго дваранства, у асобную катэгорыю пад назвай «адна-

[1] *Лепеш О. В.* Комитет западных губерний: организация и деятельность (1831–1848) : дис. ... С. 49–51.

[2] О разборе шляхты в западных губерниях, и об устройстве сего рода людей.

дворцы заходніх губерняў». Гарадскую шляхту, якая не даказала дваранства, згодна з тым жа праектам планавалася вылучыць у катэгорыю «грамадзян заходніх губерняў», за выключэннем адвакатаў, урачоў, мастакоў, літографаў і інш., якія пераходзілі ў катэгорыю «ганаровых грамадзян» (п. 6 закона). Шляхце, аднадворцам і грамадзянам дазвалялася прыпісвацца і да іншых падаткаабкладаных катэгорый, без згоды таварыстваў, да якіх яны пажадаюць прыпісацца, але з асабістай адказнасцю ў справе выплаты падаткаў[1].

Расійскія аднадворцы, што пражывалі пераважна ў Чарназем'і, на поўдні, уздоўж былой мяжы імперыі, былі катэгорыяй, створанай у XVII – першай палове XVIII ст. з катэгорыі баярскіх дзяцей, казакоў, стральцоў і некаторых іншых груп, якія знаходзіліся ў структуры грамадства паміж прывілеяванымі і непрывілеяванымі саслоўямі. За пагранічную службу аднадворцы атрымлівалі там у спадчыну надзелы зямлі і права валодаць прыгоннымі. У пачатку XVIII ст. яны былі абкладзены падаткамі нароўні з сялянамі. Напрыканцы XVIII ст. былі ліквідаваны ландміліцэйскія фарміраванні, у якіх аднадворцы служылі (у часы Кацярыны II паводле праекта П. Зубава планавалася стварыць падобныя ландміліцэйскія палкі з дробнай шляхты). У XIX ст. з ранейшых прывілеяў у расійскіх аднадворцаў засталіся толькі палегчаная рэкруцкая павіннасць – 15 гадоў, асабістая свабода і права валодаць прыгоннымі.

Пераводзячы шляхту, якая не даказала свайго дваранства, у нова-ўтвораную катэгорыю аднадворцаў заходніх губерняў, улады імкнуліся стварыць падабенства іх прававога статусу з расійскімі аднадворцамі, а статус апошніх быў звязаны з вайсковай службай. З'явілася жаданне прыцягнуць да яе таксама аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў. Указ ад 6 лістапада 1831 г. дазваляў ім наймацца па жаданні «для лепшага размяшчэння» падчас рэкруцкага набору замест мяшчан і сялян у рэкруты[2].

Імкнучыся карэнным чынам змяніць лад жыцця былой шляхты і вытруціць з яе свядомасці ўспаміны пра шляхецкую «вольнасць»,

---

[1] О правилах переселения казенных крестьян в города, о приписке к городам другого звания людей, о построении домов и об отдаче в оброчное содержание принадлежащих городам земель. 22 дек. 1832 г. № 5842 // ПСЗ II. Т. 7. 1833 ; О личной ответсвенности в податях приписываемых к городам людей без согласия обществ. 16 янв. 1834 г. № 6723 // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 1. 1835 ; О правилах для приписки к городам людей, избранию рода жизни подлежащих. 24 июля 1834 г. № 7295 // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 1.

[2] О дозволении гражданам и однодворцам западных губерний поступать по найму в рекруты за мещан и крестьян всех именований, сию повинность в натуре отправляющих, без различия губерний. 6 нояб. 1831 г. № 4926 // ПСЗ II. Т. 6. Отд-ние 2.

а таксама забяспечыць у пэўнай ступені «аселасць» яе найбольш небяспечных элементаў, якія, як лічылася, «швэндаюцца без занятку», улады не забываліся і пра фіскальную карысць. На думку вядомага гісторыка М. Улашчыка, указ ад 19 кастрычніка 1831 г. «меў перш за ўсё фіскальны характар», яго прыняццем урад «павялічваў колькасць падаткаплацельшчыкаў і рэкрутаў»[1].

Асобна ў снежні 1831 г. быў прыняты рэгламент падачы пасямейных спісаў і прыпіскі аднадворцаў і грамадзян[2]. Спісы павінны былі падавацца на працягу года пасля абнародвання ўказа ад 19 кастрычніка ў «асобыя камісіі», створаныя ў павятовых гарадах. У склад камісій уваходзілі павятовы старшыня дваранства, страпчы і чыноўнік, прызначаны губернскім начальствам. Указам ад 5 ліпеня 1832 г. склад павятовых камісій мог быць у выпадку неабходнасці павялічаны яшчэ на двух чыноўнікаў для пісьмаводства[3]. Для пацвярджэння прыпіскі кожны дым ці сям'я аднадворцаў атрымлівалі пасямейны ліст. Формы пасямейных спісаў і правілы іх запаўнення былі зацверджаны ўказам ад 21 студзеня 1832 г. Фармуляры спісаў друкаваліся ў Пецярбургу і рассылаліся ў казённыя палаты заходніх губерняў, дзе рэалізоўваліся за 10 кап. сем'ям аднадворцаў і грамадзян для запаўнення[4].

Першапачаткова для прыпіскі адводзіўся адзін год. Тыя, хто не прыпісаўся ў тэрмін, павінны былі трапіць пад дзеянне закона аб валацугах. Вызначалася, што прыпісцы падлягалі ўсе шляхціцы, «якія называлі сябе шляхтай без зацвярджэння нададзенай сабе годнасці законнымі доказамі». Аўтаматычна дваранства прызнавалася толькі за асобамі, прызнанымі Герольдыяй.

Пасля заканчэння адведзенага тэрміну значная частка не зацверджанай дваранскімі сходамі шляхты, а таксама той, якая не мела дваранскай уласнасці, так і не прыпісалася да настворaных катэгорый. Спецыяльны ўказ у студзені 1834 г. вызваляў такую шляхту з-пад дзеяння закона аб валацугах пры ўмове, што яна ўсё ж такі падасць пася-

---

[1] *Улащик Н. Н.* Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. С. 95.

[2] О правилах для приведения в точную известность граждан и однодворцев западных губерний. 1 дек. 1831 г. № 4977 // ПСЗ II. Т. 6. Отд-ние 2.

[3] О назначении чиновников в учрежденные для приведения в известность шляхты уездные комиссии. 5 июля 1832 г. № 5482 // ПСЗ II. Т. 7.

[4] О составлении посемейных списков, каковые должны подавать о себе граждане и однодворцы западных губерний. 21 янв. 1832 г. № 5094 // ПСЗ II. Т. 7.

мейныя рэвізскія спісы[1]. Колькасць шляхты, якая не падала пасямейныя спісы, была значнай. Указ 1837 г. рэгламентаваў парадак спагнання штрафаў за выяўленых непрыпісаных і прапушчаных у рэвізскіх сказках аднадворцаў і грамадзян[2].

Фармальна ўказ ад 19 кастрычніка 1831 г. тычыўся ўсёй шляхты. Аднак падчас яго рэалізацыі ўзніклі непаразуменні пры вызначэнні асоб, якія былі абавязаны прыпісацца да аднадворцаў і грамадзян. Каб палегчыць справу, 11 лістапада 1832 г. уся шляхта была падзелена на тры разрады: а) дваран, як зацверджаных дэпутацкімі сходамі, так і не зацверджаных, але якія валодалі населенымі дваранскімі маёнткамі і сялянамі без зямлі або прыгоннымі і дваровымі людзьмі; б) дваран, зацверджаных толькі дэпутацкімі сходамі, якія, аднак, не валодалі населенымі маёнткамі; в) шляхціцаў, якія ніякай установай не былі зацверджаны ў дваранстве і не валодалі населенымі маёнткамі. Заўважым, што першыя дзве катэгорыі былі названы дваранамі, а толькі трэцяя – шляхтай. Менавіта трэцяя згодна з законам падлягала неадкладнай «дэкласацыі» – прыпісцы ў аднадворцы і грамадзяне, падымнаму збору і рэкрутчыне[3].

На першым этапе асноўным прынцыпам для вызначэння «сапраўднасці» дваранства было валоданне маёнткам або прыгоннымі сялянамі. Ужо ў 1832 г. быў працягнуты тэрмін падачы дакументаў аб паходжанні для асоб, якія валодалі маёнткамі, сялянамі і дваровымі людзьмі[4]. Такім чынам, у 1832 г. толькі частка найбяднейшай шляхты, прычым не зацверджанай дэпутацкімі сходамі, павінна была перайсці ў разрады аднадворцаў заходніх губерняў і грамадзян. Шляхціцы, якія займалі пасады паштовых унтэр-афіцэраў, паштальёнаў, вартаўнікоў і станцыйных даглядчыкаў і не былі зацверджаны ў дваранстве, вызваляліся ад прыпіскі ў катэгорыі аднадворцаў і грамадзян пры ўмове згоды на дваццацігадовую службу ў паштовым ведамстве і аддачу туды ж сыноў[5].

---

[1] О пропущенных в особую перепись гражданах и однодворцах западных губерний. 2 янв. 1834 г. № 6686 // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 1.

[2] О гражданах и однодворцах, не подавших о себе посемейных списков. 14 июля 1837 г. № 10453 // ПСЗ II. Т. 12. Отд-ние 1. 1838.

[3] О разделении на три разряда людей, принадлежащих к сословию бывшей шляхты. 11 нояб. 1832 г. № 5746 // ПСЗ II. Т. 7.

[4] Указы Сената. Дело о продлении срока предоставления документов о дворянском происхождении лицам, принадлежавшим к бывшей шляхте и владевшим имениями, крестьянами и дворовыми людьми // НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Спр. 535.

[5] Об оставлении на службе по почтовому ведомству лиц бывших шляхтичей. 20 дек. 1832 г. № 5839 // ПСЗ II. Т. 7.

Асобы, пераведзеныя ў аднадворцы, таксама падзяляліся ўладамі на тры групы ў адпаведнасці з найбольш характэрным падзелам шляхты на: 1) тых, якія жылі на ўласнай зямлі (ваколічная шляхта), 2) тых, якія жылі на зямлі, што належала прыватным асобам або дзяржаве (чыншавая і арэндная шляхта), 3) неаселых (былая службовая шляхта і валацугі). Кожная з гэтых груп была абкладзена асобнымі падаткамі і ў будучыні павінна была падпарадкоўвацца розным міністэрствам.

Імкнучыся выклікаць як мага менш занепакоенасці аднадворцаў, Заходні камітэт распрацаваў схему абкладання іх падаткамі з улікам традыцыі Рэчы Паспалітай і сацыяльнай разнароднасці дробнай шляхты. Камітэт па магчымасці імкнуўся пазбегнуць відавочнага падабенства падаткаабкладання аднадворцаў з падаткаабкладаннем сялянскага саслоўя. Таму, у адрозненне ад расійскіх аднадворцаў і сялян, аднадворцы заходніх губерняў былі абкладзены не падушным, а падымным падаткам.

Шляхта, якая была пераведзена ў аднадворцы, абавязана была плаціць на «ўтрыманне войска» падымны збор: аселыя на ўласнай зямлі – 3 руб.; чыншавікі, якія жылі на казённай і прыватнаўласніцкай зямлі, а таксама грамадзяне – 2 руб. срэбрам; неаселыя – 1 руб. срэбрам, але з душы. Міністру фінансаў было даручана падрыхтаваць асобыя правілы аб парадку раскладкі і спагнання збораў з грамадзян і аднадворцаў, а таксама «падрабязны распарадак унутранага паліцэйскага і гаспадарчага кіравання ў таварыствах аднадворцаў». Судовыя справы аднадворцаў і грамадзян павінны былі разглядацца ў гарадскіх магістратах і павятовых судах[1]. Парадак раскладкі падымнага збору з неаселых аднадворцаў у залежнасці ад сумеснага ці асобнага пражывання сям'і быў больш падрабязна вызначаны асобым палажэннем ад 14 студзеня 1834 г.[2] Першы раз падаткі з аднадворцаў спагналі ў тым жа годзе[3]. У маі 1833 г. былі ўстаноўлены агульныя правілы спагнання земскага збору з грамадзян і аднадворцаў. З указа вынікае,

---

[1] О разборе шляхты в западных губерниях, и об устройстве сего рода людей.

[2] Об установлении особого сбора с неоседлых граждан и однодворцев западных губерний. 10 дек. 1834 г. № 7638 // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 2.

[3] О производстве по всей империи новой народной переписи. 16 июня 1833 г. № 6265 // ПСЗ II. Т. 8. Отд-ние 1. 1834 ; Об установлении особого сбора с неоседлых граждан и однодворцев западных губерний ; О переложении на серебро разных податей и сборов. 9 нояб. 1839 г. № 12867 // ПСЗ II. Т. 14. Отд-ние 2. 1840 ; О количестве взыскания подымного сбора с семейных граждан и однодворцев за прописные по ревизии души. 12 авг. 1835 г. № 8367 // ПСЗ II. Т. 10. Отд-ние 2. 1836.

што падымны і земскі зборы ўводзіліся для аднадворцаў і грамадзян розных губерняў не адначасова. Указ 1833 г. устанаўліваў земскі збор з 1 студзеня 1834 г. там, дзе ён яшчэ не спаганяўся. Уводзіўся таксама трохкратны земскі збор з аднадворчага дыму ў параўнанні з сялянскім акладам – 3 руб. Адзінокія і неаселыя плацілі сялянскую стаўку – 1 руб.[1] Аднадворцы абавязаны былі аддаваць хлебны збор нароўні з сялянамі, а грамадзяне – грашовы збор па 15 кап. нароўні з мяшчанамі[2].

Прымаючы за сярэдні аднадворчы дым сям'ю, у якой было трое мужчын, бачым, што асноўны падатак з аднадворцаў быў меншы, чым з іншых саслоўяў: дзяржаўныя сяляне плацілі 3 руб. з асобы мужчынскага полу, вольныя людзі – 7, мяшчане– 8, у той час як аднадворцы – толькі 3 руб. з дыму[3]. Тым не менш аднадворцы не спраўляліся з выплатай падаткаў з-за незаконных адлучак асобных членаў таварыства, бо падатковы цяжар ускладаўся на ўсё таварыства. У 1851 г. у Гродзенскай губерні за аднадворцамі і грамадзянамі лічылася па 2 руб. 87 кап. нядоімак на адну душу, у той час як за казённымі сялянамі – толькі па 28 кап., а за памешчыцкімі і духоўнымі – 16 кап.[4]

З 1839 г. аднадворцы былі абкладзены таксама віннай пошлінай, за выключэннем уладальнікаў арэндных маёнткаў, якія павінны былі яе плаціць з моманту заключэння новага кантракту[5]. На грамадзян, якія жылі ва «ўладальніцкіх гарадах», яна была накладзена ў лютым 1839 г.[6] З 1834 г. аднадворцы і грамадзяне абавязаны былі плаціць таксама «дапаможны збор»: з дыму трохкратны памер сялянскага збору з душы,

---

[1] О взимании земского сбора с граждан и западных однодворцев. 27 мая 1833 г. № 6231 // ПСЗ II. Т. 8. Отд-ние 1 ; О взимании земского сбора с граждан и западных однодворцев. 8 мая 1833 г. № 6183 // ПСЗ II. Т. 8. Отд-ние 1.

[2] О пояснительных статьях положения 5 июля 1834 г. о запасах народного продовольствия. 16 янв. 1836 г. № 8782 // ПСЗ II. Т. 11. Отд-ние 1. 1837. Пункт 16.

[3] *Sikorska-Kulesza J.* Deklasacja drobnej szlachty na Litwie i Białorusi w XIX wieku. S. 50.

[4] Статистические сведения к отчету о состоянии губернии за 1851 г. // НГАБ у г. Гродна. Ф. 1. Воп. 29. Спр. 559. Арк. 4–9.

[5] Об обложении проживающих в западных губерниях однодворцев винною пошлиною. 23 марта 1838 г. № 11083 // ПСЗ II. Т. 13. Отд-ние 1. 1839 ; О взыскании винокуренной пошлины определенной в штрафе за прописных по 8-ой народной переписи граждан и однодворцев западных губерний. 18 июня 1840 г. № 13563 // ПСЗ II. Т. 15. Отд-ние 1. 1841.

[6] О взимании двухрублевой винной пошлины с жительствующих во владельческих городах западных губерний граждан из бывшей шляхты. 7 февр. 1839 г. № 12001 // ПСЗ II. Т. 14. Отд-ние 2.

а з неаселых нароўні з сялянскім[1]. Вызваленыя ад «дапаможнага збору» з беларускіх губерняў былі Віцебская і Магілёўская. Паводле падлікаў Д. Афанасьева, агульная сума падаткаабкладання дарослых аднадворцаў у Ковенскай губерні, дзе дзейнічалі тыя ж правілы, што і ў беларускіх губернях, вагалася ад 7 руб. 27 кап. да 11 руб. 21,5 кап.[2]

Улады намагаліся падпарадкаваць сістэму падаткаабкладання аднадворцаў іх сацыяльнай неаднароднасці. У Заходнім камітэце разглядаліся магчымасці ўвядзення іншых падатковых ставак для аднадворцаў, якія былі жабракамі, калекамі і старцамі, хто жыў «кутом» у дамах шляхты, мяшчан і сялян – былі і такія[3].

У 1835 г. для некаторых аднадворчых сем'яў, у якіх былі выяўлены прапушчаныя па рэвізіі душы, памер падымнага збору быў павялічаны да паўтарачнага і падвойнага[4]. Здараліся выпадкі празмернага і незаконнага падаткаабкладання аднадворцаў мясцовымі ўладамі[5].

Аднак не ўсе аднадворцы павінны былі плаціць падаткі. Ад іх вызваляліся аднадворцы, якія да выдання ўказа ад 19 кастрычніка 1831 г. валодалі населенымі дваранскімі маёнткамі і сялянамі без зямлі або дваровымі людзьмі, прычым нават тыя з іх, хто не быў зацверджаны ў дваранстве дваранскімі дэпутацкімі сходамі[6]. Гэты факт яшчэ раз сведчыць пра імкненне ўлад «дэкласаваць» менавіта найбяднейшую шляхту, пакінуўшы памешчыкаў у складзе дваранства. У 1847 г. Валынская палата дзяржаўных маёмасцей, дзе для мясцовых улад таксама была актуальнай праблема разбору шляхты, звярталася з просьбай вырашыць, што рабіць з аднадворцамі, якія валодалі населенымі маёнткамі і сялянамі без зямлі[7]. Тэрмін продажу такіх маёнткаў, вызначаны законамі, скончыўся яшчэ

---

[1] Об учреждении вспомогательного земского капитала. 25 июля 1834 г. № 7297 // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 1.

[2] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Ковенская губерния / сост. Д. Афанасьев. СПб., 1861. С. 210.

[3] *Sikorska-Kulesza J.* Deklasacja drobnej szlachty na Litwie i Białorusi w XIX wieku. S. 50.

[4] О количестве взыскания подымного сбора с семейных граждан и однодворцев ...

[5] Переписка с палатой госимуществ о прекращении стеснения однодворцев околицы Малюково Бельского уезда натуральными повинностями без согласования с местным окружным управлением // НГАБ у г. Гродна. Ф. 1. Воп. 5. Спр. 423.

[6] Уставы о повинностях // Продолжение свода законов Российской империи. 1832, 1833, 1834, 1835 годы : в 2 ч. / Второе отд-ние канцелярии. СПб., 1836. Ч. 1. С. 964–966. Стб. 5.

[7] О обращении в казенное ведомство находящихся во владении однодворцев западных губерний населенных имений и крестьян без земли. 23 янв. 1847 г. № 20845 // ПСЗ II. Т. 22. Отд-ние 1. 1848.

ў 1837 г. Адзначаны факт яскрава сведчыць пра маруднасць і фармалізм у дзейнасці ўлад па некаторых пытаннях. З іншага боку, падобны стан рэчаў быў вынікам пасіўнасці ў адстойванні сваіх правоў некаторымі ўладальнікамі. За перыяд ад 1831 г. аднадворцы, якія валодалі маёнткамі і прыгоннымі сялянамі, мелі дастаткова часу для таго, каб знайсці легальныя доказы свайго дваранства або, пры іх адсутнасці, скарыстацца разбудаванай ужо на той час сеткай паслуг па падробцы дакументаў.

Да 1844 г. аднадворцы і грамадзяне, нават тыя, якія не валодалі нерухомымі маёнткамі ці прыгоннымі, маглі праз падачу адпаведных дваранскіх доказаў вяртацца ў склад дваранства, але рабіць гэта ім даводзілася, ужо будучы ўключанымі ў катэгорыі аднадворцаў і грамадзян. Пасля 1844 г. вярнуць дваранства аднадворцам і грамадзянам, якія не валодалі дваранскай маёмасцю, магчыма было толькі праз паступленне на шасцігадовую вайсковую службу дзеля выслугі обер-афіцэрскага чыну, прычым для паступлення на службу трэба было таксама падаць адпаведныя доказы свайго дваранства і атрымаць пасведчанні аб дваранстве ад дваранскіх дэпутацкіх сходаў. Гэтыя пасведчанні не давалі права на дваранства і не вызвалялі ад павіннасцей і падаткаў. Яны маглі быць выкарыстаны выключна для паступлення на вайсковую службу. Права на вяртанне дваранства такім шляхам мелі таксама нашчадкі аднадворцаў і грамадзян[1].

Па меры разгляду Герольдыяй дакументаў шляхты заходніх губерняў паступова расла колькасць асоб, якія па прычыне адмоўнага рашэння Герольдыі павінны былі або падаць дадатковыя доказы, або прыпісацца ў аднадворцы ці грамадзяне. Указ ад 18 ліпеня 1849 г. вызначаў шасцімесячны тэрмін пачатку падаткаабкладання асоб, якія не падалі дадатковых доказаў свайго дваранскага паходжання ў адведзены ўказам 1845 г. трохгадовы тэрмін. Вызначаўся таксама шасцімесячны тэрмін прыпіскі для асоб, па чыіх дакументах было прынята адмоўнае рашэнне Герольдыі. Гэты шасцімесячны тэрмін лічыўся ад даты прыняцця Герольдыяй рашэння[2].

У першыя некалькі гадоў рэалізацыі Закона ад 19 кастрычніка 1831 г. многія сем'і былі памылкова залічаны ў аднадворцы. Так, толькі ў спісе па Бабруйскім павеце за 1836 г. было 30 такіх сем'яў[3].

---

[1] О дворянстве // Свод законов Российской империи. Издание 1857 года : в 15 т. СПб., 1857. Т. 9. Разд. 1. Пункты 241, 242, 243. С. 55–56.

[2] О платеже податей лицам бывшей польской шляхты с того времени, как введены в оклад. 18 июля 1849 г. № 23404 // ПСЗ II. Т. 24. Отд-ние 1. 1850.

[3] *Луговцова С. Л.* Политика российского самодержавия по отношению к дворянству Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX вв. Минск, 1997. С. 64.

На аднадворцаў і грамадзян была ўскладзена рэкруцкая павіннасць, аднак тэрмін службы для іх, як і для аднадворцаў Чарназем'я, быў абмежаваны 15 гадамі (§ 16). Яшчэ адным прывілеем для рэкруцкай службы аднадворцаў была забарона пакарання іх бізуном і права не стрыгчы галаву.

Нягледзячы на прывілей у выглядзе зменшанага тэрміну рэкруцкай службы, улады ўсё ж усклалі на аднадворцаў павышаную рэкруцкую павіннасць. Гэта рабілася шляхам узмоцненых рэкруцкіх набораў з аднадворцаў. Яшчэ ў 1832 г. у пастанове Камітэта заходніх губерняў звярталася ўвага, каб пры наборы рэкрутаў з аднадворцаў не лічыць сярод забраных рэкрутаў тых аднадворцаў і грамадзян, якія былі аддадзены ў рэкруты за ўдзел у паўстанні. У пастанове было зроблена і тлумачэнне таго, чаму з аднадворцаў адбываецца ўзмоцнены набор: «...усиленный с бывшей шляхты набор повелен в том особенно уважении, дабы людей сих, не несших никакой государственной повинности, уровнять несколько с прочими состояниями, по последним обстоятельствам (маецца на ўвазе паўстанне. – *В. М.*) сугубую тягость понесшими»[1]. У маі 1833 г., яшчэ да выдання асобных правіл аб рэкруцкіх наборах з аднадворцаў, улады дазволілі дзяржаўным сялянам і мяшчанам наймаць за плату добраахвотнікаў-аднадворцаў для нясення службы ўзамен мяшчан і сялян[2]. Было дазволена наймаць добраахвотнікаў з ліку аднадворцаў і грамадзян нават у залік будучых набораў[3]. Праўда, з-за небяспекі, што некаторыя з дагавораў маглі аказацца несапраўднымі, указ 1835 г. забараняў падобную практыку[4]. У 1842 г. права наймаць аднадворцаў і грамадзян людзьмі падатковага саслоўя для адбывання рэкруцкай павіннасці было адноўлена, а ў 1853 г. дапоўнена[5]. З 1844 г. той, хто іх наймаў, павінен быў плаціць, акрамя на-

---

[1] Пастанова Камітэта Заходніх губерняў па дакладу міністра ўнутраных спраў 19 верасня 1832 г. // Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. С. 361.

[2] О дозволении гражданам и однодворцам западных губерний наниматься в рекруты за семейства мещан и крестьян. 6 мая 1833 г. № 6176 // ПСЗ II. Т. 8. Отд-ние 1.

[3] О дозволении принимать в рекруты в зачет будущих наборов граждан и однодворцев западных губерний, нанятых мещанами и казенными крестьянами разных губерний. 6 марта 1834 г. № 6887 // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 1.

[4] О воспрещении крестьянам, ямщикам и мещанам заключать договоры о найме однодворцев и граждан западных губерний в рекруты для поставки за их семейства. 3 дек. 1835 г. № 8647 // ПСЗ II. Т. 10. Отд-ние 2.

[5] О дозволении гражданам и однодворцам наниматься в рекруты. 12 июня 1842 г. № 15744 // ПСЗ II. Т. 17. Отд-ние 1. 1843 ; О порядке найма в рекруты вольноотпущенных и других людей, имеющих право наниматься без приписки к обществу нанимателя. 6 июля 1853 г. № 27422 // ПСЗ II. Т. 28. Отд-ние 1. 1854.

ёмнай платы аднадворцу, яшчэ і 50 руб. срэбрам на карысць аднадворчых таварыстваў, фінансавы стан якіх, як вядома, быў вельмі кепскі[1].

У 1834 г. ужо было зацверджана палажэнне аб распарадку вайсковай павіннасці аднадворцаў і грамадзян. Для ўраўнавання ў выкананні павіннасці яны падзяляліся на ўчасткі, у якіх вызначаўся парадак сямейных чэргаў. Абавязкі па кантролі за выкананнем павіннасці ўскладаліся на старшыню таварыства. Законам таксама прадпісвалася «...неаселых аднадворцаў, аднадворцаў, якія не маюць сталых заняткаў і вядомыя бяздзейным жыццём, змяшчаць у чарговых спісах першымі». Акрамя таго, аднадворчым участкам дазвалялася былых удзельнікаў паўстання, падазроных і нядобранадзейных аднадворцаў аддаваць у залік будучых набораў, нягледзячы на сямейныя чэргі[2]. Пытанні парадку ўтварэння аднадворчых рэкруцкіх участкаў, падліку колькасці людзей, якія павінен даць кожны ўчастак, і некаторыя іншыя моманты павінны былі рэгулявацца ў адпаведнасці з патрабаваннямі агульнага рэкруцкага статута, зацверджанага імператарам 28 чэрвеня 1831 г.[3]

Ад моманту ўвядзення правіл аб рэкруцкім наборы з аднадворцаў з 1834 па 1855 г. былі абвешчаны 24 такія наборы, падчас якіх было ўзята па 5, 8, 10 ці 12 асоб з 1000 мужчын. За 20 гадоў з аднадворцаў было ўзята ў салдаты з 1000 ваеннаабавязаных на 134 чалавекі больш, чым з іншых саслоўяў[4]. Афіцэр Генштаба Расіі І. Зяленскі падлічыў, што ў аднадворчых таварыствах Мінскай губерні змяншэнне колькасці насельніцтва, выкліканае наборам у войска, складала 1/4, у той час як сярод іншых катэгорый 1/8[5]. З 1846 па 1855 г. з 1000 жыхароў былі

[1] О взыскании с нанимателей охотников однодворцев в рекруты по 50 руб. сер. сверх наемной платы, для передачи однодворческим обществам западных губерний. 24 сент. 1844 г. № 18245 // ПСЗ II. Т. 19. Отд-ние 1. 1845.

[2] Уставы о повинностях ; О представлении граждан и однодворцев западных губерний в военную службу по мирским приговорам преимущественно людей неоседлых, не имеющих постоянных занятий и вообще известных праздною жизнью. 4 июля 1834 г. № 7249 // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 1.

[3] О распорядке воинской повинности, внутреннего полицейского и хозяйственного управления в селениях однодворцев и граждан западных губерний. 22 янв. 1834 г. № 6734 // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 1.

[4] *Kozłowskij P.* Struktura własności ziemskiej i faktycznego posiadania ziem w zachodniej i środkowej Białorusi w drugiej połowie XVIII w. // Rocznik dziejów społecznych i gospodarczych : w 72 t. / Poznań. T-wo Przyjaciół Nauk ; In-t Historii Pol. Akad. Nauk. Poznań, 1931–2012. T. 33. 1972. S. 147.

[5] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Минская губерния. Ч. 2. С. 609–610.

ўзяты 131 аднадворац і грамадзянін, 71 яўрэй і 72 селяніны. Мэты такой палітыкі не выклікаюць сумнення – Камітэт па справах заходніх губерняў адзначаў, што падчас увядзення для шляхты ўзмоцненай вайсковай павіннасці (а ўказы аб узяцці рэкрутаў з аднадворцаў выдаваліся часцей, нават па два разы на год) «мелася на ўвазе больш палітычная мэта, чым спосаб да ўзмацнення войска»[1]. Улады выкарыстоўвалі рэкруцкую павіннасць для змяншэння колькасці аднадворцаў, іх «заспакаення» праз службу, імкнучыся таксама расцерушыць, растварыць гэты элемент. Нельга не ўлічваць і той факт, што шляхта была ў мінулым ваеннаслужылым саслоўем і добра падыходзіла да вайсковай службы. Першы раз з аднадворцаў і грамадзян рэкруты былі ўзяты ў 1834 г. Царскі ўказ загадваў прыняць на службу па 10 чалавек з 500 душ адзначаных катэгорый[2].

У 1841 г. аднадворцы, якія жылі на дзяржаўных землях, былі перападпарадкаваны дзейнасці агульнага з дзяржаўнымі сялянамі статута[3]. Улады паступова набліжалі аднадворцаў да зліцця іх з сялянскім саслоўем, адначасова змяншалі такі вялікі рэкруцкі цяжар з казённых маёнткаў, дзе жылі аднадворцы, бо гэта было відавочна ў інтарэсах урада. Аднадворцам быў забаронены таксама ў 1841 г. доступ да школ ведамства Міністэрства адукацыі і ўведзена забарона паступлення на цывільную дзяржаўную службу ў адміністрацыі, што ў выніку прыводзіла да іх, як пафасна выказаўся адзін з даследчыкаў, «культурнай стэрылізацыі»[4]. Аднадворцы станавіліся ўсё больш непісьменнымі, штучна, адміністрацыйнымі захадамі паніжаўся іх сацыяльны статус.

У многіх аднадворчых таварыствах з-за рэкруцкіх набораў, страт мужчынскага насельніцтва падчас паўстанняў 1831 і 1863 гг. і асабліва нелегальных адлучак адчуваўся недахоп працаздольных людзей, а адсюль і немагчымасць сплочвання падаткаў[5]. Чыноўнік Міністэрства дзяржаўных маёмасцей Харламаў даносіў з Віленскай губерні, што «аднадворчыя таварыствы, з якіх паступае значная колькасць рэкрутаў, ця-

[1] *Неупокоев В. И.* Преобразование беспоместной шляхты ... С. 9.

[2] О приведении в исполнение указа 19 октября 1831 г., о обращении граждан и однодворцев западных губерний в военную службу с 500 душ по 10-ти. 23 мая 1834 г. № 7116 // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 1.

[3] Об устройстве быта однодворцев западных губерний, живущих на казенных землях. 15 дек. 1841 г. № 15121 // ПСЗ II. Т. 16. Отд-ние 2. 1842.

[4] *Beauvois D.* Trójkąt ukraiński ... S. 587.

[5] *Вешняков В. И.* Исторический обзор происхождения разных названий государственных крестьян // Журн. М-ва гос. имуществ. 1857. Ч. 62. Отд-ние 1. С. 13–35, 87–98 ; Ч. 63. Отд-ние 1. С. 9–33 ; Ч. 65. Отд-ние 1. С. 78.

пер складаюцца, можна сказаць, у большасці з састарэлых, пакалечаных і непаўнагадовых»[1]. Пра абязлюдненыя шляхецкія ваколіцы ў 40-я гг. XIX ст. у Ашмянскім павеце згадваў З. Мінэйка[2]. У РДГА захоўваецца асобная справа грамадзян заходніх губерняў з Ашмян за 1849–1859 гг. з прашэннем да міністра фінансаў графа Ф. П. Врончанкі аб вызваленні іх ад плацяжу падатковай нядоімкі ў сувязі з тым, што ўтворанае ў 1844 г. у горадзе таварыства ў складзе 27 асоб мужчынскага полу (19 сем'яў) абязлюдзела і асобы, якія засталіся, не былі ў стане ні несці рэкруцкай павіннасці, ні сплочваць за ўсіх нядоімкі. Шляхціцы пісалі ў прашэнні: «Происходя мы просители из польской шляхты, по совершенной нашей бедности, находясь в несостоятельности собрать и усовершить всех доказательств, для представления к рассмотрению... в Герольдии в узаконенный срок, по миновании оного во исполнение... постановления, мы просители приписались в сословие граждан уездного г. Ошмяны с 1844 г. Таким образом причислились и другие семейства и так состоялось в роде общества 19 семейств заключающих всего душ м. п. 27. По исполнении такой приписки, не зная последствий и правил сему сословию узаконенных, все семейства приняв за вид лишь только самые списки с посвидетельствованием, разошлись по разным местам для приискания себе в жизни приличными заработками, мы только два просителя удержались постоянно при своих домах в городе Ошмяне состоящих. Тут наступили скудные времена и чрезвычайная дороговизна, голод и свирепствующая эпидемическая болезнь холера, чрез все четыре года препятствовали в уплате податей, о коих причитающихся с души количестве даже объявлено нам не было»[3].

Многія аднадворцы, імкнучыся пазбегнуць рэкрутчыны, уцякалі, і ўладам даводзілася лавіць уцекачоў[4]. Для супрацьдзеяння ўцёкам аднадворцам быў забаронены выезд на адлегласць больш за 30 кіламетраў ад месца жыхарства і на тэрмін, большы за 7 дзён, без дазволу старшыні таварыства, а ў больш далёкія і працяглыя падарожжы – без спецыяльнага пашпарту, які выдаваўся павятовым начальствам[5]. Указам 1844 г.

---

[1] *Неупокоев В. И.* Преобразование беспоместной шляхты ... С. 21.

[2] *Minejko Z. Z* tajgi pod Akropol ... S. 22–23.

[3] РГИА. Ф. 571. Оп. 1. Д. 1733. Дело по записке 3 стола 1 отделения об освобождении общества граждан г. Ошмяны Виленской губ. от уплаты податной недоимки. 1849–1859.

[4] *Вешняков В. И.* Исторический обзор происхождения разных названий государственных крестьян // Журн. М-ва гос. имуществ. 1857. Ч. 62. Отд-ние 1. С. 13–35, 87–98 ; Ч. 63. Отд-ние 1. С. 9–33 ; Ч. 65. Отд-ние 1. С. 70, 77.

[5] О выдаче паспортов и билетов гражданам и однодворцам западных губерний. 7 сент. 1834 г. № 7387 // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 2.

загадвалася правесці інфармацыйныя, засцерагальныя і пошукавыя мерапрыемствы, каб прадухіліць адлучкі аднадворцаў, а выяўленых аддаваць у рэкруты ў залік будучых набораў[1]. Ужо ў сакавіку новы ўказ абавязваў неаселых аднадворцаў, асабліва з вялікіх сем'яў, аддаваць у рэкруты першымі[2]. Няма звестак пра тое, наколькі імперскі апарат быў у стане кантраляваць перамяшчэнні аднадворцаў. Адлучаліся з месца прыпіскі многія аднадворцы і грамадзяне, на што ўплывала іх натуральная звычка да вольнага ладу жыцця і асабліва нежаданне несці рэкруцкую павіннасць. Чыноўнікі Міністэрства дзяржаўных маёмасцей дакладвалі, што многія аднадворцы адлучаюцца без ведама начальства з месцаў прыпіскі і з-за невыяўлення месца іх знаходжання на працягу некалькіх гадоў ствараюць таварыствам вялізныя цяжкасці ў сплочванні падаткаў і пастаўцы рэкрутаў, у выніку чаго нядоімкі павялічваюцца год за годам, а падчас рэкруцкіх набораў не вытрымліваецца адпаведная чарга[3]. У лютым 1844 г. Міністэрства фінансаў выказала занепакоенасць і запатрабавала больш дакладнай праверкі звестак пра колькасць запісаных па новай рэвізіі аднадворцаў і грамадзян у Мінскай губерні, паколькі яна скарацілася амаль у два разы – да 16 445 душ[4] – і працягвала змяншацца. Колькасць мужчын-аднадворцаў у Мінскай губерні, па афіцыйных даных, з 1842 па 1853 г. скарацілася на 4805 душ[5]. Спыніць адлучкі да канца 60-х гг. XIX ст. улады так і не змаглі. Рыхтуючы ліквідацыю гэтай катэгорыі ў 1868 г., яны вымушаны былі адначасова складаць як спісы аднадворчых таварыстваў у адпаведнасці з рэвізскімі звесткамі, так і асобна спісы аднадворцаў па факце іх наяўнасці на месцы прыпіскі[6]. У губернскіх газетах друкаваліся паведамленні аб вышуку аднадворцаў[7].

---

[1] О подтверждении, чтобы граждан и однодворцев западных губерний никто не держал у себя без установленных видов. 19 февр. 1844 г. № 17634 // ПСЗ II. Т. 19. Отд-ние 1.

[2] О назначении рекрутских очередей из оседлых и неоседлых граждан и однодворцев западных губерний. 15 апр.1844 г. № 17823 // ПСЗ II. Т. 19. Отд-ние 1.

[3] О подтверждении, чтобы граждан и однодворцев западных губерний ...

[4] РГИА. Ф. 571. Оп. 1. Д. 1565. Дело по отношению министра государственных имуществ о производстве новой переписи однодворцев и граждан западных губерний. Л. 291.

[5] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Минская губерния. Ч. 2. С. 609.

[6] Дело о слиянии однодворцев и граждан с прочими городскими и сельскими обывателями. Арк. 74, 111.

[7] Там жа.

Сама працэдура выбару і набору рэкрутаў з аднадворцаў істотна не адрозніваласяа ад агульных правіл, уведзеных 28 лютага 1831 г. для дзяржаўных сялян, і рэгулявалася Законам ад 22 студзеня 1834 г.[1]

У 1850 г. падыходзіў тэрмін звальнення першых аднадворцаў і грамадзян з войска. Улады намагаліся заахвоціць іх да працягу службы, абяцаючы ўзнагароджанне шэўронамі і павелічэнне жалавання[2]. У 1858 г. гэты спіс быў пашыраны медалём «За усердие»[3].

Эквівалентам вайсковай службы для аднадворцаў і грамадзян была служба ў мытнай варце і рамізніцтва на пошце, куды яны прымаліся па асабістым жаданні[4]. Ва ўмовах існавання прыгоннага права аднадворцы і грамадзяне былі асабіста вольнай катэгорыяй насельніцтва, некаторыя з іх былі адукаваныя, умелі чытаць, і таму часта менавіта яны займалі ніжэйшыя службовыя пасады ў розных установах накшталт пошты, мытні, лясной варты, а пазней чыгункі і інш.

У 1853 г. былі ўведзены новыя правілы рэкруцкіх набораў. Тэрмін службы аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў быў зраўняны з іншымі падатковымі катэгорыямі – 22 гады ў гвардыі і 25 – у войску, што было вельмі ганебным для аднадворцаў. Таксама былі выдадзены правілы, якія падрабязна рэгламентавалі працэдуру лёсавання рэкрутаў[5]. Тое ж тычылася і парадку выканання рэкруцкай павіннасці[6].

---

[1] О распорядке воинской повинности, внутреннего полицейского и хозяйственного управления ...

[2] О преимуществах службы нижних чинов из граждан и однодворцев западных губерний, прослуживших в военной службе сверх срока. 28 марта 1850 г. № 24018 // ПСЗ II. Т. 25. Отд-ние 1. 1851.

[3] О правах и преимуществах, даруемых за отказ от отставки нижним чинам из Малороссийских казаков военных поселян кавалерии, граждан и однодворцев западных губерний. 6 мая 1858 г. № 33125 // ПСЗ II. Т. 33. Отд-ние 1. 1860.

[4] О разделении на три разряда людей, принадлежащих к сословию бывшей шляхты ; Об оставлении на службе по почтовому ведомству лиц бывших шляхтичей.

[5] Высочайше утвержденные правила об учреждении рекрутского жеребьевого порядка в городах, посадах и местечках. 25 нояб. 1853 г. № 27727 // ПСЗ II. Т. 28. Отд-ние 1 ; Высочайше утвержденные правила об учреждении рекрутского жеребьевого порядка в участках граждан и однодворцев западных губерний. 25 нояб. 1853 г. № 27728 // ПСЗ II. Т. 28. Отд-ние 1.

[6] О сроке выслуги, для получения отставки, гражданам и однодворцам западных губерний, поступающим в военную службу на основании правил об учреждении рекрутского жеребьевого порядка. 25 нояб. 1853 г. № 27724 // ПСЗ II. Т. 28. Отд-ние 1.

У 1860 г. былі забаронены цялесныя пакаранні аднадворцаў і грамадзян, за выключэннем пакаранняў, прызначаных судом[1].

**Арганізацыя аднадворчых таварystваў.** Да 1834 г. Заходні камітэт займаўся распрацоўкай праекта аб дакладнай арганізацыі нова-ўтвораных катэгорый аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў. Урэшце 22 студзеня 1834 г. Мікалай І зацвердзіў праект, але толькі на выпрабавальны тэрмін. Аднак з некаторымі дапаўненнямі, унесенымі ў 1841 г., ён дзейнічаў аж да 1868 г., г. зн. да моманту, калі катэгорыі аднадворцаў заходніх губерняў і грамадзян былі ліквідаваны.

Законам 1834 г. было прадугледжана стварэнне асобных аднадворчых таварystваў з засценкаў і аднадворчых ваколіц – адной або некалькіх суседніх[2]. Таварыства павінна было складацца прыблізна са 100 сем'яў. Кожнае мела самакіраванне і выканаўчую ўладу, ці грамадскі сход. Кіраўніцтва таварыства складалася са старшыні (які выконваў і функцыю зборшчыка падаткаў), наглядчыка запасаў збожжа, пісара і дзесяцi падсолтысаў па адным з 10 дымоў. Старшыня таварыства і наглядчык «запасных магазінаў хлеба» выбіраліся кожныя тры гады на сходзе членаў таварыства. Выбраныя асобы зацвярджаліся або здымаліся з пасад па прадстаўленні земскага суда казённай палатай са згоды губернатара. Уладамі прызначаўся пісар. На яго ўтрыманне з таварыства спагнялася аплата 200 руб. на год. Асобы, якія выконвалі вышэйадзначаныя адміністрацыйныя функцыі, былі асабіста вызвалены ад усіх натуральных і рэкруцкай павіннасці.

Найважнейшую ролю ў таварystве адыгрываў старшыня, асноўнай задачай якога быў клопат пра фінансавы стан таварыства. Яго ўлада над членамі таварыства забяспечвала магчымасці для спагнання падаткаў. Абавязкам было таксама вядзенне падатковых кніг, адсочванне парадку і «добрых звычаяў». Старшыня быў суддзёй у дробных справах, дзе памер штрафу не перавышаў 5 руб. асігнацыямі. Ва ўсіх іншых справах аднадворцы падлягалі земскім судам.

У мясцовасцях, дзе немагчыма было стварыць асобнае таварыства аднадворцаў па прычыне недахопу колькасці дымоў, абавязкі старшыні пераходзілі да паліцэйскага чыноўніка – урадніка або да мясцовай ула-

[1] О воспрещении подвергать, без судебного приговора, телесному наказанию однодворцев и граждан западных губерний. 22 февр. 1860 г. № 35468 // ПСЗ II. Т. 35. Отд-ние 1. 1862.

[2] О распорядке воинской повинности, внутреннего полицейского и хозяйственного управления ...

ды, што азначала для аднадворцаў яшчэ большае абмежаванне іх правоў і зліццё з сялянскім атачэннем.

У найгоршай сітуацыі апынуліся аднадворцы з чыншавай шляхты. Адказнасць за своечасовую выплату імі падаткаў была ўскладзена на ўладальнікаў маёнткаў, у якіх яны жылі. У выніку некаторыя ўладальнікі пачалі зганяць аднадворцаў з зямлі, не жадаючы несці адказнасць за не ўнесеныя імі падаткі.

З пункту гледжання ўнутранай арганізацыі аднадворчае таварыства істотна не адрознівалася ад сялянскага. Як першае, так і другое былі ў першую чаргу інстытутамі для спагнання падаткаў і набору рэкрутаў. Аднадворчыя таварыствы былі меншымі па колькасці членаў, і гэта ўзмацняла кантроль над імі як катэгорыяй насельніцтва, да якой улады ставіліся з вялікім недаверам.

У 1841 г. з мэтай як мага хутчэйшага зліцця аднадворцаў з сялянскім саслоўем былі зменены статус і сістэма ўнутранай арганізацыі аднадворчых таварыстваў на дзяржаўных землях[1]. Гэтыя змены былі прапанаваны міністрам дзяржмаёмасцей П. Кісялёвым. Пазітыўным вынікам прапанаваных паправак да арганізацыі аднадворчых таварыстваў, з пункту гледжання расійскіх улад, было тое, што гэта саслоўная група «пазбавіцца самабытнасці, разбурыцца ў сваім складзе, а разам з гэтым будуць вынішчаны і ўспаміны аб шляхецтве»[2]. Такім чынам, аднадворцы, якія жылі на дзяржаўных землях, былі ўключаны ў склад сялянскіх таварыстваў з адпаведнай працэдурай па зборы дадатковых падаткаў, наборы рэкрутаў, засыпанні збожжа ў запасныя магазіны, адміністрацыйным паліцэйскім наглядзе і судовай юрысдыкцыі. За дзяржаўнымі аднадворцамі была захавана асобная саслоўная прыналежнасць, якая на практыцы адрознівалася ад саслоўнай групы дзяржаўных сялян толькі большай асабістай свабодай, падымным, а не падушным падаткам і зменшаным тэрмінам вайсковай службы. Замест гаспадарчых работ, уведзеных для сялян за карыстанне казённымі землямі, аднадворцы павінны былі плаціць пазямельны чынш, які вылічваўся паводле даных люстрацыі[3]. Гэта рэформа, аднак, палепшыла становішча дзяржаўных аднадворцаў (якіх было ў Мінскай губерні 14 % ад агульнай колькасці аднадворцаў) у параўнанні з аднадворцамі, якія

[1] Об устройстве быта однодворцев западных губерний, живущих на казенных землях.

[2] *Неупокоев В. И.* Преобразование беспоместной шляхты ... С. 15.

[3] Об устройстве быта однодворцев западных губерний, живущих на казенных землях.

жылі на землях прыватных уладальнікаў (75 % аднадворцаў у Мінскай губерні). Прыватныя ўладальнікі фактычна мелі неабмежаваную і нікім не кантраляваную ўладу над аднадворцамі. Рэформа таксама пазбавіла дзяржаўных аднадворцаў ад падвойных рэкруцкіх набораў. Лепшыя ўмовы сталі прычынай перасялення часткі аднадворцаў на дзяржаўныя землі[1]. Каб паскорыць гэты працэс, улады ў некаторых казённых маёнтках нават зменшылі на 1/4 рэнту з аднадворцаў у параўнанні з дзяржаўнымі сялянамі[2]. Гарантаванае права на надзел, увядзенне льготных умоў нарміраванай рэнты, зраўнанне ў рэкруцкай павіннасці з сялянамі ўзмацнілі тэндэнцыю пераходу аднадворцаў на дзяржаўныя землі, а менавіта вывядзенне былой шляхты з-пад уплыву памешчыкаў і было адной з найважнейшых мэт, якія ставіў перад сабой урад. Былі нават прыняты меры па пошуку вольных участкаў для пасялення беззямельных аднадворцаў на казённых землях. У Віленскай губерні на гэтыя мэты па стане на 15 кастрычніка 1848 г. было адведзена 2574 дзесяціны[3].

У 1846 г. быў прыняты закон аб падзеле кіравання аднадворцамі. Аднадворцы на дзяржаўных і прыватных землях, а таксама ўсе неаселыя былі пакінуты пад наглядам Міністэрства дзяржаўных маёмасцей, а тыя, якія жылі на памешчыцкіх землях, перадаваліся пад нагляд Міністэрства ўнутраных спраў, чыноўнікі якога, аднак, не мелі права ўмешвацца ў працэс заключэння кантрактаў на арэнду ўчасткаў паміж аднадворцамі і памешчыкамі[4]. Такія аднадворцы ў сваёй большасці рэгулявалі адносіны з землеўладальнікам на падставе «вусных дагавораў», а зрэдку арэндных кантрактаў. Гэта непакоіла ўлады, якія намагаліся вывесці аднадворцаў з-пад уплыву памешчыкаў, аднак пасля доўгага абмеркавання праблема так і не знайшла свайго вырашэння[5].

У 1848 г. пабачыў свет новы закон «Аб уладкаванні побыту заходніх аднадворцаў». Меры па рэалізацыі закона былі выкладзены ў цыркуляры П. Кісялёва ад 24 снежня 1848 г.[6] Завяршаючы размежаванне кіравання аднадворцамі, у якасці асноўнай мэты закон меў спыненне «валацужніцтва неаселых аднадворцаў». Прыпісаныя па рэвізіі да памешчыцкіх маёнткаў неаселыя аднадворцы перадаваліся ў ве-

---

[1] *Неупокоев В. И.* Преобразование беспоместной шляхты ... С. 15.

[2] Там жа. С. 15–16.

[3] Там жа. С. 16.

[4] О устройстве однодворцев в западных губерниях. 19 марта 1846 г. № 19848 // ПСЗ II. Т. 21. Отд-ние 2. 1847.

[5] *Неупокоев В. И.* Преобразование беспоместной шляхты ... С. 18.

[6] Там жа. С. 17.

данне земскай паліцыі. За аднадворцамі-рамеснікамі захоўвалася права на прыпіску да гарадоў. Фактычна новы закон, які з'яўляўся працягам указаў ад 15 снежня 1841 г. і 14 лютага 1846 г., значна пашырыў магчымасці аднадворцаў для пераходу ў дзяржаўную вёску.

У Віленскай губерні перадача неаседлых аднадворцаў у веданне земскай паліцыі зацягнулася да 1852 г., а барацьба з іх валацужніцтвам працягвалася і далей.

Спачатку ўлады не забаранялі аднадворцам падаваць дакументы і даказваць сваё дваранскае паходжанне. Многія гэтым карысталіся, што паўплывала нават на статыстыку. З Вільні, Гродна і Мінска ў Міністэрства фінансаў паведамлялі, што ў казённыя палаты і дваранскія сходы звяртаюцца з дэкрэтамі аб дваранстве аднадворцы і грамадзяне, якія «хоць і даказалі раней дваранства, але па ўласнай просьбе ці ў выніку няправільнага разумення запісаліся ў аднадворцы ці грамадзяне і былі абкладзены падаткам» або мелі дэкрэты аб доказе дваранства сваіх сем'яў, але не мелі дакументаў, якія б пацвярджалі сваяцтва з імі[1].

Шырока распаўсюдзілася практыка падробкі дакументаў, што таксама пагражала мінімізаваць намаганні ўлад па пераводзе дробнай шляхты ў падаткаабкладаныя катэгорыі. Таму ў 1845 г. аднадворцам забаранілі адшукваць страчаныя імі дваранскія правы любым іншым шляхам, акрамя вайсковай службы, на якой яны ім вярталіся пасля атрымання рангу, вышэйшага за пяты[2]. Ё. Сікорска-Кулеша ў сваёй працы памылкова адзначыла, што ў 1856 г. аднадворцам было зноў дазволена даказваць дваранства, аднак Закон 1856 г. дазваляў толькі пакідаць пры сабе дакументы аб дваранстве тым асобам, якія не былі прыняты на вайсковую службу, дзеля таго, каб іх дзеці пасля маглі скарыстацца такой магчымасцю[3]. Тут ізноў выразна прасочваецца адзін з кірункаў палітыкі ўлад у адносінах да аднадворцаў – іх усяляк намагаліся прыцягнуць да вайсковай службы. Улады разглядалі войска як сродак асіміляцыі аднадворцаў.

---

[1] *Sikorska-Kulesza J.* Deklasacja drobnej szlachty na Litwie i Białorusi w XIX wieku. S. 56–57.

[2] О дворянстве. С. 55–56. Пункты 241, 242, 243.

[3] О даруемом однодворцам праве оставлять при себе свидетельства дворянских депутатских собраний о дворянском их происхождении, хотя бы они сами по чему либо не были приняты на службу по сим свидетельствам или не дослужились до офицерского чина, и о правах детей их на вступление в службу и на возвращение себе прав дворянства. 26 авг. 1856 г. № 30887 // ПСЗ II. Т. 31. Отд-ние 1. 1857.

Імкнучыся расцерушыць былую шляхту па розных катэгорыях, улады дазволілі ёй прыпісвацца не толькі ў аднадворцы і грамадзяне, але і ў іншыя падаткаабкладаныя катэгорыі, у тым ліку ў купцы і мяшчане, пры гэтым вызваляючы ад выплат, звязаных з прыпіскай у гэтыя саслоўі. У 1857 г. улады спынілі прыпіску да аднадворцаў і грамадзян асоб з дробнай шляхты, якія не даказалі сваё дваранства, – цяпер яны прыпісваліся да іншых саслоўных груп, а стаць аднадворцам ці грамадзянінам можна было толькі паводле нараджэння[1].

Калі ў свядомасці саміх аднадворцаў яны заставаліся шляхтай, то царскія ўлады намагаліся іх трактаваць як катэгорыю сялян. У адносінах да іх пачалі ўжываць тэрмін «сяляне аднадворчых таварыстваў»[2].

Другой катэгорыяй, якая была ўтворана паводле ўказа ад 19 кастрычніка 1831 г., была катэгорыя грамадзян заходніх губерняў. Да яе залічвалася гарадская, бруковая шляхта, якая не падала дакументы аб дваранскім паходжанні ці не была зацверджана Герольдыяй пасля іх разгляду.

Грамадзяне не плацілі падушнага падатку, але, як і аднадворцы, плацілі падымны. У адносінах да іх не маглі быць прыменены цялесныя пакаранні, а рэкруцкай павіннасці і выплаце падаткаў яны падлягалі паводле таго ж закона, што і аднадворцы, з той толькі розніцай, што рэкруцкім участкам і падатковым таварыствам грамадзян лічылася сукупнасць грамадзян аднаго горада. Для збору падаткаў з іх асяроддзя выбіраўся зборшчык. Там, дзе колькасць грамадзян была нязначнай, яны былі ўключаны ў агульны склад гарадскога саслоўя. Катэгорыя грамадзян не была значнай па колькасці – каля 4–5 тыс. чалавек абодвух полаў.

Вельмі нешматлікай катэгорыяй насельніцтва, да якой была залічана частка «дэкласаванай» у 1831 г. шляхты, была саслоўная група ганаровых грамадзян. Да гэтай катэгорыі гарадскога насельніцтва маглі залічвацца асобы з дробнай шляхты, якія займаліся так званымі «інтэлігентнымі» прафесіямі: настаўнікі, гравёры, урачы, мастакі, ад-

[1] Об устройстве быта лиц бывшей польской шляхты, неутвержденных в дворянстве и пропустивших сроки для записки в оклад. 17 июня 1857 г. № 32000 // ПСЗ II. Т. 32. Отд-ние 1. 1858.

[2] Дело о сборе сведений к отчету губернатора; о недоставлении Гродненским и Слонимским уездными казначействами ведомостей за 1840 г. о сборе денег на продовольствие крестьян казенных и однодворческих обществ. 1841 г. // НГАБ у г. Гродна. Ф. 1. Воп. 5. Спр. 108.

вакаты, літографы і інш., названыя ва ўказах 1831[1] і 1832 гг.[2] Умовай залічэння ў асабістае ганаровае грамадзянства было валоданне атэстатам расійскага ўніверсітэта або наяўнасць звання «сапраўднага студэнта» ці ступені кандыдата, для мастакоў – атэстата акадэміі мастацтваў. Не зацверджаныя ў дваранстве шляхціцы, каб запісацца ў саслоўе ганаровых грамадзян, маглі падаваць і пасведчанні аб адпаведным родзе заняткаў[3]. Ганаровае грамадзянства магло быць асабістым ці спадчынным. Спадчыннае ганаровае грамадзянства надавалася таксама нашчадкам асабістых дваран. Пра наданне спадчыннага ганаровага грамадзянства маглі хадайнічаць купцы, асобы, якія вызначыліся ў навуках і мастацтве, замежныя вучоныя, мастакі, капіталісты. Асабістым ганаровым грамадзянам выдаваліся пасведчанні, спадчынным – граматы на пергаменце[4]. За грамату і пасведчанне ганаровыя грамадзяне павінны былі заплаціць пошліны велічынёй адпаведна 100 і 50 руб.[5] Для вядзення спраў ганаровых грамадзян у Дэпартаменце герольдыі Сената быў арганізаваны спецыяльны аддзел (часовы стол)[6].

Асобы, залічаныя ў катэгорыю ганаровых грамадзян, мелі значна больш правоў, чым аднадворцы ці проста грамадзяне. Ім дазвалялася адкупляцца ад рэкруцкай павіннасці сумай у 1000 руб., а з 1834 г. яны былі вызвалены ад падушнага акладу, цялесных пакаранняў, а таксама атрымалі права ўдзелу ў гарадскіх выбарах[7]. Аднак паводле Закона ад 23 снежня 1838 г. ганаровыя грамадзяне не мелі права паступлення на дзяржаўную службу[8]. З 1847 г. ганаровыя грамадзяне запісваліся

---

[1] О разборе шляхты в западных губерниях, и об устройстве сего рода людей.

[2] Об установлении в состоянии городских обывателей нового сословия почетных граждан и о правах и преимуществах сего сословия. 10 апр. 1832 г. № 5284 // ПСЗ II. Т. 7 ; О пошлинах с грамот на почетное гражданство. 10 апр. 1832 г. № 5285 // ПСЗ II. Т. 7.

[3] О разборе шляхты в западных губерниях, и об устройстве сего рода людей ; Об установлении в состоянии городских обывателей нового сословия почетных граждан ...

[4] О форме грамот и свидетельств на почетное гражданство. 19 авг. 1832 г. № 5571 // ПСЗ II. Т. 7.

[5] О пошлинах с грамот на почетное гражданство.

[6] Об учреждении в Герольдии временного стола для производства дел о почетном гражданстве. 27 сент. 1832 г. № 5618 // ПСЗ II. Т. 7.

[7] О правах почетных граждан из бывшей шляхты западных губерний. 7 февр. 1834 г. № 6789 // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 1.

[8] *Луговцова С. Л.* Политика российского самодержавия ... С. 54.

ў пятую частку гарадавой абывацельскай кнігі[1]. Сярод ганаровых грамадзян, якіх у пяці беларускіх губернях, паводле звестак на 1866 г., жыло 852 чалавекі, большасць былі яўрэямі і не належалі да дробнай шляхты[2].

Пасля падаўлення паўстання 1863 г. было вырашана канчаткова ліквідаваць катэгорыі аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў. Спачатку ў катэгорыю сялян перавялі аднадворцаў, якія жылі ў дзяржмаёнтках, а ў 1868 г. быў выдадзены ўказ «Аб увядзенні аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў у агульны склад сельскіх і гарадскіх абывацеляў». Быў вызначаны гадавы тэрмін для іх прыпіскі ў таварыствы сялян-уласнікаў ці мяшчан[3]. З-за падатковых разлікаў і адсутнасці многіх аднадворцаў у месцах іх прыпіскі гадавы тэрмін не быў вытрыманы[4]. Так, саслоўныя групы аднадворцаў і грамадзян прысутнічалі ў спісе, складзеным па выніках перапісу сельскага насельніцтва Мінскай губерні па стане на 1870 г.[5] Вызначэнне такой саслоўнай прыналежнасці, як «аднадворац», можна сустрэць і ў пазнейшых дакументах[6]. Узнікла таксама юрыдычная праблема з тым, як паступаць з аднадворцамі і грамадзянамі, якія хоць і былі прыпісаны згодна з рэвізіяй у заходніх губернях, але не пражывалі там. Закон ад 2 красавіка 1870 г. дазваляў іх прыпісваць па месцы жыхарства[7].

Значная частка шляхты, якая ніколі не была зацверджана дваранскімі дэпутацкімі сходамі і не валодала населенымі маёнткамі,

---

[1] О внесении в 5-ю часть городовой обывательской книги почетных граждан. 3 марта 1847 г. № 20961 // ПСЗ II. Т. 22. Отд-ние 1.

[2] Памятная книжка Виленского генерал-губернаторства на 1868 год.

[3] О порядке приписки лиц бывшей польской шляхты в податные состояния. 31 дек. 1865 г. № 42858 // ПСЗ II. Т. 40. Отд-ние 2. 1867 ; О введении однодворцев и граждан западных губерний в общий состав сельских или городских обывателей. 19 февр. 1868 г. № 45505 // ПСЗ II. Т. 43. Отд-ние 1. 1873.

[4] *Sikorska-Kulesza J.* Deklasacja drobnej szlachty na Litwie i Białorusi w XIX wieku. S. 61.

[5] Список волостей, обществ и селений Минской губернии. Составлен по состоянию на 1 января 1870 г. // НГАБ. Падсобны фонд чытальнай залі. Мінск, 1870.

[6] Дело о доставлении сведений следственной комиссии при Варшавском ген-губ-ре о местожительстве однодворца Герцог Александра, находившегося под надзором полиции. 1879 г. // НГАБ у г. Гродна. Ф. 1. Воп. 8. Спр. 226 ; Дело о запрещении жительства в Западном крае политическому ссыльному однодворцу Минской губернии Саевичу Владиславу. 1879 г. // НГАБ у г. Гродна. Ф. 1. Воп. 8. Спр. 129.

[7] О приписке по месту жительства однодворцев и граждан, числившихся по ревизии в Западном крае. 2 апр. 1870 г. № 48214 // ПСЗ II. Т. 41. Отд-ние 1. 1868.

прапусціла ўсе тэрміны падачы пасямейных спісаў для залічэння ў аднадворцы і грамадзяне. У 1845 г. было пастаноўлена крымінальным судам выносіць рашэнні аб асобах, справы якіх так і не былі прад'яўлены на разгляд, як аб асобах ніжэйшых саслоўяў і прыводзіць іх у выкананне пасля зацвярджэння губернатарам у агульным парадку[1]. Паводле ўказа ад 17 сакавіка 1847 г. тыя асобы, якія так і не падалі пасямейныя спісы для залічэння ў аднадворцы і грамадзяне (у дакуменце яны ўжо завочна называліся аднадворцамі і грамадзянамі) і не зрабілі б гэтага да 1 чэрвеня 1848 г., павінны былі быць залічаны ў разрад дзяржаўных сялян. Туды ж павінны былі запісвацца асобы, якія не прад'явілі патрабаваных ад іх дадатковых доказаў свайго дваранства пасля таго, як першы разгляд дакументаў у Герольдыі быў няўдалым[2].

З гэтага і наступных указаў вынікае, што некаторы час яшчэ захоўвалася пэўная група шляхты, у асноўным неаселай і служылай, якая пазбягала падачы пасямейных спісаў і залічэння ў аднадворцы і грамадзяне, а ўлады не мелі эфектыўнага механізму для выяўлення «неаселай шляхты» і «аднадворцаў і грамадзян, якія прапусцілі тэрміны запісу ў аклад». У 1850 г. такім асобам было дазволена запісвацца таксама ў купцы і мяшчане[3].

Нягледзячы на ўказы 1845, 1847 і 1850 гг., шляхта, якая пазбягала ўліку і прыпіскі да падаткаабкладаных катэгорый, працягвала існаваць. Папаўнялася яна за кошт асоб, чые дакументы на дваранства былі канчаткова прызнаны несапраўднымі. У 1857 г. быў выдадзены новы ўказ «Аб уладкаванні побыту асоб з былой шляхты, якія не былі зацверджаны ў дваранстве і прапусцілі тэрміны для запісу ў аклад»[4]. Адзначаныя асобы, якія стала пражывалі на зямлі, павінны былі быць залічаны: а) якія жылі на казённых і ўласных землях – у саслоўе дзяржаўных сялян, б) на памешчыцкіх – у саслоўе вольных людзей, в) якія жылі ў гарадах – у мяшчанскае саслоўе. Катэгорыі аднадворцаў і грамадзян для прыпіскі

[1] О лицах бывшей польской шляхты, не представивших в определенный срок дополнительных о дворянстве документов, и о подсудности лиц бывшей польской шляхты. 3 июля 1845 г. № 19158 // ПСЗ II. Т. 20. Отд-ние 1. 1846.

[2] *Луговцова С. Л.* Политика российского самодержавия ... С. 64.

[3] О причислении лиц бывшей польской шляхты, не доказавших дворянства, в купцы и мещане. 10 июля 1850 г. № 24315 // ПСЗ II. Т. 25. Отд-ние 1.

[4] Переписка виленского военного губернатора и генерал-губернатора гродненского, ковенского о порядке причисления в оклад лиц польской шляхты и переписка с минской казенной палатой по этому вопросу. 1862–63 гг. // НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Спр. 1468. Арк. 6–7адв.

былі ўжо закрыты. Неаселым адводзіўся дзевяцімесячны тэрмін для запісу ў дзяржаўныя сяляне або гараджане, пасля пропуску якога з імі можна было абыходзіцца па законе як з валацугамі – высылаць у аддаленыя і памежныя губерні. Неаселыя асобы з непрыпісанай дробнай шляхты павінны былі надзяляцца прысядзібным надзелам і атрымаць грошы на будаўніцтва хаты. Ім давалася вызваленне на тры гады ад падаткаў[1]. Нягледзячы на сканчэнне тэрмінаў, з перапіскі віленскага генерал-губернатара У. Назімава і мінскага губернатара А. Кажэўнікава вядома, што прыпісцы ў падаткаабкладаныя катэгорыі шляхты, якая прапусціла раней вызначаныя тэрміны, зацягвалася[2].

Звестак, якія дазволілі б дакладна акрэсліць колькасць шляхты, якая пазбегла прыпіскі, не выяўлена. Хутчэй за ўсё, яна вагалася, што было звязана з правядзеннем палітыкі па выяўленні такой шляхты і яе прыпісцы да падаткаабкладаных катэгорый. Аднак поўнасцю дасягнуць мэты ўлады не змаглі нават і ў 1860-я гг. Ва ўказе 1864 г. усё яшчэ звярталася ўвага генерал-губернатараў на забеспячэнне бяздомнай і беззямельнай шляхце сталай аселасці на казённых землях[3].

## ПЕРАСЯЛЕННІ ДРОБНАЙ ШЛЯХТЫ Ў 1830–50-я гг.

Указ 19 кастрычніка 1831 г., якім сілу закона набываў праект Камітэта заходніх губерняў, прадугледжваў магчымасць рэалізацыі, сярод іншага, перасяленчых мерапрыемстваў у адносінах да дробнай шляхты. Указ адлюстроўваў толькі асноўныя захады па разборы шляхты. Сярод іншага загадвалася: «...даць аднадворцам і грамадзянам больш спосабаў да пастаяннай аселасці», а міністру фінансаў «выдаць распараджэнні аб наданні тым з аднадворцаў і грамадзян, хто найбольш патрабуе зямлі, спосабаў да перасялення ва ўнутраныя губерні імперыі»[4].

[1] Об устройстве быта лиц бывшей польской шляхты, неутвержденных в дворянстве ...

[2] Переписка виленского военного губернатора и генерал-губернатора гродненского, ковенского ...

[3] О мерах к успешнейшему окончанию дел о правах лиц, доказывающих дворянское достоинство по происхождению от бывшей польской шляхты. 23 сент. 1864 г. № 41299 // ПСЗ II. Т. 39. Отд-ние 2. 1867. Пункт 8 ; О порядке приписки лиц бывшей польской шляхты в податные состояния.

[4] О разборе шляхты в западных губерниях, и об устройстве сего рода людей.

Гэта, аднак, была пакуль толькі дэкларацыя аб намерах урада, сам жа механізм рэалізацыі ўказа павінен быў быць вызначаны ў далейшых указах і распараджэннях.

Акрамя закладзенай ва ўказе 19 кастрычніка магчымасці перасялення дробнай шляхты, улады пачалі актыўна прымяняць высяленні ў якасці пакарання асоб, якія былі замешаны ў паўстанні 1830–1831 гг. Пасля яго падаўлення справе перасялення шляхты відавочна надавалася асаблівая важнасць, але адначасова і сакрэтнасць, чым, магчыма, тлумачыцца недастатковасць базы крыніц па гэтым пытанні. Так, указам ад 9 студзеня 1833 г. было загадана міністрам, а таксама ўсім начальнікам ваенных падраздзяленняў трымаць зносіны і кантакты па пытанні перасялення шляхты і ўвогуле адносна шляхты, а таксама адносна асоб, замешаных у паўстанні, не праз грамадзянскіх губернатараў, а праз ваенных губернатараў ці генерал-губернатараў[1]. Улады не хацелі, каб гэта інфармацыя распаўсюджвалася сярод грамадзянскіх чыноўнікаў, значная частка якіх, як вядома, выводзілася з дробнашляхецкага асяроддзя.

Палітыка масавага перасялення дробнай шляхты фактычна ўпершыню атрымала сваю рэалізацыю якраз у часы кіравання Мікалая І. Яго настрой і намеры адыгралі тут галоўную ролю. Сваё стаўленне да дробнай шляхты ён выказаў наступнымі словамі: «...дваране ў заходніх губернях – гэта тыя, хто мае маёнткі або за службу атрымалі чыны, а шляхта (дробная. – *В. М.*) – гэта зброд людзей, якія дабіваюцца дваранскага статусу, не маючы на гэта ні правоў, ні дакументаў, шлёндаюцца без занятку або знаходзяцца ва ўслужэнні і з'яўляюцца класам самым шкодным і разбэшчаным»[2]. Імператар быў прыхільнікам даволі жорсткіх мер у адносінах да дробнай шляхты, чаго нельга сказаць пра ўсіх членаў Камітэта заходніх губерняў. Імкнучыся дасягнуць тых самых мэт, большасць членаў Камітэта былі прыхільнікамі ўсё ж паступовых і лагодных дзеянняў у дачыненні да дробнай шляхты.

Прававая і нарматыўная база для масавага высялення дробнай шляхты з заходніх губерняў распрацоўвалася ў 1830–40-я гг. Для правядзення першых масавых перасяленняў у колькасці 5000 сем'яў дроб-

[1] О сношениях министров с начальниками губерний по делам о переселении бывшей польской шляхты на Кавказ, и о лицах, участвовавших в мятеже по губерниям, от Польши возвращенным. 9 янв. 1833 г. № 5892 // ПСЗ II. Т. 8. Отд-ние 1.

[2] Исторический обзор деятельности Комитета министров : в 7 т. / сост. С. М. Середонин. СПб., 1902. Т. 2 : в 2 ч. Ч. 1. С. 63.

най шляхты была абрана Падольская губерня. Пра гэта ўжо 15 лістапада 1831 г. у лісце падольскаму губернатару Фёдару Лубяноўскаму паведаміў старшыня Камітэта заходніх губерняў барон Корф[1]. Для арганізацыі новых мілітарызаваных калоній – такая ідэя разглядалася – планавалася прызначыць дзяржаўныя землі на Каўказе. Аднак, як трапна выказаўся французскі даследчык Д. Бувуа, ідэя дэпартацыі больш сведчыла пра эмоцыі, чым пра здаровы розум[2]. Падольскі губернатар Лубяноўскі адразу ўсвядоміў цяжкасці, якія могуць узнікнуць з рэалізацыяй мерапрыемства і наборам добраахвотнікаў, таму запытаўся, ці зможа ўжыць сілу. У сваім адказе 24 студзеня барон Корф не растлумачыў сітуацыі, спаслаўшыся на першы загад Мікалая I – пазбыцца з заходніх губерняў бабылёў і неаселай шляхты, «якая жыве ў распусце і заўсёды гатова служыць таму, хто яе купіць»[3].

У пачатку 1832 г., рэалізуючы ідэю імператара Мікалая I і М. Мураўёва і канкрэтызуючы палажэнні ўказа 19 кастрычніка 1831 г., Камітэт заходніх губерняў падрыхтаваў праект высялення з заходніх губерняў часткі той шляхты, якая не даказала дваранскага паходжання, і падаў яго на подпіс Мікалаю I. Закон быў падпісаны 25 сакавіка 1832 г.[4] Разам з законам і правіламі аб прымусовым перасяленні аднадворцаў і грамадзян на Каўказ быў таксама падпісаны закон і правілы аб добраахвотным перасяленні аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў[5].

Спачатку Камітэт планаваў выселіць 5 тыс. сем'яў толькі з Падольскай губерні, аднак праекты высялення настолькі спадабаліся імператару, што, падпісваючы закон аб добраахвотным перасяленні, ён пакінуў на ім уласную рэзалюцыю з патрабаваннем пашырыць яго дзеянне, акрамя Падольскай, таксама на ўсе заходнія губерні[6]. Добраахвотныя перасяленні планавалася праводзіць галоўным чынам у Каўказскую вобласць, але і на свабодныя землі некаторых іншых губерняў. У Пяцігорскім павеце Каўказскай вобласці былі прызна-

[1] Спробы арганізаваць перасяленне 5000 сем'яў дробнай шляхты з Падольскай губерні на аснове даных Кіеўскага гістарычнага архіва (Ф. 442. Воп. 1. Спр. 1390) добра прадстаўлены ў працы Д. Бувуа: *Beauvois D.* Polacy na Ukrainie ... S. 94–100.

[2] *Beauvois D.* Polacy na Ukrainie ... S. 94.

[3] Там жа.

[4] Высочайше утвержденные правила для переселения граждан и однодворцев западных губерний в Кавказскую область. 25 марта 1832 г. № 5249 // ПСЗ II. Т. 7.

[5] Правила для переселения однодворцев западных губерний по желанию их в другие губернии. 25 марта 1832 г. № 5250 // ПСЗ II. Т. 7.

[6] Там жа.

чаны для каланізацыі ў асноўным сцяпныя землі ў памеры 1 304 022 дзесяціны, у Кізлярскім павеце 38 090 дзесяцін, з якіх амаль палова выдзялялася на ўзбярэжжы Каспійскага мора, у Стаўрапольскім павеце 388 496 дзесяцін, з якіх большая частка выдзялялася ў вярхоўях р. Вялікая Кугульта, у Маздоцкім павеце выдзялялася 292 726 дзесяцін. Усяго ў Каўказскай вобласці – 2 023 334 дзесяціны. У Саратаўскай губерні было выдзелена для каланізацыі шляхтай крыху менш зямлі – 1 295 625 дзесяцін у Саратаўскім, Вольскім, Хвалынскім, Камышынскім, Царыцынскім і Бальшэўскім паветах. Абсалютная большасць дзесяцін выдзялялася ў Вольскім і Царыцынскім паветах. У Арэнбургскай губерні выдзялялася 491 514 дзесяцін у Арэнбургскім, Бузулуцкім і Бугульмінскім паветах[1].

Асобы на перасяленне павінны былі вызначацца губернатарам і спецыяльна створанымі для гэтага губернскімі камісіямі. Прымусовыя дэпартацыі павінны былі адбывацца пад наглядам канвою на чале са спецыяльна прызначаным чыноўнікам. Добраахвотныя перасяленцы мелі права перад высяленнем выслаць давераную асобу для ацэнкі месца перасялення і пагадзіцца ці не пагадзіцца на пераезд. Акрамя таго, па дарозе на новае месца дабравольных перасяленцаў не суправаджаў канвой. Перасяленне гэтых людзей, як было сказана ў законе, не павінна было мець нічога агульнага з «каланізацыяй аднадворцаў»[2]. Відавочна, што пры наяўнасці двух фактычна ідэнтычных па ўмовах перасялення законаў уладам было лягчэй пад пагрозай прымусовага высялення схіліць аднадворцаў пагадзіцца на пераезд «па ўласным жаданні».

На новым месцы пасялення ўсім шляхціцам была прадугледжана дапамога з боку ўрада. Кожная сям'я павінна была атрымаць 50 дзесяцін зямлі, вызвалялася ад выплаты шэрагу павіннасцей: ад падымных і земскіх на пяць гадоў, ад натуральных земскіх на тры гады, на пяць гадоў ад рэкруцкай павіннасці, а пасля на працягу наступных трох гадоў выконвала яе на чвэрць, на шэсць гадоў вызвалялася ад воінскага пастою і ўзносу хлеба ў сельскія запасныя магазіны. Перасяленцам спісваліся ўсе даўгі і гарантавалася пагашэнне выдаткаў на перамяшчэнне ў памеры 50 руб. Таксама выдаткоўвалася ад 50 да 100 руб. на пабудову хаты (у залежнасці ад наяўнасці ці адсутнасці паблізу лесу), выдавалася і неабходная колькасць насення для засеву збожжа. Усе перасяленцы мелі права прадаць сваю ўласнасць на ста-

[1] ПСЗ II. Т. 7. Прил. I. Штаты и табели, к № 5250. С. 39–41.

[2] Правила для переселения однодворцев западных губерний по желанию их в другие губернии.

рым месцы пры ўмове інфармавання пра гэта камісіі, «...каб уласнасць кожнага перасеtotal сямейства, якую яно возьме на новае месца пасялення, была вядома начальству»[1].

У адрозенне ад добраахвотных перасяленцаў, месцы пасялення прымусова дэпартаваных сем'яў вызначалі мясцовыя ўлады. Згодна з законам шляхціцаў, якія не мелі аселасці і сталага занятку, «валацужнічалі з месца да месца», загадвалася перасяляць на так званую «казацкую лінію»[2]. Пазней, аднак, ад перасялення гэтай катэгорыі ўлады адмовіліся. Паводле закона да добраахвотнага перасялення павінны былі дапускацца толькі тыя, хто адзначаўся здольнасцямі ў заняцці земляробствам, быў «добрых паводзін» і не меў запазычанасцей па выплаце падаткаў.

Згодна з жаданнем імператара, выказаным у рэзалюцыі да закона, у планы перасялення былі ўключаны таксама літоўска-беларускія губерні. Толькі з Віленскай губерні планавалася выселіць 2 тыс. аднадворцаў[3].

Асаблівым клопатам улад было тое, каб інфармацыя пра запланаваныя перасяленчыя мерапрыемствы не атрымала распаўсюджання сярод насельніцтва, пра што пісаў 6 красавіка 1832 г. падольскаму губернатару міністр унутраных спраў. Аказалася, аднак, што губернатар на той момант ужо разаслаў старшыням дваранскіх дэпутацкіх сходаў вялікі друкаваны плакат «Льготы и выгоды переселяемой в Кавказскую область шляхте всемилостивейше даруемые»[4]. Чуткі аб будучых перасяленнях разыходзіліся таксама і па іншых заходніх губернях. Пра неабходнасць супрацьдзейнічаць іх распаўсюджанню паведамляў і віленскі губернатар[5].

Відавочна, што ў першую чаргу ўлады планавалі перасяліць неаселую шляхту. Складаліся спецыяльныя спісы, у якія ўносіліся асобы, што не мелі сталага месца пражывання і ўласнай зямлі. Добраахвотных для перасялення, аднак, амаль не знаходзілася. Міністр унутраных спраў 9 ліпеня 1832 г. даслаў запыт аб колькасці тых, хто перасяляўся[6]. 27 ліпеня падольскі губернатар прызнаў адсутнасць магчымасці арганізаваць добраахвотнае перасяленне і паставіў перад міністрам тры пытанні: 1) ці трэба арганізоўваць дэпартацыю прымусо-

[1] Высочайше утвержденные правила для переселения граждан и однодворцев западных губерний в Кавказскую область.

[2] Там жа.

[3] *Неупокоев В. И.* Преобразование беспоместной шляхты ... С. 18.

[4] *Beauvois D.* Polacy na Ukrainie ... S. 96.

[5] Аддзел рукапісаў бібліятэкі АН Літвы імя Врублеўскіх. Сігн. F 126-41/ KN-41.

[6] *Beauvois D.* Polacy na Ukrainie ... S. 97.

ва; 2) ці залічваць у перасяленцы тых, хто не быў удзельнікам паўстання, і нежанатых шляхціцаў; 3) ці ўлічваць інфармацыю з генеалагічных кніг. Адказ міністра 14 жніўня сведчыў пра ўсё большыя сумненні адносна неабходнасці рэалізоўваць прымусовае перасяленне, і таму яно ўсё далей адкладалася.

Трэба прызнаць, што законы аб добраахвотным і прымусовым перасяленні, відавочна, былі фарсіравана падрыхтаваны па жаданні імператара, а магчымасць і сродкі іх рэалізацыі не былі сур'ёзна прааналізаваны і распрацаваны. У падрыхтоўцы гэтых законаў, як і ў выпадку з Законам 19 кастрычніка 1831 г., бачыцца той самы падыход – спачатку прымаецца закон, які ставіць задачу дасягнення мэты, а ўжо пасля, у наступных законах прадугледжваюцца меры па яго рэалізацыі. Члены Камітэта заходніх губерняў пасля наступнага грунтоўнага абмеркавання праектаў перасялення, як паказалі далейшыя падзеі, усвядомілі, што прымусовае перасяленне можа абярнуцца як значнымі хваляваннямі і цяжкасцямі на месцах, так і вялікімі фінансавымі стратамі для ўрада. Знайсці прадугледжаную колькасць добраахвотнікаў, як аказалася, было б таксама вельмі складана і давялося б праводзіць перасяленні амаль выключна прымусова, што запатрабавала б адпаведна і дадатковыя значныя выдаткі з казны.

Не было яснасці і з падрыхтаванасцю саміх месцаў планаванага перасялення, таму адносна рэалізацыі закона аб перасяленні 5000 сем'яў шляхты было прапанавана выказаць свае меркаванні і начальніку Каўказскай вобласці Аляксею Вельямінаву, на землі адказнасці якога планавалася ажыццяўляць асноўныя перасяленні. Ужо толькі пасля зацвярджэння законаў аб перасяленні, што дэманструе недастатковую разважлівасць пры іх распрацоўцы, міністрам унутраных спраў у Камітэт заходніх губерняў было прадстаўлена аднашэнне Вельямінава «О неудобствах и затруднениях, которые надлежит ожидать при переселении в означенные области однодворцев... на основании утвержденных в минувшем году правил».

Генерал-лейтэнант Вельямінаў паведамляў, што лепшыя землі на Каўказе ўжо заняты казачымі станіцамі, а засталіся толькі бязводныя, таму выканаць патрабаванне і выдзеліць перасяленцам уводненыя землі немагчыма. На 5000 сямействаў трэба было тэрмінова збудаваць каля 500 дамоў, але туды, дзе няма пасяленняў, цяжка завесці і ўтрымліваць рабочых, паколькі ім трэба падвозіць ваду і ахоўваць ад набегаў горцаў. Выкопванне артэзіянскіх калодзезяў, па паведамленні Вельямінава, таксама запатрабавала б вялікіх выдаткаў, пастаяннай прысутнасці ваеннай каманды і значнага часу, па словах Вельямінава – цэлае лета (па чатыры

калодзезі на 200 сем'яў). Калі сяліць шляхту ва ўжо існуючых станіцах, узнікала новая праблема – у кіраванні паміж ваеннымі і грамадзянскімі ўладамі і ва ўзаемаадносінах шляхты з казакамі, у якіх «может возродиться неудовольствие при переселении на землях для них отведенных и ими защищаемых, людей чуждых их сословию». Вельямінаў выказаў прапанову спачатку залічваць шляхту ў казачыя палкі і пасля сяліць яе ва ўжо існуючыя пасяленні, дзе дастаткова чыстай вады, а казакі, бачачы перад сабой людзей аднолькавага з імі саслоўя, будуць ім дапамагаць, казна скароціць свае выдаткі на іх уладкаванне, а казакі атрымаюць падмацунак за кошт людзей, «не чуждых» зброі і верхавой яздзе. Усе ў выніку, па словах Вельямінава, будуць заводзіць сваяцтвы, прымуць звычаі казакоў і «составят с ними один народ»[1]. Жаданай мэтай перасялення была, як бачым з прапаноў Вельямінава, і асіміляцыя дробнай шляхты.

Вышэйшыя чыноўнікі звярнулі ўвагу таксама і на зусім іншы бок праблемы, які іх хваляваў не менш, чым праблема перасялення дробнай шляхты. Так, масавае перасяленне «нядобранадзейных» элементаў, як сцвярджалася ў дакуметах Камітэта, «абярнулася б... з-за суседства непрыязных горскіх плямёнаў... грамадскай шкодай»[2]. У Камітэце адзначалі, што, калі ставіць за мэту стварэнне калоній, трэба было б перасяляць аселую шляхту – уладальнікаў земляў, а яны, паводле меркавання падольскага губернатара, на той момант не стваралі якой-небудзь пагрозы на месцах пражывання. З іншага боку, на яго думку, калі перасяляць людзей, «действительно обременяющих край (находящихся на услугах дворянства – адвокаты, депенденты, палестранты, и все в городах и местечках без всякого дела живущие), но по соседству с горцами это приведет к вящему вреду общественному». Прыняўшы да ўвагі гэтыя меркаванні, 11 студзеня Камітэт заходніх губерняў абмежаваў выбар на перасяленне той шляхтай, якая мае аселасць. Зыходзячы, мабыць, з тых жа самых меркаванняў, Камітэт палічыў патрэбным па прыбыцці шляхціцаў на месца перасялення адразу ўключаць іх у Казачае войска[3].

---

[1] РГИА. Ф. 571. Оп. 1. Д. 1438. Дело по журналу Комитета по делам западных губерний об устройстве сословия бывшей шляхты и об обложении подымной и рекрутской повинностями граждан и однодворцев белорусских губерний. Л. 10–19.

[2] *Лепеш О. В.* Комитет западных губерний: организация и деятельность (1831–1848 гг.). С. 75.

[3] РГИА. Ф. 571. Оп. 1. Д. 1438. Дело по журналу Комитета по делам западных губерний ... Л. 10–19.

У працэсе рэалізацыі закона было вырашана праводзіць мерапрыемствы больш лагодна – высылаць спачатку добраахвотнікаў, даць ім больш зямлі, выслаць «работнікаў» па меры дастаўлення на месцы будаўнічых матэрыялаў. Члены сем'яў павінны былі перасяляцца ўжо па меры гатоўнасці жылля[1].

Палітыка па перасяленні дробнай шляхты, якую так фарсіраваў Мікалай І, відавочна прабуксоўвала – аказалася, што найбольш жаданая група для перасялення – неаселая шляхта – была прызнана Камітэтам заходніх губерняў не вельмі прыдатнай для гэтага – як шкодная для грамадскага парадку на Каўказе, а вялікія выдаткі і адсутнасць добрых земляў не спрыялі рэалізацыі добраахвотнага перасялення аселай шляхты. Акрамя таго, на думку мясцовых улад, якраз аселая шляхта і не ствarала асобай пагрозы на месцах яе тагачаснага пражывання. Нягледзячы на прабуксоўку, рэальныя перасяленні пачалі ўсё ж адбывацца.

Пытанне аб колькасці пераселеных асоб у 1830-я гг. застаецца ў гістарыяграфіі недастаткова даследаваным. Вядома, аднак, што вынікі былі даволі сціплыя. Паводле данясення ў 1833 г. падольскага губернатара Ф. Лук'яноўскага, добраахвотнае жаданне перасяліцца выказалі толькі 23 сям'і (49 мужчын і 46 жанчын), якія пазітыўна характарызаваліся адносна іх паводзін. 12 сем'яў (31 мужчына і 25 жанчын), якія таксама запісаліся на перасяленне, лічыліся падазронымі і нядобранадзейнымі, а астатнія 312 сем'яў (875 мужчын і 745 жанчын) увогуле з'яўляліся дзяржаўнымі злачынцамі: п'яніцы, злодзеі, валацугі, кантрабандысты, як пра іх адзначалася. Было вырашана, што толькі першыя 23 сям'і заслугоўваюць дзяржаўных выдаткаў іх перасялення на пустуючыя землі. У адносінах да прадугледжанага прымусовага перасялення Камітэт заняў ужо больш лагодную пазіцыю. У выніку чарговага абмеркавання гэтага пытання была вынесена рэзалюцыя, якая сведчыла, што пытанне ўжо не было актуальным: «Настойлівай неабходнасці ў рэалізацыі гэтай меры зараз няма»[2].

Ідэя працягваць практыку перасялення тым не менш не знікла цалкам і падтрымлівалася імператарам. Дзеля заахвочвання аднадворцаў запісвацца на перасяленне міністр фінансаў Ягор Канкрын пагадзіўся нават падвоіць грашовыя дапамогі, каб перасяленцы маглі атрымліваць 100 руб. на пакрыццё транспартных выдаткаў і ад 100 да 200 руб. на сваё

[1] *Beauvois D.* Polacy na Ukrainie ... S. 95.

[2] *Лепеш О.* Граждане и однодворцы в политике российского правительства на территории Беларуси после восстания 1830–31 гг. // Науч. тр. РИВШ. Сер.: Исторические и психолого-педагогические науки. Вып. 10 (15). Ч. 1. Минск, 2010. С. 99.

ўладкаванне пасля прыбыцця на новыя месцы. Вынікі перасяленчай палітыкі ўсё роўна заставаліся вельмі сціплымі.

У пачатку 1840-х гг. улады паспрабавалі чарговы раз актывізаваць перасяленні. У 1841 г. выйшаў указ «Аб узмацненні захадаў да перасялення аднадворцаў»[1]. Паводле закона ўводзілася новая працэдура. Улады нарэшце ўлічылі прапановы губернатара Каўказскай вобласці, выказаныя яшчэ ў 1832 г. – Вельямінаў яшчэ тады прапанаваў не ствараць асобныя пасяленні аднадворцаў, а сяліць іх разам з казакамі. Паводле ўказа 1841 г. на землях Кацярынаслаўскай губерні, якія былі прызначаны для перасялення ўкраінскіх казакоў, пры кожным участку былі пакінуты свабодныя землі для перасялення аднадворцаў заходніх губерняў, якія, такім чынам, павінны былі б растварыцца ў казацкай масе. На новым месцы аднадворцы павінны былі атрымліваць тыя ж самыя льготы, як і казакі, якія перасяляліся. У выпадку, калі б перасяленне аднадворцаў рэалізоўвалася паспяхова, прадугледжвалася прызначыць для гэтых мэт таксама і землі ў іншых губернях з вялікай колькасцю свабодных участкаў[2]. Да тэрыторый, на якія ажыццяўлялася перасяленне аднадворцаў, былі далучаны таксама землі ў Херсонскай, Таўрычаскай і Сімбірскай губернях. У Міністэрстве дзяржаўных маёмасцей планавалі перасяліць да 4500 чалавек добраахвотнікаў.

У якасці заканадаўчай базы для ажыццяўлення перасялення аднадворцаў выкарыстоўвалася таксама палажэнне ад 8 сакавіка 1843 г. аб пераводзе дзяржаўных сялян з малазямельных у многазямельныя губерні. Для рэалізацыі палажэння ў Арэнбургскай, Саратаўскай, Тамбоўскай, Кацярынаслаўскай губернях і Каўказскай вобласці было адведзена амаль 900 тыс. дзесяцін зямлі для больш чым 42 тыс. перасяленцаў. У адпаведнасці з гэтым законам планавалася толькі з Віленскай губерні выселіць больш тысячы мужчынскіх «душ» аднадворцаў[3].

Спробы выселіць як мага больш дробнай шляхты з заходніх губерняў яскрава прасочваюцца ў іншых указах і праектах. Міністр дзяржаўных маёмасцей Павел Кісялёў прапанаваў, праводзячы ўнутраную рэарганізацыю таварыстваў аднадворцаў заходніх губерняў, «заклікаць аднадворцаў спецыяльным агалошваннем», як завуалявана гэта было сфармулявана ў законе, «перасяляцца на свабодныя дзяржаўныя землі

[1] Об усилении способов к переселению однодворцев западных губерний во внутренние губернии. 2 июня 1841 г. № 14601 // ПСЗ II. Т. 16.

[2] Там жа.

[3] *Неупокоев В. И.* Преобразование беспоместной шляхты ... С. 18.

ў іншых губернях», даючы ім ільготы згодна з законамі ад 25 сакавіка 1832 г. і 2 чэрвеня 1841 г.[1]

Відавочна, што ўведзеныя ў дзеянне законы так і не прывялі да вынікаў, якіх хацелі дасягнуць улады, – да масавага добраахвотнага перасялення дробнай шляхты, пераведзенай у катэгорыю аднадворцаў. Неабходна была актывізацыя перасяленняў. У маі 1841 г. П. Кісялёў падаў імператару запіску, у якой прапанаваў дзеля ўзмацнення перасяленняў змяніць іх кірунак – высяляць аднадворцаў у бліжэйшыя ўнутраныя губерні Расіі, аднак рассяляць іх не асобнымі таварыствамі, а «сумесна з карэннымі жыхарамі»[2]. Гэта павінна было разбураць ідэнтычнасць і традыцыі, этас пераселенай дробнай шляхты, спрыяць яе русіфікацыі.

Каб ажыццяўляць перасяленні «з поўным поспехам», у заходнія губерні імперыі былі адкамандзіраваны чыноўнікі асобых даручэнняў Міністэрства дзяржмаёмасцей, якія павінны былі фарміраваць групы ахвотных адправіцца на новыя месцы жыхарства, а таксама кантраляваць працэс перасялення. У пачатку 1843 г. для фарміравання груп перасяленцаў быў адкамандзіраваны ў Віцебскую губерню чыноўнік асобых даручэнняў Міністэрства дзяржмаёмасцей Міцькоў. Яму было даручана сфарміраваць групы колькасцю 1500 душ для перасялення ў Кацярынаслаўскую губерню[3]. Гэта перасяленне дакладна было арганізавана і праведзена, паколькі дакументы сведчаць, што Міцькоў пасля сфарміравання груп выехаў у Магілёўскую губерню, кантралюючы рух перасяленцаў.

Нягледзячы на прабуксоўку перасяленчай палітыкі, масавыя перасяленні ў 1840-я гг. усё ж станавіліся рэальнасцю. У 1843 г. з беларускіх і ўкраінскіх губерняў у Кацярынаслаўскую было накіравана 1729 душ мужчынскага полу, з якіх да месца прызначэння прыбыло толькі 1345 чалавек. Аднадворцы масава ўцякалі падчас перасяленняў. З 63 чалавек, адпраўленых з Віленскай губерні, толькі 35 прыбыло на месца[4].

У пачатку 1846 г. міністр дзяржаўных маёмасцей даў чарговы дазвол перасяляць аднадворцаў таксама ў Херсонскую і Таўрычаскую губерні. У Херсонскую планавалася выселіць 1000 душ, у Таўрычаскую – 80 сем'яў. Для выканання гэтай аперацыі ў заходнія губерні быў адка-

[1] *Неупокоев В. И.* Преобразование беспоместной шляхты ... С. 14.

[2] Там жа. С. 19.

[3] Дело по отношению Департамента государственных имуществ о переселении однодворцев из западных губерний в Екатеринославскую, Херсонскую и другие // НГАБ. Ф. 1430. Спр. 9221. Арк. 3–6.

[4] *Неупокоев В. И.* Преобразование беспоместной шляхты ... С. 19.

мандзіраваны чыноўнік спецыяльных даручэнняў Юр'еў. Збор аднадворцаў-перасяленцаў з беларускіх і Ковенскай губерняў адбываўся ў г. Быхаве, адкуль праз Украіну яны накіроўваліся да месцаў перасялення[1].

Згодна з задумай улад прымусовае высяленне цяпер павінна было закрануць у першую чаргу неаселую дробную шляхту, ад чаго яны адмовіліся ў 1833 г., апасаючыся перасяляць гэты «ненадзейны», на іх думку, элемент на Каўказ. У 1848 г., магчыма пад уздзеяннем рэвалюцыйных падзей у Еўропе, улады вырашылі за лепшае ўсё ж пазбавіцца ад неаселай шляхты ў заходніх губернях. У цыркуляры міністра дзяржаўных маёмасцей П. Кісялёва ад 24 снежня 1848 г. загадвалася ўсіх аднадворцаў, якія будуць «выяўлены ў дармаедстве», адміністрацыйным шляхам высяляць у Кацярынаслаўскую губерню[2].

Ідэя высялення і элімінацыі з заходніх губерняў шляхты, замешанай у паўстанні, развівалася таксама ў шэрагу іншых законаў у 1830-я гг. Выдадзены ў кастрычніку 1834 г. указ забараняў усім удзельнікам паўстання, якія выехалі ў эміграцыю, вяртацца на радзіму, нават дзеля таго каб праз суд даказаць сваю невінаватасць. З тымі, хто ўсё ж адважыўся вярнуцца, было загадана паступаць так, як са злачынцамі, віна якіх ужо была даказана[3]. У 1835 г. спецыяльным указам такія вымушаныя эмігранты абвяшчаліся выгнанцамі і для іх было забаронена вяртанне на радзіму[4].

У 1830–40-я гг. арышты і дэпартацыі закранулі таксама шляхціцаў, якія дазволілі сабе бунтаўнічыя выказванні, а таксама тых, хто належаў да тайных арганізацый. Па справе Ш. Канарскага з заходніх губерняў імперыі было выслана 14 чалавек. Пасля выкрыцця ў 1838 г. у Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі тайнай студэнцкай арганізацыі 4 студэнты былі высланы, 12 аддадзены ў войска з пазбаўленнем усіх правоў[5]. І гэта толькі асобныя эпізоды палітычных рэпрэсій і высылкі.

Прыхаваны кантэкст перасяленчай палітыкі змяшчаецца таксама ў шэрагу іншых указаў 1830–50-х гг. Напрыклад, нягледзячы на ўстаноў-

---

[1] Дело по отношению Департамента государственных имуществ о переселении ... Арк. 13–21.

[2] *Неупокоев В. И.* Преобразование беспоместной шляхты ... С. 17.

[3] О воспрещении возвращения в Россию уроженцам возвращенных от Польши губерний, принимавшим участие в мятеже. 4 окт. 1834 г. № 7429 // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 2.

[4] *Митина Н. П.* Социальный состав участников польского восстания 1830–1831 гг. С. 169–197.

[5] *Луговцова С. Л.* Политика российского самодержавия ... С. 49–50.

лены для аднадворцаў і грамадзян зменшаны тэрмін рэкруцкай службы (15 гадоў замест 25), рэкруцкія наборы сярод гэтай катэгорыі насельніцтва праводзіліся часцей, чым з катэгорыі дзяржаўных сялян, часам па некалькі разоў на год. Рэальнае змяншэнне ў выніку рэкруцкіх набораў колькасці насельніцтва аднадворчаскіх ваколіц было большым, чым у сялянскіх вёсках.

З-за рэкруцкіх набораў і адлучак аднадворцаў узнікла таксама і немагчымасць сплочвання аднадворцамі падаткаў[1]. У 1851 г. па Гродзенскай губерні за аднадворцамі і грамадзянамі лічылася па 2 руб. 87 кап. нядоімак на душу, у той час як за казённымі сялянамі толькі па 28 кап.[2]

З канца 1840-х гг. найбольш небяспечнымі і шкоднымі ў заходніх губернях бачыліся ўраду неаселыя шляхціцы, таму ўказам 4 ліпеня 1850 г. загадвалася падчас рэкруцкага набору з аднадворцаў і грамадзян браць у войска ў першую чаргу неаселых, якія не мелі сталага занятку[3]. Віцебскі губернатар Ніктапаліён Кліменцьеў, якога прасіў выказаць на гэты конт сваю думку міністр дзяржаўных маёмасцей П. Кісялёў, пагаджаўся з гэтым і тлумачыў, што цяжкасці выканання рэкруцкай павіннасці аднадворцамі выкліканы тым, што «...тыя, хто не мае аседласці, пражываюць у розных аддаленых мясцовасцях нават без пісьмовых відаў, з'яўляюцца толькі цяжарам для таварыстваў, да якіх прыпісаны...». Справядлівым адпраўляць першымі падчас набораў у войска неаселых аднадворцаў ён лічыў таксама таму, што «грамадзяне і аднадворцы Віцебскай губерні, не маючы аселасці, не імкнуцца скарыстацца палажэннем 25 сакавіка 1832 г. аб перасяленні аднадворцаў у Кацярынаслаўскую губерню і Каўказскую вобласць і тым самым як бы даказваюць, што валацужнае жыццё ім падыходзіць больш»[4].

Шэраг указаў імператара падштурхоўвалі або змушалі да пераезду з Беларусі дзяцей і моладзь сярэднезаможнай і дробнай шляхты, у першую чаргу тых, чые бацькі былі замешаны ў паўстанцкай дзейнасці. Дзяцей удзельнікаў паўстання 1830–1831 гг. загадвалася забіраць у кантаністы або ў кадэцкія карпусы, прычым памяшчаць іх у тыя кар-

---

[1] *Неупокоев В. И.* Преобразование беспоместной шляхты ... С. 78.

[2] Статистические сведения к отчету о состоянии губернии за 1851 г. // НГАБ у г. Гродна. Ф. 1. Воп. 339. Арк. 4–9.

[3] О представлении граждан и однодворцев западных губерний в военную службу по мирским приговорам ... // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 1.

[4] Дело по отношению Департамента государственных имуществ о переселении ... Арк. 12–12адв.

пусы, якія былі размешчаны ва ўнутраных губернях імперыі[1]. У 1852 г. быў выдадзены закон, які абавязваў усіх маладых дваран, што паступалі на дзяржаўную службу (а былі гэта пераважна дзеці дробнай або збяднелай шляхты), пачынаць яе толькі ва ўнутраных губернях імперыі. Зразумела, што, укараняючыся на новым месцы, на радзіму вярталіся далёка не ўсе. Дзейнасць указа была спынена пасля смерці Мікалая I у 1856 г.[2]

Аналіз гістарычных крыніц пераканаўча сведчыць, што дзейнасць улад, накіраваная на прамое перасяленне дробнай шляхты ці садзейнічанне перасяленню гэтай сацыяльнай групы, была значным кірункам унутранай палітыкі імперыі, які пачаў распрацоўвацца ўжо ў часы царавання Кацярыны II, але рэальныя крокі па ажыццяўленні масавых перасяленняў сталі прадпрымацца толькі пачынаючы з 1830-х гг.

Вызначэнне колькасных паказчыкаў перасялення дробнай шляхты з літоўска-беларускіх і ўкраінскіх губерняў з-за адсутнасці надзейнага статыстычнага ўліку магчыма толькі ў прыблізных лічбах. Польскі гісторык Г. Масціцкі ў пачатку 20-х гг. XX ст. лічыў, што толькі за перыяд 1832–1849 гг. з літоўска-беларускіх губерняў было выселена каля 56 тыс. чалавек шляхты[3]. Аднак гэта лічба выглядае вельмі спрэчнай, завышанай, бо ў расійскіх рэвізіях не фіксуецца такога значнага змяншэння колькасці аднадворцаў і шляхты, а выкарыстаныя Г. Масціцкім старыя і не існуючыя зараз архіўныя сігнатуры, на жаль, немагчыма зверыць. У адпаведнасці ж з няпоўнымі падлікамі савецкага даследчыка В. Неўпакоева, з заходніх губерняў імперыі ў 1830–50-я гг. было выселена не больш 9 % аднадворцаў, або амаль 8 тыс. мужчынскіх душ, ці каля 16–18 тыс. чалавек[4]. Гэтыя даныя пэўным

[1] Дело о зачислении детей дворян, участвовавших в польском восстании кандидатами в кадетский корпус // НГАБ у г. Гродна. Ф. 1. Воп. 10. Спр. 408 ; Исторический обзор деятельности Комитета министров. Т. 2, ч. 1. С. 61 ; Об учреждении в западных губерниях учреждений для образования бедных детей благородного звания. 13 июля 1837 г. № 10452 // ПСЗ II. Т. 12. Отд-ние 1 ; О бунте, происшедшем в трех уездах Виленской губернии, и о суждении всех дворян и шляхты, принявших участие в сем бунте, военным судом по полевому уголовному уложению. 22 марта 1831 г. № 4444 // ПСЗ II. Т. 6. Отд-ние 1. 1832 ; О помещении детей дворян, замешанных в польском мятеже, в корпуса, внутри России находящиеся. 4 дек. 1834 г. № 7609 // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 2.

[2] Об отмене особого временного порядка, установленного в 1852 г., для определения в службу и увольнения от оной потомственных дворян семи западных губерний. 26 авг. 1856 г. № 30886 // ПСЗ II. Т. 31. Отд-ние 1.

[3] *Mościcki H.* Wysiedlenie szlachty na Litwie i Rusi przez rząd rosyjski.

[4] *Неупокоев В. И.* Преобразование беспоместной шляхты ... С. 18.

чынам верыфікуюцца іншымі статыстычнымі звесткамі. Так, у адной толькі Мінскай губерні па афіцыйнай інфармацыі з 1842 па 1853 г. колькасць мужчын-аднадворцаў скарацілася на 4805 душ[1]. Па падліках беларускага даследчыка Уладзіміра Сосны, да канца 1850-х гг. на казённых землях апынулася 12 980 пераселеных заходніх аднадворцаў мужчынскага полу[2], ці каля 30 тыс. чалавек. Гэтыя лічбы выглядаюць больш праўдападобнымі, але не даюць асобна інфармацыі па беларускіх і літоўскіх губернях. Немагчыма лічыць іх поўнымі таксама і таму, што яны не ахопліваюць сасланую, дэпартаваную, адпраўленую на службу адміністрацыйна ці добраахвотна перасеrange шляхту, якая не была ўключана ў саслоўную групу аднадворцаў.

Пад масавыя дэпартацыі, акрамя аднадворцаў, трапілі таксама і панцырныя баяры. Яны ў значнай колькасці пражывалі ў Віцебскай і Магілёўскай губернях, уздоўж былога памежжа Вялікага Княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы. Частка іх беспаспяхова спрабавала прыпісацца ў дваранскае саслоўе, а ў 1858 г. група панцырных баяр, каля 1000 чалавек, была выслана ў Табольскую губерню[3].

Нягледзячы на тое што палітыка ўлад па перасяленні і прымусовай дэпартацыі часткі дробнай шляхты ў канцы XVIII – 50-х гг. XIX ст. прабуксоўвала і не атрымалася рэалізаваць яе хутка і ў значных памерах, наступствы яе ў 1840–50-я гг. былі ўсё ж заўважальнымі. Уладам удалося зменшыць колькасць дробнай шляхты заходніх губерняў праз перасяленні і дэпартацыі па меншай меры на 20–30 тыс. чалавек, што складала каля 7–10 % дробнай шляхты заходніх губерняў. Наступствам акцыі сталі аслабленне палітычнай ролі дробнай шляхты ў заходніх губернях імперыі і ўзмацненне пазіцыі ўрада. Новы этап палітыкі перасялення і дэпартацыі дробнай шляхты з заходніх губерняў імперыі быў звязаны ўжо з падаўленнем паўстання 1863 г.

Палітыка Расійскай імперыі ў 30–60-я гг. XIX ст. адносна дробнай шляхты была скіравана на тое, каб перавесці як мага большую яе частку ў катэгорыі аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў, павялічваючы такім чынам колькасць падаткаплацельшчыкаў і рэкрутаў для вой-

---

[1] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Минская губерния. Ч. 1. С. 609.

[2] *Сосна У.* Фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. Мінск, 2000. С. 98.

[3] *Громыко М.* Община в процессе переселения «панцирных бояр» Себежского уезда в Сибирь // Общественный быт и культура русского населения Сибири (XVIII – начало XX в.) / ред.: Ф. Ф. Болонев, Л. М. Русакова, Н. А. Миненко. Новосибирск, 1983. С. 19–31.

ска. Адначасова праводзіліся мерапрыемствы па ўзмоцненым наборы рэкрутаў з аднадворцаў, што павінна было служыць русіфікацыі і перасяленню гэтай групы насельніцтва, а таксама паспрыяць добраахвотнаму пераходу аднадворцаў у склад дзяржаўнага сялянства. Былі здзейснены таксама захады, скіраваныя на прыцягненне аднадворцаў да добраахвотнай вайсковай службы. Спосаб арганізацыі аднадворчых таварыстваў быў такі, каб паставіць іх дзейнасць пад поўны кантроль улад і паспрыяць зліццю аднадворцаў з сялянамі. Жаданне дабіцца поўнага зліцця катэгорый аднадворцаў і грамадзян з сялянствам было генеральным кірункам палітыкі. Фармальна гэта адбылося ў 1868 г. Да самага канца існавання Расійскай імперыі пытанне зямельнай уласнасці дробнай шляхты і аднадворцаў, якія валодалі зямлёй на аснове чыншавага права, так і заставалася канчаткова не вырашаным.

## ЭВАЛЮЦЫЯ САЦЫЯЛЬНА-ПРАВАВОГА СТАНОВІШЧА ДРОБНАЙ ШЛЯХТЫ, ЯКАЯ ПРАЦЯГВАЛА ПРАЦЭДУРУ ЛЕГІТЫМІЗАЦЫІ Ў 1830-я – ПАЧАТКУ 1860-х гг.

Разгледзім праблему прававога становішча і палітыкі царскіх улад адносна той дробнай шляхты, якой першапачаткова ўдалося пазбегнуць «дэкласацыі» і залічэння да катэгорый аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў. Колькасць такой дробнай шляхты была вельмі значнай – да 2/3 усёй шляхты беларускіх губерняў.

У 1832 г. уся шляхта заходніх губерняў была падзелена на тры разрады ў адпаведнасці з яе прававым і маёмасным становішчам[1]. Кожны з разрадаў меў свой прававы статус, і ў адносінах да кожнага праводзіліся розныя ўрадавыя мерапрыемствы.

Першы разрад, да якога былі залічаны памешчыкі без розніцы таго, былі яны зацверджаны дваранскімі сходамі ў дваранстве ці не, прызнаваўся вольным ад рэкруцтва, калі асобы, якія да яго належалі, у двухгадовы (да 1835 г.) тэрмін прад'явяць доказы свайго дваранства. Другі разрад, да якога адносілася дробная шляхта, што была зацверджана дваранскімі сходамі ў дваранстве, але не валодала населенымі маёнткамі, разам з нашчадкамі па прамой лініі мужчынскага калена, прызнаваўся вольным ад рэкруцтва да разгляду дакументаў Герольдыяй. Трэці ж разрад, да якога была прыпісана дробная шляхта,

---

[1] О разделении на три разряда людей, принадлежащих к сословию бывшей шляхты ...

што не валодала населенымі маёнткамі і нікім не была зацверджана, прызнаваўся падлягаючым рэкруцкай павіннасці ў поўным аб'ёме[1]. Трэцяя катэгорыя стала асноўным аб'ектам дэкласацыі, г. зн. той катэгорыяй, якую перапісвалі ў аднадворцы і грамадзяне. У статуце аб падатках ад 24 красавіка 1835 г. было адзначана, што першыя дзве катэгорыі не плацілі падаткаў, накладзеных на грамадзян і аднадворцаў[2]. Для праверкі дакументаў асоб, якія былі запісаны ў другую катэгорыю, па ўсіх заходніх губернях былі створаны спецыяльныя камісіі (справы па першай катэгорыі разглядаліся непасрэдна ў Герольдыі). Тэрмін дзеяння такіх камісій неаднаразова працягваўся, і яны праіснавалі да 1847 г.[3]

Указам ад 25 ліпеня 1833 г. на два гады быў працягнуты тэрмін прад'яўлення доказаў аб дваранскім паходжанні для асоб, якія паводле ўказа ад 11 лістапада 1832 г. належалі да першай катэгорыі. У выпадку непрад'яўлення доказаў указам прадугледжвалася «дэкласацыя» такіх асоб – яны павінны былі ўвайсці ў склад аднадворцаў або грамадзян. Аднак шэрагам іншых указаў гэтыя тэрміны былі прадоўжаны да 1844 г.[4] Беднай шляхце было дазволена прад'яўляць пераводы дакументаў не на гербавай, а на звычайнай паперы, што павінна было спрасціць працэдуру і зрабіць яе больш даступнай для маламаёмаснай шляхты[5]. Разам з тым адзначалася, што факт наяўнасці зямлі ў шляхціца не лічыўся дастатковым доказам без прад'яўлення іншых, якія сведчылі б пра яго паходжанне ад продкаў дваран[6]. Тым не менш менавіта валоданне дваранскай маёмасцю – маёнткам і прыгоннымі сялянамі, адпаведны дваранскі лад жыцця і прыналежнасць да памешчыкаў былі галоўным нефармальным прынцыпам для вызначэння дваранскай прыналежнасці, ад чаго залежала магчымасць пазбегнуць «дэкласацыі» і замацавацца на пэўны

[1] Уставы о повинностях. С. 963. Прил. 3. Стб. 1.

[2] Устав о податях // Продолжение свода законов Российской империи. 1832, 1833, 1834, 1835 годы. Ч. 1. С. 1068. Стб. 450.

[3] *Туміловіч Г. М.* Палітыка царызму ў адносінах да дробнай шляхты Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. // Нацыянальная палітыка расійскага самадзяржаўя на Беларусі ў канцы XVIII – пачатку XIX стагоддзяў. С. 125.

[4] О назначении срока, в который лица, в первом разряде указа 11 ноября 1832 г. поименованные, должны представить доказательства свои на дворянство. 25 июля 1833 г. № 6351 // ПСЗ II. Т. 8. Отд-ние 1.

[5] О дозволении некоторым лицам западных губерний, доказывающим дворянство, представлять переводы своих документов вместо гербовой на простой бумаге. 24 мая 1835 г. № 8159 // ПСЗ II. Т. 10. Отд-ние 1. 1836.

[6] *Туміловіч Г. М.* Палітыка царызму ў адносінах да дробнай шляхты Беларусі ... С. 125.

час у складзе легітымізуючайся шляхты. Захавалася такая магчымасць таксама для асоб, якія да ўказа 19 кастрычніка 1831 г. былі зацверджаны ў дваранстве дваранскімі дэпутацкімі сходамі, і для тых, хто падаў дакументы аб дваранскім паходжанні на разгляд да 1844 г., хоць і быў першапачаткова ўключаны ў склад аднадворцаў ці грамадзян.

Усе наступныя законы асобна рэгламентуюць падыход да кожнай з вызначаных у 1832 г. катэгорый, што абумоўлівалася мэтамі самадзяржаўя на гэтым этапе разбору шляхты: а) ускладніць працэс далучэння да ліку асоб, якія даказалі дваранства, шляхце, якая не мела памешчыцкіх уладанняў; б) значна абмежаваць правы аднадворцаў і грамадзян у параўнанні з прадстаўнікамі вышэйшага саслоўя і паступова наблізіць іх да стану ападаткаваных саслоўяў.

У дачыненні да шляхты, зацверджанай толькі дваранскімі дэпутацкімі сходамі, якая згодна з царскім указам часова была пакінута ў складзе дваранства і працягвала працэдуру легітымізацыі, урадам правяралася правільнасць рашэнняў дваранскіх сходаў. Такой шляхты было вельмі многа. Узнікла таксама пытанне, што рабіць з чыноўнікамі, не зацверджанымі Герольдыяй. Указ ад 3 снежня 1831 г. дазваляў прымаць іх на службу толькі на аснове пасведчанняў, выдадзеных дваранскімі дэпутацкімі сходамі, пры адначасовай праверцы адсутнасці іх у спісах асоб, што знаходзяцца ў падушным акладзе. Мясцовыя ўлады павінны былі адразу падаваць дакументы такіх чыноўнікаў у Герольдыю, дзе іх справы павінны былі разглядацца пазачаргова на працягу паўгадавога тэрміну. Чыноўнікі, чые дакументы Герольдыя не прызнала б, павінны былі залічвацца да канцылярскіх служачых трэцяга разраду, а выслужыць афіцэрскі чын яны маглі толькі праз шэсць гадоў[1]. Падобныя правілы тычыліся і вайсковай службы – шляхта, зацверджаная ў дваранстве толькі дваранскімі сходамі, мела права паступаць на вайсковую службу на правах «вольнавызначаючыхся», але прывілеі дваран на вайсковай службе ім надаваліся толькі пасля канчатковага зацвярджэння іх дваранства Герольдыяй[2]. Улады не маглі пайсці на тое, каб адняць права службы ў не зацверджанай Герольдыяй шляхты, бо адразу пазбавіліся б большасці чыноўнікаў, аснову якіх складалі якраз выхадцы з дробнашляхецкага асяроддзя.

---

[1] О разрешении принимать в гражданскую службу жителей западных губерний, не доказавших еще окончательно прав своих на дворянство. 3 дек. 1831 г. № 4982 // ПСЗ II. Т. 6. Отд-ние 2.

[2] О принятии в военную службу на правах вольноопределяющихся шляхтичей, не доказавших окончательно своего дворянства, и о порядке присвоения им прав дворян, с службою сею соединенных. 12 авг. 1832 г. № 5560 // ПСЗ II. Т. 7.

Каб разгрузіць Герольдыю ад наплыву спраў і паскорыць разгляд дакументаў легітымізуючайся шляхты, у 1838 г. на месцах былі створаны рэвізійныя камісіі, якія пры наяўнасці сумневаў патрабавалі ад шляхціцаў дадатковыя доказы ў вызначаны ўказам тэрмін, а таксама выяўлялі фальшыўкі, якіх было мноства. Улады працягвалі адчуваць цяжкасці ў фарміраванні чыноўніцкага апарату – зацверджанай Герольдыяй на 1840 г. была толькі нязначная частка шляхты. Ствараючы рэвізійныя камісіі, улады жадалі, каб шляхціцы-чыноўнікі прайшлі хаця б праз іх «сіта». У 1840 г. для ліквідацыі недахопу прэтэндэнтаў на чыноўніцкія пасады было дазволена прымаць на дзяржаўную і вайсковую службу шляхту першага і другога разрадаў таксама на аснове пасведчанняў, выдадзеных рэвізійнымі камісіямі. Такім чынам, фактычна і фармальна за легітымізуючайся шляхтай былі прызнаны некаторыя дваранскія прывілеі[1].

Для складання спісаў асоб, якія мелі права на такую службу, дваранскім сходам і казённым палатам заходніх губерняў было загадана дастаўляць як у Цэнтральную рэвізійную камісію ў Кіеве, так і ў мясцовыя рэвізійныя камісіі імянныя спісы ўсіх дваран з пазначэннем даты, калі было прынята рашэнне дэпутацкага сходу па кожнай асобе. Камісіі павінны былі выдаваць пасведчанні для ахвотных паступаць на дзяржаўную службу, кіруючыся гэтымі данымі[2]. Закон увайшоў і ў Звод статутаў аб грамадзянскай службе 1842 г., дзе ў пункце 19 адзначалася: «Жителям западных губерний, доказывающим права свои на дворянство, разрешается по желанию их определение в службу по гражданской части, не ожидая окончания производящихся о их происхождении дел, на нижеследующих основаниях: 1. Сии лица должны иметь свидетельства не в виде еще признания их дворянами, а как удостоверение, относительно причисленных по указу 11 октября 1832 г. (5746) к первому разряду бывшей Польской шляхты, что они, или отцы, или родные деды их при издании указа 19 октября 1831 г. (4869) владели населенными имениями; относительно же лиц второго разряда, что доказательства на дворянское их происхождение, признанные Дворянскими Депутатскими Собраниями, находятся в рассмотрении Ревизионных

[1] О разрешении жителям западных губерний поступать в государственную службу по свидетельствам ревизионных комиссий. 4 янв. 1840 г. № 13047 // ПСЗ II. Т. 15. Отд-ние 1.

[2] О мерах к успешному и скорейшему окончанию разбора дел о дворянстве жителей западных губерний. 4 янв. 1840 г. № 13048 // ПСЗ II. Т. 15. Отд-ние 1 ; Т. 8. Отд-ние 1. Пункт 7.

комиссий, или отосланы уже на утверждение Герольдии. 2. Выдача таковых свидетельств для принятия в службу по гражданской части, возлагается в губерниях: Киевской, Подольской и Волынской, на учрежденную в Киеве Центральную комиссию для обревизования действий Депутатских собраний сих губерний, а в прочих западных губерниях на местные комиссии для ревизии дел тамошних Дворянских собраний. 3. Принимаемые по сим свидетельствам в службу гражданскую, продолжают оную как до утверждения их в дворянстве, так и в случае окончательного отказа им в оном: принадлежащие к первому разряду на правах личных дворян, а принадлежащие ко 2-му разряду, на праве канцелярских служителей третьего разряда (см. ст. 44). По утверждении же в дворянстве, тем и другим присваиваются как вообще, так и на службе, все права и преимущества, сему состоянию дарованные, не исключая и возвращения следующаго им в таком случае по гражданской части старшинства»[1].

Па пасведчаннях аб прыналежнасці да легітымізуючайся шляхты, выдадзеных рэвізійнымі камісіямі, моладзь атрымлівала таксама магчымасць навучання ў дваранскіх вучылішчах. Аднак для такой моладзі былі зачынены дзверы кадэцкіх карпусоў, адміністрацыя якіх патрабавала прад'яўлення дыпломаў Герольдыі, а пры ўзнікненні сумневаў у дваранстве ініцыявала разбіральніцтвы[2]. Пасля заканчэння дзейнасці рэвізійных камісій у 1847 г. права выдаваць пасведчанні для паступлення на дзяржаўную службу і навучанне было перададзена дваранскім дэпутацкім сходам[3].

Новымі ўказамі тэрмін падачы дадатковых дакументаў і доказаў для шляхты, якая была часова пакінута ў складзе дваранства, пастаянна працягвалі аж да 1844 г.[4] У ліпені 1845 г. было абвешчана, што тэрмін скончыўся, у сувязі з чым загадвалася: асобам, якія не валодаюць зямлёй і не былі канчаткова зацверджаны ў дваранстве, неадкладна запісацца

[1] Уставы о службе гражданской // Свод законов Российской империи. Издание 1842 года : в 15 т. СПб., 1842. Т. 1. С. 6–7. Пункт 19.

[2] Дело об установлении дворянского происхождения поступившего в кадетский корпус Лозовицкого. 1854–55 гг. // НГАБ у г. Гродна. Ф. 1. Воп. 5. Спр. 1604 ; Дело об установлении дворянского происхождения поступившего в кадетский корпус Кательникова. 1854–55 гг. // НГАБ у г. Гродна. Ф. 1. Воп. 5. Спр. 1603.

[3] О предоставлении дворянским депутатским собраниям выдавать лицам тех губерний, поступающим на службу, копии с определений о дворянстве родов их. 28 сент. 1847 г. № 21553 // ПСЗ II. Т. 22. Отд-ние 1.

[4] Дело о продлении срока представления документов о дворянском происхождении лицам, принадлежавшим к бывшей шляхте и владевшим имениями с крестьянами и дворовыми людьми // НГАБ. Ф. 295. Спр. 535, 608, 536, 537.

ў аднадворцы або грамадзяне. Тыя, хто валодаў нерухомымі маёнткамі, павінны былі быць унесены ў спецыяльныя спісы, а потым іх лёс вырашаўся Сенатам паводле даных, атрыманых ад дваранскіх сходаў, і меркаванняў генерал-губернатараў. Толькі асобам, якія не валодалі маёнткамі, давалася права на падачу дадатковых дакументаў, калі пра незацвярджэнне ў дваранстве ім было абвешчана пасля 1 студзеня 1844 г. Ім пакідаўся трохгадовы тэрмін на тое, каб прад'явіць дадатковыя доказы. Тэрмін адлічваўся ад моманту абвяшчэння ім першапачатковага рашэння. Усе астатнія фактычна страчвалі права на доказ дваранства іншым спосабам, акрамя вайсковай службы, па аналогіі з тым, як гэта дазвалялася аднадворцам унутраных расійскіх губерняў[1].

Справы асоб, якія да 1 студзеня 1844 г. не падалі патрабаваныя ад іх дваранскімі сходамі ці Герольдыяй дадатковыя доказы, павінны былі быць завершаны ў судах другой інстанцыі: «...пастанаўляць канчаткова ў судах другой інстанцыі як аб разначынцах, але цялесныя пакаранні прысуджаць ім за тыя толькі злачынствы, якія здзейснены пасля запісу ў адзін з падатных станаў». Тым жа ўказам вызначалася працэдура прыняцця рашэнняў аб дэкласацыі шляхціцаў, якія ніколі не падавалі дакументы на разгляд[2].

У сакавіку 1847 г. быў вызначаны тэрмін да 1 чэрвеня 1848 г. для падачы пасямейных спісаў для запісу ў аднадворцы або грамадзяне асоб, якія паводле дзеючых правіл павінны былі да іх прыпісацца. Для тых, хто меў права на працягу трох гадоў падаць дадатковыя доказы згодна з указам 1845 г. і іх падаў, але зноў атрымаў адмоўнае рашэнне, адводзіўся шасцімесячны тэрмін для запісу ў аклад ад моманту апошняй адмовы ў зацвярджэнні ў дваранстве. Асобы, якія не падалі ў вызначаны тэрмін пасямейныя спісы для запісу ў аднадворцы і грамадзяне, павінны былі аўтаматычна лічыцца дзяржаўнымі сялянамі і адпаведна перадавацца ў веданне Міністэрства дзяржаўных маёмасцей[3]. Адсутнасць крыніц не дазваляе вызначыць колькасць пераведзеных у аднадворцы і грамадзяне шляхціцаў паводле ўказаў 1845 і 1847 гг. Гэтыя ўказы ставілі бар'ер для працягу змагання за свае дваранскія правы той шляхце, дакументы якой былі разгледжаны дваранскімі сходамі, рэвізійнымі камісіямі, Герольдыяй і былі прызнаны недастатковымі. Змагацца працягвалі шляхціцы, чые дакументы так і не былі па роз-

---

[1] О лицах бывшей польской шляхты, не представивших в определенный срок...

[2] Там жа.

[3] О внесении в оклад лиц бывшей польской шляхты. 17 марта 1847 г. № 21012 // ПСЗ II. Т. 22. Отд-ние 1.

ных прычынах канчаткова разгледжаны Дэпартаментам герольдыі Сената. Такіх да пачатку 1860-х гг. усё яшчэ была большасць. Па меры разгляду спраў аб дваранстве ўлады з сярэдзіны 1850-х гг. пачалі збіраць інфармацыю пра тое, колькі памешчыкаў усё яшчэ не пацвердзілі сваё дваранства[1]. На гвалтоўнае пазбаўленне правоў часткі гэтай катэгорыі насельніцтва, якая лічылася апорай самадзяржаўнага ладу ў імперыі, улады ісці не планавалі, таму да моманту, пакуль амаль усе памешчыкі не пацвердзілі сваё дваранства ў Герольдыі, можна было не чакаць ліквідацыі катэгорыі легітымізуючайся шляхты.

У снежні 1853 г. была ўведзена адзіная працэдура інфармавання зацікаўленых асоб пра адмову ў зацвярджэнні іх у дваранстве Герольдыяй. Пра гэта паведамлялася праз мясцовую паліцыю. Факт паінфармавання чалавека пацвярджаўся яго подпісам. Пра адмову ў зацвярджэнні асоб з невядомым месцам жыхарства паведамлялася праз санкт-пецярбургскія, маскоўскія і губернскія ведамасці. Потым з моманту апошняй публікацыі адлічваўся трохгадовы тэрмін для прад'яўлення магчымых дадатковых дакументаў. Выдаткі на публікацыю паведамленняў залогавым коштам у 3 руб. спаганяліся з саміх жа шляхціцаў пры падачы дакументаў[2].

Асобна варта адзначыць, што некаторыя шляхціцы, не зацверджаныя Герольдыяй, змаглі купіць нерухомыя маёнткі нелегальна, ужо пасля выдання ўказа ад 19 кастрычніка 1831 г. Пра гэта адзначалася ва ўказе ад 5 лютага 1834 г. Законам адводзіўся трохгадовы тэрмін для продажу гэтых маёнткаў, якія ўжо адразу павінны былі паступіць у апякунскае кіраванне, а іх уладальнікі адносіліся да другой катэгорыі былой шляхты[3]. У 1850 г. быў прыняты закон аб парадку прыняцця ў казённае ведамства населеных маёнткаў і дваровых людзей ад асоб, не зацверджаных у дваранстве[4]. Нягледзячы на ўсю строгасць закона, напрыканцы

[1] Дело о предоставлении сведений в минское дворянское депутатское собрание о владельцах имений уезда, не подтвердивших свое дворянское происхождение. 1855 г. // НГАБ. Ф. 1042. Воп. 1. Спр. 19.

[2] О порядке объявления решений департамента Герольдии Правительствующего Сената уроженцам западных губерний, отыскивающих дворянское достоинство. 14 дек. 1853 г. № 27767 // ПСЗ II. Т. 28. Отд-ние 1.

[3] О разряде, в который следует причислять дворян, приобретших имение после состояния указа 19 октября 1831 г. 5 февр. 1834 г. № 6779 // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 1.

[4] О порядке принятия в казенное ведомство населенных имений и дворовых людей от лиц, не утвержденных в дворянском достоинстве. 5 июня 1850 г. № 24209 // ПСЗ II. Т. 25. Отд-ние 1.

1850-х гг. яшчэ многім памешчыкам так і не ўдалося зацвердзіцца ў дваранстве, аднак яны працягвалі валодаць маёнткамі[1].

**Разбор дакументаў шляхты і змены ў працэдуры легітымізацыі ў 1830 – пачатку 1860-х гг.** Ад моманту ўключэння беларускіх земляў у склад імперыі ўлады сутыкнуліся з нявызначанасцю таго, якім чынам прымяняць саслоўнае заканадаўства на далучаных землях. Першапачаткова дваранства было прызнана за ўсёй шляхтай, аднак з канца XVIII ст. улады пачалі патрабаваць дакументальнага пацвярджэння прыналежнасці да дваранства. З гэтага часу і да канца XIX ст. працэдура і патрабаванні да доказу дваранства шляхтай істотна змяніліся – эвалюцыянавалі ад даволі ліберальных напрыканцы XVIII ст. у бок ускладнення працэдуры легітымізацыі і вызначэння крытэрыяў дваранскай прыналежнасці ў другой палове XIX ст.

З 1795 г. па 30-я гг. XIX ст. асноўнай крыніцай для складання радаводных кніг, якія захоўваліся ў дваранскіх сходах, былі спісы дваран. Яны складаліся павятовымі маршалкамі. У іх заносіліся звесткі аб сямейным, маёмасным стане, месцазнаходжанні і службе дваран. Звесткі аб маёмасным стане запісваліся паводле рэвізскіх сказак, якія атрымліваліся ад памешчыкаў ніжнімі земскімі судамі, а звесткі аб сямейным і службовым становішчы – па выніках апытання нарочнымі ніжніх земскіх судоў[2]. Радаводныя кнігі былі асноўным дакументам, які сведчыў пра прыналежнасць да дваранства.

Радаводныя кнігі падзяляліся на шэсць раздзелаў. Запіс у адпаведны раздзел вызначаўся тыпам прад'яўленых дакументаў. Так, для запісу ў першую частку кнігі неабходна было мець дыпломы аб дваранстве або копіі гербаў. У якасці доказу дваранства і залічэння ў другую і трэцюю часткі радаводнай кнігі неабходна было прад'явіць службовы спіс, патэнты на чыны, рэскрыпты на ордэны і ўказы аб адстаўцы. Для запісу ў шостую частку дваранскай радаводнай кнігі неабходна было даказаць стогадовую прыналежнасць роду да дваранства, што магло быць даказана сведчаннем 12 дваран. Такім чынам, прыналежнасць да дваранства для асоб, якія мелі зямельную ўласнасць напрыканцы XVIII ст., пацвярджалася ў асноўным дакументамі не афіцыйнага, а прыватнага паходжання. Адносна асоб, якія не валодалі зямельнай уласнасцю, а таксама

[1] Дело о предоставлении сведений о дворянах – владельцах имений с крестьянами, не доказавших дворянства в северо-западных губерниях. 1858 г. // LVIA. Ф. 391. Воп. 7. Спр. 3798.

[2] Дворянская империя XVIII века: основные законодательные акты : сб. док. / сост. М. Т. Белявский. М., 1960. С. 282.

для вызначэння старадаўнасці роду або пацвярджэння яго іншаземнага паходжання патрабаваліся афіцыйныя дакументы ўрадавых устаноў або вярхоўнай улады – манарха. Указам ад 25 жніўня 1800 г. была зацверджана новая форма радаводнай кнігі: у яе былі ўключаны апісанне герба, рашэнне Герольдыі, радаводная табліца, змест прад'яўленых для доказу дакументаў, службовыя звесткі. Адпаведна павялічылася і колькасць службовай дакументацыі: атэстаты аб службе, патэнты на чыны, указы аб адстаўцы, узнагароджанні і г. д.[1] Адным з магчымых доказаў магло быць таксама пісьмовае сведчанне 12 шляхціцаў, але такія доказы не лічыліся дастатковымі.

Пратаколы дваранскіх дэпутацкіх сходаў і камісій, якія прымалі рашэнні аб дваранскай прыналежнасці, з'яўляюцца адной з самых важных крыніц па генеалогіі і гісторыі легітымізацыі беларускай шляхты. У іх адлюстраваны звесткі пра паходжанне шляхціца, падмацаваныя арыгінальнымі дакументамі або выпісамі. Да 1785 г. земскія суды, а пасля дваранскія камісіі ў дваранскіх сходах разглядалі гэтыя дакументы і або зацвярджалі ў дваранстве прасіцеля, або не. Умовы прызнання першапачаткова былі даволі лёгкімі – прызнаць дваранства маглі нават па сведчаннях ураднікаў або, як ужо было адзначана, пісьмовым сведчанні 12 шляхціцаў павета. У 1818 г. імператарскім указам шляхта, якая даказала дваранства такім чынам, павінна была быць выкрэслена з генеалагічных кніг і прад'явіць іншыя доказы. Аднак справа з падачай гэтых доказаў зацягвалася.

У чэрвені 1826 г. свой першы ўказ, які тычыўся разбору шляхты, падпісаў Мікалай I, прадэманстраваўшы рашучасць у вырашэнні пытання «польскай шляхты» ў заходніх губернях. Указ тычыўся выяўлення асоб, якія па розных рэвізіях прыпісваліся то да падаткаабкладанага насельніцтва, то да шляхты, а таксама асоб, якія раней пазбягалі прыпіскі[2].

У лютым 1828 г. было адноўлена патрабаванне Паўла I аб абавязковым зацвярджэнні Герольдыяй рашэнняў дваранскіх дэпутацкіх сходаў аб прызнанні дваранства, за выключэннем асоб, якія набылі дваранства праз службу. Для паступлення на дзяржаўную службу цяпер недастаткова было наяўнасці толькі пасведчання ад губернскага маршалка (старшыні дваранства). Новы ўказ патрабаваў прад'яўлення копіі з пратаколаў дэпутацкіх сходаў. Для двараніна, род якога быў зацвер-

[1] *Луговцова С. Л.* Политика российского самодержавия ... С. 61–62.

[2] О времени, с которого должны быть вводимы в оклад люди ...

джаны дваранскім дэпутацкім сходам да яго нараджэння, патрабавалася правесці новае рашэнне з адпаведнай рэгістрацыяй у пратаколах. Копія рашэння высылалася ў Герольдыю разам з копіямі доказаў, радаводам, «увальніцельным відам» або «паслужным спісам» бацькі, калі ён быў на службе, метрыкай хрышчэння. Усе дакументы павінны былі быць перакладзены на рускую мову і засведчаны перакладчыкамі прысутнага месца[1]. Указ выклікае цікавасць яшчэ і тым, што ў ім звяртаецца ўвага на заўважаныя «ўжо многія злоўжыванні ў дэпутацкіх сходах у далучаных ад Польшчы губернях».

Улады пастанавілі ўсур'ёз заняцца разборам шляхты і навядзеннем парадку ў працэдуры зацвярджэння ў дваранстве, якая знаходзілася ў кампетэнцыі дваранскіх дэпутацкіх сходаў. У лютым 1828 г. быў выдадзены ўказ аб стварэнні спецыяльнага сенацкага камітэта для складання правіл аб правядзенні рэвізіі дзеянняў дваранскіх сходаў і вызначэння сапраўдных дваранскіх родаў[2]. Гэты ўказ яшчэ да складання асноўных правіл вызваляў з-пад рэвізіі толькі роды, унесеныя ў гербоўнік і зацверджаныя Герольдыяй, а таксама асоб, якія даслужыліся да обер-афіцэрскага чыну на вайсковай службе ці да штаб-афіцэрскага на цывільнай.

У 1830 г. было фактычна прадублявана патрабаванне 1828 г. аб прад'яўленні ў Герольдыю выпісаў з дваранскіх спісаў за подпісам дваранскага старшыні і пасведчанняў аб хрышчэнні адносна асоб, якія паступалі на службу[3]. Шляхта не спяшалася падаваць свае дакументы ў Герольдыю. М. Мураўёў, які ў 1832 г. быў гродзенскім губернатарам, пісаў у запісцы, пададзенай у Заходні камітэт, наступнае:«...у губерні гэты клас, які завецца дваранствам, пра які нават дваранскі сход не мае вартых даверу дакладных звестак, складае прыкладна каля 1600 сямействаў, акрамя тых, хто невядомы ніякаму начальству; з іх ліку карэнных дваранскіх радоў, якія маюць доказы, зацверджаных Герольдыяй налічваецца па ўсёй губерні толькі восем, акрамя тых, хто прызнаны зацверджаным падчас прызначэння на службу і пра якіх дакладных звестак таксама няма»[4].

Паводле ўказа ад 25 верасня 1834 г. асобы, якія адносіліся да другога разраду, г. зн. былі зацверджаны дваранскімі дэпутацкімі сходамі,

---

[1] О дворянских свидетельствах и документах, представляемых от недорослей ...

[2] О учреждении при Сенате комитета, для начертания правил ...

[3] О порядке удостоверения в происхождении дворянских фамилий ...

[4] Запіска і прапановы Гродзенскага губернатара М. М. Мураўёва // Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. С. 353.

але не зацверджаны Герольдыяй, вызваляліся ад абавязку запісу ў аднадворцы да моманту разгляду іх спраў у Герольдыі[1]. Падаваць справы на разгляд у Герольдыю шляхта магла праз губернскіх старшыняў дваранства і самастойна[2].

Як сярод дробнай шляхты, так і сярод памешчыкаў былі асобы, якія ніколі не былі зацверджаны нават дваранскімі сходамі. Указ ад 11 лістапада 1832 г. абавязваў шляхту, якая валодала населенымі маёнткамі, сялянамі і дваровымі людзьмі, але ніякай установай ніколі не была зацверджана, прад'явіць дакументы для доказу паходжання[3]. Гэтым жа ўказам дваранскім сходам забаранялася выдаваць новыя пасведчанні аб дваранстве без зацвярджэння іх Герольдыяй. 25 ліпеня 1833 г. тэрмін падачы дакументаў аб дваранскім паходжанні для такіх асоб быў працягнуты на два гады[4]. У 1835 г. мінскі губернскі дваранскі старшыня і выконваючы абавязкі віленскага звярнуліся з хадайніцтвам аб чарговым працягу тэрміну падачы дакументаў для такіх памешчыкаў, але імператар адмовіў. Праўда, з-за ўзніклых непаразуменняў у рэалізацыі папярэдніх законаў у гэтым указе адзначалася, што асобы, зацверджаныя дваранскімі сходамі, але якія не валодаюць нерухомымі населенымі маёнткамі, пакідаюцца ў складзе дваранства да рашэння Герольдыі[5]. Такім чынам, пад дэкласацыю паводле законаў 1831–1835 гг. патрапіла толькі дробная шляхта, якая не была зацверджана дваранскімі сходамі.

У Герольдыі ўзнікла вялізная чарга на разгляд спраў, што прывяло да павелічэння яе штату[6]. Улады былі зацікаўлены ў як мага хутчэйшым правядзенні разгляду дакументаў найбяднейшай ваколічнай і чыншавай шляхты. 19 чэрвеня 1834 г. у Герольдыі быў спецыяльна створаны часовы аддзел («временный стол») у складзе 16 чалавек, які

---

[1] О введении в оклад лиц бывшей шляхты. 25 сент. 1834 г. № 7404 // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 2.

[2] О представлении в Герольдию на окончательное рассмотрение определений депутатских собраний о признании шляхтичей в дворянстве. 21 янв. 1832 г. № 5092 // ПСЗ II. Т. 7.

[3] О разделении на три разряда людей, принадлежащих к сословию бывшей шляхты.

[4] О назначении срока, в который лица, в первом разряде указа 11 ноября 1832 г. поименованные ...

[5] О дозволении некоторым лицам западных губерний, доказывающим дворянство ...

[6] О новом штате для Герольдии. 18 мая 1832 г. № 5376 // ПСЗ II. Т. 7.

на працягу двух гадоў павінен быў праводзіць разгляд спраў менавіта дробнай шляхты[1].

Гэта мала паспрыяла памяншэнню чаргі з дакументаў, адасланых у Герольдыю дваранскімі сходамі і шляхтай на канчатковы разгляд. Яе праца была фактычна паралізавана. Дакументы маглі шматразова адсылацца назад прасіцелям для дапаўнення. Напрыклад, сям'я Залескіх Віцебскай губерні падала першы раз дакументы ў Герольдыю ў 1836 г., адтуль ад іх запатрабавалі дадатковыя доказы, якія і былі прадастаўлены ў 1838 г. Але і гэтага аказалася мала, у 1839 г. дакументы былі зноў адпраўлены Залескім з патрабаваннем прад'явіць яшчэ даведку пра тое, у якім стане знаходзяцца прагледжаныя былой рэвізійнай камісіяй актавыя кнігі, з якіх былі зроблены выпісы для Залескіх[2].

Цвёрды паўгадовы тэрмін на разгляд дакументаў Герольдыяй быў вызначаны толькі для чыноўнікаў, якія паступалі на службу ў заходніх губернях на аснове адных толькі пасведчанняў, выдадзеных дваранскімі дэпутацкімі сходамі[3]. Разгляд дакументаў іншых асоб мог расцягнуцца на дзесяцігоддзе і нават болей. Так, Ф. Ліпскі з ваколіцы Альпень Мазырскага павета ў 1844 г. напісаў цару скаргу, што ў 1835 г. паслаў у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход дакументы на разгляд і дагэтуль не атрымаў адказу[4].

Пашыралася кола дакументаў, якія з 1830-х гг. патрабавалася прад'яўляць для доказу дваранства, што таксама ўскладняла працу Герольдыі. Гэта маглі быць дакументы на валоданне маёнткамі, прыгоннымі, доказы таго, што прасіцель у часы ВКЛ валодаў правам удзельнічаць у дваранскіх выбарах ці сейміках, адпаведным чынам завераныя і пацверджаныя выпісы. Доказам дваранства магло служыць пасведчанне пра тое, што ўладальнік маёнтка атрымаў яго ў вотчыну паводле спадчыннага права, а не за службу ад памешчыка. Прымаліся і каралеўскія прывілеі аб падараванні маёнтка або шляхецтва.

Пераклады на рускую мову і выпісы неабходна было выконваць на гербавай паперы, кошт якой быў вельмі адчувальны для

---

[1] О учреждении при Герольдии временного стола для решения дел о дворянском происхождении шляхты в западных губерниях. 19 июня 1834 г. № 7198 // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 1.

[2] Дело по прошениям дворян о выдаче свидетельств на поступление в государственную службу // НГАБ. Ф. 2512. Воп. 1. Спр. 282. Арк. 43адв.

[3] О разрешении принимать в гражданскую службу жителей западных губерний ...

[4] *Ліпскі У. С.* Я: праўдзівы аповяд пра твой і мой радавод : аповесць. Мінск, 1998. С. 24.

беднай шляхты. Пасля хадайніцтва ў Сенат выконваючага абавязкі старшыні Віленскага дваранскага дэпутацкага сходу беднай шляхце было дазволена падаваць пераклады на звычайнай паперы, абавязкова далучыўшы да іх пасведчанне ад мясцовага начальства аб беднасці[1]. У канцы 30-х – пачатку 40-х гг. XIX ст. была праведзена рэвізія дзейнасці дэпутацкіх сходаў. Адным з яе вынікаў быў пераход да ўніфікаванай сістэмы доказаў прыналежнасці да дваранства. Асноўнымі доказамі сталі лічыцца дакументы аб службе і сведчанні метрык прэтэндэнта і яго бліжэйшых сваякоў. Такое становішча захоўвалася ў агульных рысах да 1917 г.[2]

Што тычыцца шляхты, пераведзенай у аднадворцы і грамадзяне, то сярод яе былі і тыя, чые дакументы захоўваліся ў актавых кнігах, аднак па пэўных прычынах яны не парупіліся, каб зацвердзіцца ў дваранстве. Як адзначаў афіцэр Генштаба І. Зяленскі, «...сярод страціўшых дваранства знаходзіліся і такія асобы, продкі якіх маглі карыстацца на законных падставах шляхецкімі правамі. Гэтыя людзі, перайшоўшы ў разрад ваколічнай і чыншавай шляхты, з-за нейкай абыякавасці, а больш з-за невуцтва і недасведчанасці, якія ставілі іх на адзін узровень з ніжэйшым класам сельскіх абывацеляў, не клапаціліся аб захаванні доказаў свайго паходжання і, не будучы ў стане даказаць сваё дваранства, павінны былі перайсці ў саслоўе аднадворцаў і грамадзян»[3]. У доказ тут можна прывесці таксама заўвагі яшчэ аднаго сучасніка той эпохі этнографа А. Кіркора: «...на самай справе сярод аднадворцаў, а таксама грамадзян ёсць і такія, у якіх цэлыя куфры завалены старымі граматамі, прывілеямі, якія даказваюць не толькі дваранскае паходжанне, а нават значную ролю, якую адыгрывалі іх продкі ў былыя часы»[4].

Ад шляхціцаў, якія не мелі на дваранства законных падстаў, аднак ухіліліся ад пераводу ў аднадворцы і грамадзяне, улады патрабавалі падачы дакументаў на разгляд у дваранскія сходы і Герольдыю. Аднак механізм, пры дапамозе якога можна было б іх да гэтага змусіць, адсутнічаў. Многія з такіх шляхціцаў былі неаселымі або служылі ў памешчыкаў і карысталіся іх пратэкцыяй. Акрамя таго, і дзейнасць

---

[1] О дозволении некоторым лицам западных губерний, доказывающим дворянство ...

[2] *Луговцова С. Л.* Политика российского самодержавия ... С. 62.

[3] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Минская губерния. Ч. 2. С. 544.

[4] *Киркор А. К.* Литовское Полесье. С. 26.

камісій па разглядзе і зацвярджэнні дваранскіх дакументаў у дваранскіх сходах не выклікала даверу ўлад. У 1828 г. быў уведзены парадак строгай праверкі і зацвярджэння Дэпартаментам герольдыі Сената рашэнняў сходаў аб прызнанні шляхціцаў у дваранстве. Уступіў таксама ў дзеянне закон аб рэвізіі ўсіх ранейшых рашэнняў дваранскіх сходаў[1]. Было дакладна вызначана, хто і на аснове якіх дакументаў можа прэтэндаваць на тое, каб быць зацверджаным у дваранстве. Паводле новых правіл пасля адпаведнага разгляду камісіі дваранскіх сходаў або адсылалі дакументы на канчатковае зацвярджэнне ў Дэпартамент герольдыі, або адразу адмаўлялі ў гэтым прасіцелю, прапануючы падаць іншыя, несумнеўныя дакументальныя доказы.

За найбольш важныя дакументы прызнаваліся граматы расійскіх манархаў і прывілеі каралёў Рэчы Паспалітай. Асобна адзначалася, што валоданне зямлёй на правах арэнды або спадчынна асобамі, якія называюць сябе шляхтай, не можа лічыцца доказам дваранскага паходжання. Значная частка чыншавай і ардынацкай шляхты ніколі не мела каралеўскіх прывілеяў і хутчэй традыцыйна называлася шляхтай, знаходзячыся на службе ў магнатаў. З юрыдычнага пункту гледжання такія асобы не мелі права лічыцца шляхтай і паводле Статута ВКЛ, што таксама адзначалася ў 11-м пункце закона, які быў выдадзены 20 сакавіка 1834 г.[2] Пры наяўнасці прывілею неабходна было мець яшчэ і акты, якія б пацвярджалі пераход маёнтка па спадчыне ад асобы, якая яго атрымала паводле прывілею, да асобы, якая легітымізавалася. Рэвізійныя камісіі павінны былі высветліць таксама, ці не былі бацька ці дзед апошняй пазбаўлены дваранства па законе.

Адным са спосабаў доказу дваранства было давесці сваё сваяцтва з асобай, якая займала дзяржаўныя пасады ў ВКЛ. Так, Нарбуты ў 1842 г. былі зацверджаны Герольдыяй у дваранстве на аснове таго, што адзін з іх продкаў быў стражнікам ВКЛ[3]. Поўны спіс дзяржаўных, прыдворных і земскіх пасад, займанне якіх у часы ВКЛ лічылася дастатковым доказам дваранскага паходжання ў Расійскай імперыі, змешчаны ў вы-

---

[1] О дворянских свидетельствах и документах, представляемых от недорослей ... ; О производстве обревизования действий дворянских депутатских собраний. 20 апр. 1834 г. № 7007 // ПСЗ II. Т. 9. Отд-ние 1 ; О учреждении при Сенате комитета, для начертания правил ...

[2] О производстве обревизования действий дворянских депутатских собраний.

[3] *Нарбут А. Н.* Нарбуты Черниговской и Витебской губерний. М., 1995. (Родословные росписи ; вып. 3). С. 47.

дадзеных друкам заканадаўчых актах імперыі[1]. Аднак такі шлях доказу дваранства быў характэрны ў асноўным для больш заможнай шляхты.

У 1840 г. выйшла ўжо другое з 1818 г. распараджэнне аб выключэнні з радаводных кніг тых, чыё дваранства было прызнана паводле сведчанняў прыватных асоб, метрык і рэвізскіх сказак, што, безумоўна, ускладняла для многіх магчымасць доказу дваранства, бо яны вымушаны былі пачынаць пошук дадатковых дакументаў[2]. Прынятыя раней рашэнні дваранскіх дэпутацкіх сходаў аб зацвярджэнні такіх асоб у дваранстве, адпаведна,ануляваліся. Законы, як бачна, не заўсёды выконваліся на месцах, і ўлады вымушаны былі іх дубляваць або працягваць тэрміны выканання.

Выключэнне з закона аб ануляванні зацвярджэння ў дваранстве на аснове сведчання прыватных асоб было зроблена для тых, хто быў прызнаны ў дваранстве спецыяльна створанымі рэвізійнымі камісіямі. Такія асобы не выкрэсліваліся з радаводных кніг да моманту разгляду іх справы Герольдыяй. Асобы, выкрасленыя з гэтых кніг, калі яны не валодалі населенымі маёнткамі, пераходзілі ў трэці разрад шляхты, якая павінна была быць неадкладна прыпісана ў аднадворцы і грамадзяне.

У 1845 г. выйшла новае патрабаванне – аб абавязковым сведчанні 12 дваран пра дваранскае паходжанне прэтэндэнта, а таксама сведчанні з боку сваякоў. Гэтыя доказы прызнаваліся толькі пры наяўнасці іншых дакументаў[3], што было дадатковым ускладненнем працэдуры доказу дваранства.

Указы 1828 і 1834 гг. змушалі многіх шляхціцаў зноў прайсці дарагую працэдуру легітымізацыі, прычым вельмі сур'ёзную, пазітыўныя вынікі якой не маглі цалкам гарантаваць ні маёнтак, ні раней выдадзеныя ў дваранскіх сходах дыпломы. Праўда, памешчыкам былі дадзены значныя прэферэнцыі і адтэрміноўкі ў падачы дакументаў. Пачаўся марудны працэс збору, пошуку і адсылання шляхтай і памешчыкамі неабходных дакументаў. Паколькі многія з іх або адкладалі збор і падачу дакументаў, або паставіліся да патрабаванняў несур'ёзна, у 1838 г. быў выдадзены закон, які адводзіў трохгадовы тэрмін на падачу дакументаў – да 1841 г., у адваротным выпадку тым, хто не падпарадкаваўся, пагражала залічэнне ў аднадворцы і грамадзяне[4]. Выключэнне было зроблена

[1] О дворянстве. Пункт 26. С. 7–8.

[2] О мерах к успешному и скорейшему окончанию разбора дел о дворянстве …

[3] О лицах бывшей польской шляхты, не представивших в определенный срок …

[4] О назначении трехгодичного срока для представления дворянских доказательств тем из лиц западных губерний, кои не доказали еще дворянства своего окончательно. 5 июля 1838 г. № 11387 // ПСЗ II. Т. 13. Отд-ние 2. 1839.

зноў-такі для асоб, якія валодалі населенымі маёнткамі. Іх справы павінен быў разглядаць Сенат. Дваранскім сходам было прадпісана скласці спісы такіх землеўладальнікаў і праз губернатараў і генерал-губернатараў, разам з іх меркаваннямі адносна правоў гэтых асоб на дваранства, праз МУС накіраваць на разгляд.

Трохгадовы тэрмін адводзіўся таксама на падачу дадатковых дакументаў тым асобам, чые дакументы былі прызнаны Герольдыяй недастатковымі, зноў жа за выключэннем памешчыкаў, канчатковае рашэнне па справах якіх павінен быў прымаць Сенат[1]. У 1841 г. было вырашана прадоўжыць тэрмін яшчэ на тры гады – да 1844 г.[2] Нарэшце, у ліпені 1845 г. спецыяльным указам аб'яўлялася, што вызначаны тэрмін прайшоў, а асобам, якія не валодаюць зямлёй і не зацверджаны ў дваранстве, было загадана неадкладна запісацца ў аднадворцы і грамадзяне. Тым, хто валодаў нерухомымі населенымі маёнткамі, загадалі запісацца ў асобныя спісы. Права на падачу дадатковых доказаў указам 1845 г. было пакінута толькі за той шляхтай, якая не валодала населенымі маёнткамі, і за шляхтай, якой было аб'яўлена пра незацвярджэнне ў дваранстве пасля 1 студзеня 1844 г. Для вяртання дваранства дэкласаваным шляхціцам тым жа ўказам прапаноўвалася паступаць на вайсковую службу. Дваранства ім магло быць вернута, як і аднадворцам «вялікарасійскіх» губерняў, пасля выслугі ў адпаведнасці з арт. 232 дзявятага тома Закона аб станах 1842 г.[3]

Канкрэтныя тэрміны запісу ў падаткаабкладаныя катэгорыі незацверджанай шляхты былі вызначаны ўказам ад 28 красавіка 1847 г. – да 1 чэрвеня 1848 г. Асобам, якім было дазволена ўказам ад 3 ліпеня 1845 г. на працягу трох гадоў падаць дадатковыя доказы, тэрмін пераносіўся на 1 снежня 1848 г. Асобам, якія падалі дадатковыя дакументы, але «якія былі ці будуць не зацверджаныя Герольдыяй», шасцімесячны тэрмін адлічваўся ад даты абвяшчэння ім рашэння Герольдыі. Асобы, якія так і не падалі пасямейных спісаў для запісу ў аднадворцы і грамадзяне ў азначаны тэрмін, павінны былі быць прымусова ўключаны ў саслоўе дзяржаўных сялян, з поўным падпарадкаваннем агульнаму з імі кіраванню.

---

[1] О назначении трехгодичного срока для представления дворянских доказательств ...

[2] О продолжении до 1 января 1844 г. срока на представление жителями западных губерний доказательств на дворянство. 5 нояб. 1841 г. № 14998 // ПСЗ II. Т. 16. Отд-ние 2.

[3] О лицах бывшей польской шляхты, не представивших в определенный срок ...

Тым не менш шляхціцы, якія не даказалі дваранства, не спяшаліся прыпісвацца ў падаткаабкладаныя катэгорыі. У пачатку 1850-х гг. улады пачалі рыхтавацца да прымянення кардынальных мер па вырашэнні праблемы. Губернскім канцылярыям і дваранскім дэпутацкім сходам было загадана падрыхтаваць спісы шляхты, не зацверджанай Герольдыяй, якая не мае аселасці, а таксама той, якая не валодае нерухомай маёмасцю і не зацверджана Герольдыяй і г. д. Аднак перайсці да кардынальных мер улады не адважваліся, бо большасць дакументаў шляхты на той момант усё яшчэ не была разгледжана Герольдыяй. Каб паскорыць збор звестак пра не зацверджанае Герольдыяй дваранства, а таксама ўзмацніць кантроль над дзейнасцю дваранскіх сходаў і ў першую чаргу над выкананнем імі ўказаў урада, іх дзейнасць па гэтых пытаннях у 1858 г. было даручана кантраляваць мясцоваму губернскаму начальству[1].

Дзеля таго, каб адтэрмінаваць прыпіску ў аклад, неаселыя асобы, якім было вынесена адмоўнае рашэнне Герольдыі, спасылаліся на тое, што ім не было пра гэта аб'яўлена. У 1853 г. быў выдадзены ўказ, які дакладна рэгламентаваў і гэту працэдуру.

Асобыя, больш ільготныя правілы доказу дваранства тычыліся шляхты татарскага паходжання[2]. У 1852 г. яны былі зменены, а абавязкам мясцовых улад было праінфармаваць шляхту татарскага паходжання пра гэта, аб чым пасля бралася падпіска[3].

Поўнасцю правілы доказу дваранства рознымі катэгорыямі, якія дзейнічалі на 1857 г., пералік патрэбных дакументаў і працэдур, што абавязаны былі прад'явіць і выканаць асобы, якія даказвалі дваранства, змешчаны ў арт. 54–87 трэцяга аддзялення дзявятага тома першай кнігі Зводу законаў Расійскай імперыі 1857 г.[4]

---

[1] О мерах к скорейшему разбору дворянских родов и устройству лиц бывшей польской шляхты. 6 мая 1858 г. № 33130 // ПСЗ II. Т. 33. Отд-ние 1.

[2] О дворянстве. Пункт 29. С. 8–9 ; *Borawski P.* Tatarzy w dawnej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1986. S. 268, 275.

[3] Расписки дворян-татар в ознакомлении их с отношением Свентянского земского суда о новых правилах предоставления доказательств на дворянское происхождение и сопроводительная к ним. 1852 г. // LVIA. Ф. 391. Воп. 7. Спр. 3821.

[4] О доказательствах дворянского состояния // Свод законов Российской империи. Издание 1857 года. Т. 9, кн. 1. Разд. 1. Отд-ние 3. С. 13–25.

## ВЫСЯЛЕННІ ШЛЯХЕЦКІХ ВАКОЛІЦ ПАСЛЯ ПАЎСТАННЯ 1863–1864 гг.

Дасягнуць элімінацыі дробнай шляхты, як і ў 1830–50-я гг., улады спрабавалі і праз перасяленчую палітыку. З 1820-х гг. і амаль да самага канца існавання імперыі мерапрыемствы, накіраваныя на перасяленне дробнай шляхты з Беларусі і Літвы, разглядаліся як сродак па рэалізацыі пастаўленых задач на ўніфікацыю сацыяльнай структуры беларускіх губерняў з расійскімі. Нават у канцы XIX ст., у 1898 г., разглядаючы перасяленчы рух з Беларусі і Літвы, віленскі генерал-губернатар В. Троцкі пісаў губернатарам: «Наколькі... шкодна... аслабленне шляхам перасялення рускага праваслаўнага элемента тутэйшага краю, настолькі карысна было б для інтарэсаў урада змяншэнне нядобранадзейнага элемента, якім з'яўляецца дробная шляхта»[1].

Масавая хваля прымусовых дэпартацый і ссылкі дробнай шляхты з Беларусі ў аддаленыя губерні імперыі пракаціліся па Беларусі і Літве з ініцыятывы віленскага генерал-губернатара М. Мураўёва падчас і пасля падаўлення паўстання 1863–1864 гг., у якім дробная шляхта прыняла значны, а на думку польскага даследчыка гісторыі паўстання Д. Файнхауза, масавы ўдзел[2]. Звесткі пра перасяленні знаходзім у дакументах, падпісаных М. Мураўёвым, дзе сам аўтар праектаў дэпартацыі шляхты ўказваў на тое, што «аднадворцы і т. зв. дробная шляхта былі самымі шматколькаснымі і дзейснымі ўдзельнікамі мяцяжу»[3]. Гэта акалічнасць ва ўмовах функцыянавання рэпрэсіўнага апарату часоў паўстання давала Мураўёву падставу прыступіць да рэалізацыі ў «адміністрацыйным парадку» мерапрыемстваў па дэпартацыі цэлых шляхецкіх ваколіц і засценкаў, жыхары якіх аказаліся замешанымі ў паўстанні або толькі падазраваліся ў дапамозе рэбельянтам. Пра факты дэпартацый дробнай шляхты часта ўзгадвалася, але такая палітыка

---

[1] *Верещагин П. Д.* Крестьянские переселения из Белоруссии (вторая половина XIX в.). С. 60.

[2] *Fajnhauz D.* Polska drobna szlachta a rok 1863 na Litwie i Białorusi ; *Яго ж.* 1863: Litwa i Białoruś ; *Wojtasik J.* Drobna szlachta podlaska w wojsku Rzeczypospolitej i w powstaniach narodowych (XVII–XIX w.) // Drobna szlachta podlaska w XVI–XIX w. : materiały sympozjum w Holnach Mejera, Białystok, 26–27 maja 1989 r. / pod red. S. Kuczyńskiego. Białystok, 1991. S. 34–36.

[3] Дело по предписанию генерал-губернатора Муравьева о доставлении сведений о чиншевой шляхте и однодворцах, больше других принимавших участие в деле бывшего в Могилевской губернии восстания // НГАБ. Ф. 2001. Воп. 2. Спр. 52.

толькі часткова асвятлялася ў гістарычнай літаратуры ў сувязі з вывучэннем гісторыі паўстання 1863 г.

Вядома агульная колькасць сасланых пасля паўстання 1863–1864 гг. з усёй Беларусі, Польшчы, Літвы і Украіны – каля 38 тыс. чалавек[1]. З так званых «паўночна-заходніх» губерняў – Літвы і Беларусі – за «ўдзел у паўстанні», «удзел ва ўзброенай барацьбе», «садзейнічанне і спачуванне паўстанню», паводле падлікаў В. М. Зайцава, было саслана 8375 чалавек[2].

Да гэтай лічбы трэба было б дадаць агульную колькасць сасланых і пераведзеных на працу ва ўнутраныя расійскія губерні паводле адміністрацыйных рашэнняў улад. Аднак вызначэнне такой лічбы асоб – вельмі складаная задача, паколькі неабходна ўлічыць чыноўнікаў розных ведамстваў, адміністрацыйна пераведзеных на працу ў расійскія губерні, а таксама перасеrange адміністрацыйным шляхам дробную шляхту.

У архівах захаваліся даныя аб колькасці дэпартаванай адміністрацыйным шляхам ваколічнай дробнай шляхты з усіх паўночна-заходніх губерняў імперыі, якія змяшчаюцца ў ведамасці, састаўленай у Віленскай вайсковай акрузе. У ёй паведамляецца без вызначэння губерняў і населеных пунктаў аб 639 сем'ях (3497 асобах) ваколічнай шляхты, дэпартаваных з Паўночна-Заходняга краю паводле адміністрацыйных рашэнняў[3]. Такая дробная шляхта непасрэдна не ўдзельнічала ў паўстанні, а ссылалася адміністрацыйна, без суда і следства ў выніку падазрэнняў, якія клаліся на ваколіцу, засценак ці асобныя сем'і.

Аналіз стану гістарыяграфіі пытання, дапоўнены намі некаторымі архіўнымі крыніцамі па Магілёўскай, Гродзенскай і Віленскай губернях, дазваляе пералічыць населеныя пункты гэтых губерняў, жыхары якіх былі выселены з Беларусі: Эйсымонты і Надтабольскае, Явораўка, Явожна, Лукавіцы, Прушанка, Шчука, Талочкі, Жуковічы, Пеняжкі, Фількі ў Гродзенскай губерні, Цімохі, Ліпкуньцы ў Віленскай губерні, Мару-

[1] *Łaniec S.* Partyzańci kresów północno-wschodnich w powastaniu styczniowym. Toruń, 1996. S. 77.

[2] *Зайцев В. М.* Социально-сословный состав участников восстания 1863 г. Табл. 2, 12, 38.

[3] Ведомость, составленная в канцелярии временного полевого аудиториата при штабе войск Виленского военного округа, о числе лиц, подвергнутых различным наказаниям за участие в восстании на территории Литвы и Белоруссии // Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863–1864 / рэд. У. А. Дзякаў. М., 1965. С. 95–98.

сенька, Церцеж, Літуцей і Сенажаткі ў Магілёўскай губерні. Агульная вядомая на сёння колькасць выселеных жыхароў ваколіц з гэтых губерняў дасягае 500 чалавек[1].

Наяўныя ў гістарыяграфіі звесткі адносна дэпартацый шляхецкіх ваколіц і засценкаў відавочна няпоўныя – амаль адсутнічае інфармацыя пра Мінскую губерню[2]. Выяўленыя дакументы ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Мінску дазваляюць больш падрабязна даследаваць сам працэс дэпартацыі з Мінскай губерні дробнай шляхты, матывацыю ўлад і метады выбару ваколіц да дэпартацыі і акрэсліць колькасць дробнай шляхты Мінскай губерні, якая трапіла пад дэпартацыю, дапоўніць агульны спіс сасланых ваколіц гэтымі данымі.

Падрыхтоўка да масавых перасяленняў пачалася з выдання адпаведных распараджэнняў і збору звестак пра будучы аб'ект перасяленняў. Спачатку такія мерапрыемствы павінны былі тычыцца жыхароў казённых маёнткаў. 11 чэрвеня і 4 ліпеня 1863 г. цыркулярам віленскага генерал-губернатара М. Мураўёва землі і двары ў казённых маёнтках, на якіх жыла «шляхта, аднадворцы і іншыя разначынцы»,

---

[1] Дело о выселении жителей околиц Фильки и Луковицы Бельского уезда на поселение в Сибирь за участие в восстании 1863 г. // НГАБ у г. Гродна. Ф. 1. Воп. 6. Спр. 372 ; Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. С. 548 ; *Czaplicki F. W.* Czarna księga 1863–1868. S. 63–71; *Яго ж.* Moskiewskie na Litwie rządy 1863–1869: dalszy niejako ciąg Czarnej księgi. Kraków, 1869. S. 139–145, 354 ; *Iwaszkiewicz J.* Wykaz dóbr ziemskich skonfiskowanych przez rządy zaborcze w latach 1773–1867. Warszawa, 1929. S. 11–12 ; *Narbut M.* Pamiętnik Mirona Bronisława Narbutta // Ziemia Lidzka. 1937. № 4. S. 40 ; *Szmidt W.* Geneza prywatnej rosyjskiej własności ziemskiej w guberni wileńskiej, grodzieńskiej i mińskiej 1793–1875. S. 298 ; Wysłanie do guberni astrachańskiej 5 rodzin z okolicy Cimochy w pow. oszmiańskim // LVIA. Ф. 381. Воп. 16. Спр. 202 ; Wysłanie do guberni samarskiej szlachty ze wsi Lipkuńce pow. Lidzki Truszyńskich Izydera i Adama, oraz Podejki i Górskich Wincentego, Stanisława, Macieja z rodzinami // LVIA. Ф. 381. Воп. 16. Спр. 399 ; Дело о выселении жителей околицы Фильки и Луковицы Бельского уезда ...

Сведчанні перасяленчай палітыкі пакінуў ва ўспамінах сам яе ініцыятар і рэалізатар М. Мураўёў. Так, ён пісаў, што 73 жахары шляхецкай ваколіцы Шчукі Гродзенскага павета ў верасні 1863 г. былі выселены ў аддаленыя губерні і ў Сібір (*Муравьев М. Н.* Записки графа Михаила Николаевича Муравьева-Виленского // Рус. старина. 1882. Т. 37, № 3. С. 623).

[2] Як выключэнне можна назваць артыкул Г. Крых і С. Токця (*Крых Г. А., Токць С. М.* Гісторыя пасялення Мінск-Дваранскае: засцянковая шляхта з Беларусі ў сібірскім Прыіртышшы // Беларус. гіст. часоп. 2012. №3. С. 4–10), у якім узгадваецца пра высяленне некаторых населеных пунктаў, лёс якіх разглядаецца і ў прадстаўленым артыкуле.

у выпадку ўдзелу іх у паўстанні дазвалялася адбіраць і перадаваць для пасялення сялян[1]. 8 жніўня 1863 г. віленскі генерал-губернатар М. Мураўёў накіраваў цыркулярнае прадпісанне ваенна-павятовым начальнікам Мінскай губерні з патрабаваннем прадаставіць звесткі пра шляхціцаў, аднадворцаў і пасяленцаў, якія прымалі ўдзел у паўстанні[2]. Мэта збору звестак не хавалася – для высялення гэтых жыхароў з Мінскай губерні[3]. Уступная частка дакумента ўтрымлівае абгрунтаванне і тлумачэнне неабходнасці прымянення такога жорсткага рэпрэсіўнага сродку: «Из собранных сведений... видно, что самыми многочисленными и действенными участниками в настоящем мятеже были однодворцы и так называемая чиншевая шляхта, поселенная отдельными дворами и целыми обществами на помещичьих, казенных и на своих собственных землях... Так как сословие шляхтичей и однодворцев во все времена и до настоящего мятежа постоянно отличалось своими мятежными действиями, то, в видах предупреждения на будущее время противозаконных попыток с их стороны к нарушению общественного спокойствия и порядка в крае... генерал-губернатор признает необходимым изъять из среды их тех, которые более других отличаются крамольным духом и подают другим вредный пример своеволия и непокорности законной власти»[4].

Каманда ўжо ад губернатара спускалася ваенна-павятовым начальнікам. 12 жніўня мінскі губернатар накіраваў да іх ліст з патрабаваннем: «...сделать соображения, основанные на действительных фактах, какие из однодворческих и шляхетских обществ и отдельных поселенцев, принадлежащих к этому сословию, принимали деятельное участие в мятеже, из каких обществ более, сравнительно с другими, поступило лиц в мятежные шайки, а также, где более всего было содействия со стороны этих обществ мятежникам продовольственными припасами и другими предметами, равным образом которые из них оказывали

[1] Сборник узаконений и распоряжений правительства по польскому мятежу 1863 г., вышедших по 28-е января 1868 года и касающихся западных губерний. С. 379–382.

[2] Дакумент падобнага зместу быў накіраваны і ў Магілёўскую губерню: Дело по предписанию генерал-губернатора Муравьева ...

[3] Циркулярное предписание губернатора военно-уездным начальникам Минской губ. о представлении сведений о шляхтичах, однодворцах и поселенцах, принимавших участие в восстании, для выселения их из Минской губ. Списки лиц, подлежавших выселению. 12 авг. 1863 – 29 янв. 1866 г. // НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Спр. 1522.

[4] Там жа.

более других противодействия местным властям к подавлению мятежа, и, собрав по всем сим вышеприведенным обстоятельствам надлежащие сведения по Минской губерни, представить оные его Высокопревосходительству в возможно скорейшем времени со списками тех селений, а в оных числа дворов, семейств и душ и с заключением о степени их неблагонадежности для дальнейших распоряжений». У дакуменце падкрэсліваліся важнасць мерапрыемства і пільнасць збору звестак[1].

Ужо 2 верасня, менш чым праз месяц, мінскі губернатар атрымаў першы рапарт ад ваеннага начальніка Мінскага павета, дзе паведамлялася, што на аснове звестак, сабраных павятовым спраўнікам і ваеннымі станавымі начальнікамі, «...за исключением ушедших в мятеж лиц, о коих своевременно было донесено начальству, проживающие в... уезде однодворческие и шляхетские общества и отдельные поселенцы... явного участия в мятеже не принимали и видимо мятежникам ничем не содействовали...»[2].

Падобныя, даволі спрыяльныя для дробнай шляхты рапарты губернатар атрымаў ад барысаўскага і бабруйскага ваенных начальнікаў, а таксама ад навагрудскага ваеннага начальніка. Дзіўна, аднак, што ў апошнім рапарце адначасова ёсць інфармацыя, якая супярэчыць звесткам пра адсутнасць дробнай шляхты, што ўдзельнічала ў паўстанні: «Но нельзя не указать на несколько деревень и околиц, расположенных среди лесов и вблизи оных, из которых и по ныне находится еще в отлучке довольно много жителей. Все они расположены во Вселюбской волости и список таковым при сем прилагаю...»[3].

Адначасова ў рапарце звяртаецца ўвага на тое, што ўсе названыя вёскі і ваколіцы размешчаны сярод або паблізу ад лясоў і што яны пастаянна былі пад падазрэннем у спачуванні паўстанцам і забеспячэнні іх харчаваннем. Акрамя таго, праяўляючы ініцыятыўнасць, нядаўна прызначаны на пасаду навагрудскі ваенны начальнік выступіў яшчэ і з прапановай аб далейшых метадах пацыфікацыі паўстанцаў, якія заслугоўваюць увагі: «Если Ваше Превосходительство признает справедливым удалить из деревень и околиц в списке означенных... жителей, то необходимо будет населить их православными крестьянами и для этого обязать помещиков, чтобы они земли, находящиеся ныне в руках семейств, принявших участие в мятеже, передали в определенный срок, на таком же арендном положении в пользование временно-

[1] Циркулярное предписание губернатора ... Арк. 1–3.
[2] Там жа. Арк. 5–5адв.
[3] Там жа. Арк. 11–11адв.

обязанных крестьян православного вероисповедания; настоящих же арендаторов удалить на более открытые местности».

Звернем увагу, што гаворка ў дадзеным выпадку ішла не пра высяленне, а пра перасяленне ў межах блізкіх мясцовасцей. У лік падазроных населеных пунктаў, якія пералічыў навагрудскі ваенны начальнік, уваходзіла размешчаная каля лясоў ваколіца Дамбровіца – 9 двароў і 19 жыхароў, вёска Крэмаліеўка, размешчаная сярод лясоў (11 двароў), вёска Межнікі, размешчаная сярод лясоў, ваколіца Мількевічы, дзе ў 10 дварах, як было адзначана, «мелких дворян», аднадворцаў, мяшчан і свабодных хлебапашцаў пражывала на ўласнай зямлі 29 чалавек. З-за дзвюх асоб падазраваліся таксама 40 жыхароў «разначынцаў-уласнікаў»[1] ваколіцы Русілаўка. У ваколіцы Дашкевічы, населенай таксама 35 «разначынцамі», два двары падазраваліся ва ўдзеле ў паўстанні. Усяго ў населеных пунктах, якія знаходзіліся пад падазрэннем, у Навагрудскім павеце пражывалі 144 асобы[2].

Аб наяўнасці ў павеце падазроных шляхецкіх пасяленняў, «принимавших деятельное участие в мятеже», даносіў у рапарце ад 15 верасня 1863 г. мінскаму губернатару таксама і ігуменскі ваенны начальнік. Да падазроных належалі ваколіцы Суцін і Гіжгайлава, з якіх, па словах начальніка, у паўстанне пайшло 14 чалавек, прыведзены таксама і спіс асоб. Разам у дзвюх ваколіцах пражывалі 153 чалавекі. Не менш аказалі садзеянне паўстанцам, па інфармацыі павятовага ваеннага начальніка, ваколіцы Французская Грэбля, Падкоссе, Гапоцева, з якіх 6 чалавек пайшло ў паўстанцы. Насельніцтва ваколіц складалася з 89 чалавек. Акрамя таго, пад падазрэнне трапілі ваколіцы Рэпіца, Сёмкава Слабада, Спусціха і Уборкі, каля якіх, па звестках начальніка, некалькі разоў паяўляліся паўстанцы. У названых ваколіцах пражывалі 122 чалавекі. Пад падазрэнне з-за інфармацыі пра начлег паўстанцкага атрада Акуліча трапіла таксама вёска Гайдукова Слабада, дзе пражывала 50 чалавек. У забеспячэнні паўстанцаў харчаваннем падазраваліся вёскі Жабіхава і Валадута, дзе пражывала 78 чалавек, а таксама вёска Рачыборкі, населеная 28 асобамі, ваколіца Дубовы Лог з 16 жыхарамі, ваколіца Можанкі з 64 жыхарамі і ваколіца Старая Гута, дзе жыло 37 ча-

[1] У другой палове XIX ст. тэрмін «разначынцы» ўжываўся таксама і ў адносінах да жыхароў шляхецкіх ваколіц, якія падчас правядзення палітыкі разбору шляхты апынуліся па пэўных абставінах у складзе такіх розных фармальных катэгорый насельніцтва, як аднадворцы, зямяне, грамадзяне, вольныя людзі, дваране і нават сяляне.

[2] Циркулярное предписание губернатора ... Арк. 12–14.

лавек. У спіс падазроных трапілі і асобныя пасяленцы, якія жылі каля карчмы Падшопкі і былі ўжо арыштаваны за дастаўку харчавання паўстанцам. Іх сем'і налічвалі 27 чалавек. Усяго пад падазрэнне павятовага ваеннага начальніка трапіла 17 населеных пунктаў, дзе пражывала 666 асоб[1].

Асноўнымі прычынамі падазрэнняў былі арышт каго-небудзь з жыхароў ваколіцы за ўдзел у паўстанцкіх атрадах, дзейнасць у наваколлі паўстанцкага атрада, даносы сялян ці духавенства начальству павета пра дапамогу жыхароў ваколіц паўстанцам.

Цяжка сказаць, што было вынікам такой розніцы ў рапартах суседніх паветаў – Мінскага, Бабруйскага, Барысаўскага і Ігуменскага, ці паўплывала на гэта «старанная» праца ігуменскага ваеннага начальніка, яго жаданне выслужыцца і дбайнае выкананне абавязкаў, ці, наадварот, прафанаванне справы ваеннымі начальнікамі іншых паветаў, ці гэта ўсё ж было рэальнае адлюстраванне стану рэчаў, на аснове наяўных дакументаў немагчыма адназначна сцвярджаць. Верагодна, паўстанцы і шляхта сапраўды найбольш праявілі сябе якраз у Ігуменскім павеце і павятовы начальнік хацеў прадэманстраваць сваю адданую працу.

Мазырскі, рэчыцкі і слуцкі ваенныя начальнікі ўвогуле спачатку зацягвалі справу са зборам звестак і складаннем спісаў падазроных шляхецкіх ваколіц. Сведчыць пра гэта чарнавік ліста мінскага грамадзянскага губернатара, датаваны 25 кастрычніка 1863 г., з адрасаваным да іх нагадваннем неадкладна прадаставіць патрабаваныя звесткі[2].

Не задаволілі мінскага губернатара і рапарты бабруйскага, пінскага і рэчыцкага ваенных начальнікаў. Нягледзячы на тое што яны даносілі пра адсутнасць ваколіц, якія б удзельнічалі ў паўстанні, мінскі губернатар 9 лістапада 1863 г. усё роўна выслаў ім распараджэнні з патрабаваннем скласці хаця б спісы ненадзейнай шляхты. Мабыць, словы генерал-губернатара Мураўёва пра масавы ўдзел дробнай шляхты ў паўстанні абавязкова павінны былі знайсці сваё рэальнае адлюстраванне ў рапартах і таму спісы шляхты на высяленне ў любым выпадку павінны былі быць складзены, хаця б за кошт падазроных ці ненадзейных для ўлад асоб. У дакуменце ўтрымліваюцца выказванні, вартыя цытавання: «...нахожу, что хотя из однодворческих и шляхетских обществ... никто не принимал участие в мятеже и не доставлял мятежникам продовольствия, однако есть много семейств подозрительных и неблагонадежных в политическом отношении, как рассеянных среди лесов, отдельно

---

[1] Циркулярное предписание губернатора ... Арк. 17–19адв.
[2] Там жа. Арк. 20.

от населенных местностей, при представившемся случае, могут изменить верноподданическому долгу и оказывать противодействие правительственным распоряжениям к подавлению мятежа».

Ад ваенных начальнікаў патрабавалася скласці падрабязныя спісы з «...заключением вашим кого из них вы находите необходимым выселить в другие губернии, а кого в ближайшие селения... менее подозрительные семейства... могут быть оставлены на прежних местах жительства, если будут признаны вами безвредными, но не иначе как по представлению за себя вполне благонадежных и состоятельных поручителей... долгом считаю присовокупить, что меры выселения вызываются только необходимостью, особенно при –[1] здешнего края... я долгом считаю обратить особенное внимание ваше на важнейшие предметы, от которых зависит – здешнего края»[2].

Відавочна, што мінскі губернатар, у сваю чаргу, хацеў прадэманстраваць і сваю дзейнасць генерал-губернатару, таму рапарты з паведамленнем пра адсутнасць шляхты, якая садзейнічала паўстанцам у некаторых паветах, яго яўна не задавальнялі.

Канешне, мерапрыемствы аб перасяленні шляхты не маглі абысціся без абмеркавання іх у Заходнім камітэце, які быў утвораны, каб распрацаваць тыя мерапрыемствы, якія павінны былі б, як адзначалася ў справаздачы Камітэта за 1864 г., «иметь целью не временные, а органические меры, для упрочения на будущее время спокойствия в Западном крае»[3]. Цікава, што, не дачакаўшыся рапартаў ад усіх ваенна-павятовых начальнікаў, Мураўёў ужо дакладаў у Камітэт аб масавым удзеле дробнай шляхты ў паўстанні, і ўжо 12 верасня 1863 г. Камітэт разглядаў пытанне аб «высяленні з паўночна-заходніх губерняў аднадворцаў і асоб былой польскай шляхты, замешаных у мяцяжы». Вырашэнне гэтага пытання Камітэтам было цалкам перададзена на сумеснае ўзгадненне М. Мураўёва з міністрамі ўнутраных спраў і дзяржаўных маёмасцей[4].

Дакументы справы аб высяленні дробнай шляхты з Мінскай губерні ў НГАБ сведчаць таксама і пра гаротны стан жыхароў некато-

---

[1] Прочырк стаіць у арыгінале дакумента. Тэрмін, які за ім хаваўся, быў засакрэчаны, ваеначальнікі ж разумелі, пра што ішла гаворка.

[2] Циркулярное предписание губернатора ... Арк. 47–51.

[3] РГИА. Ф. 1267. Оп. 1. Д. 34. Отчет по Западному комитету за 1864 г. Л. 1.

[4] Там жа. Д. 35. Подробный алфавитный указатель Высочайше утвержденным положениям Западного комитета со дня его открытия в сентябре месяце 1862 года по 1 янв. 1865 г. Страница списка на слово «Выселение». Журнал заседания 12 сентября 1863. № 48.

рых шляхецкіх ваколіц. Так, у справе ёсць скаргі некалькіх «дваран» Ігуменскага павета, дзе шляхціцы паведамляюць, што яны абкладзены кантрыбуцыяй і іншымі пошлінамі і гэта даводзіць іх да крайняй галечы[1]. Пра кантрыбуцыі ўзгадваюць і прадстаўнікі ўлады – паводле паведамлення часовага мінскага ваеннага губернатара, нават з 17 яўрэйскіх сямействаў, якія пражывалі каля ваколіцы Суцін, быў спагнаны кантрыбуцыйны збор па 25 руб. з сямейства[2].

На губерніяльным узроўні збор звестак ад павятовых ваенных начальнікаў працягваўся. На аснове даных толькі Навагрудскага і Ігуменскага паветаў ужо ў кастрычніку быў складзены агульны спіс жыхароў падазроных пасяленняў, дзе значыліся 815 чалавек, якіх прапанавалася выселіць[3]. З іх па Ігуменскім павеце праходзіла 666 асоб, па Навагрудскім – 149.

У канцы кастрычніка нарэшце былі дасланы звесткі і ад пінскага, мазырскага і рэчыцкага павятовых ваенных начальнікаў. Пінскі павятовы ваенны начальнік, мабыць не жадаючы высылаць рапарт без спісу, што магло быць расцэнена як нядбайнае выкананне ім абавязкаў, палічыў за лепшае даслаць «Спіс асоб, якія прымалі ўдзел у палітычных беспарадках, што пражывалі ў Пінскім павеце»[4]. У спісе фігуруе 50 прозвішчаў, указана інфармацыя аб іх паходжанні і асноўным занятку, але спіса ваколіц няма.

Абавязкі мазырскага і рэчыцкага павятовых начальнікаў аб'ядноўваліся ў адной пасадзе. З гэтых паветаў павятовы начальнік даносіў, што ў паветах фарміравання паўстанцкіх атрадаў не адбывалася, аднак і ён таксама не адважыўся даслаць рапарт без спіса падазроных ваколіц і ўсё ж назваў, але толькі адну: «...за шляхтой не замечалось, чтобы она принимала участие в мятеже... лица, за которыми замечены действия клонившиеся к распространению возмущения, и которые преданы за это суду, – по большей части были из разных местностей и потому выводить из действия их заключения вообще о шляхетских околицах, по мнению моему, весьма трудно, не отвергая, однако же, что в некоторых местностях шляхта тайно содействует возмущению и быть может готова была бы принять участие в беспорядках, по некоторым соображениям и некоторым фактам, признаю, что в отношении этом из ведомства моего более всего ненадежна шляхта населяющая

[1] Циркулярное предписание губернатора ... Арк. 51–52.
[2] Там жа. Арк. 152–152адв.
[3] Там жа. Арк. 21.
[4] Там жа. Арк. 27.

околицу Кустовицу, постоянно отличавшуюся буйством, неуживчивостью даже между собою и уголовными преступлениями, в настоящее время по одной этой околице у следователя в производстве 8 уголовных дел, число которых было еще более, пока уезд не был объявлен на военном положении».

Адначасова павятовы начальнік як бы апраўдваўся за няспешнасць у працы, паколькі ў рапарце паведамлялася, што ў працэсе падрыхтоўкі ўжо ёсць спіс найбольш ненадзейных асоб двух паветаў. Аднак у дастаўленым пазней спісе ў выніку аказалася толькі 8 асоб, прычым амаль усім ставілася ў віну «буйство», а аднаму ўцёкі ад рэкрутчыны – як бачым, учынкі, не звязаныя з паўстаннем[1].

Прыблізна ў тыя ж дні даслаў звесткі і слуцкі ваенны начальнік, які даносіў, што паўстанцы на яго ўчастку не паяўляліся і «...из шляхт и однодворцев никто в оные не поступал, как равно не было отмечено содействия мятежникам продовольственными припасами и никто не оказал противодействия местным властям в подавлении мятежа, кроме тех лиц, которые при первоначальном обнаружившемся волнении, на которых по подозрению, а некоторые и за преступления, состоят под следствием»[2].

Відавочным было нежаданне ваеннага начальніка складаць спісы такіх ваколіц. Як бы для пацвярджэння сапраўднасці сваіх слоў і вернасці мясцовай шляхты ваенны начальнік запатрабаваў ад шляхецкіх ваколіц падпісаць адрас цару. Такі адрас павінен быў быць, як можна зрабіць выснову, сведчаннем таго, што адсутнасць падазроных ваколіц у павеце не з'яўляецца вынікам нядбайнасці яго працы, а сапраўды рэальны стан[3]. У канцы кастрычніка, ужо ў новым рапарце слуцкага павятовага военачальніка, зноў паведамлялася, што шляхта і аднадворцы павета не прымалі ўдзелу ў паўстанні, але ўжо адначасова ў пацвярджэнне гэтага губернатару былі дасланы і «грамадскія прыгаворы» ад сялянскіх таварыстваў, у якіх канстатаваўся «спакойны характар» іншых жыхароў павета[4]. Відавочна, што падрыхтоўка падобных прыгавораў была інспіравана або самім павятовым ваенным начальнікам, або шляхтай, што, магчыма, і выратавала яе ад дэпартацый, паколькі паўстанцы ў павеце былі. Мэта падрыхтоўкі «грамадскіх прыгавораў» таксама была відавочнай – запэўніць вышэйшае началь-

[1] Циркулярное предписание губернатора ... Арк. 33–34.
[2] Там жа. Арк. 23–23адв.
[3] Там жа. Арк. 23, 31адв.
[4] Там жа. Арк. 36.

ства ў тым, што ў павеце парадак і адсутнасць антыўрадавай дзейнасці, а рапарт ваеначальніка не «адпіска» чыноўніка, а рэальны стан рэчаў, а значыць, мясцовае начальства спраўляецца з пастаўленымі задачамі.

У некаторых жа паветах, у першую чаргу ў Ігуменскім, у якім дзейнасць паўстанцаў была больш відавочнай, павятовыя ваенныя начальнікі, наадварот, дэманстравалі сваю актыўную працу па пакаранні вінаватых і складалі спісы шляхты на дэпартацыю.

На аснове аб'яднаных звестак толькі Ігуменскага і Навагрудскага паветаў мінскі губернатар падрыхтаваў рапарт генерал-губернатару Мураўёву, дзе паведамлялася: «Из собранных мною... сведений об однодворческих и шляхетских обществах, а также об отдельных поселенцах этого сословия, принимавших участие в мятеже, оказывается, что... в Новогрудском и Игуменском уездах и особенно в последнем, мятежники более нежели в других находили себе сочувствия со стороны мелкой шляхты, рассеянной в этих уездах совершенно отдельно, в лесистых местностях, или несколькими поселенцами. Шляхты этой насчитывается в Игуменском уезде до 666, а в Новогрудском до 149 душ. Выселение всех означенных лиц, *кроме других неудобств, будет сопряжено с огромными расходами для правительства* (курсіў наш. – *В. М.*), между тем я убежден, что выселением только некоторых, более виновных, семейств можно достигнуть тех же результатов, какие предполагались бы от общего выселения. ⟨...⟩ Но при этом считаю обязанностью доложить, что хотя в других уездах, как удостоверяют военно-уездные начальники, шляхта не принимала участия в мятеже, но чтобы окончательно очистить все уезды от лиц, сочувствующих настоящим беспорядкам я строго предписал местным начальникам... представить мне списки всех самых подозрительных и неблагонадежных лиц, которые по своему характеру и образу мыслей не могут ручаться за свою добросовестность, для собрания же более положительных фактов... сам отправляюсь в некоторые уезды...»[1].

Дакумент яскрава сведчыць, наколькі моцна жадаў губернатар прадэманстраваць сваю актыўнасць і ініцыятыўнасць перад Мураўёвым. Да дакумента быў прыкладзены спіс ваколіц з пазначэннем, колькі сем'яў з іх трэба выселіць. Да высялення прапанавалася прызначыць ад адной сям'і з ваколіцы да ўсіх сем'яў з найбольш падазроных ваколіц. Дакладная колькасць не пазначалася.

17 снежня 1863 г. быў складзены канчатковы павялічаны спіс асоб, прызначаных да высялення, з разбіўкай на тры катэгорыі: 1) прызна-

---

[1] Циркулярное предписание губернатора ... Арк. 37–40.

чаныя да высялення ва ўнутраныя губерні за палітычныя злачынствы (50 сем'яў); 2) прызначаныя да высялення ва ўнутраныя губерні, калі па суду акажуцца віноўнымі (34 сям'і); 3) прызначаныя да высялення з лясоў у бліжэйшыя пасяленні пад нагляд таварыства (64 сям'і). Разам пад высяленне і перасяленне толькі з Ігуменскага павета павінна было ўжо трапіць 148 сем'яў, у якіх пражывала 1017 чалавек[1]. У спісе пазначана, якая сям'я і куды высялялася, што надае дадатковую інфармацыйную цэннасць дакументу. У справе знаходзіцца і чарнавік распараджэння мінскага губернатара ваенным начальнікам Ігуменскага і Навагрудскага паветаў аб высяленні адзначаных у спісе асоб. Такім чынам, дакументальна перасяленне і частковая дэпартацыя 1017 чалавек у асноўным дробнай шляхты было падрыхтавана, але справа нечакана набыла некалькі іншы паварот.

Ужо 6 снежня 1863 г., калі былі падрыхтаваны спісы на высяленне, навагрудскі павятовы ваенны начальнік інфармаваў мінскага губернатара, што па прычыне малой знаёмасці з паветам, у які ён з палком прыбыў толькі ў канцы ліпеня, сабраныя ім завесткі не адпавядаюць рэальнаму стану рэчаў: «...я так был мало знаком с обстоятельствами мятежа в Новогрудском уезде, что невольно внял в ошибку, отнеся к личностям то, что происходило от местности. Таким образом, лесное положение Кралириевки, Межников и Домбровицы таково, что кем-бы не населить их, в случае нового мятежа жители будут замечены вновь, – из боязни поджогов, чем постоянно шайки их устрашали. Несмотря на это невыгодное положение, нельзя сказать, что бы эти три деревни особенно много дали мятежников и местечки: Вселюб и Новая Мышь в этом случае более виновны, дав со своих волостей в мятеж более значительное число своих жителей и не находясь по местности в том исключительном положении, как вышесказанные деревни. Что же касается Дашкевич, Русиловки и Милькевич, то хотя шляхта вся вообще сочувствовала мысленно мятежу, но держала себя очень тихо и если, по доходившим до меня слухам, часто подвергалась обыскам, то нет фактов, вызывающих кого-либо из жителей в особенности. Указанные вашим превосходительством семейства из околицы Русиловки однодворца Рыбинского и дворянина Вольского и из околицы Дашкевич Коленды и Войницкого, если и признается нужным выселить по участию членов этих семейств в мятеже, то разве только для *устрашения мерой этой прочей шляхты, но отнюдь не по личному их влиянию на мятеж* (курсіў наш. – *В. М.*)... полагаю, что денежная пеня, взысканная в насто-

[1] Циркулярное предписание губернатора ... Арк. 97–145.

ящее время с Домбровицы, Русиловки, Дашкевич и Милькевич в количестве 25 руб. со двора, достаточно ослабит жар их глупого патриотизма и надолго заставит проклинать виновников их бедствий. Наконец, если за сим ваше превосходительство признают необходимым выселить кого-нибудь из вышесказанных лиц, то уже, во всяком случае, выселять их в Россию[1], так как здесь им не предполагается никакого надела земли и, следовательно, положение их с семействами будет чрезвычайно затруднительно и по неволе подвергнет их на новые козни. Во всех прочих пунктах уезда никто из шляхты ни в чем не замечен и я по всей справедливости должен был возвратить повсеместно с шляхты собранные по 10 руб. со двора, в следствии недоразумения при получении предписания... об взыскании с шляхты и объяснения впоследствии, что только тех обложить этим сбором, кто прикосновенен в чем либо к мятежу».

Дзіўна, але «асадзіў назад» у лісце ад 13 снежня 1863 г. таксама і бабруйскі ваенны павятовы начальнік, прапануючы ў рапарце не высяляць дробную шляхту: «...после... дознаний и осмотра жительства шляхты и однодворцев проживающих отдельно от сельского населения и в самых деревнях оказалось, что местность их не наводит сомнения дабы в тех местах могли найти убежище мятежники, ибо все... состоят в окрестности крестьянских населений, где сельские общества постоянно и без затруднения имеют за ними надзор, а большая часть живет их в самих деревнях и... своим поведением, образом мыслей и преданностью к правительству приобрели себе доверие и крестьянские общества выдали одобрительные письменные удостоверения с обязательством иметь за ними неослабный надзор, шляхетские и однодворческие общества выдали общее ручательство в том, что если бы кто из среды их оказался бы виновным в политическом отношении, то они подвергают себя целым обществом всем законным ответственностям, то принимая в уважение, что шляхта и однодворцы по настоящее время в никаких решительно политических отношениях замечаемы не были и что местность их не наводит сомнения, дабы крамола могла найти у них убежище, и что мелкие населения состоят в недалеком расстоянии от крестьянских общественных населений, которые могут, и при том обязались, следить за ними, я не нахожу побудительных причин к выселению их, а предположил оставить на прежних их местах жительства под надзором общественных крестьян, при чем составленный мною список шляхтам и однодворцам, которые не приобрели себе письмен-

[1] Такое выказванне ваеннага начальніка сведчыць аб тым, што ў яго свядомасці беларускія губерні не належалі да рускіх.

ных одобрительных удостоверений по разным обстоятельствам, значащимся в последней графе списка, при сем... представляю, докладывая при том, что и обозначенные в списке лица одобрены в поведении и образе мыслей и не навлекают на себя порока в даче мятежникам пристанища или оказания им в чем либо содействия»[1].

Падобны змест рапартаў ваенных начальнікаў двух паветаў, які раптоўна змяніўся і якім яны фактычна просяць мінскага губернатара не высяляць дробную шляхту, наводзіць на разважанні пра прычыны змены іх стаўлення. Безумоўна, гэтыя прычыны схаваны па-за зместам рапартаў і заключаюцца ў пазафармальных зносінах паміж дробнай шляхтай і начальствам павета. Хабары, подкуп чыноўнікаў, паборы, вымаганні і падобныя нефармальныя спосабы «вырашэння справы» зацікаўленымі асобамі з двух бакоў былі ў той час вельмі распаўсюджанай з'явай[2]. Здаецца, ёсць падставы меркаваць, што і ў дадзеным выпадку не абышлося без іх, хоць дакладныя і неаспрэчныя звесткі пра гэта ў дакументах справы, па зразумелых прычынах, адсутнічаюць. З іншага боку, апраўдана можна меркаваць, што павятовыя ваенныя начальнікі самі не вельмі жадалі ў будучым рэалізоўваць перасяленне і несці груз псіхалагічных і маральных перажыванняў, звязаных з гэтым, што, магчыма, таксама адбілася на даволі «памяркоўным» змесце іх канчатковых рапартаў.

У адрозненне ад навагрудскага і бабруйскага ваеннага начальнікаў, ігуменскі начальнік не змякчыў сваёй пазіцыі. Болей за тое, ён, праявіўшы ў выказванні і свой антысемітызм, разам са шляхтай ваколіцы Суцін прапанаваў выселіць у аддаленыя губерні імперыі і яўрэяў гэтай ваколіцы (17 сем'яў), якія таксама «сильно подозреваются в способствовании мятежникам как доставлением продовольствия, так и передачей разных сведений, к чему по врожденному им користолюбию отказаться не могут»[3].

У маі 1864 г. пачалася падрыхтоўка ваколіцы Суцін Ігуменскага павета да дэпартацыі. Вялікай праблемай была значная колькасць прызначаных да дэпартацыі. Мінскі ваенны губернатар у рапарце ад 5 мая 1864 г. на імя генерал-губернатара Мураўёва адзначаў: «Представляя при сем список означенной шляхты, имею честь присовокупить, что до настоящего времени я удерживался с представлением оной к вы-

[1] Циркулярное предписание губернатора ... Арк. 61–61адв., 74.

[2] Тут варта ўзгадаць напісаны прыблізна ў той жа час твор В. Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта», у якім высмейваюцца падобныя з'явы.

[3] Циркулярное предписание губернатора ... Арк. 75–75адв.

селению только вследствии обширности околицы Сутин... в ней считается 43 двора, с 284 душами обоего пола. По замечанию военного начальника Игуменского уезда, выселение сутинской шляхты тем более необходимо, что следить за Сутиным нет возможности, так как околица эта расположена на острове, окруженном и перерезанном глубокими болотами, прекращающими сообщение не только с окрестными местами, но и между отдельными домами самой околицы. Из числа представляемых к выселению можно, по моему мнению, исключить одно только семейство, означенное в списке под № 43-м и *присоединившееся к православию* (курсіў наш. – *В. М.*). Местность, в которой встречены мятежники, покрыта болотами и находится у соединения Игуменского, Слуцкого и Бобруйского уездов. Мною сделано распоряжение о производстве усиленных облав в упомянутой местности со стороны всех этих трех уездов. Подписал: Генерал-лейтенант Заболоцкий»[1].

Карыстаючыся новым на той час сродкам сувязі, тэлеграфам, з Пецярбурга адносна высялення ваколіцы Суцін Мураўёў адправіў адказ: «Разрешаю немедленно выслать из Сутина только 22 двора менее благонадежных, в Томскую губернию; об остальных же донести, если признано будет вредным оставить их на настоящем месте жительства...»[2].

Ужо праз месяц мінскі губернатар атрымаў канфірмацыю ад ігуменскага павятовага ваеннага начальніка аб тым, што 5 чэрвеня 1864 г. 22 двары з ваколіцы Суцін, а гэта 166 чалавек каталіцкага веравызнання, былі высланы ўстаноўленым парадкам у Томскую губерню[3]. Інфармацыя была перададзена Мураўёву, які па тэлеграфе загадаў маёмасць выселеных прадаць, акрамя дамоў і сельскагаспадарчага інвентару, які павінны былі атрымаць тыя, хто будзе паселены на месцы дэпартаванай шляхты[4]. Перасяляць планавалася перасяленцаў з рускіх губерняў, прычым перавага тут аддавалася старaверам.

26 красавіка 1864 г. Мураўёвым быў аддадзены загад мінскаму часоваму ваеннаму губернатару таксама аб высяленні шляхты ваколіц Рэпіца і Тарнагорак разам з сем'ямі: «...отправить по этапу установленным порядком чрез г. Вильно в Томскую губернию, для водворения их на свободных казенных землях; имущество же, какое у них окажется, продать с публичного торга и вырученные деньги препроводить к министру государственных имуществ для обращения на покрытие расхо-

[1] Циркулярное предписание губернатора ... Арк. 77–78адв.

[2] Там жа. Арк. 76–76адв.

[3] Там жа. Арк. 86–86адв., 88–92.

[4] Там жа. Арк. 87.

дов по обзаведению переселенцев хозяйством на новых местах жительства; стариков и больных, которые бы не могли перенести трудностей переселения, передать на попечение общества или поместить в богадельню на казенное пропитание»[1].

Да дэпартацыі ў Томскую губерню было прызначана 45 чалавек з ваколіц Рэпіца і Тарнагоркі, аднак 16 чалавек, хворыя і састарэлыя, былі пакінуты ў Беларусі. Загад быў выкананы 22 мая 1864 г.[2]

Ёсць у справе звесткі і пра дэпартацыю шляхецкай вёскі Валадута, дзе пражываў 51 чалавек. Па этапе дробную шляхту з гэтай вёскі накіравалі ў Мінск, адкуль 22 ліпеня жыхары павінны былі быць адпраўлены далей чыгункай праз Вільню і Пецярбург. Даведваемся пра гэта з прашэння дваран Мінскага павета Карла Беліновіча і Феліцыяна Ліпня аб невысыланні іх нарачоных, жыхарак вёскі Валадута[3]. Такім чынам, дакументальна пацвярджаецца дэпартацыя з наяўнага спісу ў маі – чэрвені 1864 г. каля 240 чалавек дробнай шляхты з трох ваколіц Ігуменскага павета. Непасрэднага пацвярджэння высялення яшчэ каля 400 чалавек, прызначаных да дэпартацыі з павета восенню 1863 г. з ваколіц Гіжгайлава, Французская Грэбля, Падкоссе, Ганотава, Рапішча, Сёмкава Слабада, Спусціх, Уборкі, Гайдукова Слабада, Жабіхава, Рачыборкі, Дубовы Лог, Можанкі, Старая Гута, Падшопкі, няма з-за ўрыўкавасці звестак у справе, што не выключае факта правядзення дэпартацый.

У Барысаўскім павеце рэпрэсіўныя меры ў адносінах да дробнай шляхты абмежаваліся першапачаткова толькі застрашэннем і перасяленнем некалькіх дамоў арэнднай шляхты. Як адзначыў ваенны начальнік павета, 28 лістапада 1863 г. іх «привели в необитаемое положение», перасяліўшы жыхароў у іншыя вёскі. «При том объявили всей шляхте, однодворцам и прочаго сословия лицам, что ежели с настоящего времени кто-либо из среды их будет замечен в принятии участия в мятеже, тогда то общество, город или деревня, к которым такие лица принадлежат, отныне *будут отвечать всем миром за каждого* (курсіў наш. – *В. М.*). Притом внушили старостам всех волостей, чтобы они за шляхтой и прочего сословия лицами в районе их обществ проживающими имели бдительный надзор»[4].

Гэтыя меры ў павеце не мелі станоўчага для ўлад выніку, паколькі вясной паступіла аператыўная інфармацыя, што жыхары засцен-

[1] Циркулярное предписание губернатора … Арк. 82.

[2] Там жа. Арк. 81–81адв., 83–84.

[3] Там жа. Арк. 173–173адв.

[4] Там жа. Арк. 146–147.

ка Святое і ваколіцы Лозіна дастаўлялі харчаванне паўстанцам атрада Ляскоўскага. Ваенны начальнік Барысаўскага павета ў рапарце ад 25 сакавіка 1864 г. звярнуўся да мінскага грамадзянскага губернатара з просьбай распарадзіцца аб высяленні жыхароў гэтых населеных пунктаў. Да дакумента былі далучаны падрыхтаваны спіс і вопіс маёмасці шляхты[1]. Усяго па спісе праходзіла 41 сям'я – 279 чалавек. Ці адбылася дэпартацыя, невядома, паколькі рапарты ваенных начальнікаў паветаў, загады губернатара ці канфірмацыі адносна гэтых ваколіц у справе адсутнічаюць.

Такім чынам, у спісы падазроных шляхецкіх ваколіц і засценкаў Мінскай губерні падчас і пасля паўстання 1863–1864 гг. трапілі населеныя пункты, ваколіцы: Суцін, Гіжгайлава, Французская Грэбля, Падкоссе, Гапоцева, Рэпіца, Сёмкава Слабада, Спусціха, Уборкі, Гайдукова Слабада, Жабіхава, Валадута, Рачыборкі, Дубовы Лог, Можанкі, Старая Гута, Падшопкі, Тарнагоркі Ігуменскага павета, Дамбровіца, Кралірыеўка, Межнікі, Мількевічы, Русілаўка, Дашкевічы Навагрудскага павета, Кустовіца Мазырскага павета, засценкі Святое і Лозіна Барысаўскага павета з агульнай колькасцю насельніцтва каля 1,5 тыс. чалавек. Акрамя таго, туды ўвайшлі мястэчкі Уселюб і Новая Мыш Навагрудскага павета. Асноўнымі прычынамі падазрэнняў былі арышт каго-небудзь з жыхароў ваколіцы за ўдзел у паўстанні, дзеянне ў наваколлі паўстанцкага атрада, даносы сялян ці духавенства начальству павета пра дапамогу жыхароў ваколіц паўстанцам.

Жыхары пералічаных неселеных пунктаў аказаліся пад пагрозай высялення, аднак улады не пайшлі на масавае высяленне. Асноўнай прычынай адмовы ад гэтага былі высокія кошты правядзення такіх мерапрыемстваў. Дэпартацыя дробнай шляхты ахапіла толькі частку насельніцтва падазроных ваколіц, прычым у першую чаргу перасялялася насельніцтва ваколіц, размешчаных у цяжкапраходных мясцовасцях, дзе былі спрыяльныя ўмовы для партызанскіх дзеянняў і складаны кантроль за жыхарамі. Выбарачная рэалізацыя дэпартацый павінна была быць застрашэннем і перасцярогай ад антыўрадавай дзейнасці для тых, хто заставаўся. Такой жа мэце служылі і масавыя кантрыбуцыі, якія спаганяліся з жыхароў ваколіц.

Дакументальна пацвярджаецца факт дэпартацыі па этапе толькі часткі насельніцтва ваколіц Суцін (166 чалавек), Рэпіца і Тарнагоркі (29 чалавек), Валадута (колькасць сасланых невядома). Усе населеныя пункты размяшчаліся ў Ігуменскім павеце. Факт высялення

[1] Циркулярное предписание губернатора ... Арк. 158–172.

насельніцтва іншых «падазроных» ваколіц Мінскай губерні патрабуе дадатковага пацвярджэння. Такім чынам, агульная колькасць перасеЛеных жыхароў шляхецкіх ваколіц, якая пацвярджаецца дакументальна, складае не менш 200 чалавек. Гэта дазваляе сцвярджаць, што колькасць дробнай шляхты, дэпартаванай з усіх беларускіх губерняў, сягае па меншай меры 700 чалавек, але, хутчэй за ўсё, гэта лічба не з'яўляецца поўнай і канчатковай і можа даходзіць да 1,5 тыс. чалавек. З упэўненасцю можна сказаць, што далейшыя архіўныя даследаванні, у першую чаргу ў расійскіх архівах, дазволяць удакладніць даныя.

Аналізуючы інфармацыю дакументаў, неабходна таксама адзначыць, што пад высяленне і перасяленне трапляла не толькі дробная шляхта, але часам і сяляне, што пражывалі з ёй у адных ваколіцах[1]. Міравы пасрэднік другога ўчастка Барысаўскага павета даносіў мінскаму губернатару А. Кажэўнікаву: «...многие крестьяне собственники... жительствующие в застенках, состоящие из одного, двух, трех дворов, обращаются ко мне с просьбами о дозволении им оставаться на нынешних местах поселения; с которых вынестись немедленно заставляют их военно-полицейское управление...»[2].

З аналізу дакумента таксама відаць, што ў адносінах да падазронай дробнай шляхты і сялян прымяняліся адначасова і больш лагодныя перасяленчыя меры – перасяленне ў суседнія мясцовасці, дзе б улады маглі ажыццяўляць лепшы кантроль за перамешчанымі асобамі.

## ЗАВЯРШАЛЬНЫ ЭТАП РАЗБОРУ ШЛЯХТЫ (1860–90-я гг.)

Пачатак паўстання 1863 г. і значны ўдзел у ім дробнай шляхты, у тым ліку легітымізуючайся, схіліў улады да прыняцця кардынальных мер у справе вырашэння яе прававога становішча. З аднаго боку, такія мерапрыемствы можна разглядаць як акт помсты шляхце за ўдзел у паўстанні, а з іншага боку, ваеннае становішча, якое было ўведзена ў заходніх губернях, давала магчымасць уладам правесці мерапрыемствы, якія даўно

[1] Магчыма, за асобамі гэтых сялян хавалася ўсё тая ж шляхта, якая не даказала дваранства і такім чынам спрабавала пазбегнуць высялення, што фармальна тычылася дробнай шляхты, а не сялян. Падобныя выпадкі часта фіксаваліся і следствам пры разборы спраў паўстанцаў, якія, разлічваючы на больш лаяльныя да іх адносіны і прысуды, называлі сябе сялянамі, а не шляхціцамі.

[2] Циркулярное предписание губернатора ... Арк. 54.

для іх наспелі. Улады пайшлі на чарговы, вельмі важны крок у палітыцы разбору шляхты, роўны па сваёй значнасці Закону ад 19 кастрычніка 1831 г. Яны наважыліся на дэкласацыю той шляхты, якая так і не даказала канчаткова дваранства перад Герольдыяй, але і не была прыпісана ў падаткаабкладаныя катэгорыі – так званай «легітымізуючайся» шляхты.

Адным з першых мерапрыемстваў у гэтым напрамку было патрабаванне да мясцовых улад скласці спісы такой шляхты. 17 снежня 1863 г. Сенат строга прадпісаў Віленскаму, Віцебскаму, Валынскаму, Гродзенскаму, Кіеўскаму, Ковенскаму, Мінскаму, Магілёўскаму і Падольскаму дваранскім дэпутацкім сходам падаць да 1 сакавіка 1864 г. імянныя ведамасці няскончаных спраў аб «польскай шляхце», якія знаходзяцца ў дваранскіх сходах, а таксама алфавітныя паказальнікі «польскай шляхты», якая даказвае сваё дваранства. Кантроль за выкананнем прадпісання ўскладаўся на віленскага і кіеўскага генерал-губернатараў і губернатараў Віцебскай і Магілёўскай губерняў[1]. На месцах сур'ёзна ўзяліся за выкананне патрабаванняў. Віцебскі губернатар 9 студзеня запатрабаваў ад Віцебскага дваранскага сходу паведамляць аб прасоўванні справы праз кожныя два тыдні[2]. 3 сакавіка 1864 г. Віцебскі дваранскі дэпутацкі сход праінфармаваў губернатара аб складанні чарнавой ведамасці, а 17 сакавіка – аб тым, што ведамасць і алфавітны паказальнік накіраваны ў Герольдыю[3].

Сабраўшы звесткі, улады ўказам ад 4 ліпеня 1863 г. спынялі ўсе справы аб доказе дваранства «былой шляхтай» «да часу поўнага падаўлення польскага паўстання і разгляду спраў паўстанцаў»[4].

Ініцыятарам кардынальных крокаў у адносінах да легітымізуючайся шляхты выступіў генерал-губернатар М. Мураўёў. У 1864 г. ён звярнуўся з прапановамі ў Заходні камітэт:

«Правительство, несмотря на то, что с 1830 г. постоянно признавало вредным в здешнем крае шляхетское население, предоставляло ему все средства и льготы к приобретению прав дворянства, и только 12 июля 1863 г. повелено, впредь до усмирения польского мятежа и раз-

[1] О приведении в известность числа неоконченных дел о дворянском достоинстве лиц бывшей польской шляхты // НГАБ. Ф. 2626. Воп. 1. Спр. 298. Арк. 1.

[2] Там жа. Арк. 5.

[3] Там жа. Арк. 15, 21.

[4] О приостановлении рассмотрения дел о дворянском достоинстве лиц из бывшей польской шляхты. 4 июля 1863 г. № 39825 // ПСЗ II. Т. 38. Отд-ние 1 ; Дело о приостановлении рассмотрения дел о дворянстве лиц из бывшей польской шляхты. 1863–1864 гг. // НГАБ. Ф. 2512. Воп. 1. Спр. 569.

бора дел об ответственности мятежников, приостановиться окончательным рассмотрением дел о дворянском достоинстве лиц из бывшей польской шляхты.

Приняв в основание высочайшее повеление 5-го ноября 1841 г., следовало бы все дела, возвращенные из Герольдии для дополнения, все дела депутатских собраний, не представленные в Герольдию, прекратить, т. к. правительствующий Сенат и Депутатские собрания, дополняя дела, признали, что доказательства, представленные до 1844 г., не достаточны. Но допущенные справки, приписка к родам утвержденным или доказывающим дворянство, дозволение представлять дополнительные документы имеют силу и значение новых доказательств; они присвояют им права, которыми они не могли бы пользоваться по предъявленным до 1844 г. документам. Приданное объяснение высочайшему повелению изменяет его смысл и ведет к противоположной цели.

Правительство, твердо охраняя дворянские права своих подданных, должно положить преграду вступлению в это сословие лицам, не имеющим на то законных прав, и сделавшимся особенно вредными вследствии тех облегчений, которые давало им правительство к доказыванию дворянства, и тем самым возможность под разными предлогами уклоняться от записки в податные сословия, а потому необходимо:

1. Решить производящиеся в Герольдии дела, на основании тех имеющихся документов, которые представлены в Герольдию до 1844 г., не требуя новых доказательств и дополнений. Все же дела, кои возвращены были Герольдиею в дворянские депутатские собрания для дополнения и представления более удовлетворительных доказательств – прекратить.

2. Равным образом прекратить и все дела в дворянских депутатских собраниях, кои до 12 июня 1863 г., т. е. до указа о приостановлении дел о дворянстве лиц из бывшей польской шляхты, не были представлены на ревизию Герольдии, а также и дела о лицах, предъявляющих свое родство с родами, утвержденными Герольдией, или доказывающими свое дворянство.

3. Всех лиц, лишенных, на основании вышеозначенных распоряжений, прав на дальнейшее доказательство своего дворянства, немедленно записать в однодворцы и граждане городов и селений, где они находятся на жительстве, и обложить их установленными для этого класса людей повинностями со дня их приписки.

4. Лиц, уже исключенных из дворянства и не записавшихся в податные сословия, подчинить действию указа 1 августа 1857 г., и, сообразно положению 19 февраля 1861 г., т. е. оседлых, не имеющих собственности, водворять в селениях государственных крестьян и временно-обя-

занных, где они в настоящее время проживают. Водворение производить с согласия обществ, изъявленного в мирских приговорах, в случае же несогласия обществ, водворять их в губерниях великоруссийских, по распоряжению правительства, а с неоседлыми поступать на основании того-ж указа, как с бродягами»[1]. Прапановы Мураўёва былі прыняты за аснову выдадзеных законаў.

Ужо ў верасні 1864 г. былі ўведзены новыя правілы доказу дваранства для незацверджанай шляхты, што азначала пачатак жорсткай палітыкі ўлад па яе «дэкласацыі»[2]. Усе асобы, якія канчаткова не былі зацверджаны ў дваранстве, згодна з указам ад 23 верасня 1864 г. павінны былі быць залічаны да падаткаабкладаных катэгорый насельніцтва да 1 студзеня 1865 г.[3] Ахвотныя працягваць працэдуру легітымізацыі павінны былі пачаць яе зноў, будучы ўжо прыпісанымі да падаткаабкладаных катэгорый[4]. Выключэнне было зроблена толькі для асоб, што знаходзіліся на дзяржаўнай службе або мелі чыны і званні, якія згодна з заканадаўствам вызвалялі іх ад абавязку сплочвання дзяржаўных падаткаў і выканання павіннасцей. Нагляд за выкананнем закона быў ускладзены на губернатараў.

Распрацоўка гэтага ўказа ажыццяўлялася сіламі віленскага (М. М. Мураўёў) і кіеўскага (М. М. Аненкаў) генерал-губернатараў, якія выпрацоўвалі прапановы, і Міністэрствам юстыцыі на чале з міністрам Д. М. Замятніным, якое ажыццявіла агульную падрыхтоўку ўказа і яго прадстаўленне імператару і Сенату[5].

Даказваць дваранскае паходжанне не было забаронена ў прынцыпе, аднак патрабаванні і працэдура доказу значна ўскладніліся. Асобы,

---

[1] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. С. 562–563.

[2] О мерах к успешнейшему окончанию дел о правах лиц, доказывающих дворянское достоинство ...

[3] Список лицам бывшей польской шляхты, подлежащим на основании указа правительствующего сената от 23 сентября 1864 г. за № 54716 и предписания г-на министра финансов от 12 октября 1865 г. за № 2694 записи в податное состояние до 1-го января 1865 г., изъявившим желание записаться в мещане г. Бельска без согласия обществ // НГАБ у г. Гродна. Ф. 42. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 1 ; О мерах к успешнейшему окончанию дел о правах лиц, доказывающих дворянское достоинство ... Пункты 1–19.

[4] О мерах к успешнейшему окончанию дел о правах лиц, доказывающих дворянское достоинство ...

[5] Дело о замене неблагонадежных чиновников польского происхождения чиновниками русского происхождения и переписка губернаторов с уездными предводителями дворянства по этому вопросу // НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Спр. 1904. Арк. 1.

чые дакументы на дваранства ўжо былі раней разгледжаны і зацверджаны дваранскімі дэпутацкімі сходамі, аднак не былі высланы для канчатковага зацвярджэння ў Герольдыю, павінны былі згодна з законамі на працягу чатырох месяцаў падаць новыя дакументы. Новы пакет дакументаў складаўся: а) з пасведчання ад губернскага старшыні дваранства аб тым, што прасіцелі не пазбаўлены саслоўных правоў сілай заканадаўства за крымінальныя або палітычныя злачынствы і не знаходзяцца пад следствам (гэта аўтаматычна пазбаўляла права доказу дваранства асоб, пра ўдзел якіх у паўстанні або пра дапамогу паўстанцам стала вядома ўладам); б) пасведчання аб залічэнні ў падаткаабкладанае саслоўе, калі прасіцель не быў вызвалены ад гэтага ў адпаведнасці з яго рангамі і чынамі; в) аплаты 10 руб. срэбрам ад кожнай асобы за выраб пасведчання аб дваранстве ў выпадку зацвярджэння (гэта была значная сума для бедных шляхціцаў; грошы вярталіся ў выпадку адмовы Герольдыі ў зацвярджэнні, за выключэннем сумы, выдаткаванай на паштовыя маркі і звычайную паперу[1]). Такія ж дакументы патрабавалася прад'явіць асобам, справы якіх аб дваранстве ўжо былі накіраваны на канчатковае зацвярджэнне ў Герольдыю, аднак не былі яшчэ там разгледжаны. У выпадку невыканання новых патрабаванняў усе справы лічыліся скончанымі.

Збор дакументаў у чатырохмесячны тэрмін патрабаваў вялікіх клопатаў. Улічваючы тагачасныя камунікацыйныя магчымасці і бюракратычную цяганіну, укласціся ў вызначаны тэрмін было амаль нерэальна. Завершанымі таксама былі прызнаны ўсе справы аб доказе дваранства па паходжанні прасіцеляў ад «былой польскай шляхты», па якіх не было вынесена станоўчага рашэння дваранскімі дэпутацкімі сходамі да моманту агалошвання ўказа ад 13 чэрвеня 1863 г.

Аднаўленне спраў было магчымым толькі пасля падачы такіх жа дакументаў, якія былі пералічаны вышэй.

З верасня 1864 г. да разгляду не прымаліся копіі дакументаў, калі яны не былі пацверджаны арыгіналамі, у тым ліку тыя выпіскі з актавых кніг, арыгіналы якіх былі знішчаны пажарамі і іншымі здарэннямі[2]. Як нам вядома, з выпісамі са згарэлых актавых кніг у якасці доказу дваранства раней звярталіся многія. Яны фабрыкаваліся. Мінскі дваранскі дэпутацкі сход толькі ў 1861–1862 гг. выслаў дзясяткі запытаў у Мінскі павятовы суд з просьбай

[1] О мерах к успешнейшему окончанию дел о правах лиц, доказывающих дворянское достоинство ... Пункты 1–5.

[2] Там жа. Пункт 6.

паведаміць, ці ёсць у актах Галоўнага Літоўскага Трыбунала звесткі пра тыя ці іншыя роды, якія даказваюць дваранства. Запыты тычыліся і актавых кніг земскага суда Мінскага ваяводства. Як вынікае з рапартаў Мінскага павятовага суда па гэтых справах, усе дакументы згарэлі падчас пажару ў Мінску ў 1762 г.[1] Выкарыстанне падробленых выпісаў са згарэлых актавых кніг было шанцам для легалізацыі сфабрыкаваных дакументаў, зверыць якія з арыгіналам не было магчымым. Нягледзячы на гэта, а таксама на неаднаразовыя спробы забараніць прыняцце на разгляд такіх дакументаў, яшчэ ў 1843 г. іх падача была дазволена. Гэта было звязана з тым, што з юрыдычнага пункту гледжання немагчыма было даказаць, што ўсе выпісы са згарэлых актавых кніг былі падроблены[2]. Канчаткова забаронена падача такіх дакументаў была толькі ў 1864 г. Калі дакументы актавых кніг не былі знішчаны, то, акрамя зверкі дакумента, праводзілася таксама працэдура верыфікацыі подпісаў, як, напрыклад, у справе Татураў[3].

Ускладнялася таксама працэдура падачы дакументаў на зацвярджэнне. Быў адменены закон, які дазваляў «асобам былой польскай шляхты» падаваць патрабаваныя копіі дакументаў на зацвярджэнне ў дваранстве на звычайнай паперы. Цяпер для гэтых мэт трэба было выкарыстоўваць гербавую паперу, кошт якой быў 5 руб. за аркуш, што для незаможнай шляхты было вельмі значнай сумай. Таксама быў адменены закон, які дазваляў выдаваць маладым, не зацверджаным у дваранстве шляхціцам, якія паступілі на дзяржаўную службу, пасведчанні аб тым, што яны знаходзяцца ў стане даказвання свайго дваранскага паходжання, што раней дазваляла ім да моманту канчатковага разгляду іх справы займаць службовую пасаду. Безумоўна, адмененыя правілы раней былі значнай палёгкай пры доказе дваранства беднай шляхтай, але адначасова яны з'яўляліся крыніцай усялякіх злоўжыванняў, хабарніцтва і махлярства з боку як саміх шляхціцаў, так і чыноўнікаў.

Фактычна ўся не зацверджаная Герольдыяй шляхта павінна была пачынаць новы збор дакументаў па новых, больш жорсткіх правілах. Но-

[1] Рапорты минского уездного суда. Дело об установлении дворянского происхождения разных лиц. 1861–1888 // НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Спр. 1415. Арк. 25–26, 63, 92.

[2] О мерах к успешнейшему окончанию дел о правах лиц, доказывающих дворянское достоинство ... Пункты 1–5.

[3] Рапорты минского уездного суда. Дело об установлении дворянского происхождения ... Арк. 32 ; О дворянстве. Пункт 75. С. 21.

вая працэдура вымагала таксама большых фінансавых выдаткаў. Выраб дакументаў каштаваў толькі 40 кап., а рэшта сумы, больш за 9 руб., пераводзілася дваранскімі дэпутацкімі сходамі на дэпазіты Дэпартамента герольдыі. З 1882 г. Сенат запатрабаваў, каб самі прасіцелі адразу пераводзілі дзесяцірублёвы збор праз павятовыя і губернскія казначэйствы на дэпазіты Герольдыі. У казначэйствах на гэта выдавалася спецыяльная квітанцыя, якая падавалася ў Герольдыю разам з пакетам дакументаў[1]. Аднак выдаткі на дакументы не абмяжоўваліся дзесяцірублёвым узносам. Шляхціцам неабходна было заплаціць за казначэйскую марку, якая наклейвалася на кожны выпіс з метрычнай кнігі па 60 кап.[2] У саміх выпісах адзначалася, з якой кнігі ён зроблены і ці была кніга прагледжана рэвізійнай камісіяй, ці ёсць да яе заўвагі.

Новыя правілы падачы дакументаў на разгляд былі ўскладнены не толькі фармальнымі і фінансавымі патрабаваннямі. Пераведзенай у падаткаабкладаныя катэгорыі былой легітымізуючайся шляхце згодна з указам ад 23 верасня 1864 г. для аднаўлення сваіх спраў неабходна было таксама мець даведку аб палітычнай надзейнасці, засведчаную губернатарам і губернскім дваранскім старшынёй. Такія ж даведкі прад'яўляліся ў выпадку сузалічэння да роду, які ўжо быў зацверджаны ў дваранстве[3]. У сваю чаргу, старшыні дваранства пасля 1863 г. амаль выключна прызначаліся ўрадам. Такім чынам, магчымасць аднаўлення ў дваранстве фактычна цалкам знаходзілася ў руках расійскіх чыноўнікаў.

Уся шляхта, не зацверджаная ў дваранстве, павінна была прыпісацца ў сяляне ці мяшчане. З Закона ад 31 снежня 1865 г., які больш дакладна рэгламентаваў правілы прыпіскі шляхты ў падаткаабкладаныя катэгорыі, вынікае, што шляхта намагалася ўсяляк яе пазбягаць. Указвалася, што правілы ад 23 верасня 1864 г. вызначалі тэрмін падачы рэвізійных сказак асобамі былой шляхты да 1 студзеня 1865 г. Згодна з новаўведзенымі правіламі, асобы «былой польскай шляхты», якія падалі рэвізскія сказкі да 1 студзеня 1866 г., павінны былі быць запісаны, паводле іх жадання, да сялянскіх або мяшчанскіх падатковых таварыстваў у выпадку, калі для гэтага не будзе, як зазначана ва ўказе, «законных перашкод». Асобы, якія не склалі рэвізскіх

---

[1] Дело о правилах причисления к дворянству бывшей польской шляхты 1883–1884 // LVIA. Ф. 391. Воп. 6. Спр. 1823. Арк. 1–3.

[2] Переписка об установлении дворянского происхождения // НГАБ. Ф. 319. Воп. 1. Спр. 524. Арк. 91–92адв.

[3] Там жа. Арк. 40.

сказак, неадкладна павінны былі быць прыпісаны да таварystваў у адпаведнасці з месцам іх сталай аселасці, г. зн. тыя, што жылі ў гарадах і займаліся там рамёствамі або наймам, – да гарадскіх падатковых таварystваў, а якія жылі на дзяржаўных, прыватных або панскіх землях ці знаходзіліся на прыватнай службе па вёсках і маёнтках – да таварystваў дзяржаўных сялян або сялян-землеўласнікаў. Асобы, уключаныя ў сялянскае саслоўе, былі на тры гады пазбаўлены права пераходу ў іншыя саслоўі[1].

Многія шляхціцы, асабліва крыху больш заможныя, кіруючыся сваім «шляхецкім гонарам» і не жадаючы зліваццa з сялянствам, падначальваццa мясцоваму валасному кіраўніцтву і імкнучыся захаваць хоць нейкі асобы статус, прыпісваліся не ў сяляне, а ў мяшчане часам аддаленых ад іх гарадоў. Такім чынам, яны таксама не неслі натуральных і мірскіх павіннасцей, пазбягалі падушнага падатку, адмененага для мяшчан[2]. Гэтым тлумачыцца вялікая колькасць мяшчан у спісе сельскага насельніцтва Мінскай губерні 1870 г., да якіх, па адзначаных прычынах, запісвалася якраз шляхта[3].

Выключэнне з правіл аб абавязковым залічэнні да падаткаабкладаных саслоўяў было зроблена для дробнай шляхты татарскага паходжання, якая была пакінута ў шляхецкіх спісах, і, хоць правілы аб абавязковым зацвярджэнні ў Герольдыі тычыліся і яе, яна не павінна была так спяшацца і прыпісваццa да падаткаабкладаных катэгорый, а ўлады трактавалі такую шляхту нароўні з зацверджанай Дэпартаментам герольдыі Сената[4]. Татарскую шляхту практычна не закрануў разбор, бо падчас выступленняў супраць улад яна прадэманстравала сваю лаяльнасць[5], што адзначаў сам М. Мураўёў: «Татары владеющие имениями и живущие в околицах отличают себя особым добронравием, спокойствием и неучастием в политических происшествиях»[6].

У сваю чаргу, прычынай лаяльнасці да ўлад татарскай шляхты маглі стаць абмежаванні правоў татар, уведзеныя ў дзеянне ў апошнія

---

[1] О порядке приписки лиц бывшей польской шляхты в податные состояния.

[2] Опыт описания Могилевской губернии ... Кн. 1. С. 607.

[3] Список волостей, обществ и селений Минской губернии.

[4] *Dumin S. W.* Szlachta tatarska na ziemiach wschodnich dawnej Rzeczypospolitej w latach 1795–1999. S. 542–543 ; Список дворян и их имений по Новогрудскому уезду за 1878 г. // НГАБ. Ф. 1081. Воп. 1. Спр. 2 ; *Думін С. У.* Беларускія татары. Мінск, 1993.

[5] *Луговцова С. Л.* Политика российского самодержавия ... с. 66.

[6] Запіска і прапановы Гродзенскага губернатара М. М. Мураўёва. С. 354.

дзесяцігоддзі існавання Рэчы Паспалітай з боку як цэнтральных улад, так і магнатаў[1].

Запіс у сялянскія таварыствы былой шляхты мог адбывацца без згоды таварыства, а таксама без зямлі ў выпадку, калі два бакі гэтага пажадаюць, але з абавязковай асабістай адказнасцю за выкананне павіннасцей і сплочванне падаткаў. Такія ўмовы гарантавалі таварыству, што новазалічаны падаткаплацельшчык не стане цяжарам грамадзе ў сплочванні падаткаў і не трэба будзе ўразаць сялянскія надзелы зямлі пад надзел новаму члену. Уладам было важна, каб новазалічаная асоба была пад наглядам чыноўнікаў. Такія асобы былі пазбаўлены на тры гады права ўдзелу ў грамадскіх выбарах, а пасля дадзенага тэрміну гэтым правам маглі карыстацца толькі асобы, якія стала пражывалі ў складзе грамады і заслужылі давер улад.

З ваколічнай шляхты дазвалялася ствараць і асобныя таварыствы, адказныя за сплочванне падаткаў і выкананне павіннасцей, але толькі ў тым выпадку, калі ваколіцы былі вялікія і знаходзіліся на значнай адлегласці ад сялянскіх таварыстваў. Адначасова ўсе ваколіцы павінны былі быць уключаны ў склад найбліжэйшых валасцей дзяржаўных або прыватнаўласніцкіх сялян, што павінна было спрыяць змешванню шляхты з сялянамі, сціранню яе традыцыйнай адасобленасці ад апошніх. Калі ж таварыствы і ствараліся з былых шляхецкіх ваколіц, то ў іх не было прадугледжана самакіравання і выбараў на ўзор сялянскіх таварыстваў. На ўсе пасады прызначаліся вызначаныя губернатарам асобы[2].

У рэчаіснасці закон 1865 г. аб прыпісанні ў падаткаабкладаныя катэгорыі былой шляхты быў рэалізаваны са спазненнем. Так, напрыклад, у 1869 г. у Слуцкім і Пінскім паветах існавала значная частка не зацверджанай у дваранстве і не далучанай да сялян шляхты[3]. Акрамя таго, «Спіс валасцей, таварыстваў і пасяленняў Мінскай губерні» 1870 г. сведчыць, што мясцовыя ўлады, як і раней, асобна ўлічвалі катэгорыі насельніцтва, якія адносіліся да былой дробнай шляхты[4]. Нягледзячы на тое што катэгорыі аднадворцаў і грамадзян былі ліквідаваны ў 1868 г., засталіся асобы, якія не былі ўключаны ні да сялян, ні да мяшчан.

Нягледзячы на ўсе перашкоды, у 1860–90-я гг. шляхта ўпарта працягвала адшукваць дакументы і дамагацца залічэння ў дваранства.

---

[1] *Rychlikowa I.* Tatarzy litewscy 1764–1831 częścią szlacheckiego stanu // Kwartalnik Hist. 1990. № 3/4. S. 81–85.

[2] О порядке приписки лиц бывшей польской шляхты в податные состояния.

[3] *Тальвирская З. Я.* К вопросу о социальном облике мелкого дворянства в 1860-х годах.

[4] Список волостей, обществ и селений Минской губернии.

У 1866 г. у Гродзенскай губерні чакалі разгляду сваёй справы 4380 сем'яў (каля 20 тыс. чалавек), з якіх сельскай гаспадаркай займалася 3861 сям'я і толькі 511 былі звязаны з іншымі сферамі дзейнасці[1].

Шэраг указаў і дакументы, якія адносяцца да Мінскай губерні, дазваляюць сцвярджаць, што немалой колькасці дробных шляхціцаў удавалася зацвердзіцца ў дваранскім саслоўі і ў наступныя дзесяцігоддзі, нават асобам, якія былі ўзяты ў войска па рэкруцкім наборы. Сем'і, чые сыны былі ўзяты ў рэкруты, з падвойным стараннем імкнуліся даказаць дваранства і вярнуць сыноў у сям'ю, таму выпадкі даказвання дваранства рэкрутамі з былой шляхты не былі рэдкасцю. Калі рэкрутам удавалася даказаць сваё дваранскае паходжанне, вайсковыя ўлады вымушаны былі іх дэмабілізаваць і ўзамен патрабавалі ад сельскіх і гарадскіх таварыстваў новых рэкрутаў. Таварыствы ў гэтым адмаўлялі, спасылаючыся на тое, што рэкруты былі пастаўлены. Такі распаўсюджаны ў беларускіх губернях юрыдычны казус вырашыў царскі ўказ ад 1 сакавіка 1874 г., якім забаранялася патрабаваць ад таварыстваў новых рэкрутаў узамен вернутых з вайсковай службы асоб «былой польскай шляхты», якія даказалі свае правы дваранства пасля здачы іх ужо ў рэкруты[2]. Верагодна, сярод асоб, якія адважыліся зноў распачаць працэдуру доказу дваранства, было шмат сем'яў, у якіх нехта з блізкіх сваякоў быў забраны ў рэкруты. Забранне блізкага сваяка на рэкруцкую службу магло быць сур'ёзным і вырашальным стымулам для не зацверджанай у дваранстве дробнашляхецкай сям'і, каб усё ж скончыць і прайсці працэдуру доказу дваранства, якая пасля 1864 г. стала такой дарагой і разаральнай. Цэны былі немалымі, а паборы не абмяжоўваліся выдаткамі на падачу дакументаў у Герольдыю. Вялікія выдаткі чакалі шляхецкія сем'і і ў выпадку іх зацвярджэння ў расійскім дваранстве Герольдыяй. Так, Дваранскім дэпутацкім сходам вызначалася таксама сума, якая спаганялася за запіс у дваранскую кнігу, прычым у розных губернях яна магла адрознівацца. Пазней на карысць казны спаганяліся яшчэ грошы за выраб пасведчання аб дваранстве[3]. Сам факт падрыхтоўкі даклада міністра ўнутраных спраў наконт

[1] *Жытко А. П.* Да пытання аб разборы шляхты на Беларусі ў XIX ст. С. 73.

[2] О не требовании с обществ новых рекрут взамен возвращенных из военной службы лиц бывшей польской шляхты, доказавших права дворянства по сдаче их уже в рекруты. 1 марта 1874 г. № 53206 // ПСЗ II. Т. 49.

[3] НГАБ. Ф. 2626. Воп. 1. Спр. 405. Арк. 128 ; Свод законов Российской империи. Издание 1876 г. : в 15 т. СПб., 1876. Т. 9. С. 261. Пункт 2, стб. 262, 275, 1113.

зацвярджэння рэкрутаў у дваранстве і заслухоўванне справы ў Сенаце сведчаць, што гэта была не адзінкавая справа.

Пра тое, што доказы дваранскага паходжання не спыніліся і ў 1880-я гг., сведчыць указ 1882 г., паводле якога дзесяцірублёвы збор за выраб пасведчання аб дваранстве павінен быў пераводзіцца ў Дзяржаўнае казначэйства[1]. Паколькі справа вырашалася на такім высокім узроўні, можна меркаваць пра значную суму збораў і пра вялікую колькасць асоб, якія ў гэты перыяд зацвярджаліся ў дваранстве. Аб колькасці дробнай шляхты ў Мінскай губерні, якая даказвала дваранства ў другой палове 1860-х – 1880-я гг., сведчаць некаторыя выяўленыя архіўныя дакументы. Так, на 1886 г. у Мінскім дваранскім дэпутацкім сходзе накапілася сума дзесяцірублёвага збору ў 20 329 руб. 86 кап. разам з дадатковымі аплатамі на паперу і паштовыя паслугі[2]. Значыць, колькасць шляхціцаў, якія падалі дакументы, толькі па Мінскай губерні з 1865 па 1886 г. магла дасягаць 2 тыс. чалавек. Захавалася ў архіве і ведамасць з прозвішчамі асоб «былой шляхты» аб сплочаным імі дзесяцірублёвым зборы. З 1864 па 1888 г. у Мінскай губерні выплаты былі спагнаны з 557 сем'яў. Дзве траціны ад усіх выплат адносяцца да перыяду перад 1874 г. З другой паловы 1870-х гг. па 1888 г. колькасць такіх асоб значна зменшылася – у Мінскай губерні толькі 135 сем'яў шляхціцаў намагаліся выйсці з падаткаабкладаных саслоўяў і зацвердзіцца ў дваранстве. У канцы 1880-х гг. гэта былі ўжо толькі адзінкавыя сем'і[3]. Такую з'яву можна патлумачыць тым, што ў 1874 г. у выніку ваеннай рэформы ў імперыі была адменена рэкруцкая служба і перастаў існаваць той вырашальны фактар, які падштурхоўваў дробную шляхту да доказу дваранскага паходжання такімі высокімі коштамі. Рэкруцкая служба была і асабістай, і агульнай трагедыяй для цэлай сям'і як для сялян, так і для шляхты, таму ў ход ішлі ўсе магчымыя грашовыя і іншыя сродкі дзеля таго, каб яе пазбегнуць, у тым ліку нават самакалечанне. Для шляхты рэкрутчына была яшчэ больш ганебнай тым, што прыніжала яе годнасць. На гэта, пішучы пра Украіну, звяртае ўвагу і Д. Бувуа[4].

---

[1] Об обращении в государственные доходы десятирублевого сбора с лиц, отыскивающих дворянство по происхождению от бывшей польской шляхты. № 1237 // Полное собрание законов Российской империи. Собрание 3-е : в 33 т. СПб., 1885–1916 (далей – ПСЗ III). Т. 2. 1886.

[2] Указ Сената от 31 мая 1896 года о пошлинных сборах ... Арк. 70.

[3] Ведомость о 10-рублевом сборе с лиц бывшей польской шляхты, отыскивающих дворянство. 1864–1888 гг. // НГАБ. Ф. 319. Воп. 1. Спр. 467.

[4] *Beauvois D.* Trójkąt ukraiński ... S. 586.

У другой палове 1860-х – 1870-я гг. па-ранейшаму мелі месца і злоўжыванні пры выдачы дакументаў дваранскімі сходамі. Так, у 1867 г. па загадзе віленскага генерал-губернатара Э. Баранава была ўтворана камісія для раскрыцця злоўжыванняў пры выдачы дакументаў Віленскім дваранскім дэпутацкім сходам. Двухгадовы перыяд дзейнасці камісіі выявіў факты незаконнай выдачы дакументаў аб дваранскай годнасці[1].

Хоць фармальна пасля 1864 г. катэгорыя так званай «легітымізуючайся», ці «доказывающей права дворянства», шляхты перастала існаваць, шляхціцы, якія працягвалі змагацца за свае правы, пры кожнай нагодзе імкнуліся падкрэсліць тое, што яны працягваюць даказваць правы дваранства. Якую карысць для іх гэта давала? Можна меркаваць, што гэта не заўсёды быў толькі снабізм і імкненне паказаць сваё «высакароднае» паходжанне. Хутчэй за ўсё, для сацыяльнага статусу гэта магло яшчэ мець пэўнае значэнне. Для прыкладу тут можам прывесці прашэнне, датаванае 1874 г., ад Ніжкоўскага валаснога праўлення ў магілёўскую кантору багаўгодных установаў, падпісанае валасным старшынёй Сцяпанавым і валасным пісарам –нейкім Хржаноўскім. У ім праўленне просіць прыняць на лячэнне ў радзільнае аддзяленне канторы багаўгодных установаў «жену доказывающего права дворянства, причисленного к городскому сословию Павлину Севастьянову Хржановскую»[2] (відаць, вельмі блізкую сваячку валаснога пісара). Дакумент дае да развагі дзве рэчы – відавочнае імкненне Хржаноўскага ўказаць на статус сваячкі, якая адносіцца да катэгорыі людзей хоць і не належнай да дваранскага саслоўя, але «доказывающей» да яго прыналежнасць. Гэта магло мець уплыў і на лепшае трактаванне асобы з боку чыноўнікаў. Звяртае на сябе ўвагу і той факт, што сам Хржаноўскі, які быў пісарам валаснога праўлення, відаць таксама з «незацверджанай шляхты», праз валаснае праўленне і сваю пісьменнасць мог «лабіраваць» інтарэсы ўсяго роду. Тут цікава таксама тое, што выдаткі на лячэнне брала на сябе валаснае праўленне. Хржаноўскі ўладкаваўся на пасаду, хутчэй за ўсё, дзякуючы сваёй пісьменнасці, якая значна павышала сацыяльны статус асобы ў грамадстве.

Калі шляхецкаму роду ўдавалася прайсці легітымізацыю ў Герольдыі, губернскі дваранскі сход звяртаўся ў губернскую казённую палату з просьбай аб выключэнні прадстаўнікоў роду з ліку сялян ці мяшчан[3].

---

[1] *Каханоўскі А.* Сацыяльная трансфармацыя беларускага грамадства (1861–1914). С. 152.

[2] О пользовании платных лиц и о взыскании за них денег от подлежащих ведомств и лиц // НГАБ. Ф. 2298. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 10.

[3] Переписка об установлении дворянского происхождения. Арк. 48–48адв.

Адным са шляхоў доказу дробнай шляхтай дваранства ў другой палове XIX ст. была падача дакументаў аб блізкім сваяцтве з тымі, хто ўжо быў у дваранстве зацверджаны. Падобная працэдура таксама каштавала нятанна, бо трэба было заплаціць па 10 руб. за кожную асобу, якая сузалічалася да роду[1]. Прыкладам сузалічэння можа паслужыць справа селяніна Дрысенскага павета Даміника і аднадворцаў Івана і Каэтана Якавіцкіх. Яны даказвалі дваранства праз сваяцтва з зацверджаным Герольдыяй дваранінам Іванам Якавіцкім. Апошні падаў сведчанне пра тое, што Дамінік Якавіцкі з'яўляецца яго стрыечным братам, а аднадворцы Іван і Каэтан – стрыечнымі пляменнікамі. У пацвярджэнне гэтага былі далучаны выпісы з метрычных кніг. Селянін Іван Якавіцкі тлумачыў прычыну таго, чаму раней не падаваў дакументы на дваранства, тым, што ў яго адсутнічалі метрычныя выпісы[2].

Падобныя сузалічэнні да дваранскіх родаў сталі масавай з'явай ў 1880–90-я гг. і нават у пачатку XX ст. Для сузалічэння, у выпадку наяўнасці зацверджаных у дваранстве прадстаўнікоў роду, патрабавалася падаць дакументы пра несудзімасць і спраўнае выкананне грамадскіх павіннасцей[3]. Да пачатку 80-х гг. XIX ст. у Герольдыі ўтварылася чарга на прагляд і зацвярджэнне сузалічэнняў[4]. Каб паскорыць разгляд дакументаў, ужо ў 1883 г. усю працэдуру было дазволена праводзіць толькі праз дваранскі дэпутацкі сход[5]. У выніку на мясцовым узроўні вырашыць праблему сузалічэння стала яшчэ прасцей. Лягчэйшай стала і фабрыкацыя дакументаў. Многія бар'еры дапамагалі пераадолець грошы. Можна меркаваць, што шматлікім разбагацелым сем'ям нешляхетнага паходжання «сузалічэнне» праз дваранскія дэпутацкія сходы дало магчымасць залічыцца ў дваранскае саслоўе. Знайсці цёзку па прозвішчы з ліку зацверджаных у дваранстве асоб для многіх не было вялікай цяжкасцю, а падробка метрыкі была справай тэхнікі.

---

[1] Дело о представлении лицами, причисляющимися к дворянским родам, пошлин по 10 р. на каждое лицо и установленных удостоверений. 1864–65 гг. // НГАБ. Ф. 2512. Воп. 1. Спр. 638.

[2] Наряд удостоверениям лиц бывшей польской шляхты, не утвержденных в дворянстве // НГАБ. Ф. 2626. Воп. 1. Спр. 348.

[3] *Каханоўскі А.* Сацыяльная трансфармацыя беларускага грамадства (1861–1914). С. 152.

[4] По вопросу о том, кому предоставлять на просмотр определения дворянских депутатских собраний девяти западных губерний о сопричислении лиц, родившихся после утверждения отцов в дворянстве, в виду упразднения должности губернских прокуроров в сих губерниях. 12 янв. 1888 г. № 4942 // ПСЗ III. Т. 8. 1890.

[5] Дело о правилах причисления к дворянству бывшей польской шляхты 1883–1884. Арк. 2.

На разгляд Герольдыі не дасылаліся таксама дакументы аб дваранскім паходжанні асоб, якія нарадзіліся пасля канчатковага зацвярджэння іх роду ў дваранстве. Яны зацвярджаліся толькі дваранскімі сходамі, а дакументы накіроўваліся на прагляд губернскіх пракурораў, якія толькі ў выпадку няправільнасці вызначэнняў адсылалі свае пратэсты разам з дакументамі дваранскіх сходаў у Дэпартамент герольдыі[1].

Пасля ўказа 1864 г. захавалася магчымасць атрымання дваранства праз службу. Такія дваране ўносіліся ў трэцюю частку радаводных кніг. Асабістае дваранства надавалася пры дасягненні дзявятага класа «Табеля аб рангах», спадчыннае – чацвёртага класа (сапраўдны стацкі саветнік).

У Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу захоўваюцца геральдычныя спісы шляхты беларускіх губерняў. Спісы Мінскай і Віцебскай губерняў утрымліваюць звесткі пра дату зацвярджэння дакументаў Герольдыяй. Гэта дазваляе вызначыць, калі за перыяд з канца XVIII да пачатку XX ст. Герольдыяй была зацверджана асноўная частка шляхты. Даныя дзвюх губерняў паказваюць, што амаль 75 % (2287) усіх зацверджаных за больш чым стагоддзе родаў (3081) былі зацверджаны ў перыяд 1830–60-х гг.[2]

Нягледзячы на прымусовы перавод у 1865 г. у падаткаабкладаныя катэгорыі не зацверджаных Герольдыяй шляхціцаў, яны не пакідалі надзеі аднавіцца ў дваранскім званні ні ў 1860-я, ні ў 1870-я, ні нават у 1890-я гг. Некаторым гэта ўдавалася легальна, многія карысталіся крымінальнымі ці нелегальнымі паслугамі. З мэтай абмежавання колькасці асоб з маламаёмаснай шляхты, якія жадалі вярнуць сабе дваранскія правы, нават у 1890-я гг. на іх ускладаліся значныя пошлінныя зборы за разгляд дакументаў[3].

Усе выдадзеныя пасля 1863 г. указы, якія тычыліся дробнай шляхты, аднадворцаў і грамадзян, выразна ілюструюць намеры ўрада ў дачыненні да гэтай катэгорыі насельніцтва. Урад імкнуўся як найхутчэй ліквідаваць усе прававыя прывілеі і ментальныя адрозненні шляхты.

Самі ўлады працягвалі ўспрымаць былую шляхту як асобную катэгорыю. Так, у справаздачы мінскага губернатара за 1876 г. ужываецца тэрмін «так званая шляхта»[4]. У заканадаўстве і пасля 1860-х гг. можна сустрэць тэрмін «былая польская шляхта», як у Законе ад 20 лістапада

---

[1] О мерах к успешнейшему окончанию дел о правах лиц, доказывающих дворянское достоинство ... Пункт 6.

[2] Spis szlachty wylegitymowanej w guberniach grodzieńskiej ... S. 11.

[3] Указ Сената от 31 мая 1896 года о пошлинных сборах ...

[4] Приложение ко всеподданнейшему отчету минского губернатора за 1876 год // НГАБ. Падсобны бібліятэчны фонд архіва. 1876. С. 27.

1887 г. «Аб умовах дапушчэння асоб былой польскай шляхты і мяшчан каталіцкага веравызнання да арэнды аброчных стацей у заходніх губернях»[1]. Пры набыцці зямлі кожны селянін заходніх губерняў павінен быў даць адказы на пытанні анкеты, у тым ліку пра сваё паходжанне, што магло пазітыўна ці негатыўна паўплываць на рашэнне ўлад аб дазволе набыць зямлю. Трэці пункт анкеты тычыўся паходжання пакупніка, а ў чацвёртым было непасрэдна пастаўлена пытанне, ці не належыць пакупнік да «былой польскай шляхты»[2].

Мэтай палітыкі ўлад была прававая дэградацыя дробнай шляхты да катэгорый сялян і мяшчан. Дзеля гэтага былі прыняты меры па ўскладненні працэдуры доказу дваранства ў Герольдыі і пераводу незацверджанай шляхты, аднадворцаў і грамадзян у склад мяшчанскага і сялянскага саслоўяў, змешвання былой шляхты з сялянамі і мяшчанамі ў межах адных сельскіх таварыстваў і валасцей.

У 1882 г. быў выдадзены закон, згодна з якім грошы за аплату 10 руб. срэбрам на выраб дакументаў аб дваранстве ў выпадку незацвярджэння асобы прасіцелю не вярталіся[3]. Колькасць спраў, якія паступалі ў Герольдыю, была вялікай, і такім чынам улады імкнуліся адахвоціць незаможных шляхціцаў з сумнеўнымі дакументамі ад іх падачы на разгляд. Выкананне ж нават усіх патрабаванняў не гарантавала пазітыўнага рашэння Герольдыі. Паводле падлікаў С. Самбук, сярод 20 тыс. асоб, якія выканалі патрабаванні, толькі палова атрымала зацвярджэнне ў дваранстве[4]. Адбывалася таксама і прававая дэградацыя. Былая шляхта была пазбаўлена права голасу на выбарах адміністрацыйнага апарату сельскіх таварыстваў, абмяжоўваліся магчымасці ў набыцці шляхтай, асабліва каталіцкай, зямлі.

Пералічэнне не даказаўшай дваранскага паходжання шляхты ў падаткаабкладаныя катэгорыі поўнасцю не скончылася нават у пачатку XX ст. Некаторыя асобы заставаліся па-за фармальнай прыпіскай у якое-небудзь саслоўе. Такія факты выявіў А. Г. Каханоўскі, вывучаючы працэсы сацыяльнай мабільнасці ў Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст.[5]

---

[1] Об условиях допущения лиц бывшей польской шляхты и мещан-католиков к арендованию казенных оброчных статей в западных губерниях. 20 нояб. 1887 г. № 4814 // ПСЗ III. Т. 7. 1889.

[2] О выдаче крестьянам разрешений на право покупки земельной собственности // НГАБ у г. Гродна. Ф. 1. Воп. 18. Спр. 28. Арк. 4.

[3] Об обращении в государственные доходы десятирублевого сбора ...

[4] *Самбук С. М.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX в. С. 38–39.

[5] *Каханоўскі А.* Сацыяльная трансфармацыя беларускага грамадства (1861–1914). С. 154.

# «АНТЫРАЗБОР» ШЛЯХТЫ: ФАЛЬСІФІКАЦЫЯ І ПАДЛОГІ ДВАРАНСКІХ ДАКУМЕНТАЎ У 1830–60-я гг.

Указ 19 кастрычніка 1831 г. пакідаў шляхце двухгадовы тэрмін на прад'яўленне доказаў. Усе шляхціцы, якія не прадставілі доказаў, запісваліся ў падаткаабкладаныя катэгорыі аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў. Прадстаўленыя доказы павінны былі ў абавязковым парадку накіроўвацца на праверку і зацвярджэнне ў Герольдыю[1].

Пад пагрозай страты прывілеяў шляхта і асобы, якія сябе ёй лічылі, сталі масава звяртацца да нелегальных метадаў – падробкі і падлогу дакументаў, прыпіскі да іншых родаў. Падробка дакументаў пашырылася ў значна большых маштабах, чым гэта было да 1830-х гг. 30–50-я гг. XIX ст. віленскі архіварыус І. Спрогіс назваў асноўным перыядам, калі падрабляліся дакументы[2]. Найбольш фальшывак было зроблена паміж 1835 і 1842 гг.[3] Найчасцей падрабляліся дакументы актавых кніг. Яны захоўваліся ў падсобных архівах розных устаноў, напрыклад судоў. Доступ да гэтых дакументаў мелі розныя чыноўнікі, якія часта самі паходзілі з дробнай і дробнафальваркавай шляхты і самі мелі клопаты з доказам дваранскага статусу. Многія з іх і заняліся фальсіфікацыямі. На адным з пасяджэнняў Заходняга камітэта, створанага пры Кабінеце міністраў для складання праектаў аб зліцці заходніх губерняў з расійскімі, адзначалася, што «ў сувязі з відавочным спрыяннем шляхце з боку мясцовых чыноўнікаў і асабліва дэпутацкіх сходаў, якія складаюцца выключна з палякаў, меры гэтыя ( г. зн. прынятыя пасля 1831 г. – *В. М.*) не дасягнулі меркаванай мэты і далі толькі падставу для падробкі ў вялізных памерах дакументаў аб дваранскай годнасці»[4].

З-за таго што самі чыноўнікі, адказныя за захаванне дакументаў, былі заангажаваны ў іх падробку, выкрываліся толькі нешматлікія падобныя факты. Напрыканцы 20-х – у пачатку 30-х гг. XIX ст. былі зафіксаваны падробкі дакументаў у Магілёўскім дваранскім сходзе[5]. У 1833 г. была выкрыта група фальсіфікатараў, якая дзейнічала

---

[1] О разборе шляхты в западных губерниях, и об устройстве сего рода людей.

[2] *Спрогис И. Я.* Виленский центральный архив древних актовых книг. С. 7.

[3] *Лялин В. А.* Витебский центральный архив. Отд-ние 1. С. 58.

[4] Исторический обзор деятельности Комитета министров. Т. 3 : в 2 ч. Ч. 1. С. 200.

[5] Гербоўнік беларускай шляхты. Т. 1– / Беларус. навук.-даслед. ін-т дакументазнаўства і арх. справы ; Археагр. каміс. Кам. па арх. і справаводстве пры Савеце Міністраў Рэсп. Беларусь ; Нац. б-ка Беларусі / рэдкал.: Т. Капіца [і інш.]. Мінск, 2002– . Т. 1 / рэд. А. Рахуба. 2002. С. 25.

на тэрыторыі Віленскай і Ковенскай губерняў[1]. Прыходзілі паведамленні аб падробцы дакументаў і з Гродзенскай губерні[2]. Вядомы з архіўных крыніц і фальсіфікатар дакументаў у Віцебскай губерні – калежскі сакратар Раманоўскі, у якога падчас вобыску былі знойдзены фальшывыя дакументы васьмі родаў, ужо гатовыя для ўстаўкі ў актавыя кнігі Полацкага павятовага суда[3]. Найбольшы ж размах выраб фальшывак набыў у Мінску. Па даносе адной мінчанкі на жыхара Чайкоўскага паліцыя правяла вобыск і знайшла многа папер, «сярод якіх знойдзены бланкі былых польскіх каралёў, чыстая, старадаўняга кляйма папера, на некаторых аркушах якой было ўжо распачата пісанне фальшывых дакументаў»[4]. За асобай Чайкоўскага, відаць, стаялі ўплывовыя фігуры, бо з астрога яму ўдалося ўцячы. Што цікава, гэта быў не адзінкавы падобны выпадак. У Віцебскай губерні з Дынабургскага гараднічага праўлення змог знікнуць у невядомым кірунку затрыманы па абвінавачваннях у падробцы дакументаў дваранін Мікуліч[5]. Праблема з фальсіфікацыямі дакументаў, а таксама выдачай дваранскіх пасведчанняў сялянам нават стала пытаннем разбіральніцтва віленскага генерал-губернатара М. Далгарукава, які даносіў у Пецярбург, што «...во всех губерниях от Польши возвращенных... открыл достаточный источник подлогов в беспорядочности метрических книг и беспечности духовного начальства...»[6]. Справа з данясеннем Далгарукава праз ваеннага міністра была накіравана для даклада імператару.

Для вырабу фальшывак выкарыстоўвалася гербавая папера, выцягнутая з архіўных актавых кніг часоў Рэчы Паспалітай. Падрабляліся почырк і пячатка, а сфабрыкаваны дакумент устаўляўся ў фаліянт. Падрабляліся таксама выпіскі з актавых кніг і метрык, асабліва

---

[1] Об учреждении в губерниях, от Польши возвращенных, особых комиссий для рассмотрения метрических и актовых книг. 19 дек. 1833 г. № 6644 // ПСЗ II. Т. 8. Отд-ние 1.

[2] *Sikorska-Kulesza J.* Deklasacja drobnej szlachty na Litwie i Białorusi w XIX w. S. 75.

[3] Дело о подделке дворянских документов разными лицами. 1848–1859 гг. // НГАБ. Ф. 2512. Воп. 1. Спр. 339. Арк. 15–25.

[4] *Улащик Н. Н.* Предпосылки крестьянской реформы в Литве и Западной Белоруссии. С. 91.

[5] Дело по рапорту Динабургского уездного суда о разбирательстве по делу о бежавшем из Динабургского городнического правления задержанном по подозрению в подделке дворянских документов дворянине Микуличе // НГАБ. Ф. 1416. Воп. 3. Спр. 11607.

[6] РГИА. Ф. 571. Оп. 1. Д. 1454. Дело о злоупотреблениях при рассмотрении документов на дворянство. Л. 33–35.

з тых, якія былі знішчаны пажарамі, і таму зверка іх з арыгіналамі была немагчымай. Па словах чыноўніка, які вёў следства па адной з крымінальных спраў аб падробцы дакументаў, у Мінскім дваранскім дэпутацкім сходзе знаходзілася вельмі шмат падробленых дакументаў, «бо амаль няма чыноўніка, які б у гэтым мала або многа не ўдзельнічаў»[1]. У падробцы дакументаў падазраваўся нават В. Дунін-Марцінкевіч, які ў 1830-я гг. падпрацоўваў у Мінску ў натарыяльнай канторы Ю. Бараноўскага. Будучы пісьменнік фактычна стаў членам падпольнага сіндыката М. Чапкоўскага, які займаўся падробкай дакументаў[2]. Вядомая таксама справа за 1838–1839 гг. аб вырабе фальшывых дакументаў былым мінскім адвакатам Кучынскім і сакратаром Магілёўскай рыма-каталіцкай кансісторыі. Па справе праходзілі больш за 100 чалавек, якія скарысталіся крымінальна каранымі паслугамі. Заводзіліся справы аб падробцы дакументаў і ў іншых губернях. Архіўны фонд Віцебскага дваранскага дэпутацкага сходу ўтрымлівае дакументы за 1840–50-я гг., звязаныя са справай аб падробцы дваранскіх дакументаў рознымі асобамі[3].

Колькасць фальшывак, устаўленых у актавыя кнігі, была вялізнай. Па словах Р. Мяніцкага, віленскага архівіста 20-х гг. XX ст., яны маглі складаць палову фаліянта асобнай архіўнай кнігі, а Мінск быў сталіцай фальсіфікацый[4]. Такая роля Мінска тлумачыцца тым, што ў губерні была вялізная колькасць чыншавай, былой ардынацкай шляхты Радзівілаў, якая ў большасці сваёй ніколі не мела населеных маёнткаў і каралеўскіх грамат. Не мела яна таксама, адпаведна, актаў і выпісаў з іх аб тым, што яе продкі валодалі маёнткамі. Менавіта такая, як яе называлі, «шарачковая шляхта» якраз і стала асноўным спажыўцом паслуг па падробцы дакументаў. Наўпрост пра гэта сведчыць прыведзеная ніжэй цытата з успамінаў Э. Вайніловіча.

Адным з найбольш распаўсюджаных метадаў падробкі дакументаў была фабрыкацыя выпісаў (напрыклад, купчых) са знішчаных актавых кніг. Зверыць сапраўднасць такіх выпісаў з актамі было немагчыма. Разам з тым улады не адважыліся забараніць падаваць выпісы ў якасці

---

[1] *Улащик Н. Н.* Предпосылки крестьянской реформы в Литве и Западной Белоруссии. С. 91.

[2] *Янушкевіч Я.* Трагікамедыя ў Люцынцы. Люцынскі пасаг. Некалькі неідэлічных сцэнак з жыццяпісу Вінцэнта Марцінкевіча // Полымя. 2007. № 1. С. 96.

[3] Дело о подделке дворянских документов разными лицами.

[4] *Mienicki R.* Archiwum Akt Dawnych w Wilnie w okresie od 1795 do 1922 r.: rys historyczny. Warszawa, 1923. S. 40.

доказу дваранства, паколькі гэта былі афіцыйныя дакументы, завераныя дзяржаўнымі чыноўнікамі. У тым была адна з магчымых лазеек. У Віцебску фабрыкатары дакументаў ведалі, за якія гады актавыя кнігі былі знішчаны пажарамі, і нібыта з іх і былі зроблены сфабрыкаваныя імі выпісы, якія выдаваліся за сапраўдныя[1].

Адным з кірункаў супрацьдзеяння фальсіфікацыям стала ўвядзенне парадку зверкі подпісаў на дакументах, якія былі пакладзены ў аснову вывадаў, з іншымі дакументамі, што ў 1843 г. было даручана рабіць страпчым грамадзянскіх палат[2]. Звяраліся подпісы на выпісах не толькі з актавых кніг, але і з метрычных, дзеля чаго ў выпадку патрэбы дастаўлялася метрычная кніга з кансісторыі[3]. За 1846 г. Мінскі дваранскі сход накіраваў на зверку подпісаў дакументы 56 родаў, але майстэрства фабрыкатараў было «на ўзроўні», бо ніводны з подпісаў не быў прызнаны «не падобным»[4]. Атрымлівалася, што зробленая чыноўнікам, які меў доступ да арыгінальных дакументаў, якасная падробка з добра выкананым подпісам фактычна не магла быць выкрытай, бо зверыць у ёй можна было толькі подпіс з арыгіналам у іншым дакуменце, які быў даступны чыноўніку. Віленскі архіварыус І. Спрогіс небеспадстаўна лічыў супрацоўнікаў тагачасных архіваў прысутных месцаў, дзе захоўваліся актавыя кнігі, заангажаванымі ў махлярстве і падробцы дакументаў[5].

Дзякуючы ўспамінам Э. Вайніловіча захаваліся звесткі, якія даюць уяўленне пра тое, чыноўнікі якога ўзроўню былі заангажаваны ў крымінальны бізнес па нелегальнай набілітацыі ў Мінску ў 50–60-я гг. XIX ст.: «Дваранскія выбары адбываліся ў доме сакратара губернскага старшыні дваранства Гаўсмана, які дзеля гэтага пабудаваў прыгожую камяніцу ў скверы, а сродкі для гэтага ўзяў ад дробнай шляхты, пераважна хадачковай, якую розныя царскія ўказы істотна зачаплялі і якую з-за адсутнасці ў яе дакументаў для доказу дваранства запісвалі ў ка-

---

[1] Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской ... С. XII.

[2] О вменении в обязанность гражданским палатам сличать подписи на документах, служащих основанием дворянства жителям западных губерний, чрез секретарей оных. 1 марта 1843 г. № 16574 // ПСЗ II. Т. 18. Отд-ние 1. 1844.

[3] Переписка с Минским дворянским депутатским собранием о проверке документов о дворянском происхождении разных родов за 1846 год // НГАБ. Ф. 146. Воп. 2. Спр. 724. Арк. 10.

[4] Там жа.

[5] *Спрогис И. Я.* Виленский центральный архив древних актовых книг. С. 7.

тэгорыю людзей ападаткаванага саслоўя, што пагражала ім рэкруцкай павіннасцю і іншымі цяжарамі. Таму кожны з іх збіраў апошні грош і ціснуўся ў канцылярыю камісіі, якая займалася справамі доказу дваранства (якая і вырашала справу. – *В. М.*), а Гаўсман заўсёды ўмеў у архівах палазіць або прыпісаць да ўжо зацверджаных у дваранстве родаў»[1]. Прыпіска да іншага роду была яшчэ адным шляхам незаконнага замацавання ў расійскім дваранстве. Дзеля гэтага фабрыкаваліся метрычныя выпісы.

Пра Гаўсмана, згадваючы толькі першую літару яго прозвішча, пісаў і віленскі архіварыус Р. Мяніцкі: «...ён з невядомым дагэтуль майстэрствам падрабляў почырк і пячаткі, якіх меў у сябе мноства, а за добрыя грошы браўся за найбольш рызыкоўныя падробкі, і ніводзін, нават найбольш складаны подпіс не бянтэжыў яго, не страшыў – у імгненне вока ён імітаваў любы, нават той, што першы раз бачыў. Ён пакінуў у спадчыну мноства падробленых актавых дакументаў у мінскіх актавых кнігах, зарабіўшы гэтым рамяством фальварак, прыгожую камяніцу на адной з вуліц... і, нарэшце, судовы працэс, з якога выкруціўся, патлумачыўшы валоданне калекцыяй пячатак сваёй вялікай цікаўнасцю да антычнасці»[2]. Не абмінуў увагай Гаўсмана і яшчэ адзін аўтар успамінаў з XIX ст. Адам Багдановіч, бацька якога служыў кухарам у мінскага дваранскага старшыні Лапы: «...в 50-х годах губернский маршалок... да секретарь дворянства Гаусман немало состряпали дворянских документов, за хорошие деньги, мелкой шляхте, судя по самому красивому зданию в Минске – каменице Гаусмана...»[3].

Намі прыведзены даволі пераканаўчыя звесткі пра масавы характар фальсіфікацый, што шчыльным павуціннем аб'ядналі шляхту і мясцовае чыноўніцтва. Прыклады можна множыць – захаваліся і іншыя ўспаміны сучаснікаў пра масавы характар з'явы фальсіфікацыі дакументаў і заангажаванасць у гэты працэс мясцовых чыноўнікаў[4].

Трэба сказаць, аднак, што часам здараліся выпадкі, калі фальшыўкі ўсё ж выяўляліся. Яны мелі месца, напрыклад, калі праводзілася зверка прадастаўленых у Сенат доказаў на дваранства з актамі Літоўскай метрыкі. Кнігі Метрыкі захоўваліся ў першым аддзяленні Трэцяга дэпартамента Сената, дзе была створана спецыяльная пасада ме-

---

[1] *Woyniłłowicz E.* Wspomnienia z lat 1847–1928. Cz.1. S. 52.

[2] *Mienicki R.* Archiwum Akt Dawnych w Wilnie w okresie od 1795 do 1922 r. S. 40.

[3] *Богданович А.* Мои воспоминания.

[4] *Маркс М.* Записки старика.

трыканта, які і праводзіў зверку. Так, у 1851 г. пры разглядзе справы шляхціцаў Гаўрыковічаў, якая паступіла пасля прыняцця дваранскім дэпутацкім сходам на канчатковае зацвярджэнне ў Сенат, была праведзена зверка прывілею, нібыта выдадзенага Жыгімонтам III на права продкам Гаўрылковічаў валодаць маёнткам з сялянамі. Прывілей быў пакладзены ў аснову вывадовай справы. Зверка прывілею з актамі Літоўскай метрыкі паказала, што ў ёй такога дакумента няма. Больш за тое, як было адзначана, «привилегия... даже по существу своему оказалась ложною». Для правядзення следства і высвятлення «спосабаў яго набыцця» дакумент быў накіраваны мінскаму губернатару. Справа расследавалася чыноўнікам па асобых даручэннях Сасноўскім, які знаходзіўся пры мінскім губернатару. Праглядаліся, як указваецца ў данясенні чыноўніка, актавыя кнігі Мінскага і Слуцкага павятовых судоў, у якіх «прывілегія» Жыгімонта III Гаўрылковічам сапраўды была «явленой и по поверке представленной выписки оказалась во всем сходною с записанным в книгах»[1]. Чым скончылася справа Гаўрылковічаў, аднак, невядома.

Захавалася таксама справа Мінскага губернскага праўлення за 1850 г. па факце набыцця жыхарамі Слуцкага павета Платніцкімі і Янкевічамі «прывілегіі» караля Рэчы Паспалітай Яна III, датаванай 1683 г. Фальшыўка была выяўлена таксама толькі ў Сенаце, ужо падчас разгляду дакументаў, якія былі накіраваны для канчатковага зацвярджэння родаў Платніцкіх і Янкевічаў. Сенацкі метрыкант выявіў, што дакумента, на якім будавалі свае довады азначаныя роды, у Метрыцы не аказалася і нават, больш за тое, быць не магло. Повадам для такой высновы было наступнае: у фальшывым прывілеі Яна III, дараваным нейкаму Багуславу Янкевічу на чын маёра, указвалася, што Янкевіч яго атрымаў за ўдзел у пераможнай бітве пры Стыгоне ў Венгрыі. Сенацкі метрыкант, які вывучаў Метрыку, выявіў, што азначаная бітва рэальна адбылася на 17 дзён пазней, чым тая дата, якая была ўказана ў фальшывым прывілеі, і, больш за тое, адзначаны ў рэскрыпце польны гетман і люблінскі ваявода, які нібыта і засведчыў перад каралём пра подзвігі Янкевіча, у паходзе не ўдзельнічаў, а на пасадзе польнага гетмана знаходзіўся валынскі ваявода. Акрамя таго, метрыкант звярнуў увагу на тое, што ў дакументах каралі заўсёды ўжывалі займеннік у множным ліку «Мы», а не «Я», у той час

[1] Дело о приобретении жителями Минского уезда Гаврилковичами грамоты короля Сигизмунта III для доказательства своего дворянского происхождения // НГАБ. Ф. 299. Воп. 2. Спр. 3772. Арк. 2–6.

як у прывілеі ён быў ужыты ў адзіночным ліку, не былі таксама вытрыманы самыя простыя правілы граматыкі, чаго ў сапраўдных граматах метрыкант ніколі не заўважаў. Подпіс караля Яна III зусім не быў падобны на подпісы ў іншых каралеўскіх актах, а па почырку можна было заўважыць напружанае старанне да яго ўпадаблення арыгіналу XVII ст. Акрамя таго, «под подписью о явке сего рескрипта... в актах Литовского Трибунала значится подпись трибунального писаря Кончица, который означенного числа в сей должности не состоял». Акрамя ўсяго гэтага, папера, на якой быў напісаны рэскрыпт, мела вадзяныя знакі, уласцівыя паперы пазнейшага часу. Абапіраючыся на ўсё гэта, Сенат пастанавіў адмовіць Платніцкім і Янкевічам у зацвярджэнні рашэнняў Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу (вызначэнні былі датаваны 1832 і 1844 гг.) у прызнанні іх роду дваранамі. Сам фальшывы дакумент адсылаўся мінскаму грамадзянскаму губернатару для правядзення следства па справе яго фабрыкацыі[1]. У Мінску расследаванне справы было даручана старэйшаму чыноўніку па асобых даручэннях пры мінскім губернатару Буцэвічу. Што цікава, расследаванне выявіла, што, акрамя жыхара Койданава Міхаіла Янкевіча, другім інтарасантам па справе быў Вікенцій Янкевіч-Платніцкі, які служыў аж у канцылярыі мінскага грамадзянскага губернатара. Цікавы тут хаця б сам факт таго, што нават у канцылярыю губернатара прымалі на службу шляхціцаў, якія яшчэ не былі зацверджаны Герольдыяй. Па следстве аказалася, што дакументы збіраў і падаваў у дваранскі сход дзядзька інтарасантаў, які ўжо памёр, таму яны асабіста пазбеглі пакарання і, больш за тое, у 1858 г. зноў прадставілі на разгляд у дваранскі дэпутацкі сход свае новыя дакументы[2].

Па-ранейшаму ў 1830–40-я гг. мелі месца і звычайныя падробкі пасведчанняў аб дваранстве. Яны маглі служыць для вызвалення з-пад рэкруцкай службы або для ўладкавання на грамадзянскую службу. У дадзеным выпадку вельмі рызыкаваў спажывец паслуг, паколькі ён не быў уключаны ў дваранскія спісы і пры мінімальным разбіральніцтве яго недваранскае паходжанне лёгка выкрывалася. Такія падробкі служылі для ўладкавання на службу звычайна ў іншай

---

[1] Дело о расследовании факта приобретения жителями Слуцкого уезда Плотницкими-Янкевичами ложной привилегии короля польского Иоанна III для доказательства своего дворянского происхождения // НГАБ. Ф. 299. Воп. 2. Спр. 3550. Арк. 1–2адв.

[2] Там жа. Арк. 15–25адв.

губерні, каб ускладніць магчымае разбіральніцтва. Цывільныя ўлады рэдка ініцыявалі разбіральніцтвы. Вайсковыя ўлады былі больш пільныя і ў сумнеўных выпадках іх праводзілі, пра што сведчаць аднатыпныя архіўныя дакументы, якія даволі часта сустракаюцца[1]. Напрыклад, Віталіус Антонавіч Парэмбскі, назваўшыся дваранінам, паступіў на службу ў Зводны рэзервны батальён Белазерскага пяхотнага палка ў 1834 г., прадаставіўшы пасведчанне аб дваранстве, выдадзенае полацкім дваранскім прадвадзіцелем Шчытам. Камандзір палка Паўлоўскі для пацвярджэння паходжання падначаленага ініцыяваў разбіральніцтва і завёў перапіску з віцебскім, мінскім і магілёўскім губернскімі дваранскімі прадвадзіцелямі. Што цікава, віцебскі дваранскі прадвадзіцель адказаў, што пратакола прызнання дваранства Парэмбскіх у яго справах няма, але такі род пражывае ў Магілёўскай губерні. Паўлоўскі зрабіў запыт у Магілёў, адкуль магілёўскі прадвадзіцель паведаміў, што справа Парэмбскіх не ўтрымлівае дастаткова звестак, каб суаднесці яе з Віталіусам Парэмбскім. Сам Парэмбскі ў адказ заявіў, што яго сваякі пражываюць у Дзісненскім павеце Мінскай губерні. Паўлоўскім быў скіраваны запыт ужо і ў Мінскі дваранскі дэпутацкі сход, адкуль прыйшоў адказ, што «ни одной фамилии Порембских в дворянскую родословную книгу Минской губернии внесенной не находится, а также доказательств ко внесению сей фамилии в дворянскую книгу в представлении в сем собрании не имеется»[2]. Як бачна, нават маючы пасведчанні, падпісаныя дваранскімі старшынямі, вайсковыя начальнікі ініцыявалі разбіральніцтвы. Што тычыцца няякасных падробак, то пры такіх разбіральніцтвах яны маглі быць лёгка выкрыты.

---

[1] Дело о доставлении сведений комиссии военного суда при Литовском уланском полку о происхождении рядового Волконского Антона, предъявившего подложное свидетельство о дворянском происхождении. 1832 г. // НГАБ у г. Гродна. Ф. 1. Воп. 10. Спр. 411 ; Дело об установлении дворянского происхождения Папроцкого, поступившего на военную службу // НГАБ. Ф. 295. Спр. 275 ; Дело об установлении дворянского происхождения Цишкевича К., поступившего на военную службу // НГАБ. Ф. 295. Спр. 249.

[2] Переписка по вопросу об обнаружении подложных документов и об установлении дворянского происхождения разных лиц. 1834 г. // НГАБ. Ф. 319. Воп. 1. Спр. 202. Арк. 3–12.

## СТВАРЭННЕ І ДЗЕЙНАСЦЬ КАМІСІЙ ПА СУПРАЦЬДЗЕЯННІ ФАЛЬСІФІКАЦЫЯМ ДВАРАНСКІХ ДАКУМЕНТАЎ У 1830–50-я гг. АРХІЎНАЯ РЭФОРМА 1852 г.

**Дзейнасць камісіі па рэвізіі актавых і метрычнай кніг у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях (1834–1835).** Вывучэнне дзейнасці адной асобнай камісіі, якая да таго ж існавала няпоўныя два гады, можа здавацца вузкай навуковай тэмай. Аднак праблематыка, з якой непасрэдна звязана гісторыя гэтай установы, выклікае значны навуковы і нават грамадскі інтарэс. У першую чаргу з тае прычыны, што стварэнне камісіі было вынікам шырокай у 1830-я гг. з'явы па фальсіфікацыі дваранскіх дакументаў у беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх губернях Расійскай імперыі. З'ява мела месца і раней, але якраз набыла небывалыя памеры пасля выдання ўказа ад 19 кастрычніка 1831 г. аб разборы шляхты ў заходніх губернях.

У комплексе мерапрыемстваў урада і грамадскіх з'яў, адной з якіх і з'яўляецца масавая фальсіфікацыя дваранскіх дакументаў, праяўляецца барацьба паміж, з аднаго боку, урадам, які імкнуўся трансфармаваць сацыяльную і саслоўную структуру былых земляў Рэчы Паспалітай пад свае патрэбы, і, з другога боку, мясцовым дваранствам, якое шукала сродкі захавання свайго прывілеяванага становішча.

Стварэнне і дзейнасць камісіі даволі добра адлюстравана ў архіўных і заканадаўчых крыніцах. Іх аналіз дазваляе зрабіць метадалагічна якасны зрэз, які адкрывае магчымасці для высвятлення значнага кола пытанняў. Гэта спосабы збору, аналізу інфармацыі і прыняцця рашэнняў кіруючымі коламі імперыі, асаблівасці рэалізацыі мерапрыемстваў урада і функцыянавання адміністрацыйнага апарату імперыі на месцах, стан архіўнай справы ў Беларусі ў 1830-я гг., а таксама комплекс пытанняў, звязаных з фальсіфікацыяй дваранскіх дакументаў. Як было адзначана ў папярэднім раздзеле, паведамленні аб фальсіфікацыях дваранскіх дакументаў пачалі лавінай паступаць з заходніх губерняў асабліва пасля выдання Закона ад 19 кастрычніка 1831 г. аб разборы шляхты. Каб па гэтым законе не быць залічаным у новаўтвораныя катэгорыі аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў, мясцоваму дваранству неабходна было дакументальна даказаць сваю прыналежнасць да шляхты былой Рэчы Паспалітай, што і спарадзіла масавыя фальсіфікацыі. Інфармацыя аб маштабах фальсіфікацый дайш-

ла непасрэдна да імператара, што сведчыць пра важнасць праблемы для ўлад. Імператарам дзеля вывучэння справы было даручана сенатару князю І. Лабанаву-Растоўскаму сумесна з віленскім генерал-губернатарам М. Далгарукавым вывучыць справу і вызначыць віноўных. Было ўстаноўлена, што ў заходніх губернях у прыватных асоб у значнай колькасці маюцца бланкі з сапраўднымі подпісамі польскіх каралёў, «которые могут быть легко обращаемы злоупотребителями в поддельные документы»[1]. Справу пачалі раскручваць, і пад арышт адразу трапіла 9 чалавек[2]. Распаўсюджанасць з'явы фальсіфікацыі дакументаў пацвярджаецца і іншымі шматколькаснымі паведамленнямі. Для прыкладу, гарадская дума Вільні сцвярджала, што падчас восьмай рэвізіі (1834) са спісу мяшчан зніклі 2743 асобы, якія былі западозраны ў нелегальным набыцці пасведчанняў аб дваранскім паходжанні[3]. На сітуацыю з фальсіфікацыямі ўлады адрэагавалі ўказам ад 18 снежня 1833 г.[4] Па ініцыятыве Лабанава-Растоўскага, які даследаваў справу з фальсіфікацыямі і падрыхтаваў тэкст указа для подпісу імператару, у заходніх губернях утвараліся тры камісіі для праверкі дакументаў і рэалізацыі мерапрыемстваў па супрацьдзеянні фальсіфікацыям шляхам рэвізіі актавых і метрычных кніг. Указ быў разасланы адпаведным для гэтага парадкам генерал-губернатарам і губернатарам, якія, у сваю чаргу, зрабілі распараджэнні ў губернскія і павятовыя прысутныя месцы, дваранскія дэпутацкія сходы. Губернскія праўленні, напрыклад, паводле распараджэння генерал-губернатара Смаленскага, Віцебскага і Магілёўскага М. Хаванскага павінны былі ўвайсці ў кантакт з кансісторыямі, земскімі і градскімі паліцыямі па пытаннях рэалізацыі рэвізіі метрычных і актавых кніг[5].

Паводле ўказа ў склад камісій для праверкі актавых і метрычных кніг павінны былі ўвайсці чыноўнік МУС, чыноўнік Міністэрства юстыцыі, член ад Корпуса жандараў і губернскі страпчы. Створаныя камісіі павінны былі распачаць працу ў надыходзячым 1834 г. Першая камісія была ўтворана для Віленскай, Гродзенскай губерняў і Беластоц-

---

[1] Об учреждении в губерниях, от Польши возвращенных, особых комиссий ...

[2] Там жа.

[3] *Байрашаўскайтэ Т.* Працэс дэкласацыі шляхецкага саслоўя Літвы ... С. 163.

[4] Об учреждении в губерниях, от Польши возвращенных, особых комиссий ...

[5] Дело по указу Сената о придании суду лиц, виновных в подделке документов о дворянском происхождении по Виленской губернии, и принятии властями западных губерний мер к предотвращению таких подделок // НГАБ. Ф. 1416. Воп. 4. Спр. 3961. Арк. 5–7.

кай акругі, другая – для Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай губерняў, трэцяя – для Кіеўскай, Валынскай і Падольскай[1].

Чыноўнікі камісій павінны былі пранумараваць старонкі, перакрэсліць прабелы, прашыць і прапячатаць старонкі актавых і метрычных кніг, што захоўваліся ў павятовых судах, прыходах і кансісторыях[2]. Такім мерапрыемствам меркавалася не даць магчымасці рабіць у іх допісы і ўстаўляць аркушы, што, на думку Лабанава-Растоўскага, было адным з асноўных шляхоў фальсіфікацыі доказаў аб дваранскім паходжанні. З гэтага часу святары былі абавязаны штогод падаваць копіі ўсіх метрычных кніг у павятовыя суды. Павінен быў быць складзены вопіс копій часткі метрычных кніг касцёлаў і ўніяцкіх цэркваў XVIII ст., якія захоўваліся ў рыма-каталіцкай калегіі. Копіі метрык павінны былі служыць дадатковай крыніцай для праверкі сапраўднасці метрык, якія падаваліся зацікаўленымі асобамі ў якасці доказу дваранскага паходжання. Загадвалася таксама падшыць і прашнураваць метрычныя кнігі каталіцкіх і ўніяцкіх прыходаў, якія захоўваліся ў рыма-каталіцкай калегіі. Асаблівая ўвага ва ўказе звярталася таксама на неабходнасць пільнасці пры працы дваранскіх дэпутацкіх сходаў з дваранскімі патэнтамі, якія часта падрабляліся шляхам выкарыстання сапраўдных каралеўскіх бланкаў. Устанаўліваўся шасцімесячны тэрмін для прадастаўлення такіх «бланкетов за подписанием польских королей» губернскаму начальству, у выпадку калі яны меліся на руках у насельніцтва. Меркавалася, што пасля іх збору ад насельніцтва такія бланкеты будуць накіраваны ў Сенат для знішчэння[3]. Градскія і земскія паліцыі павінны былі паінфармаваць насельніцтва аб неабходнасці здаць такія бланкеты. З асоб так званага «польскага паходжання» загадвалася нават браць распіскі пра інфармаванне. На аснове ўказа Міністэрствам юстыцыі была распрацавана інструкцыя для дзейнасці камісій па рэвізіі актавых і метрычных кніг. Што праўда, ужо падчас працы камісіі ў інструкцыю неаднаразова ўносіліся праўкі, што сведчыла пра недастатковасць вывучэння пытання ўладамі.

У склад камісіі па Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай губернях першапачаткова ўвайшлі: ад Міністэрства ўнутраных спраў – надворны рад-

[1] Об учреждении в губерниях, от Польши возвращенных, особых комиссий ...

[2] LVIA. Ф. 381 (Віленскае губернскае праўленне). Воп. 25. Спр. 414 ; Переписка комиссии с греко-униатской духовной консисторией о приведении в порядок метрических и актовых книг, список униатских церквей литовской епархии // НГАБ. Ф. 3124. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 23–23адв.

[3] Об учреждении в губерниях, от Польши возвращенных, особых комиссий ...

ца Казоці, ад корпуса жандараў – палкоўнік Мердэр, ад Міністэрства юстыцыі – надворны радца Грыгаровіч[1]. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захаваўся фонд 3124, у якім зберагаюцца дакументы аб дзейнасці рэвізійнай камісіі, створанай для Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў[2].

Па распараджэнні грэка-ўніяцкай кансісторыі перад пачаткам правядзення рэвізіі ў кожным павеце прызначаўся святар для збору, складання вопісу і дастаўкі ў камісію метрычных кніг хросту, шлюбу і памерлых з прыходаў, манастыроў і капліц[3]. Пасля збору і складання вопісаў метрычных кніг, апісання іх стану святары павінны былі інфармаваць непасрэдна рэвізійную камісію і па яе загадзе даставіць кнігі ў адпаведны павятовы горад у вызначаны камісіяй час.

Адразу ўзніклі цяжкасці з раз'ездамі камісіі па паветах, няўзгодненасць па фінансавых пытаннях паміж цэнтральнымі і мясцовымі органамі. Губернскія казначэйствы адмовіліся выдаваць прагонныя грошы на раз'езд камісій па прыходах. Яны спасылаліся на тое, што з боку Міністэрства фінансаў не было атрымана такога распараджэння. 5 мая святарам, якія былі дэлегаваны для збору метрычных кніг, было разаслана распараджэнне камісіі адсылаць іх поштай у кансісторыю[4]. Асобна ад саміх кансісторый патрабавалася прадаставіць звесткі пра колькасць шляхты грэка-ўніяцкага абраду[5]. Патрабаванне было вынікам таго, што на пэўным этапе дзеля спрашчэння працы рэвізійнай камісіі было прынята рашэнне праверыць метрычныя кнігі толькі тых грэка-каталіцкіх прыходаў, у якіх пражывала шляхта. Але пад канец 1834 г. ад такой ідэі адмовіліся, аргументаваўшы гэта тым, што «нередко случалось, что шляхта римско-католического исповедания была крещена греко-унитскими священниками и ме-

---

[1] Прозвішча Грыгаровіч сярод членаў камісіі па рэвізіі актавых кніг, канешне ж, звярнула на сябе нашу ўвагу. Іван Грыгаровіч быў на той час адным з лепшых спецыялістаў у галіне археаграфіі. У справах жа камісіі нідзе не было ініцыялаў таго Грыгаровіча, які быў членам камісіі. Каб зняць усе пытанні адносна гэтага, было праведзена параўнанне яго почырку і роспісу члена камісіі Грыгаровіча з почыркам і роспісамі археографа протаіерэя Івана Грыгаровіча, якія ёсць на іншых дакументах НГАБ. Было высветлена, што Іван Грыгаровіч дакладна не быў членам камісіі. Але членам камісіі мог быць адзін з яго двух братоў, якія выбралі чыноўнічую кар'еру замест царкоўнай.

[2] Губернские комиссии по проверке актовых и метрических книг, учрежденные по указу от 19 декабря 1833 г. // НГАБ. Ф. 3124. Воп. 1–2.

[3] Переписка комиссии с греко-униатской духовной консисторией ... Арк. 2–3.

[4] Там жа. Арк. 9–9адв.

[5] Там жа. Арк. 15, 24–25адв.

трики о крещении вписывались священниками в книги церквей своих греко-унитских»[1]. У сувязі з гэтым было дадзена распараджэнне прадастаўляць для рэвізіі, прашыўкі і змацавання пячаткамі ўсе без выключэння ўніяцкія метрычныя кнігі.

Акрамя метрычных кніг, дастаўленых у Мінск ужо ў студзені 1934 г., у жніўні 1835 г. камісія працавала ў Полацку, прычым якраз асобна з метрычнымі кнігамі прыходаў, у якіх пражывала шляхта. Гэта значыць, што ў адпаведнасці з папярэднім рашэннем кансісторыя і святары на месцах усё ж паспелі асобна сабраць звесткі па прыходах, у якіх пражывала шляхта грэка-каталіцкай канфесіі, і прыхадскія кнігі шляхты былі вылучаны асобна. На вялікі жаль, поўнага спіса гэтых мясцовасцей у архіўнай дакументацыі камісіі выяўлена не было.

Падрыхтоўка да працы камісіі выявіла недахопы ў законе аб яе дзейнасці, таму першапачатковы ўказ ад 18 снежня 1833 г. на просьбу беларускага генерал-губернатара М. Хаванскага быў дапоўнены. Дзеля гэтага ён звяртаўся па зацвярджэнне ў Сенат. Выявілася, што ў першапачатковым законе былі недапрацоўкі, якія маглі стварыць цяжкасці і недакладнасці пры працы камісіі. Так, у распараджэнні Віцебскага губернскага праўлення, дадзеным віцебскаму губернскаму страпчаму, было дапоўнена патрабаванне рэвізіі актавых кніг, якія захоўваліся не толькі ў павятовых судах, але таксама ў грамадзянскіх палатах, дваранскіх дэпутацкіх сходах, градскіх і земскіх паліцыях. Адносна метрычных кніг палажэнні закона былі дапоўнены патрабаваннем рэвізіі не толькі тых з іх, якія захоўваліся ў кансісторыях і прыхадскіх цэрквах, але і тых, што змяшчаліся ў духоўных праўленнях, дэканатах і ў іншых установах «греко-российского, греко-унитского и римско-католического исповеданий». Віцебскаму дваранскаму дэпутацкаму сходу асобна загадвалася, «дабы при производстве дел о дворянском происхождении обращало оно тщательнейшее внимание свое на все документы, особенно же на патенты, стараясь всемерно открыть, не писаны ли оные в позднейшее время на королевских бланкетах»[2]. З улікам таго, што «шляхта большей частью принадлежит к римскокатолическому исповеданию», паводле распараджэння і інструкцыі міністра юстыцыі ад 28 лютага 1834 г. праца камісіі павінна была распачацца з рэвізіі метрычных кніг менавіта рыма-каталіцкай канфесіі[3].

---

[1] Переписка комиссии с греко-униатской духовной консисторией ... Арк. 28адв.

[2] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой и чиновником особых поручений о приведении в порядок метрических и актовых книг по Могилевской и Полоцкой духовной консистории // НГАБ. Ф. 3124. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 2–2адв.

[3] Там жа. Арк. 54, 56.

Можна заўважыць, што пры першапачатковай падрыхтоўцы рэвізіі не былі ўлічаны шматлікія нюансы, звязаныя з месцазнаходжаннем метрычных кніг па ўстановах, не была распрацавана методыка рэвізавання і шмат іншых нюансаў, пра якія будзе згадана ніжэй. Не быў улічаны і той факт, што членам камісіі давядзецца працаваць таксама з лацінамоўнымі запісамі і запісамі на старабеларускай і польскай мовах. У сувязі з гэтым ужо пазней міністр юстыцыі Д. Дашкоў звяртаўся да міністра ўнутраных спраў з просьбай накіраваць ва ўсе камісіі дэпутатаў ад кансісторыі з веданнем лацінскай мовы. На гэту просьбу Д. М. Блудаў распарадзіўся, каб «были командированы в оные благонадежные и способные депутаты, которые зная польский и латинский языки, могли бы по записанным на сих языках метрикам и другим приходским книгам делать нужные объяснения комиссиям на российском языке»[1].

Паводле наяўных дакументаў можна даведацца, што першым горадам, дзе працавала камісія вясной 1834 г., стаў Магілёў. У адпаведнасці з канчатковым рапартам, пачаўшы сваю працу 4 красавіка 1834 г., камісія 17 чысла ўжо прыступіла да рэвізіі метрычных кніг аб хрышчэнні ў Магілёўскай кансісторыі, але толькі хрышчэння, а памерлых і шлюбаваных пакінула «без скрепы», прызнаўшы гэтыя кнігі «действию ея не подлежащих», хоць гэтыя метрыкі знаходзіліся ў тых самых кнігах[2]. Пад рэвізію трапілі спачатку метрычныя кнігі Магілёўскай рымакаталіцкай кансісторыі, прыходаў Магілёўскай, а пасля Віцебскай губерняў. Камісія даносіла міністру юстыцыі Дзмітрыю Дашкову пра заўважаныя прыметы фальсіфікацый: «...есть книги, в которых имеются лоскуты и листы вшитые, или вклеенные, заключающие в себе записки метрические; в строках находятся подчистки, переправки, перемарки, и помежду строк приписки; есть и по сторонам листов записки метрические. В некоторых книгах находятся записанные статьи перечерченными». Камісія выказвала меркаванне, што ўсё гэта сведчыла аб мэтанакіраванай фальсіфікацыі метрычных выпісаў. Адначасова камісія сцвярджала, што «и после приведения ею в предписанный порядок метрических книг, нельзя совершенно обеспечивать на будущее время от каких-либо в них подлогах средствами уже открытыми, то есть чрез приписки помежду строк и по сторонам листов, или чрез поправки, перемарки и подчистки в самих строках, и наконец чрез записки метрик даже по перечерчиваемым пробелам...». Камісія выступіла

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 13адв.

[2] Там жа. Арк. 179–179адв.

з ініцыятывай іншага характару, якая павінна была надзейна засцерагчы метрыкі ад фальсіфікацыі. Прапаноўвалася «для решительной преграды (фальсификациям. – *В. М.*) по книгам метрическим как в деле государственном... нет другой надежнейшей меры... чтобы все метрические книги по нынешний 1834 год были собраны в консистории и в настоящем их виде представлены в Герольдию, где при рассмотрении дел о дворянском происхождении шляхты сдешнего края, в течении назначенного для сего предмета времени, сверх обыкновенных метрических выписей, представляемых шляхтою, могут быть с удобностью чинимы ближайшие соображения по самим оригинальным книгам ко удостоверению как о законности, несомнительности, следственно и о важности записанным по оных книгам метрических о каждом лице статей, так и о том, будут ли согласовываться с существенным сих статей положением метрические выписи, выданные шляхте от духовного их начальства»[1].

Такім чынам, ужо сама камісія выступіла ініцыятарам замены патрабаванняў інструкцыі, што была складзена людзьмі, якія не мелі штодзённага дачынення з актамі і метрыкамі. Камісія прапанавала той надзейны спосаб для пазбягання фальсіфікацый, які быў найбольш просты для яе – сабраць усе метрычныя кнігі і пераслаць іх у Пецярбург, дзе б у Герольдыі і ажыццяўлялася праца з імі. Можна меркаваць, што такі варыянт найбольш падыходзіў для членаў камісіі, паколькі пры яго рэалізацыі яны б не павінны былі знаходзіцца ў доўгатэрміновай камандзіроўцы па беларускіх паветах. Аналізуючы перапіску і падзеі, звязаныя з дзейнасцю камісіі, можна прыйсці да высновы, што членаў камісіі вельмі абцяжарвала праца ў ёй.

Калі казаць пра самі аб'екты рэвізавання, то пасля метрычных кніг камісія павінна была перайсці да рэвізіі актавых. Тут зноў узнікла нечаканае непаразуменне – адсутнічала агульнапрынятае значэнне тэрміна «актавая кніга», пра што даносіў у камісію губернскі пракурор. Мясцовыя ўлады не разумелі, якія менавіта кнігі павінны быць прадастаўлены на рэвізію – усе старажытныя кнігі ўвогуле, якія знаходзіліся ў павятовых судах, ці толькі асобныя іх катэгорыі. Губернскі пракурор прасіў камісію ўдакладніць гэты момант[2]. На жаль, адказу камісіі на гэта пытанне ў справах не збераглося.

Падобнае пытанне ўзнікла і адносна гродскіх кніг. У выніку было загадана іх не рэвізаваць, «ибо в сих книгах находятся одне лишь акты от-

---

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 19–20.

[2] Там жа. Арк. 22–22адв.

носящиеся к сословию граждан, кои не могут служить доказательством дворянского происхождения», а іх рэвізія «продлила бы напрасно существование сей (комиссии. – *В. М.*) на неограниченное и довольно продолжительное время, (и) излишним издержкам казны»[1].

Мы зноў бачым, што першапачатковы закон і інструкцыя аб правядзенні рэвізіі былі вельмі «сырымі», дэманстравалі незнаёмасць і няведанне тонкасцей архіўнай работы і саміх дакументаў перыяду былой Рэчы Паспалітай на ўсіх узроўнях. Відавочна тое, што праект правядзення рэвізіі актавых і метрычных кніг быў складзены без глыбокай прапрацоўкі ўсіх асаблівасцей будучай рэвізіі.

Паводле рапарта камісіі, скончыўшы 15 чэрвеня 1834 г. рэвізію метрык хросту ў Магілёўскай кансісторыі і змацаваўшы тады ж актавыя кнігі Магілёўскага павятовага суда, камісія накіравалася ў Полацк для рэвізіі метрык у Беларускай грэка-ўніяцкай духоўнай кансісторыі. Праязджаючы трактам праз Копысь, Бабінавічы і Віцебск, камісія затрымлівалася, каб змацаваць там таксама і актавыя кнігі[2]. Вядома, што ў ліпені – жніўні 1834 г. камісія спынілася ў Віцебску і пачала займацца рэвізіяй актавых кніг у Віцебскім павятовым судзе. 14 жніўня яна паведаміла міністру юстыцыі: «...все книги приведены в порядок, перечерчены как между строк, так и по полям всех листов, прошнурованы, пронумерованы, подписью членов и печатью комиссии скреплены и под расписку в уездный суд сданы... иные книги найдены в виде хорошем, в иных же от древности многие листы подверглись тлению и порчи, в некоторых от гнилости одне клочки листов остались без начала и конца, в других середки актов оклеены неписанной бумагой, в некоторых листы вырваны с начала и в середине книги, небольшая часть без переплета и оберток»[3]. З гэтых паведамленняў бачны стан архіўнай справы на той час і гаротны стан актавай спадчыны Беларусі, частка якой была беззваротна страчана.

Якраз пасля працы ў Віцебскім павятовым судзе адбыліся кардынальныя змены ў складзе камісіі. Адзін з яе членаў, а менавіта Грыгаровіч, яшчэ 3 мая накіраваў у камісію просьбу аб яго звальненні, абгрунтаваўшы гэта хваробай. Прасіў нават засведчыць яго стан медычна[4]. Толькі 10 жніўня па загадзе міністра юстыцыі ён быў афіцыйна адкліканы. На яго месца 18 верасня быў прызначаны чыноўнік Дэпар-

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 48адв.

[2] Там жа. Арк. 180–182.

[3] Там жа. Арк. 28–29.

[4] Там жа. Арк. 9.

тамента Міністэрства юстыцыі тытулярны радца Недабыльскі[1]. Другі член камісіі – Казоці – таксама атрымаў звальненне і быў заменены прысланым з Санкт-Пецярбурга чыноўнікам па асобых даручэннях калежскім радцам медычнага дэпартамента Казмінскім[2]. Трэці член камісіі палкоўнік П. Мердэр амаль у той жа час, што звяртае на сябе ўвагу, 14 жніўня, паведаміў, што яго адазваў у Санкт-Пецярбург шэф жандараў граф Бенкендорф. Такім чынам, старая камісія фактычна перастала існаваць. З аналізу дакументаў бачна, што праца ў камісіі, мякка кажучы, не карысталася вялікай папулярнасцю.

Акрамя таго, яшчэ ў першага складу камісіі ўзнікалі праблемы з фінансаваннем. Члены камісіі вымушаны былі закладаць уласныя грошы за пераеды, бо мясцовыя фінансавыя органы не атрымалі распараджэння з Міністэрства фінансаў аб выдзяленні сродкаў на прагоны паміж гарадамі для членаў камісіі, хоць камісія павінна была фінансавацца са сродкаў мясцовых казначэйстваў. Магчыма, па фінансавых прычынах, а магчыма і з-за цяжкасці працы і нежадання членаў камісіі выконваць ускладзеную на іх місію з 14 жніўня і да кастрычніка 1834 г. камісія спыніла сваю дзейнасць. У адным з дакументаў указваецца, што камісія часова прыпыніла дзейнасць, нават не скончыўшы рэвізію метрычных кніг Магілёўскай рыма-каталіцкай кансісторыі, па прычыне хваробы двух яе членаў[3]. У канчатковым рапарце аб працы камісіі, падрыхтаваным у кастрычніку 1835 г., новы склад камісіі ацаніў працу сваіх папярэднікаў наступным чынам: «...с окончанием книг по Витебскому уездному суду, последовало в одно и тоже время увольнение от занятия по настоящей комиссии обеих членов ея Григоровича и Казоти, а полковник Мердер, пользуясь сим, отправился в С-Петербург. Таким образом действие комиссии, предтем неуспешное, 17 августа совершенно прекратилось»[4].

У гэты ж час у павятовых судах ішла бурлівая праца па падрыхтоўцы актавых кніг на рэвізію. Зразумела, вялікай радасці службоўцы судоў ад дадатковых абавязкаў, якія зваліліся на іх, не мелі. У верасні 1834 г. камісіяй быў атрыманы ліст з Мсціслаўскага павятовага суда, у якім апісваўся гаротны стан тамашняга архіва. У вялізным лісце, падпісаным

[1] Предписание министра юстиции о проверке метрических и актовых книг по губерниям Витебской, Могилевской и Минской // НГАБ. Ф. 3124. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 10, 12.

[2] Там жа.

[3] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 52.

[5] Там жа. Арк. 179–180.

дваранскім засядацелем Дабравольскім, прыводзілася гісторыя архіва з 1812 г. Указвалася на неразбярыху ў лістах, якая была выклікана эвакуацыяй архіва ў Смаленск у 1812 г., але таксама і неахайнасць ранейшых архіварыусаў, адзначаліся адсутнасць пераплётаў, пераблытанасць старонак. Болей за тое, суд паведамляў, што «привести архив сей в надлежащий порядок не может, потому что не имеет у себя знающего совершенно славянский почерк (тут відавочна маецца на ўвазе старабеларуская мова. – *В. М.*), которым писаны все гродские акты, почему нет возможности рассортировать самые акты... Заняться сим необходимо нужно свободным чиновникам от прочих обязанностей... потому что... неминуемо последует совершенное упущение по своей должности... что для переплета книг и наем переплетчика и закупку материалов не мало нужно расхода денег, а сей суд никакой к тому возможности не находит»[1].

Зразумела, што працаваць з актамі, не сабранымі па гадах у асобныя кнігі, камісія не магла. Можна адначасова здагадвацца, што менавіта такія архівы былі найлепшым месцам для фальсіфікацый. Іх рэвізія праведзена быць не магла, што фактычна зрывала заканадаўчую ініцыятыву. Тут зноў можна зрабіць выснову, што закон аб рэвізіі актавых кніг быў выдадзены без належнай папярэдняй прапрацоўкі, не быў праведзены аналіз стану саміх актаў і архіваў, у якіх яны знаходзіліся. Не была ўзята ў разлік недастатковая кваліфікаванасць мясцовых чыноўнікаў і членаў камісіі пры працы з тэкстамі на старабеларускай і лацінскай мовах.

З дакументаў даведваемся таксама, што пра кепскі стан спраў адносна правядзення рэвізіі актавых і метрычных кніг у Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай губернях быў адразу праінфармаваны міністр юстыцыі Д. Дашкоў. І гэта не дзіўна, паколькі камісія была ўтворана як орган, падначалены якраз Міністэрству юстыцыі, і менавіта ад яго яна атрымлівала распараджэнні. Узніклыя ў працы рэвізійнай камісіі праблемныя пытанні былі выкладзены міністрам у накіраванай на імя імператара запісцы. Сам факт разгляду пытання імператарам ужо сведчыць пра высокую важнасць рэвізійных мерапрыемстваў у беларуска-літоўскіх губернях, якую ім надавалі ўлады, а недастатковасць прапрацоўкі пытання сведчыць пра імкненне ўлад як мага хутчэй прыступіць да рэалізацыі мерапрыемстваў, якія б садзейнічалі спыненню масавай фальсіфікацыі дваранскіх дакументаў. Вынікам разгляду 23 кастрычніка запіскі манархам стала падрыхтоўка новага ўказа ад 7 лістапада 1834 г., якім

---

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 36–37.

здымаліся некаторыя пытанні адносна працы камісіі – у першую чаргу звужалася кола дакументаў, якія траплялі пад рэвізію. Загадвалася: «Метрики, находящиеся в духовных правлениях, деканатах и других ведомствах греко-унитского и римско-католического исповеданий, а также метрики содержимые в греко-российских церквях, равно актовые книги в градских и земских полициях, не подвергать рассмотрению учрежденных в западных губерниях комиссий». У другім пункце адзначалася: «...поелику актовые книги могут находиться и в гражданских палатах, то оные в сих местах подвергнуть действию комиссии на том же основании как предписано... об актовых книгах по уездным судам, с тем, что приведение их в надлежащий порядок должно производиться в присутствии сих мест при губернском стряпчем». У трэцім пункце загадвалася «не распространять действий... комиссии на депутатские собрания, ибо для ревизии действий оных... вследствие... утвержденного в 20-й день апреля сего года мнения Госсовета составляются уже по всем губерниям кроме Грузии особые комиссии»[1]. Тэкст указа звяртае нас да пераканання, што ўлады першапачаткова нават добра сабе не ўсведамлялі, якія рэальна актавыя дакументы неабходна абрэвізаваць і падшыць. Задача для рэвізійных камісій некалькі спрашчалася.

Праца камісіі, прыпыненая ў жніўні 1834 г., ужо ў новым складзе і па новых правілах аднавілася толькі 29 кастрычніка, калі ў Віцебск даехаў новы яе член Казмінскі і вярнуўся палкоўнік Мердэр. Але аднаўленне дзейнасці было звязана з новым кур'ёзам. Камісія вымушана была ў чарговы раз пачаць працу з метрычнымі кнігамі ў Магілёўскай кансісторыі і кнігамі тамашняга павятовага суда. Прычына была ў тым, што 30 чэрвеня 1834 г. выйшла распараджэнне міністра юстыцыі Д. Дашкова, каб у метрычных і актавых кнігах пры правядзенні рэвізіі не было пакінута ні найменшага прабелу. Тое, што правілы аб правядзенні рэвізіі змяняліся ў той момант, калі частка дакументаў была ўжо абрэвізавана, у чарговы раз дэманструе недастатковую інфармаванасць улад аб стане спраў, аб паспешлівасці і імпульсіўнасці ў правядзенні рэвізіі. У сувязі з неабходнасцю дадатковага перакрэслівання пустых месцаў ва ўжо абрэвізаваных дакументах камісія была вымушана вярнуцца ў Магілёў і ў другі раз, але ўжо ў абноўленым складзе «не только в дни, но и по вечерам до глубокой ночи», як адзначалася ў рапарце[2], пачаць працу па перакрэсліванні з усіх бакоў аркуша пустых месцаў у тых метрычных кнігах, якія ўжо

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 69–70.

[2] Там жа. Арк. 52.

былі перакрэслены толькі паміж радкоў і падшыты камісіяй папярэдняга складу[1]. За лістапад камісія паспела перагледзець і перакрэсліць 47 324 старонкі 532 метрычных кніг[2]. Заўвагі камісіі адносна дапісак і стану саміх кніг заносіліся ў спецыяльны журнал, а таксама рабіліся ў саміх кнігах у тых месцах, дзе прыкладалася пячатка камісіі.

Акрамя метрычных кніг, камісія прагледзела і актавыя кнігі павятовага суда. У рапарце камісіі з Магілёва, які быў адасланы ў Міністэрства юстыцыі 22 снежня 1834 г., адзначалася, што былі праверaны і перакрэслены 664 метрычныя кнігі на 57 140 аркушах і 95 актавых кніг на 14 250 аркушах[3]. Пасля рэвізіі метрыкі здаваліся назад у кансісторыю.

Праца камісіі новага складу, таксама як і папярэдняга, сутыкнулася з праблемай фінансавання яе дзейнасці. Камандзіраваныя ў склад камісіі чыноўнікі з Міністэрства ўнутраных спраў і Міністэрства юстыцыі мелі выдаткаваныя сутачныя толькі на тры месяцы, але, як паведамлялася ў рапарце камісіі, «как же время сие истекло уже и... чиновники не получили никакого жалования, нуждаются в дальнейшем содержании себя, особенно при настоящей весьма ощутительной в сдешнем крае дороговизне на все, и при частых с места на место переездах». Камісія ў рапарце прасіла на чарговыя тры месяцы забяспечыць чыноўнікаў сутачнымі для пераезду і працы камісіі ў Мінску[4]. Ёсць звесткі і пра сродкі, якія выдзяляліся членам камісіі: калежскі радца Казмінскі атрымліваў сутачных з разліку па 120 руб. на месяц, а тытулярны радца Недабыльскі – па 90 руб.[5]

У гэты час у камісію паступіла інфармацыя, што не ўсе метрычныя кнігі з Віцебскай губерні былі дастаўлены на рэвізію ў Магілёў падчас рэвізіі кніг Магілёўскай кансісторыі. Высветлілася, што метрычныя кнігі шацілаўскага касцёла, паводле паведамлення Віцебскага губернскага праўлення, «самоуправно удерживаются помещиком Полоцкого уезда Рипинским... быть может в видах неблагонамеренных», прычым Магілёўская кансісторыя ўжо год, са снежня 1833 г., безвынікова намагалася змусіць Рыпінскага здаць кнігі ў кансісторыю. Па патрабаванні земскага суда і губернскага праўлення Рыпінскі здаў кнігі толькі

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 42.

[2] Там жа. Арк. 52адв.

[3] Там жа. Арк. 58адв.

[4] Там жа. Арк. 60–60адв. (Пытанне выдаткавання грошай на праезд да Мінска было станоўча вырашана ў студзені 1835 г., а выдаткі бюджэту спісаны на рахунак экстраардынарнай сумы.)

[5] Предписание министра юстиции о проверке ... Арк. 28.

за апошнія гады і даў тлумачэнні, што кнігі за ранейшы перыяд захоўваюцца ў іншага памешчыка Рыпінскага з Дзісненскага павета Мінскай губерні[1]. Канешне, факт таго, што метрычныя кнігі захоўваліся ў прыватнай асобы, здзіўляе, але ўся гэта гісторыя з нежаданнем выдаваць кнігі на рэвізію наводзіць у першую чаргу на думку аб магчымай заангажаванасці згаданага Рыпінскага ў фальсіфікацыі дваранскіх дакументаў. Рыпінскаму пагражалі нават судом і вобыскам за «противоборство правительству». Абвінавачванні былі таксама і ў адрас Полацкага земскага суда за «необращение должного внимания в совокупности с прочими неудовлетворительными действиями оного суда в отобрании от Рипинского книг»[2]. Эпізод з затрыманнем кніг прыватнай асобай вельмі паказальны. Гэта чарговае сведчанне неразбярыхі і злоўжыванняў у вядзенні і захоўванні метрычных кніг і іх выкарыстання з мэтамі фальсіфікацыі дваранскіх дакументаў і пазбягання разбору шляхты. Цяжка знайсці іншае тлумачэнне захоўванню метрычных кніг у памешчыка, акрамя як жаданне схаваць факты фальсіфікацыі запісаў і заангажаванасці ў гэты працэс.

По меры працы камісіі з рэгіёнаў прыходзілі і іншыя паведамленні, якія сведчылі, што ў яе дзейнасці маюцца цяжкасці і што далёка не ўсе метрычныя і актавыя кнігі трапляюць пад рэвізію. Так, 25 кастрычніка 1834 г. віцебскі губернскі пракурор накіраваў рапарт генерал-губернатару М. Хаванскаму, у якім паведамляў, што ў Полацкім павятовым судзе знаходзяцца «...принадлежащие церквям и монастырям упраздненным и ныне существующим римско-католического, унитского, лютеранского, реформатского и армяно-католического исповеданий актовые книги с 1667 по 1797 год, и что книги сии находятся в беспорядке». Пракурор адзначаў, што губернскае праўленне ўжо выказалася з прапановай указаць суду на неабходнасць прывядзення іх у парадак, паколькі «в таковой древности может быть заключаются документы особенной важности, которые легко могут быть при приведении означенных книг в порядок подвернуться утайке или совершенному истреблению». Пасля разгляду пракурорскага рапарта М. Хаванскі выдаў распараджэнне, у якім, нягледзячы на тое, што ў абавязкі камісіі не ўваходзіла выяўленне дакументаў, што ўтрымліваюць «важныя і патрэбныя» звесткі, генерал-губернатар усё ж загадаў губернскаму праўленню падрыхтаваць прапановы і праект распараджэння адносна гэтага пытання. Губернскае праўленне падрыхтавала распараджэнне, каб направіць

---

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 61–61адв.
[2] Там жа. Арк. 63.

камісію з Магілёва ў Полацк для выканання рэвізіі ў Полацкім павятовым судзе. Адначасова ў рапарце губернатару ўказвалася, што для выяўлення важных звестак неабходны чыноўнік, які б дасканала ведаў замежныя мовы, а паколькі ў праўленні такога чыноўніка няма, то губернскае праўленне прапанавала яго прызначыць генерал-губернатару, з тым каб гэты чыноўнік праглядаў актавыя кнігі і выяўляў важныя дакументы падчас працы рэвізійнай камісіі[1]. Для рэалізацыі такой задачы і нармальнай працы рэвізійнай камісіі, відавочна, не хапала кваліфікаваных кадраў з веданнем старабеларускай і лацінскай моў.

Яшчэ адной праблемай працы камісіі, якая вельмі зацягвала рэвізію, было тое, што дакументы часта знаходзіліся ў беспарадку. Адсутнічалі рэгістры кніг, кнігі не былі падрыхтаваны ў храналагічным парадку. У сувязі з гэтым, напрыклад, перад ад'ездам з Магілёва ў Мінск у студзені 1834 г. камісія разаслала ў Мінскі, Магілёўскі і Віцебскі грамадзянскія суды, а таксама магілёўскаму і віцебскаму губернскім страпчым просьбу аб упарадкаванні актавых кніг, складанні храналагічнага рэгістра з пазначэннем таго, якія дакладна дакументы знаходзяцца ў кнігах, а таксама аддзяленні ад іх кніг, якія не падлягаюць рэвізіі ў адпаведнасці з указам[2].

У Мінску камісія пачала працу ў студзені 1835 г.[3] Цікава, што яна ўжо мела пэўнае ўяўленне пра стан спраў з доказамі дваранства ў гэтай губерні, паколькі ў рапарце ад 22 снежня 1834 г. указваецца, што камісія накіроўваецца ў Мінск для праверкі метрычных кніг, «где наиболее предполагается шляхты имеющей утверждения их в дворянском достоинстве»[4]. Пра тое, што якраз Мінск быў найбольш значным цэнтрам, дзе адбываліся фальсіфікацыі, ведаем таксама і з іншых успамінаў сучаснікаў. Акрамя тых метрычных кніг, якія дастаўляліся з прыходаў, Беларуская грэка-ўніяцкая духоўная кансісторыя прыгатавала на прагляд камісіі ў Мінску 315 метрычных кніг уніяцкіх прыходаў Віцебскай, Курляндскай, Магілёўскай, Мінскай губерняў, якія захоўваліся непасрэдна ў архіве кансісторыі[5]. Гэты факт выклікае пэўнае здзіўленне, паколькі працытаваным вышэй указам ад 7 лістапада 1834 г. загадвалася «метрики, находящиеся в духовных правлениях, деканатах

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 75–80.

[2] Там жа. Арк. 81–82.

[3] Журнал для записи рассмотренных и проверенных метрических книг // НГАБ. Ф. 3124. Воп. 1. Спр. 7. Арк. 1–34 ; Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 54.

[4] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 59адв.

[5] Переписка комиссии с греко-униатской духовной консисторией ... Арк. 32–39адв.

и других ведомствах греко-унитского и римско-католического исповеданий, а также метрики содержимые в греко-российских церквях, равно актовые книги в градских и земских полициях, не подвергать рассмотрению...». Відаць, патрабаванні ў чарговы раз былі зменены па ходзе рэвізіі, паколькі ва ўніяцкіх метрычных кнігах маглі быць запісаны і каталікі. Рэвізіі падлягалі таксама метрычныя кнігі з каталіцкіх прыходаў. Па Магілёўскай і Віцебскай губернях быў складзены спіс, які налічваў 133 прыходы і капліцы. З каталіцкіх прыходаў, у залежнасці ад іх фінансавага стану, спаганялася не менш 1 руб. срэбрам на пранумараванне, прашнуроўку кніг і на сургуч для пячаткі[1]. Атрымлівалася, што па меншай меры часткова фінансаванне рэвізіі ўскладалася на саміх рэвізаваных.

Камісія, створаная для Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў, па папярэдніх выніках сваёй працы пацвердзіла наяўнасць праблемы фальсіфікацыі дакументаў і паведамляла ў Пецярбург І. Лабанаву-Растоўскаму пра заўважаныя «беспарадкі» ў метрычных кнігах: «...замечены в оных большие беспорядки, что в некоторых книгах находятся листы вшитые и вклеенные, в строках подчистки, переправки, между строк приписки и по сторонам листов записки метрические; почему комиссия полагает, что и после исполнения возложенного на нее поручения могут происходить в означенных книгах подлоги...»[2].

Пасля абмеркавання выяўленых праблем і злоўжыванняў у актавых і метрычных кнігах былі дадзены першыя інструкцыі міністра юстыцыі па супрацьдзеянні фальсіфікацыям. 14 лістапада 1834 г. дваранскім дэпутацкім сходам і Герольдыі загадвалася, «дабы при производстве и рассмотрении дел о дворянстве они обращали тщательнейшее внимание на все документы...». Рыма-каталіцкім і грэка-каталіцкім кансісторыям і іншым установам, якія выдавалі метрычныя пасведчанні, было загадана не проста іх выдаваць, але і «при выдаче метрических выписей вникать в правильность записки метрики» і пры выдачы метрычных пасведчанняў адзначаць у іх тое, што будзе здавацца падазроным або падложным у метрычных кнігах[3].

Пасля завяршэння рэвізіі метрычных кніг камісія павінна была накіравацца па павятовых гарадах, дзе праводзіць рэвізію і прашыўку актавых кніг у павятовых судах[4]. Аднак сітуацыя з дакументамі,

[1] Переписка комиссии с греко-униатской духовной консисторией ... Арк. 16адв.

[2] Переписка по вопросу об обнаружении подложных документов ... Арк. 16.

[3] Там жа. Арк. 16–17.

[4] Губернские комиссии по проверке актовых и метрических книг ... Воп. 1. Спр. 3. Арк. 13адв.

якія там захоўваліся, не пакідала для камісіі надзеі на лёгкую працу. Так, у студзені 1835 г. камісія атрымала данясенне Віцебскага губернскага праўлення, у якім паведамлялася, што, нягледзячы на выдадзеныя распараджэнні, актавыя і метрычныя кнігі, якія зберагаліся ў Дынабургскім павятовым судзе, знаходзіліся ў поўным беспарадку. Адносна гэтых дакументаў губернскім праўленнем было дадзена распараджэнне павятоваму суду, гарадніčаму і павятоваму страпчаму запячатаць кнігі ў тым стане, у якім яны знаходзяцца аж да моманту прыбыцця камісіі. Падобнае распараджэнне было дадзена таксама Полацкаму і Пінскаму павятовым судам і павятовым страпчым[1]. Фактычна губернскія ўлады не хацелі браць на сябе клопат падрыхтоўкі дакументаў да рэвізіі, тым больш не маючы адпаведных кадраў і фінансавання на гэту работу. Камісія, у сваю чаргу, намагалася, наадварот, перакласці працу на мясцовыя ўлады. Так, у Пінску, дзе, па яе звестках, захоўвалася больш за 400 кніг, камісія прапанавала павятоваму суду тэрмінова прыняць меры па прашнуроўцы і перакрэсліванні гэтых кніг. У выпадку ігнаравання звароту камісія пагражала данясеннем пра гэта міністру юстыцыі[2].

Полацкі павятовы суд меў больш за 200 кніг, якія захоўваліся ў будынку Базыльянскага манастыра. У лютым 1835 г. былі ўдакладнены патрабаванні камісіі да Дынабургскага і Полацкага судоў па падрыхтоўцы дакументаў да рэвізіі. Плануючы прыезд, камісія прасіла прадаставіць больш дакладныя звесткі пра кнігі, якія ў іх захоўваліся, колькі, калі і якія метрычныя і актавыя кнігі паступілі, якіх цэркваў, ці ёсць вопіс кніг, ці патрабаваліся кім-небудзь і ці рабіліся з іх копіі і выпісы, у якім стане знаходзяцца і чаму не прыведзены ў парадак[3]. Пачатая дзейнасць Полацкага павятовага суда па навядзенні парадку ў актавых кнігах была, аднак, прыпынена пратэстам віцебскага губернскага пракурора. Спаслаўшыся на тое, што такая дзейнасць можа прывесці да знішчэння значнай часткі дакументаў, сярод якіх маглі быць і важныя, ён загадаў прашнураваць кнігі ў тым стане, у якім яны рэальна знаходзіліся, і трымаць да моманту прыезду камісіі. Такое ж распараджэнне было выдадзена Віцебскім губернскім праўленнем і ў адносінах да кніг Дынабургскага павятовага суда. На гэтым узроўні мы бачым відавочнае супрацьдзеянне дзяржаўных органаў, якія выдавалі распараджэнні, што супярэчылі адно

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 86–87, 93, 96адв.

[2] Там жа. Арк. 96адв.–97адв.

[3] Там жа. Арк. 92–93.

другому[1]: камісія патрабавала ўпарадкаваць акты і метрыкі, а губернскія пракуроры і губернскія праўленні – запячатаць кнігі і не чапаць іх да моманту прыбыцця камісіі.

У адказ на запыты камісіі адносна стану мясцовага архіва Полацкі павятовы суд адзначаў, што вопісаў спраў няма, справы не раскладзены па храналогіі, паколькі новым наглядчыкам і службоўцам яны былі перададзены без вопісаў, а многія старыя наглядчыкі ўжо памерлі. Гэты факт зноў дае ўяўленні пра адсутнасць па меншай меры на першую трэць XIX ст. добра пастаўленай архіўнай справы і кантролю над дакументамі. З Дынабургскага павятовага суда паведамлялася, што наяўныя ў іх актавыя дакументы, хутчэй за ўсё, ніколі не былі пераплецены і знаходзяцца ў лістах у адной кучы[2]. Відаць, колькасць дакументаў у Дынабургскім судзе не была вялікай, паколькі пасля атрымання першага распараджэння губернскага праўлення члены суда пачалі складаць дакументы па гадах, месяцах і днях і амаль скончылі справу, калі ў гэты час нечакана атрымалі прамое прадпісанне Віцебскага губернскага праўлення апячатаць кнігі ў такім стане, у якім яны знаходзіліся, што ставіла іх у нязручную сітуацыю.

Камісія, у сваю чаргу, зноў патрабавала скласці рэестры і пранумараваць старонкі актавых і метрычных кніг у павятовых судах, правесці іх апісанне. Але і тут былі цяжкасці арганізацыйнага парадку. Так, віцебскі губернскі пракурор у студзені 1835 г. паведаміў у камісію, што не можа выканаць такога патрабавання з тае прычыны, што ўсе павятовыя страпчыя былі камандзіраваны начальствам з павета ў павет для паверкі восьмай народнай рэвізіі[3]. Віцебскі губернскі крымінальных спраў страпчы асабіста, нават відавочна здзекліва напісаў у камісію, што «не в состоянии исполнить приятнейшего поручения комиссии», паколькі знаходзіўся ў доўгатэрміновай камандзіроўцы. Страпчы нагадаў камісіі, што па законе ў яго адсутнасць пытанне павінен быў вырашаць губернскі казённых спраў страпчы, да якога і прапанаваў звярнуцца членам камісіі[4]. Пакуль у Віцебскай губерні ішла падрыхтоўчая работа над актавымі кнігамі і цягнулася перапіска з камісіяй, тая працягвала працаваць у Мінску.

7 студзеня 1835 г. камісія пачала рэвізію звезеных з усёй епархіі метрычных кніг у Мінскай рыма-каталіцкай духоўнай кансісторыі. Акра-

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 104–104адв.

[2] Там жа. Арк. 105.

[3] Там жа. Арк. 88.

[4] Там жа. Арк. 89.

мя кансісторыі, праца камісіі ў губерні прадугледжвала работу ў трох грамадзянскіх палатах і 30 павятовых судах, дзе захоўваліся актавыя кнігі. За студзень камісіяй былі прагледжаны 55 кніг на амаль 42 тыс. старонак. Камісія, паводле рапарта, занесла ў спецыяльны журнал заўважаныя фальсіфікацыі і рэестр кніг[1]. 5 сакавіка камісія рапартавала ў Міністэрства юстыцыі, што праверыла, апрацавала і здала на захаванне ў кансісторыю ўжо 443 метрычныя кнігі на 33 085 аркушах, а ў архіў Мінскай грамадзянскай палаты 87 актавых кніг на 13 316 аркушах[2].

Цікава, што адным з членаў камісіі быў Павел Карлавіч Мердэр, узведзены якраз у сакавіку 1835 г. у чын генерал-маёра. Будучы сенатар быў братам Карла Карлавіча Мердэра, на той час выхавацеля вялікага князя Аляксандра II. Мердэр па пэўных прычынах, магчыма звязаных з яго службай у Корпусе жандараў, на самай справе не прыняў працы ў другім складзе камісіі, членам якой фармальна лічыўся і абавязаны быў падпісваць актавыя і метрычныя кнігі. Камісія накіравала яму ліст, у якім паведамляла, што пакінула месцы ў прарэвізаваных кнігах для яго подпісу, а таксама прасіла паведаміць, па якой прычыне ён не можа прымаць удзел у працы камісіі, паколькі, як вынікае з дакументаў, адсутнасць Мердэра стварала цяжкасці для яе. Камісія нават накіравала адпаведны зварот у Міністэрства юстыцыі аб замене К. Мердэра, што было ў выніку зроблена[3].

3 красавіка камісія рапартавала, што на працягу сакавіка 1835 г. яна прывяла ў парадак усе кнігі Мінскага павятовага суда: 688 кніг, а ўсяго з пачатку года ў грамадзянскай палаце, кансісторыі і павятовым судзе 1773 кнігі на больш чым 364 тыс. аркушаў[4].

Тут звяртае на сябе ўвагу яшчэ адзін факт, які высвятляецца, калі прааналізаваць хуткасць работы камісіі з дакументамі. Вельмі сумнеўна, каб камісія надта сумленна ставілася да працы і якасна праглядала актавыя кнігі. Нават калі дапусціць, што камісія працавала тры месяцы без выходных дзён, па 12 гадзін на суткі, атрымаецца, што яна праглядала амаль 340 старонак за гадзіну, ці па 6 старонак на хвіліну. Пры гэтым трэба было ўносіць звесткі з заўвагамі ў адпаведны журнал. Такі тэмп працы камісіі можа сведчыць пра даволі фармальнае азнаямленне членамі камісіі са зместам актавых і метрычных кніг і выяўленне толькі найбольш відавочных фальсіфікацый і падлогаў.

---

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 90–91.

[2] Там жа. Арк. 98–98адв.

[3] Там жа. Арк. 102–103адв., 112адв.

[4] Там жа. Арк. 112.

Пасля завяршэння працы ў Мінску, здаўшы журналы ў губернскае праўленне, камісія накіравалася ў павятовыя гарады губерні для рэвізіі актавых кніг павятовых судоў. Тым часам прыйшла інфармацыя, што распараджэннем міністра юстыцыі 8 лютага была закрыта рэвізійная камісія для Кіеўскай, Валынскай і Падольскай губерняў[1]. Гэты факт прыспешваў і мясцовую камісію да скарэйшага завяршэння работы. Ішла таксама актыўная падрыхтоўка да рэвізіі актавых кніг у Магілёўскай губерні, у якую павінна была вярнуцца камісія. Так, Мсціслаўскі павятовы суд 22 красавіка 1835 г. дакладваў, што была скончана сарціроўка лістоў архіва актавых кніг, які моцна пацярпеў у вайну 1812 г. Далей у тамашнім архіве стаяла задача стварэння новых пераплётаў і прашнуроўкі кніг, што дало б магчымасць прыступіць да працы камісіі. Для гэтых мэт сярод мясцовых яўрэяў-пераплётчыкаў былі аб'яўлены таргі на выкананне работ, у сувязі з чым павятовы суд прасіў губернскае праўленне хутчэй вырашыць справу з выдзяленнем адпаведнай сумы грошай. Меркавалася, што пераплёт актаў, напісаных на польскай мове (а гэта было 54 кнігі), будзе скончаны праз месяц. Праблема, аднак, была з тымі 15 кнігамі актаў, якія былі напісаны на старабеларускай мове (у арыгінале: «писанные старинным славянским почерком»). Прачытаць іх самастойна ў судзе не маглі, для чаго губернскае праўленне заказала перакладчыка, але ён да таго часу так і не прыбыў. Суд паведамляў камісіі: «...для того к разборке приступить за незнанием сего почерка невозможно»[2].

Сама ж камісія ў красавіку працавала з актавымі кнігамі Барысаўскага, Дзісненскага і Вілейскага паветаў. Паводле чарнавіка рапарта камісіі, які захоўваецца ў НГАБ, за красавік ёй былі апрацаваны 333 кнігі ў Барысаве на 83 219 аркушах, 132 кнігі ў Дзісне на 27 835 аркушах і 141 кніга на 37 454 аркушах у Вілейцы, а таксама яшчэ 44 метрычныя і актавыя кнігі ў Мінскай духоўнай кансісторыі. У кнігах Барысаўскага павятовага суда камісія выявіла тры падазроныя запісы – запісаны на прабелах каралеўскі прывілей на чын падчашага Рафаіла Петрусевіча, другі таксама на прозвішча Петрусевіча, але нясканчаны, а трэці таксама нясканчаны і таксама на прозвішча Петрусевіча на прыгоннае права, дадзенае ім розным асобам. Працягвала камісія, паводле інфармацыі з рапарта, і выяўленне «неприличного содержания акты 1812 и 1831 гг.».

Цяжкасці ў працы камісіі па-ранейшаму заставаліся з заменай былога палкоўніка, а цяпер ужо генерал-маёра Мердэра. Камісія паве-

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 119.

[2] Там жа. Арк. 120–121.

дамляла ў Міністэрства юстыцыі 3 мая, што прызначаны на яго месца з Тамбова маёр Корпуса жандараў Камінскі таксама так і не прыбыў у Мінск. Таму камісія вырашыла працягнуць працу ў складзе толькі наяўных яе членаў[1]. Яна паведамляла міністру, што плануе накіравацца для праверкі актавых кніг у паветы, у якіх яшчэ не працавала.

За май камісія планавала скончыць працу ў паветах Мінскай губерні і накіравацца для рэвізіі метрычных кніг у Магілёўскую губерню. Пры гэтым яна планавала змяніць фармат работы. Губернатару Б. І. Бажанаву быў дасланы ліст з просьбай, каб рыма-каталіцкая кансісторыя тыя метрычныя кнігі, якія яшчэ не былі разгледжаны камісіяй, прадаставіла для яе прагляду і змацавання пячаткай у павятовых гарадах, пры гэтым камандзіраваўшы свайго дэпутата. Камісія прасіла таксама камандзіраваць у яе склад магілёўскага губернскага страпчага. Ён павінен быў прыбыць 15 чэрвеня 1835 г. у горад Беліцу, куды камісія планавала накіравацца[2]. Далей камісія павінна была паехаць у Рагачоў і Стары Быхаў. У маі яна ўжо заканчвала сваю працу ў Мінскай губерні, дзе ў Пінску апрацавала 173 актавыя кнігі на 195 008 аркушах, 174 кнігі на 34 963 аркушах у Слуцку, 90 кніг у Ігумене на 16 950 аркушах, а таксама 29 метрычных кніг на 1632 аркушах. Разам – 466 кніг на 248 633 аркушах. Нават калі б камісія працавала кожны дзень, што сумнеўна, яна павінна была праглядаць па 8300 аркушаў у дзень, ці 690 аркушаў у гадзіну пры 12-гадзіннай працы. Пры такім тэмпе аркушы можна было агледзець толькі візуальна, не ўнікаючы ў іх змест. Але гэта не ўсё. Камісія паспела прагледзець таксама 187 кніг кансісторыі, у якія ўпісваліся распараджэнні начальства, і не знайшла там актаў акупацыйных французскіх улад 1812 г. і паўстанцкіх органаў 1830–1831 гг., але выявіла акты 1812 г. у кнігах 11 прыходаў. Такія акты былі накіраваны мінскаму грамадзянскаму віцэ-губернатару для прыняцця рашэння адносна іх[3].

За чэрвень 1835 г. камісія ўжо паспела апрацаваць актавыя кнігі ў павятовых судах Мінскай і Магілёўскай губерняў – Бабруйскага павета (104), Мазырскага (85), Рэчыцкага (75), Беліцкага (64), Рагачоўскага (175), Быхаўскага (107) – усе разам на 191 117 старонках, а таксама 69 метрычных кніг у Беліцкім, Рагачоўскім паветах і ў г. Магілёве на 2572 аркушах. Акрамя таго, камісія прарэвізавала 118 актавых кніг у Магілёўскай палаце грамадзянскага суда на 8284 старонках. Усяго

---

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 122адв.

[2] Там жа. Арк. 127.

[3] Там жа. Арк. 128.

разам былі праверaны, паводле звестак самой камісіі, 201 973 аркушы. Камісія паведаміла таксама пра два выяўленыя выпадкі дапісак у актавыя кнігі ў Мазырскім і Беліцкім паветах. Дапіскі былі зроблены яўна іншым почыркам і ў кнігах за XIX ст., у той час як дакументы тычыліся маёмасных спраў сярэдзіны XVIII ст.[1] Актаў камісіі ВКЛ 1812 г. і актаў паўстанцаў 1830–1831 гг. выяўлена не было. Канешне, ведаючы пра меркаванні пазнейшых архівістаў адносна фальсіфікацый дакументаў, можна сказаць, што камісія выявіла толькі самыя няякасныя дапіскі, якія яўна кідаліся ў вочы. Асноўная ж колькасць падлогаў, відаць, так і засталася па-за яе ўвагай.

Што цікава, член камісіі маёр Камінскі з Тамбова, прызначаны замест Мердэра, таксама так і не з'явіўся ў камісію і ў ліпені, што змушала яе прасіць яго як найхутчэй накіравацца з паездкай па тых гарадах, дзе ўжо праехалася камісія, і хаця б падпісаць тыя кнігі, якія былі ўжо праверaны, а пасля накіравацца ў Магілёў для працы ў складзе камісіі[2]. 3 жніўня камісія атрымала ад Камінскага ліст, у якім ён тлумачыў сваю адсутнасць загадам начальства накіравацца ў Мінск і нікуды не выязджаць да паступлення новых распараджэнняў[3]. Можа скласціся ўражанне, што Корпус жандараў у асобах яго чыноў фактычна сабатаваў свой удзел у рэвізіі як дзяржаўным мерапрыемстве, бо члены камісіі ад яго пасля непрацяглай працы палкоўніка Мердэра так і не з'явіліся ў яе склад аж да спынення яе дзейнасці. Магчыма, гэта было вынікам таго, што ад самага пачатку мерапрыемства па рэвізіі было ініцыявана Міністэрствам юстыцыі і Корпус жандараў разглядаў свой удзел у мерапрыемстве як вымушаны і не адпаведны профілю дзейнасці.

Камісія ў ліпені, відаць «набіўшы рукі», паказала яшчэ большыя тэмпы працы. Паводле яе рапарта было апрацавана аж 929 актавых кніг на 191 903 старонках у Аршанскім, Сенненскім, Чавускім, Чэрыкаўскім, Клімавіцкім і Мсціслаўскім паветах, а таксама 134 метрычныя кнігі ў Аршанскім, Сенненскім, Бабінавіцкім, Копыскім, Чавускім, Чэрыкаўскім, Клімавіцкім і Мсціслаўскім паветах на 296 416 аркушах. Камісія паведамляла, што скончыла сваю працу ў Мінскай і Магілёўскай губернях і накіроўвалася ў Віцебск, «а оттуда преимущественно в г. Полоцк для приведения в порядок как актовых книг в архиве тамошнего уездного суда в значительном количестве из древних лет хранящихся; так равно метрических, по Полоцкой унитской духовной конси-

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 139–140.

[2] Там жа. Арк. 130–131.

[3] Там жа. Арк. 141–142.

сторыі, тех унитских приходов, в коих находится шляхта унитского исповедания»[1].

Тым часам у Віцебскай губерні ішла работа над апрацоўкай актавых кніг Полацкага і Дынабургскага павятовых судоў. Вышэй намі было адзначана, што кнігі судоў былі беспарадачна падшыты і для правядзення іх рэвізіі неабходна было правесці работу па ўпарадкаванні, па складанні вопісаў і рэестраў, дзеля чаго было дазволена кнігі расшыць. У канцы чэрвеня 1835 г. выйшаў адпаведны ўказ губернскага праўлення, у якім загадвалася Полацкаму павятоваму суду ў прысутнасці павятовага страпчага і паліцмайстра прывесці ў парадак гэтыя актавыя кнігі.

Аднак не ўсё было так проста. Праблема зноў была ў адсутнасці адпаведных кадраў з веданнем лацінскай, старабеларускай і польскай моў. Для працы з актамі на польскай мове «и извлечения из оных нужнейших сведений, особенно в политическом отношении к России» быў запрошаны «вядомы сваёй добранадзейнасцю» іераманах былога францішканскага манастыра Кутоўскі. Для камандзіравання чалавека з веданнем лацінскай мовы быў накіраваны запыт у праўленне Беларускай вучэбнай акругі. Па магчымасці патрэбны былі людзі з адначасовым веданнем як польскай і лацінскай моў, так і «древнего русского почерка». Праўленне Беларускай вучэбнай акругі прапанавала камандзіраваць для выканання неабходнай перакладчыцкай работы выкладчыка Полацкага павятовага дваранскага вучылішча Рындзіна, дзейснага студэнта Педагагічнага інстытута Лагачова і кандыдата Ксеневіча. Гэтым асобам было даручана ў вольны ад заняткаў час заняцца разборам актавых дакументаў у Полацкім павятовым судзе і складаннем з іх патрэбных вытрымак[2]. Ці праведзена была ў выніку гэта работа і якім чынам аплочвалася, невядома.

31 ліпеня 1835 г. рэвізійная камісія атрымала пастанову Мінскага губернскага праўлення з патрабаваннем перадаць перапіску адносна метрык пратэстанцкіх цэркваў, журналы камісіі і «прочие сведения» адносна актавых кніг Мінскай палаты грамадзянскага суда, Мінскага павятовага суда, а таксама змацаваныя на 37 аркушах вопісы актавых кніг Барысаўскага, Вілейскага і Дзісненскага павятовых судоў у архіў губернскага праўлення[3]. У гэты ж час страпчаму Сабалеўскаму ўсё ж знайшлі часовую замену і ён быў камандзіраваны ў Полацк у склад камісіі.

Прыбыўшы 16 жніўня ў Полацк, камісія са здзіўленнем даведалася, што, нягледзячы на ўсе выдадзеныя распараджэнні, архіў По-

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 143–144адв.

[2] Там жа. Арк. 132–138адв.

[3] Там жа. Арк. 132–145адв.

лацкага павятовага суда хоць і быў распячатаны, але ніякай працы па прывядзенні яго ў парадак не праводзілася. Працягваўся пошук спецыялістаў з веданнем мовы дакументаў. Не было і пераплётчыкаў[1]. Узніклі непаразуменні і сярод мясцовага начальства. Паліцмайстар, які павінен быў удзельнічаць у прапячатцы архіўных кніг, убачыўшы іх, адмовіўся распячатваць і закамандаваў іх вынесці часткамі з месца захоўвання – Полацкага базыльянскага манастыра. Толькі ў пачатку жніўня па нейкіх невядомых нам прычынах паліцмайстар усё ж пагадзіўся распячатаць архіў і павятовы суд змог пачаць працэдуру найму спецыялістаў. Для ўпарадкавання актаў была створана цэлая канцылярыя пад кіраўніцтвам полацкага павятовага страпчага. Апошні абяцаў скончыць працу к 1 верасня 1835 г.[2]

Паколькі камісія не магла працаваць з актавымі кнігамі да завяршэння іх упарадкавання, яна займалася метрычнымі. Згодна з рапартам камісіі і складзеным журналам, у Полацку былі прагледжаны і прашнураваны 282 такія кнігі на 11 817 аркушах[3]. У журнале, падпісаным членамі камісіі 26 жніўня 1835 г., былі запісаны заўвагі, зробленыя камісіяй па кожнай прыхадской кнізе. Ці не палова ўсіх метрычных кніг утрымлівала такія заўвагі. Некалькі з іх дзеля нагляднасці працытуем:

- «В переплете старом, ведена небрежно со многими помарками, и на 13-ти лоскутах написаны метрики» (кніга хросту Малашкавіцкага прыходу за 1737–1774 гг.);
- «В переплете старом, ведена не довольно порядочно, многие метрики с подчистками и поправками в именах и названиях, к тому же 25 лоскутов с метриками, а на 115 стр. вложен целый полулист с восьмью метриками» (кніга хросту Стракальскага прыходу за 1778–1820 гг.);
- «В переплете годном, сначала ведена небрежно с подчистками и поправками в именах, сверх того на 7-м листе в 4-й метрике Кирей Гриневич, на подчищенном написан “szlachetnie urodzony”, потом довольно порядочно» (кніга хросту Стракальскага прыходу за 1828–1834 гг.)[4].

24 жніўня камісія атрымала ліст ад новага члена камісіі, афіцэра Корпуса жандараў маёра Камінскага, прызначанага замест Мердэра, з тлумачэннямі, што ён вымушаны накіравацца ў барысаўскія ўладанні

---

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 150–151.

[2] Там жа. Арк. 152–153.

[3] Журнал для записи рассмотренных и проверенных метрических книг. Арк. 1.

[4] Там жа. Арк. 1–34.

князёў Радзівілаў для разборкі фактаў прыцяснення сялян, але абяцаў адразу пасля разгляду справы накіравацца па паветах і падпісаць прагледжаныя камісіяй метрычныя і актавыя кнігі[1]. У той жа дзень камісія за подпісамі чыноўніка МУС Казмінскага, чыноўніка Міністэрства юстыцыі Недабыльскага і віцебскага крымінальных спраў страпчага Сабалеўскага накіравала яму адказ, у якім папярэджвала, што камісія плануе скончыць сваю дзейнасць да 15 лістапада 1835 г. і яму неабходна паспець падпісаць усе правераныя актавыя і метрычныя кнігі па павятовых і губернскіх гарадах Віцебскай і Магілёўскай губерняў і паспець прыбыць у камісію для падпісання дакументаў і журналаў самой камісіі перад яе закрыццём[2]. Фактычна чыноўнік ад Корпуса жандараў Камінскі поўнасцю ўхіліўся ад рэальнай працы ў камісіі і толькі падпісваў дакументы пастфактум.

У жніўні камісія планавала вярнуцца да рэвізій у Віцебскай губерні, дзе хацела першымі прарэвізаваць метрычныя кнігі Полацкай грэка-каталіцкай кансісторыі. Але зноў узніклі цяжкасці з тым, што адзін віцебскі губернскі страпчы быў адпраўлены па справах службы і не мог далучыцца да працы камісіі, а другі – Сабалеўскі – увогуле быў прызначаны на пасаду губернскага пракурора. Камісія такім чынам пагрозліва скардзілася на адсутнасць страпчага віцебскаму віцэ-губернатару Н. М. Кліменцьеву: «...комиссия будет действовать и без него, но чрез то высочайшее повеление не будет исполнено в точности»[3].

Толькі 31 жніўня 1835 г. камісія пачала сваю працу ў Полацкім павятовым судзе без страпчых, хоць яны павінны былі не толькі ўдзельнічаць у працы камісіі, але і падпісаць прагледжаныя ёй актавыя кнігі і журналы камісіі. Камісія скардзілася, што ў сувязі з адсутнасцю страпчых парушаюцца правілы правядзення рэвізіі[4]. Тым не менш камісія прыступіла да працы. Ужо 9 верасня з-пад пяра яе пісара выйшла заключэнне аб актавых кнігах Полацкага павятовага суда, якое дае вельмі выразнае тлумачэнне таго, як і якія акты найчасцей падрабляліся, з якімі праблемамі сутыкнулася камісія ў сваёй працы і якая работа была праведзена над актамі: «Все эти акты, исключая двадцать с лишком книг, которые в старом кожаном переплете, находятся от давных, по-видимому, лет без переплета и в совершенном беспорядке. Были свалены в кучи, по листам, листочкам и лоскутам, перемешаны

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 154–154адв.
[2] Там жа. Арк. 155–156.
[3] Там жа. Арк. 146–148.
[4] Там жа. Арк. 158–159адв.

в годах, и в таком виде хранились в особом архиве Базилианского монастыря, в месте влажном и без ближайшего присмотра, от чего многие из них подвержены гнилости и повреждению до того, что от листов одни лишь клочки остались. По прибытии сюда... комиссии, хотя акты те, при усердном старании и заботливости судьи Клепацкого, недавно в дозорность сию вступившего, подобраны по годам и приведены в некоторый порядок, переплетены в книги, хотя между тем без окладочных досок, но по многочисленности их с лишком за триста лет собравшихся по затруднительности годов, в разобрании годов, месяцев и чисел тех, кои на древнем славянском языке писаны и по поспешности с какою подбирались они, чтобы не причинить дальнейшей остановки в действиях комиссии, таковой подбор произведен не с совершенною исправностию. Во всех почти книгах акты оказались перемешаны в месяцах и числах так, что начинаются последними и заканчиваются первыми месяцами. В иных же книгах находятся документы предыдущих или последующих годов. Древнейшие акты шестнадцатого века писаны славянским почерком и наречием и довольно порядочно, в семнадцатом в перемесь славянско-польским. В восемнадцатом же столетии совершенно на польском языке, и сии-то нередко с многими перемарками, подчистками, поправками и приписками. Во всякой почти из тех книг, кои не были прежде переплетены, встречаются документы сомнительные, как по свежести бумаги, так и по новости почерка, совершенно отличному от древнего. Иные отличаются в подлоге самим даже стемпелем бумаги гораздо позднейших годов, чем самые акты на них писанные. Сверх того, вложены под годы древних актов в виде явки множество партикулярных копий и выписей из актов, также на новой бумаге и отличных от древнего почерком писанные. Впрочем, некоторые только из подобных актов, обративших на себя по сомнительности своей внимание, означены комиссией в самих книгах»[1].

У рапарце камісіі ад 9 верасня адзначалася, што, акрамя 216 актавых кніг мясцовага земскага павятовага суда, якія захоўваліся ў базыльянскім манастыры, камісія пасля прыбыцця яе 14 жніўня ў Полацк займалася метрычнымі кнігамі ў грэка-ўніяцкай духоўнай кансісторыі тых прыходаў, у якіх пражывала шляхта «унитского исповедания». Такіх кніг да 9 верасня было прагледжана 282 на 11 817 аркушах, таксама 20 кніг такіх рыма-каталіцкіх прыходаў на 422 аркушах. Разам метрычных і актавых кніг у Полацку налічвалася 518 штук на 171 703 аркушах. Аб усіх заўвагах, зробленых камісіяй адносна ак-

[1] Переписка комиссии с Витебской казенной палатой ... Арк. 160–163адв.

ступ да актаў. Колькі было фальшывак, не выкрытых камісіямі, колькі асоб на аснове падробленых дакументаў зацверджана ў дваранстве або незаконна прыпісана да зацверджаных у дваранстве родаў яшчэ да выбуху паўстання 1863–1864 гг., высветліць практычна немагчыма, але можна сцвярджаць, што колькасць такіх людзей была вялізнай. Спыніць фальсіфікацыю дакументаў не ўдалося з дзвюх асноўных прычын – заангажаванасці ў гэту справу многіх, нават уплывовых чыноўнікаў, архіварыусаў і членаў рэвізійных і праверачных камісій, а таксама з-за некампетэнтнасці чыноўнікаў у працы з дакументамі XVI–XVIII стст. Фальсіфікаваліся нават пасведчанні, якія выдаваліся з губернскіх казённых палат, аб запісанні той ці іншай асобы падчас рэвізій у склад шляхты[1].

Цікавай з'явай у фальсіфікацыі дваранскіх дакументаў напярэдадні адмены прыгоннага права стала фабрыкацыя дваранскіх дакументаў памешчыкамі для сваіх прыгонных сялян. Такія «сяляне-дваране» згодна з умовамі сялянскай рэформы 1861 г. пазбаўляліся б права выкупу надзелаў у памешчыка. Адзін з вядомых лідараў паўстанцаў 1863–1864 гг. Я. Гейштар узгадваў ва ўспамінах, што перапісаць у дваранства пару асоб было вельмі лёгка, але некалькі дзясяткаў ці цэлую вёску было немагчыма, нават пры вялікіх выдатках. Пры гэтым такое залічэнне сялян у дваране «адпавядала зараз толькі інтарэсам памешчыка, люд бы на гэтым толькі траціў»[2].

Грошы маглі адкрыць дарогу да набілітацыі фактычна любой асобе. Шляхціцы, якія не змаглі з-за розных абставін замацавацца ў дваранстве на аснове сапраўдных дакументаў, карысталіся паслугамі «чорнага» рынку. Менавіта таму больш за траціну дробнай шляхты Беларусі (каля 80 тыс. чалавек) праўдамі ці няпраўдамі ў 30–60-я гг. XIX ст. усё ж такі здолела «ўцісунуцца» ў дваранскае саслоўе, нягледзячы на перашкоды цэнтральных улад. Строгасць і жорсткасць расійскай аўтакратыі ў адносінах да шляхты ў пэўнай ступені змякчаліся прадажнасцю і хабарніцтвам чыноўнікаў, якія рэалізоўвалі імперскую палітыку, а магчыма і іх нелюбоўю да імперскіх улад. Па сведчаннях віленскага архіварыуса С. Спрогіса, працэдура падробкі дакументаў каштавала каля 50 руб. срэбрам[3].

Фальсіфікацыя розных дакументаў была распаўсюджанай з'явай увогуле ў XIX ст. Так, на гродзенскага губернскага сакратара Аляксан-

---

[1] Гербоўнік беларускай шляхты. Т. 5. С. 6.

[2] *Gieysztor J.* Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865. T. 1. S. 135.

[3] *Спрогис И. Я.* Виленский центральный архив древних актовых книг. С. 8.

драва ў 1852 г. была заведзена справа за выраб укладной кніжкі ашчаднай касы[1]. У той жа губерні ў 1881 г. адзін з жыхароў уладкаваўся на чыноўніцкую працу па падробленым плакатным пашпарце. Факт падробкі быў выяўлены толькі ў выніку разбіральніцтва пасля таго, як гэты чалавек знік у невядомым кірунку пасля здзяйснення злачынства[2]. Такіх дакументаў з XIX ст. мноства ў архівах Вільні, Гродна і Мінска. Як вынікае з беглага азнаямлення толькі з вопісамі архіўных фондаў, шмат выпадкаў, калі падрабляліся крэдытныя білеты, дакументы аб закладзе маёнткаў і праве на валоданне, пасведчанні аб смерці для ўхілення ад вайсковай павіннасці, іншыя разнастайныя пасведчанні, векселі, даверанасці, завяшчанні, казённыя пячаткі і, асабліва часта, папяровыя грошы, прытым не толькі расійскія. Так, памешчык П. Беліковіч і літограф Э. Шульц з Віленскай губерні, стварыўшы своеасаблівы сімбіёз капіталу і майстэрства, заснавалі нават падпольны цэх для падробкі грашовых знакаў[3].

«Выпрабаванне паперай» дваранскай годнасці спрычынілася да змены адносін да дакументаў. Дробная шляхта і заможныя памешчыкі пачалі надаваць выключную ўвагу ўсялякага кшталту афіцыйным паперам, якія ў многіх раней неахайна захоўваліся па куфарах на паддашшах. Асаблівая ўвага пачала надавацца тым дакументам, якія тычыліся доказу дваранства. Каэтан Крашэўскі апісаў спосаб надзвычай дбайнага захавання такіх папер шляхтай Пружанскага павета: «...трымаюць іх звычайна ў залепленых гаршках, падвешаных у зручных месцах навідавоку, каб заўсёды няцяжка было іх выратаваць з агню»[4].

Палітыка ўлад у адносінах да той дробнай шляхты, якая пазбегла залічэння ў катэгорыі аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў у 1833–1834 гг., рэалізоўвалася ў кірунку адасаблення іх ад памешчыкаў. А вось памешчыкам якраз неаднаразова даваліся адтэрміноўкі і льготы ў падачы дакументаў. У той жа час прымаліся меры па паскарэнні разбору дакументаў той шляхты, якая не мела памешчыцкіх уладанняў, па хутчэйшай яе дэкласацыі, ускладненні працэсу яе ўваходжання ў лік асоб, якія пацвердзілі свой дваранскі статус.

---

[1] Дело о фальшивом изготовлении губернским секретарем Александровым вкладной книжки сберегательной кассы // НГАБ у г. Гродна. Ф. 1. Воп. 5. Спр. 2097.

[2] Дело о подложном паспорте // НГАБ у г. Гродна. Ф. 14. Воп. 3. Спр. 65. Арк. 6.

[3] Дело о привлечении к судебной ответственности за подделку денег помещика Беликовича П. и литографа Шульца Э. // LVIA. Ф. 381. Воп. 19. Т. 3. Спр. 5439.

[4] *Kraszewski K.* Silva rerum ... S. 92.

З-за адсутнасці магчымасцей для хуткага разгляду дакументаў, а таксама з-за шматлікіх злоўжыванняў і падробак дакументаў на мясцовым узроўні ўлады вымушаны былі расцягнуць працэдуру разгляду дакументаў легітымізуючайся шляхты аж да 1864 г., калі ўсе асобы, не зацверджаныя канчаткова ў дваранстве, былі пазбаўлены ўсіх дваранскіх прывілеяў і прыпісаны ў падаткаабкладаныя катэгорыі.

## БАРАЦЬБА З ФАЛЬСІФІКАЦЫЯМІ ДВАРАНСКІХ ДАКУМЕНТАЎ ПРАЗ КАДРАВУЮ ПАЛІТЫКУ Ў 1860–70-я гг.

Рашучыя дзеянні ўлад па спыненні існавання катэгорыі легітымізуючайся шляхты і па пераводзе шляхты, якая не даказала свайго дваранства, у падаткаабкладаныя катэгорыі, што павінна было быць рэалізавана згодна з указам ад 23 верасня 1864 г.,[1] не спынілі працэсу фальсіфікацыі дакументаў. Больш за тое, крыніцы сведчаць, што «неправильная выдача дворянских документов с особенным усилием производилась со времени издания в 1864 г. указа Правительствующего Сената от 23 сентября»[2]. Сітуацыя нагадвала 1831 год. Многія шляхціцы, не жадаючы страчваць такую шыкоўную прывілею дваранства, як адсутнасць абавязку сплочваць падушны падатак, служыць у войску, магчымасць уладкоўвацца на дзяржаўную працу, спрабавалі абысці ўзведзеныя перашкоды і тут. Ізноў у гэтай справе, відавочна, ім спрыялі мясцовыя чыноўнікі. Маштабы фальсіфікацый былі значныя. Фактычна для многіх гэта быў апошні шанец перасесці ў дваранскі вагон першага класа, які падыходзіў на канцавую сартавальную станцыю доўгага падарожжа пад назвай «разбор шляхты».

У 1867 г. расследаваннем фактаў масавых фальсіфікацый, выяўленых у Вільні, заняліся спецыяльна прызначаныя для гэтага следчыя[3]. Нельга таксама выключаць верагоднасці таго, што няздольнасць эфектыўна супрацьстаяць падробцы дакументаў стала адной з прычын адстаўкі ў сакавіку 1868 г. віленскага генерал-губернатара Э. Т. Баранава, які прабыў на пасадзе толькі няпоўныя паўтара года[4].

---

[1] Дело о замене неблагонадежных чиновников ... Арк. 1–4адв.

[2] Там жа. Арк. 16.

[3] Там жа. Арк. 13.

[4] Яму, як аднаму з бліжэйшых сяброў Аляксандра II, адстаўка не перашкодзіла пасля стаць членам Дзяржаўнага Савета.

У красавіку 1868 г. новапрызначаны віленскім генерал-губернатарам генерал-ад'ютант А. Л. Патапаў, нават не даехаўшы да Вільні, прама з Пецярбурга (што ўскосна можа сведчыць пра пільнасць справы) накіраваў цыркуляр мінскаму губернатару, у якім прапаноўвалася замяніць нядобранадзейных чыноўнікаў, з-за якіх, як указвалася ў паперы, і ўзнікалі праблемы з фальсіфікацыямі дваранскіх дакументаў: «Из производящихся ныне в некоторых губерниях... дел о подделке фальшивых документов на дворянство, мною усмотрено, что фабрикация документов большей частью производилась при участии чиновников польского происхождения, служащих в дворянских депутатских собраниях, в канцеляриях Г.г. предводителей дворянства и в римско-католических консисториях. Желая прекратить в будущем возможность повторения подобного рода зла, как бы вошедшего в обычай в здешнем крае, независимо от тех мер взыскания, которым подвергнутся виновные по всей строгости законов, я вместе с тем считаю нужным поручить вашему превосходительству иметь неослабное наблюдение за составом чиновников в вышеозначенных местах и пригласить ныне же Г.г. губернских и уездных предводителей дворянства, а равно римско-католическое епархиальное начальство принять надлежащие меры к замене неблагонадежных чиновников лицами вполне благонадежными как в политическом, так и в нравственном отношении...»[1].

У 1868–1869 гг. следчыя выявілі спосабы, метады і кірункі фальсіфікацыі дакументаў і незаконнай набілітацыі ў Віленскай губерні. Так, Віленскі дваранскі дэпутацкі сход, хадайнічаючы пра зацвярджэнне якога-небудзь роду ў дваранстве, сярод асоб, прыналежных да гэтага роду, указваў за жывых такіх людзей, якія ўжо памерлі, а пасля зацвярджэння Сенатам гэтага хадайніцтва выдаваў на імёны памерлых дваранскія дакументы зусім іншым асобам, напрыклад мяшчанам. Мела месца падмена асобы. Адначасова было выяўлена, што некаторыя людзі, якія атрымалі гэтыя дакументы, былі замешаны ў паўстанні 1863–1864 гг., і таму дакументы на іншае прозвішча адначасова служылі ім і для прыкрыцця сваёй асобы. Таксама ў віну дэпутацкаму сходу ставілася тое, што адразу пасля накіравання хадайніцтва ў Сенат ён выдаваў прасіцелям копію са свайго рашэння або пасведчанне, але пасля, калі Сенат не зацвярджаў прасіцеля ў дваранстве, копія рашэння ці пасведчанне не адбіраліся, а заставаліся ў зацікаўленых асоб, якія працягвалі лічыць сябе дваранамі і карыстацца ўжо «несапраўднымі»

[1] Дело о замене неблагонадежных чиновников ... Арк. 5–5адв.

дакументамі. Дваранскі сход таксама не патрабаваў дакументальнага пацвярджэння ідэнтычнасці асобы, якая звярталася ў сход з просьбай аб выдачы якіх-небудзь пасведчанняў. Дакументы выдаваліся на рукі або перадаваліся па прыналежнасці ў асноўным віленскаму павятоваму дваранскаму старшыні, нягледзячы на тое, што прасіцель паказваў сябе зусім з іншага павета. Калі паперы выдаваліся на рукі (а гэта было часцей), то без распіскі або з распіскай на прыдуманую асобу, што рабілася толькі для фармальнасці. Акрамя гэтага, было выяўлена, што ў канцылярыі віленскага павятовага старшыні дваранства, паводле закона для Паўночна-Заходняга краю, старшыні сходаў павінны былі правесці строгую праверку дваранскіх пасямейных спісаў, аднак гэтыя спісы са зробленымі спасылкамі на доказавыя дакументы аб дваранскім паходжанні прымаліся старшынямі без найменшай праверкі гэтых дакументаў, а пасля на аснове такіх пасямейных спісаў зацікаўленым асобам выдаваліся пасведчанні аб дваранскім паходжанні, спасылаючыся толькі на тое, што па спісах яны лічыліся дваранамі. Былі выяўлены таксама факты звычайнай выдачы з канцылярыі віленскага павятовага дваранскага старшыні пасведчанняў аб дваранскім паходжанні асобам, якія не мелі на гэта ніякіх дакументаў або яшчэ толькі даказвалі сваё дваранства. Падставай для выдачы пасведчанняў магло быць упамінанне гэтых асоб у перапісе 1834 г. сярод дваран Віленскага павета, у той час як праверка паказвала, што такіх прозвішчаў там няма. Такія людзі лічыліся дваранамі і былі запісаны як дваране ў дымавыя кнігі. Падчас выдачы дакументаў не праводзілася ідэнтыфікацыя («удостоверение личности») асобы, каму яны выдаваліся, або прымаліся пасведчанні ад установ, якія не мелі права іх выдаваць, напрыклад ад валасных праўленняў.

Фабрыкацыя дакументаў ажыццяўлялася таксама праз парушэнні ў Віленскай рыма-каталіцкай кансісторыі. Не выконваліся правілы выдачы выпісаў з метрык. Інтарасант абавязаны быў звяртацца з пісьмовым прашэннем у кансісторыю, патлумачыўшы прычыну патрэбы ў дакуменце, у той час як іншыя звярталіся з вуснай просьбай непасрэдна да членаў кансісторыі, якія ад свайго імя звярталіся з рапартам у кансісторыю з просьбай аб выдачы метрыкі без тлумачэння прычыны. Часам за метрыкамі звярталіся самі чыноўнікі-фальсіфікатары, не тлумачыўшы, навошта ім патрэбныя метрыкі чужых людзей. У некаторых выпадках такія патрабаванні нават аказваліся падложна складзенымі і дакументы выдаваліся невядома каму. Акрамя таго, часам на адно і тое ж імя выдаваліся розныя метрычныя выпісы, прычым

аказвалася, што гэта асоба была запісана народжанай і ахрышчанай у кнігах розных касцёлаў і ў розны час. Некаторыя копіі метрык пры праверцы іх арыгіналаў у метрычных кнігах аказаліся фальшыўкамі, паколькі такія запісы былі зроблены відавочна пазней, іншым почыркам і іншым чарнілам і нікім не былі засведчаны[1].

6 чэрвеня 1869 г. мінскі губернатар атрымаў чарговы цыркуляр генерал-губернатара, у якім раскрываліся іншыя формы фальсіфікацыі дваранскіх дакументаў і спосабы выкарыстання несапраўдных дакументаў асобамі, якія не мелі права карыстацца дваранскай годнасцю. Указвалася, што «асобы польскай шляхты», якія ад моманту выдання ўказа ад 23 верасня 1864 г., маючы жаданне пазбегнуць прыпіскі ў падаткаабкладанае саслоўе, «употребляли всевозможные средства к приобретению для себя каких бы то ни было документов, могущих свидетельствовать о их дворянском происхождении. <...> С этою именно целью приобретались ими на гербовой бумаге копии с определений дворянского депутатского собрания, например о подаче таким-то в оное собрание прошения о сопричислении к дворянству. Хотя делопроизводство по этим прошениям иногда вовсе и не производилось за не представление надлежащих для сего документов, но, тем не менее, лица получившие таковые копии уже считали себя дворянами и этим званием пользуются до сего времени; свидетельства выдаваемые из канцелярий уездных предводителей дворянства о дворянском происхождении лиц, вовсе к дворянству не принадлежащих или не доказавших онаго, также служат многим для сопричисления себя к дворянскому роду, тогда как эти и подобные им документы, часто выданные даже неправильно, не должны бы иметь вовсе никакого значения, и лица основывающие на оных свое дворянское происхождение, обязаны по закону быть записанными в податное сословие»[2]. У цыркуляры па выніках следства таксама рабілася выснова, што чыноўнікі канцылярый дваранскіх сходаў былі галоўнымі дзеячамі падчас няправільнай падачы дакументаў. Адначасова было заўважана, што падобныя дзеянні аблягчаліся невыкананнем ва ўсіх установах прадугледжаных законам правіл пісьмаводства, справаздачнасці і агульнапрынятых канцылярскіх фармальнасцей, адсутнасцю рэвізій губернскім начальствам, паколькі ўсе гэтыя злоўжыванні маглі быць лёгка адкрыты «и зло, пустившее столь глубоко корни, в ущерб самых существенных интересов госу-

[1] Дело о замене неблагонадежных чиновников ... Арк. 13–16.

[2] Там жа. Арк. 16адв.

дарства, не могло бы разрастись до таких громадных размеров, в каких ныне находится»[1]. Мінскаму губернатару загадвалася прадпрыняць меры па выяўленні падобных фактаў у Мінскай губерні і перадаць віноўных адказнасці, паведаміўшы пра зробленыя захады.

По нормах чыноўнічай субардынацыі цыркуляр генерал-губернатара не мог застацца без рэакцыі на месцах. Па Мінскай губерні была дадзена каманда знайсці злоўжыванні, звязаныя з падробкай дакументаў. Ужо 19 верасня 1869 г. з канцылярыі мінскага губернатара ў Мінскую палату крымінальгага і грамадзянскага суда была накіравана копія перапіскі па справе шляхціца Ігуменскага павета Лаўрэнція Івашкевіча, які абвінавачваўся ў набыцці пасведчання Мінскага дваранскага сходу на імя Віталіса Івашкевіча, двараніна г. Нясвіжа, які ўжо памёр. Справа была ўзбуджана ў выніку правядзення сакрэтнага дазнання. Івашкевіч таксама абвінавачваўся ў прысваенні чужога імя, а чыноўнік Мінскага дваранскага сходу Карабановіч – у спрыянні такому злоўжыванню[2].

Справа Івашкевіча лягла таксама ў аснову сакрэтнага рапарта выконваючага абавязкі мінскага губернатара віленскаму генерал-губернатару ад 28 кастрычніка 1869 г. У рапарце фактычна паўтараліся словы з цыркуляра генерал-губернатара: адзначалася, што, нягледзячы на ўказ 23 верасня 1864 г., паводле якога быў устаноўлены тэрмін для прадастаўлення доказаў аб дваранскім паходжанні «польскай шляхты», «все-таки и по настоящее время переписка о выдаче дворянских документов производится в таком огромном количестве, что невольно навлекает сомнения в правильности хода этого дела». У рапарце паведамлялася, што з 1 студзеня да кастрычніка 1869 г. на зацвярджэнне губернатару ад губернскага дваранскага старшыні паступіла амаль 300 пасведчанняў аб дваранстве. Адзначалася, што «при утверждении свидетельств этих со стороны губернатора требуется только засвидетельствование в том, что отыскивающее дворянское достоинство лицо не состоит под судом и следствием, и силою закона не лишено прав состояния за политические и другие преступления». Губернатар паведамляў, што з яго боку збіраюцца ўсе неабходныя звесткі, але паколькі ўся далейшая перапіска сканцэнтравана ў дваранскім дэпутацкім сходзе, які складаецца з дэпутатаў ад дваранства і канцылярыі, якая набрана выключна з ліку асоб «польскага паходжання», а рэвізія спраў дэпутацкага сходу не падлягае ні губернатару,

---

[1] Дело о замене неблагонадежных чиновников ... Арк. 16адв.–17.

[2] Там жа. Арк. 19–19адв.

ні пракурорскаму нагляду, то «нельзя ручаться, что при отыскивании дворянства не встречаются те же самые подлоги», якія былі выяўлены ў Віленскім дэпутацкім сходзе[1].

У рапарце таксама адзначалася, што, нягледзячы на цыркуляр генерал-губернатара ад 9 кастрычніка 1867 г., паводле якога было забаронена прызначаць на службу ў дваранскія дэпутацкія сходы асоб так званага «польскага паходжання»[2], начальнікі пры адкрыцці вакансіі «явно избегают замещение оной лицом русского происхождения». Губернатар прывёў прыклады і зрабіў выснову, што «депутатские собрания стараются отклонить всякое вмешательство в дела депутатского собрания чиновников русских». Для спынення злоўжыванняў у дваранскіх сходах ён прапанаваў як адзіны магчымы сродак замяшчэнне членаў дваранскіх сходаў на «лиц русского происхождения». Прапанаваў таксама, пакуль гэта не будзе рэалізавана, даць права губернатару праводзіць час ад часу рэвізію спраў дваранскіх сходаў[3].

Адказ генерал-губернатара, датаваны 11 лістапада 1869 г., утрымліваў патрабаванне дакладна выконваць ранейшыя цыркуляры віленскіх генерал-губернатараў 1867 і 1868 гг., а таксама змяшчаў спасылку на арт. 938 другога тома Звода законаў і дадаткі да яго паводле «Продолжения Свода законов» 1868 г., ч. 1, арт. 307, паводле якіх «губернатор имеет право произвести ревизию дворянского собрания, с соблюдением при том порядка, указанного как в этом законоположении, так равно в 401 ст. II т. I ч. и в 154 ст. IX т. устава о состояниях»[4]. З сакрэтным лістом ужо мінскі губернатар звярнуўся таксама і да губернскага дваранскага старшыні, дзе прасіў паведаміць яму, «обращается ли должное внимание... на строгое соблюдение всех правил при рассмотрении дел об отыскании дворянского происхождения, и в особенности удостоверяются ли в действительности личности, предъявляющие свои права на дворянство». Адказы былі станоўчымі.

---

[1] Дело о замене неблагонадежных чиновников ... Арк. 20–21.

[2] Падобная мера ўтрымлівалася і ў цыркуляры наступнага віленскага генерал-губернатара Патапава ад 13 красавіка 1865 г., паводле якога губернатарам даручалася «иметь неослабное наблюдение за составом чиновников в дворянских собраниях и канцеляриях предводителей дворянства и пригласить последних принять надлежащие меры к замене неблагонадежных чиновников лицами вполне благонадежными как в политическом, так и в нравственном отношении» (Дело о замене неблагонадежных чиновников ... Арк. 22адв.–23).

[3] Дело о замене неблагонадежных чиновников ... Арк. 21–21адв.

[4] Там жа. Арк. 22адв.–23адв.

Безумоўна, меры, прынятыя ў 1850–60-я гг., мелі пэўны пазітыўны ўплыў на змяншэнне маштабаў незаконнай набілітацыі і выкарыстання фальшывых дакументаў, але фальсіфікацыі цалкам не спыніліся і ў 1870-я гг. З падробленымі дваранскімі дакументамі, напрыклад Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу, некаторыя асобы спрабавалі ўладкоўвацца на працу ў аддаленых губернях. Аднак установы, куды такія асобы намагаліся ўладкавацца на працу або атрымаць там вышэйшы класны чын, як дваране, дасылалі ў Мінскі дваранскі сход запыты з просьбай паведаміць, ці сапраўды род, з якога паходзіў той ці іншы дваранін, даказаў дваранства. У многіх выпадках аказвалася, што род асобы, паходжанне якой высвятлялася, нават ніколі не даказваў дваранскага паходжання ў Мінскім дваранскім сходзе. Такія архіўныя справы не з'яўляюцца рэдкасцю[1]. Улічваючы аб'ём ранейшых фальсіфікацый, не здзівіла б магчымасць выяўлення фабрыкацыі звестак і ў такіх даведках.

Уключэнне беларуска-літоўскіх губерняў у склад Расійскай імперыі стала прычынай фальсіфікацый і падлогаў дваранскіх дакументаў, прычым маштабы гэтай з'явы былі надзвычай шырокія. Існаванне попыту на фальшывыя дакументы і падлогі, што было выклікана расійскай палітыкай па разборы шляхты, спрычынілася да ўзнікнення разбудаванага рынку падобных паслуг, у які былі заангажаваны мясцовыя чыноўнікі, святары і служыцелі кансісторый, дваранскіх дэпутацкіх сходаў. Яшчэ адной прычынай падробкі дваранскіх пасведчанняў стала імкненне часткі падаткаабкладанага насельніцтва да змены свайго сацыяльнага статусу ва ўмовах жорсткай рэгламентацыі прававога становішча саслоўяў у Расійскай імперыі, імкненне паўпрывілеяваных катэгорый насельніцтва былой Рэчы Паспалітай прыпісацца да шляхты дзеля захавання сваіх прывілеяў. Захады ўлад па супрацьдзеянні фальсіфікацыям доўгія дзесяцігоддзі не прыносілі жаданага плёну, хоць не заўсёды заставаліся цалкам безвыніковымі. Фальсіфікацыі дакументаў сталі прычынай стварэння шматлікіх рэвізійных камісій у 1830–50-я гг., правядзення архіўнай рэформы 1852 г. у заходніх губернях імперыі, узмоцненага кантролю за рэалізацыяй кадравай палітыкі ў 1860-я гг., але ўсё гэта так і не выкараніла цалкам з'явы фальсіфікацыі дакументаў аж да 1870-х гг. Неабходна прызнаць, што фальсіфікацыі дваранскіх дакументаў былі значным фактарам, які ўплываў і на фарміраванне саслоўнай і сацыяльнай структуры грамадства беларуска-літоўскіх губерняў.

---

[1] Переписка об установлении дворянского происхождения // НГАБ. Ф. 319. Спр. 524. Арк. 43–44, 124–124адв., 126.

Фальсіфікацыі былі адной з нямногіх магчымасцей для саслоўнай мабільнасці ва ўмовах імперскай рэчаіснасці. Фальсіфікацыі і падлогі былі сродкам для нелегальных заробкаў і ўзбагачэння адных і пазбягання падушнага падатку і рэкруцкай службы для іншых. Паколькі фальсіфікацыя дакументальных доказаў аб дваранскім паходжанні была надзвычай пашыранай з'явай, асобам, якія сёння заказваюць радаводы ў архіўных установах, неабходна мець на ўвазе, што складзеныя радаводы з вельмі вялікай доляй верагоднасці могуць утрымліваць несапраўдныя даныя пра іх продкаў, якія імі ж і падрабляліся дзеля зацвярджэння ў расійскім дваранстве.

# «ПАНСКІ РАЗБОР» – ЗАПРЫГОНЬВАННЕ І АБЕЗЗЯМЕЛЬВАННЕ ЧЫНШАВАЙ ШЛЯХТЫ Ў КАНЦЫ XVIII – XIX ст. ЧЫНШАВАЯ РЭФОРМА 1886 г.

Асобнай тэмай у гісторыі дробнай шляхты Беларусі з'яўляецца тэма лёсу чыншавай шляхты ў другой палове XIX ст. і рэалізацыі ў Беларусі чыншавай рэформы 1886 г. Прадстаўнікі чыншавай дробнай шляхты пад уплывам палітыкі расійскіх улад трапілі ў розныя катэгорыі і саслоўныя групы насельніцтва. Сярод іх былі як зацверджаныя Герольдыяй дваране, так і аднадворцы, мяшчане, вольныя людзі, сяляне, што трымалі землі на аснове вечначыншавага права. Тут трэба, аднак, агаварыцца, што пэўную частку ўсіх чыншавікоў складалі таксама асобы, якія ніколі не належалі да шляхты: частка вольных людзей, мяшчан, часам яўрэі, асабіста свабодныя сяляне. Чыншавікамі маглі быць і прадстаўнікі некаторых іншых нешматколькасных катэгорый насельніцтва былой Рэчы Паспалітай, такіх як зямяне, путныя і панцырныя баяры, местачковыя, падместачковыя, але большасць чыншавікоў Беларусі належала да дробнай шляхты.

## САЦЫЯЛЬНА-ПРАВАВОЕ СТАНОВІШЧА ЧЫНШАВАЙ ШЛЯХТЫ Ў КАНЦЫ XVIII ст. – 1850-я гг.

Па розных падліках у беларускіх губернях усе чыншавікі складалі каля 100–200 тыс. чалавек (ва Украіне – каля 200–300 тыс.)[1]. Вызначыць дакладна, колькі сярод масы чыншавікоў было менавіта чыншавай шляхты, складана, паколькі яе статыстыка даволі супярэчлівая. Але не толькі з гэтай прычыны цяжка дакладна акрэсліць колькасны склад чыншавікоў. Як намі ўжо падкрэслівалася раней, сам тэрмін «дробная шляхта» не меў дакладнага юрыдычнага вызначэння. Шляхтай у XIX ст., акрамя нашчадкаў тых, хто належаў да гэтай катэгорыі ў часы Рэчы Паспалітай, сталі называць сябе і прадстаўнікі іншых, звычайна паўпрывілеяваных катэгорый свабоднага насельніцтва Беларусі, для якіх не знайшлося месца ў саслоўнай структуры насельніцтва Расійскай імперыі, але хто не хацеў страціць свае прывілеі ў эпоху трансфармацыі сацыяльнай структуры, якая паскаралася ў XIX ст. Частка чыншавікоў нешляхецкага паходжання, сярод якіх былі зямяне, баяры, вольныя служкі, казакі і інш., намагаліся ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. даказаць сваё шляхецкае паходжанне ці замацавацца ў складзе дробнай шляхты, бо сваім ладам жыцця, заняткамі і абавязкамі перад землеўладальнікам яны часта нічым не адрозніваліся ад дробнай шляхты. Паколькі пасля далучэння земляў Рэчы Паспалітай у расійскай саслоўнай структуры не ўзнікла юрыдычнага вызначэння для многіх з гэтых дробных катэгорый людзей, такія асобы пачалі называць сябе шляхтай ці ўпрост прыпісвацца да дробнай шляхты, на што звярталі ўвагу расійскія губернатары ўжо ў пачатку XIX ст.:

«В течение 1809 г. крестьяне князей Радзивиллов в Слуцком и Игуменском поветах в разных деревнях, а также помещика Юдицкого в Речицком повете деревень Черемис и Просмычь, не восхотев исполнять ту повинность помещикам своим, которую прежде сего они не отбывали по разным помещицким расчетам и обстоятельствам и которая, однако, есть у крестьян здешних обыкновенная, воспротивились

---

[1] *Лященко П. И.* Очерки аграрной эволюции России : в 2 т. СПб., 1913. Т. 2 : Крестьянское дело и пореформенная землеустроительная политика : в 2 ч. Ч. 1 : Первоначальное наделение и осуществление крестьянской собственности. С. 259 ; *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа 1886 г. в Белоруссии : автореф. ... С. 14.

сим новым их распоряжениям... *возмечтав, что они шляхта или люди вольные, обсевшие издревле по договорам* (курсіў наш. – *В. М.*), и якобы новая повинность до них не относилась, до такой, наконец степени ослушания приведены были, что не только не внимали действию земской полиции, но и пренебрегали воинскою командою, которая употреблена была в Речицком и Игуменском поветах на усмирение, жертвуя имуществом и всем стяжанием своим до тех пор, пока по исследовании не открыты были зачинщики сего бунта и не осуждены к должному наказанию...

Вникая в подробность сих обстоятельств, нашел (губернатор. – *В. М.*), что до присоединения Польши к России многие богатые помещики имели у себя из своих крестьян род войска: казаков, гусар, стрельцов и пр., которые от всех работ и повинностей крестьянских были свободными, а потому те люди, считая и теперь себя не в крестьянском звании, ныне, когда наследники тех господ восхотели сих людей обратить в повинность крестьянскую, то они считают оное насильством...»[1].

Аналіз дакумента дае падставу для высновы, што ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай наступілі значныя змены ў становішчы некаторых катэгорый сельскага насельніцтва, у першую чаргу тых, якія выконвалі службовыя функцыі на карысць памешчыка. У зменлівых умовах грамадска-палітычнага ладу паслугі і абавязкі, якія неслі і выконвалі гэтыя людзі (а звычайна гэта была вайсковая служба), перасталі быць запатрабаванымі, таму памешчыкі палічылі за лепшае скасаваць прывілеяванае становішча такіх людзей і ўскласці на іх звычайныя сялянскія абавязкі, што прыводзіла да канфліктаў. Для падаўлення бунтаў памешчыкі ўжо ў пачатку XIX ст. звярталіся па дапамогу расійскіх войскаў.

Не ва ўсіх выпадках змена грамадска-палітычнага ладу ў Беларусі заканчвалася бунтам і стратай свайго ранейшага становішча чыншавікамі і іншымі катэгорыямі вольнага насельніцтва памешчыцкіх і магнацкіх маёнткаў. Прыкладам могуць быць сітуацыі, калі прадстаўнікам такіх катэгорый удавалася павысіць свой сацыяльны статус. Так, зямяне ў радзівілаўскім маёнтку (ключы) Лахва Давід-Гарадоцкай ардынацыі на Палессі сталі запісвацца чыншавай шляхтай. У інвентарах, складзеных перад 1819 г., тыя самыя асобы згадваюцца як зямяне, а ў пазнейшых інвентарах ужо як шляхта. Пры гэтым іх абавязкі засталіся такімі ж, якімі яны былі перад тым, калі іх сталі запісваць як шляхту – ніякіх

[1] Отчет минского губернатора за 1809 г.

павіннасцей, толькі штогадовы чынш памерам у 100 руб.[1] Гэты факт сведчыць усё ж пра адносную празрыстасць саслоўных меж, асабліва ў пачатку XIX ст., для паўпрывілеяваных катэгорый насельніцтва былога ВКЛ. Расійскія ўлады не мелі магчымасці для дакладнага кантролю і вызначэння саслоўнай прыналежнасці катэгорый, якіх не існавала ў імперскім заканадаўстве[2]. У выніку адбывалася некантраляванае прыстасаванне старой сацыяльнай структуры ВКЛ да новых рэалій Расійскай імперыі. Частка людзей паніжала, а частка павышала свой сацыяльны статус. Нявызначанасць саслоўных меж не дазваляла расійскім уладам у першай палове XIX ст. дакладна размяжоўваць і такую катэгорыю насельніцтва, як чыншавая шляхта, у склад якой маглі трапляць людзі з іншых катэгорый – стральцы, казакі, панцырныя і путныя баяры, зямяне, местачковыя і інш.

Яшчэ адной прычынай складанасці вызначэння колькасці менавіта чыншавай шляхты з'яўляецца тое, што яна звычайна не падпісвала пісьмовых дамоў з землеўладальнікам і таму звесткі пра яе ў статыстычных даных вельмі рэдкія і недакладныя. Аднак некаторыя статыстычныя звесткі, сабраныя расійскімі ўладамі, усё ж дазваляюць больш-менш дакладна акрэсліць колькасць менавіта чыншавай шляхты ў беларускіх губернях. Так, напрыканцы XVIII ст. у Віленскай губерні ў складзе 11 паветаў пражывала 960 177 чалавек, з іх 89 973 чалавекі шляхты абодвух палоў, сярод якіх 19 612 шляхціцаў, якія знаходзіліся на панскай службе, 33 991 чалавек шляхты, якая пражывала на ўласных землях, ваколіцамі, і 35 865 чалавек шляхты, якая плаціла чынш (каля 40 % шляхты Віленскай губерні)[3].

У архівах захаваліся і некаторыя асобныя спісы чыншавай шляхты. Так, паводле спецыяльна састаўленага ў 1864 г. спіса, у 7 паветах Мінскай губерні, за выключэннем Пінскага і Мінскага, пражывалі 6602 сям'і чыншавай шляхты[4]. Нягледзячы на адсутнасць звестак па двух паветах, можна з высокай ступенню верагоднасці сцвярджаць, што з улікам не прадстаўленых звестак па Мінскім і Пінскім паветах колькасць сем'яў чыншавай шляхты ў Мінскай губерні павінна была дасягаць 8–9 тыс. Улічваючы, што сярэднестатыстычная шляхецкая сям'я складалася з 5–6 чалавек, агульная колькасць чыншавай шляхты губерні

[1] Inwentarze miasteczka Łachwa (AR).

[2] Агулам такіх людзей часта залічвалі да «разначынцаў».

[3] *Де-Пуле М.* Станислав Август Понятовский в Гродно и Литва в 1794–1797 годах. СПб., 1871. С. 112.

[4] Списки чиншевой шляхты разных лет // НГАБ. Ф. 242. Воп. 4. Спр. 36.

магла складаць да 50 тыс. чалавек, а гэта таксама большая частка дробнай шляхты Мінскай губерні[1].

Што праўда, у гістарыяграфіі сустракаюцца і іншыя, супярэчлівыя лічбы. Так, П. Ляшчанка ў сваёй працы прыводзіць лічбу ўсіх чыншавікоў Мінскай губерні – 23 тыс. душ (4,5 тыс. двароў)[2], што з'яўляецца нават менш колькасці толькі чыншавай шляхты Мінскай губерні паводле пайменных архіўных спісаў 1864 г. у сямі з дзевяці паветаў – каля 33 тыс. чалавек[3]. Відавочна, Ляшчанка скарыстаўся няпоўнымі данымі аб колькасці чыншавікоў ці прывёў звесткі толькі адносна тых, хто быў прызнаны вечным чыншавіком павятовымі па чыншавых справах прысутнасцямі.

Нягледзячы на значныя разыходжанні ў даных розных крыніц, абсалютна адназначным з'яўляецца тое, што колькасць чыншавай шляхты ў Беларусі была вельмі вялікай. Яна разам з ваколічнай шляхтай складала дзве самыя буйныя катэгорыі дробнай шляхты. Сярод аднадворцаў заходніх губерняў чыншавая шляхта, якая не даказала дваранства, складала пераважную большасць. Вартых даверу звестак адносна колькасці чыншавай дробнай шляхты па іншых губернях Беларусі, акрамя Мінскай, Віленскай і Гродзенскай, выявіць пакуль не ўдалося, але можна прыблізна ацаніць лічбу гэтых людзей у беларускіх губернях, арыентуючыся ў асноўным на даныя гэтых губерняў, улічваючы той факт, што ў Віцебскай і Магілёўскай губернях чыншавікоў пражывала вельмі мала, у 100–120 тыс. чалавек. Зыходзячы з лічбы 200 тыс. усіх чыншавікоў беларускіх губерняў, якая фігуруе ў крыніцах і гістарыяграфіі, можна адназначна сцвярджаць, што чыншавікі дробнашляхецкага паходжання складалі большасць сярод усіх чыншавікоў Беларусі.

Пра тое, што большасць чыншавікоў Беларусі і Украіны складала дробная шляхта, сведчыць і выказванне валынскага старшыні дваран-

---

[1] У гэтыя падлікі трапілі таксама і аднадворцы, якія былі вылучаны з дробнай шляхты ў асобную прававую катэгорыю яшчэ паводле ўказа ад 19 кастрычнніка 1831 г. Улады па-ранейшаму кваліфікавалі аднадворцаў-чыншавікоў як чыншавую шляхту, сведчаннем чаго з'яўляецца дадзены спіс. На гэтым прыкладзе добра бачна, што саслоўныя межы, якія былі накладзены расійскім заканадаўствам на беларускую сацыяльную структуру, з ёй абсалютна не супадалі. Так, аднадворцы, якія ў заканадаўстве былі асобнай саслоўнай катэгорыяй, па-ранейшаму ўладамі адносіліся да сацыяльнай катэгорыі дробнай шляхты, якой не існавала ў заканадаўстве, але сам тэрмін у заканадаўстве працягваў выкарыстоўвацца да тагачаснай сацыяльнай рэальнасці.

[2] *Лященко П. И.* Очерки аграрной эволюции России. Т. 2, ч. 1. С. 259.

[3] Списки чиншевой шляхты разных лет.

ства Уварава падчас падрыхтоўкі чыншавай рэформы. Ён адзначаў, што вечнымі чыншавікамі былі асобы розных саслоўяў – дваране, мяшчане, аднадворцы, вольныя людзі і сяляне. Большасць – дваране і мяшчане[1]. Сярод гэтых мяшчан-чыншавікоў значную частку складала таксама дробная шляхта, якая не змагла даказаць свайго паходжання і, не жадаючы прыпісвацца ў сялянскія таварыствы, запісвалася мяшчанамі. Пры гэтым мяшчане-чыншавікі мяшчанамі былі толькі фармальна, большасць з іх па-ранейшаму пражывала ў сельскай мясцовасці[2].

**Спецыфіка рассялення чыншавікоў у Беларусі.** Чыншавая шляхта была расселена па тэрыторыі Беларусі вельмі нераўнамерна. Напрыканцы XVIII ст. каля 60 % чыншавай шляхты Літвы і Беларусі (без уліку Віцебскай і Магілёўскай губерняў) жыло на Міншчыне, у асноўным у пяці паветах: Слуцкім, Мінскім, Дзісненскім, Барысаўскім, Ігуменскім. Значную колькасць сярод усяго дваранства чыншавая шляхта складала і ў Віленскай губерні – 36 тыс. чалавек.

Калі ў суадносінах па колькасці чыншавая шляхта была прыблізна роўнай з ваколічнай і засцянковай шляхтай, то па спецыфіцы свайго рассялення яна пераважна пражывала ў заходняй і цэнтральнай частках Беларусі. Акрамя таго, адметнасцю рассялення чыншавікоў было тое, што яны пражывалі амаль выключна ў сельскай мясцовасці. Так, па даных тапаграфічнага апісання Мінскай губерні, у Мінску ў 1800 г. пражываў 701 чалавек з ваколічнай шляхты і толькі 158 з чыншавай[3].

Значна адрознівалася чыншавая шляхта ад ваколічнай і памерамі сваіх уладанняў. Аб'ёмы зямельнага ўладання ваколічнай шляхты вельмі адрозніваліся, чыншавая ж шляхта ў сваім чыншавым ці арэндным трыманні мела прыблізна роўныя надзелы зямлі[4].

Была і іншая спецыфіка чыншавай шляхты. У яе структуры можна выдзеліць групы паводле прыналежнасці зямлі, на якой яны жылі: тых, што жылі на дзяржаўных землях, і тых, што жылі на памешчыцкіх. У залежнасці ад гэтага ў другой палове XIX ст. улады пачалі праводзіць

[1] Центральный государственный исторический архив Ленинграда (ЦГИАЛ) (РГИА в СПб.). Государственный Совет. Департамент законов. Д. 38. 1886. С. 254–272. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа 1886 г. в Белоруссии : дис. ... канд. ист. наук. Минск, 1950. С. 115.

[2] Списки чиншевой шляхты разных лет.

[3] Топографическое описание Минской губ. 1800 г. // LVIA. Ф. 1350. Воп. 312. Спр. 90. Арк. 22–26 ; Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 3. С. 105.

[4] *Тальвирская З. Я.* К вопросу о социальном облике мелкого дворянства в 1860-х годах. С. 203.

для кожнай з груп асобныя мерапрыемствы. Так, чыншавікі, якія пражывалі на памешчыцкіх землях, указам 1 жніўня 1857 г. былі аднесены да разраду вольных людзей, але іх па-ранейшаму асобна называлі «чыншавікамі». Такім чынам, пасля ліквідацыі фармальных катэгорый аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў у 1868 г. чыншавікі на памешчыцкіх землях засталіся адзінай фармальнай катэгорыяй у расійскім афіцыйным справаводстве, складзенай у асноўным з былой дробнай шляхты.

Як можна было пераканацца з дакумента, урывак з якога быў прыведзены ў пачатку раздзела, XIX стагоддзе стала перыядам значных і хуткіх сацыяльных трансфармацый, якія пачалі прыводзіць да распаду існаваўшай сацыяльнай структуры і да канфліктаў паміж чыншавікамі і памешчыкамі. Гэтыя канфлікты з цягам часу толькі нарасталі. Для разумення іх прыроды неабходна разгледзець прыроду саміх чыншавых адносін у Беларусі.

**Паходжанне чыншавых адносін.** Узнікненне вечных чыншавых адносін на беларускіх землях звязана з XIII–XIV стст., але асабліва шырокія памеры яны маглі набыць у XVII–XVIII стст., калі пасля рэзкага змяншэння колькасці насельніцтва ў выніку войнаў сярэдзіны XVII – пачатку XVIII ст. магнаты ВКЛ сутыкнуліся з недахопам рабочых рук і масава запрашалі свабоднае насельніцтва, у тым ліку шляхту з польскіх земляў, на пасяленне ў сваіх уладаннях. Магутнасць і ўплывовасць магнатаў залежалі ад колькасці іх падданых, таму феадалы імкнуліся пасяліць на сваіх апусцелых землях паболей людзей, якія б вялі самастойную гаспадарку. Асаднікі, у сваю чаргу, хацелі мець гарантыі доўгатэрміновага выкарыстання зямлі, магчымасці перадачы яе ў спадчыну, пэўныя прывілеі, што прыводзіла да ўзнікнення ўзаемавыгадных вечначыншавых адносін. Памер чыншу і абавязкі асобы, якая атрымала надзел, прызнаваліся вечнымі і нязменнымі, прычым участак мог быць перададзены разам з абавязкамі іншай асобе.

Другім шляхам узнікнення вечначыншавых адносін была служба шляхціцаў у магнацкім апалчэнні, што асабліва шырока распаўсюдзілася ў час несупынных магнацкіх войнаў у ВКЛ у канцы XVII – XVIII ст. Шляхціц атрымліваў зямельны надзел за службу магнату з умовай выканання вайсковай павіннасці, а часам і аплаты чыншу.

Калі ў другім выпадку зямельны надзел даваўся ў асноўным шляхціцам, то ў першым памешчыкі вельмі часта раздавалі землі ў вечначыншавае спадчыннае ўладанне і розным служылым людзям – выбранцам, путным баярам, зямянам і інш.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай расійскія ўлады не ўмешваліся ва ўзаемаадносіны чыншавікоў і землеўласнікаў. Чыншавае права было пацверджана маніфестам Кацярыны II[1]. Вечначыншавыя адносіны захоўваліся, хоць памешчыкі і асабліва магнаты пасля забароны трымання ўласных вайсковых фарміраванняў не былі зацікаўлены ў службовай і чыншавай шляхце, што плаціла за свае надзелы службай, якую рэальна ёй ужо выконваць не даводзілася. Для памешчыкаў больш выгадным стала атрыманне ад такіх чыншавікоў як мага большага чыншу шляхам пераводу іх на арэнднае трыманне. Аднак сваю сілу да 1840 г. захоўвалі законы ВКЛ, і памер чыншу не мог змяняцца па жаданні памешчыка. Спробы павелічэння памеру чыншу прыводзілі да распаду колішніх адносін і распальвання канфлікту паміж чыншавікамі і землеўласнікамі. У прынцыпе, расійскае заканадаўства і пасля 1840 г. адназначна прызнавала правамоцнасць вечначыншавых дагавораў, заключаных да 1840 г. Указам 25 чэрвеня 1840 г. (арт. 4), якім было распаўсюджана дзеянне расійскіх законаў у так званых «заходніх губернях», пастанаўлялася вызначаць легітымнасць і сілу дакументаў, якія былі складзены да абнародавання ўказа 25 чэрвеня 1840 г., і іх адпаведнасць законам, якія мелі юрыдычную моц і дзеянне пры складанні гэтых дакументаў. Чыншавыя кантракты, заключаныя да 25 чэрвеня 1840 г., прызнаваліся. Пацвярджалася моц звычаёвага права і люстрацыйнымі правіламі 1867 г.[2]

Такім чынам, нягледзячы на назраваючы канфлікт і паступовую эвалюцыю ва ўзаемаадносінах землеўласнікаў і чыншавых трымальнікаў зямлі, у другой палове XIX ст. вечначыншавае землеўладанне ў заходніх губернях імперыі ўсё яшчэ існавала і характарызавалася пэўнымі прыметамі.

Да вечных чыншавікоў адносілася частка асабіста свабоднага, непрыгоннага насельніцтва розных саслоўяў – дваран (пераважна дробная шляхта), мяшчан (у тым ліку частка катэгорыі грамадзян, што пражывалі ў гарадах і сельскай мясцовасці) і асабіста вольных сялян, а таксама значная частка прадстаўнікоў такіх катэгорый, як вольныя людзі і аднадворцы заходніх губерняў.

Сельскія вечныя чыншавікі атрымлівалі зямлю ад феадалаў у большасці выпадкаў на аснове вусных, а часам пісьмовых дагавораў. Чыншавікі атрымлівалі землі ў вечнае і спадчыннае валоданне і карыстанне за выплату раз і назаўсёды ўстаноўленага вечнага чыншу. Атры-

---

[1] *Лященко П. И.* Очерки аграрной эволюции России. Т. 2, ч. 1. С. 257.

[2] Там жа.

манай зямлёй чыншавік валодаў пажыццёва, перадаваў яе ў спадчыну сваім дзецям, меў права частку зямлі аддаць у пасаг, падараваць, усю зямлю або яе частку прадаць, закласці і г. д.

Чыншавік меў права на чыншавай зямлі ўзводзіць любыя пабудовы, карыстацца водамі і нетрамі. Пры пераходзе зямлі ад аднаго чыншавіка да іншага памешчык атрымліваў на сваю карысць асобы грашовы ўзнос («ляўдэмія»), памер якога вызначаўся пры заключэнні чыншавых адносін і ў большасці выпадкаў быў роўны памеру чыншу; сельскія чыншавікі штогадова сплочвалі грашовыя чыншы, натуральныя (напрыклад, 2 пуды пянькі ў год) і выконвалі некаторыя павіннасці ў маёнтку памешчыка (напрыклад, 3 дні касілі, або прывозілі некалькі бярвенняў з лесу, або збіралі жыта на 1 дзесяціне памешчыцкага поля, або здабывалі і апрацоўвалі руду)[1].

Чыншавая шляхта ў некаторых рэгіёнах мела спецыфічныя заняткі. Так, О. Кольберг, вядомы польскі этнограф, вылучыў на Палессі ў 60-я гг. XIX ст. асобную групу чыншавай шляхты, якая мела назвы «буднікі», «мазуры» або «буцы». Гэта група чыншавай шляхты, на думку Кольберга, у значнай сваёй частцы паходзіла з рэгіёна Мазовіі і Мазур у Польшчы. У XVI–XVIII стст. землеўладальнікі Палесся запрашалі насельніцтва, у тым ліку мазавецкую шляхту, на высечку лесу для сельскагаспадарчых патрэб. Перасяленцы сяліліся на вызваленых участках і будавалі буды, адсюль паходзіць і назва такой шляхты. Многія працягвалі займацца ляснoй гаспадаркай: высечкай лесу, вырабам гонты, лясных матэрыялаў, паляваннем. Частка буднікаў пераходзіла на чынш. Як пісаў О. Кольберг, хатняе жыццё гэтых бедных людзей было падобным да ладу жыцця ўсяго беднага насельніцтва, якое завецца палешукамі[2].

Звычайна чыншавікі плацілі чынш нароўні з дзяржаўнымі сялянамі або (ужо ў другой палове XIX ст.) заключалі з памешчыкамі кантракты (тэрмінам ад 6 да 12 гадоў) на сялянскія сялібы[3]. У 1829 г. у Гродзенскай губерні чыншавая шляхта, якая жыла на памешчыцкіх землях, плаціла аброк паводле «добраахвотнай дамовы з уладальнікам і ў залежнасці ад якасці зямлі, ад 15 да 24 руб. срэбрам у год за адну валоку», а тая чыншавая шляхта, якая жыла на казённых землях, уносіла чынш згодна з люстрацыйнымі інвентарамі, складзенымі яшчэ ў часы Рэчы Паспалітай[4]. Чынш, які плацілі чыншавікі, мог быць меншы,

[1] *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : автореф. ... С. 5.
[2] *Kolberg O.* Białoruś-Polesie. S. 63–64.
[3] *Неупокоев В. И.* Преобразование беспоместной шляхты ... С. 4.
[4] Дело по отношению комиссии Высочайше учрежденной ...

чым чынш, які плацілі сяляне, асабліва ў чыншавікоў, што спрадвеку спадчынна карысталіся сваімі ўчасткамі. Такі чынш быў устаноўлены традыцыяй і таму быў нязменным, у чым была выгада чыншавікоў.

Колькасць чыншавікоў у пачатку XIX ст. расла, бо на чынш, які, між іншым, не заўсёды мог быць вечным і спадчынным, пераходзіла частка службовай шляхты і шляхты, якая не мела яшчэ сталай аселасці. Гродзенскі губернатар М. Мураўёў даносіў у Заходні камітэт пра такую чыншавую шляхту: «...сего сословия людей в губернии сей примерно считается до 486 дворов (яўна няпоўныя звесткі. – *В. М.*), они не имеют постоянной оседлости и живут на нанимаемых землях преимущественно у помещиков»[1].

## АБЕЗЗЯМЕЛЬВАННЕ ЧЫНШАВІКОЎ І ЧЫНШАВАЯ РЭФОРМА 1886 г.

**Прырода канфлікту і прычыны барацьбы паміж чыншавікамі і памешчыкамі.** Большая частка чыншавай шляхты, асабліва ў Мінскай губерні, паходзіла з былой так званай «ардынацкай» і «леннай» шляхты, якая жыла ў магнацкіх ардынацыях і ленных уладаннях. Яе продкі за атрыманы ў спадчыннае карыстанне надзел зямлі служылі ў магнацкіх апалчэннях. Шмат ардынацкай шляхты было ў нясвіжскай ардынацыі і ленных уладаннях Радзівілаў. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай магнатам было забаронена мець войскі, і таму ў XIX ст. уладальнікі латыфундый імкнуліся або перавесці такую шляхту на чынш, або пазбавіць яе зямлі, што прыводзіла да канфліктаў. З цягам часу колькасць канфліктаў толькі павялічвалася, што, па словах Каэтана Крашэўскага, у 30–60-я гг. XIX ст. станавілася ўжо і прадметам судовых разбораў[2].

У 1860-я гг. сітуацыя з чыншавымі ўладаннямі ў заходніх губернях імперыі, як у Беларусі, так і ва Украіне, яшчэ больш накалілася. Каталізатарам гэтага сталі чыста эканамічныя працэсы, звязаныя з развіццём капіталістычных адносін у выніку рэформы 1861 г. Памешчыкі Беларусі вымушаны былі перастройваць свае гаспадаркі на капіталістычную аснову ў выніку росту таварнасці сельскай гаспадаркі, пераходзіць да найму рабочай сілы ў сувязі са скасаваннем

[1] Запіска і прапановы Гродзенскага губернатара М. М. Мураўёва. С. 353.
[2] *Kraszewski K.* Silva rerum ... S. 92.

прыгону, набываць уласны інвентар і рабочую жывёлу, уводзіць новыя тэхнічныя культуры і купляць сельскагаспадарчую тэхніку. На ўсё гэта патрэбны былі значныя фінансавыя сродкі, таму многія памешчыкі бачылі спосабам да папаўнення сваіх фінансаў ліквідаванне вечначыншавых адносін з чыншавікамі і перавод іх на арэнду ў адпаведнасці з рынкавай арэнднай платай за зямлю. Да павышэння чыншаў памешчыкаў падштурхоўвала і абмежавальнае заканадаўства, бо пасля паўстання 1863 г. яны былі абкладзены кантрыбуцыямі і для іх умовы выкупу зямлі сялянамі былі менш выгаднымі, чым для памешчыкаў у этнічна рускіх губернях.

Гэта праблема асвятлялася на старонках расійскай польскамоўнай прэсы. Так, пецярбургская польскамоўная газета «Kraj» пісала ў 1882 і 1889 гг.: «Dziedzic, przyparty do muru, zapragnął pociągnąć większy zysk z czynszownika» («Спадчыннік, прыпёрты да сцяны, захацеў атрымаць большы прыбытак ад чыншавіка»). Чыншавікі, у сваю чаргу, звярталіся ў суды, дамагаючыся атрымання зямлі ва ўласнасць і перастаючы плаціць чынш. У адказ памешчыкі пачалі масава выганяць з маёнткаў чыншавікоў, з якімі не маглі прыйсці да паразумення[1]. Што праўда, такое абеззямельванне чыншавікоў пачало набываць масавы характар яшчэ ў апошнія гады перад рэформай 1861 г.[2]

Расійскія ўлады, якія павінны былі б спыніць ці заняцца юрыдычным урэгуляваннем такіх працэсаў, не спяшаліся з рэакцыяй. Як пісаў адзін з аўтараў успамінаў, «расійскі ўрад, бачачы ў чыншавіках палітычна непажаданую масу, намагаўся іх зліквідаваць і знайшоў у гэтым шчырую дапамогу з боку памешчыкаў. Будучы незадаволенымі невялікім чыншам, яны жадалі за лепшае павялічыць свае надзелы, выкідаючы са сваіх спрадвечных сядзіб чыншавікоў, лёс якіх цяпер быў горшы, чым сялян»[3].

Дадатковага абвастрэння сітуацыі надала ліквідацыя катэгорыі аднадворцаў па Законе ад 1868 г. У 1886 г. кіеўскі губернатар Л. П. Тамара, тлумачачы чыншавай камісіі Міністэрства ўнутраных спраў прыроду канфлікту паміж памешчыкамі і чыншавікамі, адзначыў наступнае:

---

[1] *Sikorska-Kulesza J.* Deklasacja drobnej szlachty na Litwie i Białorusi w XIX wieku. S. 61.

[2] Гісторыя сялянства Беларусі са старажытных часоў да нашых дзён : у 3 т. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі ; рэдкал.: М. С. Сташкевіч (старш.) [і інш.]. Мінск, 2002. Т. 2 : Ад рэформы 1861 г. да сакавіка 1917 г. С. 111 ; *Абрамов Я.* Некоторые особенности наших поземельных отношений // Отечеств. зап. 1883. № 11. С. 6–8.

[3] *Talko-Hryncewicz J. Z* przeżytych dni 1850–1908. Warszawa, 1930. S. 114–115.

«В 1868 г. правительство устраивало на земле однодворцев и вольных людей. По закону они оставались вольными съемщиками земель. Помещики поняли это как указание на возможность превратить вечных чиншевиков во временных арендаторов и стали возвышать чинши, ликвидировать сервитуты и выселять чиншевиков. Поэтому то и началась борьба»[1].

Сітуацыя з чыншавікамі ўсё ж яўна патрабавала свайго вырашэння, бо пачала пагражаць спакою ў рэгіёне, але праблема абвастралася яшчэ тым, што з-за адсутнасці канкрэтнага закона, які б дакладна рэгламентаваў вечначыншавыя праваадносіны, судовая практыка, да якой пачалі ўсё часцей звяртацца і чыншавікі, і памешчыкі, давала вельмі разнародныя погляды на чыншавыя адносіны, у тым ліку часам і прызнаючы чыншавыя кантракты, заключаныя пасля 1840 г., калі канчаткова было спынена дзеянне Статута ВКЛ[2], а часам прымаючы і рашэнні аб высяленні чыншавікоў.

У выніку нарастаючых эканамічных супярэчнасцей і прававой неўрэгуляванасці праблемы ў 60–80-я гг. XIX ст. у Літве, Беларусі і ва Украіне канфлікт паміж памешчыкамі і чыншавікамі разгарэўся ў адкрытую барацьбу паміж імі за зямлю. Памешчыкі з намерам атрымаць большую выгаду ад земляў, на якіх былі паселены чыншавікі, пачалі масава іх зганяць або павышаць чынш[3]. Сітуацыю абвастрыла таксама правядзенне чыншавай рэформы ў Польшчы ў 1870 г., пасля якой памешчыкі Беларусі і Украіны намагаліся выселіць са сваіх уладанняў чыншавікоў, каб не даць ім магчымага ў будучым права выкупу надзелаў, як у Польшчы.

Чыншавікі змагаліся за свае правы, прычым частка з іх пачала не толькі звяртацца ў суды, але нават хапацца за зброю, што непакоіла ўрад і мела ў сабе, як адзначалася, «палітычную небяспеку», улічваючы тое, што чыншавікі ўяўлялі даволі значную групу насельніцтва

---

[1] РГИА в СПб. Государственный Совет. Департамент законов. Д. 38. С. 254–272. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 116.

[2] *Лященко П. И.* Очерки аграрной эволюции России. Т. 2, ч. 1. С. 257–258.

[3] Дело по жалобе дворян-татар мест. Клецка Слуцкого уезда Якубовского, Рафаловича, Байрашевского и др. на увеличение размера годового чинша кн. Радзивиллом за пользование землей. 1869–94 гг. // НГАБ. Ф. 242. Воп. 4 (чыншавае аддз-не). Спр. 31 ; Дело по жалобе поверенных дворян и крестьян селения Месенковщизна Минского уезда Высоцкого, Касперовича и др. на завышение размера чинша за пользование землей в им. кн. Радзивилла // НГАБ. Ф. 242. Воп. 4 (чыншавае аддз-не). Спр. 33.

ў заходніх губернях[1], а большую частку чыншавікоў складала заўсёды палітычна актыўная дробная шляхта.

У 1874 г. адбылося значнае выступленне сельскіх чыншавікоў, прыпісаных да мястэчка Лагішын Пінскага павета. Для супакаення паўстаўшых супраць дзеянняў адміністрацыі 300 чыншавікоў была выклікана пінская павятовая каманда ў складзе 53 чалавек, якая не змагла справіцца з чыншавікамі, і на падмогу ёй быў выкліканы батальён з Мінска[2]. Хваляванні былі абумоўлены пазбаўленнем чыншавікоў 2630 дзесяцін зямлі, якую праз пэўныя маніпуляцыі і ашуканствы набыў у сваё асабістае ўладанне мінскі губернатар У. М. Токараў. Хваляванні цягнуліся некалькі месяцаў і скончыліся падаўленнем войскамі. Дзясяткі чыншавікоў былі падвергнуты пакаранню розгамі, а з 233 двароў на карысць губернатара быў спагнаны штраф у суме 5474 руб. шляхам продажу амаль усёй асабістай маёмасці няшчасных чыншавікоў. Справа цікавая тым, што барацьба разгортвалася не проста з памешчыкам, а з памешчыкам, які быў высокім расійскім чыноўнікам і набыў землі, карыстаючыся абмежавальным заканадаўствам. Магчыма, канфлікт з чыншавікамі існаваў і раней, але, як і ў некаторых іншых выпадках, змена ўладальніка тут стала яго каталізатарам.

Чыншавікі таксама масава звярталіся ў суды, намагаючыся абараніць свае правы мірным шляхам. У 70–80-я гг. XIX ст. судовыя інстанцыі ўжо былі перагружаны як патрабаваннямі памешчыкаў аб прызнанні за імі права на чыншавыя землі і аб высяленні чыншавікоў, так і скаргамі чыншавікоў на неправамоцныя дзеянні памешчыкаў. Паколькі ў расійскіх законах не было ні слова пра рэгуляванне адносін паміж памешчыкамі і чыншавікамі і ўвогуле не ўзгадвалася пра чыншавае права, суддзі не ведалі, чым кіравацца пры разглядзе падобных спраў[3].

Сур'ёзнае абвастрэнне канфліктаў патрабавала вырашэння юрыдычнага казусу, і нарэшце пытанне аб чыншавых адносінах і неабходнасці іх урэгулявання на вышэйшым узроўні ўпершыню ўзняў валынскі губернатар у 1875 г. Урадам было вырашана прыступіць да мерапрыемстваў па ўладкаванні праблемы чыншавікоў.

**Падрыхтоўка і правядзенне чыншавай рэформы 1886 г.** Толькі больш чым праз год пасля таго, як пытанне было ўзнята, пачаліся рэальныя дзеянні. 14 студзеня 1877 г. Камітэт міністраў па распараджэнні

---

[1] *Лященко П. И.* Очерки аграрной эволюции России. Т. 2, ч. 1. С. 258.

[2] Рапорт и. о. минского губернского прокурора управляющему Министерством юстиции, № 10 от 15.10.1874 г. // Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. С. 790–791.

[3] *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : автореф. ... С. 2–3.

цара прапанаваў міністру ўнутраных спраў сабраць неабходныя звесткі пра вечных чыншавікоў і распрацаваць праект прапаноў аб мерапрыемствах, неабходных для рашэння чыншавага пытання. У сваю чаргу, міністр унутраных спраў запатрабаваў ад генерал-губернатараў і губернатараў заходніх губерняў падрабязных звестак пра сельскае вечначыншавае землеўладанне. На месцах пачаўся збор звестак і матэрыялаў аб чыншавіках[1].

Адначасова пачала праводзіцца і тэарэтычная праца ў Грамадзянскім касацыйным дэпартаменце Урадавага Сената, дзе распрацоўвалася пытанне аб сутнасці чыншавага права. Вынікам гэтай працы стала выданне спецыяльнага тлумачэння Сената аб тым, што чыншавае права з'яўляецца па сваёй сутнасці «рэчыўным правам»: «...право вечного, потомственного, с правом отчуждения, владения и пользования недвижимым имуществом, за определенные в пользу вотчинника денежные и другие повинности, размер и вид которых раз навсегда устанавливается и не может быть изменен по односторонней воле собственника, кроме случаев, предусмотренных в установившем чиншевые отношения договоре»[2].

Тлумачэнні Сената выклікалі моцнае ўзбуджэнне сярод памешчыкаў, якія пасля іх выдання паспяшаліся фарсіраваць выгнанне або перавод на арэнду чыншавікоў.

Адначасова з юрыстамі Сената за тэарэтычную распрацоўку праблемы вечначыншавых зямельных адносін узяліся і юрысты з іншых асяродкаў. У асноўным праца юрыстаў над праблемай чыншавага права сканцэнтравалася ў Кіеўскім і Адэскім юрыдычных таварыствах. Вынікам распрацоўкі гэтага пытання было стварэнне дзвюх тэорый чыншавага права.

У першай тэорыі чыншавае права разглядалася як «уладаранне па міласці» ці «прэкарнае землеўладанне». Па сутнасці, практычным вынікам гэтай тэорыі было сцвярджэнне, што памешчыкі маюць «законнае» права распараджацца чыншавай зямлёй, адвольна павялічваць чынш, зганяць чыншавікоў з зямлі, перасяляць іх, пераводзіць на арэнду і г. д. У адпаведнасці з другой распрацаванай тэорыяй, аўтарамі якой былі больш ліберальныя юрысты, чыншавае права разглядалася як «рэчыўнае права». Яны лічылі, што чыншавае права ёсць права ўласнасці на чужую рэч. Практычнымі высновамі гэтай тэорыі было тое, што

---

[1] РГИА в СПб. Государственный Совет. Департамент законов. Д. 38. С. 2. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 81.

[2] Там жа.

памешчыкі не маюць права адымаць землі чыншавікам, пераводзіць чыншавікоў на арэнду, павялічваць чынш і г. д. Адзіным законным дзеяннем у адносінах да чыншавікоў з боку памешчыкаў, на думку прыхільнікаў гэтай тэорыі, мог быць продаж чыншавікам у поўную ўласнасць, але «па справядлівай цане» тых земляў, якімі яны валодалі[1].

У вышэйшых колах таксама адсутнічала адзіная думка пра вечначыншавыя адносіны. Адказам на інструкцыі Сената, дзе вечначыншавае права разглядалася як «рэчыўнае права», сталі цыркуляры міністра юстыцыі графа Палена, у якіх вечначыншавыя адносіны на зямлю былі названы «прэкарным уладараннем»[2].

Адсутнасць адзінай думкі ва ўрадавых колах толькі накальвала абстаноўку. Чыншавікі ў выніку сталі яшчэ больш масава звяртацца ў суды, даказваючы свае вечнаспадчынныя правы, просячы пакінуць землі за імі. У судовыя ўстановы Беларусі і Украіны паступіла такая маса чыншавых спраў, што Камітэт міністраў, які быў напалоханы гэтай з'явай, 27 ліпеня 1878 г. выдаў распараджэнне аб прадастаўленні чыншавых спраў на рэвізію ва Урадавы Сенат, дзе іх разгляд павінен быў адбывацца з удзелам міністра ўнутраных спраў. На думку даследчыцы Л. Прэабражэнскай, гэта мерапрыемства было праведзена з мэтай расцягнуць на некалькі гадоў вырашэнне пытання аб вечначыншавым уладанні і, такім чынам, не дапусціць стварэння адначасова вялікіх мас абеззямеленых чыншавікоў, што магло пагражаць узброеным паўстаннем. На адным з пасяджэнняў Камітэта міністраў, прысвечаным разгляду правіл аб парадку вядзення судовых спраў па чыншавых пытаннях, было сказана наступнае: «Комитет находил, что сущность временных мероприятий правительства относительно чиншевиков, впредь до разрешения общего вопроса о них в законодательном порядке, должна быть направлена в настоящее время единственно к предупреждению выселения чиншевиков с занимаемых ими земель в значительных массах»[3].

Нават абмежаванае абеззямельванне і высяленне чыншавай шляхты памешчыкамі па рашэннях судоў і Сената выклікала значныя хваляванні. Чыншавікі ведалі пра падрыхтоўку рэформы і лічылі абеззямельванне з высяленнем незаконным прымусам у адносінах да іх,

---

[1] *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : автореф. ... С. 3.

[2] РГИА в СПб. Государственный Совет. Департамент законов. Д. 38. С. 4. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 83.

[3] РГИА. Ф. МВД. Зем. отд., 2-е делопроизводство. Опись за 1876 г. Дело «Об устройстве быта ченшевиков». Т. 1. С. 162. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 84.

ашуканствам. Сітуацыя была безвыходнай яшчэ ў тым сэнсе, што выселеныя чыншавікі заставаліся фактычна пазбаўленымі любых сродкаў на існаванне. Так, у 1883 г. мінскі губернатар паведамляў: «Решения судебных мест и даже Правительствующего Сената, на основании коих подлежит выселять с владельческих земель чиншевиков или лиц, признающих себя таковыми, представляется в высшей степени затруднительным приводить в исполнение, в виду многочисленности семейств, подлежащих выселению и, следовательно, лишаемых в зимнее время крова, а также вследствие напряженного ожидания со стороны чиншевиков разрешения правительством чиншевого вопроса и надежд их, что на тех или других основаниях им будет предоставлено право собственности на владеемую ими землю. Такие надежды, соединяемые нередко с безвыходным положением выселяемых, побуждают их не только с упорством отказываться от всяких соглашений с владельцами имений, но и оказывать сопротивление судебным и полицейским властям при всякой попытке их выселить.

Подобного рода сопротивление в действительности и произошло 16 ноября, когда судебный пристав приводил в исполнение решение Съезда мировых судей Минского округа о выселении из застенков Боровики и Рубилки четырех семейств, отказывающихся от платежа аренды владельцу застенка помещику Бунге, причем сопротивлялись исполнению судебного решения не только выселяемые, но и вся окрестная шляхта, живущая в ближайших застенках в числе примерно 100 чел. и находящаяся относительно владеемой ею земли в таких же условиях, как и выселяемые»[1].

Безумоўна, улады не былі зацікаўлены, каб масы чыншавікоў апынуліся ў такім безвыходным становішчы. У першую чаргу іх хвалявала тое, каб не ўспыхнула паўстанне, каб барацьба чыншавікоў не набыла небяспечныя для ўрада формы. На палітычнае значэнне будучай чыншавай рэформы і яе вялікія наступствы некалькі разоў звярталася ўвага рознымі міністрамі і членамі Дзяржаўнага Савета як падчас працы чыншавай камісіі МУС, так і пазней, падчас абмеркавання рэформы ўжо на аб'яднаным пасяджэнні Дэпартамента законаў, дзяржаўнай эканоміі, грамадзянскіх і духоўных спраў Дзяржаўнага Савета[2].

Узыходжанне на трон у 1881 г. новага імператара ўнесла некаторыя карэктывы ў падрыхтоўку рэформы ў плане надання працэсу больш

---

[1] Записка минского губернатора // Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. С. 793–794.

[2] РГИА в СПб. Государственный Совет. Департамент законов. Д. 38. С. 275об. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 117.

кансерватыўнага кірунку. Паколькі многія памешчыкі адмаўляліся даваць звесткі аб чыншавіках на іх землях або скажалі іх, збор звестак было загадана перадаць пад кантроль губернатараў. Міністр унутраных спраў прапанаваў кіеўскаму, мінскаму, віцебскаму і магілёўскаму губернатарам сабраць звесткі пра чыншавікоў, прычым пры гэтым папярэдзіць памешчыкаў, што ўрад не збіраецца іх абмяжоўваць, а, наадварот, намераны абараняць іх правы. Міністр прапанаваў губернатарам запэўніць памешчыкаў, што «не может в настоящем деле идти и речь о каком-либо новом ограничении прав поземельной собственности землевладельцев предоставлением так называемым чиншевикам права на надел земли». Адначасова рэкамендавалася падчас збору звестак захоўваць асаблівую асцярожнасць, каб не ўзбудзіць у чыншавікоў неабгрунтаваных надзей на дапамогу ўрада[1].

Па меры таго як накопліваліся звесткі адносна чыншавага землеўладання, улады падыходзілі да падрыхтоўкі рэформы. Пры Міністэрстве ўнутраных спраў у 1882 г. была створана чыншавая камісія ў складзе 22 чалавек, якая павінна была разгледзець пытанне гісторыі ўзнікнення і развіцця вечначыншавых адносін і актуальнага іх стану і прадставіць праект вырашэння чыншавага пытання[2]. У склад камісіі, акрамя старшыні Сената, прадстаўнікоў міністэрстваў і 4 прадстаўнікоў ад сялянскіх установаў паўднёва- і паўночна-заходніх губерняў, увайшлі яшчэ 10 буйных землеўласнікаў з заходніх губерняў і валынскі дваранскі старшыня С. А. Увараў. Ад памешчыкаў паўночна-заходніх губерняў у камісіі былі прадстаўлены: князь Святаполк-Чацвярцінскі, князь Агінскі, Яленскі, Парчэўскі, прадстаўнік ад Мінскай губерні – князь Мацей Радзівіл.

Да 1882 г. МУС назбірала дастаткова інфармацыі і дакументаў аб сельскім вечнаспадчынным чыншавым землеўладанні. Гэтыя дакументы вывучала чыншавая камісія, якая прыйшла да заключэння, што: 1) характар чыншавага права рэзка адрозніваецца ад арэнднага; 2) з'ява вечначыншавага права была канчаткова аформлена да пераходу Украіны і Беларусі да Расіі і атрымала змест рэчыўнага і бестэрміновага права на нерухомую маёмасць; 3) чыншавыя адносіны ўзнікалі як на аснове пісьмовых дамоў, так і паводле вусных, як да ўказа

---

[1] *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 84

[2] Журнал чиншевой комиссии и записка о поземельном устройстве быта сельских чиншевиков // Архив Государственного Совета. Департамент законов. 1886. № 38. Л. 90–130 ; *Лященко П. И.* Очерки аграрной эволюции России. Т. 2, ч. 1. С. 258 ; *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : автореф. ... С. 9.

25 чэрвеня 1840 г., так і пасля яго аж да самага апошняга часу; 4) адсутнасць да гэтага часу канкрэтнага закона, які б вызначаў адносіны чыншавікоў да ўладальнікаў, настолькі іх ускладніла і абвастрыла, што выклікае неадкладную патрэбу так ці інакш заканадаўчым шляхам спыніць ці ўрэгуляваць іх; 5) для правядзення чыншавай рэформы неабходна стварыць асобыя ўстановы, якім павінны быць перададзены ўсе судовыя чыншавыя справы. Такімі ўстановамі могуць быць павятовыя і губернскія па сялянскіх справах прысутнасці, склад якіх павінен быць дапоўнены прадстаўнікамі ад памешчыкаў і судовых установ[1]. Улічваючы ўсе фактары, камісія прапанавала прызнаць чыншавікамі ўсіх тых, хто карыстаўся правам вечнай арэнды, валодаючы ўчасткамі паводле пісьмовых дагавораў і вусных дамоўленасцей, якія былі заключаны як да, так і пасля 1840 г., паколькі, на думку камісіі, чыншавы інстытут прызнаваўся заўсёды вышэйшымі расійскімі судовымі інстанцыямі і не супярэчыў агульным законам[2].

Вырашэнне чыншавага пытання і быту чыншавікоў па прыкладзе аднадворцаў, шляхам іх перасялення на свабодныя землі, прадстаўлялася, на думку камісіі, нерэальным для ажыццяўлення, паколькі нават з аднадворцамі гэты вопыт нельга было прызнаць удалым, але асабліва ў сувязі з вялікай колькасцю чыншавікоў. З іншага боку, вырашэнне ўсіх чыншавых адносін адным і агульным заканадаўчым актам прадстаўлялася таксама немэтазгодным і немагчымым у сувязі з надзвычайнай разнароднасцю чыншавых адносін і варункаў. Але разам з тым пакінуць чыншавыя адносіны без рэформы было прызнана таксама непажаданым у сувязі з тым, што яны вельмі абцяжарвалі вотчынную зямельную ўласнасць і не адпавядалі новым эканамічным варункам. Улічваючы ўсе фактары, камісія прапанавала прызнаць чыншавікамі ўсіх тых, хто карыстаўся правам вечнай арэнды і валодаў участкамі паводле пісьмовых дагавораў і вусных дамоўленасцей, заключаных як да, так і пасля 1840 г.[3]

Ужо 22 ліпеня 1883 г. Аляксандру III міністрам унутраных спраў быў перададзены даклад аб рабоце чыншавай камісіі і яе меркаванні адносна заканадаўчага вырашэння чыншавага пытання. Цар пагадзіўся

---

[1] РГИА в СПб. Государственный Совет. Департамент законов. Д. 38. С. 4об. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 86–87.

[2] Журнал чиншевой комиссии и записка о поземельном устройстве быта сельских чиншевиков ; *Лященко П. И.* Очерки аграрной эволюции России. Т. 2, ч. 1. С. 258–259.

[3] Там жа.

з гэтымі прапановамі і даў распараджэнне не зацягваць справу, а, мінуючы Камітэт міністраў, адразу ўнесці чыншавае пытанне на разгляд у Дзяржаўны Савет, у Дэпартамент законаў. Матэрыялы туды былі прадстаўлены і разасланы таксама міністрам юстыцыі, фінансаў, дзяржаўных маёмасцей.

Адначасова працы камісіі былі адасланы генерал-губернатарам Беларусі і Украіны, а таксама мінскаму і віцебскаму губернатарам для прадастаўлення імі сваіх заключэнняў. Заключэнні і прапановы былі зроблены. Так, мінскі губернатар прапанаваў ускласці правядзенне рэформы на ўжо існуючыя прысутнасці па сялянскіх справах, а таксама ўвесці ў іх склад прадстаўніка ад мясцовых землеўладальнікаў па прызначэнні ад губернатара. Ён таксама лічыў, што вечначыншавае права на зямлю павінна быць прызнана за ўсімі тымі, хто дакажа, што займанай зямлёй карыстаўся на аснове чыншавага права да цяперашняга часу. Адносна апошняга палажэння некаторыя генерал-губернатары выказалі адрозныя меркаванні. Напрыклад, прапанавалі абмежаваць гэты тэрмін 1840 ці 1868 годам. Выказваліся і іншыя прапановы. Дыскутаваліся таксама пытанні пра тое, каго трэба лічыць чыншавіком і ці прызнаваць вусныя дамовы або толькі пісьмовыя.

У выказваннях міністра ўнутраных спраў выражана імкненне, з аднаго боку, супакоіць і запэўніць памешчыкаў, што яны не будуць пакрыўджаны рэформай, але з іншага – падпарадкаваць рэалізацыю чыншавай рэформы і палітычным мэтам, а менавіта: а) пазбегнуць хваляванняў чыншавікоў, б) скончыць з іх залежнасцю ад памешчыкаў, што пазбавіла б чыншавікоў ад памешчыцкага «негатыўнага» ўплыву. Міністр, падкрэсліваючы вялікае палітычнае значэнне рэформы, выказваўся наступным чынам: «...уладкаванне першых, сельскіх чыншавікоў, якія валодаюць чыншавымі ўчасткамі па-за гарадамі і мястэчкамі, павінна быць узгоднена з уладкаваннем астатняй часткі земляробчага насельніцтва, і яны павінны землі, якія займаюць, атрымаць на выкуп праз садзейнічанне ўрада. Такое вырашэнне адпавядала б і ўмовам дадзенай справы, і жаданням абодвух зацікаўленых бакоў і было б у адпаведнасці з агульным кірункам, якога прытрымліваўся ўрад у заходніх губернях – імкненнем пакласці канец залежнасці ад-дадзенага нам сельскага насельніцтва і, забяспечыўшы яго ўладкаванне, стварыць з яго самастойны клас людзей, якія не паддаюцца варожым нам уплывам»[1].

---

[1] РГИА в СПб. Государственный Совет. Департамент законов. Д. 38. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 90–91.

На працягу 1883–1886 гг. уладныя структуры і памешчыкі дэталёва абмяркоўвалі выпрацаваны праект закона. Яго разглядалі пункт за пунктам Міністэрства імператарскага двара, міністр юстыцыі Д. М. Набокаў, міністр дзяржаўных маёмасцей М. М. Астроўскі, міністр унутраных спраў, генерал-губернатары. Яны рабілі праўкі, дапаўненні, скарачэнні і г. д., якія ў асноўным служылі на карысць памешчыкаў. Толькі міністр фінансаў М. Х. Бунге дапоўніў праект закона пунктамі, якія адпавядалі інтарэсам чыншавікоў. Аднак свае думкі міністр патлумачыў палітычнымі, а не гуманістычнымі меркаваннямі: «При этих условиях, – адзначаў Бунге, супраціўляючыся высокім выкупным плацяжам, якія меркавалася ўскласці на чыншавікоў, – политическая цель, которую имеет правительство в виду, не будет достигнута. В настоящее время господствует антагонизм между чиншевиками и помещиками, по производстве выкупа этот антагонизм исчезнет. Но если условия выкупа будут для чиншевиков тягостны, то ропот населения обратится против правительства, а прежние отношения к помещикам представятся льготными и блюстителями интересов и выгод чиншевиков окажется не правительство, а по всей вероятности помещик, от которого главным образом будет зависеть облегчение положения обремененных платежами чиншевиков»[1].

У падобным рэчышчы выказаліся таксама кіеўскі генерал-губернатар А. Р. Дрэнтэльн і міністр унутраных спраў, якія выступілі супраць прапановы міністра юстыцыі аб прызнанні вечначыншавых дагавораў, заключаных пасля 1840 г., несапраўднымі. Міністр адзначыў: «Не следует упускать из виду, что, как заметил киевский генерал-губернатор, всякое нарушение прав чиншевиков может только послужить для них доказательством, что законы Речи Посполитой более обеспечивали их права, чем русские, что, конечно, не может отвечать видам правительства».

Далей міністр указваў на тое, што парушаць правы чыншавікоў нельга яшчэ і таму, што чыншавікі – гэта тая частка насельніцтва, «среди которой всякие мятежи всегда черпали свои главные силы и которая уже на деле показала, к какой упорной борьбе она способна. Поэтому несомненно, что нарушение прав чиншевиков приведет к новой борьбе… Не подлежит сомнению, что сопротивление, если бы оно возникло, будет сломлено, но прибегать к целому ряду военных экзекуций, которые для этого могут потребоваться, я признаю крайне нежелательным».

Сярод вартых увагі заўваг міністра ёсць і яшчэ адна. Імкнучыся абараніць правы чыншавікоў на выкуп участкаў, ён, з іншага боку, ад-

---

[1] РГИА в СПб. Государственный Совет. Департамент законов. Д. 38. С. 25. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. … С. 92–93.

носна сумы выкупных плацяжоў лічыў лішнім «баяцца празмернага абцяжарвання чыншавікоў», паколькі, на яго думку, «чыншавыя ўчасткі цалкам падтрымліваюць існаванне чыншавікоў і адрозніваюцца выдатнымі характарыстыкамі». Непажаданым міністр унутраных спраў лічыў якраз непрызнанне вусных чыншавых дамоў, што б выклікала пазбаўленне права выкупу ўчасткаў большасці чыншавікоў Беларусі, дзе, па звестках міністра, толькі 36 % чыншавікоў мелі пісьмовыя дакументы. А гэта магло б выклікаць цяжкасці палітычнага характару[1].

Падобным чынам выказаўся і віленскі генерал-губернатар І. С. Каханаў. Ён лічыў неабходным прызнаць не толькі пісьмовыя чыншавыя дамовы, але і вусныя, заключаныя да 1840 г., паколькі чыншавікі, якія мелі вусныя дамовы, складалі большую частку чыншавікоў і непрызнанне такіх дамоў прывяло б да пазбаўлення правоў масы аселых жыхароў, што б мела непажаданыя палітычныя наступствы[2].

Віцебскі губернатар выступіў супраць рэформы, выказваючыся за радыкальныя мерапрыемствы. Ён рэкамендаваў абавязаць усіх чыншавікоў падпісаць дамовы аб арэндзе, зацягваючы час праз пралангацыю дзеяння чыншавых адносін яшчэ на 10–12 гадоў, а пасля тых, хто б не падпісаў арэндныя дамовы, выселіць з участкаў, зносячы іх будынкі. Мінскі губернатар, на падначаленай тэрыторыі якога пражывала значная колькасць чыншавай шляхты, быў менш катэгарычны і, у адрозненне ад віцебскага, сцвярджаў, што неабходна надзяліць чыншавікоў зямлёй, паколькі «является настоятельная надобность в обеспечении существования нескольких сот тысяч различного звания людей, веками прикрепленных к земле, исключительно занимающихся долгое время хозяйством и наконец усвоивших в своем владении понятие, как о праве неотъемлемой собственности».

На думку мінскага губернатара, чыншавікам трэба было дазволіць выкупіць свае ўчасткі на тых жа падставах, як у Польшчы ў 1870 г., аднак чыншавыя правы трэба прызнаць толькі за тымі, хто меў пісьмовыя дакументы, складзеныя да 1840 г. Усіх іншых трэба прызнаць арандатарамі. Выкупляць жа землі павінны самі чыншавікі без садзейнічання ўрада[3].

---

[1] РГИА в СПб. Государственный Совет. Департамент законов. Д. 38. С. 103. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 97–99.

[2] РГИА в СПб. Государственный Совет. Департамент законов. Д. 38. С. 102об. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 104.

[3] РГИА в СПб. Государственный Совет. Департамент законов. Д. 38. С. 104. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С.104–105.

Памешчыкі ў сваіх выказваннях працягвалі лічыць чыншавае землеўладанне «ўладаннем па міласці» і выступалі за перадачу ім чыншавых земляў. Апазіцыю ім складалі член чыншавай камісіі МУС, прадстаўнік сялянскіх устаноў Украіны Рудчанка, старшыня чыншавай камісіі і прадстаўнік Мінфіна. Памешчыкі Украіны скардзіліся на тое, што ўрад быццам бы ўзяў пад сваю абарону чыншавікоў і нават хоча матэрыяльна змусіць памешчыкаў узнагароджваць іх «за страту іх фіктыўных правоў», «а таму адзіным выхадам з гэтых ненармальна склаўшыхся адносін з'яўляецца выкуп участкаў, якія знаходзіліся ва ўладаранні чыншавікоў, якія пасяліліся яшчэ падчас дзеяння літоўскага статута», г. зн. да 1840 г.[1]

Думку памешчыкаў Мінскай губерні аб тым, што чыншавыя ўладанні з'яўляюцца ўладаннямі «па міласці», выказаў член чыншавай камісіі МУС князь Мацей Радзівіл. Ён пісаў, што чыншавыя ўладанні ў Мінскай губерні ўзніклі ў выніку раздачы земляў за службу. Мінская губерня знаходзілася пад нападамі татар і казакоў. Таму буйныя землеўласнікі, як Радзівілы, умацоўвалі свае месцы пражывання, будавалі замкі і сялілі за мурамі гэтых замкаў службовых людзей дзеля асабістай абароны і паслуг. За гэта ім давалі ўчасткі зямлі. Так з'явіліся чыншавікі. Яны заўсёды былі пад уладай і ў распараджэнні памешчыка, які меў права высяляць чыншавікоў і адымаць участкі. Адпаведна, чыншавае ўладанне ёсць уладанне «па міласці». Радзівіл патрабаваў правесці рэформу ў інтарэсах памешчыкаў. Ён разумеў, што неабходна ўлічыць палітычны бок справы, і таму пагаджаўся прадаставіць права выкупу ўчасткаў, але толькі тым чыншавікам, якія мелі пісьмовыя дакументы, аформленыя да 1840 г. Відавочна, мінскі губернатар быў у згодзе з Радзівілам адносна пазіцыі па чыншавай рэформе.

Памешчыкі Віленскай і Гродзенскай губерняў сцвярджалі, што ў іх няма сельскіх вечных чыншавікоў, а ёсць толькі местачковыя. Яны выступалі супраць тэндэнцыі змешваць арандатараў з чыншавікамі, сцвярджаючы, што арандатары ў іх ёсць і ў вялікай колькасці, але чыншавікоў няма. Дакументы і факты супярэчылі гэтым сцвярджэнням, таму ў выніку яны вымушаны былі пагадзіцца, што чыншавікі ёсць і на іх землях[2].

Пры падрыхтоўцы рэформы ўлады звярнуліся па інфармацыю і выслухалі меркаванні таксама дваранскіх старшыняў (marszałków),

---

[1] РГИА в СПб. Государственный Совет. Департамент законов. Д. 38. С. 107. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 106–107.

[2] *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 108.

якім была спецыяльна разаслана анкета з пытаннямі адносна ўмоў валодання чыншавікамі землямі, іх саслоўя, магчымасцей развярстання ўчасткаў, велічыні чыншу і інш.

З 19 сакавіка 1886 г. пачалася праца аб'яднанага пасяджэння Дэпартамента законаў, дзяржаўнай эканоміі, грамадзянскіх і духоўных спраў Дзяржаўнага Савета, на якім губернскія старшыні дваранства, губернатары і генерал-губернатары Беларусі і Украіны, а таксама міністры рабілі паведамленні па сутнасці пастаўленых у анкеце пытанняў. Мінскі губернскі дваранскі старшыня В. І. Паўлаў паведаміў, што ў Мінскай губерні ёсць сельскія чыншавікі. Напрыклад, на землях, якія належалі князям Радзівілу, Вітгенштэйну, графу Чапскаму, пражывала каля 10 тыс. сельскіх чыншавікоў (2000 сямействаў), якія пасяліліся там яшчэ ў старадаўнія часы. Усе яны валодалі ўчасткамі на аснове пісьмовых дакументаў. Пасля 1840 г. новых дагавораў не заключалі. На землях памешчыкаў, аднак, сяліліся і пасля 1840 г., але гэта арандатары, а не чыншавікі. Яны валодалі зямлёй паводле вусных дамоўленасцей. Местачковыя чыншавікі сяліліся таксама паводле вусных дамоўленасцей. У маёнтках Радзівілаў вяліся кнігі, дзе быў запісаны кожны чыншавік. Пра местачковых чыншавікоў даных не было. У кнігах маёнткаў указвалася, што за зямлю быў унесены чынш, але не было адзнакі аб тым, які чынш – вечны ці арэндны. Чыншавікі, паведамляў дваранскі старшыня, часцей за ўсё жывуць пасёлкамі па 10–20 двароў. Але ёсць пасяленні і на «пустках», а таксама чыншавікі, якія жывуць сярод пасяленняў прыгонных сялян. Паводле падання вядома, што гэтыя пусткі чыншавікі распрацавалі самі. У тым выпадку, калі чыншавікі жывуць вёскамі або цэлымі пасёлкамі, іх землі адмежаваны ад земляў уладальнікаў, а калі жывуць асобнымі дварамі, тады іх землі цераспалосныя з сялянскімі. Памер чыншу, адзначаў Паўлаў, у слабодах аднолькавы для ўсіх чыншавікоў. Там чынш накладаецца на 20 двароў, а пасля размяркоўваецца па дварах з кругавой парукай. У чыншавых дварах, якія размешчаны сярод сялянскіх паселішчаў, памер чыншу розны. Сервітутамі чыншавікі карыстаюцца разам з сялянамі, а чыншавыя вёскі сервітутаў не маюць.

Віцебскі губернскі дваранскі старшыня І. Я. Храпавіцкі таксама адстойваў думку і інтарэсы памешчыкаў. Ён увогуле адмаўляў наяўнасць у Віцебскай губерні сельскіх вечных чыншавікоў, сцвярджаючы, што чыншавікі ёсць у мястэчках і ўсе яны маюць пісьмовыя дакументы. Пасля 1840 г. новых чыншавых дамоў не было заключана. Разам з тым Храпавіцкі вымушаны быў прызнаць, што ў губерні ёсць многа землеўласнікаў, якія называюць сябе чыншавікамі, але насам-

рэч, сцвярджаў дваранскі старшыня, яны арандатары. Падобным чынам выказаліся магілёўскі губернскі дваранскі старшыня Л. А. Цітоў і магілёўскі губернатар А. С. Дэмбавецкі.

Больш прыхільна да чыншавікоў выказаўся віцебскі губернатар Даўгарукаў, які сцвярджаў, што ў яго губерні сельскія чыншавікі ўсё ж ёсць. У большасці з іх былі і пісьмовыя доказы іх чыншавых правоў на зямлю ў выглядзе «квіткоў» або квітанцый аб выплаце чыншу. Памер чыншу вельмі розны – за дзесяціну зямлі чыншавікі плоцяць ад 45 кап. да 2 руб. 10 кап. Уплаты чыншу да апошняга часу ўносіліся даволі спраўна, але ў 1870-я гг., у выніку спроб памешчыкаў павялічыць чынш, узніклі спрэчкі, якія нават даходзілі да судоў, аднак патрабаванні памешчыкаў былі адхілены судовымі інстанцыямі. Пасля 1840 г., адзначаў губернатар, чыншавыя дамовы таксама заключаліся.

Віленскі губернскі дваранскі старшыня граф Адам Плятэр паведаміў, што ў інвентарах ёсць звесткі пра памеры чыншу, пра размяшчэнні чыншавых участкаў, пра час пасялення чыншавікоў. Аднак копій распісак аб выплаце чыншу ўладальнікі не пакідалі. Падчас атрымання платы ў дакументах адзначалася, што гэта чынш за ўчасткі. Ці знаходзіліся яны ў вечначыншавым уладанні, там не ўказвалася. У Беларусі, паведамляў віленскі губернскі старшыня, сельскімі чыншавікамі былі: шляхта, аднадворцы, мяшчане. Сярод местачковых чыншавікоў былі і іншаземцы. Сельскія вечныя чыншавікі жылі і пасёлкамі, і паасобку сярод сялян. Пабудовы на ўчастках чыншавікі ўзвялі самі, але з матэрыялаў памешчыкаў. Калі ж чыншавікі жылі ў пабудовах памешчыка, то гэта былі не вечныя чыншавікі, а арандатары. Памер чыншу быў аднолькавы. Чыншавікі Беларусі ў большасці выпадкаў карысталіся як сервітутамі, так і выпасамі. Сельскіх чыншавікоў у губерні, аднак, было мала. Большасць з іх мела пісьмовыя дакументы, хоць некаторыя чыншавікі згубілі іх. Дакументы складзены ў XVIII ст.

Даволі прыхільнай для чыншавікоў была пазіцыя віленскага губернатара барона М. А. Грэвеніца, які сцвярджаў, што сельскія чыншавікі ў Віленскай губерні не маюць пісьмовых дагавораў, а ў Гродзенскай маюць. Развярстанне ўгоддзяў і ліквідацыя сервітутаў, без сумнення, разарыць чыншавікоў, і таму трэба даць ім права адмаўляцца ад выкупу чыншавых участкаў у тых выпадках, калі гэтага жадае чыншавік. За саступленне сваіх участкаў чыншавікі павінны атрымаць ад вотчынніка грашовае ўзнагароджанне, адпаведнае вартасці ўчастка. Каб гэта не было спусташальным для ўладальніка, неабходна з сумы ўзнагароджання вылічыць кошт чыншавых павіннасцей, якія ляжалі на ўчастку.

Свае думкі выказалі валынскі дваранскі старшыня С. А. Увараў і кіеўскі губернатар Л. П. Тамара. Традыцыйна ўжо пазіцыя губернатара была больш прыхільнай да чыншавікоў, чым дваранскага старшыні[1].

Па выніках зверкі звестак анкет і выказванняў памешчыкаў і вышэйшых чыноўнікаў з месцаў урадам устаноўлена, што сельскія вечныя чыншавікі былі ва ўсіх беларускіх і ўкраінскіх губернях, з'яўляліся амаль уласнікамі зямлі, карысталіся ёю паводле вусных і пісьмовых дагавораў, з даўняга часу плацілі за землі пастаянныя чыншы і што зараз памешчыкі імкнуцца ліквідаваць чыншавае землеўладанне.

Падчас пасяджэння аформіліся дзве групы. Адну з іх, якая лічыла, што чыншавае ўладанне з'яўляецца ўладаннем на міласць, узначальваў князь Мацей Радзівіл. Гэта група імкнулася максімальна зменшыць колькасць асоб, якія маглі прэтэндаваць на выкуп зямлі, таму яны патрабавалі, каб чыншавікі абавязкова прадастаўлялі пісьмовыя дакументы. Таксама гэтай групай адмаўляліся прапановы некаторых членаў камісіі прымаць да ўвагі паказанні сведак, матэрыялы апытання вакольных людзей і прызнаваць вусныя дамовы. Другая група склалася вакол кіеўскага генерал-губернатара А. Р. Дрэнтэльна. Яе прыхільнікі прызнавалі чыншавае права «рэчыўным правам» і лічылі патрэбным даць права ўсім чыншавікам выкупіць свае ўчасткі, прызнаваць апытанні, паказанні вакольных людзей і заключаныя чыншавікамі вусныя дамовы. Гэта група імкнулася не даць першай групе скараціць колькасць асоб, якія маглі быць прызнаны вечнымі чыншавікамі.

З 19 сакавіка па 2 мая 1886 г. праект закона абмяркоўваўся агульным сходам Дзяржаўнага Савета. Агульны сход працаваў 8 дзён – 19, 31 сакавіка, 3, 16, 19, 20, 28 красавіка і 2 мая 1886 г. На пасяджэнні прысутнічалі: міністр унутраных спраў, члены Дзяржсавета Ігнацьеў і Дрэнтэльн (ён жа кіеўскі генерал-губернатар), міністр фінансаў і дзяржаўных маёмасцей, упраўляючы Міністэрствам юстыцыі, дзяржаўны кантралёр, загадчык справамі Міністэрства імператарскага двара, генерал-губернатар Віленскі, Ковенскі і Гродзенскі І. С. Каханаў, віленскі, віцебскі, мінскі, магілёўскі, кіеўскі губернатары, а таксама кіеўскі і віцебскі, мінскі, магілёўскі і валынскі старшыні дваранства.

У праект палажэння аб чыншавай рэформе былі ўнесены значныя карэкціроўкі, якія, з аднаго боку, дазвалялі даказваць свае вечначыншавыя правы адносна вялікай колькасці чыншавікоў, але, з іншага боку,

[1] РГИА в СПб. Государственный Совет. Департамент законов. Д. 38. С. 254–272. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 108–116.

давалі памешчыкам некаторыя саступкі ў самой рэалізацыі рэформы, чым апошнія пазней актыўна скарысталіся. 9 чэрвеня канчаткова адрэдагаваны праект быў падпісаны Аляксандрам III і стаў законам – Палажэннем аб пазямельным уладкаванні сельскіх вечных чыншавікоў у губернях заходніх і беларускіх[1].

Закон тычыўся толькі сельскіх вечных чыншавікоў і не закранаў местачковых і гарадскіх. У адпаведнасці з Палажэннем у Кіеўскай, Падольскай, Валынскай, Віленскай, Ковенскай, Гродзенскай, Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай губернях, названых у законе, што таксама звяртае на сябе ўвагу, «заходнімі і беларускімі», утвараліся павятовыя па чыншавых справах прысутнасці. У іх склад камандзіраваліся кандыдаты міравых пасярэднікаў з акладам па 900 руб. у год і землямеры з акладам у 600 руб. Выдаткі на правядзенне рэформы з 1 студзеня 1887 г. ускладаліся на агульныя сродкі Дзяржаўнага казначэйства, у якое, у сваю чаргу, паступала паўпрацэнтнае адлічэнне ад выкупных плацяжоў, ускладзеных на чыншавікоў, што выкуплялі зямлю. Выкуп адбываўся ў адпаведнасці з арт. 21 Палажэння[2]. Такім чынам, выдаткі на правядзенне рэформы па меншай меры часткова ўскладаліся на плечы саміх жа чыншавікоў.

«Мнением Государственного совета» ад 15 чэрвеня 1887 г. з Дзяржаўнага казначэйства было загадана выдаткоўваць па 63 800 руб. штогод на фінансаванне новаўтвораных органаў і пасад для правядзення рэформы. Варта ўвагі тое, што на ўкраінскія губерні (Кіеўская, Падольская, Валынская) прыпадала выразна большая частка гэтай сумы – 53 400 руб., а на беларуска-літоўскія губерні (Віленская, Ковенская, Гродзенская, Мінская, Віцебская і Магілёўская) выдаткоўвалася толькі 10 400 руб., прычым на Віцебскую і Магілёўскую губерні толькі па 1000 руб. на кожную[3], што, безумоўна, было вынікам нязначнай колькасці чыншавікоў у гэтых губернях.

Амаль палова сумы, прызначанай для беларуска-літоўскіх губерняў (4100 руб.), выдаткоўвалася для Мінскай губерні, дзе было найболей

---

[1] Сборник узаконений и правительственных распоряжений о поземельном устройстве сельских вечных чиншевиков в губерниях западных и белорусских / сост. С. В. Безобразов. СПб., 1892. С. 11–59.

[2] Высочайше утвержденное, 9 июня 1886 г., мнение Государственного Совета о поземельном устройстве сельских вечных чиншевиков в губерниях западных и белорусских // Собрание узаконений и распоряжений правительства. 18 июля 1886 г. № 69. Ст. 645. Пункты II, III.

[3] Высочайше утвержденное, 15 июня 1887 г., мнение Государственного Совета // Сборник узаконений и правительственных распоряжений ... С. 6.

чыншавікоў. Грошы павінны былі пайсці на ўтрыманне землямераў, кандыдатаў міравых пасярэднікаў, а таксама на фінансавую падтрымку губернскіх прысутнасцей, міравых з'ездаў, павятовых па сялянскіх справах прысутнасцей (асабліва ў беларуска-літоўскіх губернях), якія ўдзельнічалі ў рэалізацыі рэформы[1].

Цяжкасці, з якімі сутыкнуліся ўлады пры правядзенні рэформы ва Украіне, змусілі ўрад з 15 красавіка 1891 г. на працягу наступных пяці гадоў выдаткоўваць да ўжо прызначанай для гэтых губерняў сумы дадаткова па 53 400 руб.[2] Для беларускіх губерняў дадатковыя выдаткі паводле гэтага рашэння не прызначаліся, і можна сцвярджаць, што на правядзенне рэформы ва ўкраінскіх губернях было патрачана непрапарцыйна больш сродкаў, чым у беларуска-літоўскіх. Аднак чыншавыя прысутнасці ў беларускіх губернях функцыянавалі і ў 1890-я гг. Магчыма, іх фінансаванне адбывалася ў рамках фінансавання працы сялянскіх прысутнасцей. Выдаткі на рэформу значна пераўзышлі запланаваныя. Так, кіеўскі генерал-губернатар Дрэнтэльн падчас абмеркавання праекта рэформы акрэсліваў неабходную суму выдаткаў на яе правядзенне толькі ў 300 тыс. руб.[3]

У першай главе Закона 1886 г. аб чыншавай рэформе былі змешчаны агульныя палажэнні. Вызначалася, што дзейнасць Палажэння распаўсюджвалася на вечных сельскіх чыншавікоў без розніцы саслоўя і веравызнання, якія знаходзіліся ў расійскім падданстве і пры гэтым валодалі па-за гарадамі і мястэчкамі зямельнымі ўчасткамі на праве спадчыннага, бестэрміновага карыстання і распараджэння, з абавязкам адбываць за гэта на карысць вотчынніка пэўныя грашовыя ці натуральныя павіннасці, памер якіх не падлягаў зменам па самавольным жаданні вотчынніка[4]. У пунктах 2–9 акрэсліваліся храналагічныя рамкі, у якіх прызнаваліся вечначыншавыя адносіны, больш дакладна вызначаліся асобы, якія маглі прэтэндаваць на прызнанне іх вечнымі

---

[1] Высочайше утвержденное, 15 июня 1887 г., мнение Государственного Совета ... С. 6.

[2] Высочайше утвержденное, 15 апреля 1891 г., мнение Государственного Совета // Сборник узаконений и правительственных распоряжений ... С. 7.

[3] РГИА в СПб. Государственный Совет. Департамент законов. Д. 38. С. 100–102. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 103.

[4] Положение о поземельном устройстве сельских вечных чиншевиков в губерниях западных и белорусских // Сборник узаконений и правительственных распоряжений ... С. 11.

чыншавікамі, і дакументы і вусныя сведчанні, якія маглі служыць доказам вечначыншавых адносін[1]. Бясспрэчна чыншавым валоданнем было прызнана толькі валоданне, якое пачалося яшчэ да спынення дзеяння Статута ВКЛ у заходніх губернях (21 чэрвеня 1840 г. і 9 студзеня 1831 г.) і было зацверджана пісьмовымі дамовамі. Калі такіх дамоў не было, існаванне вечначыншавых адносін павінна было быць даказана вуснымі або пісьмовымі сведчаннямі. Асобы, якія атрымалі ўчасткі на аснове вечначыншавага права пасля спынення дзеяння Статута ВКЛ і не валодалі пісьмовымі дакументамі, прызнаваліся вечнымі чыншавікамі толькі тады, калі іх участак знаходзіўся ў пасяленні чыншавікоў. На практыцы большасць чыншавікоў ніякіх дакументаў ніколі не мела, а некаторыя іх страцілі.

У другой главе «О прекращении вечночиншевого владения» у Палажэнні вызначаўся спосаб ліквідацыі чыншавых адносін. Было пастаноўлена, што на працягу трох гадоў з дня агалошання Палажэння памешчык і сельскі вечны чыншавік маюць права на аснове двухбаковага пагаднення добраахвотна ліквідаваць чыншавыя адносіны. У выпадку згоды памешчыка чыншавік павінен быў або выкупіць чыншавы ўчастак ва ўласнасць, або падпісаць кантракт на арэнду зямлі. Пасля гэтага добраахвотнае пагадненне паступала ў павятовую па чыншавых справах прысутнасць, якая зацвярджала пагадненне, калі было даказана, што ўчастак з’яўляецца сапраўды вечначыншавым.

Пасля сканчэння трохгадовага тэрміну для пошуку добраахвотнага пагаднення паміж памешчыкам і чыншавіком, калі такога пагаднення не было дасягнута, чыншавыя адносіны павінны былі быць ліквідаваны ў абавязковым парадку. Асоба, прызнаная вечным чыншавіком, мела права выкупіць чыншавы ўчастак ва ўласнасць. Выкупу падлягалі таксама ўсе чыншавыя павіннасці і плацяжы, вызначэнне памеру якіх устанаўлівалася ў асобных пунктах Палажэння.

Памеры выкупной сумы вызначаліся такім жа чынам, як і падчас сялянскай рэформы 1861 г. Яны мелі капіталізацыю з 6 % гадавога кошту ўсіх плацяжоў і павіннасцей, якія адносіліся да адпаведнага зямельнага ўчастка – грашовага чыншу пастаяннага і перыядычнага, натуральных плацяжоў, ляўдэміі, так званага «божага гроша», чыншавых павіннасцей, а таксама кошту самой зямлі, які вызначаўся асобна для розных мясцовасцей у адпаведнасці са складзеным уладамі табелем[2]. Таму сумы вы-

---

[1] Положение о поземельном устройстве сельских вечных чиншевиков в губерниях западных и белорусских ... С. 17–26.

[2] Там жа. С. 31–42.

купу маглі істотна адрозніввацца ў залежнасці ад ацэнкі зямлі ў табелю. Так, у Навагрудскім павеце Мінскай губерні дзесяціна зямлі ацэньвалася ў 32 руб. 50 кап., а ў Пінскім, Мазырскім і Рэчыцкім толькі ў 5 руб.

Зразумела, што большасць чыншавікоў не мела неабходнай сумы для выкупу ўчасткаў, таму царскі ўрад узяў на сябе абавязак выдаць памешчыкам пазыку наяўнымі грашыма з наступным спагнаннем іх з чыншавікоў цягам 49 гадоў. Сервітутныя землі заставаліся ў карыстанні чыншавікоў[1].

Абмежавальныя законы, уведзеныя расійскімі ўладамі ў беларуска-літоўскіх губернях пасля паўстання 1863 г., закранулі і адзін з пунктаў палажэння аб чыншавай рэформе. Так, у выпадку, калі чыншавікі нясвоечасова ўносілі выкупныя плацяжы за ўчастак, яго землі маглі быць прададзены з таргоў, удзельнічаць у якіх мелі права толькі былыя вольныя людзі другога разраду, стараверы, праваслаўныя арандатары і сельскія вечныя чыншавікі. Тут прасочваецца палітычная лінія на абмежаванне землеўладання мясцовых каталікоў і пашырэння зямельнай уласнасці праваслаўных і рускіх перасяленцаў.

У палажэнні аб рэформе для чыншавікоў, якія выкуплялі ўчасткі і належалі да мяшчанскага саслоўя, была прадугледжана абавязковая іх перапрыпіска ў сялянскае саслоўе. Гэтыя новыя сяляне павінны былі таксама прыпісацца і да валасцей, уліваючыся ў арганізацыю сялянскіх таварыстваў. Такімі чыншавікамі-мяшчанамі звычайна былі дробныя шляхціцы, якія не даказалі дваранства і не жадалі прыпісвацца да сельскіх таварыстваў. Такім чынам улады змушалі былых шляхціцаў да змены саслоўнай прыналежнасці і да інтэграцыі ў сялянскае асяроддзе, а ў рэшце рэшт гэта павінна было спрыяць страце дробнай шляхтай і сваёй этнакультурнай адметнасці.

Для рэалізацыі рэформы ў беларускіх губернях было ўтворана 30 павятовых па чыншавых справах прысутнасцей (34 былі створаны ва Украіне і 7 у Ковенскай губерні). У склад кожнай павятовай па чыншавых справах прысутнасці ўвайшлі: старшыня павятовага міравога з'езда, член судовага ведамства па прызначэнні міністра юстыцыі, прадстаўнік ад мясцовых памешчыкаў па запрашэнні губернатара і міравы пасярэднік. Другой інстанцыяй былі губернскія па сялянскіх справах прысутнасці, штат якіх быў павялічаны. Яны разглядалі скаргі на рашэнні павятовых чыншавых прысутнасцей. Праца гэтых устаноў

[1] Положение о поземельном устройстве сельских вечных чиншевиков в губерниях западных и белорусских ... С. 54–55. Пункт 25.

знаходзілася пад наглядам і кантролем міністра ўнутраных спраў, а бліжэйшае кіраўніцтва належала генерал-губернатару. Спрэчныя пытанні павінны былі вырашацца Урадавым Сенатам.

Згодна з законам памешчыкі на працягу года з дня абнародавання Палажэння павінны былі прадаставіць у павятовую па сялянскіх справах прысутнасць спісы сельскіх вечных чыншавікоў, якія пражывалі на іх землях. Павятовая чыншавая прысутнасць разглядала спісы і перасылала іх у мясцовае валасное праўленне, дзе яны вывешваліся ў бачным месцы. Валасное праўленне выклікала занесеных у спісы чыншавікоў і паведамляла ім аб неабходнасці дакументальна даказаць свае вечначыншавыя правы на зямлю і выкупіць яе ці заключыць з памешчыкам дагавор на арэнду зямлі. Адначасова чыншавіка інфармавалі аб тым, што ў выпадку невыканання згаданых патрабаванняў праз пяць гадоў ён будзе выселены.

Тыя асобы, якія не былі ўнесены ў спісы, на працягу шасці месяцаў з дня іх абнародавання маглі падаць прашэнне, далучыўшы неабходныя дакументы, і прасіць уключыць у спісы. Пропуск тэрміну пазбаўляў чыншавіка права выкупу зямлі ў памешчыка.

Памешчыкі, на чыіх землях пражывалі чыншавікі, былі зацікаўлены ў змяншэнні колькасці асоб, якія мелі права на выкуп чыншавых надзелаў, таму вельмі часта ў валасныя праўленні яны падавалі спісы на няпоўную колькасць вечных чыншавікоў. На практыцы колькасць зваротаў саміх чыншавікоў была значна большай, чым колькасць чыншавікоў у спісах, якія былі пададзены памешчыкамі. У табл. 2 прыведзена статыстыка па Мінскай губерні на 1 верасня 1888 г.[1] Падобная сітуацыя была і ў іншых беларускіх і ўкраінскіх губернях.

У пачатку 1890-х гг. разгляд чыншавых спраў паскорыўся і павялічылася колькасць прынятых рашэнняў. Таксама, нягледзячы на заканчэнне афіцыйнага тэрміну падачы заяў, чыншавыя камісіі працягвалі прымаць новыя і іх агульная колькасць павольна, але працягвала расці. У пачатку 1890-х гг. некалькі павялічылася колькасць рашэнняў, вынесеных на карысць чыншавікоў.

Да 1891 г. памешчыкі Мінскай губерні прадставілі спісы на 1974 чыншавыя двары, а самі чыншавікі падалі 13 117 прашэнняў з заявамі аб сваіх вечначыншавых правах[2].

---

[1] Ведомость о ходе дел по устройству сельских вечных чиншевиков по правилам 9 июня 1886 г. // НГАБ. Ф. 242. Воп. 4. Спр. 37. Арк. 4–27.

[2] *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : автореф. ... С. 14.

*Табліца 2*

| Павет | Колькасць чыншавікоў, заяўленая памешчыкамі | Колькасць чыншавікоў, якія асабіста падалі заявы | Колькасць асоб, па чыіх заявах былі прыняты рашэнні | Колькасць асоб, прызнаных чыншавікамі | Колькасць асоб, не прызнаных чыншавікамі |
|---|---|---|---|---|---|
| Барысаўскі | 23 | 1087 | 97 | 2 | 95 |
| Слуцкі | 694 | 3600 | 306 | – | 306 |
| Пінскі | 111 | 128 | 12 | 9 | 3 |
| Бабруйскі | 180 | 379 | 107 | 1 | 106 |
| Рэчыцкі | 2 | 462 | 8 | – | 8 |
| Навагрудскі | 422 | 2168 | 5 | 2 | 3 |
| Мінскі | 460 | 2004 | 165 | – | 165 |
| Ігуменскі | 3 | 727 | 15 | – | 15 |
| Мазырскі | няма звестак | няма звестак | няма звестак | няма звестак | няма звестак |
| Па губерні | 1895 | 10 555 | 715 | 14 | 701 |

Паводле аналізу даных па Беларусі, 65 % (каля 130 тыс.) чыншавікоў было адмоўлена ў прызнанні за імі вечначыншавых правоў на зямлю, а прызнаных чыншавікамі з правам выкупу было каля 70 тыс. чалавек. Гэтыя звесткі тычацца ў асноўным толькі Мінскай, Гродзенскай і Віленскай губерняў. Працэнт чыншавікоў, пазбаўленых правоў на выкуп зямлі ў Віцебскай і Магілёўскай губернях, быў вышэйшы, паколькі чыншавікоў гэтых губерняў павятовыя па чыншавых справах прысутнасці амаль пагалоўна прызнавалі арандатарамі[1].

Абураныя непрызнаннем сваіх правоў, чыншавікі пачыналі масавыя пратэсты і бунты. Асабліва востра яны праходзілі ва Украіне[2], якая не спазнала значных рэпрэсій пасля паўстання 1863 г., як беларуска-літоўскія губерні, аднак выступленні чыншавікоў, якія лічылі сябе пакрыўджанымі падчас правядзення рэформы, адбываліся і ў беларускіх

[1] *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 140–142.
[2] *Beauvois D.* Trójkąt ukraiński ... S. 629–647.

губернях. Мінскі губернатар у справаздачы аб стане губерні за 1890 г. пісаў: «Разбор этих дел (чиншевых. – *В. М.*) выявил, что из 8087 лиц, ходатайствовавших о признании за ними прав вечных сельских чиншевиков, только 559 семей утверждены в этих правах, а остальные признаны простыми арендаторами. Таких же результатов можно ожидать и от разбора еще неразрешенных пока 6777 заявлений. Не решаясь ныне высказаться окончательно об участи этих семейств, я имею, однако, основание опасаться, что если помещики, в случае несогласия на дальнейшее оставление в аренде состоящих с давних времен в пользовании этих лиц участков земли, пожелают при посредстве суда выселить с этих мест, то тысячи семейств окажутся в безвыходном положении, вследствии чего могут произойти нежелательные осложнения и для восстановления порядка и тишины придется обратиться к содействию войск»[1].

Апасенні губернатара мелі пад сабой рэальныя падставы. Сітуацыя ў беларускіх губернях накалялася. Ужо у 1886 г. выбухнула ўзброенае паўстанне чыншавікоў вёскі Уды Дынабургскага павета Віцебскай губерні, выкліканае канфліктам з памешчыкам па зямельным пытанні. Адбылася сутычка, падчас якой чыншавікі, як вынікае са справы, «бросились на урядников, стараясь их окружить, нанося им в то же время удары кольями и камнями, и, по заявлению исправников и урядников, со стороны леса были сделаны выстрелы из огнестрельного оружия... урядники в свою очередь открыли огонь из револьверов». У выніку выступленне было падаўлена, а чыншавікі асуджаны. У 1887 г. адбылося паўстанне чыншавікоў вёскі Чэмелы Слонімскага павета Гродзенскай губерні, у 1880–90-я гг. – выступленні чыншавікоў «дворян, мещан и крестьян», як адзначана ў дакуменце, засценкаў Вужы і Клешэва Мінскага павета супраць памешчыцы княгіні Гагенлоэ. Прычынай выступлення і сутыкненняў з паліцыяй было тое, што адміністрацыя княгіні лічыла чыншавікоў арандатарамі, пазбаўляючы іх права выкупу зямлі, а апошнія думалі, што трымалі зямлю на аснове вечначыншавага права. У 1890 г. адбыліся выступленні ў вёсцы Навасёлкі Рэчыцкага павета Мінскай губерні, куды былі выкліканы войскі ў складзе дзвюх рот Серпухаўскага палка. У 1893 г. адбылося ўзброенае выступленне чыншавікоў вёскі Куракі Полацкага павета Віцебскай губерні, у 1895 г. – сутычкі з паліцыяй у засценку Прылук Навагрудскага павета Мінскай губерні, прычынай чаго стала высяленне паліцыяй чыншавіка

[1] РГИА в СПб. МВД. Всеподданнейший отчет о состоянии Минской губернии за 1890 г. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 152.

Цэхановіча з сям'ёй[1]. У 1897 г. прымусовае высяленне чыншавікоў з фальварка Рыжачнікі Віцебскага павета стала прычынай бою 500 чыншавікоў з паліцыяй. 100 чалавек было арыштавана. Беспарадкі перакінуліся і ў Веліжскі павет. Як адзначалася ў справаздачы губернатара, «крестьяне нескольких прилегающих к имению графов Мордвиновых "Селезни" деревень, подстрекаемые двусмысленным разъяснением им закона одним из адвокатов, отказались от заключения вновь истекших в текущем году (1897. – *В. М.*) контрактов на находящиеся в их пользовании на арендном праве обрезные земли имения, категорически заявив, что в силу долголетнего пользования эти земли принадлежат им...»[2]. Вялікая колькасць хваляванняў і паўстанняў у вёсках Беларусі ў 80-я гг. XIX ст., што было адзначана Міністэрствам унутраных спраў, адбылася якраз у сувязі з чыншавай рэформай і ліквідацыяй чыншавага землеўладання[3]. У справаздачы віцебскага губернатара за 1897 г. цару таксама адзначалася, што прычынай хваляванняў часта выступаюць сервітутныя і чыншавыя правы[4].

Адстойваць свае правы чыншавікі спрабавалі і праз масавую падачу скаргаў. Так, чыншавае аддзяленне Мінскай губернскай па сялянскіх справах прысутнасці ў 1887–1901 гг. было проста завалена скаргамі ад дваран, сялян і мяшчан чыншавікоў на непрызнанне за імі чыншавых правоў на ўчасткі[5]. У архіўных фондах чыншавага аддзялення прысутнасці такіх скаргаў захоўваецца больш за тысячу, прычым кожная скарга падавалася звычайна адразу ад некалькіх сем'яў, а часта і ад цэлай ваколіцы, засценка ці вёскі. Часам адна справа ўтрымлівае нават скаргі дзясяткаў асоб з розных паветаў. Намаганні адстаяць свае

---

[1] *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 156.

[2] Отчет витебского губернатора // Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. С. 818.

[3] РГИА в СПб. Архив внутренней политики, культуры и быта. Земский отдел. 1-е делопроизводство. 1889. Д. 175. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 156.

[4] Отчет витебского губернатора.

[5] Дело по жалобе дворян Тараховичей в имении Хвостовичи помещика Констадиуса. 1894–95 гг. // НГАБ. Ф. 242. Воп. 4. Спр. 94 ; Дело по жалобам крестьян, мещан и дворян Бобруйского, Новогрудского, Слуцкого и др. уездов на непризнание за ними чиншевых прав на землю. 1890 г. // НГАБ. Ф. 242. Воп. 4. Спр. 46 ; Дело по жалобе поверенного помещика Голиневича дворянина Шишко на признание за дворянином Абрамовичем чиншевых прав на землю в им. Замошье // НГАБ. Ф. 242. Воп. 4. Спр. 61.

правы ў абсалютнай большасці чыншавікоў былі марнымі. Толькі адна справа ўтрымлівае копію ўказа аб прызнанні чыншавых правоў[1].

Нягледзячы на амаль абсалютную марнасць намаганняў, чыншавікі не пераставалі дамагацца сваіх правоў, перагляду спраў і ў пачатку XX ст. З утварэннем Дзяржаўнай Думы яны пачалі звяртацца і туды. Так, у 1907 г. у камісію па разборы карэспандэнцыі Дзяржаўнай Думы звярнулася чыншавая шляхта засценка Сейлавічы Слуцкага павета Мінскай губерні. Шляхта пісала, што яна жыла на зямлі Радзівілаў са старадаўніх часоў, на што ў яе і зараз маюцца прывілеі, але Радзівіл прадставіў іншыя прывілеі і зараз высяляе іх з земляў. Спрэчка з Радзівіламі цягнулася з 1873 па 1895 г., у выніку было выселена 90 двароў чыншавай шляхты і 80 двароў сялян. Дзяржаўная Дума на прашэнне дала такі адказ, як і папярэдні[2].

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што падчас разгляду вечначыншавых правоў на зямлю часта здараліся выпадкі, калі прызнанне такога права было сапраўды сумнеўным або прызнання сваіх правоў дабіваліся людзі, якія былі службовай шляхтай і атрымлівалі надзелы за службу не на аснове вечначыншавага дагавора. Прыкладаў такіх спраў ёсць мноства нават у спецыяльна выдадзеных зборніках па чыншавай рэформе[3]. Аднак колькасць чыншавікоў і колькасць асоб, за якімі былі прызнаны вечначыншавыя правы, несуразмерна адрозніваюцца, што наводзіць на думку (а гэта пацвярджаецца і фактамі), што, безумоўна, былі значныя маніпуляцыі з боку памешчыкаў, каб перашкодзіць чыншавікам даказваць свае правы. Многія памешчыкі яшчэ перад рэформай змаглі дабіцца ад чыншавікоў павелічэння чыншу, і, такім чынам, чыншавік не мог даказаць свае вечначыншавыя правы, бо існаваў факт змены памеру чыншу і такія адносіны не разглядаліся ўжо як вечначыншавыя.

Канчатковым заключэннем, якое даводзіцца зрабіць, з'яўляецца тое, што памешчыкамі і чыншавымі прысутнасцямі ў 60–90-я гг. XIX ст. быў нанесены балючы ўдар па чыншавіках, які закранаў іх правы на чыншавыя надзелы. Нанясенне гэтага ўдару было ініцыявана памешчыкамі, якія адстойвалі свае карпаратыўныя інтарэсы ва ўмовах нараста-

[1] Указ Сената о признании чиншевых прав на землю с расписками дворянина Бербаша и поверенного наследников кн. Гогенлоэ // НГАБ. Ф. 242. Воп. 4. Спр. 1165.

[2] РГИА в СПб. Государственная дума, комиссия по разбору корреспонденции. Д. 707. 1907. С. 66–66об. Цыт. па: *Преображенская Л. Н.* Чиншевая реформа в Белоруссии : дис. ... С. 156.

[3] Сборник узаконений и правительственных распоряжений ...

ючага крызісу феадальных устояў і памешчыцкай гаспадаркі, росту коштаў на зямлю. Памешчыкі імкнуліся пазбыцца ад чыншавай шляхты, пакінуўшы сабе яе надзелы, або павялічыць чынш шляхам пераводу чыншавікоў на арэнднае трыманне.

Далейшым наступствам было тое, што працэс абеззямельвання чыншавай шляхты, праявы якога пачалі прасочвацца яшчэ ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст., а ў поўнай меры ў 1860–90-я гг., несумненна, вельмі значна спрычыніўся таксама да збяднення і маргіналізацыі дробнай чыншавай шляхты. Далейшым вынікам гэтага для многіх сем'яў станавілася страта прывілеяванага прававога статусу праз недахоп сродкаў для доказу дваранскага паходжання. У гэтым сэнсе пра падзеі 1860–90-х гг., а нават і ранейшага перыяду, калі толькі ўзнікла праблема абеззямельвання чыншавай і службовай шляхты, можна казаць як пра так званы «панскі разбор шляхты».

Рэалізацыя чыншавай рэформы 1886 г. стала фінальным актам гэтай трагедыі. Расійскія ўлады зацягнулі вырашэнне чыншавага пытання, адважыўшыся на рэформу толькі тады, калі сітуацыя пачала накаляцца і пагражаць выліцца ў масавыя выступленні. На той момант ужо значная частка чыншавікоў была абеззямелена або прымусам ці падманам пераведзена на арэнднае трыманне сваіх надзелаў. Сам працэс рэалізацыі рэформы ўлады таксама расцягнулі ў часе, каб не дапусціць адначасовых выступленняў чыншавікоў. Рэалізацыя рэформы была праведзена ў большасці выпадкаў на карысць памешчыкаў. Яны мелі даволі шырокія магчымасці да маніпуляцый, што пакідала напружаныя адносіны паміж памешчыкамі і чыншавай шляхтай, колішняй іх актыўнай саюзніцай у паўстаннях. Гэтым самым урад вырашаў і стратэгічную мэту – сутыкнення інтарэсаў сацыяльных груп мясцовага насельніцтва з мэтай недапушчэння іх аб'яднання ў адзінай антыўрадавай стыхіі. Сведчаннем гэтаму з'яўляецца і тое, што ўлады пакінулі за даказаўшымі свае правы чыншавікамі некаторыя прывілеі, такія як сервітуты – права карыстацца выганамі і некаторымі іншымі землямі разам з памешчыкамі, што было пастаяннай крыніцай спрэчак паміж імі.

Трагічныя падзеі эпохі абеззямельвання чыншавікоў знайшлі сваё адлюстраванне ў відавочна аўтабіяграфічных творах «Раскіданае гняздо» і «За што?» класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы, які якраз паходзіў з сям'і абеззямеленага шляхціца, вымушанага «перасесці на арэнду».

Вывучэнне праблемы абеззямельвання чыншавікоў і чыншавай рэформы ў Беларусі звяртае на сябе ўвагу яшчэ адной акалічнасцю. Перыяд другой паловы XIX ст. відавочна стаў часам значнага аслаблення, калі не сказаць болей, разарвання ментальных і грамадскіх сувязей

паміж групамі ўладальніцкай і дробнай шляхты. Шляхецкая роўнасць і братэрства ва ўмовах капіталізацыі эканамічных працэсаў саступілі месца асабістым гаспадарчым інтарэсам, што прывяло да ўзрастання антаганізму паміж гэтымі групамі і занядбання пачуцця шляхецкага братэрства і роўнасці. Негатыўнае стаўленне памешчыкаў да чыншавай шляхты праяўлялася ўсё часцей і траплялa ў пісьмовыя творы. Некаторыя сталі называць дробную шляхту бескарысным і нават шкодным элементам. А. Рыпінскі пісаў: «Атрымаўшы (пытанне: ад каго?) пергамінавы прывілей бяздзейнасці і бязладдзя: Pan Szlachcic na zagrodzie // Chce być rówien Wojewodzie?!»[1].

Праўда, будзем справядлівымі, некаторыя сучаснікі выказвалі і спачуванні дробнай чыншавай шляхце з нагоды яе гаротнага лёсу і часткова ўскладалі за гэта віну на саміх памешчыкаў: «Пакінутыя на здабычу самавольства маскоўскіх катаў, што ў іх апошні, кроўю зароблены грош адбіралі, яны хіліліся пад крылы пана. Але той адштурхнуў сваіх братоў, не падаў рукі паратунку тым, хто ўтапаў, забыўся на іх, дазволіў ім упасці, а нават, о сорам! зрабіў з іх прыладу сваіх даходаў, ускладаючы на іх павіннасці і даніны, якія амаль былі роўныя памерам паншчыны. Пакінуты, без апекі, ва ўціску і галечы, аднадворац, якога бацькі са зброяй на Волі (месца пад Варшавай, дзе праводзіліся соймы. – *В. М.*) збіраліся, які не аднойчы быў гонарам сваёй айчыны, а заўсёды і шчытом і надзейным плячом, сёння вядзе ў ёй жыццё тулячае, нібы быдла, распіўся, глупейшы і бяднейшы стаў за селяніна, не чуючы нават братэрскага слова, загубіў ужо і сваю традыцыю»[2].

[1] *Рыпінскі А.* Беларусь // ARCHE. 2009. № 5. С. 267.

[2] *Beauvois D.* Trójkąt ukraiński ... S. 590. Цыт. па: *Czekoński L.* (*Gozdawa*). Ruś przed i po powstaniu zbrojnym 1863 r. Bendlikon, 1865. S. 26–27.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай на беларускіх землях, уключаных у склад Расійскай імперыі, знаходзілася шматкалькасная (да 5–7 % насельніцтва), стракатая з пункту гледжання сацыяльнага становішча шляхта. Больш за 90 % прадстаўнікоў гэтага прывілеяванага саслоўя належала да дробнай чыншавай, ваколічнай і службовай шляхты. Перад новымі ўладамі паўстала пытанне яе інтэграцыі ў саслоўныя структуры імперыі. Адным з напрамкаў палітыкі быў разбор шляхты – выключэнне яе са складу прывілеяванага саслоўя шляхам верыфікацыі, праверкі дакументаў на права прыналежнасці да яго.

На землях, якія адышлі ў склад імперыі па першым падзеле Рэчы Паспалітай, большая частка шляхты, што не валодала населенымі маёнткамі, па выніках дадатковай рэвізіі 1772 г. была ўключана ў аклад і абавязана сплочваць падаткі. Для вяртання прывілеяванага статусу шляхціцы маглі падаваць у земскія суды доказы аб шляхецкім паходжанні. Некалькі тысяч чалавек, якія падалі такія дакументы, у 1775 г. па загадзе генерал-губернатара З. Чарнышова былі вызвалены з падушнага акладу.

Большая ж частка заставалася ў акладзе, але таксама не адмаўлялася ад спроб даказаць дваранства праз земскія суды, а пасля ўтварэння дваранскіх дэпутацкіх сходаў – праз гэтыя ўстановы. З моманту іх утварэння па Законе 1785 г. дваранскія сходы сталі разглядаць дакументы і выдаваць пасведчанні на дваранства. Многія шляхціцы, якія іх атрымлівалі, заставаліся аднračасова

ў акладзе, а дваранскія сходы не мелі паўнамоцтваў іх адтуль выключыць. Гэта было сферай адказнасці Сената і казённых палат. Такі стан рэчаў і няўзгодненасць у дзейнасці дзяржаўных інстытутаў справакавалі ўзнікненне спецыфічнага прававога становішча шляхты на землях першага падзелу, а таксама скаргаў і разбіральніцтваў, якія даходзілі нават да Сената.

Шляхта аказалася падзеленай на некалькі груп па ўзроўні легітымнасці: частка была зацверждана земскімі судамі і выключана з акладу, частка зацверджана дваранскімі сходамі, якія перанялі функцыю верыфікацыі ад земскіх судоў, але з акладу выключана не была, частка змагла дабіцца выключэння з яго пазней, а пэўная колькасць шляхты, асабліва службовай, увогуле пазбягала рэвізій і была неэвідэнтнай уладам. Акрамя таго, шляхта пастаянна несла свае дакументы на разгляд у дваранскія сходы, дзе ўтварылася чарга. Частка дакументаў пасля разгляду накіроўвалася ў Сенат для выключэння шляхціцаў з акладу, але і там утварылася чарга на разгляд. У найлепшай сітуацыі апынулася тая шляхта, якая пазбегла ўліку па рэвізіі і даказала сваё паходжанне праз дваранскі сход. У такім выпадку не трэба было праходзіць доўгую, з разглядам у Сенаце працэдуру выключэння з акладу. Частка шляхты, відавочна незаконным шляхам, без рашэння Сената, была выключана з акладу самімі казённымі палатамі, што дазваляе меркаваць пра злоўжыванні з боку мясцовых чыноўнікаў.

У статусе дробнай шляхты на землях першага падзелу адзначаўся пэўны хаос, што спрыяла масавай фальсіфікацыі дакументаў і хабарніцтву. Дакладна вызначыць працэнтныя суадносіны катэгорый шляхты па ўзроўні легітымнасці, якія ўтварыліся, немагчыма, паколькі адсутнічаюць звесткі за розныя гады, а таксама з-за адносна дынамічнай змены ў колькасным складзе гэтых катэгорый па прычыне няспыннай падачы шляхтай дакументаў на разгляд.

На землях Беларусі, якія адышлі да Расійскай імперыі пасля другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай, сітуацыя была іншай. Улады не ўключылі ўсю шляхту ў аклад, хоць частка яе туды трапіла. Замест гэтага падчас рэвізіі 1795 г. складаліся спецыяльныя шляхецкія сказкі, што выявіла больш за 218 тыс. асоб мужчынскага полу шляхты на ўсіх землях, якія адышлі да Расіі пасля другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай. Такая шляхта заставалася асабіста вольнай, плаціла толькі земскія падаткі, але стаць паўнапраўным дваранствам магла толькі пасля разгляду яе доказаў на дваранства ў дваранскіх дэпутацкіх сходах. На практыцы ж здараліся выпадкі, калі дваранскія сходы выдавалі дваранскія граматы асобам, якія не былі запісаны ў шляхецкія сказкі і знаходзіліся ў падушным акладзе. Значныя памеры набылі махляр-

ства і хабарніцтва. Па звестках улад, карыстаючыся няпэўнасцю прававога статусу шляхты, у дваранства пачалі прыпісвацца людзі, якія раней не належалі да прывілеяванага саслоўя або паходзілі з паўпрывілеяваных катэгорый вольных людзей, панцырных і путных баяр, зямян.

З 1799 г. на нявызначанасць прававога і фіскальнага статусу шляхты была звернута пільная ўвага. Імперскі казначэй барон А. І. Васільеў дзеля атрымання дадатковых сродкаў у казну выказаў ідэю абкласці ўсю дробную шляхту дзяржаўнымі падаткамі. Пачалася распрацоўка праектаў. Акрамя прапаноў Васільева, найбольшы ўплыў на фарміраванне палітыкі ў адносінах да шляхты аказаў праект М. Катлубіцкага. Аднак далёка не ўсе вышэйшыя саноўнікі пагаджаліся з меркаваннямі гэтых уплывовых асоб. У Сенаце і вышэйшых колах не было адназначнай пазіцыі адносна пытанняў правамернасці абкладання шляхты падаткамі і верыфікацыі яе прававога статусу.

У выніку абмеркаванняў у Сенаце ў 1800 г. было вырашана даць шляхце два гады на доказы паходжання, пасля чаго перавесці тых, хто не дакажа сваёй высакароднасці, у дзяржаўны аклад. Аднак справа з падачай шляхтай дакументаў і іх разглядам вельмі зацягнулася ў дваранскіх сходах. Шляхта, карыстаючыся рознымі, вельмі часта надуманымі прычынамі, масава не падавала дакументы на разгляд, а дваранскія сходы не спраўляліся нават з разглядам пададзеных. Прычына была ў тым, што ў большасці дробнай шляхты дакументаў не было. Яшчэ ў большым маштабе выявіла сябе з'ява іх фальсіфікацыі. У выніку ўлады тры разы – у 1802, 1804 і 1806 гг. – пралангавалі тэрмін падачы дакументаў, а ў 1808 г. адклалі яго на нявызначаны час. Гэта адтэрміноўка была звязана са складанай для расійскай манархіі знешнепалітычнай абстаноўкай, выкліканай Напалеонаўскімі войнамі і стварэннем Варшаўскага герцагства, апасеннем яе яшчэ большага ўскладнення праз справакаваныя палітыкай разбору шляхецкія бунты.

Да рашучых мер па разборы шляхты, у першую чаргу чыншавай, улады прыступілі толькі ў 1816 г., калі стабілізавалася знешнепалітычная абстаноўка пасля Венскага кангрэса. Быў выдадзены закон, у адпаведнасці з якім пры правядзенні чарговай рэвізіі планавалася спачатку «адсеяць» тых шляхціцаў, хто па папярэдніх рэвізіях не быў запісаны ў шляхецкія сказкі. Адначасова дваранскім дэпутацкім сходам загадвалася разглядаць дакументы ўсёй шляхты і складаць спісы розных яе катэгорый.

Хутка правесці разбор не атрымалася і на гэты раз. Дваранскія сходы па-ранейшаму не былі ў стане аператыўна дабіцца ад шляхты падачы дакументаў і хутка іх разгледзець. З многіх паветаў гадамі зусім не падавалася ніякіх звестак аб разглядзе дакументаў шляхты. Асабліва

складанай была сітуацыя ў беларускіх губернях. Толькі к пачатку 1820-х гг. па іх былі ў асноўным складзены шляхецкія сказкі і шляхецкія спісы. Частку шляхты, якая не мела доказаў, ухілялася раней ад усялякага ўліку або па папярэдніх рэвізіях лічылася ў падушным акладзе, запісвалі ў падушны аклад, а тых, хто меў дваранскія дыпломы і аднначасова быў у падушным акладзе, пазбаўлялі дыпломаў і абавязвалі прайсці легітымацыю ўжо праз расійскую Герольдыю пры Сенаце. Часова заставалася без акладу тая шляхта, якая падавала дакументы на разгляд у дваранскія сходы, але не атрымлівала працяглы час вынікаў. Планавалася, што пытанне аб такой шляхце павінна быць цэнтралізавана вырашаным уладамі.

Разгляд спраў у дваранскіх сходах адбываўся ў адносна лагоднай форме, вельмі марудна і са шматлікімі злоўжываннямі. Да 1828 г. было разгледжана не больш паловы паступіўшых спраў. Акрамя таго, пэўная колькасць шляхты па-ранейшаму пазбягала ўліку па рэвізіях і заставалася неэвідэнтнай уладам. Вынікі гэтага этапу разбору былі даволі сціплымі. У розных губернях мясцовыя ўлады маглі прымаць асобыя распараджэнні адносна шляхты, прыналежнасць да дваранства якой выклікала сумненні. Звычайна гэта была шляхта, якая раней не трапляла на ўлік і не мела ніякіх дакументаў для падачы на разгляд у дваранскія сходы. Да гэтай групы адносіліся таксама шляхціцы са шляхецкімі дыпломамі іншых губерняў, асобы зусім без дакументаў і без зямельнай уласнасці. Апошнія пасля разбіральніцтва маглі быць адразу запісаны ў аклад. Больш за тое, на месцах губернатары пачалі ажыццяўляць збор падымнага акладу з усёй ваколічнай шляхты.

Факт таго, што вырашэнне прыналежнасці да дваранства той шляхты, якая не была ў акладзе, заставалася прэрагатывай дваранскіх сходаў, падтрымліваў існаванне спрыяльнай глебы для злоўжыванняў і махінацый. На месцах рэалізацыя ўказа 1816 г. праходзіла са значным спазненнем і ва ўмовах бюракратычнай валакіты, якая межавала з сабатажам мясцовымі ўладамі і дваранскімі сходамі мерапрыемстваў па разборы шляхты.

Ход разбору шляхты на аснове Закона 1816 г. не задавальняў улады. У вышэйшых колах з 1823 г. пачалі абмяркоўваць комплексныя меры па разборы шляхты, абкладанні яе падаткамі, прыцягненні да вайсковай службы і частковым яе перасяленні. Пачатак абмеркавання быў пакладзены беларускім генерал-губернатарам М. Хаванскім, які на просьбу Аляксандра І распрацаваў праект. Доўгае яго абмеркаванне ў міністэрствах унутраных спраў, юстыцыі, фінансаў не скончылася да смерці імператара Аляксандра І у 1825 г. і працягнулася пры Мікалаю І. Паўстала некалькі дадатковых праектаў. Увесь працэс іх абмеркаван-

ня адлюстроўваў валакіту і супярэчнасці паміж міністэрствамі адносна пытанняў змены прававога статусу дробнай шляхты.

У 1829 г. была ўтворана спецыяльная камісія па распрацоўцы канчатковага праекта і вырашэнні лёсу той шляхты, якая не была запісана ў дзяржаўны падушны аклад, не давала рэкрута і справы якой заставаліся на разглядзе ў дваранскіх сходах. Праект быў гатовы, але выбух паўстання 1830–1831 гг. спыніў яго прыняцце. Мікалай I стварыў Камітэт заходніх губерняў і абавязаў яго выпрацаваць і прыняць канчатковы праект аб разборы шляхты. Вынікам працы Камітэта стаў Закон 19 кастрычніка 1831 г. аб разборы шляхты ў заходніх губернях імперыі.

З выдання ўказа ад 19 кастрычніка 1831 г. пачынаецца якасна новы этап разбору шляхты. Улады падзялілі ўсю шляхту ў адпаведнасці з яе маёмасным становішчам і ўзроўнем легітымнасці на тры групы. Шляхта, якая ніколі не падавала дакументы на разгляд, павінна была на працягу года або прыпісацца ў спецыяльна ўтвораныя падаткаабкладаныя катэгорыі аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў, або падаць дакументы на разгляд у дваранскія сходы. Ільготы даваліся толькі ўладальнікам маёнткаў і чыноўнікам. Прававы статус аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў быў блізкі да сялянства і мяшчанства і адрозніваўся ў асноўным толькі падымнай формай сплочвання падаткаў і зменшанай да 15 гадоў рэкруцкай павіннасцю.

У 1830–50-я гг. рабіліся захады па прыцягненні шляхты, якая не мела зацверджаных дваранскіх дакументаў і маёнткаў, да добраахвотнай і прымусовай вайсковай службы. Каб змяшаць такую шляхту з іншымі катэгорыямі, ёй было дазволена прыпісвацца не толькі ў аднадворцы і грамадзяне заходніх губерняў, але і ў іншыя падаткаабкладаныя катэгорыі з вызваленнем ад платы за прыпіску. З мэтай абмежавання самавольных адлучак аднадворцаў, якія масава разбягаліся, уводзіўся кантроль за іх перамяшчэннем. Наборы рэкрутаў з аднадворцаў ажыццяўляліся часцей, чым з іншых катэгорый насельніцтва, што стала прычынай абязлюдзення многіх вакаліц. Праводзіліся мерапрыемствы па паступовым збліжэнні, а пасля і зліцці аднадворцаў з сялянствам, што было фармальна завершана ў 1868 г.

Ажыццяўлялася палітыка па прымусовым і добраахвотным перасяленні дробнай шляхты ва ўнутраныя губерні імперыі і на Каўказ. Вынікам стала перасяленне па меншай меры некалькіх тысяч шляхціцаў з Беларусі ў аддаленыя губерні імперыі. Аднак перасяленчая палітыка не была рэалізавана ў планаваных памерах па прычыне высокіх коштаў яе правядзення і апасення пераносу антыўрадавых настрояў на іншыя губерні. У час і пасля паўстання 1863 г. ажыццяўляліся рэпрэсіўныя мерапрыемствы ў адносінах да дробнай шляхты. Як мінімум 10 шляхецкіх

ваколіц і вёсак за садзейнічанне паўстанцам былі прымусова перасялены ў аддаленыя расійскія губерні, а іх землі аддадзены пад каланізацыю старaверам. З ваколічнай шляхты падчас і пасля паўстання спаганяліся таксама паборы і кантрыбуцыі.

Вынікі «дэкласацыі» дробнай шляхты ў 30-я – пачатку 60-х гг. XIX ст. таксама нельга назваць адназначна ўдалымі для ўлад. Пастаўленыя задачы поўнасцю дасягнуты не былі. Каля траціны дробнай шляхты (70–80 тыс. чалавек у 1860-я гг.) здолела зацвердзіцца ў дваранстве. У катэгорыю аднадворцаў і грамадзян была пераведзена толькі частка дробнай шляхты, сярод якой большасць складала дробная праваслаўная шляхта. Каля 60 тыс. чалавек так званай «легітымізуючайся» шляхты, якая падала дакументы ў дваранскі сход і чакала разгляду спраў або зацвярджэння ў Сенаце, працяглы час карысталіся асноўнымі дваранскімі прывілеямі і была «дэкласавана» толькі ў 1865 г.

З 1864 г. пачаўся новы перыяд у палітыцы ўлад, які характарызаваўся правядзеннем некалькіх ключавых мерапрыемстваў, што павінны былі завяршыць працэс разбору шляхты. У 1864 г. быў спынены разгляд спраў легітымізуючайся шляхты, а ў 1865 г. яе канчаткова выключылі са складу дваранства. У 1868 г. былі ліквідаваны катэгорыі аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў і яны канчаткова зліваліся з сялянствам і мяшчанствам, хоць працэс прыпіскі зацягваўся. Гэты перыяд характарызуецца таксама ўвядзеннем абмежавальнага заканадаўства, што закранала і дробную шляхту, асабліва каталіцкага веравызнання. Абмежаванні тычыліся магчымасці атрымання шляхтай адукацыі, паступлення на дзяржслужбу, набыцця зямлі, атрымання банкаўскіх пазык, выкарыстання польскай мовы. Улады па-ранейшаму былі зацікаўлены ў перасяленні дробнай шляхты, асабліва каталіцкага веравызнання, ва ўнутраныя губерні імперыі, праводзіліся адпаведныя мерапрыемствы.

Нягледзячы на захады па пераводзе дробнай шляхты, аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў у склад падаткаабкладаных катэгорый, тысячы асоб аж да пачатку XX ст. працягвалі змагацца за свой дваранскі статус. Масавай з'явай сталі сузалічэнні да зацверджаных у дваранстве родаў з аднолькавым прозвішчам. Адной з галоўных прычын, якая змушала былую шляхту праходзіць праз гэту вельмі дарагую працэдуру, было імкненне пазбегнуць рэкруцкай службы ў войску. Асноўная колькасць сузалічэнняў адносіцца да перыяду перад 1874 г., пасля якога яна была адменена. Па-ранейшаму мелі месца масавыя фальсіфікацыі дакументаў на доказ сваяцтва.

Праверка дакументаў аб дваранскім паходжанні ўжо з канца XVIII ст. стала прычынай шырокага распаўсюджання іх падробкі, а таксама

злоўжыванняў у дваранскіх сходах. Гэта змушала ўлады неаднаразова ствараць спецыяльныя мясцовыя і цэнтральныя камісіі для рэвізіі іх дзейнасці і прынятых імі рашэнняў. Не давяраючы дваранскім сходам, улады сталі патрабаваць высылаць на канчатковую праверку іх рашэнні ў Дэпартамент герольдыі. Наплыў дакументаў фактычна паралізаваў яе працу, што рабіла немагчымым хуткі разбор шляхты, а гэта, у сваю чаргу, стала прычынай існавання да 1865 г. катэгорыі легітымізуючайся шляхты, прававое становішча якой не было канчаткова вызначана і якая дзесяцігоддзямі знаходзілася ў стане доказу свайго дваранскага паходжання, працягвала карыстацца асноўнымі дваранскімі прывілеямі. Нават у канцы 50-х гг. XIX ст. каля 2/3 дваранства беларускіх губерняў, без уліку аднадворцаў і грамадзян, паранейшаму належалі да легітымізуючайся шляхты.

Улады не адважыліся адразу пазбавіць усю дробную шляхту дваранскіх прывілеяў, бо многія мелі неабходныя дакументы, але не маглі своечасова іх падаць. Акрамя таго, з дробнай шляхты набіралася асноўная маса мясцовых чыноўнікаў, а пазбаўленне яе дваранскіх прывілеяў значна ўскладніла б фарміраванне мясцовага апарату кіравання. Частка шляхты, у асноўным неаселай і службовай, увогуле пазбягала ўліку, дзесяцігоддзямі не плаціла падаткі і не давала рэкрутаў, а ўлады не мелі эфектыўнага механізму для яе пасялення на зямлі і прыпіскі да падаткаабкладаных катэгорый насельніцтва. Выявілася няздольнасць адміністрацыйнага апарату імперыі да паспяховай і хуткай рэалізацыі пастаўленых задач па «дэкласацыі» дробнай шляхты.

Масавая падробка дакументаў значна змякчыла наступствы разбору шляхты, стала асноўнай прычынай архіўнай рэформы 1852 г. у заходніх губернях Расійскай імперыі, была адной з прычын змен у кадравай палітыцы, дазволіла дзясяткам тысяч асоб нелегальна зацвердзіцца ў складзе расійскага дваранства.

Практычна на працягу ўсяго XIX ст. не былі канчаткова ўрэгуляваны прававыя асновы карыстання зямлёй чыншавай шляхтай, што абвастрала яе адносіны з памешчыкамі, якія імкнуліся запісаць чыншавыя землі як уласнасць, а чыншавікоў як прыгонных. Гэта быў адзін з элементаў сацыяльнай дэградацыі дробнай шляхты, які дапаўняў пагаршэнне яе прававога становішча і ўзмацняў сацыяльную напружанасць на вёсцы. У 1886 г. абеззямеліць чыншавікоў дапамагла дзяржава. Праведзеная чыншавая рэформа фактычна пазбавіла права абсалютную большасць чыншавікоў атрымаць ва ўласнасць ці выкупіць тыя землі, на якіх яны жылі і спадчынна іх апрацоўвалі за вызначаны чынш. Гэта прывяло да ўзмацнення сацыяльнага напружання, хваляванняў чыншавікоў і яшчэ большай іх сацыяльнай дэградацыі.

# ІМЯННЫ ПАКАЗАЛЬНІК

## А



## Б

## В



## Г



## Д



## Е



## Ж



## З

## І



## К



## Л

## М



## Н



## О



## П



## Р

# Ш



# Ю



# Я

# ЗМЕСТ

Навуковае выданне

**Макарэвіч** Віталь Сяргеевіч

# РАЗБОР ШЛЯХТЫ Ў БЕЛАРУСКІХ ГУБЕРНЯХ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ (КАНЕЦ XVIII – XIX ст.)

Адказны за выпуск *Н. В. Яненка*
Мастак вокладкі *Т. Ю. Таран*
Тэхнічны рэдактар *Л. У. Жабароўская*
Камп'ютарная вёрстка *В. М. Васінай*
Карэктар *Н. В. Яненка*

Падпісана да друку 30.07.2018. Фармат 60×84/16. Папера афсетная.
Рызаграфія. Ум. друк. арк. 18,37. Ул.-выд. арк. 20,9.
Дад. тыраж 40 экз. Заказ 444.

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/270 ад 03.04.2014.
Пр. Незалежнасці, 4, 220030, Мінск.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецкі цэнтр Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/63 ад 19.03.2014.
Вул. Чырвонаармейская, 6, 220030, Мінск.



**МАКАРЭВІЧ Віталь Сяргеевіч**

Загадчык кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу гістарычнага факультэта БДУ, кандыдат гістарычных навук, дацэнт. Аўтар больш чым 50 навуковых публікацый. Сфера навуковых інтарэсаў – сацыяльная і палітычная гісторыя Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст.

ISBN 978-985-566-548-0

9 789855 665480

